# ІНТЭРВ'Ю

## НОВЫЯ ГЕРОІ, НОВЫЯ ПРАБЛЕМЫ

*Рабочаму завода «Бабруйсксельмаш» Барысу Нікановічу спадабаўся раман Івана Навуменкі «Сасна пры дарозе». Рабочы цікавіцца, над чым цяпер працуе пісьменнік, што новае падорыць ён чытачу? На гэта пытанне адказвае сам празаік.*

Нядаўняя сустрэча кіраўнікоў партыі і ўрада з дзеячамі літаратуры і мастацтва выклікала новы прыліў творчай энергіі ў беларускіх пісьменнікаў. Мы цяпер думаем, як найлепш увасобіць у мастацкіх вобразах наш цудоўны час, вялікія перамогі, подзвіг савецкага чалавека на шляху да камунізму. Асноўны наш роздум аб сучасніку, аб вобразе станоўчага героя.

Калі гаварыць пра сябе, то мае планы досыць шырокія. Летась выйшаў у свет мой першы раман «Сасна пры дарозе», які, здаецца, з пэўнай прыхільнасцю сустрэты чытачом і крытыкай. «Сасна пры дарозе» — мая першая кніга пра станаўленне характару маладога савецкага чалавека ў суровых выпрабаваннях Айчыннай вайны. Другая кніга будзе прысвечана размаху партызанскага руху на Беларусі, далейшым справам і маладых і сталых герояў, з якімі чытач ужо мае некаторае знаёмства. На старонкі другой кнігі прыйдуць і новыя героі, і новыя праблемы. Гэта другая кніга будзе называцца «Сорак трэці», над ёю я цяпер і працую.

Але яшчэ раней я пачаў пісаць аповесць пад назвай «Бульба» — пра сённяшніх студэнтаў, пра іх адносіны да жыцця. Аповесць будзе хутка завершана, і я спадзяюся, што яшчэ ў сёлетнім годзе яна ўбачыць свет. Ёсць у мяне некалькі апавяданняў, таксама прысвечаных жыццю моладзі. На працягу гэтага года пачну іх друкаваць.

*1963*

## АД’ЯЗДЖАЮЧЫ НА ЧАЦВЁРТЫ ЎСЕСАЮЗНЫ…

*Напярэдадні ад’езду ў Маскву, на IV Усесаюзны з’езд, дэлегатаў беларускай пісьменніцкай арганізацыі рэдакцыя «Літаратуры і мастацтва» папрасіла некаторых з іх падзяліцца з чытачамі газеты думкамі і спадзяваннямі, з якімі яны едуць на форум пісьменнікаў, расказаць пра тое, чым азнаменаваўся для нашай літаратуры і для іх саміх перыяд паміж пісьменніцкімі з’ездамі.*

— Што я думаю пра з’езд?

Мне такі гонар — быць дэлегатам Усесаюзнага пісьменніцкага з’езда — выпаў упершыню. Таму адказаць на пытанне мне цяжэй, чым іншым. А з другога боку, я, відаць, адчуваю большае хваляванне, чым тыя мае калегі, якія ўспамінаюць мінулыя з’езды. Хачу сказаць толькі вось што.

Па-першае, прадчуваю радасць пабачыць у твар пісьменнікаў, кнігамі якіх я захапляўся і цікаўлюся зараз,— М. Шолахава, Л. Лявонава, А. Твардоўскага…

Па-другое, спадзяюся, што на з’ездзе адбудзецца сур’ёзная, дзелавая гаворка аб літаратуры, аб тым, што хвалюе нас, літаратараў, сёння. За апошнія гады ў літаратуры намеціліся новыя тэндэнцыі, напісана шмат твораў, якія заслугоўваюць увагі, ацэнкі, пра якія варта пагаварыць.

Хочацца пачуць і пабачыць, як суадносяцца поспехі нацыянальных літаратур з агульнымі дасягненнямі ўсёй савецкай літаратуры.

Словам, еду на з’езд з добрымі спадзяваннямі.

*1967*

## Я — ЗА РАМАНТЫКУ

*Да мяне Іван Навуменка ўпершыню прыйшоў у 1958 годзе сваёй кнігай «Хлопцы-равеснікі». З той пары памятаю многія яго раннія апавяданні, памятаю і пазнейшыя, але ніколі не забуду «Веранікі». Запомнілася яно можа таму, што я сам быў юнаком і мне блізкі і зразумелы быў рамантычна-ўзнёслы*

*свет герояў апавядання, а хутчэй за ўсё проста таму, што яно зроблена было добрай пісьменніцкай рукой.*

*Мінае дзесяць год, і вось — наша асабістая сустрэча. У думках я з задавальненнем адзначаю, што пісьменнік і сёння не здрадзіў тэме юнацтва. А пра ўдзячнасць, якую адчувае да пісьменніка моладзь, сведчыць прэмія імя Ленінскага камсамола Беларусі, якой ён быў удастоены летась.*

*Гаворку з Іванам Якаўлевічам Навуменкам мне і захацелася пачаць з успамінаў пра тыя далёкія дні юнацтва і пра яго першыя апавяданні.*

— Першыя мае апавяданні «Сямнаццатай вясной», «Сідар і Гараська» і «Эх, махорачка...» — расказвае пісьменнік,— былі надрукаваны ў 1955 годзе. Сюжэтная лінія ў іх аўтабіяграфічная ці блізкая да аўтабіяграфіі. Зразумела, быў і домысел. Я пісаў пра людзей, якіх ведаў,— пра даваеннае пакаленне. А яно вельмі цікавае. Сваіх равеснікаў я бачыў у школе, на вайне, у падполлі. З нашага дзясятага класа на фронт пайшло шаснаццаць чалавек, а вярнулася чацвёра. Нас засталося вельмі мала, народжаных у сярэдзіне дваццатых гадоў. Гэтае пакаленне вызначаецца цэльнасцю характару. Мне яно асабліва падабаецца сваёй рамантыкай, марай пра подзвіг, цнатлівасцю, чысцінёй.

*— Што новага вы бачыце ў светаўспрыманні сённяшняй моладзі, калі параўнаць яе з моладдзю вашага пакалення?*

— Думаю, што істотнай розніцы няма. Багацце, разнастайнасць жыццёвых дарог свяціла тагачаснай моладзі, свеціць і сённяшняй. І сёння ёсць рамантыка далёкіх дарог — Брацкая ГЭС, казахстанскі цалінны стэп, будоўлі Беларусі. Студэнты Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, дзе я працую, штогод ездзяць на цаліну, на розныя будоўлі і ўспрымаюць гэтыя паездкі як важны момант сваёй біяграфіі. Ва ўсякім выпадку, фотавітрыны, якія расказваюць аб тым, што рабілі студэнты на цаліне, на будоўлях, не здымаюць са сцен калідораў філфака круглы год, пакуль не з'явяцца на замену новыя.

Як і ў часы Сцёпкі Баруты, вялікі напор моладзі ў навуку. Конкурсы пры паступленні ў вышэйшыя навучальныя ўстановы вялікія, гаварыць аб гэтым, бадай, не трэба.

Відаць, намнога больш, чым у мінулыя дзесяцігоддзі, юнакоў і дзяўчат з сярэдняй адукацыяй ідзе і на вытворчасць — на заводы, фабрыкі, у калгасы. Гэтыя жыццёвыя працэсы вельмі мала вывучаны, як мне здаецца, сённяшняй беларускай літаратурай.

*— Можна часам пачуць нараканні, што сённяшняя моладзь пасіўная. Наколькі правамерная такая думка?*

— Я не лічу, што сённяшняя моладзь пасіўная. Калі гаварыць пра студэнтаў, то колькасць такіх, што правальваюць экзамены, дрэнна вучацца, адносна невялікая. Хтосьці правільна сказаў, што студэнт — гэта не пасудзіна, якую трэба напоўніць, а факел, што неабходна запаліць. Вельмі многае залежыць ад выкладчыкаў, ад дзейнасці нашых грамадскіх арганізацый, асабліва ад камсамола. Сярод студэнцкай моладзі ёсць невялікая частка, якая, як мне здаецца, кіруецца ў жыцці ўтрыманцкімі настроямі. Гэтыя і не думаюць пра рамантыку далёкіх дарог, стараюцца пасля заканчэння ўніверсітэта ўладкавацца там, дзе лепш наладжан побыт, або проста бліжэй да бацькоў, каб менш зведаць згрызот будзённага жыцця.

*— Вы ўспомнілі Сцёпку Баруту. Герой Якуба Коласа — сімвал свайго часу. Цікава, што гаворыць сучасная літаратура пра маладое пакаленне? Наколькі задавальняе самую моладзь сённяшняя літаратура пра моладзь?*

— Увогуле, беларуская літаратура заўсёды мела героя актыўна дзейснага, грамадскага. І тэма маладога пакалення — спрадвечная для яе. Аповесць «На прасторах жыцця» Якуба Коласа не адзіны, хоць, бадай, найбольш прыкметны твор беларускай літаратуры дваццатых гадоў пра маладога савецкага чалавека. Можна прыгадаць Рыгора Нязвычнага з «Сокаў цаліны». Мы чамусьці забываем, што герой Цішкі Гартнага быў малады. А Лабановічу колькі вы думаеце было? Дваццаць гадоў! А маладыя героі Міхася Зарэцкага! З вопытам свайго пакалення прыйшлі ў літаратуру Пятрусь Броўка, Пятро Глебка, Кузьма Чорны, Міхась Лынькоў, Максім Лужанін. Варта прыгадаць Аркадзя Куляшова, Пімена Панчанку, якія стварылі вельмі яркі вобраз маладога камсамольскага пакалення 30—40-х гадоў. Ды і Максім Танк, што працаваў па той бок мяжы, у былой Заходняй Беларусі, расказваў пра

маладосць, што гартавала свае сілы ў агні рэвалюцыйнага змагання. Нарэшце, «Трывожнае шчасце» Івана Шамякіна і «Сустрэнемся на барыкадах» Піліпа Пестрака — гэта ж таксама пра маладое пакаленне свайго часу.

Герой даваеннага жыцця быў вельмі цікавы злітнасцю асабістага і грамадскага. Грамадскае падчас стаяла ў яго нават вышэй за асабістае. Свет для гэтага героя быў вельмі шырокі, бо перад ім адкрывалася мноства дарог. Істотнай розніцы паміж даваенным і пасляваенным героем я не бачу. Даваенны герой жыве тым, што адчувае: яму выпадуць вялікія, можа, нават гераічныя выпрабаванні жыцця. Герой, у якім зліта асабістае і грамадскае, жыве і сёння. І ў Івана Пташнікава, і ў Барыса Сачанкі, і ў іншых пісьменнікаў.

— *Цікава, што ў нашай літаратуры не паявіўся малады герой-скептык і «зорныя хлопчыкі» сталай прыпіскі не атрымалі.*

— Так, іх не было. Наш герой, праўда, становіцца ў нейкай меры крыху рэфлектыўным. Відаць, гэта таму, што ён яшчэ не ўступіў у жыццё. Сучасная беларуская літаратура, асабліва проза, вельмі добра расказала пра абпаленае вайной або пасляваеннымі нягодамі дзяцінства таго пакалення, якому сёння 30—35 гадоў. Гэта добрая, моцная літаратура, бо яна абапіраецца на асабіста перажытае, адчутае, на біяграфічнасць жыццёвага вопыту. Я маю на ўвазе творы Івана Пташнікава, Міхася Стральцова, Барыса Сачанкі, Івана Чыгрынава, Вячаслава Адамчыка. На маю думку, герой гэтай літаратуры павінен «пасталець», пісьменнікі павінны расказаць пра тое, як іх герой уступіў у самастойнае жыццё, з якімі жыццёвымі праблемамі сутыкнуўся, якімі рысамі і якасцямі вызначаецца яго духоўны воблік. Маладых пісьменнікаў, наколькі я ведаю, студэнцкая моладзь чытае ахвотна, чакае ад іх адказу на сённяшнія балючыя пытанні жыцця.

— *Ці не думаеце вы напісаць твор пра сучасную моладзь?*

— Крыху пабойваюся пра яе пісаць. Хочацца напісаць аповесць пра студэнтаў-завочнікаў і аповесць пра першае каханне. Патрошку думаю пра раман «Сорак трэці». Праўда, героі яго будуць не толькі моладзь. Заўважаю, што паступова пераходжу ад лірычнай прозы, калі можна так сказаць, да прозы аб’ектыўнай.

*— Відаць, цяпер вы менш скарыстоўваеце свой асабісты вопыт?*

— Для «Сасны пры дарозе» яшчэ хапіла асабістага вопыту. А далей прыйшлося ездзіць, гутарыць, шукаць у архівах. Ездзіў не толькі на радзіму. Мне хочацца даць нейкае падагульненне таго, што я ведаю ва ўсіх ваколіцах — у Калінкавіцкім, Хойніцкім, Брагінскім і іншых суседніх раёнах. І наогул, я лічу, што літаратару трэба паблукаць па жыцці.

*— Я заўважаю, што рамантыкі жывуць не толькі будучыняй, але і ўспамінамі, думаюць пра мінулае.*

— Вы думаеце, Васіль Быкаў у аповесцях «Жураўліны крык» і «Альпійская балада» не рамантык? Ён яшчэ большы рамантык, чым я. Ён падыходзіць да чалавека з максімальнымі патрабаваннямі. А гэта ж галоўнае для рамантыка. Нашай літаратуры пагражае бытавізм, заземленасць. Мы адштурхнулі ілжэрамантыку, а з ёю і сапраўдную рамантыку. У нас забываюць, што нават Колас — рамантык. Вазьміце яго Лабановіча — вечна рвецца ўдаль, вечна нечага шукае. А каханне Лабановіча да Ядвісі — хіба гэта не самыя рамантычныя старонкі ў нашай літаратуры! Так што я за рамантыку, бо без яе ў жыцці не абыдзецца ні дарослы, ні, тым больш, моладзь.

*1968*

## «ІСЦІ ЎСЛЕД ЗА БЯГУЧЫМ ДНЁМ...»

*За пятнаццаць гадоў Іван Навуменка выдаў дваццаць сем кніг. У гэтым ліку і раманы «Сасна пры дарозе», «Вецер у соснах», аповесці «Бульба», «Вайна каля Цітавай копанкі», манаграфічныя даследаванні «Янка Купала. Духоўны воблік героя», «Якуб Колас. Духоўны воблік героя»... Зайздросная працавітасць і творчая актыўнасць пісьменніка і вучонага!.. Ідучы на сустрэчу з Іванам Якаўлевічам, я ведаў, што ён не вельмі любіць гаварыць пра сябе, пра свае планы. Але паступова завязалася гамонка. Пра тое, што зроблена ў апошні час, пра тое, што ў задумах.*

— Нядаўна выйшаў з друку мой зборнік «Тая самая зямля». Большасць апавяданняў, якія ў ім змешчаны,— аб вайне, некаторыя — аб даваенным жыцці. Ёсць у кнізе невялікая аповесць «У бары на світанні», у якой вядзецца гаворка і пра сучаснасць.

*— А якая, Іван Якаўлевіч, ваша думка наконт адлюстравання сучаснасці ў літаратуры? Яна ж, сучаснасць, адбываецца на нашых вачах. Здавалася б, асаблівай мастацкай фантазіі пісьменніку не трэба. Героі — вось яны, побач...*

— Пісаць пра сучаснасць, ісці ўслед «за бягучым днём» нялёгка. Жыццё бесперапынна мяняецца, сапраўдны сэнс той або іншай з’явы выяўляецца часам праз гады. І справа не толькі ў тым, што патрэбна пэўная дыстанцыя часу, каб тая ці іншая з’ява «адстаялася» ў свядомасці, а і ў тым яшчэ, што рухомыя, зменлівыя факты, падзеі жыцця патрабуюць ідэйна-эстэтычнага асэнсавання. На маю думку, асноўнае патрабаванне да пісьменніка, які піша пра сучаснасць,— выявіць найбольш важныя тэндэнцыі ў грамадскім жыцці, даць чытачу адчуць, як змяніўся за гады савецкай улады чалавек, што новага з’явілася ў яго псіхалогіі, адносінах да жыцця, маральным обліку.

Калі гаварыць пра сябе, то пасля завяршэння рамана «Сорак трэці» збіраюся пісаць пра сучаснасць. Не ведаю дакладна, што гэта будзе, у якім жанры буду працаваць. Хутчэй за ўсё, напішу аповесць, некалькі апавяданняў. Зараз рыхтуюся да гэтага. У пісьменніка «нарыхтоўка» матэрыялу ідзе загадзя. Шмат дала мне паездка з сябрамі-літаратарамі ў Магнітагорск, дзе ўпершыню давялося ўбачыць металургаў, а таксама паездка па Палессі — па мясцінах, якія ведаю даўно.

Я ўдзельнічаў у рабоце пленума Саюза пісьменнікаў СССР, які праходзіў пад сцягам пастановы КПСС «Аб літаратурна-мастацкай крытыцы». Размова на пісьменніцкім форуме была дзелавая, зацікаўленая. Яна, бясспрэчна, прынясе карысць, ажыццявіць, узніме ідэйна-тэарэтычны ўзровень літаратурна-мастацкай крытыкі, дапаможа і пісьменнікам у іх высакароднай справе стварэння новых, патрэбных шырокаму чытачу кніг — мастацкага летапісу нашай гераічнай эпохі.

Карацей кажучы, літаратарам смялей трэба пісаць пра сучаснае жыццё, пра яго сапраўдных герояў.

*— Так, сучаснасць — магістральная тэма літаратуры. А якое месца ў ёй павінна займаць мінулае нашага народа і асабліва Айчынная вайна? Вы самі прайшлі Вялікую Айчынную — і як воін у варожым тыле, і як воін Савецкай Арміі. Ці не прыглушыцца часам важнасць і актуальнасць тэмы?*

Мой субяседнік пасля невялічкага роздуму адказаў:

— Лічу, што непасрэдны абавязак пісьменнікаў, якія на ўласныя вочы бачылі вайну, пісаць пра яе. Моладзь павінна ведаць аб мінулым з першых рук.

Мяне асабіста заўсёды хвалюе гэтая тэма. Калі не здарыцца чаго-небудзь непрадбачанага, у будучым годзе мяркую закончыць раман «Сорак трэці». Ён так называецца таму, што паказвае падзеі сорак трэцяга года, калі размах руху народных мсціўцаў зрабіўся ўсенародным. «Сорак трэці», магчыма, завершыць тэму, пачатую ў папярэдніх кнігах,— «Сасна пры дарозе» і «Вецер у соснах».

*— Іван Якаўлевіч, вас ведаюць як вучонага, доктара філалагічных навук, прафесара, які ўжо ўнёс і ўносіць свой уклад у вывучэнне праблемных пытанняў беларускай літаратуры. Што турбуе і хвалюе вас як дзеяча навукі? Як удаецца спалучаць пісьменніцкую і выкладчыцка-даследчую работу?*

— Вядома, лекцыі ва ўніверсітэце, праца там займаюць шмат часу. Але ёсць у гэтым і свая немалая карысць. Штодня сустракаешся з моладдзю, назіраеш, пазней гэта пэўным чынам будзе выкарыстана. Што датычыцца навуковых задум і планаў, дык у мяне адна з важных на бліжэйшы час напісаць манаграфію «Стыль Якуба Коласа». Яна будзе прысвечана не толькі стылю Коласа, але наогул гэтай маладаследаванай у нас праблеме.

Яшчэ хачу сказаць, што пакуль мала напісаў пра падзеі велізарнага напружання, што грукаталі ў вогненныя гады вайны. Мала напісаў і пра сённяшнюю вёску, пра вучоных, у асяроддзі якіх працую. Памятаю, памятаю пра гэта…

*1972*

## ПРЭМІЯ АБАВЯЗВАЕ

*— Іван Якаўлевіч, як вы ўспрынялі вестку аб прысуджэнні Дзяржаўнай прэміі БССР?*

— Прэмія, якая носіць імя вялікага Коласа, невыказна радуе мяне і заклікае да новай самаадданай працы. Шчыра ўдзячны роднай партыі, ураду за вялікі клопат аб нашай літаратуры.

*— Вашы даследаванні творчасці Я. Купалы і Я. Коласа шырока вядомы літаратурнай грамадскасці. А што вас цікавіць цяпер?*

— Мінулы год прайшоў пад знакам купалаўскага і коласаўскага юбілеяў, і мне як аўтару манаграфій пра двух нашых вялікіх паэтаў прыйшлося напісаць пра іх даволі значную колькасць артыкулаў, выступаць з дакладамі і г. д. Думка працягваць даследаванне купалаўскай і коласаўскай творчасці мяне не пакідае. Таму, па-першае, што я выкладчык беларускай літаратуры і сабраў некаторы запас назіранняў, які патрабуе выйсця. Па-другое, творчасць Купалы і Коласа, як мне здаецца, моцна супрацьстаіць некаторым модным павевам з Захаду, і разгляд творчасці нашых класікаў мае прынцыповае, актуальнае значэнне.

Ёсць яшчэ адна акалічнасць, якая прымусіла мяне ўзяцца за купалаўскую і коласаўскую тэму. Класікі пісалі добра. Наша сённяшняя літаратура пры ўсіх яе бясспрэчных дасягненнях і ўзлётах усё ж павінна ў іх вучыцца. У Коласа, напрыклад, у лепшых яго творах свеціцца кожнае слова, несучы не толькі, калі карыстацца сённяшняй тэрміналогіяй, непасрэдную інфармацыю, але і глыбінны падтэкст, мноства мастацкіх значэнняў, настрой і г. д. Таму хочацца напісаць кнігу «Стыль Якуба Коласа», у якой прасачыць не толькі мастацкую манеру самога Коласа, а крануць па меры сіл усе лепшыя мастацкія заваёвы беларускай прозы. Патрошкі над гэтай кнігай думаю і збіраю матэрыял.

*— А планы ў мастацкай творчасці?*

— У мінулым годзе працаваў над раманам «Сорак трэці», якім завершыцца трылогія, распачатая кнігамі «Сасна пры дарозе» і «Вецер у соснах». У чарнавым варыянце раман

амаль закончаны. Але паколькі завяршэнне агульнай будовы выяўляе і некаторыя яе недахопы, пралікі, то праца будзе працягвацца і над першымі кнігамі. Прыйдзецца дапісаць ці перанесці некаторыя раздзелы з другой кнігі ў першую, даць большае жыццё паасобным героям, пачынаючы з першай кнігі.

Цешу сябе надзеяй, што ў бягучым годзе знайду час, каб напісаць хоць адну з вынашаных аповесцей аб сучаснасці.

*1973*

## У БЕЛАРУСКІХ ЛІТАРАТУРАЗНАЎЦАЎ

*Поспехі сучаснай беларускай літаратуры агульнапрызнаны. Творы К. Крапівы, П. Броўкі, М. Танка, П. Панчанкі, І. Мележа, В. Быкава, І. Шамякіна, А. Макаёнка і многіх іншых мастакоў слова сведчаць аб сталасці нашай прозы і паэзіі. Разам з тым сталасць літаратуры вядзе да сталасці літаратуразнаўчай навукі. У рэспубліцы зараз працуе шматлікі атрад даследчыкаў і крытыкаў, якія заклікаI ны асэнсоўваць здабыткі айчыннай літаратуры і накіроўваць яе развіццё. Асноўныя літаратуразнаўчыя даследаванні сканцэнтраваны ў Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук БССР.*

*Наш няштатны карэспандэнт Сцяпан Лаўшук звярнуўся да дырэктара інстытута члена-карэспандэнта АН БССР Івана Навуменкі з просьбай расказаць пра асноўныя напрамкі даследаванняў гэтай навуковай установы. Дарэчы, сам дырэктар спалучае ў сабе якасці і даследчыка (доктар філалагічных навук, да нядаўняга часу ўзначальваў кафедру беларускай літаратуры БДУ імя Леніна), і пісьменніка (чытачу добра вядомы яго раманы «Сасна пры дарозе», «Вецер у соснах», шматлікія апавяданні). Вось што сказаў Іван Навуменка.*

Беларускае літаратуразнаўства значна вырасла ва ўсіх адносінах. Зараз мы маем выдатных спецыялістаў у любой галіне даследаванняў. Калі ў 20—30-я гады літаратуразнаўцы

маглі прапанаваць чытачу толькі працы, прысвечаныя творчасці паасобных пісьменнікаў, некаторыя спробы асэнсавання заканамернасцей літаратурнай творчасці, то на сённяшні дзень нам «па сіле» самая складаная тэматыка. У гэтым можна пераканацца, пазнаёміўшыся з работай нашых інстытуцкіх сектараў, іх планамі на будучае.

У бліжэйшыя гады працягнецца вывучэнне гісторыі беларускай дакастрычніцкай літаратуры, заканамернасцей развіцця беларускай літаратуры на шляхах сацыялістычнага рэалізму, пытанняў марксісцка-ленінскай тэорыі літаратуры. Па гэтых напрамках плануецца распрацаваць 13 тэм. Пералічваць іх няма патрэбы, але хочацца назваць важнейшыя. Сектар дакастрычніцкай літаратуры, якім кіруе доктар філалогіі Ю. Пшыркоў, прыступае да цікавай тэмы: «Узнікненне і развіццё свецкай дэмакратычнай літаратуры ў Беларусі перыяду XVI—XVIII стагоддзяў». Апрача таго, супрацоўнікі сектара пачалі падрыхтоўку да выдання помнікаў беларускай пісьменнасці.

Сектар тэорыі літаратуры існуе ў інстытуце параўнаўча нядаўна, аднак пад кіраўніцтвам прафесара Н. Перкіна там склаўся досыць сталы навуковы калектыў. Ён узяўся за распрацоўку тэмы «Дыялектыка жыццёвай і мастацкай праўды». Працягнецца праца над даследаваннем тэорыі беларускага верша. Несумненную цікавасць уяўляе спроба доктара навук А. Адамовіча разгледзець беларускую літаратуру як частку шматнацыянальнай савецкай літаратуры ў кантэксце сусветнага літаратурнага развіцця. У гэтым жа сектары распрацоўваецца пытанне ўзаемаабагачэння і яднання літаратур.

І нарэшце, сектар савецкай літаратуры. Па свайму саставу ён, мусіць, самы малады. На прыкладзе гэтага сектара можна прасачыць, як хутка вырастаюць даследчыкі. Зусім нядаўна абаранілі доктарскія дысертацыі загадчык сектара П. Дзюбайла і старэйшы навуковы супрацоўнік Э. Гурэвіч, а ўжо на стол вучонага савета паклалі «доктарскія» М. Ярош і В. Каваленка. Супрацоўнікі сектара савецкай літаратуры засяродзяць сваю ўвагу на вывучэнні гісторыі беларускай крытыкі, шляхоў развіцця беларускай савецкай паэзіі. Думаецца, што

вельмі актуальнай будзе тэма «Беларуская літаратура і праблемы сучаснасці».

Даследаванні супрацоўнікаў інстытута заўсёды праблемныя, надзённыя і звернуты да канкрэтных запатрабаванняў літаратурнага працэсу. Шмат увагі ўдзяляецца распрацоўцы вузлавых пытанняў тэорыі літаратуры, не абмінаюцца і пытанні гісторыі. У свой час грамадскасць рэспублікі прыхільна сустрэла выхад чатырохтомнай гісторыі беларускай літаратуры. Зараз супрацоўнікі інстытута завяршаюць падрыхтоўку падобнага выдання, але на рускай мове — для ўсесаюзнага чытача.

Нельга не адзначыць працу нашых тэкстолагаў, у задачу якіх уваходзіць падрыхтоўка навуковых выданняў класікаў беларускай літаратуры. У сучасны момант гэта зборы твораў: Якуба Коласа ў чатырнаццаці тамах, Янкі Купалы ў сямі і Кузьмы Чорнага ў васьмі тамах. Кожны са збораў вызначаецца большай у параўнанні з папярэднімі паўнатой і дакладнасцю.

За апошнія гады ўзмацніліся кантакты Інстытута літаратуры АН БССР з іншымі навуковымі ўстановамі падобнага профілю. Беларускія вучоныя прачыталі шмат дакладаў на міжнародных з'ездах і сімпозіумах. Асабліва цеснымі сталі сувязі з літаратуразнаўцамі Расіі, Украіны і Польшчы. Вучоныя нашай рэспублікі цікавяцца дасягненнямі сваіх калег, шчодра дзеляцца ўласнымі здабыткамі.

*1973*

## ВЯРТАННЕ Ў МАЛАДОСЦЬ

*Сёння спаўняецца 50 гадоў вядомаму беларускаму празаіку, доктару філалагічных навук, члену-карэспандэнту АН БССР, дырэктару Інстытута літаратуры АН, лаўрэату Дзяржаўнай прэміі БССР імя Якуба Коласа і прэміі Ленінскага камсамола рэспублікі І. Я. Навуменку. Напярэдадні юбілею наш карэспандэнт сустрэўся з пісьменнікам і папрасіў яго адказаць на некалькі пытанняў, падзяліцца творчымі задумамі.*

— *Скажыце, калі ласка, як Вы прыйшлі ў літаратуру?*

— Мой пісьменніцкі лёс падобны на лёс многіх іншых пісьменнікаў, якія пачыналі як журналісты. Шэсць гадоў я працаваў карэспандэнтам газеты «Бальшавік Палесся», тады ж пачаў пісаць свае першыя вершы. Адзін з іх «Загулі, загулі трактары» ў 1947 годзе быў надрукаваны ў «Чырвонай змене». Але паэта, лічу, з мяне не атрымалася. Проза была бліжэй. Прыступкам да яе з'явіліся нарысы ў «Звяздзе», а потым у часопісе «Маладосць», куды я перайшоў працаваць. Першы нумар «Маладосці» за 1953 год адкрываўся нарысам «Ён будзе інжынерам» — так я прадказваў аднаму юнаку. Дарэчы, ён дабіўся нават большага — стаў кандыдатам навук.

Калектыў рэдакцыі «Маладосці» стаў для мяне настаўнікам, дапамог скінуць налёт правінцыялізму. Працавалі там у той час Кулакоўскі, Рылько і іншыя. Адным словам, трапіў я ў пісьменніцкую абстаноўку, атмасферу творчасці.

Роўна дваццаць гадоў назад у «Маладосці» з'явіліся мае першыя апавяданні. Гэта былі «Сідар і Гараська» і «Эх, махорачка…»

**У 1957 годзе выйшла першая невялікая кніжка пісьменніка «Сямнаццатай вясной», а следам за ёю зборнікі апавяданняў «Хлопцы-равеснікі» і «Верасы на выжарынах».**

— *Іван Якаўлевіч, Вы як пісьменнік, адчуваецца, аддаеце перавагу апавяданню. Чым вабіць Вас гэты жанр?*

— Так, я выдаў пяць зборнікаў апавяданняў, не думаю адмовіцца ад гэтага жанру. Апавяданне як жанр дае магчымасць больш пільна ўглядацца ў чалавечы лёс. У яго аснове заўсёды характар. Гэта, можна сказаць, маленькі раман. Праз гэты вельмі мабільны, сціслы жанр, які вучыць форме, павінен прайсці кожны празаік.

— *Як стваралася Ваша трылогія? Ці маюць раманы «Сасна пры дарозе», «Вецер у соснах», «Сорак трэці» аўтабіяграфічныя рысы?*

— Праз акно апавядання я даволі доўга глядзеў на жыццё. І мой першы раман спачатку задумваўся як апавяданне пра

хлопца, які адзін жыве на чыгунцы. Апавяданне «Будка нумар 16» пісалася для «Маладосці». Пташнікаў прыспешваў са здачай, а калі прачытаў, сказаў, што трэба яшчэ папрацаваць. Я працаваў — вось так і атрымаўся раман «Сасна пры дарозе».

У ім, вядома, паўтараюцца некаторыя канфлікты, сітуацыі з ранейшых апавяданняў. Так было, напрыклад, і ў Чорнага. Але было ў рамане і нешта іншае, чаго не было раней.

Біяграфічныя рысы ў трылогіі, вядома, прысутнічаюць. Чалавека часоў вайны не трэба выдумваць. У рабоце над трылогіяй я абапіраўся на свой асабісты вопыт. Але яго не хапіла. Я ведаў толькі свой партызанскі атрад, разведвальную групу, а гэтага было недастаткова. Таму ў працэсе работы я сустракаўся з рознымі людзьмі, з камандзірамі Палескага злучэння. Дапамагло мне і тое, што я добра ведаў Палессе.

Любы пісьменнік расказвае пра сябе і свой час. Я расказваў пра сябе і хлопцаў, якіх ведаў, бачыў.

Цікавасць да вайны прыйшла гадоў праз дзесяць, пасля яе заканчэння. Адразу пасля вайны мы вайну не ўспрымалі. А з цягам часу ўсё адстаялася, выступіла больш рэльефна. Стала зразумелым, што вайна для мяне і маіх равеснікаў — гэта важная падзея жыцця.

**Вайна стала для будучага пісьменніка і яго аднагодкаў школай мужнасці, загартоўкі характараў. Калі нямецка-фашысцкія акупанты занялі роднае Палессе, ён стаў адным з арганізатараў і актыўным удзельнікам камсамольскага падполля, якое складалася з нядаўніх школьнікаў. Потым партызаніў, быў разведчыкам разведвальнай групы. Разам з часцямі Савецкай Арміі вызваляў родныя Васілевічы і ўдзельнічаў у баях на Ленінградскім і Першым Украінскім франтах.**

*— Іван Якаўлевіч, многія крытыкі называюць Вас песняром юнацтва. Сапраўды, галоўны герой большасці Вашых твораў малады чалавек...*

— Уся сусветная літаратура паказвае гісторыю маладога чалавека свайго часу. Успомніце, колькі было Анегіну, Пячорыну... Мне хацелася зірнуць збоку на маё пакаленне. Гэта

было дзіўнае пакаленне, прыгожае. Яно смела хадзіла ў атакі і хораша кахала. Нашу сямнаццатую вясну заспела вайна, з майго класа 16 хлопцаў пайшлі на вайну, а вярнуліся толькі чацвёра…

Рамантычнасць спалучалася ў нас з самаадданасцю і жыццёвай цвярозасцю. Я часта ў сваіх творах вяртаюся памяццю ў школьныя гады, таму што загартоўка нашых характараў пачыналася ў школе. Усё пачынаецца са школы, каханне таксама… Былі сярод тых шаснаццаці маіх аднакласнікаў хлопцы, якія нават і дзяўчыны не паспелі ні разу ў жыцці пацалаваць. Адзін мой сябар падарваўся на міне за два дні да вызвалення…

Шчыры чалавечы жаль па загінуўшых таксама не даваў мне права маўчаць. Я павінен быў расказаць пра сваіх равеснікаў.

**Пісьменнік паказвае і раскрывае самае істотнае ў абліччы свайго пакалення — мужнасць, акрыленасць, душэўнае хараство і чысціню. Жыццё і мара, каханне і барацьба з ворагам, гартаванне волі і характару, выпрабаванне чалавека на трываласць, вытокі і перадумовы подзвігу — вось асноўная праблематыка ягоных твораў.**

**У 1967 годзе за кнігу апавяданняў «Таполі юнацтва» І. Я. Навуменка быў удастоены звання лаўрэата прэміі Ленінскага камсамола Беларусі.**

*— Так павялося ўжо, што часта старэйшыя гавораць маладзейшым: «Вось наша пакаленне!.. Вам не параўнацца з ім». І моладзь таксама часам зайздросціць сваім папярэднікам. Камсамольцы 30-х гадоў зайздросцілі камсамольцам 20-х, пасляваеннае пакаленне — вашаму пакаленню…*

— У Лондане захоўваецца папірус, знойдзены ў Егіпце, яму шмат стагоддзяў. Не так даўно вучоныя прачыталі гэты папірус. У ім таксама нараканні на моладзь таго часу, параўнанне яе з папярэднімі пакаленнямі.

У кожнага пакалення свае задачы, свае цяжкасці. Вядома, сённяшняя моладзь адрозніваецца ад перадваеннай. Як прынята зараз гаварыць, у ёй больш раскаванасці. Але мы не

дарэмна гаворым аб пераемнасці пакаленняў у нашым грамадстве, аб захаванні лепшых традыцый. Яны ёсць і будуць. І сённяшняе пакаленне не раз даказвала, што яно вартае сваіх бацькоў.

**І. Я. Навуменка шчыра сябруе з моладдзю. Ён выкладаў у БДУ імя У. І. Леніна, яго лекцыямі захаплялася не адно пакаленне студэнтаў. Пісьменнік і вучоны вельмі добразычліва, беражліва ставіцца да імкненняў і парываў моладзі, добра разумее яе. Пацвярджэннем гэтага з'яўляецца і некалькі аповесцяў на сучасную тэму — «Развітанне ў Кавальцах», «У бары на світанні» і «Бульба».**

— *Іван Якаўлевіч, будзем спадзявацца, што Вы прысвеціце нашаму маладому сучасніку яшчэ не адзін твор...*

— Шчыра кажучы, на пасадзе дырэктара інстытута цяжка пісаць, не хапае часу… Але матэрыял для новага твора, вядома, ёсць. У Акадэміі навук мне даводзіцца часта сустракацца з вельмі цікавымі людзьмі, маладымі вучонымі. А пакуль у бліжэйшых планах франтавая аповесць «Карэльскі перашыек», лірычная аповесць «Апошняя восень». Яна — нібы вяртанне назад, перадгісторыя маіх ранейшых герояў.

Пачата аповесць пра сучаснасць — «Месяц жаўталісця». Яе герою пад пяцьдзясят, ён выкладчык аднаго з інстытутаў, прыехаў на радзіму. Ходзіць, глядзіць вачыма інтэлігента, глядзіць на будаўніцтва нафтагіганта, які ўзводзіцца ў яго родных мясцінах…

Мяркую па дадатковы матэрыял для гэтай аповесці з'ездзіць у Рэчыцкі раён. Тут мае былыя грыбныя мясціны, дзе зараз узвышаюцца буравыя вышкі. Нафта там, дзе я бегаў хлапчуком, дзе партызаніў. Пачуццё Радзімы ў мяне заўсёды звязана з дарагімі майму сэрцу гэтымі мясцінамі…

— *Іван Якаўлевіч, ад імя нашых чытачоў «Чырвонка» шчыра віншуе Вас з юбілеем. Жадаем шчасця, здароўя і чакаем ад Вас новых твораў.*

*1975*

## РАЗМОВА НА ПАРОЗЕ ПЯЦІДЗЕСЯЦІГОДДЗЯ

*— Іван Якаўлевіч, «Маладосць» шчыра віншуе Вас, былога супрацоўніка часопіса, нашага аўтара, а таксама актыўнага члена рэдкалегіі, з пяцідзесяцігоддзем. Можа, памятаеце: старажытныя грэкі гаварылі, што да пяцідзесяці гадоў чалавек усё яшчэ знаходзіцца ў дзіцячым узросце, а сапраўдная ягоная мудрасць пачынаецца толькі ў пяцьдзясят? Яны, вядома, жартавалі, але нейкая праўда ў іх жарце ёсць. У пяцьдзясят гадоў чалавеку бачыцца ўжо і шырока, і глыбока: ёсць вопыт, ёсць веды, ёсць сіла. А як Вы лічыце? І што Вам бачыцца з гэтай вышыні?*

— Шчыра дзякую за віншаванне. З часопісам «Маладосць» у мяне звязана больш як два дзясяткі гадоў жыцця і, бадай, увесь пісьменніцкі шлях. Пачаў я друкавацца ў «Маладосці» адносна маладым чалавекам, а, дажыўшы да сівізны, працягваю насіць у часопіс многае з напісанага. Ды, як кажуць, шлюб па любові, не па разліку.

Што датычыць старажытных грэкаў, то яны былі дасціпнымі людзьмі. Філосаф Платон, напрыклад, аддаючы належнае шаноўнаму ўзросту, да паняцця «мудрасць» ставіўся іншы раз з іроніяй. Сталых людзей старажытныя грэкі паважалі, але скульптуры лічылі за лепшае ляпіць з маладых.

Гэта зразумела — у старажытнай Эладзе на першым плане быў культ цела. Тагачасныя людзі верылі ў перасяленне душ, у тое, што чалавек шмат разоў выбірае зямное існаванне.

Але грэкі грэкамі, а пяцьдзясят гадоў — сапраўды шаноўны ўзрост. Сумнавата ад думкі, што цябе не толькі «маладым чалавекам», а хутка і «дзядзькам» не назавуць. Але пісаць, здаецца, яшчэ можна. Нават пра маладых. У пяцідзесяцігадовага адна перавага: там, дзе маладзейшы толькі здагадваецца, старэйшы ведае больш-менш пэўна. А наконт сілы і трывога прабіваецца: ці надоўга яе хопіць? Усё-такі рубеж…

*— Вось ужо два гады Вы працуеце на новай пасадзе — дырэктарам Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР. Відаць, нялёгка Вам было расставацца са студэнтамі, з выкладчыцкай дзейнасцю. Але ж усюды Вы былі звязаны з беларускай літаратурай. І якія новыя, цікавыя грані ча-*

*лавечай і творчай дзейнасці адкрылі Вы для сябе на гэтай нялёгкай пасадзе?*

— Гэта працяг той жа песні. Каб я трапіў на такую пасаду гадоў на дзесяць раней ці пазней — відаць, больш прыліп бы да яе душой. Работа цікавая, карысная, але часу адымае зашмат: пісаць выпадае толькі ў выхадныя дні ды ў адпачынак. І не так работа, як турбота. А турбот у дырэктара хоць адбаўляй: адна на другую набягае.

У пісьменніка, мабыць, назаўсёды галоўнай пасадай застаецца пісьменніцкая. І са студэнтамі было нялёгка развітвацца, хоць я з імі сувязі не парваў і думаю, што сувязь гэта ў будучым зноў узрасце.

Якія грані чалавечай і творчай дзейнасці я адкрыў для сябе на новай пасадзе? Нейкія, відаць, адкрыў. І калі ў будучым прыйдзецца маляваць вобраз кіраўніка, буду да такіх людзей больш паблажлівым. Быць кіраўніком нялёгка. Патрабуецца ад чалавека, на якога ўскладзена цяжкая ноша кіраўніцтва, больш, чым ад другіх, а сам ён можа ўзяць з таго, што звычайна называюць радасцямі жыцця, менш астатніх.

*— Як кажуць, і па службе, ды і па пісьменніцкім жаданні Вам даводзіцца шмат чытаць, знаёміцца з навінкамі. Што, на Ваш погляд, характэрнае для сучаснай беларускай літаратуры? Як бы Вы сфармулявалі тэндэнцыі развіцця нашай сённяшняй літаратуры — і ў прозе, і ў паэзіі?*

— Хоць бы падчас юбілейнай размовы Вы далі мне паглыбіцца ў што-небудзь лірычнае. Зноў — «характэрныя рысы літаратуры», «тэндэнцыі…» Чытайце прадукцыю Інстытута літаратуры — і там адказ на Ваша пытанне. Толькі за мінулы год выйшла шэсць нашых новых кніг. Скажу ўжо без жарту, што ёсць сярод іх адна, найбольш вартая ўвагі,— «Стыль пісьменніка». Такая ў нас выходзіць упершыню, стылёвыя і іншыя тэндэнцыі развіцця сучаснай беларускай літаратуры акрэслены ў ёй даволі выразна.

*— Ну і, вядома, як неад’емная частка кожнай жывой літаратуры, яе надзея і вера — маладая беларуская літаратура. Што Вас і як пісьменніка, і як літаратуразнаўцу радуе ў ёй і што засмучае? Што, на Вашу думку, маладым пісьменнікам удаецца і ў якім напрамку варта ім шукаць?*

— Пісьменнікаў прыходзіць у літаратуру шмат, і гэта добра. З самых маладых празаікаў мне падабаецца Генрых Далідовіч. Вельмі шчыра ён піша, задуменна, добрай мовай. Часам толькі як бы вузкаватае поле абсягу, прыземленасць як бы праглядвае. Але гэта пройдзе. Ёсць добрыя знаходкі ў Міколы Капыловіча, Алеся Жука. Яшчэ больш можна было б назваць маладых паэтаў. Яны добра адчуваюць, што наш сучаснік стаў, калі можна сказаць так, больш выкшталцаваным, «інтэлігентным» у сваіх адносінах да жыцця, пачуццях, перажываннях. Іншы раз толькі залішне хісткія гэтыя пачуцці,— як дым ад цыгарэты,— не зловіш. Напрамак, у якім трэба шукаць не толькі маладым, а ўсім нам, вядомы: глыбей уздымаць жыццёвыя скібіны, больш чуйна прыслухоўвацца да рытму, настрою, подыху часу, быць яго летапісцамі.

*— Вы завяршылі сваю вялікую шматгадовую працу — трылогію пра партызанскі рух на Палессі. Куды будуць скіраваны ў далейшым Вашы пісьменніцкія сцежкі?*

— Планы ёсць. Нядаўна надрукавана ў «Полымі» невялічкая аповесць «Развітанне ў Кавальцах». Заканчваю другую, якая называецца «Месяц жаўталісця». Абедзве — пра сучаснасць. Трэба, відаць, самому сабе даказваць, што сучасны матэрыял тоіць не менш канфліктаў, драматычных калізій, чым сфера вайны. Але ваенную тэму пісьменнікам майго пакалення, відаць, забываць не варта. Да яе мы яшчэ будзем не раз вяртацца.

*1975*

## ПАД СЦЯГАМ САЦЫЯЛІСТЫЧНАГА РЭАЛІЗМУ

*— Савецкі народ ідзе насустрач XXV з'езду Камуністычнай партыі. Пастанова ЦК КПСС аб перадз'ездаўскім сацыялістычным спаборніцтве з'явілася магутным стымулам далейшага росту ініцыятывы і творчасці працоўных. З якімі дасягненнямі сустракае з'езд Інстытут літаратуры імя Янкі Купалы?*

— За гады дзявятай пяцігодкі мы падрыхтавалі і пачалі выдаваць такія фундаментальныя працы, як двухтомная Гісторыя беларускай літаратуры, разлічаная на рускага чытача. Гэта вельмі сур'ёзнае даследаванне, якое зусім не паўтарае нашу чатырохтомную гісторыю, якая выйшла раней. На аснове апошніх дасягненняў літаратуразнаўчай навукі, нашай крытыкі мы зрабілі новыя вывады, па-новаму асвятлілі некаторыя пытанні. Асобныя перыяды асветлены паўней.

Гэтае выданне знаходзіцца ў друку і выйдзе ў свет у 1976 годзе.

Можна назваць і яшчэ шэраг фундаментальных прац. Нядаўна выйшла кніга кандыдата філалагічных навук М. Мушынскага, якая падагульняе вопыт станаўлення нашай крытычнай і літаратуразнаўчай думкі з першых гадоў савецкай улады і да Вялікай Айчыннай вайны.

Станоўчую ацэнку крытыкі атрымала кніга кандыдата філалагічных навук В. Каваленкі «Вытокі. Уплывы. Паскоранасць». Аўтар па-новаму зірнуў на працэс развіцця беларускай літаратуры ў XIX стагоддзі, з улікам уплыву братніх літаратур, асабліва рускай.

Цікавай атрымалася работа доктара філалагічных навук, прафесара Н. Перкіна «Чалавек у савецкім рамане». Яна выйшла тыражом 18 тысяч экзэмпляраў на рускай мове. Кніга гэтая грунтуецца не толькі на беларускім матэрыяле, але і на матэрыяле ўсёй савецкай літаратуры, якая няўхільна развіваецца.

Шырока вядомы работы доктара філалагічных навук, прафесара А. Адамовіча. Яго кніга «Гарызонты беларускай прозы» летась выйшла ў Маскве на рускай мове. Яна падагульняе вопыт развіцця беларускай прозы за апошнія дзесяць-пятнаццаць гадоў. Зараз Аляксандр Міхайлавіч завяршае работу, прысвечаную новай праблеме — беларуская літаратура ў кантэксце развіцця сусветнай літаратуры.

Наш інстытут мае намер і ў далейшым працаваць над такімі тэмамі, як узаемаадносіны беларускай літаратуры з іншымі літаратурамі, бо іначай цяжка ўявіць сабе працэс развіцця нацыянальнай літаратуры.

Група навуковых супрацоўнікаў сектара савецкай літаратуры, якім кіруе доктар філалагічных навук П. Дзюбайла,

распрацоўвае тэму «Літаратура і праблемы сучаснасці». Мы хочам прасачыць тыя працэсы, якія назіраюцца менавіта ў сённяшняй літаратуры. Агульнавядома, што на наша жыццё вельмі актыўна ўплывае навукова-тэхнічная рэвалюцыя, бурны прагрэс тэхнікі, які выклікае значныя сацыяльныя перамены, а яны, у сваю чаргу, абумоўліваюць перамены ў духоўным жыцці грамадства. Летась выйшла калектыўнае даследаванне «Стыль пісьменніка», пад рэдакцыяй акадэміка АН БССР В. Барысенкі і доктара філалагічных навук П. Дзюбайлы. Да гэтай складанай тэмы Інстытут літаратуры звярнуўся ўпершыню. Пытанні стылю недастаткова даследаваны ва ўсім нашым савецкім літаратуразнаўстве, і нават яшчэ не выпрацавана метадалогія, і тое, што наш інстытут здолеў выканаць такую работу, з'яўляецца важным паказчыкам у нашай рабоце.

Мы вывучаем і распрацоўваем таксама і пытанні гісторыі развіцця беларускай літаратуры. Напрыклад, навуковы супрацоўнік інстытута, кандыдат філалагічных навук А. Коршунаў толькі што выдаў кнігу «Помнікі старажытнай беларускай пісьменнасці». Ён сабраў дакументы мастацкай пісьменнасці XVI, XVII і XVIII стагоддзяў. Дакументы гэтыя яшчэ не вядомы грамадскасці.

Да ліку лепшых работ інстытута, выкананых за мінулае пяцігоддзе, можна аднесці кнігу доктара філалагічных навук, прафесара, загадчыка сектара дакастрычніцкай літаратуры і тэксталогіі Ю. Пшыркова «Летапіс рэвалюцыі». Яна раскрывае працэсы, што адбываліся ў нашай літаратуры ў пачатку XX стагоддзя, у першыя гады савецкай улады.

— *Некалькі слоў пра планы інстытута…*

— У цэнтры нашай увагі на будучае такая важная праблема, як развіццё сацыялістычнага рэалізму ў беларускай літаратуры. Над ёй сёлета пачала працаваць група навуковых супрацоўнікаў. А падказала гэтую тэму Усесаюзная нарада пісьменнікаў і крытыкаў, прысвечаная трыццацігоддзю Вялікай Перамогі савецкага народа над фашызмам, якая праходзіла ў лютым — сакавіку 1975 года ў горадзе-герої Мінску, і ў прыватнасці прамова на гэтай нарадзе кандыдата ў члены Палітбюро ЦК КПСС, першага сакратара ЦК КПБ

таварыша Пятра Міронавіча Машэрава «Неўміручы подзвіг народа ў Вялікай Айчыннай вайне і савецкая літаратура».

Гэтая тэма разлічана на тры гады, але ўжо цяпер магу сказаць, што, завяршыўшы распрацоўку пастаўленых пытанняў, мы ў далейшым не пакінем гэтай важнай для ўсёй савецкай літаратуры праблемы.

Дарэчы, сектар тэорыі літаратуры закончыў распрацоўку тэмы «Дыялектыка жыццёвай і мастацкай праўды». Гэта цыкл работ, які складзе шэсць кніг.

Па-ранейшаму мы будзем працягваць выданне беларускай класікі. Завяршаецца выданне Збору твораў Янкі Купалы, Якуба Коласа, Кузьмы Чорнага. На бліжэйшыя два гады запланаваны пяцітомны Збор твораў Змітрака Бядулі. У перспектыве — падрыхтоўка акадэмічнага выдання Збору твораў Міхася Лынькова і іншых выдатных пісьменнікаў.

Нас і надалей будуць хваляваць праблемы развіцця сучаснай літаратуры, праблемы стылю. Чытачу вядомы нашы работы ў гэтым напрамку, такія як «Раман. Аповесць. Праблемы жанру», «Апавяданне. Нарыс. Праблемы жанру». У такім жа аспекце мы хочам разглядзець і развіццё беларускай паэзіі па жанрах: верш, балада, паэма. У выніку, відаць, народзяцца значныя фундаментальныя работы, дзе будзе прасочаны працэс развіцця нашай паэзіі з пачатку стагоддзя і да гэтых дзён.

Шмат часу і ўвагі мы надаём пытанням тэксталогіі. Упершыню ў Беларусі павінен выйсці зборнік, прысвечаны гэтаму.

— *У якіх творах беларускіх пісьменнікаў нядаўняга часу, на вашу думку, найбольш глыбока распрацаваны тэмы патрыятызму і інтэрнацыяналізму савецкіх людзей?*

— Развіваючыся, ідучы па шляху сацыялістычнага рэалізму, беларуская літаратура набывае новыя якасці, грані, узбагачаецца і з поспехам адлюстроўвае жыццёвыя з'явы. Многія пісьменнікі акцэнтуюць увагу на сацыяльным аналізе жыцця, і наша літаратура, асабліва апошніх дзесяцігоддзяў, як мне здаецца, паспяхова спраўляецца з гэтай задачай.

Возьмем «Палескую хроніку» І. Мележа — яго выдатныя раманы «Людзі на балоце» і «Подых навальніцы», якія я лічу самай значнай заваёвай нашай літаратуры ў прозе апошняга часу. Дарэчы, я чуў, што Іван Паўлавіч напісаў трэці раман — «Снежань» і збіраецца яго друкаваць.

І другія нашы пісьменнікі нямала свайго таленту аддалі, каб паказаць селяніна на новым перавале, на новым этапе гісторыі.

Цікавы раман І. Чыгрынава «Плач перапёлкі», які апавядае пра першы год Вялікай Айчыннай вайны, пра жыхароў вёскі Верамейкі, што на Магілёўшчыне. Мы бачым, што за дзесяць год калгаснага жыцця ад прыватна-ўласніцкай псіхалогіі ў людзей не засталося і звання. І. Чыгрынаў паказаў, што перадваеннае дзесяцігоддзе калектыўнага вядзення гаспадаркі для селяніна стала вялікай школай сацыялізму. Змяніліся акцэнты ў ацэнцы каштоўнасцей, па-іншаму людзі пачалі глядзець на жыццё. Яны адвыклі рваць жылы на ўласнай палосцы, не хочуць, каб гэта зноў вярнулася ў іх жыццё, яны адчулі слодыч супольнай працы, радасць калектыўнага вядзення гаспадаркі новага сацыялістычнага тыпу. Вось гэта і ёсць сацыяльны аспект нашай літаратуры. Пісьменнік паказаў, што селянін ужо не той і што патрыятызм савецкіх людзей моцны, як ніколі раней.

Раман І. Пташнікава «Мсціжы», можна сказаць, амаль што пра нашы дні. Леспрамгасаўскі конюх Вялічка — гэта такі чалавек, які з роўным поспехам можа працаваць у горадзе і вёсцы. У яго свядомасці зрушылася шкала каштоўнасцей, і тое, што ён застаўся ў роднай вёсцы, а не паехаў з леспрамгасам пад Полацк, тлумачыцца ўсяго толькі тым, што яму блізка памяць пра жонку, партызанскія зямлянкі, бо тут ён партызаніў, а зрэшты, гэты чалавек з аднолькавым поспехам можа быць і рабочым, і селянінам.

Раман І. Пташнікава адлюстроўвае той перыяд у псіхалогіі селяніна, калі ён, селянін, наблізіўся да псіхалогіі рабочага…

Мне хочацца сказаць пра творчасць народнага пісьменніка Беларусі І. Шамякіна. У яго надзвычай абвостранае чуццё на праблемы сучаснасці. Для самабытнага таленту І. Шамякіна ўласціва заўважаць тыя, яшчэ не прыкметныя зрухі і ў свядомасці, і ў псіхалогіі, і ў матэрыяльным жыцці, якія яшчэ толькі носяцца ў паветры. Іван Пятровіч стварае свае раманы, ідучы па непратораных сцежках ці па гарачых слядах падзей, умее фіксаваць тое, што яшчэ не адстаялася, не адклалася ў свядомасці. Усе яго раманы ўзнікалі як гарачы водгук на падзеі часу.

Да ўдачы І. Шамякіна можна аднесці і ягоную выключную здольнасць маляваць вобразы арганізатараў, кіраўнікоў нашага сацыялістычнага жыцця. Увогуле трэба сказаць, што наша рэчаіснасць вымагае паказу, абмалёўкі перадавога кіраўніка, кіраўніка-арганізатара мас. У раманах «Сэрца на далоні», «Крыніцы» ён і вядзе гутарку пра маральныя пазіцыі кіраўнікоў буйнога маштабу. Праблема кіраўніка хвалявала і аўтара «Глыбокай плыні». Яго раманы «Снежныя зімы» і «Атланты і карыятыды» якраз у значнай ступені прысвечаны гэтай праблеме. Скажам, у «Снежных зімах» пісьменнік дае вобраз Івана Васільевіча Антанюка, сталага кіраўніка, вельмі сумленнага і прынцыповага камуніста. Вобраз Антанюка паказаны ўсебакова. Гэта былы партызан, герой вайны і будаўнік мірнага жыцця, сем’янін і проста чалавек, які можа памыляцца, ад чаго вобраз ніколькі не губляе сваёй прывабнасці, цікавасці.

*— Хацелася б, Іван Якаўлевіч, каб вы завастрылі ўвагу на прынцыпе тыпізацыі.*

— Нашы ідэйныя праціўнікі, праціўнікі метаду сацыялістычнага рэалізму, часта іграюць на тым, што нібыта мы не ўмеем паказваць чалавека, ігнаруем яго. Ці варта паўтараць, што гэта звычайная мана? Мы ўмеем паказваць чалавека. Больш таго, асноўная задача савецкіх пісьменнікаў — паказаць чалавека праз яго ўнутраны свет, жаданні, мары, схільнасці, паказаць эпоху, а інакш і нельга. Былі такія літаратары, якія лічылі, што ў новай літаратуры чалавек знікне. Пралеткультаўцы, у пэўнай меры лефаўцы і іншыя вульгарызатары прапагандавалі тэзіс, што ў новай літаратуры індывідуальная псіхалогія не будзе прысутнічаць. Жыццё, мастацкая практыка цалкам абверглі і адмялі гэтыя погляды, якія, дарэчы, на пэўным этапе развіцця літаратуры мелі пашырэнне. Напрыклад, у літаратуры 20-х гадоў нямала твораў, у якіх паказваецца маса, але ж і тая літаратура не магла абысціся без індывідуальнага героя. Успомніце «Жалезны паток» Серафімовіча. Там ёсць маса, але там ёсць і Кожух. Можна згадаць і «Падзенне Даіра» Малышкіна. Гэта былі пошукі, эксперыменты стваральнікаў новага мастацтва, якія яшчэ не мелі вопыту і якім даводзілася пракладваць шлях

па цаліне, ад нечага паступова адмаўляючыся, нешта перарабляючы. Асноўнае тое, што была і заставалася галоўная задача — паказаць чалавека, багацце яго ўнутранага жыцця, яго сувязі з навакольным жыццём, бо чалавек не можа быць абыякавым да таго, што робіцца вакол яго, ён жа дэміург, тварэц у гэтым жыцці!

Паказаць гэты складаны працэс сувязі чалавека з жыццём і з'яўляецца асноўнай задачай у літаратуры.

У буйным эпічным творы, у рамане, які з'яўляецца сацыяльна-псіхалагічным ці сацыяльна-гістарычным творам, у нашых ваенных раманах, партызанскіх эпапеях паказаны не толькі героі падзей, удзельнікі іх, але вырашаюцца тыя праблемы, паказваюцца тыя тэндэнцыі, якія характарызавалі пэўны этап нашага жыцця.

Прыгадаем ваенныя аповесці Васіля Быкава, якія вядомы ва ўсім свеце. У іх пісьменнік паказаў чалавека перад тварам найвялікшых смяртэльна-небяспечных выпрабаванняў. Плавіцца зямля, усё гарыць, а чалавек не здаецца, вытрымлівае звышнагрузкі, дык у гэтым вобраз не толькі асобнага героя, у гэтым — вобраз самой Перамогі, стойкасці, мужнасці, жыццёвай сілы савецкіх людзей, якіх ніхто і ніколі не паставіць на калені! Вось гэта і ёсць вышыня мастацкага абагульнення, тыпізацыі.

*— Якія праблемы хвалююць калектыў Інстытута літаратуры сёння, напярэдадні XXV з'езда КПСС і пісьменніцкіх з'ездаў?*

— Часткова я ўжо адказаў на гэтае пытанне. Паўтару, што, па-першае, нас хвалюе праблема, якая стане ў нас пастаяннай, гэта — літаратура і сучаснасць. Наша жыццё імкліва змяняецца ў індустрыяльным напрамку: навукова-тэхнічны прагрэс, яго разнастайныя праявы ўплываюць на духоўны клімат, на духоўны свет людзей, а гэтыя працэсы якраз і цікавяць літаратуру. Мы павінны сачыць за развіццём падзей, нават прадказваць іх. Наша літаратура застаецца ў даўгу перад рабочымі і калгаснікамі. Мы яшчэ мала паказваем вялікія калектывы, якіх у нас вельмі шмат і яны ўвесь час растуць. У іх спецыфічны мікраклімат, які нам належыць вывучаць. А гэта ж цікавіць увогуле ўсю грамадскасць, усіх людзей.

Мы з прыемнасцю сустрэлі аповесць інжынера Мінскага аўтазавода Арнольда Каштанава «Заводскі раён», надрукаваную ў часопісе «Новый мир» (№№ 7 і 8 за 1973 год). Наш Саюз пісьменнікаў устанавіў цесныя кантакты з рабочымі станкабудаўнічага завода імя Кірава. Калектыў штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва» наладзіў сувязі з беларускімі трактарабудаўнікамі, а наш інстытут — з рабочымі Салігорска.

Я перакананы, што калі мы часцей будзем сустракацца з рабочымі, бываць у іх, мы хутчэй нешта заўважым і напішам пра гэта з лепшым веданнем справы.

Што ж тычыцца нашага інстытута, дык наша задача абагульняць тое, што літаратура знайшла, абагульняць у тэарэтычнай думцы і тым самым аказваць уплыў на літаратурны працэс. Крытыка, літаратуразнаўства заўсёды дапамагалі мастацкай літаратуры і ставілі пісьменнікаў перад неабходнасцю распрацоўкі тых ці іншых праблем, указвалі на іх, заўважалі пэўны факт і надавалі яму абагульняючае значэнне, чым і ўносілі свой уклад у развіццё літаратуры.

— *Задача літаратуразнаўства, як нам здаецца, не толькі вывучаць літаратуру, але і прывіваць любоў да яе ў чытачоў... Як, па-вашаму, у нас вырашаецца гэтая праблема?*

— Крытыкі, літаратуразнаўцы з’яўляюцца прапагандыстамі літаратуры. Мы гэта ведаем і са сваёй задачай спраўляемся. І выконваем яе не толькі тым, што пішам манаграфіі, выдаем навуковыя працы, хаця пакуль што і невялікімі тыражамі. Але ў інстытуце, дзе налічваецца амаль паўсотня творчых супрацоўнікаў, ёсць 17 членаў Саюза пісьменнікаў, сем дактароў, 28 кандыдатаў філалагічных навук. У нас ёсць пісьменнікі, якія сумяшчаюць крытыку з мастацкай дзейнасцю. Скажам, А. Адамовіч з’яўляецца добрым раманістам, аўтарам шырока вядомай аповесці, і разам з тым ён доктар філалагічных навук, прафесар. В. Каваленку мы ведалі да гэтага часу як крытыка, а зараз у часопісе «Маладосць» ён надрукаваў свой раман. Напісаў аповесць малады вучоны Я. Лецка. Некалькі паэтычных зборнікаў выдаў кандыдат філалагічных навук М. Арочка і г. д.

У якасці прапагандыстаў літаратуры нашы таварышы выступаюць на старонках газет, часопісаў і непасрэдна пе-

рад працоўнымі, так сказаць, з жывым словам. У сваіх сацыялістычных абавязацельствах мы паставілі перад сабой задачу прачытаць трыста лекцый, надрукаваць паўтараста крытычных артыкулаў у рэспубліканскім друку. Гэта і ёсць прапаганда літаратуры, прывіццё любові да яе. Крытыка дапамагае чытачу глыбей убачыць тое, што пісьменнік хоча сказаць. Супрацоўнікі інстытута ездзяць па ўсёй Беларусі. Нядаўна амаль усім інстытутам мы пабывалі ў Салігорску, выступалі перад шахцёрамі, калгаснікамі, рабочымі саўгасаў, прадпрыемстваў і ўстаноў Салігорскага раёна.

— *Іншы раз можна пачуць размовы, што значэнне літаратуры ў эпоху навукова-тэхнічнай рэвалюцыі зменшыцца. Што вы думаеце на гэты конт?*

— Яе значэнне не змяншаецца і не зменшыцца. Навукова-тэхнічная рэвалюцыя, пры ўсім яе агромністым значэнні, усё ж з'яўляецца тэхналагічнай рэвалюцыяй. Яна, вядома, прыводзіць да пэўных сацыяльных зрухаў, што ў сваю чаргу ўплывае на перамены ў псіхалогіі, у духоўным клімаце. НТР уплыў аказвае, толькі ўплыў гэты апасродкаваны, а не прамы і прамым не можа быць. Я лічу, што ў мастацкай літаратуры не можа адбыцца ніякай рэвалюцыі. Тут яна немагчыма.

У адрозненне ад тэхнічнай дзейнасці, літаратура ніколі не закрэслівае сваіх тварэнняў, што ў аднолькавай ступені тычыцца і мастацтва ўвогуле. Напрыклад, сярэдневяковая фрэска не адмяняе егіпецкую, а фрэска нашага часу не адмяняе і тую, і другую. Побач з тым электралямпачка цалкам і рашуча адмяніла лучыну і газніцу, плуг адмяніў саху. Адмена тут поўная, без астатку, а ў мастацтве мы назіраем пераемнасць традыцый і багаццяў. Усе шэдэўры, створаныя чалавекам любой эпохі, застаюцца і ніколі не губляюць сваёй каштоўнасці, пачынаючы з наскальнага жывапісу і да палотнаў нашых дзён. Мы іх успрымаем як помнікі эпохі і з асалодай глядзім на іх, чытаем ці слухаем, калі гэта музыка, песня. Або, скажам, першыя трактары былі няўклюднымі і зніклі, хоць у свой час людзі захапляліся імі. Гэта тычыцца аўтамабіля, першага самалёта і г. д. Зразумела, што нам не патрэбны стары станок, калі з'явіўся новы, з праграмным кіраваннем.

Навукова-тэхнічная рэвалюцыя ўздзейнічае на мастацтва тым, што ўплывае на сацыяльныя бакі жыцця, якое адлюстроўвае літаратура, але самую літаратуру НТР не адменіць і не можа адмяніць, істотна замяніць. Гэта дзве аўтаномныя плыні, якія будуць працягваць развівацца паралельна кожная па сваіх уласных законах.

*1975*

## ТЛУМАЧАЛЬНІКІ ВЫДУМАНЫХ СНОЎ

*З сур'ёзным відам знатака шпіёнская радыёстанцыя «Свабода» завяла гутарку аб рамане Івана Шамякіна «Вазьму твой боль». Даволі дзіўны занятак для іудушак з мікрафонам!*

— Але, бадай, яшчэ большае здзіўленне выклікае той факт,— *сказаў у гутарцы з карэспандэнтам БелТА пісьменнік Іван Навуменка, дырэктар Інстытута літаратуры АН БССР,*— што вешчуны з Мюнхена з паказной доляй ададбрэння звяртаюць увагу на тыя старонкі рамана, якія прысвечаны справаздачна-выбарнаму партыйнаму сходу ў саўгасе «Добрынскі».

— *Атрымліваецца парадокс! Мы ж ведаем, з якой лютай злосцю «Свабода» нападае на савецкіх камуністаў, стараючыся сказіць іх перакананні, абылгаць стваральную дзейнасць…*

— Гэта так,— пацвярджае Іван Якаўлевіч.— Але звернемся да старонак рамана. Аўтар знаёміць нас з партсходам не як пабочны назіральнік. Мы глядзім на падзеі як бы вачамі Івана Карнеевіча Батрака, лепшага шафёра і камбайнера саўгаса, героя жніва. Ён любіць сходы камуністаў таму, што размова на іх, за рэдкім выключэннем, ідзе пра справы сур'ёзныя, канкрэтныя, якія маюць непасрэдныя адносіны да яго работы, да працы і жыцця ўсіх добрынцаў. Гэта падзея для яго заўсёды некалькі ўрачыстая. Таму адпраўляецца на сход Іван Карнеевіч у святочным касцюме, пры гальштуку. Ды і не ён адзін.

На гэты раз даклад сакратара парткама Забаўскага быў не зусім звычайны. Ён як бы не справаздачу рабіў, а разважаў аб людзях, іх клопатах, узаемаадносінах, выхаванні дзяцей, аб культуры, быце, аб тым, што купляюць аднавяскоўцы, чаму некаторыя лішняе п'юць. Нават пра могілкі сказаў: нядобра, што там жывёла ходзіць, глядзець за імі трэба, дапамагчы людзям помнікі паставіць. Акружыць пашанай не толькі тых, хто на вайне загінуў, але і тых, хто ўсю душу ўкладваў у работу і памёр сваёй смерцю. Словам, партыйны важак гаварыў пра жыццё. Пытанні ставіў. Ці ўсе ў саўгасе паводзяць сябе па-новаму? Ці разумеюць, што такое савецкі лад жыцця? Ці не выцясняе імкненне да вялікага дастатку духоўнасць? Ці не знікаюць лепшыя сельскія традыцыі?

Слухалі Забаўскага з вялікай увагай, асабліва Іван Карнеевіч. У сваіх выступленнях ён ніколі не мог абысці важныя саўгасныя справы, у якіх — «яго жыццё, яго шчасце». Але цяпер яму хацелася сказаць не аб рабоце і памылках, якія здараюцца. Ён выходзіць на трыбуну і ўспамінае пра бацьку-партызана. Да апошняга патрона той адстрэльваўся ад паліцаяў, якія здзекаваліся з яго нават мёртвага. Пра цяжарную маці і сястру, закатаваных карнікамі. Пра Шышку (Р. Шышковіча), гэтага «фашысцкага службака». Так, атрымаў ён свае дваццаць пяць гадоў, адбыў тэрмін у месцах аддаленых і зноў вярнуўся ў саўгас, дзе той-сёй выкарыстоўвае яго як даставалу. Як можна нават дыхаць адным паветрам з учарашнім карнікам?

— *...Вядома, здрадніцкія падонкі, якія збеглі з гітлераўскімі недабіткамі на Захад і акапаліся ў радыёфіліяле ЦРУ, як чорт ладану, баяцца аднаго ўпамінання аб брудным мінулым на сябе падобных. Зразумела, што вешчуны «Свабоды» не ўдастойваюць ніводным словам выступленне Івана Карнеевіча.*

— Затое іх зацікавіла, як бачыце,— працягвае Іван Якаўлевіч,— «духоўная праблема сучасніка», аб якой гаварыў Забаўскі. У чым жа яны яе ўгледжваюць?

Духоўнасць бывае розная. Яна можа ўзвышаць, узнімаць чалавека, за што мы і цэнім яе. Але іншы раз служыць толькі прыкрыццём для фактычнай бездухоўнасці, адсталасці,

рэакцыйнасці, убоства. Падобны камуфляж выкарыстоўваюць у ялейных пропаведзях на правакатарскіх хвалях усялякага роду папы, якія прыкрываюць рызамі сваё запэцканае крывёю адзенне ката.

Піратам эфіру падавай такую «духоўнасць», якая з'яўляецца сінонімам бяздумнага спажывецтва і тупога мяшчанства. Бо маніпуліраваць дробнымі страсцямі людзей, далёкімі ад грамадскіх інтарэсаў і палітыкі, намнога лягчэй.

Патрэбна зарубежным радыёлгунам таксама «духоўнасць сельская і нацыянальная». Для гэтага яны і ўвесь агарод гарадзілі. У перакладзе з жаргону чорных прапагандыстаў «сельская» духоўнасць, маўляў, не мае нічога агульнага з новымі савецкімі абрадамі і традыцыямі. Яна з'яўляецца цёмным сімвалам прыватна-ўласніцкіх, кулацкіх імкненняў, дробнабуржуазнай закарузласці, хутарской замшэласці, г. зн. усяго таго, што магло б стаць варожым высокім ідэалам сацыялізму.

Аб «нацыянальнай» духоўнасці іудушкі з мікрафонамі таксама распаўсюджваюцца нездарма. Яны спяць і бачаць, як бы падсунуць савецкім людзям буржуазныя забабоны, як бы пасварыць працоўных рэспублік савецкіх, выклікаць дробязнае пачуццё недавер'я паміж імі і тым аслабіць наш магутны саюз. Не выйдзе! Ужо спрабавалі гітлераўцы сыграць на гэтым у перыяд часовай акупацыі. У адказ Беларусь ператварылася ў сапраўдную партызанскую рэспубліку, якая ні ўдзень, ні ўначы не давала спакою фашыстам.

Што датычыцца цяперашняга часу, то ў нас склалася новая гістарычная супольнасць людзей — савецкі народ. Гэта — вынік дасягнення сацыяльнага і нацыянальнага адзінства, усталявання гарманічных узаемаадносін паміж дружалюбнымі класамі, нацыямі і народнасцямі СССР, трыумф інтэрнацыяналізму. Пачуццё сям'і адзінай, сям'і савецкай у беларускага пісьменніка арганічна ўвайшло ў яго істоту і плоць. А іудушкі з мікрафонамі намагаюцца кінуць цень на І. Шамякіна, прыпісаць не ўласцівыя яму хутарскія і нацыяналістычныя забабоны, супрацьлеглыя сапраўднай духоўнасці.

*— Калі ўспомніць, дык філіял ЦРУ — радыёстанцыя «Свабода» ў разгар «халоднай вайны» (у той час гэты варожы*

*голас называўся «Вызваленне») дзейнічала груба, прамалінейна, без камуфляжу…*

— Зусім справядліва. Яна тады адкрыта заклікала цёмныя элементы ў сацыялістычных краінах да зброі, сабатажу, мяцяжу. Справа даходзіла да ўказанняў прозвішчаў камуністаў, якіх неабходна забіць у першую чаргу. Цяпер яна пераналаджваецца на больш тонкія і ўкрадлівыя манеры, выдумляе ўсялякія «сны» аб нашым жыцці і каркае аб тым, чаго ніяк не можа здарыцца ў нашай рэчаіснасці. Балбоча аб нязбытным ад лютай злосці і поўнага бяссілля.

У слова *«святыя»,* адзначае герой І. Шамякіна Забаўскі, мы ўкладваем не царкоўны сэнс. Паняцці радзіма, дружба народаў, інтэрнацыяналізм, рэвалюцыйныя, баявыя і працоўныя традыцыі маюць для нас высокае значэнне. Іх не ў сілах запэцкаць ніякія правакатары, як бы яны ні напіналіся.

*1979*

## ЛІТАРАТУРА — ГЭТА САМАПАЗНАННЕ

— *Іван Якаўлевіч, я, прызнацца, у нерашучасці перад вашай дзейнасцю: вы і празаік, і літаратуразнавец, і кіраўнік буйной навукова-даследчай установы, якой з’яўляецца Інстытут літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук БССР…*

— Не думаю, што я тут выключэнне. У нас жа, ведаеце, вольных ад службы мастакоў не так шмат.

Як мой лёс склаўся? Пра літаратуру я марыў, і марыў даўно. Памятаю, першы верш — ну, вядома, нават не вучнёўскі, а нешта такое дзіцячае — напісаў яшчэ ў другім класе. З хваляваннем паказаў маці і стрыечнай сястры. І мне сказалі — добры верш! Можа, там што і было…

— *Калі быў першы верш, то, мабыць, былі і яшчэ?*

— Так, вершы я пісаў і друкаваў… Я доўгі час працаваў карэспандэнтам абласной газеты «Бальшавік Палесся» ў Мазыры, цэнтры былой Палескай вобласці. Там друкаваў вершы, потым — у «Чырвонай змене», нават у «Літаратуры і мастацтве» ў 1947 годзе быў надрукаваны мой верш, недзе

ў мяне і нумар гэты захоўваецца. Але справа не ў гэтым… Паўтараю, нейкая цяга да літаратуры ў мяне была даўно. Скажам, у школьныя гады я заўсёды з нецярпеннем чакаў таго дня, калі будзем пісаць сачыненне, за якія мяне іншы раз пахвальвалі.

Паступіў я вучыцца пасля вайны ўжо. Паступіў на факультэт журналістыкі, потым перавёўся на філфак, паколькі ўжо працаваў у газеце і меў вопыт практычнай работы — палічыў, што лепш мець шырэйшую адукацыю, таму што філалогія ўсё-такі шырэй за чыстую журналістыку. Тады, у сорак шостым — сорак восьмым гадах, друкаваў вершы, нарысы і, вядома, нешта марыў пра літаратуру ўжо больш акрэслена. Скончыў я ўніверсітэт у 1950 годзе, год працаваў яшчэ ў газеце, потым мяне запрасілі ў аспірантуру. І можна лічыць, першым маім сур'ёзным творам стала кандыдацкая дысертацыя, якую пісаў па абавязку і абараніў у 1954 годзе. А першае апавяданне напісаў крыху пазней — недзе ў канцы пяцьдзясят чацвёртага,— калі яго можна назваць апавяданнем: гэта была нейкая гумарэска. А ўжо сталае апавяданне я надрукаваў у 1955 годзе ў часопісе «Маладосць».

Праўда, гадоў за пяць да гэтага я напісаў апавяданне пад назвай «Інтэрнацыянал» — аб тым, як партызанскі атрад прарывае блакаду. Як я разумею цяпер, апавяданне даволі напышлівае, так сказаць, на хадулях.

Значыць, маё жыццё склалася так, што спачатку я быў пасвечаны, калі можна так сказаць, у крытычныя рыцары. Але ўсё ж такі мастацкая літаратура ўзяла ўва мне верх, і сябе я больш лічу пісьменнікам, празаікам, чым крытыкам. Большая ў мяне ўнутраная патрэба да гэтага, большая цяга…

*— Добра… Тады на нейкі час пакінем вас як крытыка ў спакоі, паспрабуем уявіць, што вы «чысты» мастак, толькі празаік…*

— Дарэчы, я і крытыку люблю, і адчуваю густ у гэтым. Крытыка і літаратуразнаўства мне заўсёды імпанавалі, я ніколі не адмаўляўся пісаць рэцэнзіі, артыкулы. Было прыемна, калі, скажам, мае даследаванні пра творчасць Янкі Купалы і Якуба Коласа атрымалі Дзяржаўную прэмію (дарэчы, я думаю іх перавыдаць, дапоўніўшы ў некаторых момантах).

Для мяне як для крытыка і літаратуразнаўца добрай лабараторыяй была выкладчыцкая работа ва ўніверсітэце на кафедры беларускай літаратуры. Працаваў я выкладчыкам, старшым выкладчыкам — такія чыны ёсць,— загадчыкам кафедры, быў прафесарам, сюды прыйшоў… Гэта ўсё работа, служба… Усе нашы пісьменнікі працуюць, і, канечне, недзе бліжэй да літаратуры. А самы галоўны свой абавязак і занятак я бачу ў тым, што пішу мастацкія творы.

*— Вы марылі пра літаратуру з дзяцінства, пісалі вершы… Мабыць, гэта давала аб сабе знаць прызванне, талент. А што, па-вашаму, акрамя прыродных схільнасцей, патрэбна для станаўлення пісьменніка?*

— Я лічу, што кожнаму пісьменніку трэба прайсці пэўны жыццёвы шлях, патрэбна біяграфія. Я помню адну ўсходнюю мудрасць, якая гаворыць, што той, хто бачыў вывяржэнне вулкана, або той, хто быў сведкам паўстання яго народа супраць дэспатаў, або хто бачыў уварванне ворага ў яго краіну і выгнанне гэтага ворага, той не павінен маўчаць. Ён павінен пра гэта расказаць людзям — абавязкова расказаць! Нават калі сам пісаць не ўмее, ён павінен знайсці такога чалавека, які ўмее, і расказаць яму, каб той напісаў.

Маё пакаленне (нарадзіўся я ў 1925 годзе) было сведкам і ўдзельнікам такой грандыёзнай падзеі, як Вялікая Айчынная вайна. «Блажен, кто посетил сей мир в его минуты роковые»,— як сказана ў паэта… Вось гэта — галоўная падзея ў маім жыцці. Я ўдзельнічаў у падпольных справах, быў у партызанах, быў на фронце. Пасля вайны ездзіў шэсць гадоў па калгасах, бачыў аднаўленчую работу. Так што ўражаннямі жыццёвымі я дзесьці быў нават перапоўнены, і пра многае хацелася расказаць. Пра вельмі многае…

Калі вярнуцца да прыгаданай усходняй мудрасці, то бачыў я і акупацыю, нашэсце ворагаў, бачыў самую вялікую ў свеце вайну, бачыў героіку і трагізм яе. Тут нават каб не меў ніякіх літаратурных здольнасцей, трэба было расказаць аб перажытым.

Ну, а потым вытокі, перадумовы творчасці трэба дзесьці браць шырэй. Нарадзіўся я пры савецкай уладзе і ўсё сваё жыццё быў сведкам вялікіх падзей, будаўніцтва новага свету.

Няхай сабе жыў у райцэнтры… Наша пакаленне было акрылена рэвалюцыяй, новымі пераменамі ў жыцці. Безумоўна, атмасфера новага савецкага жыцця, сацыялістычных ідэалаў фарміравала нас, надавала ўпэўненасці ў сваіх сілах… Памятаю, як да вайны выпускнікі школы вырай за выраем ішлі ў новае жыццё, і кожны з упэўненасцю, што можа стаць кім захоча. Вось і ў мяне дзесьці тады яшчэ зарадзілася мара пісаць, стаць пісьменнікам.

*— Як вы лічыце,— вайна, удзел у ёй, паскорыла станаўленне ваша як пісьменніка? Замарудзіла?*

— Хочаце сказаць, што я позна пачаў пісаць? Так, прарэзаўся я, так сказаць, пазнавата: першае апавяданне напісаў, калі мне было трыццаць гадоў. Недзе замінала, можа, газетная работа, журналістыка, якая вельмі адцягвала час. З другога боку, вайна, безумоўна, патрабавала часу, каб асэнсаваць яе. Таму і многія нашы савецкія пісьменнікі, якія сёння вызначаюцца,— той жа Юрый Бондараў, Георгій Бакланаў ці Васіль Быкаў — таксама не адразу пасля вайны пачалі пісаць, кожнаму з іх спатрэбілася цэлае дзесяцігоддзе, каб асэнсаваць усё гэта.

Акрамя таго, пісьменнікамі наогул не адразу становяцца. У мяне, скажам, была ўнутраная нязгода з тым, як у некаторых пасляваенных творах паказвалася вайна. Тады была тэндэнцыя паказваць толькі ружовае, ідэальнае. А тых супярэчнасцей, драматызму, трагізму, што я сам бачыў на вайне, літаратура як бы пазбягала. Таму дзесьці былі ў душы і нязгода, і няўпэўненасць. Безумоўна, дапамагла знайсці сябе — і, я ведаю, не мне аднаму: недзе тут і Васіль Быкаў, і Алесь Адамовіч, маладзейшыя за нас Іван Чыгрынаў, Барыс Сачанка і іншыя,— многім дапамагла знайсці ўласны голас новая грамадская атмасфера сярэдзіны 50-х гадоў, якую прадвызначыў дваццаты з’езд партыі.

*— Але ж вам таксама трэба было, мабыць, прайсці пэўную літаратурную школу? Каго вы лічыце сваімі настаўнікамі?*

— Разумееце, шукаеш заўсёды сам. Я не магу назваць каго-небудзь, хто быў бы ў мяне літаратурным настаўнікам. Хаця з беларускіх пісьменнікаў на мяне, відаць, найбольш уплываў Колас. Я і цяпер лічу, што стыль Коласа — гэта

стыль будучага… Яго проза эмацыянальная, ёмістая сэнсава, шматпластовая… У маленстве найбольш чытаў Тургенева, Чэхава. Канечне, Талстога чытаў, нават Дастаеўскага… Мне заўсёды падабаліся артыстычна зробленыя рэчы, якія лёгка чытаць і ў якіх разам з тым вялікая і глыбокая ідэя заключана. Гэта я бачу ў Лынькова, з сучасных пісьменнікаў — у Янкі Брыля, які і лірык, і гумарыст адначасова. Але я думаю, што ў стылі Коласа яшчэ большая гама пачуццяў, яшчэ большы спектр эмацыянальны прысутнічае. Там і філасофская развага, і дзесьці ўсмешка, і дзесьці дакор, і шмат чаго іншага. У Коласа вельмі арганічны народны пагляд на свет, на рэчы.

*— Іван Якаўлевіч, у тым, што вы сказалі зараз, у вашых адносінах да спадчыны аднаго з нашых класікаў, ужо намеціўся адказ на пытанні, якія напрошваюцца самі сабой: народнасць і партыйнасць літаратуры ў сучасным разуменні? Якая між гэтымі катэгорыямі ўзаемасувязь? Як яны праяўляюцца ў залежнасці ад пазіцыі пісьменніка? Нарэшце, як вы, такі перакананы прыхільнік традыцый Коласа, наогул класічных традыцый, ставіцеся да наватарскіх пошукаў у форме і стылі?*

— Народнасць… Народнасць — гэта пагляд на свет працоўнага чалавека, чалавека, які мае шматвяковую «нравственность», і пісьменнік не можа, не мае права яго ігнараваць. А партыйнасць — гэта ідэйнае перакананне, выразнасць грамадзянскай, класавай пазіцыі пісьменніка, і сувязь паміж партыйнасцю і народнасцю самая непасрэдная.

Пісьменнік проста так пісаць дзеля пісання не можа. Перш чым нешта пісаць, ён павінен авалодаць пэўнай жыццёвай філасофіяй, павінен бачыць перад сабой ідэал, у нешта верыць. Працэс пісання — гэта не проста — маўляў, я ведаю нейкі факт і я вам яго апішу. Разумееце, гэта заўсёды ацэнка, заўсёды прысуд, заўсёды нейкае перакананне. І стыль. Калі пісьменнік, скажам, спачувае той ці іншай з'яве, гэта выявіцца ў паэтыцы. Калі не спачувае, асуджае — падасць у іранічным асвятленні і гэтак далей. Вось тут яго і пазіцыя, і партыйнасць. Гэта — вера! Як раней гаварылі «како веруеш»… Перакананне, вера абавязкова прысутнічае ў кожным слове. Калі перад намі больш-менш, як кажуць, пісьменнік,

у творы яго будзе заўсёды прадмет веры — яна будзе між радкоў, яна будзе і ў выбары тэмы, і ў яе асвятленні.

Мы павінны не забываць, што ёсць непераходзячыя каштоўнасці. У нас ёсць вялікія настаўнікі — Пушкін, Купала, Колас. Сучаснаму пакаленню пісьменнікаў варта браць час ад часу з паліцы класікаў, Кузьму Чорнага, Кандрата Крапіву, перачытваць іх, і гэта будзе зусім не лішне ў наш дваццаты прасветлены век, у эпоху НТР.

Хачу падкрэсліць: я зусім не супраць наватарства ў форме. Я, напрыклад, люблю Пабла Нэруду. Гэта сапраўдны наватар, у яго ўскладнёная, метафарычная паэтыка. І разам з тым, я адчуваю, яго лірыка нават біяграфічная, разумееце? Многія факты, падзеі жыцця — ён любіў, скажам, жанчыну,— гэта ёсць у яго паэзіі; прафесія яго бацькі ёсць; ёсць родныя мясціны і шмат чаго іншага. І пры ўсёй сваёй складанай стылістыцы, паэтыцы ён паэт рэвалюцыі, ён бачыць перспектыву абнаўлення свету. Або вазьміце таго ж Бэртальда Брэхта — у сэнсе формы там былі такія навацыі!.. А калі сацыяльная пазіцыя, партыйная і грамадзянская пазіцыя пісьменніка не выразная, дык і застаюцца ад яго твора адны толькі навацыі, якія нікога не грэюць. За гэтым жа нічога няма!

Адным словам, можна быць і наватарам, шукаць, рабіць эксперыменты і заставацца ў добрым сэнсе традыцыяналістам.

*— Іван Якаўлевіч, мы гаворым пра традыцыі, пра іх развіццё, але часта неяк выпускаем з-пад увагі «спажыўца» літаратуры — чытача, яго адносіны да таго, што пішацца для яго ў самых розных манерах. Вось вы, аўтар многіх апавяданняў, аповесцей, ужо чатырох раманаў, ці задумваліся над тым, чаго хоча ваш чытач?*

— Перш за ўсё, безумоўна, чытач — і мой, і не мой — хоча праўды. Ну, і, напэўна, каб я быў я, каб кожны пісьменнік быў сам сабой.

Кожная літаратура — гэта нібы сілавое поле прыцягнення выдатных талентаў. У нас, скажам, ёсць Купала, Колас, Куляшоў, ёсць Броўка, Танк, Панчанка і іншыя харошыя паэты, ёсць Кузьма Чорны і Кандрат Крапіва, і ўсе яны маюць адметны талент, кожны з іх знаходзіцца на самастойнай арбіце. І кожны сапраўдны талент, адчуваючы іх уздзеянне,

знаходзячыся ў іх сілавым полі, будзе ўсё ж такі на самастойнай арбіце. Кожны сапраўдны талент — вялікі ці меншы — прываблівае.

Бо што такое — чытач чытае? Чаму ён чытае? Калі я пішу, скажам, пра МТС, то, думаеце, сельскі жыхар нічога не ведае пра тыя МТС? Ды ведае ж! Яму цікава іншае: ён чытае і ўгадвае сябе — што гэта ён так думаў, так бачыў, так адчуваў ці прадчуваў. А пісьменнік толькі яскравей, чым ён, сказаў гэта. І вось тут узнікае кантакт паміж пісьменнікам і чытачом. Калі ж чытач не пазнае ў творы сябе, ён кажа: няпраўду гаворыць пісьменнік! І пісьменнік сапраўды, калі не ўгадаў патаемныя адчуванні і думкі чалавека, гаворыць няпраўду. Таму ўсе занадта мадэрныя навацыі, за якімі не відаць душы чалавека, вядуць да адрыву ад чытача. Выдумцы чытач не верыць. Патрэбна думка, псіхалагічная дакладнасць, суперажыванне. Важна, каб у творы чытач бачыў сябе і ўзбагачаўся, пацвярджаючы літаратурай сваю жыццёвую лінію. Каб станавіўся ўпоравень з пісьменнікам. Вось у чым справа!

— *Кожны пісьменнік, мабыць, сваім шляхам ідзе да чытача. Таму існуюць розныя манеры, стылявыя напрамкі. Тым, відаць, і багатая наша літаратура. А што вы, Іван Якаўлевіч, лічыце галоўным у сваёй рабоце над творам, у працэсе пісання?*

— Канечне, працэс пісання ў кожнага свой: адзін пісьменнік як бы на вачах у чытача шукае ісціну, капаецца ў душы, і ўвесь гэты працэс капання, шукання чытачу відзён. Я не прымаю такой манеры. Я лічу, што гэты працэс павінен адбыцца ў душы пісьменніка. «На гара» павінна выдавацца чыстае зерне — сказ вынашаны, адшліфаваны, настраёвы… Хаця, відаць, у апошні час мяне ўжо цягне да прозы аб'ектывізаванай, якая ўлічвала б усе падрабязнасці навакольнага жыцця.

— *Дзіўна: вы ж — прызнаны лірык у прозе! Асабліва ў вашых ранніх апавяданнях лірызм адчувальны, ды і ў многіх аповесцях, нават у параўнальна нядаўняй, «Інтэрнат на Нямізе», лірыка ёсць. А ў новым рамане, «Смутак белых начэй», вы як аўтар сапраўды нейкі інакшы ўжо, як вы кажаце, аб'ектывізаваны. Чым гэта можна растлумачыць?*

— Так, больш лірычнай прозы ў мяне, відаць, не атрымаецца. Пісьменнік у сваім развіцці таксама, відаць, праходзіць некалькі этапаў. Я ўжо немалады, і лірыка для мяне — справа прошлая. Канечне, яна будзе яшчэ недзе прабівацца, ёю нешта будзе падсвечвацца, але ўжо наўрад ці напішу я такія апавяданні лірычныя, якія пісаў, скажам, у пяцідзясятых, шасцідзясятых гадах. Я і цяпер пішу апавяданні — да слова, нядаўна напісаў два — «Мульменкаў сад» і «Кацюша», яны яшчэ не друкаваліся. Дык яны ўжо больш аб'ектывізаваныя.

*— Дзякуй, Іван Якаўлевіч,— цяпер больш зразумелы некаторыя стылявыя асаблівасці вашага новага рамана «Смутак белых начэй». Дарэчы, у друку ўжо з'явіліся першыя водгукі на яго, і хочацца спытаць: наколькі ўдалося рэцэнзентам пранікнуць у яго мастацкі свет, у чым супадаюць, а ў чым разыходзяцца меркаванні, так сказаць, староннія і аўтарскія?*

— У асноўным рэцэнзенты мяне разумеюць. Прачытаў я і ў «ЛіМе» рэцэнзію Любові Карніловіч. Я ведаю, яна піша дысертацыю, ужо даволі даўно займаецца маімі творамі, і даволі глыбока ўвайшла ў змест рамана. Я ні слова не казаў ёй пра гэты раман, не было ў мяне з ёй ніякіх кансультацый, тым не менш яна даволі правільна ўгадала задуму і ўсё іншае. Там, можа, ёсць нейкі момант, дзе я трошку не згодзен з ёй, але ў цэлым яна зразумела раман правільна.

*— І ўсё ж хацелася б пачуць ад вас самога пра задуму рамана «Смутак белых начэй», пра ўнутраныя матывы, якія прымусілі вас зноў звярнуцца да тэмы Вялікай Айчыннай вайны; пра «звышзадачу», якую вы ставілі перад сабой, працуючы над раманам. Прызнацца, раман гэты нечым спакушае глядзець на яго як на працяг вашых ранейшых раманаў...*

— Штосьці агульнае з папярэднімі ў яго, безумоўна, ёсць. Але ўсё-такі гэта асобная тэма. Тыя тры раманы — «Сасна пры дарозе», «Вецер у соснах» і «Сорак трэці»,— я думаю, можна аб'яднаць адной назвай — «Акупацыя». Ва ўсіх трох раманах праходзіць партызанская тэма, тэма змагання супраць нашэсця фашыстаў ва ўмовах акупацыі. І трэба было расказаць пра акупацыю, прытым трэба было расказаць з усімі перыпетыямі. Спадзяюся, мне ў гэтых трох раманах

нешта ўдалося ў гэтым сэнсе. Там жа ёсць, заўважце, недзе і палітыка, і ідэалогія — наша і варожая, як яны сутыкнуліся; і тое, як знішчалі нас, і як узнімалася хваля народнага гневу… Але мы не вычарпалі гэтай тэмы, яе працягвае распрацоўваць наступнае пакаленне — скажам, Іван Чыгрынаў, і ён бярэ асобны пласт, ён вёску ведае — няхай, у добры час! Усе мы робім адну справу…

У новым маім рамане сапраўды ў нейкай меры завяршаецца тэма пакалення, пра якое я шмат пісаў — найбольш у апавяданнях, троху і ў раманах,— іменна тэма пакалення сямнаццаці-васямнаццацігадовых, але тут ужо на фронце, ва ўмовах зусім іншых.

Чаму мне важна было пра гэта расказаць?.. Дарэчы, сюжэт рамана амаль не прыдуманы — я не ўмею прыдумваць сюжэтаў, яны неяк самі нараджаюцца.

Гэта быў мой першы фронт — Ленінградскі. Не забывайце, што мы, даваенныя беларускія хлопцы, на фронт траплялі ў розныя часы. Крыху старэйшыя пайшлі адразу ў сорак першым. Мае равеснікі з вызваленых раёнаў — Гомельшчына, Прыдняпроўе — у сорак трэцім, а астатнія толькі пасля вызвалення ўсёй Беларусі ў ліпені-жніўні сорак чацвёртага, недзе праз восем месяцаў пасля майго прызыву. Значыць, мы к гэтаму часу ўжо восем месяцаў, па крайняй меры, ваявалі. А што гэта азначае, можна праілюстраваць на ўзроставым складзе нашай пісьменніцкай арганізацыі. Вось я, напрыклад, дваццаць пятага года нараджэння. А вы ведаеце, колькі ў мяне равеснікаў у нашым саюзе? Уявіце сабе, з трохсот чалавек нас толькі, здаецца, некалькі з дваццаць пятага года — я, Алесь Савіцкі, Лідзія Арабей… Кажуць, што кожны чацвёрты беларус загінуў у вайне, і гэта цяжка ўсведамляць. А з нашага пакалення, мабыць, трое з чатырох загінула… Разумееце, гэта наш жыццёвы, творчы, пісьменніцкі, які хочаце, абавязак — напісаць пра лёс гэтага пакалення. Стварыць рэквіем, аддаць даніну яго светлай памяці.

«В полях за Вислой сонной лежат в земле сырой Сережка с Малой Бронной и Витька с Моховой»… Верш, які стаў песняй. Гэта і пра маіх школьных сяброў. Мала школьных сяброў, маіх равеснікаў, асталося, многія загінулі — хто

раней, хто пазней… Ёсць такі выраз — аптымістычная трагедыя. Так, мы бачылі вялікую мэту, мы вялі справядлівую, вызваленчую вайну, і ахвяры былі апраўданы мэтай, і ўсё ж смерць маладых хлопцаў — гэта балюча і цяпер.

Вось таму мне хацелася напісаць раман пра сваё пакаленне на фронце. Вельмі хацелася. Не ведаю, наколькі я справіўся з задачай, калі мераць вышэйшымі меркамі, але я зрабіў усё, што мог. Ва ўсякім выпадку, для ўшанавання памяці тых канкрэтных людзей, якіх ведаў і якіх няма… Я дажыў да пяцідзесяці чатырох гадоў, а яны ў васямнаццацьдзевятнаццаць склалі галовы. Я іх і цяпер бачу — маладыя хлопцы з нашага класа, якія не паступілі ў інстытуты, не паспелі ажаніцца, не пакінулі дзяцей.

Так што тэма гэтая для мяне вельмі блізкая, можна сказаць, асабістая.

*— Іван Якаўлевіч, усе мы, вашы чытачы, усе, хто цікавіцца вашай творчасцю, ведаем — чулі, чыталі — пра лёс самага маладога пакалення ў мінулай вайне, да якога вы належыце; адчуваем і разумеем вашу адданасць і захопленасць ваеннай тэмай у сваёй творчасці; крытыка бачыць у вас адкрыты біяграфізм, ледзь не тоеснасць асобы аўтара з некаторымі героямі. Цяпер вось вы як быццам пацвердзілі гэта. Скажыце, калі ласка, а як жа мастацкі домысел, тыпізацыя, абагульненне?.. Можа, усё гэта ў асобных выпадках губляе сэнс?*

— Разумееце, не трэба паддавацца гэтай магіі, што, маўляў, пісьменнік апісаў біяграфічны факт, дык там усё, як у аўтабіяграфіі ці ў летапісе. Гэта здаецца толькі. На самой справе, скажам, герой маіх папярэдніх раманаў Міця Птах і я — розныя, ён — не копія мая, не пісаў я яго цалкам з сябе. Нешта ёсць майго ў ім, канечне, шмат чаго я аддаў свайму герою, але не спісваў з сябе. Узяць хоць бы знешнія акалічнасці жыцця: напрыклад, я ніколі не жыў на будцы. Ніколі. Я жыў у мястэчку. Ніколі я не ведаў адзіноты… Проста мне трэба было паставіць героя ў пэўныя жыццёвыя абставіны, каб ён меў судакрананне і са светам прыроды, і з чыгункай, і з немцамі. Сюжэт мне падказала тое, што бацька мой чыгуначнік, хаця ён ніколі не быў абходчыкам, а на станцыі працаваў… Так што і ў першых маіх раманах маса рэчаў, якія здаюцца вельмі

біяграфічнымі, на самой справе абагульненыя, тыпізаваныя. Да прыкладу, па сям'і — там дзейнічаюць сёстры, а ў мяне была толькі адна сястра, маленькая, якая яшчэ і па грыбы ў лес не магла хадзіць. Так што біяграфізм у мяне — гэта ўсё вельмі адносна. Я браў іншых людзей, глядзеў на тое, што рабілася ў нас, злучаў тое, што было і што магло быць — тыповае, пісаў вобразы, камбінаваў сюжэт. Адным словам, раманы мае — гэта не летапіс. Гэта мастацкія творы.

Канечне, можа, газета мяне прывучыла, можа, асаблівасць маёй манеры такая, але сапраўды я заўсёды ішоў ад фактаў. Ад рэальнага факта і ад асабіста перажытага ці ад таго, што чуў, што недзе блізка адбывалася. Гэта праўда. Але не разумейце гэта аднalінейна. Не думайце, што ўсё, як напісана ў Навуменкі, так і было ў сапраўднасці. Не. Нават рэальны факт, калі трапляе ў сілавое мастацкае поле, пад пяро пісьменніка, ён пераўтвараецца, пераасэнсоўваецца, уваходзіць у складаныя ўзаемасувязі з іншымі фактамі.

*— Вядома, калі твор заснаваны на рэальных фактах, жыццёвых назіраннях, гэта заўсёды выклікае давер'е. Але скажыце, Іван Якаўлевіч, ці не бывае з гэтымі фактамі цяжкавата мастаку? Ці не бяруць яны іншы раз у палон?*

— Я скажу вось што: можа, сапраўды я крыху сапсуты газетай. Усё-ткі газета прайшла праз маю маладосць, я прывык верыць факту, і недзе тут слабінка ў мяне ёсць. Як у грыбніка — калі ён на гэтым месцы знайшоў грыб, то ён тут дзесяць разоў пройдзе і зноў вернецца, хоць там ужо грыбоў няма. Так і я, бывае. Пісьменнік смялей павінен адрывацца ад фактаў, смялей абагульняць. А з другога боку, газета нешта і дала мне. Факт ёсць факт, гэта жыццё. Прытым я ніколі не даваў яго «галышом», я імкнуўся асэнсаваць яго, даваў нейкую хімію факта, стараўся разабрацца — адкуль што…

Пісьменнік, калі добра падумае, заўсёды знойдзе вытлумачэнне любому факту, які б ён ні быў складаны. Вось вы сустрэліся з чалавекам, ён нешта сказаў нязначнае, але сказанае ім, разам з выразам твару, вачэй, усе, так сказаць, складаемыя размовы многае могуць даць для разумення гэтага чалавека. Пісьменнік можа ўбачыць, здагадацца і пра тое, чаго чалавек гэты і не хацеў бы паведамляць.

Пісьменнік многае здольны бачыць. Нават той, які лічыцца самім у сябе пагружаным,— у яго зрок харошы!.. Не толькі сацыяльны — ён бачыць псіхалагічныя нюансы, спружыны, якія кіруюць паводзінамі чалавека, і многае іншае.

Вось я прыгадваю, як мае апавяданні нараджаліся, як узнікаў той ці іншы ход у рамане ці аповесці… Ведаеш нейкі факт, нехта нешта зрабіў, нешта з некім здарылася, і пачынаеш думаць, і пачынаеш разумець — што, як і чаму…

Мяне называлі лірыкам. Лірык гэта лірык… Але я даўно ўжо аддаю перавагу аб'ектывізаванай прозе, гэта значыць, я валодаю здольнасцю — не толькі я, кожны празаік — угадаць, хто вы… І калі ўгадаеш характар — а ў гэтым пісанне і заключаецца,— то ўжо ведаеш, як ён будзе дзейнічаць у тых ці іншых абставінах. Гэта значыць, ты як бы апранаеш скуру таго чалавека, пра каго пішаш. Празаік — той жа акцёр, толькі роляў у яго многа.

Вось, скажам, я пісаў Крамера. Што я пра яго ведаў? Мне расказалі пра двух-трох такіх бургамістраў, і я ўявіў сабе аднаго, найбольш тыповага. Што гэта за чалавек? Напаўрускі, напаўнемец, па натуры някепскі, але трапіў у складаную сітуацыю. Ён заўсёды, канечне, захоча прымірыць варожыя бакі, каб менш крыві было. А логіка рэчаў такая, што прыйшоў фашызм, і карэнныя інтарэсы савецкіх людзей і фашыстаў сутыкнуліся. Інакш не магло быць, і насуперак намаганням Крамера, хай ён будзе па натуры і добры чалавек, ён робіць дрэнную справу, бо логіка рэчаў вядзе да барацьбы.

— *Цяпер, калі вы дазволілі ўвайсці ў вашу творчую лабараторыю, як кажуць, давайце высветлім і такое, можа, не вельмі істотнае, пытанне: чаму вы змянілі імя галоўнага героя ў новым рамане? Усе чатыры вашы раманы — творы аднаго цыкла, пра лёс аднаго пакалення, хаця там — партызанская барацьба, тут — фронт. Але ж мог Міця Птах пайсці і на фронт…*

— Канечне, Міця Птах і Сяргей дзесьці шмат агульнага маюць. Недзе, можа, гэта працяг аднаго і таго ж вобраза, я згодзен з вамі. Але разам з тым і — не, бо Міця Птах застаўся, так сказаць, на адным узроўні, а Сяргей ужо ўсё-такі з нейкай новай свядомасцю — хоць, можа быць, не цалкам.

Вядома, ёсць такія прыклады, калі пісьменнік з твора ў твор цягне аднаго і таго ж героя. Гэта, скажам, Фолкнер… У рускай ці беларускай літаратуры такой традыцыі няма. У нас іншае. Вазьміце Коласа: у яго і ў хрэстаматыйным вершы, дзе хлопчыка вельмі «цягнуць санкі з дому», і ў «Новай зямлі», і ў трылогіі фактычна дзейнічае адзін і той жа герой, але ж у кожным творы ён розны. Гэта можна ўбачыць у многіх яго апавяданнях. Героі Коласа названы і выглядаюць па-рознаму, хоць літаратуразнаўцы, ды і чытачы могуць здагадацца, што ў яго ў асноўным адзін герой. Калі хочаце, нават у Талстога, у нашага вялікага настаўніка, калі прыгледзецца, то і ў «Вайне і міры», і ў «Казаках», і ў «Севастопальскіх апавяданнях» праходзіць адзін і той жа герой. Але пісьменнік дае яго на розных стадыях, на розных этапах, з нейкай іншай свядомасцю.

Пісьменнік заўсёды піша сваіх родзічаў, блізкіх — ён без гэтага не можа. Нават той, які хаваецца за аб'ектывізаваную манеру. Прызнаюся, і я, калі недагаварыў пра героя ў адным творы, дагаварваю пра яго ў наступным творы, але пад іншым імем. Ужо так у мяне пайшло, так што хай будзе трылогія, хай будуць апавяданні, а гэты раман хай будзе крыху асобна.

*— Іван Якаўлевіч, калі мець на ўвазе, што раман «Смутак белых начэй», паводле вашых жа слоў, у пэўным сэнсе — выніковы твор пра ваенны лёс вашага пакалення, то, мабыць, можна лічыць, што ў творчым плане ў вас з вайной скончана?*

— Не, да вайны, пэўна, я яшчэ вярнуся. Магу прызнацца — я цяпер якраз пішу п'есу на ваенную тэму. Мы не ўсё яшчэ расказалі пра Беларусь-партызанку, пра краіну класічнага партызанскага і падпольнага руху. Вазьміце наш Мінск, вазьміце любы больш-менш значны цэнтр — што тут рабілася ў час вайны! А што ў нас ідзе на сцэне? Амаль нічога пра той час, пра тую вельмі драматычную барацьбу. Я не думаю, што выканаю гэты сацыяльны заказ асабліва бліскуча, але адчуваю, што яшчэ далёка не ўсё сказана, і я павінен паспрабаваць.

*— Дзякуй… Нейкім чынам ужо закранута традыцыйнае пытанне — над чым працуеце? Дык ужо, Іван Якаўлевіч, давайце да канца…*

— Пісьменнікі звычайна не хваляцца сваімі задумамі, але я, праўда, гэтага прынцыпу не прытрымліваюся. Калі што пішу, заўсёды гавару адкрыта, не хаваю сваю задуму.

Дык вось, пішацца п'еса пра падпольную, партызанскую барацьбу. Дзесьці я і падышоў да яе ўсімі сваімі ранейшымі творамі. П'еса ўжо ў такім стане, што ёсць упэўненасць — я яе напішу. Канечне, буду працаваць, дапрацоўваць, але больш палавіны ўжо напісаў і ўсю яе бачу.

Хочацца напісаць яшчэ пра наша пакаленне, і не толькі пра адно — наогул пра савецкага чалавека за мяжой. Тэма мала кранутая. А я быў у Германіі разам з нашымі войскамі, і даволі доўга быў — месяцаў восем у час вайны і пасля вайны нейкі час. І, можа, на тым закруглюся. Канечне, будуць нараджацца нейкія новыя апавяданні, можа, яшчэ аповесць якую напішу, можа, яшчэ п'еса напішацца.

— *Іван Якаўлевіч, можа, крыху падрабязней пра п'есу, над якой працуеце…*

— Што можна дадаць? Гэта сорак трэці год, падзеі адбываюцца ў час Курскай бітвы тут у нас, на Палессі — Прыдняпроўе, Надпрыпяччына… Там будуць драматычныя падзеі, але мне хочацца перадаць апафеоз, адчуванне нашай перамогі, адчуванне свята на нашай вуліцы, разумееце…

А ў цэлым, калі гаварыць,— усе мы павінны расказваць пра свой час, пра сваіх сучаснікаў. Бо хто за нас раскажа пра асаблівасці нашага, менавіта савецкага сацыялістычнага жыцця. Я хачу, каб вы мяне зразумелі: вось апошнія трыццаць гадоў — гэта ж цэлая рэвалюцыя ў нашым жыцці адбылася! Моладзь бурна кінулася ў гарады… Індустрыялізацыя, тэхнізацыя… Я быў за мяжой і магу параўнаць — у нас ёсць трывалыя рысы сацыялістычнага жыцця. Бывае, гэта цяжка нават словам сфармуляваць. На гэтую тэму, пра нашу сучаснасць я ўжо напісаў некалькі аповесцей — «Развітанне ў Кавальцах», «Замяць жаўталісця», «Апошняя восень». Відаць, яшчэ некаторыя аповесці напішу. Хачу напісаць кнігу. Можа, гэта будзе раман — «Раён»,— так сказаць, тая глыбінка, дзе мне давялося працаваць, пасляваеннае жыццё. Прытым не толькі тэматычна. Хацелася б паказаць савецкага чалавека, які вырас у асаблівым клімаце. Вось пытанне — хто мы? Што ў

нас моцнае ў параўнанні, скажам, з папярэднімі пакаленнямі, хоць бы з нашымі дзядамі? А можа, дзесьці ў нечым ім саступаем, слабакі ў параўнанні з імі? Гэта трэба даследаваць. Таму што хто ж за нас гэта зробіць, хто раскажа пра нашы сямідзясятыя гады, калі не мы самі? Паказваць сучаснасць трэба вучыцца, канечне, скажам, як Тургенеў паказваў сваю, але ж тых канфліктаў, тых супярэчнасцей, той атмасферы не было ў часы Тургенева.

Вядома, цяжка пісаць пра сучаснасць, пра наша жыццё. Чаму? Бо цяжка ўгнацца за бягучым днём, убачыць тэндэнцыі, якія імкліва нараджаюцца. І ўсё-такі мы неяк пішам і павінны пісаць.

*— Іван Якаўлевіч, мы з вамі дагэтуль гаварылі як з пісьменнікам, празаікам. Але ж вы яшчэ тэарэтык літаратуры. Цікава, як у вас спалучаюцца гэтыя дзве якасці? Ці лягчэй пісаць твор, калі ў вас, апрача пісьменніцкага таленту, ёсць яшчэ талент крытыка і падрыхтоўка вучонага-філолага?*

— Я вам скажу, што ў кожным жанры, як і ў кожнай справе, свае законы. І, значыць, крытык Навуменка зусім не кантралюе празаіка Навуменку. Не. Празаік Навуменка, калі садзіцца пісаць, забывае, што ён і крытык. Я вам больш скажу. Я чуў, што некаторыя пісьменнікі, збіраючыся нешта пісаць, складаюць план. Я ніколі плана не складаў, бо ніколі не ведаю наперад, што напішу, якая будзе наступная старонка. Усё выходзіць недзе з глыбінь свядомасці. Канечне, трэба напружанне вялікае. Калі пішаш, можна сказаць, кожны раз ідзеш на бой і стамляешся страшэнна. Я не магу многа пісаць, пішу тры-чатыры гадзіны ў дзень, калі нават пішу актыўна. Толькі «Апошнюю восень» хутка напісаў — недзе за месяц. Яна ў мяне вынашана была.

Канечне, ёсць выказванне — «алгебра поверяет гармонию». Але гэта ўжо тады, можа, калі нешта напісана, калі я адыду на нейкую адлегласць і пачынаю ацэньваць зробленае.

У час пісання крытык, канечне, не прысутнічае. Тут мае месца раздзел працы. Калі ўжо я сваё крытычнае пішу, тады, можа, пісьменнік і прысутнічае ў тым, што я па-пісьменніцку зварот нейкі ўжыву. Але думаю я, мыслю па-другому ўжо, таму што проза і крытыка — рэчы розныя. Там я шукаю

колер, гук, настрой, а тут стараюся дакладна думку выказаць, і большай у мяне задачы няма. Вядома, думку можна выказаць больш і менш эмацыянальна, і тут пісьменнік крытыку можа дапамагчы. А так я працую, як кожны крытык: мая сфера — думка, логіка думкі, ні больш ні менш.

Крытыка таксама сур'ёзная справа. Я думаў калісьці, што лёгка напішу сваіх «Купалу» і «Коласа», бо я ж дваццаць гадоў да таго чытаў лекцыі. Думаў — прадыктую машыністцы. Нічога не выйшла! Давялося сесці і пісаць, і былі тыя ж тры-чатыры старонкі ў дзень.

*— Цяпер хочацца спытаць у вас менавіта як крытыка і літаратуразнаўца ў больш шырокім плане: што вы лічыце галоўным дасягненнем нашай літаратуры за пасляваенныя гады і што думаеце наконт таго, як ставіў пытанне ў адным з артыкулаў Алесь Адамовіч,— «а што там, далей»?*

— Галоўнае дасягненне, бадай, у тым, што мы адказалі сабе і людзям — што такое фашызм. Не адказаўшы на гэта пытанне, літаратура наша проста не магла развівацца далей. Але для гэтага мы павінны былі пераступіць нейкі псіхалагічны бар'ер. Не забывайце, што ўсе мы былі выхаваны на літаратуры высокіх гуманістычных традыцый, а ў вайне сутыкнуліся з такой бесчалавечнасцю, з такой пачварнай з'явай, што гэта не ўкладвалася ў свядомасці. Кожны з нашых пісьменнікаў — і старэйшага, і маладзейшага пакаленняў — так або іначай пісалі пра гэта і разам зрабілі ў гэтым сэнсе шмат. Наша літаратура, асабліва проза, сказала свету праўду аб фашызме.

Наша літаратура дасягнула высокага ўзроўню. Развіваецца яна нармальна. У будучыню я гляджу аптымістычна: я думаю, літаратура наша недзе накаплівае новыя якасці ў асваенні сучаснасці, сучаснай тэмы. І будзем спадзявацца, што ў наступным дзесяцігоддзі паявіцца нешта значнае. Пачацца павінна з асобных пісьменнікаў: у аднаго з'явіцца штосьці арыгінальнае, потым у другога, у трэцяга. Так узнікае нейкі новы напрамак, якасны зрух.

Але гэта не прыйдзе само сабой. І нашай пісьменніцкай арганізацыі, і грамадскасці ў цэлым трэба прыкласці больш намаганняў, весці больш мэтанакіраваную работу. Мы не

выкарыстоўваем усіх магчымасцей для асваення нашай энтээраўскай сучаснасці, таму і не заўсёды глыбока ведаем яе, значыць, не заўсёды ведаем сябе. Бо што такое літаратура? Гэта ў пэўным сэнсе самапазнанне, гэта пагляд на сябе як бы збоку. А пісьменніку, каб нешта напісаць, трэба акунуцца ў гушчыню жыцця. Дарэмна спадзявацца, што раман пра завод ці пра сяло народзіцца сам сабой — я маю на ўвазе твор глыбокі, якога мы ўсе чакаем. Трэба неяк заахвочваць пісьменнікаў, падтрымліваць, даць ім час і сродкі, каб яны маглі засяродзіцца на сучасных праблемах. Сёння нашы выдавецтвы багатыя, яны маглі б узяць на сябе нейкія выдаткі. Я сам з задавальненнем паехаў бы ў калгас — хай бы мне далі творчую камандзіроўку на якога паўгода. Каб нешта напісаць, пасядзець трэба ў вёсцы, паназіраць, адчуць пульс жыцця. А мы прыкаваны да службы, і часовыя наезды туды карысці мала даюць. Калісьці, у першыя пяцігодкі, творчыя камандзіроўкі пісьменнікаў практыкаваліся шырока, і былі вынікі. Так нарадзіліся «Брускі» Панфёрава, «Час, наперад!» Катаева, «Гідрацэнтраль» Марыэты Шагінян і іншыя выдатныя творы. У нас Платон Галавач «Спалох на загонах» — як напісаў? Яго паслаў ЦК партыі, ён прабыў у вёсцы тры месяцы ўсяго і напісаў раман.

Я думаю, каб мы ў год далі тром, чатыром, пяці пісьменнікам доўгатэрміновыя творчыя камандзіроўкі — не пабяднелі б нашы выдавецтвы. З трох бы хоць адзін нешта вартае напісаў. А мы трошкі чакаем з мора пагоды.

— *Ці згодзіцеся вы, Іван Якаўлевіч, што, нягледзячы на пэўныя арганізацыйныя цяжкасці, у нас за апошні час з'явіліся, так сказаць, першыя ластаўкі-вестуны новага ўздыму ў літаратуры?*

— Вы маеце на ўвазе раман Шамякіна «Вазьму твой боль»? Я высока цаню гэты раман Шамякіна. У сваім жанры ён зроблены добра. Хораша паказана сям'я шафёра Івана Батрака, які жыве ў перадавым саўгасе. Пазнаеш па нейкіх момантах — гэта сучаснік наш. Усё, што датычыць побыту гэтай сям'і, узаемаадносін у ёй, характараў — скажам, дачка з яе чыста інтэлігенцкімі сяганнямі; тыя старонкі, дзе паказаны саўгас, яго побыт і атмасфера, вобраз дырэктара — праўда,

ён трошкі здаля намаляваны,— гэта ўсё хораша… У цэлым Шамякін па-ранейшаму верны сабе. У апошнім яго рамане ўгадваецца гаспадарка сучасная, па-гарадскому распланаваная праца і многае іншае.

Актыўна распрацоўваюць тэму сучаснасці многія. Скажам, Анатоль Кудравец, які настойліва ўздымае маральна-этычныя праблемы… Цікава сказаў аб прыродзе, адносінах чалавека да прыроды Віктар Карамазаў у сваім рамане «Пушча». І ў Алеся Асіпенкі нядрэнны сацыяльны зрок. І Аляксей Карпюк, пра якога наша крытыка нешта забыла, пісьменнік добры… Так што першыя ластаўкі, як вы кажаце, з'яўляюцца, і яна, наша сучаснасць, агульнымі намаганнямі неяк пішацца — і ў прозе, і ў драматургіі, і ў паэзіі. Але вось з'явы... Тут можна смела сказаць, што з'явы пакуль што няма.

*— Іван Якаўлевіч, вы таксама нямала пісалі на сучасную тэму. А як думаеце надалей?*

— Часу, канечне, малавата… Калі азірнуцца на пройдзенае, то я сваю краіну дзяцінства, юнацтва, сваё мястэчка, ваенныя гады абгаварыў. Гэта ўжо напісана. Па другому разу праходзіць па тых дарогах ужо не хочацца: тут ужо дзейнічае закон першаадкрыцця. Засталіся пасляваенныя гады некранутыя, хаджэнне па калгасах… Гэта матэрыял для рамана «Раён», пра што я ўжо гаварыў. Але я жыву ў Мінску амаль трыццаць гадоў, а калі з вучобай, то і ўсе трыццаць. Значыць, я павінен расказаць пра Мінск. Ужо нешта спрабуецца — «Інтэрнат на Нямізе», тое, другое… Хочацца расказаць пра ўніверсітэт, пра гэтыя вуліцы, пра гэты інстытут — вядома, калі працаваць ужо тут не буду. Пісьменнік павінен расказаць, напісаць нешта на матэрыяле, да якога меў дачыненне. Гэта ж усё тэмы! І ведаеце, што я падумаў: якасны скачок у літаратуры нашай будзе тады, калі мы ўсе, пісьменнікі, пачнём «аглядаць» сябе ўжо гарадскіх. Калі мы прыйдзем — па-сапраўднаму — сюды, у свой горад, які стаў родным, будзе бурная ўспышка — нават у нас, пабачыце!.. І калі ў мяне дойдзе чарга да горада, можа, і я што-небудзь напішу.

*— Не магу не задаць вам пытанне як дырэктару Інстытута літаратуры: над чым працуе калектыў інстытута? Асноўныя тэмы, напрамкі даследаванняў…*

— Даследаванні ў нас вядуцца па некалькіх асноўных напрамках: гісторыя літаратуры, сучасная літаратура і яе праблемы, тэарэтычныя праблемы агульнага характару, літаратурныя ўзаемасувязі.

Важнай лічу работу, якую нядаўна закончылі,— «Сацыялістычны рэалізм. Заканамернасці развіцця беларускай літаратуры». Імкнуліся пісаць яе так, каб яна, не губляючы тэарэтычнай глыбіні, была даступна шырокаму колу чытачоў. Запланавана некалькі такіх кніг, якія разам павінны даць шырокае ўяўленне, што такое сацыялістычны рэалізм.

У друку знаходзіцца калектыўная праца «Узаемазбліжэнне і ўзаемаўзбагачэнне», у якой мы зірнулі на працэсы, што адбываюцца ў сённяшняй беларускай літаратуры з пункту гледжання таго, як уплываюць на яе іншыя сацыялістычныя літаратуры, скажам, руская, украінская. Сёлета выйдзе кніга «Беларуская літаратура ў свеце славянскіх літаратур» — пачатак серыі з некалькіх прац на гэту тэму. Наогул жа мы ўвесь час займаемся сучаснай літаратурай у самых розных аспектах. Распачата серыя «Праблемы сучаснасці» — адна манаграфія выйшла раней, хутка з'явіцца чарговая.

Вялікае значэнне надаём мы падрыхтоўцы да стварэння новай Гісторыі беларускай літаратуры. Падрыхтоўцы ў тым плане, што без асэнсавання вопыту пакалення, якое прадстаўлена, скажам, Пташнікавым, Чыгрынавым, Стральцовым, Пысіным, Бураўкіным, Барадуліным, Гілевічам, Макалём, Вярцінскім і ўсімі астатнімі, яна не можа быць напісана. Разумееце, гэта дваццаць-трыццаць апошніх, вельмі важных гадоў нашай літаратуры. І таму трэба, каб былі напісаны ці манаграфіі пра іх, ці, можа, у якой-небудзь іншай форме будзем пісаць аб прадстаўніках гэтага пакалення. Магчыма, будзем выпускаць зборнікі, у якіх будзе, скажам, па некалькі паэтаў аднаго пакалення, празаікаў… Але гэтае пакаленне, яго творчы вопыт мы асэнсуем.

Так што, я думаю, мы нешта робім. А галоўнае, шукаем — шукаем новых аспектаў, новых тэм. І гэта, паверце — таксама работа.

*1979*

# У ЗАДУМЕ: НОВЫ РАМАН

*Іван Навуменка — вядомы беларускі празаік і вучоны-літаратуразнаўца. Ён узначальвае Інстытут літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук БССР. Мы папрасілі Івана Якаўлевіча падзяліцца творчымі планамі, расказаць пра апошнія работы інстытута, пра тое, як сувязь з роднымі мясцінамі дапамагае ў творчасці.*

— Гэтая сувязь дапамагае дзейсна. Кожны пісьменнік так ці інакш расказвае пра сябе, пра людзей, якіх блізка і доўга ведае. Уражанні дзяцінства — незабыўныя, а яны, бадай, у кожнага пісьменніка звязаны з роднымі мясцінамі.

Прыязджаючы дадому, бачыш выразней, чым дзе-небудзь у іншым кутку, перамены, якія адбываюцца ў жыцці. Таму, як сказаў паэт, трэба часцей ездзіць на бацькоўскую зямлю…

Што новага выйшла ў мяне ў выдавецтвах у апошні час? Што будзе выдадзена неўзабаве?

Апошняя мая «выдавецкая» работа на беларускай мове — зборнік крытычных артыкулаў «Кніга адкрывае свет». А на рускай мове ў перакладзе выйшла аж тры кнігі: «Тополя нашей юности» ў маскоўскім выдавецтве «Художественная литература», «Замять желтолистья» — у «Советском писателе», «Последняя осень» — у «Мастацкай літаратуры». У будучым годзе з друку выйдзе зборнік «Смутак белых начэй», у які ўключаны раман з аднайменнай назвай, аповесць «Інтэрнат на Нямізе» і апавяданні.

Раман «Смутак белых начэй» — першы мой твор пра вайну,— так сказаць, «армейскую». Пісаў я яго цяжка. Можа быць, па той прычыне, што наша «франтавая» проза — і руская і беларуская — дасягнула вельмі высокага ўзроўню.

Задум многа, ды часу бракуе. Напісаў п’есу. «Паспрабаваў сябе» ў драматургічным жанры. П’еса ляжыць у чарнавым варыянце. Хачу напісаць пра пасляваенную палескую вёску. Нават назва для рамана ёсць — «Раён». Але пакуль што толькі думаю над тэмай твора, успамінаю свае карэспандэнцкія шляхі-дарогі (шэсць гадоў адпрацаваў у «Бальшавіку Палесся» — абласной газеце былой Палескай вобласці).

Інстытут літаратуры Акадэміі навук БССР, у якім вось ужо сёмы год працую, займаецца вывучэннем гісторыі, тэорыі, сучаснага стану беларускай літаратуры, а таксама яе сувязямі з іншымі літаратурамі. Кожны год інстытут выпускае 6—8 кніг па розных пытаннях беларускага літаратуразнаўства. Летась выйшла наша двухтомная «Гісторыя беларускай літаратуры» на рускай мове, разлічаная на ўсесаюзнага чытача. Яна абмяркоўвалася ў Маскве і атрымала досыць высокі водгук і ацэнку. Цікавыя, на маю думку, і іншыя працы інстытута: «Беларускае літаратуразнаўства і крытыка» М. Мушынскага, «Вытокі. Уплывы. Паскоранасць» В. Каваленкі, «Гарызонты беларускай прозы» А. Адамовіча і іншыя. Рыхтуем да выдання 10-томны збор твораў І. Мележа, 8-томны — М. Лынькова і 5-томны — З. Бядулі.

Да стагоддзя з дня нараджэння класікаў беларускай літаратуры Я. Купалы і Я. Коласа рыхтуем новыя манаграфіі.

*1979*

## ЭТО ПАМЯТЬ О ЧЕМ-ТО…

*В будущем году республиканское издательство «Мастацкая літаратура» планирует начать выпуск в свет Собрания сочинений известного белорусского прозаика и литературоведа Ивана Науменко. С писателем — наша беседа.*

*— Иван Яковлевич, собрание сочинений намечается выпустить в шести томах. Давайте «расшифруем» для наших читателей, какие произведения войдут в каждый из этих томов.*

— В первом томе будут соседствовать рассказы и повести. Рассказов много, так что, наверное, перечислять их не стоит. А повести можно назвать — их четыре: «У бары на світанні», «Мой сябар Пятрусь», «Пераломны ўзрост», «Снежань».

*— Во втором томе…*

— Второй также вобрал в себя рассказы и повести «Вайна каля Цітавай копанкі», «Замяць жаўталісця», «Развітанне ў Кавальцах».

*— Ваша трилогия — романы «Сасна пры дарозе», «Вецер у соснах», «Сорак трэці», надо думать, заняли последующие тома.*

— С небольшим уточнением: в третьем томе вместе с первым романом будет публиковаться еще повесть «Бульба», в четвертом — к роману «Вецер у соснах» присоединится мой последний по времени написания роман «Смутак белых начэй», а в пятом — рядом с романом «Сорак трэці» встанет повесть «Інтэрнат на Нямізе».

*— И в шестом…*

— Публицистика, критические статьи.

*— Когда говорят о Собрании сочинений, подразумевают: в него войдет все лучшее, созданное писателем.*

— Правильно говорят… Скажем, в мое Собрание не войдут отдельные рассказы, которые я считаю слабыми, недостаточно представительными для такого солидного издания. Или еще случай… Для критических работ отведен лишь один том, поэтому даже такие мои работы, как о Янке Купале и Якубе Коласе…

— Которые были отмечены Государственной премией БССР…

— Да… Из них я делегирую в Собрание лишь отдельные, на мой взгляд, лучшие главы, чтобы в этот же том могли войти и статьи о Кондрате Крапиве, Иване Мележе, о других белорусских писателях.

*— Возвращаетесь ли вы сейчас к своим произведениям — дорабатываете, перерабатываете?*

— Ну, тут, что называется, палка о двух концах, а то и бритва обоюдоострая. Я знаю писателей, которые в известной мере двояко относились к этому вопросу. С одной стороны — не править себя, чтобы читатель видел какую-то историю, творческую эволюцию, что ли. С другой — надо править, конечно же, самое несуразное. Скажем, свои рассказы, особенно ранние, я, понятно, не просто перелистываю, готовя их в Собрание сочинений. Идет обычная редакторская правка, убираю явные, на мой сегодняшний взгляд, казусы. И править кардинально себя того, каким я был двадцать — двадцать пять лет назад, наверное, не следует. Ведь рассказы эти напи-

саны в определенной атмосфере, с определенным душевным настроением, которое ко мне уже, естественно, невозвратимо.

*— Вы говорите только о рассказах?*

— Нет. Моя романная трилогия писалась почти четырнадцать лет — с пятьдесят девятого по семьдесят третий год. Не сразу я видел весь каркас этого большого сооружения. Сейчас кое-где, вижу, углы перекошены, не все так, как надо бы, строилось. Поэтому некоторые места пересматриваю. Перемены коснутся особенно романа «Вецер у соснах» — думаю композицию улучшить, дописать даже новые главы. Из повестей… Намерен серьезно поработать над «Бульбой».

*— Первый свой рассказ вы написали в пятьдесят пятом году. Значит, творчеству вашему нынче — двадцать пять лет.*

— В литературу я пришел из газеты. Будучи корреспондентом областной газеты «Бальшавік Палесся», что выходила в Мозыре, я объездил весь полесский край. Работая в «Звяздзе», тоже открывал, расширял свои горизонты. Газета научила меня смотреть на мир через точный факт, приучила ценить этот факт. Поэтому, если говорить о всем мною написанном, то я ничего не написал, чисто выдумывая. За всем написанным было или личное участие, или свидетельство, к чему я близко стоял, в крайнем случае, слыхал об этом, и оно прошло каким-то образом через мое сознание, через мои чувства. То есть чистым сочинителем я не был, и это — влияние газеты.

Конечно же, есть немало рассказов, которые, как когда-то говорил Янка Купала, родились из чистой фантазии. Но если брать, так сказать, генеральную линию творчества, то я всегда следовал в русле мысли Льва Толстого: книга — это память о чем-то, факт. Понятно, дальше буду писать — может быть, предстану перед читателем в какой-то новой ипостаси. Всякий писатель на своем пути постоянно ищет и считает, что лучшая его книга всегда впереди. Надеюсь на это и я.

*1980*

# АБЛІЧЧА ГАЛОЎНАГА ГЕРОЯ

*Іван Якаўлевіч Навуменка з таго пакалення, якое ў гады вайны ўзяло на свае юнацкія плечы цяжар барацьбы з ворагам, якое пасля перамогі вярнулася да родных хат, каб уздымаць з руін свой край, вучыцца, перадаць здзейсненае, запаветнае — адноўленае аблічча зямлі і яе духоўныя скарбы — нашчадкам. Былы падпольшчык, партызан, воін-франтавік праз гады стаў вядомым пісьменнікам-празаікам, вучоным, даследчыкам роднай літаратуры. Перажытае, вынесенае з агню барацьбы, з баёў і паходаў, з пасляваенных жыццёвых дарог, стала адной з тэм яго твораў.*

*Карэспандэнт «Звязды» сустрэўся з Іванам Навуменкам і папрасіў яго адказаць на некалькі пытанняў.*

*— Сёлета споўнілася 25 гадоў з часу апублікавання вашых першых твораў. Што было асноўнае ў вашай творчасці за гэты перыяд, які напрамак у сваёй пісьменніцкай працы Вы лічыце магістральным?*

— Нялёгка вось гэтак з ходу адказаць на гэта пытанне. Відаць, асноўным было жаданне выказаць тое, што добра ведаю, што, як кажуць, наспела, набалела ў душы і шукала выйсця. Мае першыя апавяданні былі сапраўды надрукаваны 25 гадоў назад. Значыць, чвэрць стагоддзя з таго часу мінула. Дзівосны то быў час. Моладзь ехала на цаліну. Быў у асноўным адбудаваны Мінск. Я працаваў тады ў часопісе «Маладосць».

Здаецца, у шостым, чэрвеньскім нумары «Маладосці» за 1955 год (тады гэта быў яшчэ тонкі часопіс) былі надрукаваны мае першыя апавяданні «Эх, махорачка…», «Сідар і Гараська». Які напрамак у маёй творчасці я лічу магістральным?

Калі шчыра прызнацца, я ў сваіх творах далёка не адыходзіў ад фактаў, падзей, якія мелі месца ў жыцці, і ад людзей, што сталі прататыпамі маіх літаратурных герояў. Вядома, гэта не азначае, што няма ў маіх кнігах фантазіі, дадумвання, творчага абагульнення. Але гэта было дадумванне, калі можна сказаць так, на рэальнай аснове. Дык вось на працягу ўсіх гэтых дваццаці пяці гадоў мне хацелася расказаць пра

людзей свайго або блізкага да майго пакаленняў, псіхалогію якіх, я лічу, ведаю няблага.

*— Як відаць, тэма вайны Вам найбольш блізкая і дарагая, бо гэта адначасова як бы і вяртанне да свайго юнацтва, да таго перыяду жыцця, калі ўсё ўспрымаецца эмацыянальна, даволі проста і, можа, нават крыху рамантычна. Пазней, з цягам часу яно асэнсоўваецца, узважваецца з пункту гледжання сталага чалавека, з вышыні пражытых гадоў, жыццёвага вопыту.*

— Так, сапраўды. Калі пачалася Вялікая Айчынная вайна, мне было шаснаццаць гадоў. Давялося быць падпольшчыкам, партызанам, на фронце паспеў павуяваць — удзельнічаў у баях на Карэльскім перашыйку, ва Усходняй Прусіі, у Польшчы, Сілезіі.

Маё юнацтва супала з вайной, вайной, як вядома, вельмі цяжкай, крывавай, жорсткай, і гэта вызначыла адну з галоўных тэм творчасці. Пра вайну напісана партызанская трылогія — раманы «Сасна пры дарозе», «Вецер у соснах», «Сорак трэці», раман «Смутак белых начэй», аповесці, апавяданні. Але зноў жа хачу падкрэсліць, што і ў творах на тэму вайны я пісаў пра людзей, псіхалогію якіх ведаў найлепш.

У вайне ўдзельнічалі многія пакаленні, яе вынес на сваіх плячах, выпакутаваў наш народ. Актыўнымі ўдзельнікамі вайны былі не толькі салдаты на фронце, у акопах, партызаны, падпольшчыкі, але і звычайныя, мірныя жыхары. Хіба нельга назваць гераічнымі паводзіны якой-небудзь вясковай жанчыны, якая хавала параненых чырвонаармейцаў, карміла партызан, а потым разам са сваімі дзецьмі гарэла ў агні, калі фашысты палілі нашу Беларусь?

Мушу прызнацца, што чым далей ідзе час, тым большая складанасць, драматургія адкрываецца мне ў падзеях вайны. Мае першыя апавяданні вызначаліся рамантычнасцю, лірызмам. Цяпер я калі б нават захацеў, не здолеў бы напісаць такіх апавяданняў. Можа, таму, што пастарэў і трохі інакш гляджу на жыццё.

*— Ваш галоўны герой у творах пра вайну. Якімі адметнымі рысамі надзелены ён, якімі пачуццямі, імкненнямі, марамі і надзеямі жыве, яго жыццёвыя сцяжыны ў мірнае жыццё?*

— Я ўжо сказаў: вайну выйграў народ. Перанёс яе на сваіх плячах калгаснік, рабочы, увогуле чалавек працы, звыклы да цяжкасцей і розных нягод. Але не ў меншай ступені творцамі нашай перамогі з'яўляюцца пакаленні маладзейшыя, якія выхоўваліся ў школах, інстытутах, тэхнікумах. Ці не з іх шэрагаў пасля розных кароткатэрміновых франтавых курсаў выходзілі лейтэнанты, танкісты, артылерысты?

Тое самае і ў партызанскай барацьбе. Падпольшчыкамі, партызанамі, камандзірамі, камісарамі партызанскіх атрадаў, брыгад у многіх выпадках станавіліся настаўнікі, вайсковыя камандзіры, старшыні калгасаў, савецкія і партыйныя работнікі, адным словам, людзі інтэлігентных прафесій, выхаваныя ва ўмовах савецкай улады. У шэрагу твораў, як, напрыклад, у аповесці «Інтэрнат на Нямізе», апавяданні «Салдаты вярнуліся», я паспрабаваў паказаць прыход гэтага героя і ў мірнае жыццё, будні яго працы, вучобы.

— *Хацелася б заглянуць на Ваш пісьмовы стол, убачыць, што новае ёсць на ім цяпер.*

— Ёсць сёе-тое на стале. Ужо цэлы год ляжыць п'еса, якая патрабуе дапрацоўкі,— яна прысвечана падпольнай і партызанскай барацьбе. Напісаў апавяданне, яно называецца «Срэбраныя мхі» і прысвечана сучаснасці. Разам з адэскім журналістам В. І. Мамантавым напісаў дакументальную аповесць пра групу ваенных разведчыкаў на чале з капітанам Ф. С. Манзіенкам, якая дзейнічала ў 1942—43 гг. на Палессі. Справа ў тым, што ў цяжкі ваенны час да гэтай групы быў прылучаны і я, і пра некаторыя бакі яе дзейнасці, як гавораць, ведаю з першых рук.

Але галоўнае — на маім стале ляжаць і некаторыя даўно напісаныя творы. За дваццаць пяць гадоў творчай работы я дайшоў да Збору твораў, які пачне выдавацца з 1981 года.

— *І апошняе. Калі ўспомнілі пра Збор вашых твораў, цікава ведаць, якое будзе гэта выданне?*

— Збор твораў будзе складацца з шасці тамоў. Выдавецтва «Мастацкая літаратура» мяркуе яго завяршыць у 1984 годзе. У выданні я мяркую змясціць усё лепшае, напісанае за час творчай работы. Першыя два тамы зоймуць апавяданні і аповесці «Вайна каля Цітавай копанкі», «У бары на світанні»,

«Развітанне ў Кавальцах», «Апошняя восень», «Замяць жаўталісцяx».

У трох наступных кнігах збору твораў будуць змешчаны раманы «Сасна пры дарозе», «Вецер у соснах», «Сорак трэці», «Смутак белых начэй», аповесці «Бульба», «Інтэрнат на Нямізе» і інш.

У сваім жыцці я аддаў нямала часу крытыцы і літаратуразнаўству. Таму апошні, шосты том выдання будзе прысвечаны гэтым галінам творчасці. Мне асабіста дарагія кнігі «Янка Купала», «Якуб Колас», якія я напісаў, таму хачу змясціць у Зборы твораў хоць асноўныя, найбольш значныя раздзелы з гэтых кніг, як і найбольш значныя свае крытычныя артыкулы.

Хачу яшчэ сказаць, што, рыхтуючы выданне Збору твораў, я збіраюся сёе-тое паправіць, перарабіць і дапоўніць. Таму кампазіцыйны будынак вымалеваўся для мяне не адразу, некаторыя раздзелы трэба расшырыць, перанесці з другога рамана ў першы, дапрацаваць, дапоўніць.

*1980*

## ШЛЯХАМ ПЕРАМОГ — ШЛЯХАМ НАБЫТКАЎ

*Напярэдадні Кастрычніка, як заўсёды, працоўныя рапартуюць аб сваіх справах. Хтосьці ўзяў павышаныя заданні, датэрмінова выканаў гадавы план, справіўся з асабістым абавязацельствам, стаўшы на перадсвяточную вахту.*

*Ну а чым, якімі справамі адметны год, што праходзіў пад знакам рашэнняў XXVI з'езда КПСС, для творчых работнікаў? Які плён прынёс ён? З такімі пытаннямі карэспандэнты «ЛіМа» звярнуліся да мастакоў, пісьменнікаў, дзеячаў культуры.*

*Наш карэспандэнт сустрэўся з вядомым пісьменнікам, акадэмікам АН БССР, дырэктарам Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы І. Я. Навуменкам.*

*— Па-першае, Іван Якаўлевіч, дазвольце павіншаваць вас са слаўным святам — 64-й гадавінай Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі!*

— Вялікае дзякуй. Сапраўды, гэта вельмі знамянальная дата. Шэсцьдзясят чатыры гады ў чалавечым жыцці — вялікі час, але для гісторыі гэта не багата. І ўсё ж за гэты адрэзак часу савецкай краінай пройдзены вялікі і пераможны шлях. Мы можам з гонарам сказаць, што здабыткі на ім грандыёзныя, поспехі нечуваныя: ад лапцей і сахі мы сягнулі ў космас, сягнулі ў вялікую навуку. Царская Расія адставала ад перадавых капіталістычных краін на дзвесце гадоў. Напрыклад, у нас, на Беларусі, не было ніводнай вышэйшай навучальнай установы, тэатра, часопіса. Сёння ж савецкая краіна самая перадавая ў свеце, нястомны змагар за мір. Шэсцьдзясят чатыры гады назад смела і мужна ўзняўшы чырвоны сцяг свабоды, яна шырокім крокам ідзе да новых перамог.

*— Гэты год праходзіць пад знакам вялікіх падзей. Я маю на ўвазе партыйны і пісьменніцкія з'езды. Якія ў вас асабістыя ўражанні ад іх?*

— XXVI з'езд КПСС — этапны ў жыцці нашага народа. На гэтым партыйным форуме камуністы краіны выпрацавалі грандыёзную праграму. Сёння яна ажыццяўляецца на ўсіх франтах, на ўсіх шляхах народнай гаспадаркі. Актыўна працуе і наш інстытут. Мы намецілі шмат новых і цікавых тэм, адна з іх — «Пісьменнік, кніга, чытач». Гэта будзе першае ў рэспубліцы сацыялагічнае даследаванне аб тым, што з мастацкай літаратуры найбольш чытаецца, карыстаецца попытам і папулярнасцю ў чытача.

Трэба адзначыць, што гэты год для нас багаты на здабыткі. Наш інстытут з нагоды свайго юбілею — 50-годдзя з дня ўтварэння — узнагароджаны ордэнам Дружбы народаў, дзевяць супрацоўнікаў за ўдзел у стварэнні двухтомнай «Гісторыі беларускай савецкай літаратуры» на рускай мове сталі лаўрэатамі Дзяржаўнай прэміі БССР.

Пісьменніцкі з'езд — справа асаблівая. Гэта быў чацвёрты ўсесаюзны з'езд, у якім я ўдзельнічаў. Мне ён вельмі спадабаўся сваім дзелавым рытмам, цікавымі ідэямі, выказанымі з трыбуны з'езда пісьменнікамі Ю. Бондаравым,

Ч. Айтматавым і інш. Добра было тое, што, акрамя пленарных пасяджэнняў, работа ішла і па камісіях. Мне давялося прымаць удзел у камісіі па крытыцы, якая разглядала такое важнае і надзённае пытанне, як літаратура ў люстры крытыкі. І гэта не выпадкова. Хутка дзесяць гадоў з дня апублікавання пастановы ЦК КПСС «Аб літаратурна-мастацкай крытыцы». За гэты час, зразумела, многа зроблена. І ўсё ж, на жаль, яшчэ ёсць у нашай крытыцы кампліментарнасць, сямейнасць, групаўшчына. А ёй жа, крытыцы, трэба быць аб'ектыўнай, яна павінна цікавіцца ўсімі звеннямі літаратурнага працэсу, нарэшце, быць больш зацікаўленай і дабрэйшай да пісьменнікаў таленавітых.

З'езд — гэта заўсёды ўзрушанне, генерацыя ідэй, на ім абагульняецца ўсё зробленае, падсумоўваюцца самыя лепшыя здабыткі. Трэба сказаць, што добра на з'ездзе была прадстаўлена і наша беларуская літаратура, аб чым яскрава сведчылі выступленні Максіма Танка і Васіля Быкава. Я лічу, што беларуская літаратура сёння знаходзіцца на ўзроўні лепшых дасягненняў шматнацыянальнай савецкай літаратуры. Мы шмат маем, нам ёсць чым ганарыцца.

— *Што з надрукаванага за апошні час вас найбольш уразіла як пісьменніка і чытача?*

— Уразіла, можа, не тое слова. Наша проза развіваецца даволі роўна. Я з задавальненнем сачу за маладымі пісьменнікамі. Парадаваўся, чытаючы апавяданні М. Воранава, М. Клебановіча, Я. Радкевіча, А. Кажадуба, У. Рубанава. З паэзіі — спадабаліся рэчы У. Някляева. Па-мойму, яны хораша ідуць у літаратуру, няхай сабе яшчэ не паспелі стварыць буйныя рэчы, але ўжо зараз, гледзячы на тое, што ў іх ёсць, хочацца верыць, што гэта будуць моцныя пісьменнікі.

— *Нашаму зацікаўленаму чытачу даўно палюбіліся мужныя, шчырыя і бескампрамісныя героі вашых твораў. Як хутка мы можам разлічваць на новую сустрэчу з імі на старонках вашых кніг?*

— Зараз я працую над буйным творам. Пэўна, гэта будзе раман пра станаўленне нашай інтэлігенцыі ў пасляваенны перыяд, пра Мінск 50-х гадоў.

Не так даўно закончыў п'есу «Птушкі між маланак». У аснове гэтага твора ляжаць падзеі 1943 года, звязаныя з вызваленнем Беларусі. Вобразна кажучы, тэма свята на нашай вуліцы. Па-ранейшаму актыўна працую ў жанры апавядання. Некаторыя з іх, як, напрыклад, апавяданне «За капустай», адрасаваны дзецям. У сааўтарстве з адэскім журналістам В. І. Мамантавым напісаў дакументальную кніжку «Капітан Стэп ідзе ў разведку». У ёй апавядаецца пра вядомага партызанскага камандзіра Ф. С. Манзіенку, дарэчы, і майго камандзіра. Ён з'яўляецца прататыпам аднаго з герояў трылогіі. Ну, і, вядома, рыхтую Збор твораў, істотна праўлю раман «Вецер у соснах». У новай рэдакцыі чытач зможа пазнаёміцца з раздзеламі, дагэтуль яму не знаёмымі.

*— І апошняе. Што вы, Іван Якаўлевіч, пажадаеце чытачам нашага штотыднёвіка?*

— З той жа, а можа, і большай увагай цікавіцца беларускай літаратурай. Яна гэтага вартая.

*1981*

## КАК ЗЕМЛЯ ПОЕТ…

Я считаю, что творчество начинается с музыки. Она звучит в сознании, как намек на гармонию или драму, которые писателю предстоит раскрыть словом. Рассказ, например, для меня начинается с определенного ритма, настроения, которые передают дух эпохи...— *так, предваряя вопросы, начал эту беседу Иван Яковлевич Науменко, автор многих романов и повестей, критик и литературовед, действительный член АН БССР, директор Института литературы имени Янки Купалы.*— Литература не должна забывать свой лирический берег. Ведь лирика разлита во всем мироздании. Так я думаю, и, хотя у меня есть по-своему «острые вещи», мне всегда было ближе творчество Тургенева, Коласа, Есенина, Паустовского…

*Речь писателя была искренней, естественной; невольно подумалось, что ведь такова и его проза, в которой*

*предельное внимание к внутреннему миру героев сочетается с проникновенным лиризмом повествования, романтизм — с тонким психологизмом.*

— Я хотел бы раскрыть внутренний мир тех юношей и девушек, чьи молодые годы были опалены войной. Это главная тема большинства моих книг. Когда начиналась Великая Отечественная, мне было шестнадцать лет. Из моего класса на фронт ушли шестнадцать человек, вернулись только четверо!

Война стала эпохой в жизни страны и народа. Оказала влияние на все последующие поколения. И мы, писатели, как непосредственные участники войны, так и те, кто видел ее детскими глазами, навсегда прикованы к этому огромному событию.

*Герои И. Науменко — представители той предвоенной молодежи, которая слушала сводки с фронтов республиканской Испании, мечтала о подвигах. Для них война явилась самым суровым и ответственным уроком мужества и стойкости. Уже в первом сборнике писателя «Семнадцатой весной», вышедшем в 1957 году, твердо обозначились основные направления творчества И. Науменко. И каждая новая книга — «Сосна при дороге», «Ветер в соснах», «Сорок третий», «Грусть белых ночей» — раскрывает все новые и новые грани юных героических судеб.*

— О себе могу определенно сказать, что все книги о войне, да и не только о войне, я написал, опираясь на пережитое, увиденное. Я был подпольщиком, партизаном, участвовал в боях на Карельском перешейке, в Польше, в Германии. Но, с другой стороны, нет ни одного произведения, списанного с натуры. Литература должна, как писал М. Горький, раскрывать химию факта, поднимаясь над ним, возвеличивая его.

*Двадцать пять лет работает И. Науменко в литературе, и все эти годы он остается верен теме «молодость и война». Последний роман, «Грусть белых ночей», с которым скоро познакомится и всесоюзный читатель,— это своеобразный «дневник молодой души». Хронологически продолжая предыдущие произведения писателя, роман раскрывает еще одну неизвестную страницу в истории Великой Отечественной войны.*

*— Читая «Грусть белых ночей», словно находишься в музее фронтового быта, где все можно увидеть, ощутить и как бы потрогать. По-разному художественно воссоздаются реалии жизни, но такое скрупулезное описание военного быта...*

— Детали увиденного и пережитого ничем не заменишь. В каждой хорошей книге о войне есть своя, фактическая, документальная основа, естественно, художественно трансформированная. Это можно сказать о книгах «Горячий снег» Ю. Бондарева, «Танки идут ромбом» А. Ананьева, «Пастух и пастушка» В. Астафьева, «Знаменосцы» О. Гончара, о произведениях И. Шамякина, В. Быкова, И. Чигринова, А. Адамовича и других. Мне же хотелось прежде всего передать именно собственное ощущение военных событий. Когда начал писать, казалось, что войну чувствую не только по годам, месяцам, но и по дням. Были месяцы Смоленска, Киева, Минска, Сталинграда. В моем восприятии все памятные даты, связанные с освобождением этих городов, имеют свои краски, запахи, свой неповторимый образ.

Сергей Калиновский — главный герой «Грусти белых ночей» — вместе со своими товарищами каждый час, каждую минуту несет тяжкое военное бремя. Ведь человек на войне чаще всего живет не как хочет, а как получается, и его личная воля иногда совсем мало значит в повороте судьбы. В этих суровых обстоятельствах он думает не столько о себе, сколько о том, чтобы с честью выполнить свой солдатский и человеческий долг. Не перестают его волновать и вечные, непреходящие ценности человеческого бытия.

Здесь очень важны подробные описания «окопного быта» — поиск провианта, рытье траншей, устройство блиндажей, воздушные бои, разведка… В этих условиях каждое невзорванное дерево, расцветший цветок, травинка становятся чудом. Такие подробности помогают читателям увидеть войну изнутри и вместе с тем представить общую панораму военных действий.

*— По-разному складываются жизненные пути ваших героев в послевоенное время: одни остаются в родных деревнях, другие становятся горожанами. Жизни героев в мирное*

*время посвящены многие ваши рассказы, повести «Замять желтолистья», «Последняя осень», «Прощание в Ковальцах». Что особенно волнует вас в их судьбах?*

— В новом романе я хочу рассказать о трудностях послевоенного восстановления, показать атмосферу 50-х годов, когда в основном уже был отстроен Минск, а бывшие молодые фронтовики ехали покорять целину.

У каждого человека есть заповедные, святые места, к которым он мысленно обращается всю жизнь. У меня таким местом был лес, начинающийся недалеко от дома, в котором родился. И каждый раз, возвращаясь в родные места, я любуюсь им. Родное селение кажется необычайно красивым: зеленый остров среди золотого ржаного разлива.

Есть среди моих героев и горожане — рабочие, инженеры, учителя... Все их помыслы, естественно, обращены и к производственным и творческим делам, и к заботам повседневной жизни. Но в человеке живет потребность соприкосновения с простым, первородным, что идет от земли, воды, травы, туч на небе, ветра... Да что там! Я сам уже тридцать лет живу в Минске, а все перед глазами стоят родные места. Люблю, как поет и пахнет земля.

У каждого из нас есть в душе этот островок детства, и исследовать его — благодарное дело. Вот наш Янка Брыль. Большая часть его произведений основана на воспоминаниях детства. При этом его лучистая, пронзительная проза являет собой такой сплав культуры, науки, истории всех времен… Все подлинные произведения о детстве, о «возвращении к истокам» — мостки в нашу современность. И классики — Тургенев, Толстой, Достоевский, и современные писатели (Мустай Карим, например, в повести «Долгое-долгое детство») исследуют этот ни с чем не сравнимый остров детства, ибо детство, юность — это собственное открытие мира.

*Затрагивая проблемы, которые волнуют его сегодня, И. Науменко-литературовед говорит о том, что у нас маловато произведений, в которых во всю мощь звучал бы очищающий народный смех.*

— Подумайте, вся наша литература очень серьезная (это и «деревенская», и производственна проза, не говоря уже о

военной). Но разве смех — это несерьезно? Ведь существуют же дед Щукарь, Василий Теркин, Остап Бендер, герои В. Шукшина и В. Белова. В национальных литературах наряду с традициями Толстого и Достоевского сильны сатирические традиции Гоголя и Чехова. Хотелось бы, чтобы они нашли достойное развитие и в новейшей литературе.

*В завершение беседы добавлю: недавно вышли две монографии И. Науменко — о Янке Купале и Якубе Коласе, на рабочем столе — готовая пьеса о городском подполье периода войны, новые рассказы о детстве, наброски нового романа. И во всех произведениях писатель верен своей теме, каждая деталь, событие, созданный им характер продолжают тот плодотворный художественный поиск, который он ведет с первых шагов в литературе.*

*1982*

## АРЫЕНЦІР У ТВОРЧЫМ ПРАЦЭСЕ

*Прайшло дзесяць гадоў з дня прыняцця Цэнтральным камітэтам КПСС пастановы «Аб літаратурна-мастацкай крытыцы». Якія змены за гэты час адбыліся ў беларускай літаратурнай крытыцы? На гэта і іншыя пытанні адказаў нашаму карэспандэнту дырэктар Інстытута літаратуры імя Я. Купалы АН БССР акадэмік Іван Якаўлевіч Навуменка.*

*— Сёння многія даследчыкі літаратурнага працэсу лічаць, што добрая крытыка — таксама літаратура. Якая, на вашу думку, роля крытыкі ў літаратурным працэсе?*

— Вялікая і адказная місія нашай літаратуры — фарміраванне духоўнага свету нашага сучасніка, актыўнага будаўніка камунізму. Таму асаблівае значэнне мае зараз прапаганда лепшых дасягненняў літаратуры. У гэтым першачарговая задача крытыкі. Менавіта яна стаіць паміж пісьменнікам і чытачом, дае ідэйныя і мастацкія ацэнкі літаратурным творам, арыентуе чытача на лепшыя ўзоры. А для гэтага крытык павінен ясна ўсведамляць сапраўдную эстэтычную каштоўнасць

твора, яго адметнасць, мець здольнасць фарміраваць думкі і пачуцці чытача. Вось чаму не суб'ектывізм, не сяброўская ці групавая прыхільнасць водзяць рукой таленавітага крытыка. Ім кіруе партыйная прынцыповасць, глыбокая ўпэўненасць у грамадзянскасці і навуковай абгрунтаванасці сваіх меркаванняў.

Не менш важная задача крытыкі — накіроўваць творчасць пісьменніка па правільным, плённым, перспектыўным для яго шляху. Крытык часам можа сказаць пра твор больш, чым вядома самому аўтару.

Яшчэ мушу дадаць, што, сапраўды, добрая крытыка — таксама літаратура. У тым сэнсе, што трэба мець талент, каб стаць крытыкам. Ім трэба нарадзіцца.

— *Якія вызначальныя тэндэнцыі заканамернасці ў развіцці літаратурнай крытыкі выявіліся за час пасля прыняцця пастановы?*

— За гэты час прыкметна ажывілася літаратурна-крытычная думка ў рэспубліцы. Прыемна адзначыць, што і вага яе ў грамадстве значна ўзрасла. Кнігі крытыкаў — не выключэнне ў выдавецкіх планах. Літаратурна-мастацкія часопісы прысуджаюць прэміі за лепшыя крытычныя матэрыялы. Чаму так узрос аўтарытэт крытыкі? Таму, што стала адметнай шырыня і глыбіня заходу і вырашэння ёю актуальных пытанняў мастацкай творчасці. Больш шырокай стала жанравая разнастайнасць крытычных выступленняў. Побач з рэцэнзіямі часцей з'яўляюцца тэарэтычныя артыкулы, агляды, у якіх падводзяцца вынікі развіцця таго ці іншага віду літаратуры за год, палепшылася бібліяграфічная работа. У цэлым прыкметна ўзрос ідэйна-тэарэтычны і прафесійны ўзровень крытыкі. Павялічылася не толькі колькасць, але і якасць крытычных матэрыялаў.

Пастанова ЦК КПСС стымулявала больш глыбокае вывучэнне праблем тэорыі і метадалогіі літаратурна-мастацкай крытыкі, накіравала ўвагу крытыкаў і літаратуразнаўцаў на даследаванне не толькі творчасці асобных пісьменнікаў, выдатных твораў, але і ўсяго сучаснага літаратурнага жыцця, саміх асноў творчага метаду нашай літаратуры, працэсаў узаемаўзбагачэння і зближэння культур сацыялістычных на-

цый. З такім падыходам вядзецца ў нашым інстытуце даследаванне на тэму «Сацыялістычны рэалізм — заканамернасць гістарычнага развіцця беларускай літаратуры». З трох запланаваных кніг выйшлі ў свет ужо дзве — «Нараджэнне новага мастацтва» і «Паэзія абнаўлення свету». Шырынёй навуковых абагульненняў вызначаюцца калектыўныя даследаванні, прысвечаныя актуальным праблемам сучаснасці,— «Беларуская літаратура і праблемы сучаснасці», «Беларуская літаратура. Дзень сённяшні». Вынікам плённай працы нашых літаратуразнаўцаў сталі выдадзеныя ў 1977 годзе на рускай мове «Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры» і «Гісторыя беларускай савецкай літаратуры». Асноўны калектыў стваральнікаў гэтай двухтомнай гісторыі адзначаны высокай узнагародай — Дзяржаўнай прэміяй БССР.

— *Раскажыце, калі ласка, пра поспехі беларускай крытычнай думкі, яе месца ў саюзным літаратурным працэсе.*

— Наша беларуская літаратура зараз — адзін з перадавых атрадаў шматнацыянальнай савецкай літаратуры. У выдавецтвах Масквы, Ленінграда штогод выдаецца 15—20 кніг беларускіх аўтараў. Сучасная беларуская проза стала прыкметнай з’явай. Пра нашу літаратуру па магчымасці пішуць рускія, украінскія, грузінскія і іншыя крытыкі. Добра прагучалі ў саюзным друку галасы беларусаў — А. Адамовіча, В. Каваленкі, М. Тычыны, А. Яскевіча, П. Дзюбайлы. На жаль, гэтымі імёнамі трэба абмежавацца. А гэтыя даследчыкі ўсё сказаць пра нашу літаратуру не могуць — у кожнага свае густы і схільнасці. Відавочна, што наша літаратура заслугоўвае большага, чым аб ёй пішуць. Мала артыкулаў, у якіх суадносіліся б нашы дасягненні з вопытам літаратур братніх народаў СССР, з літаратурамі краін сацыялістычнай садружнасці.

Не можа крытыка заставацца абыякавай і да работы літаратараў, якія перакладаюць кнігі беларускіх аўтараў на польскую, чэшскую, славацкую, балгарскую і іншыя мовы. Ці ў самых лепшых узорах прадстае наша літаратура перад замежным чытачом, якія тэндэнцыі цікавасці да беларускай кнігі за мяжой,— гэтыя і іншыя пытанні патрабуюць удумлівага і грунтоўнага даследавання.

*— Сёння таксама адзначаецца, што, як і на момант прыняцця пастановы, вялікае месца займае побач з крытыкай аналітычнай крытыка кампліментарная, якая аналізам сябе асабліва не абцяжарвае. Па якіх шляхах павінна ісці пераадоленне гэтага недахопу?*

— Кампліментаршчына сустракаецца найбольш сярод рэцэнзій, дзе часта ўсё робіцца мімаходам. У абсягі такой крытыкі трапляе кніга «сярэдняя». Сама па сабе «сярэдняя» кніга — з’ява не зусім благая. І на яе арыентуецца пэўнае кола чытачоў. Дрэнна, калі такая кніга захвальваецца, заступае дарогу добрай, запалоньвае выдавецкія планы. Пры наплыве такой літаратуры патрабавальныя да сябе мастакі іншы раз застаюцца ў пройгрышы, бо не спяшаюцца прыносіць у выдавецтва недапрацаваныя рукапісы. Не будуць мець перавагі і тыя літаратары, якія працуюць над актуальнымі праблемамі сучаснасці. Часта атрымліваецца так, што новыя кнігі таленавітых пісьменнікаў, якія закранаюць вострасучасныя праблемы, павінны стаяць у «агульнай чарзе», каб трапіць у план выдання.

Чаму ж такая жывучая кампліментарная крытыка? Адыход ад актыўнай крытычнай дзейнасці найбольш таленавітых і кваліфікаваных літаратараў і крытыкаў вызваляе месца «крытыкам», якія мяркуюць пра літаратуру, зыходзячы толькі з уласных густаў і поглядаў. Тут ёсць і элемент арганізацыйнай недапрацоўкі работнікаў рэдакцый, якія рыхтуюць такія матэрыялы да друку. Яны часта карыстаюцца тым, што само прыйдзе ў рукі. А варта было б рэцэнзіі заказваць аўтарам, якія шануюць сваё імя. Дапамаглі б у гэтай справе і кансультацыі з супрацоўнікамі нашага інстытута. Але галоўнае ўсё ж залежыць ад асобы самога крытыка, ад яго прынцыповых адносін да ідэйнага і мастацкага браку. Сапраўдная крытыка — партыйная і глыбока народная. Толькі з такіх пазіцый можна высветліць тэндэнцыі развіцця мастацкай літаратуры, зрабіць вычарпальны ідэйна-эстэтычны аналіз найбольш значных твораў.

*— У пастанове ўказвалася, што на развіццё крытыкі адмоўна ўплываюць сур’ёзныя недахопы ў пастаноўцы навукова-даследчай работы, ведамасная раз’яднанасць навуко-*

*вых і творчых кадраў, адсутнасць належнай каардынацыі ў дзейнасці навуковых устаноў.*

— Таленавітага крытыка, літаратуразнаўцу падрыхтаваць нялёгка. Ён павінен не толькі ўзбагачаць свой вопыт веданнем заканамернасцей развіцця айчыннай і сусветнай літаратуры, але і валодаць добрым эстэтычным густам, умець вобразна, даходліва выкладаць думкі, а гэта значыць — мець літаратурныя здольнасці, быць партыйна прынцыповым і грамадзянска мужным чалавекам. Бо крытыку часта даводзіцца гаварыць непрыемныя рэчы, даваць суровыя ацэнкі.

Каб ахапіць увесь сучасны літаратурны працэс, патрэбны кадры крытыкаў, грунтоўна ўзброеныя не толькі філалагічнымі, але і сацыялагічнымі ведамі. Зараз у рэспубліцы не ўсё яшчэ зроблена для таго, каб ва ўніверсітэтах, на літаратурных кафедрах педінстытутаў былі створаны неабходныя ўмовы для спецыялізацыі студэнтаў і аспірантаў у галіне крытыкі. Студэнты атрымліваюць недастаткова высокую крытычную падрыхтоўку, слаба чытаюцца курсы па крытыцы, спецкурсы, рэдка праводзяцца семінары. Не ўмеем мы яшчэ шукаць крытычныя таленты. Выяўляць здольных людзей мы пачынаем часта не на першых, а на апошніх курсах. Трэба больш настойліва шукаць такіх людзей у перыферыйных навучальных установах. А для гэтага павінны каардынаваць свае намаганні кафедры літаратуразнаўства, Інстытут літаратуры імя Янкі Купалы, Саюз пісьменнікаў. Пакуль што не ажыццёўлена таксама ідэя абмену аспірантамі паміж саюзнымі рэспублікамі.

*— Якія задачы стаяць цяпер перад літаратурнай крытыкай?*

— Добрая адзнака крытыкі — аператыўнасць. На жаль, крытыка яшчэ не заўсёды заўважае і адзначае плённасць мастацкага пошуку ў засваенні новых тэм, праблем. Здараецца, пісьменнік надрукуе апавяданне, якое ўвасабляе прыкметы часу, паэт апублікуе падборку вершаў, якія ўслаўляюць духоўнае ўзбагачэнне героя нашых дзён. Але рэдка яшчэ крытыка адклікаецца аператыўна на твор «малой формы». Чакаюць рамана, аповесці або асобнага зборніка аўтара.

Імклівы навукова-тэхнічны прагрэс у нашай краіне. Фарміруецца новы быт фабрык, заводаў, буйных калгасных і

саўгасных калектываў са сваім спецыфічным мікракліматам, сацыяльнымі і маральнымі праблемамі. Змены настаюць гэтак імкліва, што пісьменніку часам бывае цяжка даць мастацкую «прапіску» новым з'явам. І тут на дапамогу павінна прыходзіць крытыка, каб пашырыць пісьменніцкі далягляд, нацэльваць мастакоў на маштабнае абагульненне сацыяльных працэсаў. Задача сацыяльнай арыентацыі літаратуры, засяроджанне яе ўвагі на галоўных кірунках развіцця нашай рэчаіснасці вызначае змест літаратурна-мастацкай крытыкі на сучасным этапе. Стварыць яркі, незабыўны летапіс народнага жыцця — задача, якая ў аднолькавай ступені адносіцца да пісьменніка і крытыка.

*1982*

## РОЗДУМ АБ СУЧАСНАСЦІ

*Пісьменніцкія публіцыстычныя артыкулы, нарысы, пісьменніцкая праца на радыё і тэлебачанні — сведчанне паглыбленай увагі сучаснай літаратуры да паўсядзённага жыцця, да спраў нашых сучаснікаў, людзей, якія на мірным, стваральным фронце паказваюць прыклады сапраўднага працоўнага гераізму.*

*Актыўна займаецца публіцыстычнай дзейнасцю і Іван Навуменка — віцэ-прэзідэнт Акадэміі навук БССР, вядомы празаік і літаратуразнавец, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР. Напярэдадні пленума праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі, які разгледзіць стан пісьменніцкай публіцыстыкі, намеціць далейшыя перспектывы яе развіцця, наш карэспандэнт сустрэўся з пісьменнікам.*

— *Іван Якаўлевіч, чым, на вашу думку, выклікана тое, што на парадак дня пленума вынесена пытанне аб стане публіцыстыкі?*

— Публіцыстыка — гэта заўсёды роздум аб сучаснасці. Аб чым бы ні пісаў аўтар-публіцыст, ён абавязкова гаворку сваю ўвязвае з надзённымі задачамі дня. Публіцыст ідзе, як

кажуць, па гарачых слядах падзей, вышуквае тое галоўнае і важнае, што варта ўвагі не асобных людзей, а ўсіх нас. Узнімаючы надзённыя праблемы, ён прымушае задумвацца кожнага над тым, як жыць, каб быць вартым эпохі, нашага велічнага часу, каб у справах сваіх набліжацца да таго, чым жыве ўвесь народ.

Але ж гэтымі клопатамі жыве і кожны сапраўдны пісьменнік, хто адчувае сябе грамадзянінам сваёй краіны, сынам свайго часу. Значыць, публіцыстыка — гэта таксама літаратура і яна павінна стаць кроўнай справай кожнага пісьменніка. Нам абавязкова варта часцей выказвацца перад чытачом, гаварыць аб тым, што турбуе, што заклікае да роздуму. Такая споведзь, канечне, у той ці іншай меры гучыць і са старонак апавяданняў, аповесцей, раманаў (гавару аб прозе, паколькі сам празаік). Але ж напісаць празаічны твор, асабліва твор буйнога жанру, патрэбен час, а ён жа не чакае, праблемы дня, калі можна так сказаць, падганяюць творцу. Найлепшая магчымасць гаворкі з чытачом — гэта публіцыстыка. І не толькі артыкул, нарыс, але нават і своеасаблівы запіс у блакноце, зроблены калі-нікалі наспех, ён часам набывае важкае значэнне, бо важнае і характэрнае занатаваў не проста чалавек, а літаратар.

Таму публіцыстыка — гэта жывая справа, якой літаратура не можа не займацца, і, адначасова, публіцыстычная дзейнасць — своеасаблівы этап, які праходзіць, бадай, кожны аўтар, што назапасіў шмат назіранняў, уражанняў і, перш чым сесці за напісанне мастацкага твора, выходзіць на сустрэчу з чытачом праз газету ці часопіс, радыё альбо тэлебачанне.

Так што гаворка аб публіцыстыцы, аб яе задачах і праблемах, сувязі з часам, якая будзе весціся на нашым пісьменніцкім пленуме, своечасовая і, безумоўна, вартая ўвагі.

— *Ваш творчы шлях пачынаўся, па сутнасці, з газеты?*

— Спрабаваць пісаць я пачаў яшчэ школьнікам. Пачынаў з допісаў, некаторыя з якіх да вайны друкаваліся ў васілевіцкай раённай газеце «Сацыялістычная праца», а таксама ў мазырскім «Бальшавіку Палесся» і «Чырвонай змене». Пасля вайны ўжо, будучы ў Мазыры, занёс у абласную газету «Бальшавік Палесся» (Мазыр тады быў цэнтрам Пале-

скай вобласці) невялікі артыкул, у якім расказваў аб справах васілевіцкіх юнакоў і дзяўчат. Мяне прыхільна сустрэла Вольга Фёдараўна Баркоўская, якая выконвала тады абавязкі рэдактара газеты. Са снежня сорак пятага я і пачаў працаваць карэспандэнтам «Бальшавіка Палесся».

Абласной газеце аддаў шэсць гадоў. Працаваў і адначасова вучыўся завочна ў Беларускім дзяржаўным універсітэце. А ў 1951 годзе перайшоў у рэспубліканскую «Звязду», потым рэдагаваў шматтыражку «Беларускі ўніверсітэт», пяць гадоў працаваў у часопісе «Маладосць»: спачатку загадчыкам аддзела моладзі, крыху пазней загадчыкам аддзела прозы...

— *Значыць, Іван Якаўлевіч, журналісцкая работа стала для вас своеасаблівымі «ўніверсітэтамі»? Што ж дала Навуменку-празаіку газета?*

— Магу сказаць так — усё пачыналася з газеты. Журналісцкая праца вельмі шмат дала мне для вывучэння жыцця. Нямала ездзіў па вёсках, што пасля вайны толькі яшчэ пачыналі адбудоўвацца. Сустракаўся з многімі людзьмі: учарашнімі партызанамі, падпольшчыкамі, з франтавікамі. Пісаў нарысы, артыкулы, замалёўкі. І, канечне, многае запамінаў, занатоўваў у блакноты. Так што газета дала мне шмат назіранняў, дазволіла вывучыць жыццё, і гэта сёння дапамагае ў працы над празаічнымі творамі. Многае я чэрпаў, як кажуць, з першакрыніц. Не хвалюся, але ці ўсе пісьменнікі, асабліва маладыя, ведаюць сёння, што такое «райза», «МТС», «Сельгастэхніка»? А з гэтым жа даводзілася сутыкацца ледзь не штодня.

Празаік, калі піша мастацкі твор, бярэ канкрэтныя жыццёвыя рэаліі. Вось тады, калі ў цябе назапашана шмат жыццёвых назіранняў, і пачынае выплываць са своеасаблівых тайнікоў памяці найбольш важнае, тое, на што раней, магчыма, ты і не звяртаў увагі, бо яно падалося дробязным. Цяпер жа, на адлегласці часу, нават самы нязначны факт пачынае набываць вялікае значэнне.

— *Пісалі толькі артыкулы, нарысы, замалёўкі?*

— Не толькі… Газета патрабуе ад кожнага, хто працуе ў ёй, максімальнай творчай аддачы. Даводзілася і з фельетонамі выступаць, і рэцэнзіі пісаў…

*— Калі не цяжка, Іван Якаўлевіч, прыгадайце некаторыя з гэтых публікацый.*

— Фельетонаў я напісаў не так ужо і мала. Змяшчаліся яны і ў «Бальшавіку Палесся», і ў рэспубліканскай «Звяздзе». Напрыклад, у фельетоне «Спорт і бульба» — ён быў змешчаны ў газеце «Звязда» — расказваў, як дырэктар адной аўташколы праявіў, калі можна так сказаць, празмерную гаспадарлівасць і… засадзіў пляцоўку для будаўніцтва стадыёна бульбай. Ці вось яшчэ адзін з маіх фельетонаў — таксама, дарэчы, апублікаваны ў «Звяздзе». Называўся «Пчолы і трутні». Я пісаў пра кіраўнікоў тагачаснага калгаса «Парыжская камуна» Васілевіцкага раёна, якія завялі пасеку. Для падкормкі пчол было выпісана 30 кілаграмаў цукру, але калгасныя «дзеячы» цукар гэты самі з’елі, а бедныя пчолы памерлі з голаду.

А першую рэцэнзію надрукаваў у 1948 годзе ў «Бальшавіку Палесся». Разглядаў аповесць Піліпа Сямёнавіча Пестрака «Пачатак». Пазней ужо рэцэнзаваў і іншыя творы беларускіх пісьменнікаў.

*— Своеасаблівы водгалас вашай журналісцкай дзейнасці, калі можна так сказаць, знаходзім і ў некаторых вашых мастацкіх творах. Возьмем аповесць «Замяць жаўталісця». Высоцкі прыязджае ў горад свайго юнацтва і ўспамінае, цытую па тэксце твора, як «першай мірнай вясной начаваў у маленькай, размешчанай сярод пяскоў вёсачцы. Старшыня даў паснедаць, павёў паказваць набытак…» І далей у аповесці: «Між тым, цесляры прыпынілі работу, закурылі. Адзін з іх, высокі, з няголеным тварам, загаварыў:*

*— Таварыш, калі ты з газеты, то напішы вот пра што. Да вайны ў нас быў чарапічны заводзік. Немцы спалілі. Трэба адбудаваць. Няхай дадуць крэдыты, мы самі адбудуем. А то якія ў нас заработкі? Жыта вырасце, дык забяруць на пастаўку… А мы жыць хочам, зямлю любім. Калі так не зробяць, разыдуцца людзі. Тут чыгунка блізка, а заработкі там большыя…»*

— Быў такі выпадак у маёй журналісцкай практыцы. У свой час у «Бальшавіку Палесся» змясціў артыкул «У Калінкавічах не будуюць цагельныя заводы». Увогуле, паўтараю, калі пішаш той ці іншы твор, заўсёды бярэш з тайнікоў памяці нешта, што асабліва запомнілася табе.

*— Даводзіцца чуць, што газета не толькі вучыць, але і «псуе» пісьменніка. Гэтым, маўляў, можна растлумачыць той факт, што многія літаратары не толькі цураюцца журналісцкай дзейнасці, але і не хочуць пісаць для газеты.*

— Думаецца, тут нельга катэгарычна адказаць ні «так», ні «не». Каб рабіць нейкія высновы, трэба канкрэтна браць кожны выпадак. Калі ўзяць маю працу ў газеце, дык, магчыма, я крыху і «перарабіў». Магчыма, нават калі-нікалі ў творах сваіх залішне прывязваюся да факта. Магчыма, бо мысленне газетнае, у прыватнасці, і, калі глядзець шырэй, мысленне публіцыстычнае толькі напалавіну мастацкае. Яно больш навуковае…

Але правільней гаварыць не пра «шкоднасць» ці «карысць» газетнай работы пісьменніку, а пра тое, што дае яна яму як творцу. А гэта ў многім залежыць і ад самога аўтара, і ад той атмасферы, што складваецца ў рэдакцыйным калектыве. Калі яна творчая, калі ў ёй менш практыцызму, журналісцкая дзейнасць станоўча ўплывае на асобу пісьменніка, дапамагае яму ў назапашванні жыццёвых назіранняў. І, наадварот, калі, як кажуць, «заядае» цякучка, тады застаецца вельмі мала часу для сапраўднай творчасці.

У «Звяздзе» мне, напрыклад, працавалася лягчэй, у абласной газеце, безумоўна, крыху цяжэй. І ўсё ж свае журналісцкія гады я ўспамінаю з прыемнасцю, мабыць, гэтаксама да іх ставіцца кожны, каму даводзілася працаваць у газеце ці хто працуе ў ёй цяпер. Журналісцкая работа ў многім дысцыплінуе чалавека, а для пісьменніка гэта таксама немалаважна.

*— Наколькі вядома, Навуменка-празаік працуе цяпер над раманам. А над чым працуе Навуменка-публіцыст?*

— Сапраўды, пішу раман, прысвечаны інтэлігенцыі. Ёсць у мяне яшчэ чатыры ненадрукаваныя апавяданні, адно для дзяцей, прапанаваў «Бярозцы». У «Полымя» аддаў п’есу. А займацца публіцыстыкай сама служба абавязвае. Па меры магчымасці, сумяшчаю творчасць празаіка з дзейнасцю публіцыста. У сувязі з падрыхтоўкай да стагоддзя з дня нараджэння нашых песняроў Янкі Купалы і Якуба Коласа шмат пісаў пра іх творчасць. І для газет, і для часопісаў. У «Народнай асвеце» сёлета выходзіць мая новая кніга пра Якуба Коласа.

*1982*

## ИЗ РЕКИ ПО ИМЕНИ ФАКТ

СИНЕНКО. Иван Яковлевич, я слежу за вашим творчеством давно, писал о нем не однажды, и вот сейчас, когда беседую с Вами по просьбе редакции журнала «Неман», точнее — приступаю к разговору, я нахожусь в некотором затруднении — с чего начать, потому что вопросов у меня накопилось много.

Первым задам поэтому вопрос чисто читательский, что ли: с чего и когда начали Вы?

НАУМЕНКО. Поздно. Первый рассказ напечатал в тридцатилетнем возрасте. Не знаю, хорошо это или плохо.

СИНЕНКО. А более ранние опыты?

НАУМЕНКО. Во втором, кажется, классе написал стихотворение, которое осмелился прочитать матери и двоюродной сестре. Вообще охотно писал школьные сочинения, за которые меня иной раз хвалили. Заметки в газеты стал посылать в 15—16 лет, накануне войны. Поэтому, наверное, пошел работать в газету. Меня сразу взяли в областную — я там уже и печатался.

Журналистские поездки по области, затем по республике мне очень много дали в смысле знакомства с разными местами и людьми. Очерки явились преддверием рассказов. Писал я их с первого года работы в газете, но художественного там, в этих очерках, было, конечно, мало.

В газете публиковал начиная с 1946 года и стихи, фельетоны, а чуть позже и рецензии.

Все это, вместе взятое, готовило к литературной работе.

СИНЕНКО. На нашей памяти, где-то на рубеже 50—60-х годов довольно активно входило в литературу «филологическое» поколение поэтической молодежи. Не совсем точное, с привкусом академизма полуироническое определение «филологическое» критика скоро забыла. Однако многие из его представителей заявили о себе и в литературе и в науке. В 80-е годы заметен приток в литературу творческой молодежи иного склада, дадим ей не менее спорное и условное определение — «технической». Ее художественные интересы устремляются к воссозданию духовного мира нашего

современника, и в частности рабочего человека. Город с его людьми и проблемами — тема для белорусской литературы вообще малоразработанная, малоисследованная. Чего, какого слова ждете Вы от молодых?

НАУМЕНКО. К филологическому поколению писателей я не принадлежу. Кажется, никто из критиков меня не относил к нему. До университета в моем жизненном опыте была война, после которой — первые шесть лет — работал корреспондентом газеты «Большевик Полесья». Кое-что увидел и испытал в послевоенной жизни. Филология имела к ней условное касательство. Ее отзвуки можно, пожалуй, было бы обнаружить лишь в первом рассказе, который я написал еще во время работы в областной газете — то ли в 1950-м, то ли в 1951 году. Назывался он «Интернационал». Я с книжным пафосом повествовал о партизанском отряде, с пением величественного гимна шедшем на прорыв фашистской блокады. Ответственный секретарь газеты Борис Гликин (он сам писал и печатал стихи) забраковал рассказ. Рукопись потерялась. Я думаю, что там и в самом деле было много высокопарности и мало правды. Эти вещи, как известно, взаимосвязанные.

Первые лирические рассказы я написал значительно позже, когда работал в журнале «Маладосць». Поспособствовали общественная атмосфера и хороший творческий дух, который царил в коллективе редакции.

Выяснив свои отношения с «чистой» филологией, скажу теперь о научно-технической революции. Она, безусловно, во всем мире укрепила спрос на знания и деловитость. В условиях социалистической действительности в дополнение к этому возрастают и политические морально-этические требования к человеку.

Мы все более и более начинаем понимать, что образованность, даже деловитость оказываются понятиями довольно нейтральными, если они не опираются на коммунистическую сознательность и убежденность, если личные заботы не соединяются с гражданскими, общенародными, общегосударственными. На этапе сегодняшнего развития социалистического общества все более выясняется, что коммунистическая мораль, которая определяется гражданской активностью

личности, делается могущественным стимулом не только социального, но и экономического и научно-технического прогресса.

Современная белорусская литература — и в этом она верна лучшим своим традициям — посмотрела на мир глазами человека труда, и такой взгляд оказался плодотворным. Можно, значит, с площадки, которая в романах Ивана Мележа «Люди на болоте» и «Дыхание грозы» называется полесской деревней Курени, увидеть весь свет с его радостями и тревогами, приметы того, что только рождается, можно выяснить связи, соединяющие день сегодняшний с днем вчерашним и завтрашним. Современность в таком понимании — не голая злободневность, которой, к сожалению, грешат многие наши «городские» романы и повести. Они как бы лишены широты исторического взгляда и ощущения перспективы.

СИНЕНКО. Гуманистическая идея величия человека — воина и патриота, творца и созидателя — лежит в основе вашего творчества. Хронологическое время ваших художественных произведений — это большой исторический период: от первых пятилеток до сегодняшней яви, до эпохи научно-технического прогресса. Постоянно выступаете вы и как исследователь литературы. Проблемы ее развития на нынешнем этапе занимают значительное место в ваших критических статьях.

Влияет ли эпоха научно-технической революции на природу художественного мышления, природу искусства?

НАУМЕНКО. Если говорить о художественном мышлении, то нельзя сказать, что в одном произведении оно городское, в другом — деревенское и т. д. Художественному видению мира свойственна универсальность, и в первую очередь оно зависит от социальных, общественных условий жизни, моральных, этических, эстетических ценностей, характерных для данной исторической действительности. Вновь-таки морально-этические категории, эстетические идеалы характеризуются относительной устойчивостью, неизменностью, поэтому, скажем, мы и понимаем литературу древних греков, возникновение которой отграничено от нашего времени двумя и даже тремя тысячелетиями.

матэматычную мадэль планавання народнай гаспадаркі рэспублікі, абгрунтавалі сістэму паказчыкаў для вылічэння і планавання сацыяльна-эканамічнай эфектыўнасці сельскагаспадарчай вытворчасці, падрыхтавалі комплексную праграму навукова-тэхнічнага прагрэсу Беларусі да 2005 года.

У сістэме аддзялення грамадскіх навук АН БССР створан цэнтр сацыялагічных даследаванняў ідэалагічнай работы. Думаецца, што менавіта ён зоймецца даследаваннем сённяшняга грамадства і прагназіравання сацыяльных і духоўных працэсаў заўтрашняга дня.

*— Іван Якаўлевіч, сёлетні Дзень навукі знамянальны тым, што яго адзначаюць напярэдадні слаўнага свята — 40-годдзя Вялікай Перамогі.*

— Вялікая Перамога, якая мела велізарнае значэнне для лёсу ўсяго чалавецтва, дасягнута дзякуючы мудрай палітыцы Камуністычнай партыі, патрыятызму і гераізму савецкіх людзей. Савецкая навука мае самыя непасрэдныя адносіны да Перамогі. У мінулай вайне выйграла наша тэхніка, у сто разоў узмоцненая вернасцю савецкіх людзей высокім камуністычным ідэалам, іх патрыятызмам і інтэрнацыяналізмам.

І сёння, гаворачы аб сажнёвых кроках навукі, аб поспехах савецкіх вучоных у розных галінах, мы не можам не ўсведамляць, што гэта дасягнута дзякуючы Вялікай Перамозе. І абавязак вучоных — унесці свой уклад ва ўмацаванне магутнасці нашай краіны, у справу міру і прагрэсу.

*1985*

## ЗАДАЧЫ ВЫНІКАЮЦЬ З САМОГА ЖЫЦЦЯ…

УЛАДЗІМІР ГНІЛАМЁДАЎ. За сваё жыццё вам многа разоў даводзілася гутарыць са шматлікімі карэспандэнтамі, журналістамі, чытачамі, крытыкамі і літаратуразнаўцамі. Здаецца, і пытання такога няма, на якое б вам не даводзілася адказваць. Так што ў нечым мне не пазбегнуць паўтарэння. Аднак я гэтага не вельмі баюся. Тут, як у адну і тую ж раку, нельга ступіць двойчы. Усё цячэ, мяняецца, у тым ліку і мы самі.

Вечныя традыцыйныя пытанні атрымліваюць новы жыццёвы змест, новае сэнсавае напаўненне. Таму дазвольце пачаць нашу гутарку з першага, абавязковага, так сказаць, пытання, падставы для якога дае ваша шматстайная пісьменніцкая творчасць, вашы мастацкія здабыткі, прадстаўленыя шасцітомным Зборам твораў і іншымі шматлікімі публікацыямі. Давайце вернемся ў самы пачатак вашага літаратурнага і жыццёвага шляху, успомнім, як усё пачыналася, Іван Якаўлевіч, як здарылася, што вы сталі пісьменнікам.

ІВАН НАВУМЕНКА. Увогуле, думаў, што буду літаратарам, хоць і няпэўна, цьмяна. Удаваліся мне школьныя сачыненні, пераказы, рэдагаваў у школе насценгазету, рана пачаў пісаць у газету, недзе яшчэ ў восьмым класе. Мае заметкі друкавалі васілевіцкая газета «Сацыялістычная праца», мазырская абласная «Бальшавік Палесся» і нават рэспубліканская «Чырвоная змена» адну заметку маю да вайны змясціла. Але я ніколі не думаў, што літаратура стане асноўным заняткам жыцця, таму з аднолькавай ахвотай марыў паступіць у мінскі КІЖ (быў да вайны ў Мінску Камуністычны інстытут журналістыкі — скарочана КІЖ) ці які-небудзь лясны інстытут.

Смешна ўспамінаць, але рабіў нават спробу паступіць у спецыяльную школу, пасля якой выхаванцы яе працягвалі вучобу ў лётных вучылішчах. Так, як бачыце, нават лётчыкам марыў стаць. Ва ўсякім выпадку, я ніколі не думаў, што стану выкладчыкам, а тым часам палавіну свядомага жыцця прыйшлося чытаць лекцыі ва ўніверсітэце.

УЛАДЗІМІР ГНІЛАМЁДАЎ. Вядома, перажыць, нават на пачатку жыццёвага шляху, давялося даволі шмат, і, відаць, без усяго гэтага, Іван Якаўлевіч, вы не сталі б такім пісьменнікам, якім вы сёння з'яўляецеся. Жыццёвы вопыт тут мае вялікае значэнне. Калі сустракаеш у часопісе новае імя, то адразу карціць даведацца, хто ты, чым цікавы, каго, якое пакаленне прадстаўляеш, якую сацыяльную з'яву хочаш раскрыць. Пра жыццёвы вопыт даводзіцца гаварыць у дачыненні да творчасці любога пісьменніка, тым больш такога, як вы. «Усе мае творы,— прызнаваўся Гётэ,— фрагменты адной вялікай споведзі». Значная частка вашых твораў, асабліва больш ранняга перыяду, ды і пазнейшага таксама, абумоўлена асабістай

біяграфіяй. Якое месца займае яна ў вашых кнігах? Ці ёсць у вашых герояў прататыпы?

ІВАН НАВУМЕНКА. Пытанне вельмі цікавае. Біяграфія займае вялікае месца ў маіх творах, але гаварыць пра гэта трэба досыць асцярожна. Нават у самых біяграфічных творах усё адно ёсць вялікая доля выдумкі, вымыслу, фантазіі, абагульнення. Ну, напрыклад, возьмем маю трылогію «Сасна пры дарозе», «Вецер у соснах», «Сорак трэці». Мне, зрэшты, часта задаюць такое пытанне: «Міця Птах — гэта вы?» Ну, што я магу адказаць? Я адказваю звычайна, што Міцю Птаху аддаў лепшае з майго ўнутранага жыцця, з маіх парыванняў, імкненняў, жаданняў, думак. Але па лініі знешняй біяграфіі Міця Птах на мяне не вельмі падобны. Напрыклад, я ніколі не жыў у чыгуначнай будцы. Пад сасной, каля сасны. Хаця сасна такая і будка былі ў сапраўднасці. Бацька мой ніколі не быў абходчыкам, бацьку не вывозілі ў Германію, не ўцякаў ён адтуль. Не было і такой гераіні ў рэальнасці, як Сюзана, з якой Міця, калі памятаеце, кахаецца. Адным словам, сувязь прататыпа з героем ёсць, але яна вельмі апасродкаваная. Ну, калі ўзяць іншыя мае творы, у прыватнасці, апавяданні, якія лічацца ў крытыкаў біяграфічнымі, тут справа таксама даволі складаная, сувязь паміж імі і маім жыццём часцей за ўсё апасродкаваная. У частцы твораў ёсць прататыпы, у другой частці такіх прататыпаў няма. Ведаю, што моладзі падабаецца маё апавяданне «Вераніка». Пытаюць у мяне, ці была такая гераіня ў рэальнасці? Не было. Гэта чыстая фантазія. Калі гаварыць пра аповесці — «Развітанне ў Кавальцах», «Замяць жаўталісця» — у плане прататыпаў, то героі-мужчыны ў адной і другой аповесці — плён маёй мастацкай фантазіі, а вось за жанчынамі нейкія прататыпы ўгадваюцца. Відаць, як і ва ўсіх пісьменнікаў, усё гэта не так проста і не так адналінейна, як можа таму-сяму здацца.

УЛАДЗІМІР ГНІЛАМЁДАЎ. Вядома, агульнае ў кожнага мастака праяўляецца па-свойму. Галоўнае з перажытага вамі, Іван Якаўлевіч,— вы не раз пра гэта гаварылі самі,— вайна. Але пра вайну вы сталі пісаць не адразу. Тым не менш яна прысутнічала нават у самых першых вашых творах — апавяданнях. Як вопыт вайны дапамагаў вам асэнсоўваць мірнае

жыццё і яго праблемы? Вы толькі што ўспомнілі аповесці «Замяць жаўталісця», «Развітанне ў Кавальцах». Мяне яны вельмі цікавяць. Якія ўнутраныя прычыны прымусілі вас напісаць гэтыя творы?

ІВАН НАВУМЕНКА. Дазвольце адказаць спачатку на першую частку вашага пытання. Вы сказалі: галоўнае з перажытага мной — вайна. Гэта сапраўды так. І вы спыталі, як вопыт вайны дапамагаў мне асэнсоўваць мірнае жыццё. Тут зноў жа пытанне даволі складанае. З ходу на яго не адкажаш. Першыя гадоў дзесяць і я, і многія пісьменнікі, мне здаецца, думалі пра вайну мала. Чаму? Можа, таму, што вельмі ўжо была яна крывавая, жахлівая, і душэўна не хацелася вяртацца ў пекла. Цяжка тады было вяртацца.

УЛАДЗІМІР ГНІЛАМЁДАЎ. Так, гэта можна зразумець...

ІВАН НАВУМЕНКА. Чым жа вайна памагла глядзець на мірны быт наш? Відаць, у час вайны я вучыўся лепш распазнаваць людзей, адчуваць, хто чым дыхае. І, відаць, толькі ў гэтым перажытае ў вайну сутыкалася з мірнымі днямі. Убачыш чалавека мімаходам — і ўсё-такі разумееш яго, так што, відаць, нездарма адзін ваенны год у стаж залічваецца за тры гады. Там усё ішло паскорана, як гэта і бывае на вайне. Потым ужо, праз дзесяць гадоў, калі пачаў пісаць пра вайну, хацелася перш за ўсё выказаць тое, што найбольш за ўсё вярэдзіла душу. Выказаць і забыць, бо вельмі цяжка было тое насіць у душы. Вось першы адказ на ваша шматслоўнае пытанне.

Цяпер на другую частку адказ. Пра аповесці «Замяць жаўталісця», «Развітанне ў Кавальцах», і я яшчэ дабавіў бы — «У бары на світанні» (аддзяліўшы ад гэтай групы аповесць «Апошняя восень», бо я яе стаўлю ў некалькі іншыя сувязі). Дык вось я лічу, што гэтыя тры аповесці — «Замяць жаўталісця», «Развітанне ў Кавальцах» і «У бары на світанні» — народжаны як унутранымі пачуццямі, так у той жа меры і грамадскімі. Галоўнае, відаць,— мне хацелася як бы праверыць асноўныя каштоўнасці жыцця ў інтымнай сферы, у сферы кахання. Зрабіць такую спробу ў эпоху нашага імклівага, індустрыяльна-тэхнічнага развіцця. Ці не знікае, напрыклад, каханне, яго асноўныя вартасці, у наш час, насычаны тэхнікай, імклівымі зменамі? Ці не ўстарэла само

разуменне кахання, вернасці, якія свецяць праз стагоддзі? Таму я напісаў тры гэтыя аповесці, змясціўшы герояў у будні нашага жыцця, паказаўшы іх у тэмпе імклівай штодзённасці. Усе героі — людзі інтэлігентныя. Тут, дарэчы, выявілася маё жаданне прыглядзецца да нашай інтэлігенцыі. Разумееце, інтэлігенцыя вырасла. Вядома, трэба пісаць пра рабочы клас, пра сялянства. Але ж інтэлігенцыя таксама жыве. Лічу, што хаця пасля Коласа, пасля яго рамана «На ростанях» беларуская літаратура, вядома, час ад часу звяртаецца да жыцця інтэлігенцыі, але, можа быць, у наш час варта і часцей звяртацца.

А наконт аповесці «Апошняя восень», пра якую тут зайшла гаворка,— гэта ўжо другая лінія. Гэта вобраз перадваеннага юнацтва, вобраз увогуле мне дарагі, да якога я калі-небудзь яшчэ, можа быць, вярнуся. Таму што гэта маё пакаленне, і мне цікавыя нават нейкія нюансы. Як яно жыло ў трыццаць восьмым годзе, трыццаць дзявятым, саракавым? Бо і тыя гады былі насычаны вострым драматызмам — жыццёвым, гістарычным.

УЛАДЗІМІР ГНІЛАМЁДАЎ. Іван Якаўлевіч, а хто вашы настаўнікі ў літаратуры? Ці адчувалі вы чый-небудзь уплыў?

ІВАН НАВУМЕНКА. Разумееце, настаўнікаў, відаць, адразу не выбіраеш. У дзяцінстве, юнацтве я вельмі шмат чытаў, хаця гэтым, можа быць, не трэба хваліцца. Чытаў шмат. І ўвогуле, асноўныя творы і рускай класікі дзевятнаццатага стагоддзя, і савецкай літаратуры тагачаснай, і зарубежнай класікі я перачытаў. І многае мне падабалася. Цяпер ужо, пасля цвярозай развагі, я, відаць, магу назваць некалькі сваіх настаўнікаў. З беларускай літаратуры гэта найперш Якуб Колас. Колас мне падабаўся тым, што ён выпрацаваў адметны стыль апавядання, адметную манеру. Жыццё — загадка, і адналінейна, адназначна гаварыць пра жыццё (у сэнсе толькі інфармацыі) цяжка. У Коласа, звярніце ўвагу, фраза насычана эмацыянальным падтэкстам, падсветкай. І заўсёды ўгадваецца, што ў гэтай фразе ёсць не толькі тое, што пісьменнік хоча прама данесці да чытача камунікатыўным спосабам, непасрэднае значэнне слова. А яшчэ нешта, падсветленае ўсмешкай. Гэта ўжо дае нейкі другі ці нават трэці адказ на тое самае пытанне.

Гэтым мне Колас вельмі імпанаваў, таму што вазьміце любы яго твор: апавяданне, навелу, казку — усё сагрэта ўсмешкай, гумарам, розумам, філасафічным сэнсам. Гэтая манера прыцягвала да яго. Коласа я ведаю досыць добра. Нават магу па памяці цытаваць цэлыя кавалкі яго прозы. Ён мяне дзесьці ўжо вельмі прыцягваў.

З рускіх савецкіх пісьменнікаў, відаць, найбольш Шолахаў — ён на ўсіх нас уплываў. Гэта такая магутная глыба, зноў жа багацце эмацыянальнага свету, драматызм і ўсё іншае. Так што Шолахаў узвышаецца над усёй савецкай літаратурай. Узвышаецца як магутны волат, тытан-пісьменнік. З класікаў я вам назаву некалькіх. Найбольш мне падабаюцца Гогаль, Тургенеў, Горкі і Чэхаў. Можа быць, таму, што яны ўсе прадстаўнікі паэтычнай манеры пісьма.

УЛАДЗІМІР ГНІЛАМЁДАЎ. Для мяне не навіна, Іван Якаўлевіч, што вы традыцыі Коласа звязваеце з чэхаўскай манерай пісьма, але, прызнацца, гэта даволі нечакана.

ІВАН НАВУМЕНКА. Звязваю з чэхаўскай манерай. І яшчэ — з гогалеўскай. Хаця сувязь такая не адназначная. Пачытайце вы Чэхава, скажам, «Тоўсты і тонкі», «Унтэр Прышыбееў». Колас тут браў штосьці. Што? Усмешачку. Вось гэтую неадналінейнасць. А ўвогуле ён вучыўся найбольш на Гогалю. Хаця зноў жа — у Коласа вы не знойдзеце такіх выразаў: штаны шырокія, як Чорнае мора. Ці другой гогалеўскай гіпербалы: рэдкая птушка даляціць да сярэдзіны Дняпра. Але смех гогалеўскі, вось гэтую фразу, якая ніколі ў Гогаля не была нейтральнай,— з выдумкай, з падсветкай, з такой усмешкай,— Колас, канечне, вучыўся будаваць па Гогалю, і гэта бясспрэчна. Так што, калі гаварыць пра Коласа, то, з аднаго боку, і Чэхаў тут ёсць, і Гогаль, а з другога боку — яшчэ і Пушкін, Крылоў. Яшчэ ёсць і іншыя. І Кальцоў недзе ёсць у Коласе. У іх ён таксама вучыўся. Але, як правільна гаварыў Бялінскі, калі вы возьмеце ваду з ракі Волгі, то вы нідзе не ўбачыце чыстай вады, узятай, скажам, Волгай з Камы, з Акі. Так і ў пісьменніка — усё гэта перапрацоўваецца, такі сінтэз. І, як бачыце, даволі складаны. Я хачу выказаць яшчэ адну думку. Усе вялікія мастакі, пісьменнікі разумелі: жыццё — таямніца вялікая. Пісьменнікі, мастакі, ды і вучоныя, усе

разам, увесь час стараюцца разгадаць тайну жыцця, тайну чалавека, і кожнаму работы хапае. Усе яны хочуць разгадаць гэтую вялікую тайну. Тайну чалавека. Тайну жыцця.

УЛАДЗІМІР ГНІЛАМЁДАЎ. Іван Якаўлевіч, усе мы, напэўна, помнім прызнанне Льва Талстога пра тое, як нарадзілася яго славутая аповесць «Хаджы-Мурат». Ішоў дарогай і ўбачыў, як, нягледзячы ні на што, расце на ёй, трымаецца за жыццё куст дзядоўніку. Дзядоўнік падказаў Льву Талстому аповесць, вобраз Хаджы-Мурата. Што з'яўляецца асновай вашага пісьменніцкага натхнення? Думка, выпадак, здарэнне, цікавы чалавек? Ці ёсць якая заканамернасць у самім працэсе нараджэння твора?

ІВАН НАВУМЕНКА. Усё, што хочаце. Найчасцей выпадак, здарэнне. І, мушу прызнацца, таксама пейзажны малюнак, які заўсёды выклікае пэўны музыкальны настрой. Я думаю, самі вы бывалі ў лесе ці ў полі, ці ў якім-небудзь іншым месцы, і заўсёды нейкая пэўная мясціна больш падабалася, другая менш падабалася. Вот так, зрэшты, і ў мяне. Мне пейзажныя малюнкі, мясціны навеялі асабліва многа твораў. Потым я ўжо сяліў герояў сваіх у гэтыя мясціны. Яны добра ў гэтых мясцінах, дарэчы, жылі. Мне здаецца (я, можа, выкажу трошкі спрэчную думку, але яна, думка гэтая, мяне дужа цікавіць, хвалюе, і я хачу яе выказаць), мне здаецца, што літаратура ў яе першааснове не так далёка стаіць ад музыкі. Паэзія адразу нясе нейкую мелодыю, але ж і проза мае мелодыю, і проза мае ўнутраную музыку. І ў дадзеным выпадку пісьменнік тут як бы пасрэднік, медыятар. Ён недзе ў прыродзе ўбачыў, адчуў пэўны музыкальны настрой і перадаў яго ў сваім творы. Вось так, непасрэдна. Таму што, разумееце, перш за ўсё гэта музыка не нейкая старонняя, нейкая там аранжыроўка,— гэта сутнасць твора. Хачу прывесці прыклад. Як я напісаў аповесць, пра якую мы ўжо з вамі гаварылі,— «Развітанне ў Кавальцах»? Дык вось «Развітанне ў Кавальцах» навеяна прыгожай мясцінай. Гэтая мясціна знаходзіцца ў даліне Іслачы, у тым месцы, дзе дарога разгаліноўваецца на дзве — адна вядзе да Валожына, другая — да Івянца. Гэтая вельмі харошая, прыгожая вонкава даліна Іслачы проста прывабіла мяне. Я збіраў там грыбы, апенькі. Яна так прывабіла, што я падумаў: не

кепска мне было б зноў сюды вярнуцца. Зноў сюды прыйсці. Свайго ўяўнага героя, у якога прататыпа не было, я звязаў з гераіняй, прататып якой быў, і пасяліў яго — на доўгі час, яе — на кароткі ў той хаце, якую я прыгледзеў. Пасяліў, і яны там, значыць, някепска жылі. Мясціна гэтая так падабалася, што я вырашыў: не трэба мне яе выпускаць...

Далей. Чым навеяны той ці іншы твор? Адкажу. Я пісаў перш за ўсё тое, што ў душы ўжо выспела. Што адстаялася. Пісаў тое, што найлепш ведаў, адчуваў. Увогуле, пісьменнік — такая заканамернасць ёсць — павінен пісаць пра тое, што найлепш ведае. Тады ўсё-такі можа атрымацца які-небудзь поспех.

УЛАДЗІМІР ГНІЛАМЁДАЎ. І ў сувязі з папярэднім пытаннем, Іван Якаўлевіч, яшчэ адно. Творчы працэс — што вельмі выразна відаць з вашых адказаў, з вашага роздуму — рэч складаная, супярэчлівая. Я хачу запытацца: ці даводзілася вам адкладваць або кідаць пачаты твор? Ці вяртаецеся вы да ранейшых задум?

ІВАН НАВУМЕНКА. Даводзілася, і вельмі часта. Недзе і цяпер ляжыць дзясяткі два адкладзеных пачаткаў аповесцей, апавяданняў, і, відаць, ужо да некаторых з іх я наўрад ці вярнуся. Недзе яны мяне запалілі, а потым не хапіла ці душэўнага вопыту, ці па нейкай іншай прычыне я да іх астыў. Хутчэй за ўсё, можа быць, не хапіла дзесьці першапачатковага запалу мне, і выпалі творы гэтыя з поля майго зроку, зоны маёй унутранай, душэўнай цікавасці і так застылі ў сваіх накідах. У сямідзясятым годзе, гэта ўжо даўно, пятнаццаць гадоў назад, калі я быў удзельнікам дэлегацыі на сесіі Арганізацыі Аб’яднаных Нацый у Амерыцы, я пачаў накідваць свой раман «Смутак белых начэй». Гэта было ў сямідзясятым, а закончыў я раман у васьмідзясятым, праз дзесяць гадоў. Ён маленькі, толькі дзесяць аркушаў. Гэта зусім не значыць, што я кожны год пісаў па аркушу. Не! Я на доўгі час яго адклаў, чагосьці не хапала ў мяне. Хаця там пра падзеі, якія я бачыў,— пра вайну, пра баі на Ленінградскім фронце, у якіх я сам удзельнічаў, але я адклаў, чагосьці не хапала. І напісаў гэты раман, закончыў толькі недзе, бачыце, аж праз дзесяць гадоў. Гэта вось так, нейкая таямніца такая. Адно ўдаецца адразу, другое — больш марудна. З гэтым раманам было іменна так.

УЛАДЗІМІР ГНІЛАМЁДАЎ. Як вы, Іван Якаўлевіч, разумееце культуру пісьменніка? Што ўваходзіць, па-вашаму, у яго штодзённую работу? Што ён павінен ведаць? Ці ёсць магчымасць валявога павышэння мастацкага ўзроўню твораў? Захацеў — павысіў гэты ўзровень...

ІВАН НАВУМЕНКА. Ну, пытанне досыць складанае, і, відаць, зноў жа прамы, адналінейны адказ немагчымы. Я лічу, як мінімум пісьменнік павінен быць знаёмы хоць бы з асноўнымі набыткамі сусветнай літаратуры. Гэта абавязкова. Усе гэтыя вяршыні ён павінен ведаць. Вядома, было б ідэальна ці добра, каб пісьменнік цікавіўся сумежнымі відамі і родамі мастацтва, хоць бы нават адным з іх. Напрыклад, каб цікавіўся музыкай ці жывапісам, бо гэта, зрэшты, вельмі ўзбагачае мастака, кожнага пісьменніка. Ёсць рэчы, абавязковыя асабліва ў наш імклівы тэхнічны век, калі побач з творчай інтэлігенцыяй існуе вялікая, магутная інтэлігенцыя тэхнічная, прыродазнаўчая, якая можа ў параўнанні з інтэлігенцыяй творчай пераўзыходзіць яе па колькасці ў многа разоў. Таму мы не можам ігнараваць гэтыя пласты насельніцтва — мы, літаратары. Таму пісьменнік павінен чытаць і навуковую літаратуру. І, ведаеце, ён павінен усё-такі быць знаёмы з асноўнымі навуковымі ідэямі сучаснасці. З тэндэнцыямі іх развіцця. І гэтак далей. Цяжка ў наш час уявіць пісьменніка, які не ведае, што такое тэрмаядзерная рэакцыя. Ён як мінімум павінен ведаць фізіку ў аб'ёме сярэдняй школы. Або асновы геннай інжынерыі. Ён павінен ведаць, хоць трохі, што такое біялогія. Што такое бялок? Трэба такія рэчы ведаць. Пісьменнік, вядома, павінен цікавіцца філасофіяй, і, можа быць, асабліва гісторыяй. Давайце возьмем, напрыклад, пісьменнікаў, якія былі пэўным чынам самавукамі. У нас гэта быў Янка Купала. У рускай літаратуры — вялікі пралетарскі пісьменнік Максім Горкі. Дык вось наш Янка Купала, як вядома, вышэйшай навучальнай установы не канчаў. І Горкі яе не канчаў. Але і тут тая самая заканамернасць. Гэтыя двое — Горкі і Купала — былі высокаадукаванымі людзьмі. Былі інтэлігентамі ў поўным сэнсе гэтага слова. Яны вельмі многа бралі з жыцця. У іх было пражытае, убачанае. Але не меней яны бралі і з кніг, прытым самых розных. Былі

вялікімі чытальнікамі, захапляліся кнігай. Успомніце, Купала і тэатрам цікавіўся, стаяў ля калыскі нашага беларускага тэатра. І стварэннем Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, і Акадэміяй цікавіўся. Ён, вядома, шмат узяў у Пецярбургу, на курсах Чарняева, дзе выкладалі першакласныя спецыялісты. Але не меней ён, вядома, узяў з кніг, бо цікавіўся ўсім, што вакол яго, у тым ліку і навукай, і гісторыяй. Так што, відаць, магчымасці валявога павышэння мастацкага ўзроўню твораў, я думаю, не існуе. Захацеў — і павысіў. Не павысіш, канечне. Гэта мастацкі ўзровень — ён павышаецца ўсім жыццём пісьменніка, яго талентам, значнасцю, багаццем яго асобы. Па крайняй меры, калі думаць пра валявое рашэнне, яно можа быць карысным, толькі калі гадоў дзесяць пісьменнік настойліва папрацуе,— можа, тады гэта паўплывае і на яго творы.

УЛАДЗІМІР ГНІЛАМЁДАЎ. Ці адносіцеся вы да пісьменніцкай справы сёння так, як тады, калі вырашылі прысвяціць сябе літаратуры?

ІВАН НАВУМЕНКА. У кожнага перыяду жыцця свая песня. Я цяпер не напішу, каб нават захацеў, сваіх юнацкіх, рамантычных, лірычных апавяданняў, якія ўбачылі свет у пяцідзясятыя-шасцідзясятыя гады. Чаму? Ды таму, што я сам ужо не той. Вы, па-мойму, у самым пачатку нагадалі, што нельга двойчы ступіць у адну і тую раку. Так. Па-першае, сама рака мяняецца. Па-другое, мяняецца той, хто ў гэтую раку ступае. Разумееце, сталее пісьменнік. Хаця ў нечым ён і аднолькавы. Мне здаецца, можна вызначыць стыль і ўбачыць тое, што збліжае стыль ранняга Чэхава са стылем сталага Чэхава. І разам з тым усё-такі ў нейкай меры гэта розныя рэчы. Так і тут. Я ўжо ў сямідзясятыя, васьмідзясятыя гады пішу не так, як напачатку пісаў. Хоць нешта ёсць, што аб’ядноўвае гэтыя творы, але ўсё-такі нейкія новыя якасці прыйшлі. Разам з тым мне здаецца, што і тыя творы, раннія, і цяперашнія — яны ўсё-такі ствараліся і ствараюцца па законах унутранай завершанасці. Пісьменнік адчувае, у яго недзе чуццё ёсць — меры, рытму, такту, іншае чуццё. Таму адносіны да тых і да другіх былі, калі можна так сказаць, патрабавальныя. Іншая справа, што, можа быць, узровень патрабавальнасці другі.

Цяпер, відаць, гэты ўзровень патрабавальнасці вышэйшы, чым у тых апавяданнях? Там, можа быць, аўтар — гэта я пра сябе — задавальняўся ў нейкай меры першым рашэннем, а цяпер, пры большым вопыце, першае рашэнне не заўсёды задавальняе. Таму што, зрэшты, зразумела: прыйшоў жыццёвы вопыт і творчы вопыт. Усё-такі шэсцьдзясят гадоў — гэта не фунт табакі.

УЛАДЗІМІР ГНІЛАМЁДАЎ. Аднойчы, помню, Іван Якаўлевіч, вы сказалі: усё цяжэй і цяжэй пішацца. Я падумаў: як так? Набыты вопыт, майстэрства павінны аблегчыць працу пісьменніка. Ці гэта трэба разумець як пошук новых падыходаў да тэмы, творчых рашэнняў, ці — не падобна на вас — як адчуванне вычарпанасці крыніцы, матэрыялу, ці як усведамленне новых мастакоўскіх цяжкасцей?

ІВАН НАВУМЕНКА. Пытанне вы задалі і цікавае, і досыць складанае. Што датычыць мяне, то я лічу, што ў пэўнай меры ёсць вычарпанасць крыніц уражанняў, асабліва юнацкіх. А ў пісьменніка, не толькі ў мяне, найчасцей яны галоўныя. Дзе ты нарадзіўся, тыя мясціны, сцежкі... Тыя дарогі, якімі чалавек хадзіў у сваім юнацтве. Тыя людзі, якіх ён сустракаў. А ў юнацтве заўсёды людзей аб'ядноўваюць насцеж раскрытыя сэрцы і душы. Такія ўражанні для пісьменніка, любога пісьменніка, найдаражэйшыя. Вядома, яны вычарпаліся ў пэўнай меры. Мушу прызнацца, недзе трохі яшчэ засталося, але ў цэлым яны вычарпаліся. Вы вось самі гаварылі, што асноўнай падзеяй майго жыцця была вайна. Пра вайну я расказаў галоўным чынам ужо зведанае, убачанае. Хаця некаторыя кавалкі, яшчэ не расказаныя, засталіся. Я быў у Германіі. Прыйшоў туды разам з нашай арміяй у якасці пераможцы — гэта вельмі цікавы этап. Я, акрамя некалькіх дробных апавяданняў, нічога не напісаў пра гэта. У тым матэрыяле, які я ўжо выклаў у свой час і ў раманах, і ў апавяданнях, ёсць складаныя такія мясціны, па якіх варта было б яшчэ раз прайсціся. Другі заход зрабіць. Вазьміце многіх пісьменнікаў ваеннай тэмы. Яны разварочваюць, усё больш разварочваюць гэтае палатно. І мне, калі лёс падаруе яшчэ час, варта так зрабіць і спыніцца на перажываннях падпольнай барацьбы, партызанскіх гадоў. Гэта ўжо другі будзе заход. Але я такога

заходу не рабіў, гэта — мой рэзерв. Чаму трэба гэта зрабіць? Таму што многае бачыцца глыбей, чым у ранейшых творах напісана. Зрэшты, вырас жыццёвы вопыт, і ад гэтага цяжэй пісаць. Чым больш ведаеш — тым цяжэй пісаць. Таму што дзесьці ў глыбіні істоты складваецца новы стыль, новы пагляд на свет, які цалкам не прарэзаўся. Разам з тым і сілы, нават фізічнай, канечне, цяпер троху менш, чым было, ды і парадкам, мабыць, менш, чым было ў трыццаць, у сорак гадоў. Так што пішацца цяжэй, што зусім заканамерна.

УЛАДЗІМІР ГНІЛАМЁДАЎ. Іван Якаўлевіч, пісаць пра вайну, асабліва мастаку сур'ёзнаму і глыбокаму,— азначае перажываць яе зноў. Гэта, вядома, цяжка. Як сказаў рускі паэт Міхаіл Луконін: «Безумная затея нами движет, чтоб каждую строку прожить собой и самому еще при этом выжить». Апошнім часам вы пачалі пісаць п'есы. Я не думаю, што гэта выпадкова ў вашай творчай эвалюцыі. Чаму? Таму што адзнакі ўзмацнення ўнутранага драматызму відаць у вашых празаічных рэчах, апавяданнях і аповесцях, створаных у апошнія гады.

ІВАН НАВУМЕНКА. Можа, і таму. Але галоўная прычына, відаць, у тым, што ў драме я магу сказаць тое, чаго нельга сказаць прозай. Я лічу вось гэта галоўным. Драма больш публіцыстычная за прозу, у ёй лепей можна выказаць адносіны да сучаснасці, нават да філасофскіх ідэй, да таго, чым сёння нібыта напоўнена паветра. У драме, мне здаецца, можна пра гэта сказаць лепш. Вы, Уладзімір Васільевіч, тэарэтык літаратуры, я ведаю, што вы вельмі добрую працу напісалі, прысвечаную тэарэтычным аспектам сённяшняй літаратуры, і я думаю, вы разумееце гэта вельмі добра. Унутранае жыццё герояў, як самі вы пісалі, найлепш выяўляецца лірыкай і драмай. Найлепш. Канечне, і прозай таксама. Але лірыка выяўляе найтанчэйшыя пачуцці, драма — сутыкненні характараў. Дык вось пра лірыку. Я пачынаў пісаць вершы, калі працаваў карэспандэнтам. Першыя дзесяць гадоў займаўся журналістыкай і пісаў вершы. Вершы гэтыя я ў зборнік асобны не сабраў і рад, што не сабраў, таму што зборнік, на мой пагляд, быў бы вельмі кепскі. Гэты этап пройдзены. Лірыкай я, відаць, займацца не буду. Значыць,

засталася драма. Напісаў я дзве п’есы. Адна надрукавана — «Птушкі між маланак», другая яшчэ, так сказаць, у мяне. Я яе амаль закончыў, называецца «Вадзяны млын». Трошкі шкадую, што, скажам, тэатры не зацікавіліся першай драмай, яна, магчыма, кепская ў сэнсе чыста прафесійнай драматургічнай арганізацыі, сцэнічнай. Можа быць, там замнога месц дзеяння, але мне здаецца, што там ёсць характары. Ну, вядома, я магу пра сваю рэч гаварыць суб’ектыўна. Другую рэч — «Вадзяны млын» — я, думаю, лепш арганізаваў у сцэнічным сэнсе. Яна прысвечана сучаснасці. У ёй нават ёсць такі вобраз, як Мінскае метро. Дык вось, я пачаў пісаць драмы таму, што таксама хачу адказаць на такія, як па-руску гавораць, «жгучие», вельмі надзённыя пытанні сучаснасці.

УЛАДЗІМІР ГНІЛАМЁДАЎ. Выйшаў Збор вашых твораў у шасці тамах — пэўным чынам падрахунак зробленаму. Але ж увайшло туды, Іван Якаўлевіч, далёка не ўсё з напісанага. Скажыце, калі ласка, якімі крытэрыямі вы кіраваліся пры падрыхтоўцы гэтага Збору твораў?

ІВАН НАВУМЕНКА. Чым я кіраваўся? Вядома, я хацеў чытачу даць, паказаць самае лепшае, што я стварыў. Я думаю, што ў асноўным мне гэта ўдалося. Таму што калі гаварыць пра прозу, то я ў Збор твораў не ўключыў свае слабыя рэчы. Дарэчы, і новыя, самыя новыя рэчы не ўключыў. Я лічыў, што будзе нейкі новы зборнік, і цяпер з гэтых новых рэчаў таксама набраўся б цэлы том, улічваючы мой раман «Летуценнік»; вось ужо фактычна два зборнікі апавяданняў, якія я напісаў. У прозе, я лічу, прадставіў сябе някепска. Не ўключыў я зусім публіцыстыкі — нарысаў, хаця сярод іх ёсць і вельмі някепскія. Я, як журналіст, займаўся нарысамі, некаторыя нават у маскоўскіх альманахах друкаваліся. Але я не ўключыў ніводнага. Найбольш не пашанцавала, вядома, працам па крытыцы і літаратуразнаўству. Нават прац «Янка Купала» і «Якуб Колас», за якія я атрымаў Дзяржаўную прэмію, у шасцітомніку няма. Там ёсць толькі артыкулы пра Купалу і Коласа, якія ў свой час друкаваліся ў часопісах, яны жылі самастойным жыццём, і я палічыў патрэбным іх уключыць. Яны былі ўжо нейкім чынам вядомыя чытачу. Так што з маёй крытычнай і літаратуразнаўчай дзейнасці, відаць, толькі

чацвёртая частка ўвайшла ў апошні, шосты том Збору твораў, які я прысвяціў літаратурнай крытыцы. Але і то добра, я лічу. Усё-такі я прадставіў дзесьці амаль трыццаць гадоў сваёй творчай дзейнасці даволі поўна. Недзе ў гэтым годзе выйдзе раман «Летуценнік». Відаць, яшчэ пазней я выдам зборнік апавяданняў, якіх больш дзясятка назбіралася. А так усё астатняе збольшага ёсць, і я ўдзячны выдавецтву «Мастацкая літаратура», якое ў такім выглядзе мяне прадставіла.

УЛАДЗІМІР ГНІЛАМЁДАЎ. Іван Якаўлевіч, вы не толькі пісьменнік, але вядомы і як бібліяфіл, збіральнік кніг, іх нястомны, я сказаў бы, чытач. Які зараз круг вашага чытання? Што вы чыталі на гэтым тыдні, скажам, у гэтым месяцы, у гэтым годзе? Ці дапамагае чытанне творчаму працэсу?

ІВАН НАВУМЕНКА. Я ўвогуле люблю кнігі, люблю з самага ранняга дзяцінства. Як толькі навучыўся чытаць, так і пачаў ганяцца за кнігамі. І люблю іх збіраць. Зрэшты, не хачу хваліцца, але маю багатую і ў нейкай меры нават арыгінальную бібліятэку. У чым яе арыгінальнасць? Прывяду адзін толькі прыклад. Я вельмі люблю аповесць Якуба Коласа «Дрыгва» і сабраў усе выданні «Дрыгвы», якія толькі існуюць на рускай і беларускай мове. Усе пяць выданняў даваенных, бібліяграфічная рэдкасць. Рарытэты, як гавораць аматары. Усе гэтыя рарытэты ў мяне ёсць. Ад першай кнігі «Дрыгва» да апошняй. Дарэчы, у свой час — «Дрыгва» выйшла ў трыццаць трэцім годзе, мне тады было восем гадоў — недзе доўга ў дзіцячыя гады я ганяўся за «Дрыгвою». У нас у школе, у нашым мястэчку немагчыма было дастаць гэтую кнігу. Адзін раз прыйшоў я ў бібліятэку, убачыў стосік — гэта было трэцяе выданне «Дрыгвы» — убачыў стосік гэтых кніг, але бібліятэкарша не давала, тады я выхапіў гэтую «Дрыгву», уцёк, а к вечару прынёс у бібліятэку. Можа, з таго часу было ў мяне жаданне мець гэтую «Дрыгву», і я, як ні цяжка было, усе экзэмпляры яе пазбіраў. Дарэчы, я збіраюся нават напісаць пра стыль «Дрыгвы». У гэтым годзе часопіс «Полымя» артыкул мне заказаў.

Што я чытаю самым апошнім часам? За апошні год я як бы нанава адкрыў для сябе Гогаля. Не здзіўляйцеся, я яго перачытаў усяго. Нават той няўдалы, так сказаць, як лічыцца,

другі том «Мёртвых душ». Там таксама ёсць выдатныя дыяменты, жамчужыны стылю. Гогаль ёсць Гогаль, усюды! Я яшчэ больш пераканаўся, які гэта геніяльны пісьменнік. Як многа ён даў літаратуры. Як адмыслова, адметна глядзеў на свет. З зарубежных літаратараў я перачытваю цяпер Ліёна Фейхтвангера. У прыватнасці, яго трылогію пра старажытнарымскага гісторыка Іосіфа Флавія. Я цікаўлюся таксама і навуковай літаратурай, асабліва той, якая прысвечана параўнаннем моў, параўнальнай лінгвістыцы. Вось цяпер я чытаю Мюлера — «Сравнительную мифологию». Кніга выйшла яшчэ ў 1863 годзе ў Пецярбургу. Самой кнігі ў нас няма, прыслалі нам такі мікрафільмік, і я яго чытаю. Праўда, вельмі заняты, але маю намер скончыць чытанне «Сравнительной мифологии». Вельмі цікавая кніга сваімі ідэямі. Думаю, што чытанне ўвогуле дапамагае мне і іншым пісьменнікам у тым сэнсе, што яно дае імпульс, зарадку, штуршок. Раптам, скажам, чытаеш вялікага, славутага пісьменніка і знаходзіш думку, якая ў цябе самога ўзнікла. Ад гэтага радасна. Значыць, ты нібыта таксама не апошняя спіца ў коле. І вось гэта дае штуршок — а чаму б і мне не паспрабаваць развіваць гэтую думку, бо яна ж у мяне таксама ўзнікла. Вось у гэтым сэнсе, апроч таго, што чытанне дае, вядома, культуру, кругагляд пашырае,— яно можа паслужыць проста (кніга другога пісьменніка), можа паслужыць штуршком для напісання ўласнай кнігі. У гэтым сэнсе чытанне дапамагае творчаму працэсу.

УЛАДЗІМІР ГНІЛАМЁДАЎ. Іван Якаўлевіч, як вы ставіцеся да крытыкі? Ці чытаеце вы крытычныя артыкулы? Ці даюць яны вам што-небудзь?

ІВАН НАВУМЕНКА. З ахвотай чытаю літаратуразнаўчыя і крытычныя кнігі, бо і я сам, зрэшты, крытык і літаратуразнаўца. І лічу, што гэта трэба чытаць, і люблю крытыку і літаратуразнаўства. Таму што гэта асобны від літаратуры. Цікавы, сінтэтычны. Шмат трэба ведаць крытыку, каб прыйсці да нейкіх высноў пра таго ці іншага пісьменніка ці пра літаратуразнаўчы працэс. І, зрэшты, трэба, каб усе пісьменнікі чыталі сур'ёзныя фундаментальныя працы пра літаратуру, пра крытыку, шмат бы там сабе ўзялі. Вось я з ахвотай, напрыклад, перачытаў два апошнія тамы «Гісторыі рускай

літаратуры», якая выйшла ў чатырох тамах. Асабліва тамы, прысвечаныя рускай літаратуры другой паловы дзевятнаццатага стагоддзя і пачатку нашага стагоддзя. Там столькі пісьменнікаў, якіх мы амаль не ведалі! Скажам, Гарын-Міхайлоўскі. Ці шмат мы ведалі пра такога? Ды і пра маладога Чэхава, пра пісьменнікаў-народнікаў: Засадзімскага, Златаўрацкага? Я ўніверсітэт скончыў, але пра гэтых пісьменнікаў ведаў мала — яны «не праграмныя». Нам ва ўніверсітэце не расказвалі пра гэтых пісьменнікаў. Або два тамы выйшлі «Гісторыі сусветнай літаратуры». Выдатная рэч! Трэба з гэтымі працамі знаёміцца. Гэтыя працы даюць мне як пісьменніку шмат. Вельмі шмат! Да крытыкі і літаратуразнаўства пісьменніку трэба ставіцца прыязна, уважліва.

УЛАДЗІМІР ГНІЛАМЁДАЎ. Іван Якаўлевіч, а як вы адносіцеся да крытычных заўваг?

ІВАН НАВУМЕНКА. Я хваравіта іх не перажываю, калі дзесьці адчуваю сваю правату. У свой час мяне даволі часта папракалі за юнацкія апавяданні, маўляў, адно і тое піша, адно і тое. Я не лічыў, што адно і тое пішу. Я лічыў, што перадваеннае пакаленне савецкіх юнакоў-рыцараў заслугоўвае таго, каб пра яго пісаць і пісаць. Гэта было нешта ўнікальнае ў нашым жыцці. Я ніколькі не дакараю сябе за тое, што, можа быць, я ў чымсьці паўтараўся ў апавяданнях, а потым перанёс падобныя сітуацыі ў раман.

У пісьменніка бывае ўнутранае адчуванне незавершанасці, дапушчаных нейкіх уласных слабасцей. У гэтым выпадку, калі крытычныя заўвагі супадаюць, хоць нават цьмяна, аддалена супадаюць з унутранай незадаволенасцю, тады я прымаю гэтыя заўвагі. Нават стараюся творы гэтыя перапрацаваць. Вось мяне папракалі, што «Вецер у соснах» — раман другі — расцягнуты, трошкі выпадае. Я, што мог, паправіў ужо, яшчэ папраўлю. Так што, бачыце, у пэўнай меры ўлічваю крытычныя заўвагі, калі гэта супадае з тым, што я сам думаю.

УЛАДЗІМІР ГНІЛАМЁДАЎ. Іван Якаўлевіч, якія, на вашу думку, задачы стаяць сёння перад літаратурай? Што вы чакаеце ад новых пакаленняў маладых пісьменнікаў?

ІВАН НАВУМЕНКА. Задачы заўсёды вынікаюць з самога жыцця. Уявіце сабе, што яно такое — сённяшняе наша жыц-

цё. Усё жыццё, і гарадское, і сельскае, імкліва развіваецца ў індустрыяльным напрамку. Я нядаўна вярнуўся з сустрэч з выбаршчыкамі. Сустрэчы былі ў Мазыры. Мазыр — гэта горад маёй маладосці, майго юнацтва. Першыя шэсць пасляваенных гадоў я працаваў у абласной газеце «Бальшавік Палесся». І ведаў Мазыр някепска. Цяпер жа я не пазнаў Мазыра. Вядома, троху захаваліся старыя вулкі. Як і раней, ён стаіць на сямі пагорках, нібы старажытны Рым. Хвалюе маё сэрца Прыпяць. Але Мазыр — іншы. Там магутны нафтаперапрацоўчы завод, магутная ЦЭЦ, маса заводаў, фабрык, якіх я не ведаў, фабрыка трыкатажу, індывідуальнага пашыву. І людзі выраслі. Не той мазыранін, якім ён быў трыццаць гадоў назад. Дык вось, каб лёс мне падараваў нейкі час для творчай работы, я, можа быць, пастараўся б і пра гэты новы Мазыр расказаць. Але, відаць, лепш за ўсё пра яго раскажуць маладыя пакаленні пісьменнікаў, якія гэтае жыццё бачаць.

Пасля вайны прайшоў час, выраслі два пакаленні, калі лічыць, што кожнае новае пакаленне з'яўляецца праз дваццаць год. Адбыліся змены ў жыцці, не толькі знешнія, але і ўнутраныя — таму што мы не тыя рускія і не тыя беларусы, якімі былі да сямнаццатага года, якімі былі ў сорак пятым годзе, калі скончылася вайна, мы іншыя — нажыты новы душэўны вопыт! Перш за ўсё маладыя пакаленні пісьменнікаў павінны расказваць пра тыя духоўныя, маральныя змены. Няхай раскажуць! Карацей, пісьменнік піша пра свой час. І маладое пакаленне сучаснікаў ніхто ў гэтым сэнсе не заменіць. Толькі само яно павінна расказаць пра сябе, пра свой час.

Некаторыя маладыя пісьменнікі, якія не бачылі вайны нават дзіцячымі вачамі, пішуць пра вайну. Няхай пішуць. Айчынная вайна была падзеяй эпахальнай, закранула лёсы многіх пакаленняў, нават тых, якія ў вайну яшчэ не нарадзіліся.

Леў Талстой, як вядома, таксама не ўдзельнічаў у Айчыннай вайне 1812 года, нарадзіўся толькі праз 16 гадоў пасля гэтай памятнай гістарычнай даты, але, тым не меней, напісаў «Вайну і мір».

Прыгадваць Льва Талстога ў нашым выпадку наўрад ці варта. Ды і ўдзельнічаў вялікі пісьменнік у якасці баявога

афіцэра ў пазнейшай, Крымскай вайне і свой вопыт пры напісанні «Вайны і міру», вядома, выкарыстаў.

Гутарка ідзе пра тое, што пры наяўнасці жывых удзельнікаў вайны, у тым ліку пісьменнікаў, некаторыя крытыкі залішне пачынаюць расхвальваць творы пачаткоўцаў, якія вайны не бачылі, не ведаюць яе і ствараюць белетрыстыку, досыць далёкую ад гістарычнай праўды.

Што тут можна сказаць? Беларуская літаратура ў гэтым сэнсе ўжо мае свой горкі вопыт. У час Вялікай Айчыннай вайны, напрыклад, нашы прызнаныя, выдатныя пісьменнікі пісалі на тэму партызанскай барацьбы, якой не бачылі, апавяданні, паэмы, пачаткі раманаў. Што з тых твораў засталося ў жывым актыве літаратуры? На жаль, вельмі нямногае.

Я лічу, што наша літаратура бярэ ўжо новыя вышыні, новы разгон. Ёсць і ў маладой літаратуры добрыя, нават выдатныя імёны. Так ці іначай, але будучыня нашай літаратуры залежыць ад маладых пісьменнікаў.

УЛАДЗІМІР ГНІЛАМЁДАЎ. Іван Якаўлевіч, я хачу сказаць вам вялікае дзякуй за гаворку, за вельмі змястоўныя адказы на ўсе мае пытанні. І карыстаюся выпадкам, каб пажадаць вам новых творчых поспехаў і ўсяго, ад чаго гэтыя поспехі звычайна залежаць,— здароўя, шчасця, добрага настрою.

*1985*

## «ЧАС АБУДЖАЕ ДУМКУ ТВОРЦАЎ»

*Творчасць Івана Навуменкі займае адметнае месца ў беларускай літаратуры. Яго кнігі добра вядомы чытачам не толькі ў рэспубліцы, але і далёка за яе межамі. На мастакоўскім рахунку аднаго з вядучых беларускіх літаратараў — дзясяткі твораў. Сярод іх — зборнікі апавяданняў, аповесці, трылогія, у якую ўвайшлі раманы «Сасна пры дарозе», «Вецер у соснах», «Сорак трэці», а таксама раманы «Смутак белых начэй», «Летуценнік», шматлікія літаратурна-крытычныя артыкулы, манаграфічныя даследаванні «Янка Купала. Духоўны воблік героя» і «Якуб Колас. Духоўны воблік героя».*

*І. Навуменка займаецца актыўнай навуковай і грамадскай дзейнасцю. Ён — акадэмік АН БССР, віцэ-прэзідэнт Акадэміі навук БССР, старшыня Вярхоўнага Савета БССР. Як кожны сапраўдны творца, І. Навуменка пытанні развіцця літаратуры звязвае з жыццём. Цяпер, калі ў краіне ўзяты курс на паскарэнне ва ўсіх галінах жыцця, пісьменнік думае аб дні заўтрашнім, жыве новымі планамі.*

*З лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі БССР і прэміі Ленінскага камсамола Беларусі І. Навуменкам гутарыць наш карэспандэнт.*

*— Пісьменнік расказвае пра свой час... Гэта — аксіёма. Але цяпер, калі прыняты гістарычныя рашэнні XXVII з'езда КПСС, вызначэнне гэтае набывае асаблівы сэнс. Што, на вашу думку, Іван Якаўлевіч, павінна ў бліжэйшы час зацікавіць літаратуру, прыцягнуць увагу старэйшых і маладзейшых пісьменнікаў? Па сутнасці, час ставіць своеасаблівы сацыяльны заказ, ад якога не мае права адмаўляцца сапраўдны літаратар. На гэтым, пэўна, будзе засяроджана ўвага і на з'ездзе пісьменнікаў рэспублікі...*

— Сапраўды, кожны пісьменнік жыве ў сваім часе. Маё пакаленне прыйшло ў літаратуру недзе ў сярэдзіне пяцідзясятых гадоў, і мы былі «валадарамі» думак і пачуццяў сваіх чытачоў — у пэўным сэнсе гэтага слова,— відаць, гадоў дзесяць-пятнаццаць. Потым нам на змену прыйшлі іншыя. Паняцце пакалення звязана з тым перыядам, калі пісьменнік востра адчувае свой час. Усе мы жылі ў палоне ўбачанага ці зведанага ў час вайны.

Сёння час, калі адбыўся XXVII з'езд нашай партыі, які вельмі востра, праўдзіва, пераканальна паставіў усе праблемы нашага жыцця, абуджае думку творцаў. Па сутнасці, партыяй сказана тое, што мы самі адчувалі ці прадчувалі. Толькі, магчыма, не так ясна, як гэта сказана на з'ездзе. Пісьменнікі не могуць не звяртацца ў сваёй творчасці да гэтых праблем, і абавязкова з'явяцца творы, у якіх яны будуць закрануты ва ўсёй вастрыні.

Нядаўна я закончыў вялікае апавяданне — недзе старонак трыццаць восем — «Якая доўгая вайна», якое будзе друка-

ваццa ў «Маладосці». Поруч з іншымі пытаннямі задумаўся, а ў чым жа вытокі п'янства, якое ўзяло ў палон некаторых людзей. Можа, упершыню для сябе так прама задумаўся…

Працуючы ў акадэміі, не магу не бачыць, што некаторыя інстытуты ў пэўным сэнсе адарваны ад вытворчасці. Ды і вытворчасць у многім адарвана ад навукі. З'езд «ударыў» па кансерватызме мыслення, па застоі, па нейкай нерухомасці, якая бывае — не ўсюды, вядома, але бывае.

Зразумела, многія навуковыя калектывы працуюць паспяхова, але сама актыўнасць спадае ад таго, што шмат з вынайдзенага імі старэе маральна, пакуль укараняецца. Такое назіраецца і ў сельскай гаспадарцы, і ў навукова-вучэбным працэсе. Ды і ў пісьменніцкай гаспадарцы дае аб сабе знаць гэтая хвароба страху перад новым. Правільна адзначалася на з'ездзе, што часта літаратары слаба ведаюць жыццё працоўных калектываў, рэдка бываюць у іх.

Раней праводзіліся дэкады беларускай літаратуры ў іншых саюзных рэспубліках, Маскве, Ленінградзе, цяпер чамусьці мы пра гэта забылі. Правільна гавораць рабочыя, што пісьменнік павінен паказацца перад сваім чытачом. Гэта ж свята. Я па сённяшні дзень не магу забыць паездку ў 1966 годзе ва Узбекістан, калі праходзіла Дэкада беларускай літаратуры. Цяпер арганізоўваюцца Дні літаратуры, калі ў творчую групу ўваходзіць па адным літаратары ледзь не з кожнай саюзнай рэспублікі. Раней жа дэкада — гэта прадстаўленне сваёй літаратуры, мастацтва, культуры ў іншай рэспубліцы, паказ таго, чаго мы дасягнулі. Ці ад ленасці, ці па нейкай іншай прычыне, але дэкады перасталі праводзіцца.

Ніколі не забуду, як праходзіла перадваенная Дэкада беларускага мастацтва ў 1940 годзе ў Маскве. Тады я быў падлеткам, хлапчуком, але якім святам здавалася гэтая дэкада і для нас, ды і, мабыць, для масквічоў. Памятаю выпадак, пра які неяк вычытаў, а потым, працуючы ва ўніверсітэце, заўсёды расказваў студэнтам. Адзін лейтэнант — ён служыў недзе на Далёкім Усходзе — марыў, калі будзе ў Маскве, абавязкова пабываць у тэатры. Купіў білет на спектакль па п'есе Кандрата Крапівы ў пастаноўцы тэатра імя Янкі Купалы. Пры ўваходзе ў залу даведаўся, што спектакль будзе ісці на

беларускай мове. Вельмі засмуціўся — беларускай жа мовы не ведае. Але білецёрка, як кажуць, пайшла насустрач. Маўляў, паглядзіце крыху, а калі не спадабаецца, забяром у вас білет і грошы вернем. Да самага канца лейтэнант з залы так і не выйшаў, а пасля яшчэ дзякаваў: «Я ўсё зразумеў. Адчуў сустрэчу з сапраўдным мастацтвам».

Мастацтва, літаратуру трэба прапагандаваць умела, мэтанакіравана. Будзе добра, калі пісьменнікі часцей пачнуць выязджаць у калгасы, прытым выязджаць вялікімі творчымі групамі, будуць браць шэфства. І не толькі над асобнымі калектывамі, як гэта практыкуецца цяпер, а і над абласцямі. Гэта актывізуе грамадскае жыццё творчага саюза рэспублікі, якое ў многім застыла.

Канечне, не трэба чакаць, што адразу пасля падобнай паездкі ці шэфскай сустрэчы пісьменнік сядзе і «выдасць» раман. Але ўражанні аб убачаным спатрэбяцца. Трэба аднавіць і практыку сацыяльных заказаў. Успомнім гады першых пяцігодак, калі ўзніклі такія творы, як «Узнятая цаліна» М. Шолахава, «Брускі» Ф. Панфёрава, «Час, наперад!» В. Катаева, у беларускай літаратуры — «Спалох на загонах» П. Галавача, «Над ракою Арэсай» Я. Купалы. Можна нагадаць і іншыя. Гэта былі творы так званага сацыяльнага заказу.

Праўда, паняцце сацыяльны заказ нельга, ды і не трэба разумець просталінейна. Па заказе «Рэвізора», вядома, не напішаш. Але нельга не ўспомніць цікавую думку, выказаную Уладзімірам Ільічом Леніным у час гутаркі з Кларай Цэткін. Пісьменнік — асоба творчая, самастойная, гаварыў Ільіч, ён піша адпаведна свайму светаразуменню, уяўленню пра ідэал, але мы бальшавікі і мы павінны свядома і мэтанакіравана фарміраваць літаратурны працэс. «Фарміраваць літаратурны працэс», на маю думку,— значыць стварыць адпаведныя ўмовы для творчай працы пісьменніка.

Не варта забываць, што кожны пісьменнік — па сутнасці своеасаблівы ўпаўнаважаны свайго раёна. Бадай, адзін Віктар Казько — наколькі я ведаю — мае на Палессі хаціну, дзе можа жыць месяцамі, вывучаючы жыццё. Было б добра, каб раённае кіраўніцтва паклапацілася аб дапамозе сваім землякам-літаратарам у стварэнні адпаведных умоў для творчасці, каб

быў нейкі сталы куток, дзе можна было б пажыць некалькі месяцаў на радзіме.

Я, напрыклад, увесь час чэрпаю натхненне з родных мне Васілевіч. Пасля кожнай паездкі нешта прывожу. Ці апавяданне, ці задуму іншага твора. І гэта не выпадкова, бо добра ведаю там жыццё, змены, якія адбываюцца. Трэба аднавіць і практыку творчых камандзіровак, каб пісьменнік мог паехаць у тую мясцовасць, дзе ён нарадзіўся. Цяпер гэтым правам карыстаюцца толькі тыя, хто больш прабіўны, але ж такія паездкі асабліва неабходны аўтару сталаму, творча вопытнаму.

На жаль, Саюз пісьменнікаў рэспублікі гэтымі пытаннямі мала займаецца. Збяромся, пагаворым, а потым кожны, як кажуць, у сваю ракавіну. А што можа напісаць аўтар, які гадамі ходзіць толькі мінскімі вуліцамі, у лепшым выпадку зазірае ў магазіны. Вось і ўсё веданне жыцця. Для паэта, магчыма, гэтага і хапае, але празаік павінен адчуваць паўнату жыцця, яго шматграннае выяўленне, бытавую плынь. Над гэтымі пытаннямі і павінен будзе падумаць новы склад кіраўніцтва творчага саюза.

— *А над чым вы цяпер працуеце?*

— Нядаўна выйшаў мой раман «Летуценнік». Ён друкаваўся ў «Полымі», а цяпер выдадзены і кнігай. Пакуль што раман крытыкай незаўважаны. Разумею, некаторую катэгорыю чытачоў я пакрыўдзіў, хоць, вядома, не кідаю камень ва ўвесь жаночы агарод. Раман «Асеннія мелодыі» ў пэўнай ступені як бы працяг «Летуценніка».

Некалькі зыходных момантаў у сувязі з гэтымі творамі. Мы часам забываем, што мы ўжо далёка не тыя беларусы, якімі былі, скажам, пяцьдзясят гадоў назад. І беларусы, як і іншыя нацыі краіны, сталі народам адукаваным, інтэлігентным. Чаму моладзь на злом галавы ляціць у горад? Справа нават не ў тым — ёсць у вёсцы клуб ці яго няма. Трэба, каб тыя духоўныя запатрабаванні, якія з'явіліся ў юнака ці дзяўчыны, знаходзілі сваё адпаведнае задавальненне.

Але гэтая інтэлігентнасць, вытанчанасць прынесла і свае праблемы, нават у каханні… Здавалася б, цяпер мы не абцяжараны меркантыльнымі разлікамі. Жэняцца нібыта па каханні, па сімпатыях. Але кожная трэцяя ці чацвёртая сям'я распа-

даецца. Аказваецца, шмат якія рэчы мы занядбалі. Вядома, сямейны саюз не пазбаўлены супярэчнасцей, цяжкасцей — кватэрнае пытанне і г. д. Але пэўную частку маладых людзей мы выхавалі так, што псіхалогія — палажы і дай на сподку — пераважае. Нежаданне працаваць, нейкая інфантыльнасць да позняга часу — у значнай ступені выдаткі таго, што мы сталі інтэлігентнымі. Узраслі запатрабаванні, а аддачы паменшала. Залішне шмат ва ўзаемаадносінах матэрыялізму замест харошага ідэалізму.

У рамане «Летуценнік» мне хацелася сказаць, што ёсць нейкія запаветныя, святыя пачуцці, каханне… І калі ёсць шлюб, у якім адзін бок любіць, а другі не любіць, трэба знаходзіць нейкае выйсце. Шанаваць хоць гэтае аднабаковае каханне. У новым рамане я таксама закранаю гэтыя пытанні. Герой мой — вучоны, гісторык. Недарэмна, як кажуць, есць свой хлеб, па-сапраўднаму апантаны сваёй ідэяй. Але, як чалавек, ён крыху сумнаваты. Яго сяброўцы праз некаторы час падалося, што ён аднастайны. Тым больш што абодва сустрэліся ва ўзросце, калі душы іх ужо былі абпалены ранейшым каханнем. Сталася так, што сярэдзіна жыцця абаіх атрымалася нецікавай. Пачалі шукаць уцехі набаку, але ў рэшце рэшт прыйшлі да вываду, што нічога лепшага, што ёсць, не знойдзеш. Трэба шанаваць сям’ю.

Я ведаю быт вучоных, у прыватнасці гісторыкаў, крыху чытаў іх творы. Вобраз галоўнага героя збіральны, канкрэтнага прататыпа нават цяжка назваць. Раман «Асеннія мелодыі» знаходзіцца ў стадыі завяршэння. І, на жаль, новага рамана я пакуль што не бачу. Можа, хіба што вазьмуся за працяг трылогіі. Там яшчэ ёсць што дапісаць. Яна, па сутнасці, не закончана. Калі хопіць сіл — будзе ўжо не трылогія, а тэтралогія.

*— Іван Якаўлевіч, як узнікла, дарэчы, у вас задума напісання рамана «Сасна пры дарозе», а потым і наступных твораў з гэтага цыкла?*

— Кожны піша пра тое, што ён лепш за ўсё ведае. Для мяне і майго пакалення — гэта вайна. Тым больш што я сам і ў падполлі быў, і ў партызанах, а потым і на фронце. Перажытае трэба было неяк выказаць. Нават на валаску ад смерці быў, калі ў сорак другім арыштавалі…

Часопіс «Маладосць» — там тады працаваў Іван Пташнікаў — заказаў мне апавяданне. У Васілевічах ёсць чыгуначная будка, лес… Туды я любіў хадзіць змалку, ведаў усе ваколіцы. З будкі добра было відаць наша мястэчка. Калі вуліцай прайсці, яно зусім не так бачылася, а тут быццам зялёны востраў сярод хлебнага масіву. Захацелася неяк прыстасаваць гэтыя ўражанні да партызанскіх часоў, да складаных падзей вайны.

Пачаў пісаць апавяданне. Будка, сасна… Напісаў старонак трыццаць і адчуваю — няма канца. Папрасіў у Пташнікава адтэрміноўку. Гавару, што атрымаецца аповесць. Але і сто старонак мінуў — канца па-ранейшаму няма. Прайшоў год, сацыяльны заказ выкананы не быў, а я адчуў, што ўжо пішацца не аповесць: адна падзея замяняе другую, павялічваецца колькасць персанажаў. З'явіўся абагульнены вобраз Крамера. З вобразам Крамера ў рамане ўзнік канфлікт, інтрыга.

Магчыма, мне і не варта было пісаць тры раманы, хапіла б і двух. Але захацелася ўзнавіць усю гісторыю партызанскага руху ў маіх мясцінах. Працаваў у архівах, сустракаўся з былымі партызанамі, шмат ездзіў па мясцовасці. Расказаў, як складваўся партызанскі рух у раёне Мазыра, Калінкавіч, Васілевіч, Хойнікаў, Даманавіч. Атрымалася ў нейкай меры тыповая карціна…

Сам адчуваю, што не ўсё мне аднолькава ўдалося. Крыху «правісае» ў трылогіі другая кніга, першая і трэцяя лепш удаліся. «Вецер у соснах», дарэчы, я крыху паправіў. Магчыма, яшчэ ўнясу сякія-такія папраўкі, але ў цэлым я прыхільнік таго: як напісана — так і павінна застацца.

*— У апошні час — перш за ўсё ў аповесці «Інтэрнат на Нямізе», рамане «Смутак белых начэй» — вы зноў звяртаецеся да юнацтва свайго пакалення. Гэтае вяртанне было і ў вашых ранніх творах, а таксама ў трылогіі. Але тады, як мне здаецца, аўтар глядзеў на ўчынкі сваіх герояў у асноўным вачыма іх равеснікаў. Цяпер на сваіх герояў вы ўжо глядзіце з вышыні сённяшняга вопыту. Адсюль быццам нават нейкая паблажлівасць у ацэнцы. Апошнія па часе напісання вашы творы адрозніваюцца нават самой формай апавядання.*

— Манера і стыль пісьменніка мяняюцца. Вядома, не так каб зусім не пазнаць яго. Я свядома пачынаў з лірычных,

рамантычных твораў. Але ніколі не бачыў сябе толькі рамантыкам, лірыкам. Не трэба забываць, што пісьменнік па сутнасці той жа самы артыст. Артыст у тым сэнсе, што я магу зразумець вас, другога чалавека, трэцяга… І я ведаю, як вы маглі б сябе паводзіць у тых ці іншых абставінах.

Ужо «Сасна пры дарозе» — рэч лірычная, але разам з тым і эпічная. З'явіўся Крамер, іншыя героі. Гэта ўжо аб'ектывізаваная манера пісьма. Пазнейшыя мае творы сапраўды больш рэалістычныя і больш эпічныя. Залішне, праўда, дэталізаваць я не люблю, гэта, як мне здаецца, вядзе да бытапісальніцтва. Аднак у маіх апошніх апавяданнях ёсць лірычны струменьчык, хоць у цэлым яны, калі можна сказаць, эпічныя.

*— Вы — адзін з нямногіх пісьменнікаў, якія, плённа працуючы ў жанры рамана, не забываюць і на апавяданне. Чым прываблівае вас, Іван Якаўлевіч, гэты жанр? Ці пішаце цяпер новыя апавяданні?*

— Цяпер, калі заканчваю чарговы раман, я, відаць, буду пісаць толькі апавяданні і невялікія аповесці. Апавяданне — гэта вельмі харошы і мабільны жанр. Значэнне яго асабліва ўзрастае сёння, калі перад усім грамадствам пастаўлены новыя задачы. Апавяданне неабавязкова павінна быць падзейным. Для мяне асабіста апавяданне пачынаецца з кавалка зямлі, які асабліва палюбіўся. Хочацца абавязкова людзей, каго ведаю, ці герояў, якіх выдумваю, прывязаць да гэтай мясціны.

Раней, праўда, пісалася лягчэй. У мяне нават ёсць некалькі апавяданняў, што з'явіліся за адну ноч. Цяпер узрост ужо не той, і, каб напісаць апавяданне, патрэбен месяц, а то і некалькі. Нашу ў душы задумы прыкладна шасці ці сямі апавяданняў. Трэба толькі сесці і напісаць іх.

Жанр апавядання падабаецца мне тым, што дазваляе аўтару лепш выявіць свой стыль, сваё бачанне жыцця. Ды і мову дысцыплінуе. Яна павінна быць ёмістай. Ведаеце, як сёння на Захадзе паступаюць з мастакамі-абстракцыяністамі? Спачатку намалюй звычайную карову. Атрымаецца, тады можаш запісацца, як кажуць, у абстракцыяністы. У нас жа ёсць пісьменнікі, якія пішуць аповесці, раманы, а звычайнае апавяданне напісаць не могуць…

*— Вас ведаюць таксама і як драматурга.*

— Я напісаў дзве драмы. Першая — «Птушкі між маланак» — ужо друкавалася ў «Полымі». Пры напісанні свядома кіраваўся прынцыпамі беларускай драмы, у прыватнасці, Кандрата Крапівы. Драматургі, якія чыталі яе, гавораць, што яна някепская. Відаць, я не надта прабіўны — тэатры маім творам не зацікавіліся. Прапанаваў было ў адзін тэатр... Дырэктару, нават з рэжысёрам не пагаварыў. Другую — «Вадзяны млын» — яшчэ буду дапрацоўваць.

*— Таксама аб падзеях вайны?*

— Не, закранаю тэму сучаснасці. Калі гаварыць аб змесце твора, дык ён пра тое, як са знікненнем старых вулачак, з'яўленнем дамоў-гмахаў нават норавы людзей мяняюцца. Кожны дом — гэта не проста дом, у ім ёсць своеасаблівая душа. Мяне гэта хвалюе. Знікае стары горад, з'яўляюцца новыя дамы аднастайнай забудовы, якія, як кажуць, ёсць і ў Томску, і ў Омску. Незвычайны чалавечы лёс я памясціў у звычайнасць, дзе вельмі ардынарныя норавы, учынкі людзей быццам запраграмаваны.

*— А цяпер пытанне, якое задалі вам у час прэс-канферэнцыі на леташняй міжнароднай кніжнай выстаўцы-кірмашы. Як удаецца вам, Іван Якаўлевіч, спалучаць у адной асобе Навуменку-пісьменніка, Навуменку-літаратуразнаўцу, Навуменку-акадэміка, віцэ-прэзідэнта Акадэміі навук БССР?*

— Неяк у Ільфа і Пятрова запыталі, як яны ўдвух могуць пісаць. Пятроў адказаў: «У той час, калі Ільф бегае па рэдакцыях, я вартую рукапіс. І, наадварот, калі я бегаю па рэдакцыях, ён сцеражэ рукапісы». Гэта значыць, што пішу я, калі не займаюся дзейнасцю віцэ-прэзідэнта, не хаджу ў Вярхоўны Савет БССР. Пішу тады, калі ёсць вольная часіна. Вядома, гэта нялёгка, і калі б я быў «чыстым» пісьменнікам, відаць, напісаў бы і лепш і больш. Але, з другога боку, работа — таксама ўзбагачае. Я не адчуваю недахопу ва ўражаннях, магу вывучаць жыццё.

*— А як справы тычацца наконт крытыка-літаратуразнаўчай дзейнасці? Вы неяк сказалі, што марыце напісаць артыкул пра стыль «Дрыгвы» Якуба Коласа?*

— Пастаянна дапісваю свае кнігі «Янка Купала. Духоўны воблік героя» і «Якуб Колас. Духоўны воблік героя». Па

сутнасці, гэта не дзве кнігі, а кніг дзесяць. Пры перавыданнях у гаворцы пра Коласа з’явіўся раздзел аб пейзажнай лірыцы, расказаў пра Коласа — дзіцячага пісьменніка. Напісаў раздзелы «Купала і міфы», «Купала і старажытнасць». Калі ўдасца, хацеў бы перавыдаць гэтыя кнігі дапоўненымі. Увогуле, павінен зазначыць, што жыццё і творчасць нашых народных песняроў мы яшчэ не даследавалі належным чынам.

Мы ведаем кожны дзень Пушкіна: як ён яго пражыў, з кім сустракаўся, калі і пры якіх абставінах напісаў кожны свой верш… Пра Купалу і Коласа гэтага не ведаем. Асабліва пра Купалу. Цэлыя гады «прападаюць». Напрыклад, Купала свае першыя зборнікі напісаў, працуючы вінакурам. Як, пры якіх абставінах з’явіліся творы, што ўвайшлі ў кнігі «Жалейка» і «Гусляр»? Мы гэтага не ведаем, а сведкі ж пайшлі з жыцця.

Мяркую напісаць, як адлюстравана тэма Радзімы ў творчасці Купалы і Коласа, таксама раздзел «Купала і Колас у славянскім свеце». Захапіўся Дуніным-Марцінкевічам. Гэта ж быў наш першы нацыянальны пісьменнік, і пра яго абавязкова хочацца расказаць. Мабыць, буду пісаць эцюды і пра іншых пісьменнікаў. Адным словам, было б толькі жаданне.

*— Поспехаў вам, Іван Якаўлевіч!*

*1986*

## «АПАВЯДАННІ ВАЕННЫЯ ЯШЧЭ ПІШУ. І БУДУ ПІСАЦЬ»

*— Іван Якаўлевіч, пад знакам вайны прайшло ваша юнацтва: у сорак першым вам было шаснаццаць, у сорак пятым — дваццаць. Наколькі яна паўплывала на ваш далейшы лёс, у прыватнасці — пісьменніцкі?*

— Вайна застала мяне ў шаснаццацігадовым узросце. У той час я марыў пра вучобу ў інстытуце. Дзеля таго, каб зраўняцца са старэйшымі сябрамі і потым разам з імі працягваць вучобу, я за адзін год скончыў два класы. Жыццё, здавалася, раскрые перад намі прываблівыя далі і гарызонты, але — вайна…

Вядома, маё пакаленне прадчувала, што вайны не мінаваць. Толькі мы ніяк не думалі, што яна так хутка пачнецца, не даўшы нам нават вылецець з роднага гнязда, і будзе такой неспрыяльнай для нас напачатку.

У маім жыцці вайна займае асобнае месца. Я ўдзельнічаў у падпольным і партызанскім руху, затым быў на фронце. Усё гэта не магло не адбіцца на маім далейшым лёсе. Па сутнасці, вайна аказала значны ўплыў на маё фарміраванне, зрабіла мяне такім, які я ёсць. Тым не менш доўгі час я не асмельваўся пісаць на ваенную тэму. І толькі ў 1955 годзе з'явіліся мае першыя апавяданні — «Сідар і Гараська», «Эх, махорачка…»,— прысвечаныя вайне.

*— Але як вы да іх прыйшлі, што вас падштурхнула ўзяцца за гэтую тэму?*

— Я чытаў ваенныя творы іншых пісьменнікаў, але мне здавалася, што там мала праўды пра вайну. Вопыт, які я вынес з вайны, патрабаваў разнастайных фарбаў, шырокага погляду на падзеі, драматызму і нават трагізму. Гэта зусім не выключала гераізм, які быў на ўсіх этапах вайны, бо маё пакаленне верыла ў перамогу з самага пачатку і для яе дасягнення не шкадавала сваіх жыццяў. Але пісаць пра вайну так, як хацелася мне, было не прынята. І калі б не адбыўся дваццаты з'езд партыі, магчыма, я так і застаўся б вучонымфілолагам і не ўзяўся б за пісьменніцкае пяро.

*— Вялікая Айчынная вайна ў беларускай літаратуры займае асобае месца. Ёй прысвечана шмат твораў — вершаў і паэм, апавяданняў і раманаў. Ці не здаецца вам, што гэтая тэма ўжо вычарпала сябе і ўсё, аб чым можна было напісаць, ужо напісана?*

— Да тэмы Вялікай Айчыннай вайны беларускія пісьменнікі і паэты звернуцца яшчэ не раз. Яе працягнуць наступныя пакаленні літаратараў, якія ў вайне не ўдзельнічалі. Перспектыва часу адкрывае нам новыя грані вайны, мы інакш пачынаем глядзець на некаторыя падзеі. Леў Талстой напісаў «Вайну і мір» праз шмат гадоў пасля заканчэння Айчыннай вайны 1812 года. Ён нават нарадзіўся праз 16 гадоў пасля таго, як Расія спыніла нашэсце напалеонаўскіх войск. Праўда, Талстой удзельнічаў у Севастопальскай абароне 1853—1855 гг. І што такое вайна — ведаў добра.

*— Іван Якаўлевіч, вы напісалі многа твораў, прысвечаных вайне. Мне здаецца, што звяртацца да гэтай тэматыкі аўтару няпроста, асабліва калі ён пабачыў усё ліхалецце Вялікай Айчыннай вайны. Што адчувалі вы, калі браліся за ваенны твор?*

— Я напісаў трылогію: «Сасна пры дарозе», «Вецер у соснах», «Сорак трэці». Нядаўна скончыў яшчэ адну — «Дзяцінства», «Падлетак», «Юнацтва»,— у якой таксама прысутнічае вайна. Ёсць у мяне і франтавы раман «Смутак белых начэй». Што я адчуваў, калі пісаў гэтыя творы? Пісанне — гэта ўспамін. Ваенных дзённікаў я не вёў і таму выкладаў на паперы тое, што адклалася ў душы, у памяці, у пачуццях. Найперш, у пачуццях. У аснову маіх твораў пакладзены не толькі падзеі, сведкам якіх я быў сам. Я таксама шмат размаўляў з салдатамі, партызанамі, працаваў у архівах.

*— Не магу не задаць вам і вось якое пытанне. Зараз, калі ўбачылі свет многія засакрэчаныя дакументы часоў Вялікай Айчыннай вайны, узнікае сумненне наконт таго, ці правільна мы глядзелі на вайну раней?*

— Некаторыя публіцысты цяпер стараюцца як бы прынізіць значэнне Айчыннай вайны і бессмяротны подзвіг яе ўдзельнікаў. Вядома, на вайне было ўсякае. Але ўжо адно тое, што наша краіна вытрымала націск не толькі фашысцкай Германіі, а і фактычна ўсёй захопленай ёй Еўропы (у сэнсе ваенна-эканамічнага патэнцыялу), робіць подзвіг нашага народа настолькі вялікасным, што ён не павінен згасаць у вяках. Без памяці, гордасці за перамогу ў Вялікай Айчыннай вайне наша краіна проста не зможа існаваць. І не толькі наша.

*1994*

## «ЦЕНИТЕ КАЖДОЕ МГНОВЕНИЕ ЖИЗНИ»

*Наверное, юбилеи — это своего рода рубежи. Или просто грустные мгновения, еще раз позволяющие оглянуться назад, подумать о прожитом. В жизни Ивана Яковлевича Науменко сделано немало. Писатель, известный многим по произведениям «Сасна пры дарозе», «Вайна каля Цітавай*

*копанкі», «Сорак трэці», литературовед, академик Академии наук Республики Беларусь, долгое время возглавлял Институт литературы, был председателем Верховного Совета БССР. Впрочем, встретившись с юбиляром в канун его семидесятилетия, сразу условились: о политике не говорить.*

— *Иван Яковлевич, во что вы вкладываете свои силы сейчас?*

— Отмечая свое шестидесятилетие, я говорил, что, если Бог даст мне еще какое-то время, я напишу новые произведения. Мне кажется, за десять лет я создал не так уж и мало. Прежде всего — это автобиографическая трилогия, первая книга которой — «Детство», вышла отдельным изданием. Во втором номере «Немана» сейчас печатается в переводе на русский язык вторая повесть — «Отрочество». Третью книгу — «Юность» — можно будет прочитать в «Полымі»... Вообще-то я намерен сделать тетралогию. В продолжении — повесть, у которой пока нет окончательного названия, в черновом варианте это — «Вяртанне».

В прошлом году вышла книжка «Гасцініца над Прыпяццю». Кроме этого, я написал несколько рассказов, которые пока нигде не печатались (кроме «ЛіМа» «Беларусі»). И думаю, что есть еще чем «выстрелить»... Занимаюсь я и литературоведением. Написал и издал книгу о писателе, которого очень люблю,— «Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч». Вторая монография — «Змітрок Бядуля». Мне нравится его импрессионистская манера письма. Мы вообще долго боялись говорить, что в белорусской литературе есть «импрессионизмы», «символизмы». А ведь импрессионизм — это лишь умение передавать чувства, настроение, запах времени, мгновения жизни, которые так нужно ценить...

— *О чем пойдет речь в новой повести «Вяртанне»?*

— О тяжелом послевоенном времени. В чем-то оно стало разочарованием для героев. На войне верилось, что, когда она закончится, наступит эпоха счастья... С другой стороны, грустно оттого, что многие товарищи не вернулись с войны, что как косой отрезало юность, детство. В повести описано это чувство одиночества. Наше поколение можно назвать

даже героическим, ведь мы вышли из войны победителями. И потом, в мирное время, те же мальчишки и девчонки, бывшие партизаны и солдаты, задавали тон в жизни. А теперь мы — «старые хрычи — поколение, которое шагало в обойме, делало, что приказывали».

Мы согласились с осуждением культа личности, начали по-новому писать. Тот же роман «Сасна пры дарозе» не сразу был принят на «ура». Но я говорил о таких вещах, о которых тогда не писали: об оккупации, о партизанских отрядах, которые распадались и создавались заново, о несчастной любви. Она, к сожалению, во все времена несчастная, независимо от материального благополучия, мира или спокойствия.

*— А почему, Иван Яковлевич?*

— Не знаю. Маяковский писал: «Где-то — кажется — в Бразилии есть один счастливый человек». Это сейчас люди стали более утонченные. Раньше отец дочь замуж отдавал, теперь девушки сами спутника жизни ищут. А любовь найти — дело сложное. Как героям моей повести «Адвячорак на ўскраіннай вуліцы». Оба красивые, молодые, но в чем-то не поладили — разошлись. У него было много женщин, тем не менее старался не упускать из виду первую жену. Потом он умер. На его похоронах оказалось, что и ее любовь к нему так и не угасла…

*— Как бы вы охарактеризовали героя нашего времени?*

— Я никогда не писал о том, чего не знал. Сегодняшнее поколение для меня неизвестно. Есть в нем какая-то раскованность, свободомыслие — то, чего, может быть, не было у нас. Возможно, отсутствие идеалов. Хотя среди шестидесятников тоже были не все герои. Но мы рвались в жизнь. Что бы ни говорили, а революция дала нам возможность выйти в люди. И теперь, я думаю, мы не должны все из прошлого выбрасывать, было же и хорошее. Если бы совсем плох был наш прежний социалистический строй, не заимствовали бы многое у нас на Западе. А разве это нормально, что я, академик, не могу купить себе носки? Героя вырисовывает время.

*— В последнем фильме Игоря Добролюбова по «Эпилогу» Шамякина проскальзывает более чем пессимистический взгляд на жизнь интеллигенции сегодня. Насколько вы разделяете такую точку зрения?*

— Общество делится на богатых и бедных. Это уже было в нашей истории. Не думаю, что взгляд Шамякина совсем уж пессимистический. Просто это человек, который остро пишет о современности. Не ищет полутонов: белое у него белое, а черное — всегда черное. Это социальный писатель.

Естественно, интеллигенция сегодня поставлена в такие условия, что вынуждена постоянно находиться у барьера невостребованности. А без интеллигенции, особенно творческой, нет нации, нет культуры. Интеллигенцию нужно уважать.

*— Иван Яковлевич, о чем еще вам хочется помечтать?*

— Пока живет человек, он будет мечтать. Конечно, 70 лет — уже не самый творческий возраст. Хочу написать рассказ «Реквием»… Недалеко от Минска есть Дом ветерана, на следующей станции — кладбище, многоэтажные дачи «новых людей». Прототипом моего героя станет бывший работник среднего звена, знавший высоких чинов партноменклатуры, дети которых сейчас и строят эти особняки.

Еще мечтаю побродить по лесу, насобирать грибов…

*1995*

## ДАВАЙЦЕ ВЕРЫЦЬ У ЧАЛАВЕКА

*Кожная сустрэча сяброў маладзёжнай суполкі «Літаратар» з нашымі вядомымі паэтамі і пісьменнікамі (а ў рэдакцыі «Першацвета» гасцявалі ўжо Янка Брыль, Ніл Гілевіч, Алег Лойка і інш.) атрымліваецца цікавай і незабыўнай, сапраўды творчай і па-юначы ажыўленай... Не стала выключэннем сустрэча маладых літаратараў і з народным пісьменнікам Беларусі, акадэмікам Іванам Якаўлевічам Навуменкам. Апошні, відаць, і не спадзяваўся ўбачыць столькі першацветаўцаў, бо неяк міжволі падчас гутаркі падзівіўся: «Сёння, калі так сонечна і цёпла, можна было б дзе-небудзь на эстрадзе модныя пласцінкі слухаць, а вы паклікалі старога дзядзьку дый выслухоўваеце ягоныя рэчытатывы. Мне гэта трошкі дзіўна. Нейкая рэдкая моладзь! Малайцы!»*

*Першацветаўцаў жа, якія напачатку моўчкі-зачаравана выслухалі аповед пісьменніка пра сваё жыццё, а затым закідалі таго пытаннямі, цікавіла ў Іване Якаўлевічы літаральна ўсё: яго дзіцячыя захапленні і дарослыя клопаты, літаратурныя сімпатыі і палітычныя пазіцыі, жыццёвае крэда і эстэтычныя перакананні і г. д. і г. д. Зрэшты, не будзем забягаць наперад, а паслухаем самога пісьменніка і яго суразмоўцаў...*

*— Іван Якаўлевіч, у сваёй «Аўтабіяграфіі» вы адзначаеце два найвялікшыя ўражанні дзяцінства — птушак і кнігі. Раскажыце, калі ласка, пра другое з іх. Ці не ўзгадаеце штось незвычайнае з гісторыі вашага ранняга сяброўства з кніжкамі?*

— Першую кніжку я прачытаў на рускай мове — «Сказки и правда о небе». А калі мне ўпершыню трапілася ў рукі беларуская кніжка, яна выклікала ў душы незвычайнае хваляванне. Я ўзрадаваўся, я ў захапленні быў ад таго, што, як аказалася, на нашай гаворцы можна кніжкі пісаць. Гэта было першае адкрыццё!

Увогуле ж кніжкамі я пачаў захапляцца недзе з другога класа. І ўжо ў класе шостым марыў: вось каб гэта які-небудзь конкурс і каб сабраліся ды спыталі, якую кніжку я не чытаў. І такой кніжкі, вядома, не аказалася б — так тады мне здавалася… Але я, і сапраўды, перачытаў шмат. Беларускіх пісьменнікаў ведаў усіх. Дарэчы, пры мне, недзе, калі я вучыўся ў пятым-шостым класе, пачалі вырываць старонкі з Платонам Галавачом, Цішкам Гартным. «Сокі цаліны», напрыклад, я так і не паспеў прачытаць у дзяцінстве, бо знялі са школьнай праграмы. Ведаў і рускую, і замежную класіку, канешне… Бібліятэк у Васілевічах было шмат, пяць ці шэсць, здаецца, і я ва ўсе быў запісаны. Бібліятэкарка ў сельсавецкай бібліятэцы мяне проста зненавідзела. Хацела даваць мне тоненькія кніжкі, а я тоненькіх не браў. Што тоненькая? — пакуль дадому зайсці, я мог яе прачытаць. І таму браў пераважна тоўстыя. А за што зненавідзела? За тое, што я і тоўстую за ноч адольваў, а назаўтра прыходзіў за новай, і ўсё рыўся, корпаўся ў тых шафах… А вось у бібліятэцы леспрамгаса быў ліберальны чалавек — ён нічога ў бібліятэчнай

справе не разумеў, мог даць і тры кніжкі, што мяне страшэнна радавала…

*— Іван Якаўлевіч, пасля вайны вы працавалі журналістам. Ці дапамагла вам праца газетчыка як літаратару?*

— Сапраўды, прыкладна шэсць гадоў пасля дэмабілізацыі я працаваў карэспандэнтам мазырскай абласной газеты «Бальшавік Палесся»: шастаў, ездзіў па калгасах, вывучаў жыццё… Але скажу вам адно: газета і памагае чалавеку літаратурнаму, і шкодзіць. Яна прывучае глядзець на жыццё толькі праз вакно факта, канкрэтыкі. Спрабаваў я фантазіраваць: скажам, сонца ўзыходзіць, раса серабрыцца. А загадчык сельгасаддзела (Віслоў быў такі) выкрэсліваў усё гэта: маўляў, адкуль я ведаю, што ў той дзень сонца ўзышло дый яшчэ раса блішчэла… Праўда, я вершы пісаў па-беларуску, безумоўна, і друкаваў іх, дык тут ужо ніхто не мог нічога зрабіць…

*— Вы пісалі вершы?*

— І нават зборнік хацеў выдаваць. Але добра, што яго не выдаў, бо, хаця падчас і трапляліся ніштаватыя, усё ж пераважна гэта былі казённыя вершы, накшталт, «Ішоў ён полем, брыгадзір чацвёртае брыгады, на ніве гэтай камандзір і першы сам араты». Альбо вось пра каханне: «Ты ўсхваляваная стаяла ля дошкі з думкаю адною. Яна вілася ў інтэгралах, каб выйсці формулай скупой…» А адзін верш я нават Сталіну прысвяціў: «За росквіт нашых сёл, за гул заводаў, за гоман трактароў — прымі падзяку вечную, народаў нашых родны друг і правадыр…» Далей не памятаю, але нешта такое. Ці ж гэта творчасць?..

*— Дзе і калі вы надрукавалі свае першыя творы? І ці лёгка вам даліся першыя літаратурныя крокі?*

— Калі гаварыць пра вершы, то дзясяткі два я надрукаваў у абласной газеце. Друкаваліся яны нават і ў «Чырвонай змене», і ў «ЛіМе» — гэта так даўно было, 46-ты, 47-мы, 48-мы гады. Але я не лічу іх першымі творамі, паколькі я празаік усё-такі.

Першае апавяданне пад назвай «Інтэрнацыянал» я хацеў надрукаваць у абласной газеце. Сюжэт быў такі: партызаны трапілі ў акружэнне, выхаду не было, але яны мабілізаваліся,

сабралі свае духоўныя сілы, заспявалі «Інтэрнацыянал» і прарваліся. Адказны сакратар прачытаў і кажа: «Знаеш што, калі б у іх не было патронаў, гранат, то наўрад ці яны б прарваліся…»

У 1950-я гады я працаваў у «Маладосці», загадваў рознымі аддзеламі, і мяне часта пасылалі ў камандзіроўкі. Аднаго разу — каб выкрыў я нейкага там шамана, які тлуміць людзям галовы. І я падумаў: а чаго мне ехаць? Няўжо я не магу сам выдумаць? І сеў-напісаў гумарэску. Гэта было ў 1954 годзе, і называлася яна «Ганьба «святога» Лукі». Але і яе не трэба лічыць за пачатак. Першыя апавяданні, якія лічу сапраўднымі, з’явіліся ў 55-м, іх было адразу два — «Сідар і Гараська» і «Эх, махорачка…». У «Маладосці» выйшлі. Тэма — хлопцы ў вайну, маё пакаленне. Я гэта ведаў і так, уласна кажучы, і пісаў…

Першы раман «Сасна пры дарозе» выйшаў у 1962 годзе. Я вам скажу, што не збіраўся пісаць ніякіх раманаў. Мы ў адным пакоі жылі з Адамовічам, а ён усё пісаў тады сваю «Войну под крышами». Гэта ў нейкай ступені падштурхнула і мяне. Думалася, што і я ж не менш сябе ведаю: партызаны, падполле… Вось і напісаў «Сасну пры дарозе». Ну, а ўжо наступныя кніжкі — «Вецер у соснах», «Сорак трэці» — тут я і з партызанамі пачаў сустракацца, і ў архівах пасядзеў, таму што майго асабістага вопыту і не хапала ўжо…

*— Іван Якаўлевіч, светапогляд пісьменніка абумоўліваецца, сярод іншых фактараў, і эпохай, у якую ён нараджаецца як творца. Як бы вы цяпер акрэслілі час вашага ўваходжання ў літаратуру? Ваша пакаленне пісьменнікаў сталася надзвычай адметным у нашай літаратуры. Чым жа, як вы думаеце?*

— Той час быў няпростым. Але было такое адчуванне (і я гэта выразіў у аповесці «Любімы горад»), што паправіцца як-небудзь… Вайна ж таксама пачыналася вельмі дрэнна — з адступленняў, акружэнняў, паражэнняў. Здавалі гарады, потым прыходзілася іх браць назад. Усё было разбурана, знішчана. Я сам гэта бачыў. У адным нашым раёне недзе з 60 вёсак 44 былі спалены. І разам з тым вайна ўсё-такі была пераможная. Гэта давала нейкую надзею, крылы. І я вам хачу сказаць, што

досыць хутка грунт для аптымізму з’явіўся. Усё ж такі Мінск і ўся Беларусь даволі хутка падымаліся. Можа, тут штосьці і паказное было, але дабрабыт рос даволі імкліва. У 47-м была праведзена грашовая рэформа, адмянілі камерцыйныя цэны на хлеб, хлеб стаў вольны, яго стала хапаць. У вёскі, вядома, не завозілі, лічылася, што калгаснік і так мае хлеб. Але калгаснік мог усё-такі паехаць, скажам, у Рэчыцу, прадаць там пеўня ці курыцу і купіць буханкі дзве-тры. І цукар ужо з’явіўся. І вось я студэнтам у 48-м за дзесяць рублёў мог купіць ужо дзвесце грам кілбасы… Словам, дабрабыт, паўтару, рос імкліва, і грунт для аптымізму быў…

Што ж было за плячамі ў мяне як у пісьменніка? Па-першае, юнацкія мары. У дзяцінстве — лес, грыбы, птушкі… Гэта ж столькі яны навеялі ўсякіх мараў! Ну, а там, дзе мары, там і дзяўчына. Марылася: вось яна сустрэнецца, я зраблю нейкі подзвіг, прыйду да яе і, так сказаць, пакладу ля яе ног гэты подзвіг, і яна ў аддзяку за яго палюбіць мяне, пакахае… Такое рамантычнае было мысленне. А, па-другое, за плячамі засталася вайна. І было адчуванне свайго пакалення. Канешне, не ўсе з гэтага пакалення былі рамантычнымі. У асноўным яно наогул загінула. У нас з дзясятага класа пайшлі, па-мойму, 16 чалавек на фронт, а вярнуліся пяць ці шэсць толькі; дзве трэці, значыць, загінулі. Маладыя былі, хавацца не ўмелі, ды і старэйшыя, вядома ж, гінулі таксама… Я пісаў апошнюю сваю аповесць з біяграфічнага цыкла — «Любімы горад» — і адчуваў (пішаш жа не розумам, а пачуццём, падсвядомасцю), што дзесьці ўсё-такі мінор, сумна. Чаму сумна? А таму, што тыя хлопцы, з якімі я радаваўся, марыў, якіх я ведаў,— яны ж не вярнуліся. І вось гэты налёт — я цяпер ужо і розумам дайшоў — ляжыць на гэтай аповесці… Словам, вайна ёсць вайна, жорсткая, крывавая. І ўсё ж маё пакаленне не было страчаным, якое Рэмарк апісаў. Гэта быў час, калі моладзь, пераважна сялянская альбо хай сабе рабочая (напрыклад, мой бацька працаваў чыгуначнікам), цягнулася ў вялікі свет — свет навукі, культуры. І нават недзе гэтае пакаленне і прайгравала — яно залішне цягнулася і не ўмела выконваць празаічныя рэчы. Я, праўда, навучыўся касіць (карова ў нас была), зграбаць (добра зграбаў, копы клаў), але

ўжо араць, скажам, не навучыўся: каня бацька аддаў у калгас, калі мне было дзесяць гадоў. Хаця запрагаць я ўмею і каня ведаю, люблю: вадзіў на папас, хацеў нават, каб настаўніцы альбо дзяўчаты з класа паглядзелі, як я скачу на гэтым кані — наўскачкі, гэта значыць, галопам, альбо трушком… Карацей кажучы, мы не былі адарваны ад вялікай сялянскай культуры, неабходнасць прымушала нас гэта ведаць, хаця сёе-тое, канешне, упусцілі…

*— Нават і не выпадае, Іван Якаўлевіч, пытацца ў вас, пісьменніка біяграфічнага, і ўсё ж… Што для літаратара значыць біяграфія?*

— Біяграфія пісьменніку вельмі трэба. І гэта — несумненна. Але, можа, яшчэ больш патрэбна яму нейкая ўнутраная біяграфія. Кнігі не проста пішуцца, яны выспяваюць дзесьці ў душы, яны менавіта нараджаюцца дзякуючы душэўнаму запасу, якім валодае аўтар…

Ёсць такія пісьменнікі, якія вельмі многа і не ездзілі і не бачылі. Вунь той жа Жуль Верн — дык ён далей Луўра ў Парыжы і не ездзіў. Альбо наш Янка Маўр. Сёе-тое ведаў, канешне, перапісваўся з настаўнікамі, будучы аспірантам. Але ж колькі ён унёс свайго! І няхай «Палескія рабінзоны» і падобны да жульвернаўскага «Таямнічага вострава», але Янка Маўр — беларус, і мы добра-такі адчуваем Палессе, калі яго чытаем. Праўда, там грыбы смарчкі пяклі ў попеле і елі, а іх так не ядуць: патруціліся б тыя хлопцы, калі б так было. Гэтага Янку Маўру не падказаў ніхто…

З чаго ж усё-такі пачынаецца пісьменнік? Відаць, з нечага вельмі канкрэтнага. Я і цяпер, калі не спіцца, а пад старасць часта не спіцца,— што ўспамінаю? Краявіды… Са сваіх Васілевічаў у 51-м я ўжо выехаў назаўсёды, а сказаць па шчырасці — я да Мінска яшчэ і сёння не прывык як след, па-сапраўднаму. Гэта — раз. А па-другое, гэтыя краявіды, зямля, на якой ты вырас, прытым любы кавалак зямлі,— яны выклікаюць розныя пачуцці. Ёсць, як Колас пісаў, мясціны, дзе і птушка гнязда не ўе і не спявае,— і пісьменнік гэта адчуе. Усё залежыць ад гэтай самай песні зямлі. Я хачу, каб вы зразумелі: для мяне апавяданне — не падзея, не факт, нават не сюжэт (сюжэт знойдзецца). Важна адчуць!

Адчуць тую мясціну альбо той пейзаж, які запомніў, палюбіў, а потым ужо навяжацца — ці тое, што было асабіста, ці прыдумаецца нешта. Кажуць, што я біяграфічны пісьменнік. Канешне, біяграфічны. Але колькі ў той біяграфіі выдумкі! Дык вось трэба гэтая мясціна. І тады яна будзе спяваць! Словам, пісьменнік — нейкая апасродкаваная істота. Вось як на мандаліне іграюць медыятарам, дык так і пісьменнік — накшталт гэтакага медыятара, які перадае сум ці радасць зямлі, неба, усёй навакольнай прыроды, ну, і чалавека, безумоўна…

*— Хацелася б даведацца пра аповесць «Замяць жаўталісця» — ці біяграфічная яна?*

— Не, яна — выдумка. Выдумка ў тым сэнсе, што я ніколі не выкладаў у Мазырскім педінстытуце, ніякіх лекцый там не чытаў, і такой гераіні не было. Гэта, як піша Багдановіч пра Вераніку,— выдумка маёй галавы. Галавы то галавы, але, як кажуць, «седина в волос, а бес в ребро». Дзесьці гэта ўсё — якраз у маёй унутранай біяграфіі, пра якую я казаў, у той біяграфіі, якая непасрэдна не раскрываецца і не пішацца. Недзе падобны выпадак, калі і не цалкам такі ж самы, то хоць нейкія подступы да яго, пачуцці падобныя — усё ж былі… Мележ, калі прачытаў гэтую кніжку, пазваніў мне (дарэчы, падоўгу мы любілі гаварыць!) і сказаў: «Ты, відаць, закахаўся…» Ну, я, канешне, сціпла прамаўчаў.

*— Іван Якаўлевіч, вы хораша ўмееце перадаваць пачуцці і эмоцыі сваіх герояў. Незвычайны пачуццёвы шквал — так хацелася б назваць гэтую асаблівасць вашай прозы… Ці не падзеліцеся сакрэтам свайго майстэрства?*

— Як пісаць пачуцці? Іх не трэба выдумваць. Пачуцці пісьменнік піша свае. А пісаць жа няцяжка, калі ты ўвайшоў у характар, адчуў і ведаеш яго. Не знаю, можа, каму ўдаецца пісаць па плану альбо па пэўных схемах, але думаю, што галоўнае для пісьменніцкай работы — інтуіцыя пачуцця. Успомнім таго ж Пушкіна. Ён жа адразу і не ведаў, што Тацццяна выйдзе замуж. Гэта ж інтуіцыяй ён дайшоў: у сітуацыі, калі Анегін растаптаў яе пачуцці, яна толькі і магла так зрабіць, іншага выйсця проста не было… Словам, трэба давяраць сваёй інтуіцыі. Але, канешне, як Пушкін пісаў, «алгеброй поверять интуицию» гэтаксама трэба. Разумовы элемент

неабходны, бо пачуцці часам могуць такога нарабіць. Вунь Горкаму аднойчы прыслаў адзін аўтар верш, і там было так: «Семён Михайлович Будённый скакал на рыжем кобыле». Дык Горкі пасля пісаў, што «если на эту животину сесть, то неизвестно, куда она занесет…»

*— Ці здараліся за вашу доўгую пісьменніцкую практыку выпадкі непаразумення з рэдактарамі па ідэалагічных прычынах?*

— Я не з самых радыкальных пісьменнікаў. І я не то што баяўся ці, як кажуць, не хацеў на ражон лезці,— проста мая натура такая — памяркоўная… Разумееце, пры любым цары спяваюць птушкі, нараджаюцца прыгожыя дзяўчаты, можа быць каханне, карацей кажучы, народ жыве ва ўсякіх умовах, і трэба жыць. Ёсць у народзе нават выслоўе: жыць як набяжыць… Але і ў мяне таксама здараліся непрыемнасці. Помню, здымалі нават з нумара апавяданне — «Пад пошум дубоў» у «Полымі». Тады мне на ўступкі прыйшлося пайсці. Ну, а «Смутак белых начэй» увогуле не прапускалі; Шамякін чытаў-чытаў, усё затрымліваўся на апошніх старонках, але, зрэшты, надрукавалі, хаця я там асабліва нічога і не здымаў. У «Вайне каля Цітавай копанкі» здымалі масу дробязей, якія я так і не аднавіў; з «Сасны пры дарозе» нават некалькі старонак выкінута… Увогуле рэдактура «лазіла».

*— А не даходзіла, што ў Галоўліт выклікалі?*

— З «Дубамі…» ездзіў у Галоўліт.

*— Вы сказалі: жыць як набяжыць… Ці ж выйсце гэта, калі нішчыцца ўсё беларускае, а ва ўладзе стаяць антыбеларускія сілы? Як паводзіць сябе ў такой сітуацыі літаратару? Зусім не зважаць на палітыку?*

— Ну, вы ўжо трошкі завастраеце. Я сказаў, што гэта прымаўка ў народзе такая, і перш за ўсё за мову нашу, безумоўна, неабходна змагацца. І я лічу, што змагацца трэба легальнымі шляхамі. Трэба, каб закапёршчыкамі была інтэлігенцыя. А колькі ў нас гуманітарнай інтэлігенцыі? Жменька… Зрэшты, раней нас яшчэ менш было. Памятаю, студэнтамі — нас па пальцах можна было пералічыць — але мы па-беларуску гаварылі, ніколі роднай мове не здраджвалі, і вузкай рачулкай цякло гэта наша беларускае. А ўжо нават

у школах беларускую літаратуру пачалі па-руску выкладаць. І ўсё ж з таго становішча мы рванулі. Я як цяпер помню, з якой цяжкасцю закон аб мовах прымаўся,— я быў старшынёй Вярхоўнага Савета тады. 352 чалавекі! — запісалі гэтую лічбу на табло, і я яе ўжо не мяняў, хоць парушаў нейкія там фармальнасці. А 352 — гэта ўжо большасць ВС… Увогуле ж лічу, што, калі б добра паставіць выкладанне беларускай мовы і літаратуры ў школе, і ў рускай школе ў тым ліку, то тады можна было б і адстояць нацыянальную культуру. А каб яшчэ ўся тэхнічная, прыродазнаўчая інтэлігенцыя павярнулася да беларускай мовы тварам! Але гэта, відаць, доўгі працэс... І гаварыць тут можна было б вельмі доўга.

Наконт літаратуры і палітыкі. Залішняя ідэалагізацыя калісьці ўжо нанесла шкоду літаратуры. А ўспомнім з класікі: Някрасаў стаяў на рэвалюцыйна-дэмакратычных пазіцыях, а Фет пра рэвалюцыйную дэмакратыю і слухаць не хацеў, і, як ехаў міма Маскоўскага ўніверсітэта, дык пляваў у той бок. І тым не менш Някрасаў любіў паэзію Фета… Разумееце, літаратура шырэй ідэалогіі, вышэй палітыкі.

*— Іван Якаўлевіч, не хацелася б абыходзіць і літаратуразнаўчыя старонкі вашай творчасці. Што б вы зазначылі з назіранняў за спадчынай і жыццём нашых класікаў?*

— Пішучы свае ранейшыя кніжкі,— пра Коласа, Купалу,— я не высвятляў іх як асобы. А вось ужо Бядулю, Багдановіча, Дуніна-Марцінкевіча я ўяўляю як людзей, таму што шукаў, думаў, стараўся пранікнуць у хімію факта. Гэта ж цікавыя людзі самі па сабе былі! Вунь Дунін-Марцінкевіч краў сваю першую жонку праз вакно — бацька не аддаваў! А Багдановіч! Выпісала яму хросная маці «Нашу ніву» і «Нашу долю», ну, яшчэ слоўнікі меў — і гэтага было дастаткова, каб Багдановіч, які не ведаў беларускай мовы і быў выхаваны перадусім на рускай класіцы, на рускай паэзіі срэбнага веку, стаў пісаць на выдатнай і ўсё-такі чыстай беларускай мове! Больш таго, я пачаў перачытваць рускія творы Багдановіча. Дык яго беларуская мова куды лепшая, чым руская. Вось як ён адчуваў! Вось што значыць палюбіць сваю мову, калі можна так сказаць, усімі фібрамі душы!.. Пісьменнікі і паэты — яркія людзі. На персідскай старажытнай мове паэт і

шаляніца — адно і тое ж. Гэта не ў тым сэнсе, што паэты — нейкія там вар'яты. Але ўсё ж не такія яны, як усе, пэўнае адхіленне ад нормы — усё-такі яно ёсць…

*— Іван Якаўлевіч, не сакрэт, што папулярнасць беларускай літаратуры як на Радзіме, так і за мяжой доўгі час падтрымлівалася дзякуючы перакладам нашых твораў, і перш за ўсё на рускую мову… У гэтай сувязі да вас адразу два пытанні: у чым вы бачыце асноўныя перашкоды для выхаду беларускай літаратуры на больш шырокую арэну? І як складваўся лёс перакладаў вашых уласных твораў?*

— На першае пытанне я адказаў бы словамі Весялоўскага: пакуль народ не заваюе сабе імя сярод іншых народаў, цяжка спадзявацца, што з яго асяроддзя выйдзе пісьменнік, які пакорыць іншыя народы. А што тычыцца перакладаў маіх твораў, то я, канешне, магу пахваліцца: дваццаць пяць маіх кніжак выйшла ў Маскве. Але ўсё гэта, калі шчыра казаць, не дорага каштуе… Як правіла, перакладная кніжка становіцца фактарам іншай літаратуры. Але мае кніжкі, як і кніжкі многіх маіх сяброў, фактарам рускай літаратуры не сталі. Чаму? Таму што перакладалі нас рэдакцыйныя дзяўчаты — абы толькі зарабіць. Нам жа важна было, каб кніжка выйшла на рускай мове, і мы мірыліся. Мележа так пераклалі, што ён ажно заплакаў. Пасля яго Кавалёў пераклаў — дык ужо нядрэнна. Ён жа і маё апавяданне пераклаў, і яно адразу трапіла ў «Наш современник». Ну, і пару маіх аповесцей пераклаў неблагі ленінградскі перакладчык Астроўскі. Вось і ўсё. Наогул жа вялікія майстры перакладаць не браліся. Такога моста, які быў раней, калі, скажам, Твардоўскі перакладаў Куляшова альбо Сіманаў Міколу Засіма, цяпер, на жаль, няма…

*— У кожнага чалавека ёсць два ўзросты: адзін — колькі яму гадоў ад нараджэння, а другі — наколькі ён адчувае сябе ў душы. Іван Якаўлевіч, колькі ж, вы адчуваеце, вам гадоў, і як гэта адлюстроўваецца ў вашай творчасці?*

— Я зайздрошчу вашым ружовым марам, але, ведаеце, «блажен, кто смолоду был молод». Час чалавека непаўторны. І, як ты ні казырыся, узрост бярэ сваё, і тут ужо нічога не зробіш. Праўда, у старасці творца можа яшчэ дапяваць. І вось вам прыклад: у семдзесят з лішнім гадоў Гётэ закахаўся ў

шаснаццацігадовую, і закахаўся настолькі, што напісаў стансы, якія і дагэтуль дзівяць чалавецтва. Ну, канешне, замуж яму тую дзяўчынку не аддалі. Я быў там, дзе ён жыў пасля няўдалага свайго сватання (Марыінскія Вары ў Чэхаславакіі), і чалавек, які ўсё гэта вывучыў, расказаў, што не памёр Гётэ ад таго вялікага кахання. Аказваецца, пазней у яго было яшчэ некалькі малых, звычайных каханняў — такіх, пасля якіх ён ужо не змог бы напісаць стансаў… Увогуле Гётэ быў вялікі жыццялюб. А вось Колас, напрыклад, быў адналюбам. І калі памерла яго Марыя Дзмітрыеўна, прыходзіў ён да нас у «Звязду» (а я тады працаваў у «Звяздзе»), атрымліваў ганарар невялічкі і, бывала, сядзеў у бухгалтэрыі мінут пятнаццаць-дваццаць і ўсё глядзеў на адну бухгалтарку. А потым падымаўся і выходзіў. Відаць, яна кагосьці яму нагадвала. Можа, Ядвісю, тое першае няўдалае каханне… Раскажу, дарэчы, і яшчэ пра Коласа. Неяк у Маскве яму далі першае выданне «У палескай глушы», і ён у гасцініцы ўсю ноч чытаўперачытваў гэтую сваю кнігу. Чаму? Можа, успамінаў сябе маладога. Бо ён ужо не мог вярнуцца туды…

А калі канкрэтна пра мяне, то і я не магу вярнуцца, даўно ўжо не магу. Канешне, можна яшчэ напісаць маленькае апавяданне пра тое, што ў душы выразна адбілася, але гэта ўжо будзе скарэй імітацыя… Хаця пасля шасцідзесяці яшчэ шмат можна напісаць. І я гэта адчуваў. Праўда, служба многа часу адымала. У Вярхоўным Савеце апошнія гады неспакойна было, і віцэ-прэзідэнцтва ў Акадэміі — таксама нервовая работа. Што зробіш, на жаль, наша пакаленне — не толькі літаратурнае, але яно яшчэ і служыла. Вунь бедны Колас і памёр служачы…

*— Іван Якаўлевіч, як вы ставіцеся да сучаснай маладой беларускай прозы? Што вам у ёй падабаецца і што б вы хацелі ў ёй бачыць?*

— Я прачытаў прыкладна камплект «Першацвета», і мне там падабаецца ўсё. Праўда, перш-наперш падабаецца ваша маладая наіўнасць. Гэта і добра — малады чалавек павінен быць троху наіўным. І, канешне, радуе мяне тое, што беларуская рэчка наша не мялее, і чым далей, тым шырэйшай, глыбейшай становіцца.

З крышку старэйшых за вас, думаю, ужо акрэсліўся са сваім тварам Андрэй Федарэнка, мой зямляк, з Калінкавіцкага раёна. Харошы праглядваецца празаік. Вось асабліва апошняе яго апавяданне «Сыч»! — тут я па-добраму зайздросціў яму. Такі сюжэт можа мільгануць не ў радавога аўтара. Такое, калі хочаце, і выдумаць нельга! Гэта жывы факт! Недзе ўбачыў таго Сыча, такога сквапнага, заўсёды хмурнага. Сыч нікога не любіць, а тым не менш кожны раз вяртаецца на магілу жонкі і выпівае з ёй. Проста выдатна! Словам, Федарэнка ўжо выбіўся з маладой генерацыі. Ён ужо мацней за старых, яны «Сыча» не напісалі…

Увогуле ж для празаіка самае галоўнае — адкрыццё вобраза, характару. Яны ёсць — нявыдуманыя, арыгінальныя. Проста трэба знайсці іх, адчуць сваю тэму, а яна ўжо сама ўзнясе… Я вось нядаўна перачытваў першы раман Кузьмы Чорнага «Сястра». У дваццаць пяць гадоў напісаў яго Чорны. Раман, канешне, трохі схематычны, напісаны пад Кнута Гамсуна, адчуваецца, але ў цэлым — выдатны твор! І хаця няма ў ім асабліва акрэсленых характараў, ёсць там адзін вобраз — Цівунчыка, які пры лазні вартаўніком рабіў. Гэта — чалавек, які робіць усім дабро, які не вельмі можа дапамагчы, але паспагадае, паспрыяе кожнаму, не пашкадуе часу. Гэта, бадай, найлепшы вобраз у ранняй раманістыцы Чорнага. Дык вось давайце напішам такі вобраз! Мы ўсе сталі эгаістамі, праўда, пісьменнік і павінен быць самалюбівым, ганарлівым… Але ці знойдзем мы ўжо такі вобраз?

— *Іван Якаўлевіч, у што вы верыце?*

— Гэта складанае пытанне. Нас выхавалі атэістамі, і ў таго бога, які сядзіць на воблаку, я, вядома ж, не веру. Хаця скажу вам, што з дзяцінства дзед вадзіў мяне ў царкву, і адзін раз мяне нават прапясочвалі за гэтую царкву на школьнай лінейцы. Была там аднакласніца, якая таксама спавядалася і прычашчалася, але гэта не пашкодзіла ёй данесці на мяне… У нас харошая была царква, я і цяпер памятаю перазвон. Пасля, праўда, зруйнавалі, але добра, што хоць не склад ці свінушнік які зрабілі. З тых самых бярвенняў пабудавалі кінатэатр на другім баку вуліцы. Такім чынам, храм усё-такі і застаўся служыць нейкай духоўнай справе. А што зачынілі —

безумоўна, дрэнна: былі вернікі, яны крыўдзіліся, і мой дзед, я адчуваю, памёр недзе з-за гэтага, з крыўдай у душы. Дарэчы, калі я што ведаю з рэлігіі, то праз дзеда. Недзе з шасці-сямі гадоў я лез да яго на печ, і ён мне ўсе асноўныя біблейскія міфы пераказваў…

Разумееце, ёсць многа рэчаў, проста недаступных чалавечаму разуменню. Што мы ведаем пра свет? Ведаем, як утвораны гэты свет? Хто яго стварыў? Калі ён скончыцца? Дзе яго пачатак? Фізіка кажа адно, містыка — іншае… Я ў містыку і сам не веру. Але, знаеце, незразумелыя рэчы ўсё ж ёсць. Успомнім Багдановіча з яго самнамбулам. Гэта ж сапраўдная тайна — лунацікі! І яшчэ адна вялікая тайна — сон. Ну, чаму абавязкова ўсё жывое спіць? Мы не задумваемся, але чаму нельга не спаць? Я, напрыклад, у такіх снах пабываў, якія ў рэальнасці ніколі не бачыў. Містыка тлумачыць гэта тым, што чалавечая свядомасць — яшчэ не ўвесь чалавек і што ёсць нешта падсвядомае, якое выходзіць на паверхню і кіруе ім, як тымі лунацікамі. Карацей кажучы, загадак вельмі многа…

У што ж я веру? Веру я, што калі людзі не ўзарвуць яшчэ некалькімі чарнобылямі гэтую найлепшую з планет, калі навучацца жыць не знішчаючы адзін аднаго,— тады, можа, штосьці і адкрыем, тады, можа, і паляцім да зорак… Бо, несумненна ж, ёсць у чалавеку нешта боскае — не толькі цела, але і душа, намеры, памкненні. І пагэтаму важна змагацца за духоўнасць людзей. Няпраўда, што ўсё на бізнесе, на разліку, на задавальненні адных толькі біялагічных патрэб, на спрошчаных адносінах паміж мужчынам і жанчынай… Вунь нейкая дзяўчына — Беніслаўская — настолькі любіла паэзію Ясеніна, што прыйшла на яго магілу і застрэлілася…

Сказаць: веру ў прагрэс? Але «все прогрессы реакционные, если падает человек», як той Вазнясенскі пісаў. Дык жа давайце лепш верыць у чалавека, у яго розум! Чалавеку многа дадзена, ён здатны на вялікія пачуцці…

*1996*

# «УСЯКАМУ ПАКАЛЕННЮ ТРЭБА БАЯВАЯ СПРАВА...»

*Прыгадваю багата ў якіх акалічнасных абставінах і дэталях помныя аспіранцкія гады і, анікрышку не перавялічваючы, сведчу: яго панавіта-велічная постаць і задуменна-грозны воблік заўжды выклікалі значную ступень абнясмелення, душэўнай настрyненасці і насцярогі. Маю на ўвазе не толькі сябе, а і іншых пачынаючых крытыкаў і літаратуразнаўцаў, якія, тужачыся над сваімі дысертацыйнымі і планавымі працамі, зрэдзьчасу так ці інакш стасункаваліся з ім. Як правіла, мала пасаблялі тут і спробы папярэдняй унутранай адмабілізаванасці, а тым больш калі ўвідавочанні, стрэчы-спатканні здараліся неўспадзеўкі. Яшчэ б — знакаміты празаік, мастакоўскі кшталт якога прызнаны грамадска-культурнай супольнасцю, ведамы літаратуразнаўца-акадэмік, які непасрэдна спрычыніўся да адкрыцця многіх уталентаваных крытыкаў, дырэктар інстытута, а ў паслейшы час — віцэ-прэзідэнт Акадэміі навук, народны дэпутат, старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі... Навукова-творчыя і дзяржаўна-адміністрацыйныя вышыні браліся ім спакваля, няспешна, але заўсёды годна і пераканаўча.*

*Унёска пісьменніка ў развіццё нацыянальнай культуры вагомая, яна ўражвае і схіляе. Нядаўна за плённую літаратурна-творчую працу ён уганараваны высокім званнем народнага пісьменніка Беларусі.*

*Іван Навуменка... Як выявілася, шмат што з нашай абсалютызацыі гетэраномных праяў яго асобы трывалілася на звычайнай неабазнанасці. Ведаць бы ўжо тады, што гэта чалавек, які арганічна не прымае ўсялякіх форм духоўнага парабкоўства, што за яго зманлівай знешняй адчужанасцю і непрыступнасцю прытоена чулая і мяккая, высакародная душа, настроеная на шчырасць і дабрыню, давер і спагаду, аб чым красамоўна сведчаць і гэтыя старонкі нашай нядаўняй гутаркі.*

## Побач з кнігамі і прыродай

*— Іван Якаўлевіч, я ведаю, вы ўжо выказваліся ў гэтым плане, тым не менш, калі ласка, колькі слоў пра сваю «дапісьменніцкую» біяграфію.*

— Дзяцінства ў мяне было вельмі звычайнае. Я нарадзіўся ў вялікім казённым сяле Васілевічы (казённым таму, што яно не ведала прыгону), якое ўжо ў той час, калі я падрастаў, называлася мястэчкам. Ну, некаторыя местачковыя атрыбуты там былі — напрыклад, штотыднёвы базар, царква. Да рэвалюцыі Васілевічы мелі статус валаснога, а пасля рэвалюцыі двойчы раённага цэнтра — у 1927—1928 гг. і недзе пачынаючы з 1937 года. Раён ліквідавалі ўжо дзесьці ў канцы 50-х гадоў.

Васілевічы — мястэчка вялікае, разлеглае. Я бываў у некаторых іншых бліжніх мястэчках, гарадскіх пасёлках, такіх як Хойнікі, Брагін, Калінкавічы, і пераканаўся, што Васілевічы большыя па памеру. Там ужо тады, у мае дзіцячыя і юнацкія гады, было дастаткова многа гарадскога. Галоўнае — гэта чыгунка, нават вузлавая — ад Васілевіч адыходзіць ветка на Хойнікі, у паўднёва-прыпяцкія раёны. А значыць, была вялікая колькасць, цэлая армія рабочых-чыгуначнікаў.

Мой бацька закончыў царкоўнапрыходскую школу і яшчэ маладым хлопцам на мяжы савецкай улады (ён з 1900 года) таксама пайшоў на чыгунку. Хоць дзед, трэба сказаць, хацеў пасяліць яго на хутары, выдзеліў зямлі пару гектараў, нават зруб паставіў. Як я ўжо пачаў сябе помніць, бацька быў чыгуначнікам. Спачатку ездзіў кандуктарам, чым я вельмі ганарыўся, пасля ў яго атрымаўся невялікі перапынак (усяго тут не раскажаш) і нарэшце стаў працаваць стрэлачнікам. Сям'я наша была досыць вялікая: бацька, маці, тры хлопцы адзін за другім — я з 1925 года, меншы брат з 1928 і самы малодшы — 1932 года нараджэння, а таксама сястра, якая нарадзілася ў 1939 годзе. Яна, бедная, гадоў пятнаццаць таму назад трагічна загінула.

Вучыўся я добра, толькі пісьмовыя ўрокі рабіў дома — скажам, арыфметыку, алгебру, мову. Многа чытаў кніг, рана пачаў іх глытаць, дзесьці з другога-трэцяга класа. Запісаўся ў сельсавецкую бібліятэку, і бібліятэкарка мяне проста

ненавідзела, таму што я кожны дзень прыходзіў па кніжку. Звычайна маленькіх не браў, але і тоўстую за ноч адольваў.

Гэта была радасць жыцця — мець кніжку. Запісаўся яшчэ я і ў леспрамгасаўскую бібліятэку. Там была свабода і хоць тры кнігі бяры. Некалі ў Васілевічах месцілася лясная школа, фактычна тэхнікум, якую пасля перавялі ці то ў Гомель, ці то ў Буда-Кашалёва. Але бібліятэка засталася. І туды я хадзіў. А была ж яшчэ школьная.

Дзесьці да шостага класа я прачытаў усю асноўную класіку і мноства іншых кніг.

Можаце паверыць, што з трэцяга на чацвёрты клас я чытаў «Вайну і мір» Л. Талстога. Праўда, потым дзяцінства сваё ўзяло: я захапляўся Я. Маўрам, Жуль Вернам... Але так вось здарылася, што многія сур'ёзныя кнігі давялося прачытаць у вельмі раннім узросце.

Рана бацька завёў мяне на работу: дзесьці пасля трэцяга класа ўзяў за руку і — на чыгунку. У летнія канікулярныя месяцы траву паміж шпал ссякаў, шлак насіў, а ў гадоў чатырнаццаць (я быў рослы хлопец) узялі мяне ў рамонтную брыгаду. І вось там гады тры я ўжо па-сапраўднаму працаваў — спачатку на дзіцячых умовах, а недзе з 1939 года абавязкі выконваў поўнасцю.

Бацька мой меў, ну, калі не залатыя, то сярэбраныя рукі. Ён многае мог: дахі крыў, напрыклад, дома ўсю мэблю зрабіў. Але ён неяк не любіў кампаніі, каб дзеці яму памагалі, ён усё рабіў адзін. І, разумееце, я вось трошкі крыўдую на лёс, што ў руках такога, як бацька, рамяства не маю. Ну, чытаў-чытаў, дровы калоў-калоў, але гэта ўсе ўмеюць. Грады капаў... Але вось добра дошку абгабляваць, хоць бы якую-небудзь прымітыўную шафу зрабіць я не ўмею, а бацька мой умеў. Паўтараю, неяк так здарылася, што не браў ён нас.

Што яшчэ з дзяцінства вынес? Было вялікае захапленне птушкамі — да апантанасці. Ой, і пападала мне за гэта! Вельмі часта я мусіў наглядаць за малымі, але такая вялікая была страсць разведаць гняздо, што даводзілася іх кідаць. Кожнае лета я ведаў нейкія гнёзды, найбольш папулярных птушак, нават вывучыў звычкі. Я не кажу пра вераб'ёў, сініц і г. д. Аднойчы мне пашчасціла знайсці гнёзды палявога

жаўранка і галубоў-туркалікаў. Канечне, я нават палавіны мясцовых птушак не ведаю. Хадзіў па балоце, сустракаў гнёзды дзікіх качак, ёсць у нас кнігаўкі, водзіцца пекур — гэта мясцовая назва. Цікавіўся бусламі, але бусел у нас лічыўся свяшчэннай птушкай, і мы яго не чапалі. Сава ў мяне была ўласная, галубы дзікія сядзелі. Дарэчы, з вожыкамі я дружыў. Адзін вожык жыў у мяне вельмі доўга, пакуль маці не выгнала.

Дзяцінства было напоўнена любоўю да прыроды. Я хадзіў збіраць ягады, суніцы і чарніцы, вялікім захапленнем былі грыбы.

Лясы нашы не вельмі грыбныя, і я шастаў кіламетраў за дванаццаць да суседніх вёсак. У нас лічылася, калі дваццаць баравікоў знайшоў, то гэта добра. Але я і больш знаходзіў і тым самым прыкметна дапамагаў сям'і, у сэнсе харчавання.

Стрэлачнік — гэта не тая пасада, якая высока аплачваецца. Жылі мы, можна сказаць, беднавата. Канечне, не галадалі — быў жа агарод, была бульба, хоць яе не хапала, звычайна вялося свінчо. Праўда, ніколі да вялікіх памераў яно ў нас не вырастала — дзесьці к Новаму году абавязкова прыбівалі. Дарэчы, трымалі карову, але карова аднойчы запусціцца і як жыць?

Вопратка ў нас была, канечне, не надта. Наш сусед пасяліўся ў Маскве — у яго там быў сын, дык яны паношанае аддавалі нам. Першы касцюм бацька мне купіў, калі я закончыў за год два класы — восьмы і дзявяты. Дзясяты клас у нас быў «паўтарыцельны», там амаль нічога новага не давалі.

## Баявымі сцежкамі-дарожкамі

Потым, калі паступіў у ВНУ, мне давялося «дацягваць» дзесяцігодку. Там былі спецыяльныя курсы, на якія ішлі амаль з шасці класаў і за год вучобы траплялі ў лік студэнтаў. Ну, у мяне фактычна было дзесяць класаў, экзамены паздаваў лёгка.

Спачатку я паступіў у Мазырскі педінстытут.

…Вайна. Мы пайшлі ў адступленне. Да нас позна немцы прыйшлі, дзесьці ў жніўні. Смаленск ужо быў заняты. Пайшлі ўтрох, але па дарозе адзін не вытрымаў і збег дадому. Гэта абумовіла ў хуткім часе і наш зварот.

Акрамя нас, вярнулася дадому некалькі маладых хлопцаў, якія пабывалі ў баях у раёне Бранска, Арла, трапілі там у акружэнне, палон. І мы арганізавалі спачатку самадзейную падпольную групу — радыё ладзілі, лістоўку хацелі надрукаваць, ды і надрукавалі нейкую. У канцы чэрвеня 1942 года ў нашым раёне спусцілі групу ваенных разведчыкаў пад кіраўніцтвам капітана Манзіенкі. (Я пра яго пісаў, ёсць аж дзве кніжкі.) І мы пачалі ім дапамагаць.

Служба ў Манзіенкі заняла год. Нас вызвалілі рана, у 1943 годзе, і ён пайшоў на захад, у Польшчу. Канечне, не ўсё так проста было. Два разы я трапляў у акрутнае становішча. Напрыклад, у 1942 годзе мяне арыштавалі. У нашай групе быў хлопец, які вярнуўся з партызан (атрад яшчэ ў 1941 годзе распаўся), і за ім сачылі. Яго арыштавалі. Я не магу сказаць, што ён выдаў мяне ці нашу групу, бо тады пабралі б усіх. А так узялі толькі мяне і выпытвалі наконт радыё. Вядома, што я нічога не сказаў, таму што нітачка пацягнулася б і было б многа крыві.

Але я ўпусціў адзін вельмі важны момант. Яшчэ да вайны я і двое сяброў, збіраючыся паступаць у ВНУ, узяліся самастойна вывучаць нямецкую мову і дасягнулі значных поспехаў. Напрыклад, падручнік за пяты клас я ведаў назубок, а гэта тысяча слоў. У вайну радыё не было, і я пачаў чытаць нямецкія газеты. Гаварыць я, канечне, не ўмеў, а газету дзесьці к лету 1942 года я чытаў лёгка — на якім фронце што і як адбылося… І цяпер памятаю некаторыя газетныя фразы. Нямецкую газету сённяшні выпускнік ВНУ яшчэ ці прачытае… Вось якой была сіла імпэту, жаданне ведаць найбольш пра вайну.

Так што я рана ў вачах немцаў сапсаваў сваю біяграфію. Адзін з нашых хлопцаў, той, што працаваў настаўнікам, трохі папрацаваў у паліцыі — з нашага ведама і дазволу, канечне. Патрэбны былі зброя, дакументы, разведданыя. А я хацеў трапіць у партызаны, але ў нас гэта было, бадай, немагчыма.

Гэта вяскоўцы ішлі, у іх паліцыі або зусім не было, або было мала. А ў нас, каб я пайшоў, самае малое — забілі б бацьку. У настаўнікі мяне не пусцілі.

Уладкаваўся я ў лясгас рахункаводам. Галоўны бухгалтар паспрабаваў мяне, а я колькі не падбіваў баланс — усё розныя лічбы атрымліваліся. І яны пасадзілі мяне на касіра — грошы тады нічога не варты былі. Да дырэктара лясгаса іншы раз прасіць табакі прыходзілі немцы. Здаралася, каб лепш іх разумець, дырэктар запрашаў мяне.

Гэтая мая пасада для Манзіенкі была вельмі выгадная, проста выдатная. Немцы бралі дрэва там, дзе хацелі, а мы выстаўлялі ім рахункі. Гэтыя рахункі складаў і насіў я. Воінскія часці мяняліся, я даведваўся іх нумары, здабываў іншую інфармацыю. Хлопцы працавалі на чыгунцы і фіксавалі рух цягнікоў. Была спецыяльная разведчыцкая форма: пустыя платформы — трохвугольнікі, гружаныя вагоны — квадрацікі і г. д. (Можа, я забыў, прайшло столькі часу.)

Служылі разведчыкамі мы добра. Ва ўсякім выпадку, праз шмат гадоў Манзіенка захацеў з намі ўбачыцца. Сустрэліся мы ўжо дзесьці ў 1964—65 годзе...

Потым я пайшоў у партызаны. Пайшоў тады, калі, спалохаўшыся наступлення нашых, паўцякалі паліцаі. Ды і Манзіенкі ўжо не было. Была і яшчэ адна прычына. У мястэчку служыў немец, які вывучаў рускую мову, ён папярэдзіў маю настаўніцу, а яна мяне: трэба ўцякаць, бо інакш кінуць у канцлагер. А канцлагер арганізавалі па шашы кіламетраў восем ад нас.

Нашу групу, калі па-добраму падыходзіць, можна было ўзнагародзіць добрымі ордэнамі. Але закончылася тым, што далі нам медалі «Партызану Беларусі», «За баявыя заслугі», і то ў сярэдзіне 60-х гадоў.

У партызанскім атрадзе я выконваў тую самую работу — быў сувязным. Хадзіў у мястэчка па тытунь, соль да тых самых хлопцаў, сваіх сяброў,— не ўсе ж пайшлі ў партызаны, некаторыя засталіся.

Тое, што я напісаў партызанскую трылогію... Часткова толькі давялося сядзець у архівах, галоўным чынам, збіраючы матэрыял для другой і трэцяй кнігі. Першую, «Сасна пры да-

розе», я напісаў без выкарыстання архіўных звестак — было шмат сваіх уражанняў.

Восенню 1943 года прыйшлі нашы. Мы іх сустракалі, разам з арміяй вызвалялі Васілевічы. Фронт стаяў побач, памагалі байцам знаёміцца з мясцовасцю, вадзілі па лесе і г. д.

А пасля ў армію пара. 1943 год, якраз мне споўнілася 18 гадоў.

Адным словам, трапіў я на фронт, спачатку ў запасны полк. Доўга тут расказваць не буду. Ваяваў на Карэльскім перашыйку (бралі ўсе чатыры лініі Манергейма), потым трапіў ва Усходнюю Прусію і закончыў вайну ў Сілезіі.

Два разы быў лёгка паранены — і ўсё ў галаву: адзін раз асколкам у патыліцу, а другі — куля рыкашэтам зачапіла. Але, галоўнае, я кантужаны быў. Міна разарвалася на брустверы. Насупраць сядзелі маёр з радыстам, дык іх літаральна зрашэціла. Мяне не магло ўдарыць, але ж — гук, хваля. Відаць, ад гэтага я нюх страціў, доўга пакутаваў ад бяссонніцы. Яна і цяпер часта бывае, але цяпер з іншай прычыны.

Шэсць гадоў пасля вайны працаваў карэспандэнтам палескай абласной газеты, адначасова вучыўся ў БДУ. Быў час, калі займаўся нават на стацыянары, але ў 1946 годзе стала так цяжка, што вярнуўся ў газету.

## Пісьменніка нараджае зямля

*— Як вы прыйшлі ў літаратуру? Што паслужыла першаштуршком, калі вы адчулі ў сабе пісьменніка, іншымі словамі,— з чаго ўсё пачалося? Крытыка і літаратуразнаўства, на мой погляд, некалькі схематычна і невыразна гэта вытлумачваюць.*

— Тое, што мяне цягне літаратура і я ўмею трошкі пісаць, зразумеў даўно, яшчэ ў школьныя гады. Калі мы пісалі сачыненне, я заўсёды чакаў моманту, калі настаўнік, праверыўшы, прынясе яго ў клас. Чаму? Справа ў тым, што іншы раз ён зачытваў мае сачыненні перад вучнямі.

Яшчэ да вайны пачаў пісаць у раённую, потым абласную газету, у якой пасля працаваў карэспандэнтам, у «Чырвоную

змену». Мяне друкавалі. Значыць, у мяне ўжо быў нейкі задзел.

Калі вярнуўся з арміі, паступіў на працу ў абласную газету — карэспандэнтам.

Газета чым кепская для пісьменніка? Яна не дае магчымасці пісаць па-пісьменніцку, вучыць глядзець на жыццё праз факт, а фактаў, як вядома, многа. Пакуль іх пералічыш... Прайшоў пэўны час, пакуль я дадумаўся, што не ўсё трэба пісаць.

Пісаў і друкаваў вершы, фельетоны, рэцэнзіі. Мова некаторых публікацый была добрая. Нарэшце дайшоў да формы, якая межавала з апавяданнем. Помню, напісаў вялікі нарыс і падпісаў яго не І. Навуменка, як заўсёды, а Іван Навуменка. Я проста ўзяў і апісаў аднаго чалавека з калгаса, па-мойму, пчаляра, і мне хапіла. Аказваецца, праз пчаляра можна ўвесь калгас паказаць. Я зразумеў, што трэба браць адзінкавы факт, не варыцца ў мностве. Газетная «цыфір» не наблізіла мяне да пісьменніцтва, а, наадварот, аддаліла. Але я быў заўважаны тут, у Мінску, і ў хуткім часе мяне перавялі ў «Звязду». Гэта супала з тым, што паступіў у аспірантуру. Спачатку быў карэспандэнтам па Палескай вобласці, а потым стаў проста супрацоўнікам газеты.

У хуткім часе П. Машэраў арганізаваў часопіс «Маладосць», мяне запрасілі туды. Напісаўшы асноўны, другі раздзел дысертацыі, я прыйшоў у «Маладосць», дзе ўжо працавалі А. Кулакоўскі, І. Грамовіч, М. Аўрамчык і інш. Пісьменніцкае асяроддзе канчаткова завяршыла маю літаратурную адукацыю. У «Маладосці» пачынаючы з 1954 года пачаў друкаваць апавяданні. «Эх, махорачка…», «Сямнаццатай вясной» і іншыя былі напісаны менавіта тады.

Шэсць гадоў у абласной газеце, сем у «Звяздзе», пяць у «Маладосці»... У мяне і цяпер яшчэ запас назіранняў і ўражанняў вялікі. Шмат ездзіў па рэспубліцы, сустракаўся з рознымі людзьмі. Самае галоўнае, што і тэма ў мяне была — тэма майго пакалення. Ніхто ж нас не мабілізоўваў, самі ішлі ў падполле, партызаны, на загад сэрца. А гэта няпростая справа — маглі маці, бацьку арыштаваць і расстраляць.

Я вось на старасці гадоў дадумаўся, што ўсякаму пакаленню трэба нейкая баявая справа. Некаторыя маладыя, не

маючы такой справы, шукаюць яе, часта беспрадметна бунтуюць. Гэта ўсё з'явы таго самага парадку. У нас гэта ўсё было натуральна...

У 1954 годзе я абараніў кандыдацкую дысертацыю, да 1958 года выкладаў у БДУ і працаваў у «Маладосці», пісаў апавяданні. 1957 годам датуецца невялікі зборнічак «Сямнаццатай вясной», 1958 годам — «Хлопцы-равеснікі». Так я пачынаў.

Да рамана мяне падштурхнуў Алесь Адамовіч, у якога падобная да маёй біяграфія. Ён напісаў раман «Война под крышами». Я прачытаў і падумаў: дык мне ж таксама ёсць пра што расказаць.

Цяпер страшна робіцца, калі ўспамінаю той час, якія мы былі бесклапотныя. Я вам скажу, небяспечных выпадкаў было вельмі многа, проста Бог бярог.

Мы насілі з паліцыі аманал. Ён быў партызанскі. Атрад распаўся ў 1941 годзе, паліцыя забрала зброю і аманал, апранулася ў паўпалітовыя партызанскія курткі. Паліцаі не зналі, што такое аманал, і выкінулі яго на двор. І мы лазілі праз паркан, кралі яго. Я сам насіў гэты аманал у карзіне. Каб нехта з нямецкага боку запытаў: а што ты нясеш, хлопец?.. Што тады?

Калі мы пазнаёміліся з разведчыкамі, яны давалі нам магнітныя міны — такія англійскія чарапашкі, хацелі ўзарваць камутатар. Даручылі надзейнаму хлопцу, ён падклаў адну пад скрыню, але чамусьці не спрацаваў хімічны ўзрывальнік. Я раніцай прыйшоў пад той слуп і доўга дзівіўся — вісіць гэтая міна... Усё неяк шанцавала.

Маючы багацце фактаў, не зазіраючы ў архівы, я напісаў «Сасну пры дарозе». Можа, далей і не трэба было пісаць. Але я ведаў нямала гісторый пра тое, як узнік партызанскі рух. Таму яшчэ дзве кнігі напісаў. Вось тут давялося папрацаваць па архівах, гутарыць з людзьмі. Усё гэта было ў межах майго і суседніх раёнаў.

*— А зараз традыцыйнае пытанне. Задума твора. Іван Якаўлевіч, хацелася б, каб вы на канкрэтным прыкладзе ці прыкладах паказалі, як яна ў вас часцей за ўсё прарастае і рэалізуецца ў матэрыяле. У якой ступені ўжо на пачатку твора вы ўяўляеце яго заключную частку?*

— Ну, вось «Сасна пры дарозе». Я пісаў апавяданні і думаў, што буду апавядальнікам. Пачаў апавяданне «Будка № 16». Я ў будцы ніколі не жыў, гэта выдумка, але яна мне падабалася, таксама, як і сасна, якой я любаваўся, ходзячы ў грыбы. І я пачаў апавяданне пра тое, што сядзіць у будцы хлопец, патрыёт, можа быць, я сам, двайнік мой. Напісаў старонак сорак, бачу, не змяшчаецца ўвесь матэрыял. Распірае апавяданне. Тады вырашыў, што будзе аповесць. Пачаў далей раскручваць падзеі, гляджу — атрымліваецца большы твор, чым аповесць.

Паехаў у Дубулты (гэта пісьменніцкі дом адпачынку, размешчаны ў Латвіі), і там прыйшла ў галаву думка: напішу пра бургамістра, нямецкую ўладу.

Вось гэты вобраз даў майму твору раманнае дыханне. Вобраз чалавека, які хацеў прымірыць розныя сілы і зрабіў у гэтых адносінах вельмі многа. Пасля вайны яго знайшлі дзесьці ў Польшчы ці Германіі, вярнулі, судзілі. Далі параўнаўча невялікі тэрмін.

Больш за тое, на гэтую пасаду яго прызначылі нашы, толькі вакольнымі шляхамі. Параіў яго немцам чалавек, якога пакінулі пры адступленні.

Творы набывалі раманнае дыханне.

Чаму «Сорак трэці» напісаў? Паказаў, як разгарнуўся партызанскі рух, на чым ён трымаўся. І яшчэ была адна акалічнасць: тыя партызаны, якіх пакінулі ў 1941 годзе, нічога не здолелі зрабіць. Гэта ўсё было знешняе, яно ішло не знутры, там па спісах людзей падбіралі. Крыху пазней партызанскі рух пачаў нараджацца як бы нанава. У партызаны пайшлі людзі, якія былі перакананы ў неабходнасці актыўнай барацьбы з ворагам.

Лічу, што пісьменніка нараджае зямля, паветра, мясцовасць, з якой ён звязаны душой і целам. Карацей кажучы, гэта трохі нешта незразумелае, нездарма часта гавораць: яго пяром вадзіў Бог. Там жа маса ўсякіх псіхалагічных момантаў. Адкуль я ведаю, як ён паводзіў сябе ці будзе паводзіць у нейкай канкрэтнай сітуацыі. Гэта ўсё выдумка, ну, не выдумка, гэта інтуіцыя, падказка. Памятаеце, як Пушкін пісаў, што такую нечаканую штуку выкінула Таццяна: узяла ды раптам выска-

чыла замуж. У той момант, калі Анегін адмовіўся, а той стары сумленны браў, што ёй было рабіць?

Пісьменнік у нейкай ступені экстрасэнс ці артыст. Артыст павінен сыграць тое, што пісьменнік намеціў. А пісьменнік бярэ гэта з паветра, ад зямлі. Трэба адчуць характар, як ён лепіцца, прычым тут і прататыпа можа не быць. Вось у мяне ў «Любімым горадзе» ёсць Гэля, немка. Я яе цалкам выдумаў, бо адчуваў, што недзе трэба такая трошкі ўзбалмошаная жанчына, якую вайна адвучыла любіць.

Пісьменнік не ведае, чаму ён піша і як ён піша. Калі ён спачатку напіша план і пачне пісаць па плану, то я не веру ў такога пісьменніка.

Вось я зараз пішу «На сотай вярсце» — гэта будзе апавяданне на пяць старонак. Нешта я, канечне, бачу, напрыклад, тое, як хлопец і дзяўчына будуць начаваць у стозе. Але ці адбудзецца што паміж імі, ці не, яшчэ не ведаю. Можа адбыцца, можа не адбыцца — я ў патрэбны момант адчую. На пяць старонак апавяданне, які тут план...

*— Вельмі цікава.*

— Тут трэба свежасць. Я ўжо немалады, першапачуццяў няма, але, калі я ведаю факт, можа, яшчэ, як пісаў М. Горкі, «хімію» факта як-небудзь здабуду. Таму што гэта не выдумка. Ішоў я калісьці па балоце ў Петрыкаўскім раёне, сустрэўся з дзяўчынай. Чамусьці я ёй даў грошай — на чыгунцы яна ехала,— і мы разышліся. Але ў творы я завастраю сітуацыю, напрыклад, прыдумаў рэчку, якая вясной разлілася, і ім дваім давялося начаваць у стозе.

*— Фактычна вы ўжо адказваеце на маё наступнае пытанне. Здаецца, усіх, хто ні пісаў пра вас, цікавіла праблема суадносін у вашых творах уласна перажытага, дакументальнага матэрыялу і вымыслу, плёну фантазіі. Што б вы маглі сказаць на гэты конт самі?*

— Я заўсёды трымаўся дакументальнага, таго, у чым сам удзельнічаў ці чаго быў сведкам, што бачыў і чуў асабіста. Я ведаю, што яно было, але вельмі важным з'яўляецца, як яно было. Гэта трэба яшчэ раскрыць, «хімію» гэтага «было» трэба яшчэ здабыць. Да ўсяго тут даходзіш інтуітыўным шляхам. Трэба намацаць характар, як я намацаў, скажам,

характар бургамістра Крамера. Быў яшчэ партызанскі камандзір Вакуленка — спачатку камбрыг, потым нават памочнік камандзіра злучэння. Напрамілую душу гарэлку піў, жанчын мяняў. Праўда, я яго не бачыў, дык зрабіў волатам. Пазней пазнаёміўся, прыглядзеўся — мізэрненькі чалавек. Фактычна я выдумаў яго.

Факты фактамі, іх я трымаўся, але і прыдумляў таксама. Побач з фактамі нямала і фантазіі, выдумкі. Факты нічога не азначаюць, усё роўна трэба інтуіцыя, каб адчуць, што, як... Трэба адчуць дух часу. Калі гаварыць пра вайну, то дух часу я адчуваў па месяцах.

Вось я ўзяўся цяпер перачытваць К. Чорнага, думаў, паможа майму апавяданню. А чым жа ён паможа? К. Чорны — гэта рэвалюцыя. Вось я чытаю «Сястру» — там парыў. А ў мяне падзеі пасляваеннага часу, людзі нагледзеліся пажараў, расстрэлаў. Не, гэты перыяд мне трэба вывучыць самому.

Я помню, гэта быў, відаць, 1947 год. Ледзьве-ледзьве ўсё падымалася, чакалі, што канец вайны прынясе шчасце. Але якое шчасце — яго трэба напрацаваць. Пісьменнік, сядаючы за стол, калі яму ніхто не перашкаджае, пераўвасабляецца ў артыста. Ён у сябе ў душы гэтыя ролі прайграе. Калі гаварыць пра сябе, то я станаўлюся Вакуленкам, Крамерам, пранікаюся тым, хто з іх што павінен сказаць, і г. д. Што ў такіх выпадках служыць пісьменніку зарукай, падмуркам? Факт, вось было такое. Але факт — гэта нешта знешняе, туды яшчэ трэба залезці.

Хачу калі-небудзь падрыхтаваць артыкул пра ўсё гэта. Я ўсё ж напісаў ужо і пра Я. Коласа, і пра Я. Купалу, лабараторыю народных паэтаў ведаю. Выдаў кнігі пра В. Дуніна-Марцінкевіча, З. Бядулю, пра М. Багдановіча кнігу напісаў. Ох, якія гэта складаныя індывідуальнасці! Напрыклад, М. Багдановіч. Наколькі гэта складаны чалавек, у якіх складаных абставінах рос і выхоўваўся. Асірацелы без маці і асірацелы без Беларусі.

Пранікнёны, вялікі артыст, хаця знешне сарамлівы хлопец. Прычым хворы, ведаў, што памрэ, і разам з тым глядзеў на свет аптымістычна. Туберкулёз, смерць жа хадзіла побач, і дзяўчаты ад яго з-за гэтага адхіснуліся. Цяжкае жыццё, вялікі чалавек...

## «Іду ад чалавека, ад факта»

*— І. Мележ пісаў аднойчы: «З усёй працы самае цяжкае для мяне — партрэты... Майстэрства партрэта мне здаецца адным з самых складаных у творчасці. Яно, на маю думку, патрабуе асаблівай выразнасці бачання, тонкасці пісьма...» Якія старонкі ў раскрыцці сюжэта твора паддаюцца з найбольшай цяжкасцю вам?*

— Я іду ад героя, ад чалавека, ад факта. Людзей памятаю вельмі многіх. Іду яшчэ і ад мясціны, ад кавалка зямлі, які я чамусьці люблю або не люблю. Калі я яго не люблю, то не люблю і пісаць. Ёсць у лесе мясціны, як адзначаў Я. Колас, дзе і птушка гнязда не ўе. Чаму? А хто яго ведае, можа, там, у глыбіні, якія радыеактыўныя крыніцы. А ёсць кавалкі зямлі, якія вельмі падабаюцца.

Вось калі я іду ўздоўж Свіслачы (хоць і не тут тая даўняя сеча была), то адчуванне самотнае. Відаць, гэтыя берагі столькі ўвабралі чалавечых пакут, што я прыходжу дадому заўсёды стомлены, знерваваны. Не люблю я гэтых берагоў, нешта мне гэтая зямля гаворыць. Не хочацца, не падабаецца мне хадзіць берагам Свіслачы, хоць і спрабаваў. І ўвогуле, гарадская зямля — гэта не тое, што вясковая або, скажам, у лесе. Яна ўвабрала ў сябе столькі пакут, што гэта адбіваецца на настроі чалавека, ва ўсялякім выпадку, пісьменніка.

Ага, дык, вы задалі пытанне пра сюжэт. Я магу выдумаць любы ход. І. Шамякін напісаў, што ідзе ад сюжэта. Вядома, ён перш за ўсё бачыць характар. Я іду ад чалавека, сюжэт пасля прыдумваецца.

Вось я хачу напісаць маленькае апавяданне пра аднаго бабніка. Быў бабнік страшны. Нават у царкву прыйдзе і выглядае, вочы, як у змея. Прыдумаў ужо сюжэт. Ён будзе нейкім інструктарам па знішчэнні малярыйнага камара, прыедзе ў вёску і так разгуляецца з жанчынамі... Прытым абяцаючы з кожнай ажаніцца. Даведаўшыся, што ён ужо ад’язджае, прыбягуць гэтыя жанчыны, а таксама адзін угневаны мужчына з сабакам (быў з яго жонкай грэх). І яму, беднаму, давядзецца даваць лататы.

Вось вам і сюжэт. Аснова — тое, што я ведаю гэтага прахадзімца. Як толькі дзе запахне спадніцаю, як толькі ён

адчувае, што можа нешта ўзяць, нідзе не мінае. Канечне, псіхалагічнай глыбіні тут не будзе, таму што гэта апавяданне — жарт. А там, дзе сатыра, гумар, сур'ёзны характар, можа, і не павінен быць. Ну, будзе смешна, што гналіся за жаніхом з сабакам...

*— Іван Якаўлевіч, вы працавалі загадчыкам кафедры БДУ, дырэктарам Інстытута літаратуры імя Я. Купалы АН Беларусі, віцэ-прэзідэнтам Акадэміі навук, былі старшынёй Вярхоўнага Савета Беларусі. Калі ласка, колькі штрыхоў адносна таго, што дадавала кожная з гэтых пасад да вашага светапогляднага, духоўна-творчага вобліку?*

— Калі шчыра сказаць, гэта была хутчэй даніна самалюбству, чым пісьменніцтву. Хаця, канечне, гэта нейкія вышыні, якія таксама пісьменніка чымсьці ўзбагачалі.

Магу вам сказаць, што я не змагаўся за пасаду віцэ-прэзідэнта Акадэміі навук, мяне вынесла. Таксама, як і за пасаду дырэктара Інстытута літаратуры. Не вельмі змагаўся і за пасаду загадчыка кафедры беларускай літаратуры ўніверсітэта. Але тую кафедру ўжо так давялі, такой яна стала расхлістанай, што мне ўжо дзесьці балела. Я на ёй папрацаваў гадоў шаснаццаць, і ў мяне, паўтараю, ныла сэрца, што яе так раскідаюць.

*— Неяк вы адзначылі, што перш сталі кандыдатам навук, а пасля пісьменнікам. Наша літаратура ведае не так багата выпадкаў удалага спалучэння на высокім узроўні чыста пісьменніцкай і літаратуразнаўчай працы. Пытанне не новае: як ужываюцца гэтыя два пачаткі ў вашай творчай індывідуальнасці? Што адчувае знаны літаратуразнаўца, калі сам піша мастацкі твор?*

— Гэта цікавае пытанне. Проста трэба любіць і адно, і другое. Я люблю літаратуразнаўства, паспеў яго палюбіць. Я працаваў у «Маладосці» і пісаў дысертацыю «Тэма працы ў творчасці Якуба Коласа». Паўтараю, я проста палюбіў літаратуразнаўства як прадмет, як навуку. Усіх пісьменнікаў, пра якіх я пісаў,— Я. Купалу, Я. Коласа, В. Дуніна-Марцінкевіча, З. Бядулю і М. Багдановіча — я спасціг больш-менш глыбока як людзей, асоб.

Ці памагае мне літаратуразнаўства пісаць? Не, гэта дзве розныя рэчы. Калі я пішу прозу, літаратуразнаўства тут ні

пры чым. Хіба, наадварот, калі я пішу літаратуразнаўства, то міжволі выкарыстоўваю празаічныя прыёмы. Я ж не буду ўжо карыстацца доўгімі казёнnымі фразамі, літаратурна тэма ўжо будзе выканана нашмат зграбней. Проза памагае літаратуразнаўцу і ў тым сэнсе, што, калі ён пісьменнік, то ўсе штукі іншага пісьменніка бачыць, як кажуць, здалёк — дзе той сшыў добра, дзе кепска.

Вось зараз я чытаю «Сястру» К. Чорнага, які поўніўся сенсуалізмам, лічыў, што ўсё вакол — дрэва, камень, чалавек — жыве. А вось характар ён ведаў слабей, і я бачу, дзе ён што пасклейваў. Праўда, дай Бог мне сёння такога настрою, які быў у яго. Яго штучна не народзіш.

Карацей кажучы, пісьменнік памагае літаратуразнаўцу, той ці іншы твор ён лепей, глыбей прачытае, чым чалавек, які з чыста літаратурнай работай непасрэдна не знаёмы. Калі крытык, напрыклад, сам пісаў ці піша вершы, то гэта добра. А бываюць жа такія, што з нябёсаў тэорыі спусціліся ў літаратуру; дабра ад іх не чакай.

Хачу сказаць, што я літаратуразнаўчыя кніжкі таксама чытаю, і многа чытаю. Праўда, некаторыя з іх я ўжо цяпер не магу чытаць, гляджу так, праз старонку. Столькі там нагрувашчана: у барацьбе... рэалізм... рэчаіснасць... Смешна.

— *Нядаўна выйшлі з друку вашы кнігі пра В. Дуніна-Марцінкевіча і З. Бядулю. Чым можна вытлумачыць вашу цікавасць да гэтых пісьменнікаў?*

— Дуніна-Марцінкевіча я насіў у душы даўно, яшчэ з універсітэцкіх гадоў. У нас прывыклі: барацьба, барацьба… А я адчуў, што ён быў пісьменнікам, які гэтыя рэчы адмаўляў. Яго ўсе білі, што адстойваў інтарэсы мужыка… Панок ён быў дробны, недалёка стаяў ад мужыка, якога добра ведаў і паважаў. Ён пазычыў у банку трыста рублёў і так за ўсё жыццё не аддаў іх, хаця зямлі меў дзесяцін сорак. У маці Гогаля было трыста дзесяцін зямлі, а жыла яна настолькі бедна, што сын-пісьменнік мусіў дзвюх сясцёр узяць у Пецярбург, яны пры ім жылі. Канечне, раб сядзеў у селяніне — «забіты дух яго вякамі, страх адчуваў перад панамі». Такое ёсць, але ёсць і іншае: у той жа самай «Новай зямлі», паглядзіце, як узвышаны ляснічы. Ён усяляк спрыяў Міхалу, яго жонка Міхалавых дзяцей хрысціла.

Дунін-Марцінкевіч быў вясёлы, дасціпны, трохі авантурны — першую жонку праз акно ўкраў. Беларуская мова ўжо тады крамолай лічылася, а ён выдаў на ёй у 50-х гадах чатыры кнігі. Прытым хіба ён атрымаў за гэта што-небудзь? Ды не. Вельмі цікавая фігура!

З. Бядулю мне прапанаваў В. Каваленка, і я ўзяўся за яго. Гэта мой школьны пісьменнік, я любіў «Малыя дрывасекі», «Пяць лыжак заціркі»… Сёння гэта класічныя навелы. А паэзія З. Бядулі ў нас зусім абыходзілася ўвагай — імпрэсіянізм…

Я люблю мастакоў-імпрэсіяністаў, у Францыі некалі спецыяльна ў музей хадзіў. Пасля класікаў, якія дакладна малявалі кожную лінію цела, раптам з'явіліся мастакі, якія ўбачылі, што можна адлюстроўваць жыццё інакш. Яны сталі маляваць фарбамі, накідамі (імпрэсія — гэта пачуццё). Паглядзіце: калі сонца свеціць, адзін бок твару так асветлены, другі — па-іншаму. Гэта ў жывапісе. А ў нас, літаратараў? Доўгія, нудныя апісанні пасля імпрэсіяністаў зніклі. І З. Бядуля, і М. Багдановіч, і ў нейкай меры Я. Колас імпрэсіяністычную манеру засвоілі добра.

*— Беларуская літаратура панесла вялікія страты: назаўсёды пайшлі ад нас Пімен Панчанка, Максім Танк... Якім вам запомніўся М. Танк — як паэт, асоба?*

— Максім Танк — вялікая асоба. Я думаю, калі хопіць жыцця, можа, пра Куляшова і Танка напішу.

Чым М. Танк вялікі? Ён чалавек эпохі, нашай рэвалюцыйнай эпохі. Ён шчыра ўспрыняў рэвалюцыю, памятаеце: «Жыць нам прыйшлося вялікімі днямі на пераломе жалеза і песень». М. Танк шырокі, нават пры сваёй партыйнасці ён не адмаўляў, напрыклад, і Н. Арсенневу, разумеў, што яе паэзія таксама ўяўляе каштоўнасць. І, наогул, нікога не адмаўляў, бо ўсведамляў, што паэзія можа і павінна быць шматаблічнай.

Канечне, ён шмат узяў ад польскага авангарда. Форму М. Танк пераняў, і страху ніякага не было. Каштоўнасная сутнасць вершаў, якія склалі зборнікі «На этапах», «Журавінавы цвет» і «Пад мачтай», у паэтыцы, падыходзе да адлюстравання жыцця. Стары бацька наведвае арыштанта (зноў жа — імпрэсіянізм) — «а вочы мокрыя ад слёз». Гэтая дэталь робіць верш незабыўным. Або другі верш, «Песня кулікоў»: «Ну, садзіся з намі! — дзед стары гаворыць. І акраец хлеба

чорнага кладзе.— Наарфуе снегу, бы мякіны горы, ні праехаць полем, ні прайсці нідзе...» Паэтычнае мысленне тут і беларускае, і разам з тым узбагачанае мадэрнам, еўрапейскімі пошукамі.

Апошнія вершы. Канечне, у іх няма ўжо той свежасці, якая была раней, але ў іх ёсць парадаксальнасць мыслення аўтара. Паглядзіце, ён жа ўсюды з падкавыркай. У беларускай паэзіі М. Танк вельмі адметны. Вось вы пішаце пра Я. Купалу. І Купала вельмі адметны паэт — палёт думкі, нечаканая метафара… Дарэчы, якраз гэта яднае яго з М. Танкам.

М. Танк не парываў сувязей з сялянскімі каранямі, паяднаў іх з мадэрнам.

*— А які быў М. Танк як чалавек?*

— Вельмі добры, шчыры, зычлівы, я проста не ведаю іншага такога. Калі М. Танк бачыў, што чалавек хоць трошкі нечага варты, ён яго падтрымліваў. І так ён падтрымліваў вельмі многіх. Сам я, напрыклад, падчас выбараў у праўленне меў па дваццаць-трыццаць галасоў супраць, а адзін раз наогул мяне не выбралі (ну, там хлопцы папрацавалі, дзесьці адразу пасля маёй працы ў Вярхоўным Савеце), а супраць М. Танка было галасы два-тры. Ён нікому не рабіў зла. Пражыць жыццё і нікому не наступіць на нагу — гэта таксама талент. Прытым ён не быў беспрынцыповым, яго заўсёды вызначала пазіцыя, прынцыповасць. «Вось ты, браце, можа, вось тут трохі памыліўся, але хто не памыляецца, знаеш, з усімі здараецца. Але ты вось тут трохі памыліўся». І ніхто не крыўдуе, што вы, такі аўтарытэт сказаў, як М. Танк.

*— Што б вы маглі адзначыць у пошуках нашых маладых літаратараў — празаікаў, крытыкаў і літаратуразнаўцаў?*

— Мяне вось запрасілі на сустрэчу літаратары з часопіса «Першацвет». Пагаварыў з імі. Там ідзе цэлая плеяда здольных людзей. Цікава, усё ж такі мы не вельмі песцілі іх... Ды і хіба ў нас беларуская мова ўжо так расквітнела? Цяпер вунь зусім кніжкі не выходзяць. А яны, маладыя таленты, ідуць. Калі гаварыць персанальна, ужо вылучыўся, напрыклад, мой зямляк Андрэй Федарэнка. Харошы пісьменнік, піша добрыя рэчы, дай Бог яму не збіцца з дарогі!

Больш вытанчаная ў «Першацвеце», канечне, паэзія. Мы ўжо дайшлі да гэтага: беларуская паэзія з мужыцкай, грубай,

з матэрыяльнымі патрэбамі стала інтэлігентнай, высокаэстэтычнай. Чытаеш яе і бачыш, што хочуць нашы маладыя чысціні, вернасці, ёсць яшчэ любоў. Не збяднела беларуская зямля, мае яна сапраўдныя таленты.

*— А хто запомніўся з літаратуразнаўцаў?*

— У «Першацвеце» А. Пашкевіч друкуецца, ужо ўзяўся пісаць пра М. Багдановіча, і шмат у чым слушна. Ён адзначыў (праўда, я гэта даўно ведаю), што Багдановіч пачаў з асабістасці, чаго не было ў Коласа і Купалы. Бачыце, ён ужо гэта ведае. У паэзіі Купалы і Коласа спачатку была калектыўная эмоцыя. Праўда, як і некаторыя іншыя маладыя, ён ігнаруе ўсіх папярэдніх даследчыкаў і бярэ толькі тых, хто яму даспадобы. Але гэта нічога, важна, што ён пачынае з таго, што не ўсе сталыя крытыкі ведаюць.

*— А Васючэнка, некаторыя іншыя літаратуразнаўцы?*

— Не, дык і П. Васючэнка харошы, і І. Багдановіч, і некаторыя іншыя. Я думаў, што вы пытаеце толькі пра «першацветаўцаў». Гэтыя бліжэй да нас, таму што мы іх вучылі, яны нейкія нашы запаветы пераняли. У нас у Інстытуце літаратуры многа маладых таленавітых даследчыкаў, я іх таксама паважаю...

*1997*

## «ТАИНСТВО ТВОРЧЕСТВА МОЖНО СРАВНИТЬ С МУКАМИ ЛЮБВИ...»

*О жизни писателя лучше всего рассказывают его книги и... встречи с читателями. Одна из них прошла в Центральной детской библиотеке. В гостях у ее читателей побывал народный писатель республики Иван Науменко.*

*Ребята с удовольствием знакомились с новой книгой Ивана Яковлевича «Дзяцінства. Падлетак. Юнацтва», брали автографы, задавали вопросы. Возможно, кто-то из них решил в этот день стать литератором. И написать так много книг, как Иван Яковлевич. За сорок лет у него вышло в свет около сотни изданий на разных языках мира.*

— На долю моего поколения выпало немало испытаний,— сказал на встрече Иван Науменко.— Я был партизаном, подпольщиком. Победу встретил в Германии. Кто как не мы можем донести до потомков правду о тех днях?! Поэтому многие мои книги — о войне. Но больше всего мне всегда хотелось писать о детстве. Это самая прекрасная пора в жизни человека, которой посвятили произведения многие писатели. До сих пор считаю своими настольными книгами трилогию Льва Толстого «Детство», «Отрочество», «Юность».

Наверно, все мы в основном помним себя с пяти-шести лет. Со временем забываются мелкие обиды, вспоминаются лишь самые яркие, радостные мгновения. Нашей семье жилось нелегко. Мы ютились в небольшом доме у деда. Было тесно, мне приходилось спать на сундуке. Я с нетерпением ждал переезда в новую избу, которую строили родители. Этот эпизод позже лег в основу рассказа «Новая хата», посвященного самым первым воспоминаниям о предвоенной деревне. В принципе, я всегда ношу свое детство в душе и часто пишу о нем. Последнее время листать страницы далекого прошлого мне помогает двухлетняя внучка, с которой словно заново открываешь мир и учишься жить.

*— Каким было начало вашего творческого пути? Писатели нечасто рассказывают об этом...*

— Со стыдом вспоминаю первую повесть, написанную в 1958 году. В ней было много фактов, характеров, но отсутствовало что-то главное. Материал прежде всего должен увлекать самого автора: заставлять его переживать, сочувствовать. Таинство творческого процесса можно сравнить лишь с муками любви. Приблизительно в седьмом-восьмом классах пробовал сочинять стихи. После войны около двух десятков стихотворений было опубликовано в периодической печати. И все-таки главным делом моей жизни стала проза. Это также своеобразная поэзия, в которой есть собственные ритм, красота, орнаментальность. Кстати, в устах моих героев нередко звучат стихи, когда-то написанные мною.

За последние пять лет опубликовал пять научных книг, множество литературно-публицистических статей, художественные произведения. Когда-то творчеству мешали заня-

тость в журналистике, преподавание на филологическом факультете Белгосуниверситета, работа в Институте литературы Академии наук. Почти десять лет был вице-президентом Академии наук. Нам удалось многое изменить в лучшую сторону в смысле возрождения национального самосознания. Мы издавали большое количество словарей, уникальных сборников по истории и культуре Беларуси. Сегодня история снова дала нам шанс исправить ошибки. Я верю в наши корни, разум народа. Верю, что миром по-прежнему правят любовь и дружба. О чем продолжаю по сей день говорить в своих книгах.

— *И каковы ваши дальнейшие планы?*

— Иногда писатель напоминает экстрасенса, мгновенно угадывающего внутреннюю суть человека. А еще нам приходится быть психологами, музыкантами, всю жизнь мечтающими исполнить свою единственную мелодию. Удалось ли это мне — судить читателям. Последнее время меня волнует будущее Беларуси и проблемы Чернобыля. Моя родная деревня оказалась в зоне радиации — сейчас там осталось лишь несколько покосившихся домов. Аналогичная ситуация и в других селениях Гомельщины. В перспективе намерен написать книгу о Полесье.

— *Как предпочитаете проводить свободное время?*

— В сущности его крайне мало. В следующем году в Варшаве должен состояться конгресс славистов, председателем Совета которых я являюсь. Большая часть времени уходит на подготовку встречи, хотя на нее из-за отсутствия средств, возможно, не попадут белорусские ученые. Люблю читать. В основном — газеты и журналы. Хорошие книги сегодня выпускаются редко. Сейчас тяжело живется всем. И писателям тоже. Их произведения выходят нерегулярно, небольшими тиражами… По-прежнему увлекаюсь поэзией. Предпочитаю представителей старшего поколения — Бородулина, Буравкина, Гилевича. Интересные подборки дает альманах «Першацвет». Опыты молодых заметно отличаются от традиционной белорусской поэзии, которая всегда была немного грубоватой, «мужицкой». Наверно, многие из дебютантов в будущем станут известными поэтами.

*1997*

## «РАДЗІМА НЕ ТАМ, ДЗЕ ЖЫВЕЦЦА БОЛЬШ СЫТНА І БЕСКЛАПОТНА, А ТАМ, ДЗЕ ТВАЕ КАРАНІ, ДУША, ДЗЕ ТЫ САМ — ЧАСЦІНКА ЎСЯГО»

*Трапяткі, бы свежы і пяшчотны пошум бярозавага гаю, лірызм. Тонкі псіхалагізм, які пранікліва і хвалююча раскрывае маладую душу. Асаблівы эмацыянальны настрой і летуценная рамантыка. Глыбокі і занепакоены роздум пра вечнае — што ёсць чалавек на зямлі і што для яго значыць Радзіма. Мудрая філасофія жыцця з усімі яго праявамі, складанасцямі, паваротамі. Узнёслая песня пра наш лес як сімвал велічнай прыгажосці і мужнасці беларускага народа...*

*Усё гэта — пісьменнік Іван Навуменка. Усё гэта непарыўна зНітавана, арганічна пераплецена ў яго плыннай творчасці, вызначае яго талент — талент высокага грамадскага гучання, надзвычай багаты сваёй чыстай духоўнасцю, творчай і чалавечай сутнасцю.*

*Сёння народны пісьменнік Беларусі, прафесар, акадэмік, вядомы грамадскі дзеяч Іван Якаўлевіч Навуменка — званы госць «Рэспублікі». Пра што наша гутарка? Мы не ставілі сваёй мэтай аналізаваць багатую і разнастайную творчасць пісьменніка з пункту гледжання літаратурнай крытыкі — гэта даўно, глыбока і вельмі цікава зрабілі даследчыкі. Мы ўзялі толькі адну, але, безумоўна, самую важную тэму — Радзіма ў творчасці і жыцці Івана Навуменкі.*

### «Лес, як і чалавек, бывае сумны»

*Яго творчасць, вобразна кажучы, бы вырасла з роднай зямлі. У ёй фарбы, пахі, гукі, настрой беларускага лесу, поля, лугу, рэчкі, неба, жывы голас, мудрасць, сама існасць нашай Бацькаўшчыны. Давайце паслухаем: «Лес, як і чалавек, бываў сумны і радасны, гнеўны і добры, у яго было тысяча казак і тысяча песень. Настрой лесу мяняўся кожнага дня і кожнай гадзіны».*

*Гэтыя вобразы — з дзяцінства Івана Навуменкі, з палескага мястэчка Васілевічы і наваколля, дзе 16 лютага 1925 года нарадзіўся пісьменнік.*

*— Іван Якаўлевіч, беларускае Палессе дало нам шмат выдатных творцаў. Можа, сама прырода гэтага краю, яго характар, ну, калі ўжыць вобраз, музыка яго прыроды ўжо вельмі спрыяюць развіццю творчай асобы. Ці адчуваеце вы асабіста гэта на сабе?*

— Безумоўна, усё тое, што я бачыў і адчуваў сярод роднай палескай прыроды ў дзяцінстве, мяне і зачароўвала, і хвалявала, стварала мой душэўны настрой. Мноства пачуццяў ужо не мясцілася ў маёй душы, хацелася неяк выказаць іх, падзяліцца з людзьмі. Так, мой радзінны кут, мае Васілевічы, і ўсё, што жыло тут навокал, была тая рэальная глеба, на якой і з якой вырасла мая творчасць.

## «І мараль, і маё сумленне — адтуль, з дзяцінства»

*Ды яшчэ кнігі, любоў да якіх поўнасцю запаланіла сэрца хлапчука. Чытаць пачаў рана, здаецца, з другога класа школы. Затым у яго дзяцінства прыйшлі Купала і Колас і сталі поўнымі ўладарамі дум. Асабліва Якуб Колас, гэты вельмі зямны паэт, таму такі блізкі будучаму пісьменніку.*

*— А хто вашы бацькі? І што самае неабходнае ў жыцці далі яны вам?*

— Далі ўсё. Я з простай сям'і. Майго бацьку Якава Піліпавіча дзед хацеў пасяліць на хутары. Ён не захацеў і пайшоў на чыгунку ва ўзросце дзесьці 17 гадоў. З цягам часу выбіўся ў малодшыя кандуктары. Потым працаваў стрэлачнікам гадоў аж трыццаць. Маці Марыя Пятроўна — звычайная сялянка з суседняй вёскі Бабічы.

У нас было чацвёра дзяцей. На сціплым акладзе стрэлачніка не пражылі б, таму на прагонах садзілі бульбу. Трымалі карову. А вось нарыхтоўка сена была для мяне ў дзяцінстве самай любімай работай: і касіў росную траву, і зграбаў духмянае сена, і стог клаў. Колькі гадоў мінула, а і цяпер гэта ўсё ўмею.

І нормы маральныя, якія склаліся ў маім характары, і сумленне маё — усё адтуль. Ніякай раскошы не было, вучыўся я добра, а вопраткі амаль ніякай не было, насіў тое, што засталося ад суседняга хлопца, які паехаў у Маскву. І на заробкі вельмі рана пайшоў, на тую ж чыгунку.

*— Вы вельмі шмат напісалі пра сваё дзяцінства…*

— Так, шмат, бо гэта тое, пра што наша з вамі зараз гутарка. Пра нашу з вамі Радзіму, якая пачынаецца з дзяцінства. У гэты перыяд малады чалавек набывае столькі ўсяго важнага, што яно застаецца з ім на ўсё жыццё, вызначае яго характар і вельмі часта — ягоны лёс. Такое прыходзіць у дзяцінстве, на малой радзіме чалавека, і падхопліваецца, працягваецца юнацтвам…

## Бэз сямнаццатай вясны

*Пара юнацтва — сямнаццатая вясна. Што прынесла яна будучаму пісьменніку? Мая сямнаццатая вясна, расказвае Іван Навуменка вуснамі аднаго свайго героя, была вельмі багатай на кветкі, на цеплыню, на тыя цудоўныя дні, калі, здаецца, сама зямля спявае песню сонцу, жыццю, высокаму сіняму небу. Даўно ўжо з усіх кветак я найбольш палюбіў бэз… Але бэз у гэтую вясну на першым часе не хваляваў мяне і не радаваў зусім. Упершыню за многія гады і мне, і маім сябрам не трэба было здаваць экзаменаў…*

*— Іван Якаўлевіч, вы з таго пакалення, якому было лёсам наканавана прайсці праз вайну, панесці вялікія страты.*

— Так, Айчынная вайна супала з маім юнацтвам. Я пабачыў і перажыў шмат усялякага, як і мае хлопцы-равеснікі, як і мільёны савецкіх людзей. Тады разам сышлося і гераічнае, і трагічнае. У першы месяц баёў тыдзень ці два быў у знішчальным батальёне, спаў з вінтоўкай, прычым з вучэбнай — во як! — на саломе ў класе. Потым нас, непаўналетніх, з таго батальёна адлічылі.

Паспрабавалі ісці ў водступ, ды вайна дагнала каля Дняпра. Недзе ў канцы восені 41-га з ліку вучняў старэйшых класаў у мястэчку стварылася невялікая падпольная група, у якую ўваходзіў і я.

У далейшым, ужо ў сорак трэцім, я быў разведчыкам дэсантнай групы капітана Манзіенкі, якая дзейнічала ў калінкавіцкіх і васілевіцкіх лясах. Быў сувязным, а потым байцом у партызанскай брыгадзе імя Панамарэнкі.

Савецкая Армія вызваліла прыдняпроўскае Палессе восенню сорак трэцяга года. Пасля партызан я трапіў спачатку ў запасны полк, а потым на фронт. Удзельнічаў у баях пад Ленінградам, на Карэльскім перашыйку, ва Усходняй Прусіі і Сілезіі.

*— І пасля вайны вы шмат гадоў аддалі журналістыцы…*

— Так. Спачатку працаваў уласным карэспандэнтам мазырскай абласной газеты «Бальшавік Палесся», адначасова завочна вучыўся на філалагічным факультэце Белдзяржуніверсітэта. За гэты час аб’ездзіў усё Палессе, пісаў заметкі, нарысы, фельетоны і вершы. Добра пазнаў гэты край, мой светапогляд вельмі пашырыўся. Пазней працаваў у «Звяздзе», часопісе «Маладосць». Пачатак творчага шляху — 1955 год, калі ў «Маладосці» былі надрукаваны мае першыя апавяданні «Сідар і Гараська», «Эх, махорачка…».

## Паслухайце, як шуміць вецер у соснах…

*Радзіма — гэта святое, яе мінулае, сучаснае і будучае. Мы з вамі і нашы продкі. Гэта, канешне, і характар народа, які найбольш поўна праяўляецца ў часы цяжкіх выпрабаванняў. Безумоўна, для нашага народа такое выпрабаванне на адданасць Радзіме — Вялікая Айчынная вайна. На гэтую тэму Іван Навуменка напісаў шмат. Але ж, безумоўна, галоўнае месца тут займае яго вядомая эпапея аб барацьбе беларускага народа супраць гітлераўцаў з трох раманаў: «Сасна пры дарозе», «Вецер у соснах», «Сорак трэці». Над імі пісьменнік працаваў больш дзесяці гадоў. Трылогія належыць да самых значных дасягненняў беларускай літаратуры, яна прынесла Івану Навуменку шырокую вядомасць.*

*— Іван Якаўлевіч, лёс Радзімы, лёс беларускага народа найбольш глыбока раскрыты, па-філасофску асэнсаваны ў гэтай вашай трылогіі. Падзеі ў «Сасне пры дарозе» адбываюцца*

*ў невялікім беларускім мястэчку і яго наваколлі. Па шмат якіх прыкметах угадваюцца вашы родныя Васілевічы. Гэта і ёсць, Іван Якаўлевіч, ваша малая радзіма ў часы цяжкіх выпрабаванняў?*

— Так, і гэты раман, і наступныя — «Вецер у соснах», «Сорак трэці» — пра яе, маю малую радзіму, пра тое, што ёй выпала на долю, як яна ўсё гэта вынесла, чым заплаціла за перамогу над фашызмам.

Вялікая Айчынная была і засталася ў гісторыі чалавецтва агромністай эпахальнай падзеяй, і ўсю праўду пра яе ведае народ, тысячы і тысячы яе ўдзельнікаў, якія яшчэ жывуць сярод нас. Калі мы пішам аб вайне, то павінны раскрыць гераізм яе ўдзельнікаў, бо народ у Вялікай Айчыннай вайне здзейсніў найвялікшы подзвіг. Былі і баязліўцы, падлюгі, дэзерціры, а на акупіраванай зямлі былі паліцэйскія, здраднікі. Але ж гэта ні ў якім разе не азначае, што кожны акт мужнасці, гераізму недзе побач суправаджаўся здрадніцтвам. Пра ўсё гэта, вельмі няпростае, гераічнае і трагічнае,— у маёй трылогіі.

## «Гэта — мая калыска»

*Для Івана Навуменкі Радзіма — паняцце не абстрактнае, а вельмі нешта рэальнае і канкрэтнае, да болю блізкае і зразумелае. Яно ў тых самых жывых вобразах роднай прыроды. Пытаюся, у чым, на погляд Івана Якаўлевіча, самая арганічная яго сувязь з Радзімай?*

— Складанае пытанне. Калі пісьменнік піша пра нейкія падзеі, ён зрокава бачыць тую зямлю, дзе гэта адбываецца. Абавязкова! Вось для мяне такое проста неабходна. Нібы сама тая зямля, тая мясцовасць дыктуюць табе рытм, даюць творчы настрой.

Па-мойму, пісьменнік павінен адчуваць дыханне роднай зямлі праз усё сваё жыццё. Са мною такое адбываецца да гэтага часу.

Я ў нейкага мудраца чытаў, што, калі ты быў сведкам вялікай падзеі, ты павінен апісаць яе — для самога сябе, для свайго народа, для гісторыі. Таму я так шмат пісаў пра

вайну. Аднойчы работнік архіва сказаў мне: «У нас столькі матэрыялаў, чаму ты не бярэш і на аснове іх не расказваеш пра вайну?»

А я сваё напісаў — тое, што для мяне блізкае, дарагое, хвалюючае. Як я бачу яго, успрымаю і разумею — сваім розумам, сваім сэрцам, сваімі пачуццямі, а не чужымі. Я ж сам хадзіў і хаджу па гэтай зямлі. У гэтым сэнсе радзіма для кожнага пісьменніка — перш за ўсё.

*— Вы зараз далёка ад сваіх родных Васілевічаў. Калі думаеце пра іх, што перш за ўсё ўспамінаеце?*

— Я ўжо вельмі немалады чалавек. І калі не магу заснуць, успамінаю найбольш блізкія для мяне родныя мясціны, якія асабліва падабаюцца: ці дарогу каля Васілевічаў, ці лес, які з дзяцінства дарыў мне так шчодра грыбное шчасце… І тады супакойваюся, тады засынаю. Гэтыя мясціны — мая калыска…

## Што нам наканавана лёсам

*— Іван Якаўлевіч, Радзіму не выбіраюць, як не выбіраюць і бацькоў, яна ў кожнага з нас такая, як наканавана лёсам. Няхай мне асабіста будзе ў Беларусі вельмі цяжка, вельмі сумотна, але іншай Радзімы я не хачу.*

— Я з вамі абсалютна згодзен. Калі б мяне заманьвалі ў іншыя краіны, як кажуць, самымі смачнымі пірагамі, рознымі дабротамі,— пераехаць з Беларусі ніколі б не згадзіўся, пра такое нават і думаць для мяне вялікі грэх. Лепшай краіны, чым Беларусь, для мяне на свеце няма. Гэта наша зямля, наша неба. Гэта мая Радзіма, жыццё, лёс.

Я не так і многа ездзіў па замежных краінах, але ўсё ж ездзіў. Тры месяцы быў у Амерыцы як член беларускай дэлегацыі на сесіі ААН. Божа мой, як жа доўга цягнуліся гэтыя месяцы!

*— Дык жа ў Амерыцы, відаць, было цікава?*

— Дадому хацелася! Дадому! Хай там за акіянам і магазіны паўнейшыя, чым у нас, і той самы іх хвалёны сэрвіс, і прагрэс на кожным кроку, але ж нястрымна цягнула наша

простае, роднае, шчырае — наша беларускае. І так усюды. Такая настальгія, такі сум, ну проста смяротны сум.

Той, скажам, пісьменнік, які пакідае сваю Радзіму і жыве на чужыне, па-мойму,— няшчасны чалавек перш за ўсё сам для сябе. Ён жа жывыя карані парваў, якія сілкавалі яго творчасць. Ён жа, як тое дрэва, вырванае з роднай цёплай зямлі і закінутае на чужую, халодную і няветлівую. Не, Радзіма не там, дзе жывецца больш сытна і бесклапотна, а там, дзе твае карані, душа, дзе ты сам жывая часцінка ўсяго.

## Нельга забываць святое

*У наш час, на жаль, мы рэдка чуем слова «Радзіма» ў тым высокім і глыбокім сэнсе, як гэта разумее наша старэйшае пакаленне, да якога належыць пісьменнік Іван Навуменка. Яшчэ радзей — слова «патрыятызм». У першую чаргу гэта датычыць моладзі — быццам саромеюцца нашы юнакі і дзяўчаты гэтых слоў. А многія ж яны з тых самых, атуленых лесам беларускіх вёсачак, якія і даюць пачатак нашай Радзіме, якія мы павінны называць па імені.*

*Дык што, суровы рынак з яго жорсткімі законамі выцясняе з нашых сэрцаў гэтыя светлыя пачуцці, якія ствараюць вобраз Радзімы? Няўжо такое прыйшло ў жыццё і свядомасць нашых дзяцей? Што ж думае на гэты конт пісьменнік Іван Навуменка, пясняр маладосці?*

— Тут сітуацыя далёка не адназначная. Мы, дарослыя, не павінны чакаць і катэгарычна патрабаваць ад нашых дзяцей, каб яны былі такія ж, як мы. У мяне ёсць дзеці. Старэйшая дачка Валерыя, не хвалюся, але ж кажуць, што яна вельмі добры хірург па аперацыях на воку, трошкі здзіўлена. Прыходзяць, кажа, да нас ветэраны, і так некаторыя паводзяць сябе, быццам на іх уся гісторыя трымаецца…

Нельга так. Нашы дзеці таксама нямала дамагліся, таксама шмат зрабілі для Радзімы. Мая другая дачка Таня жыве ў Маскве, замужам. Дык яна падручнікі па музыцы для школ піша, і таксама няблага атрымліваецца. Сын Павел скончыў Белдзяржуніверсітэт, філолаг, ён выкладае беларускую літаратуру.

Я не згодны, калі гавораць, што моладзь наша зусім сапсаваная. Яна розная, як і мы, старэйшыя. Што ж датычыць светапогляду, інтарэсаў сучаснай моладзі, ну дык, як кажуць, другі час — другія песні.

*— А вашы дзеці таксама душэўна і арганічна прывязаны да сваёй малой радзімы, як і іх бацька?*

— Прывязаны. Нават масквічка Таня кожнае лета прыязджае да нас, ды хутчэй на дачу. Дача ў мяне сціплая, на той самай вядомай Лысай Гары. Але ж гэта прырода. Вось і карціць сюды прыехаць, і адпачыць, і на дачных сотках папрацаваць.

Ну а ўнук мой Дзіма, сын дачкі Тані, дык усё лета на дачы. Неяк яго спыталі: дзе ты так загарэў? «Як дзе? — здзіўляецца,— на дзедавых сотках».

*— У свой час вы займалі вельмі важныя пасады. Былі старшынёй Вярхоўнага Савета Беларусі, віцэ-прэзідэнтам Акадэміі навук. Карацей, вялі шырокую грамадскую, навуковую дзейнасць. Ці многа дала яна вам, пісьменніку?*

— Мая галоўная пасада — пісьменнік, я так лічу. Яшчэ Пушкін адкрыў, што паэт — вышэй цароў, калі ты паэт, жыві адзін. Вядома, тая дзейнасць памагла мне бачыць, успрымаць і прымаць самы непасрэдны ўдзел у вырашэнні маштабных праблем, якія стаялі перад нашай рэспублікай. Таму тая работа — мой жыццёвы вопыт. Але калі пісьменнік залішне ўсяму такому аддасца, то ён як творца кончыцца…

## Мы — вялікія палітыкі

*Але ж у наш час ніяк нельга пісьменніку жыць аднаму. Бо лёс Радзімы, і не толькі цяпер, вырашаецца нашай агульнай працай, творчымі здзяйсненнямі. У тым ліку і актыўным удзелам пісьменніка Івана Навуменкі, яго калег па творчасці ў грамадска-палітычным жыцці.*

*— Сёлета адбылася вельмі сур'ёзная сустрэча прэзідэнта рэспублікі А. Р. Лукашэнкі з членамі Рады Саюза беларускіх пісьменнікаў. Гэта быў прынцыповы дыялог у імя нашай Беларусі. Якую пазіцыю, на вашу думку, павінен сёння*

*займаць пісьменнік, каб памагчы свайму народу, сваёй Радзіме хутчэй пераадолець цяжкасці?*

— Аляксандр Рыгоравіч вельмі дакладна сказаў на той сустрэчы, што такое літаратура, хто такія пісьменнікі і як нам усім разам ладзіць і паляпшаць жыццё ў нашым агульным доме. Літаратура — гэта вялікая палітыка, пісьменнікі — гэта вялікія палітыкі, падкрэсліў прэзідэнт. Але ён хоча, каб пісьменнікі сваю палітыку рабілі не на вуліцах, не крыкам і гвалтам, а пяром. Наша моцная зброя павінна прымяняцца на карысць народа і дзяржавы. Навошта нам рваць чубы адзін аднаму? Вельмі правільна сказана.

Безумоўна, пісьменнік павінен быць грамадзянінам у самым поўным сэнсе гэтага слова. А ўсё залежыць ад тваіх адносін да таго, што адбываецца навокал. Грамадзянскасць арганічна звязана з высокай асабістай мараллю чалавека, такімі душэўнымі якасцямі, як добрасумленнасць, справядлівасць, нецярпімасць да няпраўды, чуласць да чужога болю…

— *Іван Якаўлевіч, што вы больш за ўсё цэніце ў людзях?*

— Дабро. Каб чалавек на дабро адказваў дабром. Бо вельмі ўжо прыкра, калі чалавеку дабро зробіш, а ён так табе аддзячыць, што проста здзіўляешся, што гэта за чалавек?

## «Усе мы тут родам…»

— *Напрыканцы нашай гутаркі мы зноў вярнуліся на нашу малую радзіму. Вось, Іван Якаўлевіч, прыязджаеце ў свае родныя Васілевічы. Куды адразу ідзяце, з чым хочаце сустрэцца?*

— Канешне, абходжу найбольш любыя мне мясціны. Перш-наперш іду ў лес. І скажу шчыра, калі пабудзеш там з тыдзень, здаецца, што нікуды адсюль і не выязджаў. Усё астатняе робіцца маленькім, а галоўнае тут, дзе ты з'явіўся на свет…

*Я вельмі разумею вас, Іван Якаўлевіч. Бо і сам, калі, скажам, летам прыязджаю ў сваю родную вёску Пешкі, што ў Бярозаўскім раёне, а з усёй маёй радні там засталася толькі сястра Марыя, дык што, вы думаеце, раблю? Знімаю з ног гарадскі абутак і босы хаджу па пожні. Як у дзяцінстве. І*

*калючая пожня здаецца мне мяккай і ласкавай. Бо яна — на маёй зямлі.*

*І я шчыра ўдзячны вам, шаноўны Іван Якаўлевіч, за тое, што гэтай нашай сустрэчай і гутаркай, сваім глыбокім роздумам пра самае святое ў нашым жыцці вы і мяне на нейкі час вярнулі на маю малую радзіму. І, спадзяюся, многіх нашых чытачоў. Таму хачу закончыць гаворку вершаванымі радкамі, якія нарадзіліся ў маім сэрцы:*

*Усе мы тут родам на гэтай зямлі,*
*З якое жывём і з якое пайшлі.*

*1998*

## «ВРЕМЯ ДУМАТЬ О СВОЕЙ КУЛЬТУРЕ И ЯЗЫКЕ»

*Прозаик, литературовед, советник президиума Национальной академии наук Республики Беларусь, председатель специализированного совета по защите кандидатских и докторских диссертаций, председатель республиканского Комитета славистов. Вряд ли стоит давать какие-либо характеристики, представляя Ивана Яковлевича Науменко читателям. Лучше всего это сделает сам интервьюируемый. Нам бы хотелось только поздравить известного белорусского писателя с 75-летним юбилеем, который он отметит 16 февраля.*

### Хотел быть, как Тургенев

*— На ваш взгляд, какое место занимает белорусская литература среди других европейских литератур?*

— Для того чтобы рассуждать о становлении литературы и ее развитии, следует хоть немного знать историю нашей страны. В Средние века, когда творили Скорина, Будный, Тяпинский, была довольно развитая белорусская литература духовного и отчасти светского характера. Известные произведения «Ліст да Абуховіча», «Прамова Мялешкі» свидетельствуют о расцвете сатиры. В XIX столетии начался процесс «адраджэння» и появилась новая литература — гражданская,

патриотическая. Самыми крупными писателями того времени были Богушевич и Дунин-Марцинкевич. Гиганты XX столетия, безусловно, Колас, Купала, Богданович…

Мы не говорим об особенностях развития национальной культуры и причинах отставания в тех или иных областях. Но последние 80 лет нашей литературе пришлось развиваться ускоренными темпами. Следует признать, что и русская, и польская, и даже украинская литература более развитые. Сказался тот факт, что белорусское слово стало более-менее свободным только после первой русской революции 1905 года, когда стали выходить газеты «Наша доля» и «Наша ніва». И все же мы имеем прекрасные произведения, которые можно ставить в один ряд с классическими европейскими. И теперь, можно сказать, мы идем в ногу со всем миром.

*— Каждую творческую Личность всегда окружала молодая поросль. Как вы проходили этот этап, и какая молодежь окружает сейчас вас?*

— Я рано и взахлеб начал читать книги серьезных авторов: Бальзака, Стендаля, Коласа... Долго восхищался коласовской «Дрыгвой» (кстати, собрал более 10 изданий этой книги, есть даже на разных языках). В то время писатель у меня ассоциировался чуть ли не с Богом. А теперь вот и я хожу на встречи с молодыми и, наверное, представляю для них какой-то интерес.

Кстати, такой курьез: знаю одного писателя, который старался работать «под меня». И все-таки любая творческая индивидуальность идет своим путем.

*— Над какими произведениями работаете сейчас?*

— 75 лет — не самый лучший возраст для творчества. Понемногу работаю в жанре рассказа. Скоро выйдет книга о творчестве раннего Кузьмы Чорного. Меня все больше интересует тема исследования чужого творчества. Считаю, что писатель может больше и интересней сказать о коллегах, чем критик. Еще хочу заняться темой: истоки белорусской смеховой культуры. Эта мгновенная реакция, присущая только человеку, свидетельствует об искорке божьей в каждом из нас.

*— Большинство ваших художественных произведений автобиографичны. Не превращается ли ваша жизнь в одно большое эпическое произведение?*

— Жизнь каждого зависит от определенных обстоятельств. Может, я охотнее писал бы о любви, как Тургенев (он нравится мне больше других), если бы моему поколению не пришлось пережить войну. Она вобрала в себя все наши чувства. Сначала — работа в подполье, затем был призван в армию, побыл под Ленинградом, прошел Польшу, Литву, Чехословакию. Я знаю, что такое подлинный интернационализм и неподдельная братская любовь. О чем же писать, как не о пережитом?..

## Колас и Купала тоже оппозиционеры

*— Писатель и политика. Какими должны быть взаимоотношения творческой личности и власти?*

— Писатель вращается в рамках событий, носящих и политический характер. Мне хотелось бы заменить «взаимоотношения с властью» словом «мировоззрение». Нужно не подпевать, не прислуживать, а показывать правду. Возьмите «Тихий Дон» Шолохова: как правдиво показана революция, ужасы того времени! Сейчас у нас выходит серия книг «Памяць», где отдается дань людям, погибшим за революцию, во время Великой Отечественной войны и во время репрессий. Писатель не должен быть догматиком, этаким дятлом, клюющим официальную доктрину. К слову сказать, я не так давно открыл для себя «Закон Божий». А ведь такие вещи дают взлет мысли, раскрепощают фантазию.

И еще хочу сказать: мне кажется, социалистическая идея, еще недавно доминирующая в обществе, не погибнет. Люди так или иначе должны идти к какому-то равенству. Ведь если одни будут есть семгу, а у вторых не хватит денег на камсу, то вспыхнет новый и уже знакомый конфликт.

*— Не так давно уехали из страны прекрасные писатели Некляев, Быков. Часть находится в оппозиции к власти. Столь нелицеприятные обстоятельства закономерны или это говорит о кризисе в литературном процессе? А может, в основе личностных поступков лежат столь глубинные и трагичные переживания, что мы не имеем даже права рассуждать о них?*

— Мне кажется, что многие люди, которые творчески не состоялись, обвиняют власть в том, что она не дала им развернуться.

А с другой стороны, за всю историю было много писателей, оппозиционно настроенных к власти. Даже Пушкин ответил царю, что был бы с декабристами на Сенатской площади. Да, он был человеком государственной идеологии, прославлял Петра и других власть имущих, но ведь это его слова: «И в мой жестокий век восславил я свободу…» Можно припомнить «Путешествие из Петербурга в Москву» Радищева. Но проще взять наших классиков. «Устаньце, браткі, устаньце, хлопцы! Устань ты, наша старана! Ужо глядзіць нам на палаткі жыцця новага вясна!» (Колас). «Я маўчу, маўчу, трываю, ды трываю да пары. Але скора загукаю: стрэльбы, хлопчыкі, бяры!» (Колас). Судя по ранней лирике, они были чистой воды оппозиционеры. Уже в советское время Купала писал: «Свае таргуюць і чужыя табой, няшчасны беларус…» Кстати, сейчас в Собрании сочинений Купалы издаются около 60 практически неизвестных, запрещенных стихотворений. Наверное, писателя можно сравнить с чутким механизмом, реагирующим на несправедливость и негативные проявления. Традиционно оппозиционная литература появляется в переломные, кризисные времена.

## О, времена «великой свободы»!

— *Большинство ответов на жизненные вопросы мы находили в литературе. Как вы считаете, литературные произведения нашего времени соответствуют требованиям современного человека?*

— Пришло время «великой свободы». Из-за того, что у каждого графомана есть амбиции, на книжный рынок хлынул поток ширпотреба. Такой опыт был и ранее: в смутные царские годы, в бурные первые годы советской власти, в трудные времена керенщины… Литература должна быть избирательной, близкой к идеалу. На эту тему есть анекдот. Летит поп в самолете первым классом, не отказывается ни от коньяка, ни от закусок. Тут стюардесса объявляет: «Наш самолет поднялся на высоту 10 тысяч метров». Батюшка стал категори-

чески отнекиваться от всего. И пояснил: «Владыко близко!» Подобно этому попу, многие пытаются заработать «капитал» на конъюнктуре.

Да, в жизни плохого больше, чем хорошего, но нельзя показывать только плохое, размазывая хорошее по стенкам. Не нужно вести себя, как тот поп.

— *Помню, в начале 90-х годов вас упрекали в том, что вы не поддерживаете открыто идею национального возрождения.*

— Тогда я был вице-президентом Академии наук. Мне пришлось выдержать настоящую борьбу с «Тутэйшымі» и еще одним молодежным объединением… Один раз они хотели провести встречу с комсомольцами Института истории. Расклад сил был таков: 300 человек к 15. Да и те 15 попрятались. Понятное дело, пришлось воспротивиться кое-чему. Помню, както моя аспирантка спросила: «Почему вы не с нами?» Ответил: «С кем, с вами? Разве я враг белорусской идее или языку?»

Сейчас меня беспокоит иное. Я рад, что будет Союз Беларуси и России. Но не дай Бог, нам будет отведена роль Северо-Западного края или пройдет вариант политика (который, кстати, воспитывался в Борисове) — войти в состав России областями!

Многие мои коллеги-писатели, и я в том числе, уверены, что Беларусь еще не исчерпала своих потенциальных творческих возможностей. Нужно оставаться государством, думать о своей культуре и языке.

— *Говорят ли ваши дети и внуки на языке, на котором вы пишите книги?*

— Одна дочь живет в Москве, преподает в Гнесинском институте, пишет книги по музыке. В свое время она писала диссертацию на белорусском материале. Вторая — глазной хирург, сын — преподаватель университета. Потенциальные носители языка, как и многие наши соотечественники, они белорусским языком в обиходе не пользуются. Вообще, это слишком сложный вопрос. Для того чтобы как-то исправить ситуацию, нужно в первую очередь обратить внимание на деревню и поддержать ее. Ведь настоящая хранительница национального языка — белорусская деревня.

*2000*

## «У МЯНЕ ШЧАСЛІВЫ ЛЁС»

*Заўтра ў нашым настольным календары памятная дата — «75 гадоў з дня нараджэння І. Я. Навуменкі, беларускага пісьменніка і літаратуразнаўцы, акадэміка НАН Беларусі, члена-карэспандэнта, доктара філалагічных навук, прафесара, заслужанага дзеяча навукі Рэспублікі Беларусь».*

*Праўда, складальнікі календара так «пастараліся», вызначаючы навуковае званне юбіляра, што побач з акадэмікам упісалі яшчэ і член-карэспандэнт. Гэта ўсё роўна, як генерала назваць палкоўнікам. А вось званне народнага пісьменніка, якое яму было прысуджана пяць гадоў назад, не ўзгадалі. На што сам Іван Якаўлевіч з усмешкай зазначыў карэспандэнту «Белорусской нивы»:*

— Не ўрад прысвойвае гэта званне, а сам народ вызначае. Па-сапраўднаму ж у нас было і ёсць толькі два народныя пісьменнікі — Янка Купала і Якуб Колас.

*Прызнацца, такое ўдакладненне, сціпласць юбіляра мне вельмі спадабаліся, і я тут жа задаў сваё першае пытанне.*

*— Так ужо здарылася, што большасць беларускіх пісьменнікаў, як, дарэчы, і навукоўцаў, выхадцы з вёскі. А многія з іх не толькі таленавітыя, але нават і фігурай сваёй проста волаты. Такія нетаропкія, грунтоўныя мужыкі. Напрыклад, Танк, Мележ, Брыль. Некаторыя далучаюць да гэтай кагорты і Навуменку. Кажуць, што нават жонку сваю ён выбіраў «грунтоўна, дзеля жыцця». Дык вось, што адрознівае ў гэтым сэнсе пісьменніка, выхадца з вёскі, ад гарадскога інтэлігента? І, урэшце, што значыць народнасць таго ці іншага твора. Якія тут крытэрыі?*

— Разумееце, я думаў над гэтым пытаннем. Скажам, Пушкін, Талстой — гэта вяршыні дваранскай культуры, багатай, разнастайнай. Мы ж усвоілі нашу беларускую культуру, сялянскую. Вось бацька мой, скажам, рабочы, і ў анкетах я пішу, што з рабочых. Усё жыццё бацька працаваў на чыгунцы: стрэлачнікам, кандуктарам у Васілевічах. Пасёлак гэты ніколі не быў сапраўдным мястэчкам. Так сабе, вялікае казённае сяло, якое ўзняла чыгунка. Тут усё амаль як у Лынькова: і дэпо, і свой паваротны круг, і вадакачка…

Дык вось, сялянская культура — гэта, па сутнасці, народная культура, таму што паняцце дабра і зла, скажам, і ў сялянскай культуры, і ў народнай культуры ўвогуле ёсць паняцці прыгожага, добрага. Мне здаецца, што ў народнай культуры ўвогуле не расчляняецца прыгожае і добрае, этыка з эстэтыкай і г. д. У дадзеным выпадку ўсё супадае. Без гэтага няма і пісьменніка.

Вось я буду пісаць чарговы артыкул пра Івана Мележа, пра яго творчасць. Трэба сказаць, што яго раман «Людзі на балоце» — проста бліскучы і заснаваны ён цалкам на народнай культуры, яе крытэрыях. Скажам, ёсць пісьменнікі Захаду, тыя ж Флабер, Стэндаль, Рэмарк. Яны ўжо ад народнай культуры адышлі, хаця нейкія яе элементы засталіся. Гэта ўжо ў многім гарадская культура. Але калі паставіць побач з іх творамі «Людзі на балоце», то раман гэты зойме там дастойнае месца.

Аказваецца, сялянская народнасць сiганула ва ўсе закуткі, у тым ліку і духоўныя, аб чым вы ў мяне пытаецеся, і мае свае крытэрыі. Больш таго, мае свой цэласны свет, у якім Бог жыве. Напрыклад, той жа Мележ пісаў пра вёску, якую любіў і ў якой вырас. Са старонак яго кніг паўстаюць як жывыя не толькі вобразы галоўных герояў рамана — Васіля, Ганны, Яўхіма,— але і другасныя персанажы. Скажам, Ігнат, Сарока, якая амаль што вершам прыгаварвае, такая вось каларытная цётка. Ці, скажам, разумнік Андрэй Руды, які трошкі да палітыкі цягнецца і газеты чытае, знае словы «политический», «фактический», і Хоня па клічцы «бацько і матко», і гэтак далей.

Што гэта азначае? Што наша народная культура дасягае шэрагу момантаў тых вяршынь, якіх дасягнула сусветная літаратура. Прывяду прыклад з Коласа. Вазьміце паэму «Новая зямля».

Ад гоману бароў,
Ад песень дудароў,
Ад светлых воблікаў
Загінутых дзяцей.
Ад тысячы ніцей,
З якімі злучана
Жыццё і небыццё…

Тут паэт паставіў філасофскую тэму, адкуль паходзіць мастацтва, вытокі яго. Скажам, «Сымон-музыка». Дык у галоўнага героя, калі ён грае, чэрці паміж пальцаў скачуць, дапамагаюць. Што такое таленавіты чалавек? Што дае крылы яго таленту? Чаму талент пакарае другіх, бярэ ў палон? Гавораць, самы харошы палон, калі чалавек сам здаецца,— гэта палон эстэтычны, палон прыгажосці.

У нас, беларусаў, зноў жа кранаючы ваша пытанне, вёска заўсёды была ахоўніцай культуры. Так здарылася, што пануючыя класы, тыя самыя Радзівілы, Сапегі, Польшчы служылі. Гэта ўжо дробная шляхта зачынала беларускую літаратуру. Той жа Дунін-Марцінкевіч, потым Багушэвіч, Купала, Колас. Нашу культуру ствараў і Пушкін. Яго творы былі ў кожнай сялянскай хаце. І Някрасаў, і Лермантаў… Карацей кажучы, наша сялянская «абстаяцельнасць» у тым, што спакус менш было. Калі чалавек да чаго прыхінаўся, то прыхінаўся грунтоўна. Можа, сам Бог так даў, што большая палова пісьменнікаў, і найбольш таленавітых, выйшла з вёскі. А вёска, паўтараю, гэта народная культура.

— *Добра. Цяпер давайце разбярэмся з другім пытаннем. Чаму інтэлігенцыя, выхадцы з вёскі, з гушчы народа, не толькі пісьменнікі, гуманітарыі, нейкім чынам бярэ ды адрываецца ад таго ж народа. Рве, так сказаць, сваю пупавіну, адракаецца ад яго?*

— Таму што, відаць, не Маркс прыдумаў класы і класавую барацьбу. Давайце глянем у гісторыю. Як утварылася наша Беларусь? Калі татары завалодалі Масквой, іншымі княствамі, то гэтая частка Кіеўскай Русі засталася адна. Утварылася Вялікае Княства Літоўскае, якое, з аднаго боку, кіравалася тагачаснай рускай культурай, а таксама і мовай, якую некаторыя зараз лічаць беларускай, але ж была яна заходне-рускай. І з другога боку — гаспадары, князі якога ўсе былі літоўцы. Вось такі гістарычны парадокс. Гэта ўжо пасля Люблінскай уніі, калі літоўскія князі аб'ядналіся з польскім каралеўскім дваром і, такім чынам, гаворачы сучаснай мовай, здрадзілі і нашаму народу, і яго праваслаўнай веры. Польшча стала «ад можа да можа» за кошт чужых зямель. А пасля Брэсцкай уніі становішча беларусаў карэнным чынам змянілася. Народ прымусілі пераходзіць на польскую мову, на якой пачалі

весці і ўсе дзяржаўныя справы, суды. Па-польску загаварылі пануючыя класы, а нізы, сяляне, сталі тутэйшымі. Усю беларускую культуру вышэйшае саслоўе пакінула, адраклося.

І тут трэба сказаць пра вялікі подзвіг Скарыны. Відаць, ён, як і ўсе геніяльныя людзі, напярэдадні Люблінскай уніі адчуваў небяспеку страты народам сваёй мовы і, каб захаваць яе, як Божае слова, выдаў на старажытнаславянскай мове свае 23 кнігі Бібліі. Вось пра гэта мы чамусьці не пішам. Скарына наперад глядзеў.

— *Гэта гісторыя, хаця і вельмі горкая і цікавая. А вось час сённяшні?*

— Ды прасцей не бывае. Мы так хутка мяняем сваё аблічча, становішча, што нават няма калі азірнуцца, каб зразумець, што страчваем. Мы зараз усю скуру пакідаем, вылузваемся, разумееце, разам з мовай. А дзеля чаго? Беларусь можа добра жыць, але ж гэтага трэба дамагчыся. І дзяржава можа не горшай быць, чым, скажам, Польшча, Літва або Латвія. Гэта можа быць толькі тады, калі мы вёску нармалізуем, калі яна стане паўнацэннай. Тады і дзеячаў розных, добрых і трывалых, як і ва ўсе часы дагэтуль, дасць яна свайму народу.

Што тут зробіш? Дэкрэтамі пытання мовы не вырашыш. Ніхто ж над нашым чалавекам не стаіць з нажом — гавары так, а ты вось так. У Маскве нашы выхадцы стварылі былі беларускія класы. Любаваліся год. Распаўся зараз той клас. Самі і распусцілі.

Зноў жа, няшмат такіх народаў на зямлі, якія адзін другога разумеюць і дзе не патрабуецца перакладчыка. Ёсць рускія, украінцы, беларусы. Ёсць датчане, шведы, нарвежцы. Яны адзін аднаго разумеюць. І ёсць харваты, сербы… Болей няма.

— *Калі мы ўжо такія пласты жыцця і гісторыі закранулі, то ці не скажаце некалькі слоў аб школьнай рэформе, што адбываецца ў нашай рэспубліцы. У многіх у яе адрас ёсць нараканні.*

— Я мала кампетэнтны ў гэтым пытанні. А па жыцці я бачу толькі сацыяльны бок. Ведаеце, мы жывем ужо не сацыялістычным жыццём. У нас ужо ёсць бедныя і вельмі багатыя. Узнікла праблема беспрацоўя, пагоршыліся магчымасці займець сваё жыллё. Цяжка ўладкавацца моладзі, асабліва тым, хто заканчвае школу, ПТВ і нават вышэйшыя навучаль-

ныя ўстановы. Хадзіць зараз дванаццаць год у школу, як гэта прадугледжана новай праграмай, таксама не ўсе змогуць, у тым ліку і па сацыяльных умовах. Мне здаецца, што савецкая школа, дзесяцігодка, самая лепшая.

Я быў у Амерыцы, у тым ліку і ў Нью-ёркскім універсітэце. Перакананы, нашы студэнты, каб не гаварыць многа, падрыхтаваны не горш. Іх універсітэт даваў дыплом, але ж не гарантаваў работу. Маеш сувязі — уладкуешся. Не маеш — не ўладкуешся. Так што гэтае рэформы я ў многім баюся. Самыя тыя рэфарматары, відаць, толкам не ўяўляюць, што гэта такое, да чаго яна прывядзе.

*— За вашымі плячыма добры кавалак жыцця, вопыту. Што больш за ўсё ў нашым грамадстве вас хвалюе?*

— Бездапаможнасць нармальнага працоўнага чалавека, будучыня яго дзяцей. Не ўсё атрымоўваецца ў нашым жыцці, вельмі цяжка выжываць сумленным працаўнікам. Я лічу, і гэта адназначна, што роля пісьменніка зараз зменшылася, і асабліва за час «перабудовы». А цяпер дык асабліва. Маеш грошы — любую макулатуру надрукуюць. І такіх «кніжак» мноства. Раней бы іх і на парог выдавецтва не пусцілі.

*— А што зараз уяўляе сабой Саюз пісьменнікаў?*

— Ведаеце, я туды ўжо і не хаджу. І часу няма, ды і ўзрост не той. Вось гавораць, акадэмік, пісьменнік. Не ў ВНУ трэба рабіцца пісьменнікам і акадэмікам. Маладым скажу, што большасць кніг я перачытаў недзе да шостага класа. У чатырох бібліятэках быў запісаны. У лясным тэхнікуме, леспрамгасе, сельсавеце, сваёй школе. Па вопыту ведаю, кнігу нішто замяніць не можа. Мне ўжо 75 гадоў. Падлеткам быў у партызанах, ваяваў на фронце, вучыўся, вырасціў дзяцей і маю ўнукаў. У мяне шчаслівы лёс. Але ж я ведаю, калі б мы не былі ў тым, вялікім Саюзе, то зараз увогуле не былі б як нацыя. Таму я за саюз з Расіяй, вялікай дзяржавай, якая, цвёрда веру ў гэта, устане з каленяў, а разам з ёй і мы ўступім у светлую будучыню, якую выпакутавалі абодва нашыя народы. Гэта і будзе той лепшы твор, аб якім марацць усе сумленныя людзі, і ў нас, і ў Расіі.

*2000*

## «МАЕ ГЕРОІ БЫЛІ РАМАНТЫКАМІ»

Л. Д. СІНЬКОВА. Дарагія сябры! Сёння мы з вамі ў гасцях у вядомага пісьменніка Беларусі — Івана Якаўлевіча Навуменкі. Гэта чалавек, які сваёй творчасцю даказаў, што кніга адкрывае свет. Ён — акадэмік Нацыянальнай акадэміі навук, віцэ-прэзідэнт Акадэміі навук, заслужаны дзеяч навукі нашай рэспублікі. А яшчэ ён вядомы, хрэстаматыйны пісьменнік, чые творы вывучаюцца і ў школе, і ў ВНУ.

Іван Якаўлевіч, у сваіх творах Вы расказваеце пра юнакоў, учарашніх школьнікаў, якія трапілі на вайну, і пішаце пра гэта глыбей за ўсіх іншых беларускіх пісьменнікаў. Скажыце, калі ласка, Вы свядома імкнуліся напісаць партрэт гэтага пакалення ці ён ствараўся сам сабой, па меры з'яўлення новых аповесцяў?

І. Я. НАВУМЕНКА. Я думаю, свядома, і ў гэтым нават бачу свой творчы лёс, бо лягчэй за ўсё мне пішацца пра тое, што бачыў на свае вочы, або сам перажыў, ці добра ведаю з чужых слоў. Менавіта гэтыя веды я лічу самымі важнымі і значнымі для маіх кніг. Іншых назіранняў у мяне не так ужо і шмат. Гэта тлумачыцца лёсам майго пакалення. Мы былі прывязаны да пэўнага месца: спачатку вучыліся 10 гадоў у школе, потым 5 гадоў у інстытуце. Таму ў нас не было магчымасці вандраваць па краіне, у адрозненне, напрыклад, ад М. Горкага, які абышоў амаль усю Расію. Ужо потым мы з Алегам Лойкам збіраліся разам абысці Беларусь. Людзі нават зласловілі — маўляў, абуліся ў лапці, павесілі торбы і пайшлі. У лапці мы не абуваліся, былі ў чаравіках, але ж прайшлі толькі Браслаўшчыну. У сваім жыцці і, канешне, многае бачыў: быў на вайне і ў партызанах, шмат ездзіў, ведаю многія мясцовасці. І ў сваёй творчасці апіраюся толькі на свой вопыт, на тое, што чуў, што бачыў, у чым непасрэдна прымаў удзел.

Л. Д. СІНЬКОВА. Тыя падзеі, якія Вы апісалі ў аповесцях «Сасна пры дарозе», «Вецер у соснах», «Сорак трэці» і да якіх звярнуліся і ў іншых сваіх творах, а таксама ў кніжцы «Дзяцінства. Падлетак. Юнацтва», сёння ізноў пановаму цікавяць і даследчыкаў літаратуры, і чытачоў сталага ўзросту, і вучняў. Калі чытаеш пра апісанае Вамі жыццё ва

ўмовах акупацыі, часам думаеш, што на фронце было лягчэй, і таму нездарма ўсе так ірваліся туды. А Вы ж там былі. Дык скажыце, калі ласка, дзе жыццё было больш складаным — у акупацыі ці на фронце?

І. Я. НАВУМЕНКА. Я лічу, што ў акупацыі было складаней. І нават партызанам жылося цяжэй, чым на фронце. Для маладога пакалення гэта быў вельмі змрочны час. Мы, маладыя, хацелі скончыць школу, пайсці вучыцца. Немцаў жа зусім не цікавіла тое, чаго хацелася нам. Яны імкнуліся як мага больш моладзі адправіць у Германію. Мы галадалі, елі суп з бруквы. І ўсе нашы высокія парыванні перакрэсліла акупацыя. Мяне акупацыя застала ўжо пасля IX класа (2 класы я скончыў за год). Пасля мы з хлопцамі сабраліся «ісці ў навуку». Аднак у гэты час увялі плату за навучанне, і толькі «чыстыя выдатнікі» маглі вучыцца бясплатна. Усе астатнія, нават тыя, хто атрымліваў адну ці дзве «4», не мелі права на стыпендыю. Мы ж багацеі невялікія, і тут яшчэ акупацыя. Прыйшлі людзі з чужой краіны, у якіх недзе далёка засталася сям'я, і каб неяк апраўдацца перад жыхарамі паланёнай імі зямлі, яны паказвалі нам фотакарткі са сваімі дзецьмі і «фрау». Але ж немцы прыйшлі да нас у якасці заваёўнікаў, яны расстрэльвалі і вешалі ні ў чым не вінаватых людзей, з'яўляючыся поўнай процілегласцю тым славутым філосафам, музыкантам, якіх дала свету Германія ў XVIII — XIX стст. У XX ст. на Беларусь прыйшлі забойцы, каты. Канешне, наша моладзь не скарылася, а адразу адрэагавала на падзеі: многія ішлі ў партызаны, ствараліся шматлікія падпольныя групы. Натуральна, што ў мяне ўзнікла жаданне расказаць пра ўсё гэта. Аповесці «Сасна пры дарозе», «Вецер у соснах», «Сорак трэці» я якраз і прысвяціў апісанню моладзі на вайне.

Канчаткова немцаў прагналі ў 44-м годзе, а мае родныя мясціны, Палессе, вызвалілі ў 43-м — восенню. Пра такія падзеі нельга забыцца. Здавалася б, садзіся і пішы. Але пра што? Я разумеў, што пісаць трэба было пра тое, што ў душы сядзела, пра тое, што я добра ведаў. Галоўнае — трэба было знайсці форму, як паказаць усе падзеі. Я мог, канешне, дакладна апісаць, як вызвалялі мае Васілевічы, я і сам у гэтым удзельнічаў, але ж вызвалялі і Рэчыцу, і Бранск, а там я не быў…

Л. Д. СІНЬКОВА. Іван Якаўлевіч, Вашы творы ў вялікай ступені аўтабіяграфічныя. Аднак, як адзначалі і Вы самі, і вядомыя беларускія крытыкі, у тым ліку В. Каваленка, абсалютна не трэба атаясамліваць героя Івана Якаўлевіча з самім Іванам Якаўлевічам. Героі Вашых твораў на фронце чытаюць Канта, Гегеля, Гамсуна па-нямецку. Скажыце, калі ласка, сапраўды на фронце было дастаткова многа людзей, якія мелі такую добрую адукацыю?

І. Я. НАВУМЕНКА. Не забывайце, што на той час мы ўжо фактычна мелі сярэднюю адукацыю. Праўда, у школе, дзе я вучыўся, нямецкую мову выкладалі вельмі дрэнна. І я, і мае таварышы Іван Доўжык, Анупрэй Брэль недзе ўжо перад дзясятым класам з жахам адчулі, што не ўмеем па-нямецку палічыць нават да дзесяці. Тэрмінова ўзяліся самі даганяць запушчаны матэрыял. Вывучылі на памяць падручнік для пятага класа, але ж гэта ўсяго толькі 900 слоў. Яшчэ крыху падвучылі. Веданне нямецкай мовы спатрэбілася нам у час акупацыі.

Я і мае сябры хацелі даведацца пра планы немцаў і таму спачатку спрабавалі наладзіць радыёпрыёмнік, але гэта аказалася складанай задачай. Паколькі ў нас былі пэўныя навыкі нямецкай мовы, мы вырашылі знаёміцца з той інфармацыяй, якую немцы пісалі самі для сябе, і ўжо на першым годзе акупацыі навучыліся чытаць нямецкую газету. Гаварыць, праўда, не ўмелі, гэта прыходзіць з часам. Я і цяпер магу чытаць нямецкі газетны тэкст. Размоўную мову мы, канешне, палепшылі, калі ўжо прыйшлі ў Германію…

Л. Д. СІНЬКОВА. Іван Якаўлевіч, у час вайны Вы былі ўзнагароджаны ордэнам Чырвонай Зоркі. І ў афіцыйнай літаратуры можна знайсці апісанне той аперацыі, за якую Вы гэты ордэн атрымалі. Раскажыце, калі ласка, як гэта адбывалася, бо ў нас не кожны народны пісьменнік, які трапіў на фронт, мае такія ўзнагароды.

І. Я. НАВУМЕНКА. Адразу хачу сказаць, што Чырвоная Зорка — гэта не самы галоўны ордэн, і яго давалі многім.

Л. Д. СІНЬКОВА. Але гэтая аперацыя апісана ў адным з тамоў гістарычнай энцыклапедыі.

І. Я. НАВУМЕНКА. Так, я і сам вывучаю гісторыю і сапраўды знайшоў звесткі пра тую аперацыю, за ўдзел у якой мне далі Чырвоную Зорку. Справа ў тым, што ў канцы

вайны ў нас нарэшце навучыліся «падслухоўваць» немцаў. На перадавой лініі працягвалі спецыяльныя драты, і мы павінны былі ляжаць метраў за 200—300 ад перадавой з апаратам УСП і слухаць. Вось уявіце: зіма, холад, паспрабуй доўга паляжы. Пры гэтым чуеш цэлую нямецкую роту, як яны пытаюцца адзін у аднаго, што будзе на вячэру, а мы галодныя… У нас у атрадзе быў хлопец, які закончыў тэхнікум сувязі і разбіраўся ў нашых «сувязных» справах. Дзякуючы яму мы сталі праслухоўваць падземныя кабелі. А гэта ж было лепей, таму што мы ўжо не мёрзлі, а сядзелі ў цёплым пакоі. Нарэшце прыстасаваліся і пачалі слухаць перамовы нямецкіх штабоў. І вось мы пачалі перадаваць атрыманыя звесткі ў наш штаб арміі. Там адразу зацікавіліся, адкуль такія «докі». Адразу прыехала тры ці чатыры палкоўнікі нас правяраць. А як паказаць наша ўменне? Ну мы ўзялі гітару, палажылі на яе навушнікі, а праз гітару было добра чуваць. Пры гэтым палкоўнікі не маглі нічога пачуць ці зразумець з размовы немцаў. А ў нас было чалавек шэсць такіх, якія маглі не толькі разумець нямецкую гаворку, але яшчэ і дакладна запісаць яе. Паказалі напісанае палкоўнікам. А яны надзвычай здзівіліся, як мы вось так можам чуць размовы немцаў. У выніку наведвання тых палкоўнікаў мне і далі ордэн Чырвонай Зоркі.

Была ў нас яшчэ адна вельмі важная справа, якая адыграла, можа, нават большую ролю, чым аперацыя, за якую я быў узнагароджаны. Мы падслухалі з нямецкай размовы, што непадалёк ад нашага армейскага штаба немцы збіраюцца ўзарваць вадасховішча. Інфармацыю адразу ж перадалі. Вадасховішча і сапраўды ўзарвалі, але былі выратаваны жыцці многіх людзей. Гэты выпадак апісаны ў адным з тамоў энцыклапедыі.

Л. Д. СІНЬКОВА. Многія вядомыя беларускія крытыкі Вашу творчасць ставяць у адзін шэраг з творчасцю Рэмарка, Хемінгуэя, Гарэцкага. І ў вашых кнігах можна сустрэць імёны названых замежных класікаў. Ці не азначае гэта, што Вы і самі думалі над гэтым падабенствам? Скажыце, калі ласка, у лёсах Вашых герояў і герояў Рэмарка было больш падобнага ці ўсё-такі адрознага?

І. Я. НАВУМЕНКА. Я лічу, што мне як пісьменніку далёка да Рэмарка. Калі адзначалася 60-годдзе з дня вызвалення Курскай дугі, старшыня Саюза рускіх пісьменнікаў задаў Жукаву

прыблізна такое пытанне: «Мы перамаглі немцаў на Курскай дузе, тады яны былі яшчэ даволі моцныя. Калі супаставіць савецкую армію і нямецкую, што, на Ваш погляд, было мацней у немцаў і што было мацней у нас?» І Жукаў адказаў, што генштаб быў мацней за генералітэт, і генштаб мацнейшы быў у немцаў. Першым часам немцы мелі перавагу і ў тэхніцы, і ў афіцэрскім складзе. А ў нас, на думку Жукава, мацнейшы быў радавы баец, асабліва моладзь, якая 10-годкі паканчала. Я з думкай Жукава цалкам згодзен.

У 1941 годзе мы страцілі вельмі многа афіцэрскага складу. І ў гэты час вялікую ролю адыгрывалі хлопцы, якія паспелі скончыць 8, 9, 10 класаў школы ці правучыліся некалькі гадоў у інстытуце. Іх адразу бралі на месяц ці два на спецыяльныя ваенныя курсы. Атрымлівалася, што ў афіцэрах у асноўным былі маладыя хлопцы, якія з часам даходзілі па званню да палкоўніка. Вось такі кадравы састаў быў. Нашы байцы, якія былі граматнымі і пісьменнымі, сваю ваенную задачу разумелі і добра выконвалі. Я, напрыклад, складаў зводкі, але па званні дайшоў толькі да старшыны. Таму правільна сказаў Жукаў, што вайну выйграў дзесяцікласнік.

Л. Д. СІНЬКОВА. Іван Якаўлевіч, у Вас многа напісана, асабліва ў аповесці «Юнацтва», у кнізе «Дзяцінства. Падлетак. Юнацтва», пра тое, якое цяжкае і складанае жыццё прыйшлося на долю тых школьнікаў, падлеткаў, юнакоў. Колькі ўсяго прайшло перад іх вачыма і закранула тым ці іншым чынам іх унутраны свет. І ўсё ж такі Вашы героі выглядаюць ідэалістамі, адданымі сваёй справе.

І. Я. НАВУМЕНКА. Мае героі былі рамантыкамі, а рамантыкі — гэта тое самае, што і ідэалісты. Яны рваліся ў жыццё, імкнуліся паступіць у тэхнікумы, вышэйшыя навучальныя ўстановы. Савецкая ўлада шырока адчыняла дзверы ў свет, і ўся інтэлігенцыя, якую мы маем, вырасла пры ёй.

Л. Д. СІНЬКОВА. Відаць, ідэалізм лепш, чым прагматызм?

І. Я. НАВУМЕНКА. Мае героі не былі прагматыкамі.

Л. Д. СІНЬКОВА. Іван Якаўлевіч, як мне здаецца, беларускія пісьменнікі вельмі часта баяцца тэмы кахання і рэдка хто да яе звяртаецца. А Вы ў сваіх творах, апісваючы нават самыя цяжкія ўмовы ваеннага жыцця, надаяце гэтаму пачуц-

цю асаблівае значэнне. Гэтым асабліва прыцягваюць Вашы кнігі нашу моладзь.

І. Я. НАВУМЕНКА. Гэтыя хлопцы і дзяўчаты былі кніжнікамі, яны многа чыталі, напрыклад, той самай французскай літаратуры, у якой тэме кахання нададзена асаблівая ўвага. Хлопцы разумелі каханне як рыцарскі абавязак, доўг. Маўляў, я інстытут скончу, і яна, каханая дзяўчына, ухваліць гэта. Хлопцы і дзяўчаты таго складанага часу жылі ў асноўным духоўным напаўненнем, яны былі ідэалістамі, рамантыкамі.

Л. Д. СІНЬКОВА. Гэтыя хлопцы і дзяўчаты перажылі яшчэ многа цяжкасцей і пасля вайны. Аднак, нягледзячы на апісанае Вамі ў «Інтэрнаце на Нямізе» складанае жыццё, моладзь усё роўна прагла вучыцца. Іван Якаўлевіч, скажыце, калі ласка, ці дакументальная тая гісторыя, якую перажывае Ваш герой Андрушкевіч з брашурай «Клінскія маладагвардзейцы».

І. Я. НАВУМЕНКА. Сапраўды, такое было, але аўтарам брашуры быў іншы, прозвішча яго я не памятаю. Ведаю толькі, што ён напісаў раман пра ткацкую фабрыку, нават па гэтым творы быў зняты фільм. Пазней жартавалі, што галоўная ідэя фільма — нельга красці казённыя ніткі. На самой справе была маленькая кніжачка «Жлобінскія маладагвардзейцы». Пасля яе моцна крытыкавалі, можа, таму яе аўтар і крануўся розумам.

Л. Д. СІНЬКОВА. А гэта праўда, што доўгі час прызнавалі толькі Фадзеева з яго «Маладой гвардыяй», а нашых падпольшчыкаў ігнаравалі?

І. Я. НАВУМЕНКА. Падпольшчыкаў у нас было многа. У адным толькі Мінску — больш за 100 груп. Падпольшчыкі былі тымі ж разведчыкамі, і ім таксама патрэбна была «крыша», як у фільме «Сямнаццаць імгненняў вясны». Наш разведчык мог пранікнуць нават і ў гестапа, гэтаксама як і партызанскі сувязны. Гэта дазвалялася і ўхвалялася. Над нашым падполлем узяла шэфства самая сапраўдная разведка, якая да вайны называлася «група УПРа», а цяпер — ваенная разведка. Гэта была сапраўдная разведная служба, якая давала нам дакументы, што дазвалялі працаваць у разведгрупе Савецкай Арміі.

У краіне была складаная атмасфера. Партыйныя органы «раскалашмацілі» яшчэ перад вайной. Колькі тых сакратароў райкамаў сядзела… Людзі проста баяліся. Таму па першым часе прызнавалі толькі *тую* «Маладую гвардыю», якую

Фадзееў апісаў, маўляў, толькі адна на *ўсю* краіну. Нашы падпольныя групы былі прызнаны пазней.

Л. Д. СІНЬКОВА. І ўсё ж беларускія літаратары ў гэтым плане сваю гісторыю адлюстравалі як мае быць…

І. Я. НАВУМЕНКА. Увогуле беларускія хлопцы, як і ўкраінскія, вайну адчулі раней. Мы ж прыгранічныя. Потым нашы хлопцы трапілі пад Арол, пад Белгарад, нават пад Сталінград, у цэнтры Расіі былі.

Л. Д. СІНЬКОВА. А калі Вы з войскам за мяжу трапілі, розныя краіны паглядзелі, не было ў Вас думкі, што ў іх лепш, чым у нас?

І. Я. НАВУМЕНКА. Не. Лепш было толькі ў бытавым плане, а ва ўсім іншым — тое ж самае, што і ў нас. Германія больш акуратная. Але пры ўсім тым, што ў нас быт быў не вельмі наладжаны, мы бачылі, што немцы «крыхаборнічаюць». Калі мы былі ў Германіі, у нас некаторы час не было «курыва». Там была цукровая фабрыка, дзе мы ўзялі цукар. За яго адна гаспадыня дала мне 3 цыгарэты, аднак я выказаў незадавальненне. Яна падумала і дабавіла мне яшчэ адну. Немцы не такія, як мы, што нават чужому чалавеку шклянку гарэлкі можам наліць. Там такога няма.

Л. Д. СІНЬКОВА. Ваш герой лёгка пазнаецца, у ім можна ўбачыць і самога беларуса, і яго нацыянальны характар. Яму ўласцівы не толькі рамантызм, летуценнасць, душэўная адкрытасць і ранімасць, але яшчэ і працавітасць і цягавітасць. Ваш герой-разведчык у навушніках можа сядзець і падслухоўваць немцаў 14—16 гадзін у суткі. На Вашу думку, ці і сёння беларус застаўся такі ж моцны духам?

І. Я. НАВУМЕНКА. Мы перажылі акупацыю, зведалі шмат цяжкасцей. Аднак, калі нашы салдаты прыйшлі ў Германію, яны, у параўнанні з немцамі, не займаліся рукапрыкладствам.

Я апісаў адну гісторыю, праўда, яшчэ не друкаваў. Мы стаялі на Каспарскай зямлі. Гэта старая польская тэрыторыя, якая даўно была захоплена немцамі, і мясцовыя жыхары — палякі — ужо нават апалячыліся. Калі скончылася вайна, мы там неслі гарнізонную службу. Месяцы тры. Калі мы адтуль выязджалі, наша начальства баялася, каб не здарылася чаго-небудзь выключнага. Але выключнае здарылася. Мы выязджалі на машынах, паколькі полк сувязі заўсёды мае

транспарт. Уяўляеце сабе: выязджаем вечарам, прыцемак, і тут палавіна жанчын і дзяўчат сабралася каля нашых машын і не саромеючыся плачуць. І я падумаў: сапраўды, яны жылі ў адзіноце, іх мужы недзе ваявалі. Вось увесь жаночы склад гарадка і прыйшоў нас праводзіць. Перанеслі ад'езд нанач, але сабраўся яшчэ большы натоўп. Вось так заканчваюцца войны.

Л. Д. СІНЬКОВА. У нас вельмі мала твораў, дзе апісваецца такая сітуацыя. Толькі, здаецца, Ю. Бондараў спецыяльна пісаў пра каханне нашага салдата і нямецкай дзяўчыны. Ці сапраўды былі падобныя гісторыі?

І. Я. НАВУМЕНКА. Сапраўды. Гэта ж жыццё… Вайна пачалася ў 1939 годзе і доўжылася каля 6 гадоў. Усякае за яе час было.

Л. Д. СІНЬКОВА. Многія беларускія аўтары апісвалі той жа самы перыяд, закраналі тыя ж самыя тэмы, але пры гэтым кожны застаўся індывідуальнасцю. Як у Вас складваліся адносіны з пісьменнікамі свайго пакалення, з кім Вы сябруеце?

І. Я. НАВУМЕНКА. Мне не прыйшлося дзяліць з кім-небудзь славу, неяк мірна было. Не хачу называць асобныя прозвішчы. Вось адзін з пісьменнікаў, які ўжо памёр, перад смерцю напісаў дзённік, дзе выказаў усе свае крыўды. Я лічу, што такога нельга рабіць. Перад смерцю трэба ўсім дараваць.

Л. Д. СІНЬКОВА. Канешне, павінны быць пэўныя хрысціянскія каштоўнасці. А ў Вас ёсць дзённік?

І. Я. НАВУМЕНКА. Нашто мне дзённікі, калі ўсе мае апавяданні друкуюцца. Праўда, у мяне ёсць многа чаго ненадрукаванага.

Л. Д. СІНЬКОВА. Іван Якаўлевіч, у Вашай прозе ёсць таксама і гумар, што з'яўляецца адзнакай Вашай творчай індывідуальнасці. Гумар не частая з'ява ў іншых пісьменнікаў. Як вы ставіцеся да эпіграм у свой адрас? Вось, напрыклад, у паэме «Сказ пра Лысую гару» пра Вас сказана, што «ўсе прафесары, дацэнты перад Навуменкам адным, нібыта дробязныя цэнты перад далярам залатым». Многа эпіграм, анекдотаў ёсць пра Вас.

І. Я. НАВУМЕНКА. Гілевіч прызнаўся, што паэму ён напісаў. Аднак, на маю думку, ёсць яшчэ адзін аўтар.

Л. Д. СІНЬКОВА. Можа быць, Аўрамчык?

І. Я. НАВУМЕНКА. Аўрамчык толькі дапамагаў яму. Гумар — гэта ўвогуле прыкмета беларускага светаадчування. Беларус ніколі не быў залішне багатым, ён проста жыў і з

усмешкай адносіўся да навакольнага свету. І калі гаварыць пра нашу літаратуру — гэта я ўжо як літаратуразнаўца гавару,— то гумар можна знайсці амаль у кожнага нашага пісьменніка. Ад нашых ананімных паэм, Дуніна-Марцінкевіча, Багушэвіча да Купалы, Коласа і інш. Купала — «высокі рамантык», але таксама не мог абысціся без гумару. Напрыклад, яго «Паўлінка» ўся пабудавана на гумары. Дарэчы, камедыю такога ўзроўню больш ніхто ў Беларусі так і не напісаў, не здолеў напісаць. Купала здолеў стварыць гумарыстычныя вобразы (пан Быкоўскі, Мікіта Зносак і інш.).

Л. Д. СІНЬКОВА. Іван Якаўлевіч, Вашыя навуковыя кнігі называюцца «Янка Купала. Духоўны воблік героя» і «Якуб Колас. Духоўны воблік героя».

І. Я. НАВУМЕНКА. Яны цяпер ужо называюцца проста «Янка Купала» і «Якуб Колас».

Л. Д. СІНЬКОВА. Гэтыя кнігі былі абсалютна новым словам на той час у нашай навуцы. Тады ж і сітуацыя была іншая ў краіне, і так атрымалася, што менавіта Вам прыйшлося адкрыць па-новаму гэтых пісьменнікаў. Як пісаліся гэтыя кніжкі?

І. Я. НАВУМЕНКА. На той час рэктарам нашага ўніверсітэта быў Сеўчанка, які да мяне ставіўся вельмі прыязна. Ва ўніверсітэце тады адчуваўся дэфіцыт дактароў. І вось Сеўчанка мяне проста прымусіў напісаць кнігу: «Напішы ты, няхай у нас доктар будзе». Гэта быў 1964 год. Я ўжо 10 гадоў працаваў, меў нейкі вопыт, і сам думаў пра творчасць Я. Купалы, Я. Коласа. Не адразу, канешне, але гады за тры-чатыры напісаў я кнігу. Янка Купала і Якуб Колас былі вельмі мудрымі. Яны шмат зрабілі для беларусаў, якія ў славянстве амаль ці не самымі апошнімі прыйшлі да ўсведамлення таго, што ёсць беларускі народ, ёсць беларуская нацыя. Пісьменнікаў такога кшталту, такога гарту не кожны народ мае.

Л. Д. СІНЬКОВА. Іван Якаўлевіч, Вы і раней пісалі пра Дуніна-Марцінкевіча, Змітрака Бядулю, Максіма Багдановіча, а зараз зноў вярнуліся да іх постацяў. У Вас выйшла кніга «Ранні К. Чорны», у якой Вы закранаеце зусім новыя, адрозныя ад сказанага раней беларускімі навукоўцамі, аспекты, характэрныя для творчасці гэтага пісьменніка. Як у Вас узнікла цікавасць да плыняў мадэрнізму, імпрэсіянізму ў ранняга К. Чорнага, у З. Бядулі, у М. Багдановіча?

І. Я. НАВУМЕНКА. Пры разглядзе творчасці М. Багдановіча, К. Чорнага я прыйшоў да высновы, што мы часта адкідваем тое, што нельга адкідваць, таму што гэта з'яўляецца часткай светапогляду пісьменніка. Напрыклад, з творчасці Кузьмы Чорнага я асабліва люблю апавяданні. У яго і «вецер за балотам нарадзіўся і ляціць», і «дрэвы шумяць». Я лічу, што апісанні і ветру, які ляціць і нясе пахі, і іншых прыродных з'яў пашыраюць дыяпазон бачання пісьменніка. Дарэчы, Чорны валодаў прыёмам, характэрным і для творчасці Гамсуна. У той жа час абодва пісьменнікі былі рэалістамі.

Л. Д. СІНЬКОВА. Іван Якаўлевіч, у Вас напісана шмат твораў і для дзяцей. Некаторыя з іх уваходзяць у школьную праграму. Гэта і «Вайна каля Цітавай копанкі», і «Дзяцінства. Падлетак. Юнацтва», і «Пераломны ўзрост». Скажыце, калі ласка, якія са сваіх твораў Вы паставілі б у школьнай праграме на першае месца?

І. Я. НАВУМЕНКА. Даўно знаёма чытачу аповесць «Вайна каля Цітавай копанкі». А ўвогуле, няхай выбіраюць складальнікі праграм.

Л. Д. СІНЬКОВА. Іван Якаўлевіч, а як Вы ставіцеся да думкі, што ў выкладанні літаратуры трэба больш падрабязна гаварыць пра пісьменніка як асобу, пра яго асабістае, нават прыватнае жыццё. Напрыклад, мы шмат ведаем пра інтымнае жыццё Байрана, Пушкіна і іншых замежных і рускіх пісьменнікаў, а пра беларускіх вельмі мала.

І. Я. НАВУМЕНКА. Я цалкам згодны з гэтай думкай і лічу, што веданне інтымнага жыцця пісьменніка дапамагае лепш зразумець яго творы. Прывяду такі факт з асабістага жыцця Кузьмы Чорнага. Аднойчы пісьменнік разам з Язэпам Пушчам паехаў у Слуцк. Там яны пазнаёміліся з дзяўчатамі. Пушча ўпадабаў сабе дзяўчыну, якая пазней стала яго жонкай і паехала з ім нават у ссылку. А Чорны сваю дзяўчыну вадзіў абедаць па рэстаранах у Мінску. Аднак яна вельмі хутка знайшла сабе другога. Чорны гэты факт дакладна апісаў у літаратурнай гісторыі пра цыганку Нону.

Л. Д. СІНЬКОВА. Іван Якаўлевіч, на Ваш погляд, якія часы ў Саюзе беларускіх пісьменнікаў былі асабліва яркімі, цікавымі? Як правіла, складаныя часы нараджаюць значных асоб, з якімі мы звязваем гісторыю літаратуры.

І. Я. НАВУМЕНКА. Я лічу, што да такіх асоб можна аднесці пісьменнікаў старэйшага пакалення. Яны былі, канешне, цікавымі і больш-менш прынцыповымі. Ва ўсякім выпадку, нельга было чакаць ад таго ж Мележа ці Брыля, што яны недзе «хістануліся».

Н. Б. РАШЭТНІКАВА. А што для Вас значыць Гомельшчына, Ваша малая радзіма? Цяпер Вы адчуваеце сябе мінчанінам ці жыхаром Гомельшчыны?

І. Я. НАВУМЕНКА. Дакладней сказаць, не столькі Гомельшчыны, колькі Палесся. Сёння я магу сказаць, што недзе ўвабраў ужо ў душу Мінск, хаця пра яго я яшчэ нічога не напісаў. Мне падабаецца мінская мясцовасць. І лясы тут не горшыя, чым у нас, на Палессі. Для мяне Гомельшчына — радзіма, але нейкім чынам радзімай становіцца і Мінск.

Л. Д. СІНЬКОВА. А па жыцці Вы аптыміст ці песіміст? У чым Вы знаходзіце падставу для аптымізму, для добрага настрою?

І. Я. НАВУМЕНКА. Асабіста я вельмі залежны ад настрою. Аднак лічу, што пры стварэнні свету Бог усё прадумаў, і краху заўтра не адбудзецца. Зараз я вельмі захапіўся гісторыяй Хрыста. Я лічу, што гэта вельмі магутная фігура, хоць і да гэтага часу цягнуцца спрэчкі наконт рэальнасці яго існавання. На мой погляд, і ў Бібліі, і ў Евангеллі залішне апісанняў самых розных цудаў. Цяпер і самі царкоўнікі хочуць, каб святыя кнігі былі больш праўдападобнымі. А Хрыстос — гэта ўсё ж такі міф. Шкада, што мы ў сваім дзяцінстве і юнацтве былі далёкімі ад хрысціянства. Я помню, што мой дзед вельмі цікавіўся рэлігіяй і пераказваў мне ўсе казанні папа, якія чуў у царкве. Маленькім вадзіў мяне на споведзь. Помню, поп даў мне лыжачку прычасці, а я ў яго папрасіў яшчэ. У школьныя гады з-за наведвання царквы са мной здарылася не вельмі прыемная гісторыя. Аднойчы я пайшоў спавядацца і сустрэў там дзяўчыну са свайго класа. Яна сама спавядалася, але гэта не перашкодзіла ёй данесці на мяне, што быў у царкве. Назаўтра дзяжурны на школьнай лінейцы крычаў, што я «цалаваўся з папом». Я лічу, што дзяцей трэба знаёміць з хрысціянствам, каб яны ведалі, хто стварыў гэты свет.

Л. Д. СІНЬКОВА. Вось Вы расказалі пра стасункі са сваім дзедам. Сям’я, канешне, для чалавека многае значыць. А як у Вас асабіста складваюцца адносіны з дзецьмі, з унукамі?

І. Я. НАВУМЕНКА. Я сваімі дзецьмі і ўнукамі задаволены. Яны не баяцца мяне часам і пакрытыкаваць, але я лічу, што гэта нармальна.

Л. Д. СІНЬКОВА. Іван Якаўлевіч, Вы загадвалі кафедрай беларускай літаратуры БДУ ў той час, калі там працавалі вельмі цікавыя людзі. Многія з іх і зараз працуюць. Ці не збіраецеся Вы напісаць пра гэта? Вы былі таксама і дырэктарам Інстытута літаратуры, і старшынёй Вярхоўнага Савета Беларусі ў цікавыя для яе 1985—1990-я гг. Ці не ўзнікала ў Вас жаданне напісаць пра гэты перыяд?

І. Я. НАВУМЕНКА. Гэта як напісаў І. Шамякін у сваіх «Начных успамінах». У мяне такога жадання не ўзнікала, таму што людзі, пра якіх трэба будзе пісаць, могуць пакрыўдзіцца.

Л. Д. СІНЬКОВА. Беларускія літаратуразнаўцы лічаць, што творчасць Якуба Коласа Вас захапіла не толькі як даследчыка, а нават паўплывала на выбар Вашай апавядальніцкай манеры, на нейкія светапоглядныя асновы, арыентацыю на гармонію.

І. Я. НАВУМЕНКА. Я і цяпер так лічу. Колас быў вельмі мудры. І дзесьці свой абавязак перад ім мы не выканалі. І ў «Новай зямлі», і ў «Сымоне-музыку», і ў трылогіі «На ростанях» Якуб Колас праявіў сябе як мысліцель. Аднак мы мала гаворым пра тое, што гэты вялікі пісьменнік некалі быў пастушком і доўгі час меў цесную сувязь з прыродай. І сапраўды, ні адзін з беларускіх пісьменнікаў не мае столькі характарыстык усіх гэтых «кузурак малых», жукоў, якія ёсць у Коласа. Веданне прыроды паспрыяла з'яўленню ягоных «Казак жыцця». Колас быў таксама вялікім дыпламатам. Менавіта яму ўдалося вызваліць тых настаўнікаў, якія прымалі ўдзел у нелегальным з'ездзе, якіх павыкідвалі з працы і якія самі сябе называлі «агрызкамі». На той час Мінск быў губерняй і ўваходзіў у Віленскае генерал-губернатарства. Выдаваліся і дзве газеты: мінская губернская і віленская генерал-губернатарская. Што зрабіў Колас? Ён напісаў нейкае апавяданне для віленскай генерал-губернатарскай газеты, і яму далі білет, што ён з'яўляецца яе карэспандэнтам. Пасля Колас зайшоў у мінскую губернскую газету і паказаў білет, што ён з'яўляецца карэспандэнтам. І ўжо ў гэтую газету напісаў пра тое, як адбываўся з'езд настаўнікаў. Напісаў, што сабраліся маладыя

хлопцы, якія любілі выпіць і «добра-такі ўзялі», а потым гэты во пратакол і напісалі. Орган губернатара нешта значыў, і справу настаўнікаў спынілі, растлумачыўшы яе як звычайную п'янку. Так Колас выратаваў настаўнікаў.

Л. Д. СІНЬКОВА. Зараз перад беларускімі даследчыкамі ставіцца задача як мага паўней і шырэй увесці беларускую літаратуру ў сусветны кантэкст, супаставіць яе з творамі замежнай класікі. Для гэтага, канешне, патрэбна быць кампетэнтным чалавекам, знаўцам іншых літаратур. У свой час Вы ўжо пачыналі гэта рабіць. Напрыклад, пры аналізе творчасці Якуба Коласа згадвалі Сельму Лагерлёф і многія іншыя імёны. Як Вы лічыце, ці сапраўды ў нас ёсць магчымасці годна прадставіць нашу класіку ў сусветным кантэксце?

І. Я. НАВУМЕНКА. З адным маім творам адбылася такая гісторыя. У час вайны я, канешне, не быў у Сталінградзе, але напісаў пра яго апавяданне. У ім я, сыходзячы са светаадчування беларусаў, апісаў сваё бачанне сталінградскіх баёў. Гэтае апавяданне вельмі спадабалася выкладчыку Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта Ліякумовічу, які зараз з'ехаў у Амерыку. Ён пераклаў твор на англійскую мову і змясціў яго ў нейкай амерыканскай газеце. І я падумаў, што гэта вельмі добра, калі амерыканцы будуць ведаць менавіта наш погляд на вайну, будуць глядзець на яе з нашых пазіцый.

Л. Д. СІНЬКОВА. Для пісьменніка вельмі важна, каб яго кніга пайшла далей, каб большая колькасць чытачоў з ёй азнаёмілася. Але часта пісьменнікі застаюцца незадаволенымі тым, як іх творы перакладзены на іншыя мовы. А якія з перакладаў Вашых твораў Вам найбольш падабаюцца?

І. Я. НАВУМЕНКА. Мне асабліва пашанцавала з перакладамі на рускую мову, першыя з якіх у Маскве зрабіў такі аўтарытэтны чалавек і для нас, і для рускай літаратуры, як Яўген Мазалькоў. Ён пераклаў, па-мойму, і «Сасну пры дарозе», і «Вецер у соснах», і «Сорак трэці». З яго лёгкай рукі і пайшло. Потым мае творы перакладала сямейства Гарбачовых, якія працавалі ў выдавецтве «Савецкі пісьменнік». Менавіта ў гэтым выдавецтве выйшла большасць з 20 маіх кніг, перакладзеных на рускую мову. Нават удавалася друкаваць пераклады маіх твораў сярод літаратурных класікаў у «Раман-газеце».

Аповесць «Друзья-товарищи» выйшла ў «Маладой гвардыі». Друкаваліся творы і ў часопісе «Дружба народов», які меў вялікі тыраж.

Л. Д. СІНЬКОВА. Каб займацца філалогіяй як навукай, трэба шмат чытаць і шмат пісаць. У кожнага чалавека бываюць перыяды апатыі. Ці не стаміліся Вы ад філалогіі? Ці не расчараваліся Вы ў ёй?

І. Я. НАВУМЕНКА. Не, не расчараваўся. Я ні для чаго другога не годны.

Л. Д. СІНЬКОВА. А як Вы думаеце, ці змогуць паўплываць на літаратуру новыя тэхнічныя сродкі, такія, напрыклад, як відэа, інтэрнэт?

І. Я. НАВУМЕНКА. Яны ўжо, канешне, паўплывалі. Але нічога. Літаратура будзе жыць. А нашы пісьменнікі-класікі будуць запатрабаванымі і ў XXI стагоддзі.

Л. Д. СІНЬКОВА. А ўвогуле, акрамя кніжак, у Вас ёсць якія-небудзь захапленні?

І. Я. НАВУМЕНКА. Гэта лес, грыбы. Раней я даволі часта займаўся параўнальным мовазнаўствам. Яно цікава ў тым сэнсе, што дае нам інфармацыю пра лёс народаў, карані якіх жывымі засталіся толькі ў мове. Мне было крыху лягчэй, таму што акрамя нямецкай, я трошкі ведаю англійскую і французскую мовы. І па-польску добра разумею і чытаю, я ж старшыня камітэта славістаў. Таму ўсе гэтыя славянскія краіны я больш-менш ведаю.

Л. Д. СІНЬКОВА. А якія Вашы любімыя стравы? Ці гурман Вы?

І. Я. НАВУМЕНКА. Я не гурман. Мне падабаюцца грыбы. Я люблю іх і сабіраць, і ўжываць.

Л. Д. СІНЬКОВА. Дзякуем Вам за цікавую сустрэчу.

*2003*

# АНКЕТЫ

## ПЫТАННІ АНКЕТЫ КАФЕДРЫ ЛІТАРАТУРЫ ГОМЕЛЬСКАГА ДЗЯРЖАЎНАГА ЎНІВЕРСІТЭТА

1) У чым выявіўся ўплыў мясцовых рэгіянальных фактараў (фальклор, этнаграфія, побыт, мова) на Ваш асабісты эмацыянальна-псіхалагічны склад, творчы вопыт, праблематыку і стыль творчасці?

2) Ці існуе пэўная залежнасць паміж рэгіянальнай спецыфікай і жанравымі асаблівасцямі мастацкага твора?

3) Ці на розных этапах Вашай творчасці ўплыў гэты быў аднолькавым? Калі ж не, то чым абумоўлена ўзмацненне ці паслабленне рэгіянальных матываў? Што адыгрывае рашаючую ролю ў гэтым працэсе — эмацыянальна-псіхалагічны склад ці характар творчай задумы? Можа варта гаварыць тут аб сінтэзе цэлага комплексу жыццёвых з’яў і фактараў?

4) Наколькі перспектыўным у агульным рэчышчы сучаснай беларускай літаратуры Вы асабіста лічыце ўзмацненне рэгіянальнага каларыту ў абмалёўцы мастацкіх характараў і абставін?

1. У многім. Не ўяўляю сабе літаратурнай працы, калі не бачу (зрокава) родных мясцін, краявідаў, дэталяў абстаноўкі, хоць падрабязна, здаецца, усяго гэтага не апісваю. Для мяне кожная мясціна, куток лесу, поле як бы нараджае нейкую адмысловую музыку, настрой. Адчуваю, як павінен гаварыць той ці іншы герой, бо бачу яго, адчуваю яго характар. Пра ўплыў фальклору думаў мала. Ён, відаць, дае агульную праекцыю, уплывае на агульны музычны, настраёвы лад твора.

2. Уплыў мясцовасці, людзей, якіх ведаю, спраў, якія там адбыліся, на творчыя задумы павялічваецца. Абрысы хаты,

двара, дзе жыве герой, як бы дапамагаюць угадаць, як і чым жыве чалавек, што думае, чаго хоча. Раней больш думаў пра моладзь, а цяпер найбольш спыняюся ў развагах (унутраных) пра бацькоў, дзядоў. Вуліцу, на якой жыў, ведаю дасканала. Кожны двор, кожны гаспадар яго як бы дае цэлы сюжэт. Мабыць, напішу шэраг рэчаў на бытавым жыццёвым матэрыяле. Аб сінтэзе цэлага комплексу з'яў і фактараў гаварыць, бясспрэчна, варта.

3. Дакладна, відаць, не адкажу. Але, мабыць, існуе. Жанр — гэта ж таксама тое ці іншае эмацыянальнае гучанне, эмацыянальны ключ, а ён залежыць ад жыццёвага матэрыялу, убачанага, перажытага. Залежыць гэта і ад вобраза часу, ад яго грамадскага (і асабістага) адчування.

4. Лічу, што кожны пісьменнік піша аб тым, што найлепш ведае. Найглыбейшыя ўражанні, якія «кормяць» пісьменніка ўсё жыццё, атрыманы ў дзяцінстве і юнацтве і звязаны з мясцінамі, дзе ён нарадзіўся. Такім чынам гэтыя мясціны свецяць пісьменніку ўсё жыццё. Дзе б ён пазней ні быў, якімі б новымі мясцінамі, людзьмі ні захапляўся, але перажытае ў дзяцінстве і юнацтве будзе браць верх. Таму кожны пісьменнік праспявае песню свайму куту, сваёй мясцовасці. Рэгіянальны каларыт свяціць будзе заўсёды. У гэтым, можа, і спецыфіка літаратуры, якая, ідучы да сінтэзу, мае вострую патрэбу ў паказе індывідуальнага, непаўторнага.

*1972*

## СТРАНИЧКА О СВОЕЙ РАБОТЕ

Продолжаем анкету, с которой редакция журнала «Вопросы литературы» обращается к критикам и литературоведам:

1. Над чем Вы сейчас работаете?

2. Какая из работ Ваших коллег привлекла Ваше внимание в последнее время и почему?

1. В ближайших планах — статья о влиянии научно-технической революции, современного ритма жизни на миро-

ощущение, если можно сказать так, белорусской литературы последних лет. В более отдаленном времени хочу написать работу «Стиль Якуба Коласа».

2. Серьезных работ — критических и литературоведческих — много. Мое внимание привлекли статья Е. Стариковой «Социологический аспект современной «деревенской прозы», статьи Ф. Кузнецова о современной прозе, А. Адамовича о традициях Достоевского в творчестве Кузьмы Чорного, а также работы А. Овчаренко. В названных статьях и исследованиях нахожу ответы на некоторые вопросы, которые, на мой взгляд, имеют важное значение для литератора, пишущего на темы современности.

*1973*

## СВЯШЧЭННАЯ ВАЙНА

Да трыццацігоддзя Перамогі над фашысцкай Германіяй часопіс «Вопросы литературы» (1975, № 5) надрукаваў адказы пісьменнікаў-франтавікоў на наступныя пытанні рэдакцыйнай анкеты:

1. Які дзень ці эпізод вайны Вам запомніўся больш за ўсё і чаму?

2. У 1965 годзе, да дваццацігоддзя Перамогі над гітлераўскай Германіяй, часопіс правёў сярод пісьменнікаў-франтавікоў анкету, якая, як пасля неаднаразова адзначыла крытыка, давала ўяўленне аб стане нашай «ваеннай літаратуры», аб найбольш істотных праблемах, якія стаяць перад мастакамі, што прысвяцілі сваю творчасць гэтай тэме. Якія працэсы і з’явы наступных дзесяці год былі, на Вашу думку, у гэтай галіне літаратуры найбольш прыкметнымі?

3. Чаму, з Вашага пункту гледжання, хоць з Дня Перамогі прайшло трыццаць гадоў і ў пару творчай сталасці ўвайшло пакаленне людзей, якія наогул не бачылі вайны, тэма паранейшаму шырока распрацоўваецца літаратурай і выклікае

неаслабную цікавасць чытачоў? Якія аспекты здаюцца Вам цяпер найбольш важнымі і актуальнымі?

4. Ці будзеце Вы працягваць працаваць над гэтай тэмай?

1. З вайны запомнілася: не адзін дзень і не адзін эпізод. Цяжка нават выбраць што-небудзь найбольш яскравае. Усе чатыры гады я жыў у нейкім асаблівым душэўным стане, і думка пра вайну сядзела ў свядомасці, як забіты цвік. І не толькі ў свядомасці — у пачуццях, адчуваннях. Магчыма, гэта вытлумачваецца тым, што быў малады — было шаснаццаць з нечым, калі пачалася вайна, і дваццаць, калі закончылася,— а ў маладосці душа расчынена наросхрыст да ўсяго, што бачыш і чуеш.

Як сёння, бачу першы дзень вайны (сустрэў яго ў сваім мястэчку на Палессі), апошні (для мяне ён наступіў у Сілезіі, на 1-м Украінскім фронце), выразна памятаю час, звязаны з вызваленнем Арла, Белгарада, з першымі салютамі (тады я быў прылучан да партызанскіх спраў). Гэта «агульнае», што жыло ў асабістым вопыце, злівалася з ім, але ёсць яшчэ асабістае, звязанае з выпрабаваннямі, небяспекай,— гэтага таксама было нямала.

2. У першае дзесяцігоддзе, як я лічу, наша літаратура пераважна паказвала гераічны бок вайны. Больш звяртала ўвагі на нашы перамогі. Мабыць, гэта было натуральна — толькі што адгрымелі пераможныя салюты і ўсе мы жылі Перамогай. У наступнае дзесяцігоддзе побач з адлюстраваннем героікі (а без гэтага немагчыма пісаць пра такую вайну, як наша, Айчынная) літаратура звярнулася і да драматычнага, трагічнага боку, да салдата ў акопе, да жонкі салдата, што атрымала «пахаронку» і г. д.

Гэтая тэндэнцыя працягваецца, як мне здаецца, і ў літаратуры трэцяга дзесяцігоддзя. Разам з тым як бы наступае час сінтэзу, панарамнасці ў адлюстраванні падзей Айчыннай вайны, яе «шматгалоснасці». Я не выключаю магчымасці дальнейшага з'яўлення вельмі «асабістых» твораў пра вайну. Мірнае жыццё, працэсы, якія ў ім ідуць, як бы «абвастраюць» пагляд, адчуванні ўдзельнікаў вайны, якія захаваліся з тых дзён, хоць людзі прыкметна пастарэлі.

3. Аб Айчыннай вайне будуць пісаць і пісаць. Яна вызначыла лёс нашай краіны дый усяго свету, магчыма, на стагоддзі. «Вайну і мір» напісаў Леў Талстой, які нават не нарадзіўся, калі ішла вайна 1812 года. Новая «Вайна і мір» можа паявіцца гэтаксама.

Яшчэ параўнальна мала ў нашай літаратуры твораў аб тым, як сустрэўся савецкі салдат і чалавек з людзьмі вызваленых нашай арміяй краін Еўропы, што туды прынёс, што там убачыў.

4. Буду працягваць, і тэмы гэтай хопіць надоўга. Пісьменнікам майго пакалення, відаць, аб вайне забываць не варта. Я яшчэ мала напісаў, абапіраючыся на франтавы вопыт, а ваяваць давялося пад Ленінградам, ва Усходняй Прусіі, у Польшчы, Германіі, Чэхаславакіі. Так што нават асабістыя ўражанні далёка не растрачаны.

*1975*

## АДКАЗ НА ПЫТАННІ АНКЕТЫ, ПРАПАНАВАНАЙ А. М. АДАМОВІЧАМ

1. Погляд на сучаснае апавяданне, у прыватнасці беларускае.

Апавяданне, як і кожны жанр, ведае часы ўзлёту і часы адносна спакойнага, непаспешлівага развіцця. На маю думку, перыяд зацішша перажывае апавяданне сёння. Гэта датычыць і нашага беларускага, і «ўсесаюзнага апавядання». Узлётам для апавядання была сярэдзіна пяцідзясятых і шасцідзясятыя гады. Нездарма тады амаль кожны год выходзілі зборнікі, у якіх змяшчаліся найлепшыя апавяданні года. Цяпер, каб зрабіць такія зборнікі прыкметнай літаратурнай з'явай, проста не хапае матэрыялу. І яны перасталі выходзіць.

Мне здаецца, апавяданне з найбольшым поспехам развіваецца ў перыяды значных змен грамадскай атмасферы, псіхалогіі. Празаікі маюць магчымасць выказаць апавядан-

нем хутчэй, чым раманам, аповесцю, тое, што набалела, што яны хочуць сказаць у дадзены час. Узнікае апавяданне з «набалеласці» душы — не істотна, ці ідзе гаворка пра хуткаплынныя грамадскія з'явы ці вырашаюцца спрадвечныя, праклятыя пытанні. Такім чынам, апавяданне выступае часта як разведка тэмы. Матэрыял, пакладзены ў яго аснову, пазней у іншых мастацкіх вымярэннях можа быць выкарыстаны ў рамане, аповесці. Але я, напрыклад, калі пісаў апавяданні, зусім не думаў, што на тым жа ці падобным матэрыяле буду пісаць раманы і аповесці. Але гэта другое пытанне анкеты, да яго я вярнуся пазней.

Апавяданне асабіста для мяне значыла многае. У свой час я быў захоплен апавяданнямі Якуба Коласа. Многія з іх артыстычна зроблены: у іх іграе немалую ролю кожны сказ, дэталь, кожны паварот настрою. Іх лёгка, цікава чытаць. З дзяцінства мне падабаліся творы зграбна, грацыёзна напісаныя,— дзе значная ідэя, сур'ёзнасць зместу не перашкаджае займальнасці, белетрыстычнасці ў лепшым сэнсе слова. Яшчэ ў даваенныя гады, у школе я перачытаў Чэхава, Купрына, Мапасана, Горкага, Міхася Лынькова. У вайну чытаў пераважна Горкага. Тады ж адкрыў для сябе Кнута Гамсуна: у раённую бібліятэку яшчэ перад вайной аднекуль прывезлі добра пераплецены «адрамантаваны» Збор твораў Гамсуна — «приложение» да дарэвалюцыйнай «Нивы». Ратуючы кнігі, калі ў мястэчка прыйшлі фашысты, я прывалок дамоў і Гамсуна.

Кузьму Чорнага, у прыватнасці яго апавяданні, я адкрыў для сябе, паступіўшы ў аспірантуру, на першым годзе навучання. Я прывык глядзець на апавяданне, маючы як узор навелы Чэхава, Коласа, Лынькова. А тут была зусім іншая паэтыка, другія прынцыпы бачання жыцця. Але апавяданні Чорнага захапілі мяне. Увесь пяцьдзясят другі год я знаходзіўся пад іх уплывам. Можа, таму, што тагачасная беларуская проза асаблівай радасці не выклікала. Дарэчы, апавяданне ў Чорнага было ў значнай меры «разведкай» для яго пазнейшых раманаў. Яшчэ як след не ацэнены апавяданні Чорнага. Вышыні, якія празаік у іх узяў, на жаль, не дасягнуты ім у яго раманах і аповесцях. Асобныя фрагменты з задума-

ных рэчаў паказваюць, што Чорны біўся над гэтай задачай, але не паспеў рашыць. Шкада, магло б атрымацца штосьці накшталт беларускага Фолкнера па глыбіні, тонкасці адчуванняў.

На маю думку, беларускае апавяданне прайшло бліскучы шлях развіцця, у многіх адносінах параўняўшыся па мастацкім узроўні з навелай больш развітых літаратур. Прыкметнымі з'явамі ў нашай навелістычнай творчасці я лічу апавяданні Коласа, Бядулі, Лынькова, Гарэцага (асабліва яго дарэвалюцыйныя творы), Зарэцкага, Чорнага, Брыля, з маладзейшых пісьменнікаў — Пташнікава, Кудраўца, Стральцова. Нашаму апавяданню даступны як сацыяльныя, так і агульначалавечыя страсці. Апавяданне было школай для аповесці, рамана.

2. Чаму побач з раманамі, аповесцямі цягне на апавяданні? Які матэрыял ідзе ў працу?

Для мяне літаратура пачыналася з апавядання. Праз вакно гэтага жанру я глядзеў на жыццё. Відаць, па той прычыне, што я доўгі час працаваў у газеце, пісаў карэспандэнцыі, нарысы, я рана прызвычаіўся цаніць факт. Многія мае апавяданні, як і буйнейшыя творы, пабудаваны на рэальных, нявыдуманых фактах. Вядома, з рэальнымі фактамі адбываецца мастацкая дэфармацыя, яны ўзбуйняюцца, па волі аўтара камбінуюцца. У маё апавяданне ішоў пярвічны жыццёвы матэрыял, так сказаць самае чыстае і важкае зерне. Я не падзяляю пункта гледжання, што апавяданне можа ўзнікнуць з адыходаў, так сказаць, буйной вытворчасці, з рэштак жыццёвага матэрыялу, які не ўвайшоў у раман. Некаторыя факты падпольнай, партызанскай барацьбы, на якіх я будаваў апавяданні, увайшлі затым у раманы. Раманы былі мне падказаны апавяданнямі. Як, напрыклад, узнікла «Сасна пры дарозе»? Я ведаў рэальную будку і рэальную сасну. Бачыў іх на працягу дзяцінства, юнацтва, калі хадзіў у лес па грыбы. Калі вызвалялі Васілевічы, у гэтым месцы мы, партызаны, перарэзалі чыгунку.

Я задумаў апавяданне. Пра будку і сасну, юнака, які жыве на будцы (сам я там ніколі не жыў). Яно мусіла называцца

«Штуцпункт № 16». Пісаў, пісаў — адчуваю канца не відаць. Тады назваў гэта аповесцю. І зноў матэрыял «парваў» задуманыя мной граніцы апавядання. Тады толькі, праз год-два працы, я зразумеў, што пішу, мабыць, раман.

Кожнае апавяданне — гэта непаўторны, самастойны свет. Іншая справа — адзін і той жа жыццёвы матэрыял на ўзроўні апавядання і рамана будзе гучаць па-рознаму. Скажам, у такіх апавяданнях, як «Сямнаццатай вясной», «Трое з зялёнай будкі», «Эх, махорачка...», у дачыненні да іх герояў, людзей з чыстымі, добрымі сяганнямі, але барацьбітоў нявопытных, незагартаваных, я дапускаў як сродак раскрыцця характараў гумар, іронію. У раманах, каб я нават захацеў, гэтага нельга было зрабіць. Там дзейнічалі іншыя законы, і знаёмыя па апавяданнях героі траплялі ў сілавое поле драмы і нават трагедыі.

Ды і апавяданні мае не ляжаць адзіным пластом. Тых, прасякнутых лірычным юнацкім настроем, я, каб нават захацеў, цяпер не напішу. Змяніўся час, іншым стала маё светаадчуванне. Мастацкія творы таго ці іншага аўтара — гэта, відаць, этапы станаўлення, развіцця духу творцы. Сапраўды, двойчы нельга ўступіць у адну і тую ж раку.

Апавяданне для мяне заўсёды пачыналася з настрою. Настрой — як музыка. Яна пачынала гучаць у глыбіні істоты, потым усплываў які-небудзь факт, нараджаўся, так сказаць, імпульс да творчасці. Многія апавяданні былі так напісаны. Я не заўсёды ведаў, калі садзіўся пісаць, як пойдзе развіццё падзей, які будзе канец. Тэмбр, рытм апавядання нараджаўся з жыццёвага матэрыялу, які я бачыў, адчуваў, калі пісаў апавяданне. Вядома, не толькі з бачнага матэрыялу ўзнікае твор, а і з нябачнага, з таго, што называецца ідэалам, парываннем душы пісьменніка. Гаворым пра зямлю, а глядзім на неба. Не мне меркаваць, як яно ўдалося, але, пішучы пра зямныя справы, я, здаецца, заўсёды думаў пра вышэйшыя матэрыі. Жыццё — неразгаданая загадка. Навошта яно, дзеля чаго, у чым яго сэнс? Вялікія мастакі біліся над гэтымі пытаннямі, але і нам, звычайным смяротным, дастаткова работы пакінулі.

3. Асноўныя тэмы. Праблемы апавяданняў. Творчая гісторыя асобных апавяданняў.

Хоць я сам з’яўляюся навукоўцам, маю філалагічныя тытулы і званні, але толкам не магу растлумачыць, чаму пісаў тыя або іншыя творы. Мне здаецца, на адно з пастаўленых пытанняў добра адказаў сам аўтар анкеты А. М. Адамовіч. Гадоў дваццаць назад ён справядліва пісаў, што для мяне, як для пісьменніка, у першых апавяданнях важна было высветліць, якія сталыя, непераходзячыя жыццёвыя каштоўнасці захаваліся, не кранутыя ніякімі культамі.

Я надрукаваў першыя апавяданні ў 1955 годзе, у атмасферы, калі мы адмаўляліся ад многіх уяўленняў, што не вытрымалі праверкі часам. Але я сам удзельнічаў у падпольных, партызанскіх справах, быў на фронце, многія мае таварышы з вайны не вярнуліся. Дзеля чаго яны аддалі сваё жыццё?

Два гады акупацыі думка пра фронт, пра лёс вайны сядзела ў сэрцы як цвік. Раён наш быў вынішчан, большасць вёсак спалена. Многае з вайны і ў акупацыі, і на фронце я бачыў на ўласныя вочы. Быў не згодзен, як паказваецца акупацыя, падпольная, партызанская барацьба ў тагачаснай нашай літаратуры. З гэтай нязгоды вырасла жаданне пісаць.

Пісаў пераважна пра тое, што перажыў, добра ведаў. Хлопцы, дзяўчаты, трохі старэйшыя і равеснікі мае з іх жыццёвымі сяганнямі сталі героямі многіх апавяданняў. Калі можна паставіць пытанне, што новага ўнёс я ў беларускую навелістыку, то, на маю думку, адказ будзе такі — паказ школьнага пакалення. Так, у жыццё, у адрозненне ад нашых бацькоў, яны прыходзілі праз школу, наша дзяцінства, юнацтва — школа. І на вайну мы пайшлі са школы, правяралі на ёй жыццёвасць ідэй, якія ўзялі з кніг.

Увогуле, на патрыярхальных дзядоў, якія і цяпер не зніклі са старонак кніг, я гляджу трохі іранічна. Чалавек, якому сёння 60 гадоў, нарадзіўся ў 1917 годзе. Ён савецкі дзед. Хадзіў у школу, быў у піянерах, камсамольцах. Ад таго, колькі класаў школы скончыў, як вучыўся, залежала многае ў яго жыцці. У шафёры, стрэлачнікі ішлі, скончыўшы 5—7 класаў, а хто

адолеў дзесяцігодку, рабіліся сама мала ўчотчыкамі, тэхнікамі, настаўнікамі. Добра было Мележу — Васіль і Ганна, здаецца, вучыліся не доўга, тэхнікумы, інстытуты іх асабліва не вабілі. Але той свет даўно скончыўся. Другая справа, што вялікія страсці кіпяць усюды і заўсёды, як пісаў паэт Максіміліян Валошын: «Весь трепет жизни всех веков и рас живет в тебе. Всегда. Теперь. Сейчас». Ёсць, мабыць, вялікія страсці ў душах людзей, якія скончылі дзесяцігодкі, інстытуты. Толькі пісаць пра гэта цяжка, бо няма ўсталяваных традыцый ні ў літаратуры, ні ў жыцці. Кіпіць, як у гаршку.

Магу прыгадаць творчую гісторыю толькі асобных апавяданняў. «Дом над морам» напісаў за адну ноч. Жыў тады ў інтэрнаце, за сцяной, у суседнім пакоі, ночы наўсцяж праводзілі ў скоках будучыя журналісты. Трохі злаваўся на іх, у апавяданні мне хацелася расказаць, што знаёмыя мне хлопцы, дзяўчаты, маладосць якіх супала з вайной, часу для вясёлых скокаў не мелі. Апавяданне «Рыжыя коні» напісаў, убачыўшы, як гналі на мясакамбінат табун здаровых, маладых коней. «Вераніка» ўзнікла, калі аднойчы напаткаў вельмі прыгожую дзяўчыну. Лёгка ўявіў, што было б, каб такая дзяўчына прыйшла ў нашу яшчэ даваенную школу, вучылася ў маім класе.

*1977*

## МАСТАЦКАЕ СЛОВА СЁННЯ І ЗАЎТРА

Рэдакцыя штотыднёвіка папрасіла шэраг пісьменнікаў і літаратуразнаўцаў адказаць на пытанні анкеты ў прыдатнай для іх форме.

Змяшчаючы сёння пытанні анкеты і першыя адказы на іх, рэдакцыя заклікае на ўдзел у пачатай гаворцы пісьменнікаў і чытачоў.

1. Што, на Вашу думку, найбольш характэрна для сённяшняга літаратурнага працэсу ў рэспубліцы (ідэйна-тэматычныя

пошукі, развіццё жанравых форм, стылявыя плыні і г. д.)? З чым звязаны заўважаныя Вамі змены і тэндэнцыі?

2. Апавяданне — аператыўны жанр літаратуры. Ці задавальняе Вас стан сучаснай навелістыкі? Якія, на Ваш погляд, тэндэнцыі ў развіцці гэтага жанру — плённыя, а якія — негатыўныя?

3. Узровень сучаснага рамана і аповесці? Якія, на Вашу думку, іх моцныя і слабыя бакі?

4. Як Вы ацэньваеце здабыткі нашай паэзіі апошніх гадоў? Ці не знізілася яе грамадзянскае гучанне? Ёсць падставы гаварыць пра гэта?

5. Якія жыццёвыя рысы вызначаюць сённяшняга героя нашай літаратуры (паэзія, проза, драматургія)? Чаго яму не стае? У якім кірунку могуць ісці пошукі новага героя?

6. Які рэальны ўплыў беларускага літаратуразнаўства і крытыкі на бягучы літаратурны працэс? Чым вызначаюцца ўзаемаадносіны паміж крытыкай і літаратурнай практыкай? Якая роля суб’ектыўнага і аб’ектыўнага момантаў? Што пераважае і што мае вызначальнае значэнне?

*Не задавальняе...*

1. Думаю, у апошнія гады больш пляннымі былі пошукі стылявыя, жанравыя. Адкрыццяў характараў, якія б увасаблялі новыя жыццёвыя тэндэнцыі, менш. Відаць, завяршаецца пэўны віток у духоўным жыцці, развіцці літаратуры, і яна, літаратура, не можа гэтага не адчуць.

2. Не задавальняе. Яркіх апавяданняў мала. Шмат дробных па тэме, якія не нясуць у сабе прыкмет сучаснага пульсу жыцця, яго новых павеваў.

3. Раман і аповесць таксама як бы завяршаюць распрацоўку раней адкрытых жыццёвых пластоў. Хоць мастацкі ўзровень шэрагу раманаў, аповесцей даволі высокі.

4. Думаю, працэсы, характэрныя для прозы, уласцівы ў пэўнай меры і паэзіі. Няўхільна расце дасканаласць формы, артыстызм, але вершаў, паэм, якія б сталі падзеямі ў літаратурным жыцці, не так шмат.

5. Бракуе шырокіх эпічных палотнаў, прысвечаных сучаснасці, мала твораў, у цэнтры якіх актыўна-дзейсны герой, сённяшні «дзелавы» чалавек.

6. Крытыка за апошнія гады ў пэўнай меры актывізавалася. Але яшчэ недастаткова крытыкі адважваюцца на абагульненні, прагнозы, аддаючы перавагу аналізу паасобных твораў і творчасці таго ці іншага пісьменніка.

*1979*

## ПЕРАДЗ'ЕЗДАЎСКАЯ ТРЫБУНА

Напярэдадні VIII з'езда пісьменнікаў Беларусі, які пачне сваю работу 14 красавіка, рэдакцыя звярнулася да пісьменнікаў, вучоных, чытачоў з прапановай — адказаць на адно пытанне: «Што б вы хацелі пачуць з трыбуны пісьменніцкага з'езда і чаму?» Некаторыя з адказаў на нашу анкету выліліся ў разгорнутыя артыкулы і былі надрукаваны пад рубрыкай «Перадз'ездаўская трыбуна». Сёння, заканчваючы перадз'ездаўскі абмен думкамі, змяшчаем шэраг адказаў на пастаўленае пытанне.

— Крыніцай, адкуль пісьменнік чэрпае тэмы, сюжэты, дзе знаходзіць прататыпы сваіх герояў, з'яўляецца жыццё. Раней у літаратуры было так: добра павандраваўшы ў маладыя гады па жыцці, пакаштаваўшы яго радасці, горыч, зведаўшы ўзлёты, сумненні, нягоды, чалавек, што выявіў у сабе літаратурны талент, нарэшце асядаў у набытай да гэтага часу гарадской кватэры і да канца жыцця пісаў кнігі.

Сёння такая ідылія можа прысніцца толькі ў сне. Вядома, і сёння ўражанні маладосці, духоўны набытак, назапашаны пісьменнікам на дарогах жыцця, маюць немалаважную ролю ў пісьменніцкай рабоце. Але вельмі імклівы сёння час, вельмі кардынальныя перамены адбываюцца ў краіне маладосці, у вёсцы, мястэчку, раёне, адкуль пісьменнік прыйшоў у літаратуру! Вядома, паэт, празаік час ад часу можа завітаць у

родныя мясціны, натхніцца ўбачанымі пераменамі, а яшчэ болей тым, што нагадвае яму пра далёкую маладосць.

Але большасць з нас, пісьменнікаў, з'яўляецца службоўцамі. Мы працуем у рэдакцыях, выдавецтвах, навуковых установах, і гэта праца адымае, як кажуць, ільвіную долю пісьменніцкага часу. Я лічу — гэта прамая, непасрэдная страта для грамадства. Бо матэрыялу на раман ці нават на невялікую аповесць, выязджаючы на тыдзень-два нават у мілыя, зведаныя яшчэ ў часы маладосці мясціны, наўрад ці сёння назапасіш. Вельмі ўскладнілася жыццё, залішне вялікія, імклівыя зрухі адбыліся ва ўсіх яго галінах, каб пісьменнік за час кароткага наезду здолеў усё гэта асэнсаваць. Тым часам трэба добра ведаць, вывучыць той прадмет, пра які хочаш напісаць што-небудзь вартае.

Таму, можа, варта хоць часткова аднавіць практыку сацыяльнага заказу, якая, скажам, бытавала ў творчым асяроддзі ў пачатку трыццатых гадоў, у часы наступлення сацыялізму на ўсім гаспадарчым фронце, будаўніцтва новых форм жыцця.

Трэба, каб нашы рэдакцыі, выдавецтвы знаходзілі магчымасць паслаць на год ці хоць на паўгода найбольш здольных пісьменнікаў у творчыя камандзіроўкі — з прыцэлам на будучы раман ці аповесць. Можна спадзявацца ў такім выпадку, што, пажыўшы ў вядомых яму з часоў маладосці мясцінах, натхніўшыся і новым, і даўно знаёмым, дарагім сэрцу, вопытны пісьменнік прывязе не твор-аднадзёнку, а нешта ў мастацкіх адносінах сапраўды вартае, што застанецца ў актыве літаратуры надоўга.

*1981*

## ИТОГИ, ПЕРСПЕКТИВЫ, ЗАДАЧИ

В преддверии 60-летия СССР редакция обратилась к руководителям крупнейших центров литературной науки — ИМЛИ и Пушкинского Дома АН СССР, а также институтов литературы академий наук республик с просьбой ответить на следующие вопросы:

1. Каковы основные направления научных исследований Вашего института и важнейшие труды, вышедшие в 60—70-е годы?

2. Что сделано в институте в области исследования творческих взаимосвязей литератур, в частности взаимосвязей литератур народов СССР?

3. Каковы, на Ваш взгляд, наиболее важные вопросы, стоящие ныне на повестке дня в изучении как отдельных литератур народов СССР, так и многонационального литературного процесса в целом?

Главные направления деятельности института определяются исследованием закономерностей развития белорусской литературы начиная с древнего периода до наших дней, изучением вопросов теории литературы, становления метода социалистического реализма, взаимосвязей и взаимодействия белорусской литературы с другими литературами народов СССР и зарубежных стран, подготовкой и изданием научно комментированных собраний сочинений классиков, а также отдельных литературных памятников.

Коллектив института за пятьдесят лет существования проделал большую научно-исследовательскую и организаторскую работу. Его деятельность связана с созданием и развитием белорусского литературоведения, которого, как отрасли науки, до Октября не было.

Процесс выработки научной методологии проходил в острой борьбе с буржуазными теориями, националистическими и вульгаризаторскими тенденциями в литературоведении.

Научные успехи института в довоенный период и в первое послевоенное десятилетие характеризуются созданием ряда обобщающих работ по проблемам истории литературы и монографий, посвященных творчеству Янки Купалы, Якуба Коласа, Кузьмы Чорного, Кондрата Крапивы, Петруся Бровки, Петра Глебки и других ведущих белорусских писателей. Белорусские ученые в этот период готовят учебники и учебные пособия по белорусской литературе, в которых остро нуждалась средняя и высшая школа, и начинают научное издание классиков XIX—XX веков.

Качественно новым этапом в работе института явились 60—70-е годы, когда, накопив большой фактический материал, коллектив института приступил к его теоретическому обобщению. В это время вышла четырехтомная «История белорусской литературы» и другие фундаментальные работы, исследующие закономерности развития литературы, ставящие и решающие актуальные проблемы метода, стиля, жанра, художественной формы.

Были подготовлены такие коллективные труды, как «История белорусской советской литературы», «История белорусской дооктябрьской литературы», «Проблемы современной белорусской прозы», «Содружество литератур», «В. И. Ленин и литература», «Современная белорусская поэзия», «Белорусская советская проза: Рассказ и очерк», «Белорусская советская проза: Роман и повесть», «Пути развития советской прозы», «Стиль писателя», «Единство и взаимообогащение», «Рождение нового искусства: Социалистический реализм — закономерность исторического развития белорусской литературы».

Положительную оценку общественности получили монографии: «Франциск Богушевич и проблема реализма в белорусской литературе XIX столетия» В. Борисенко, «Белорусская советская проза» Ю. Пширкова, «Пути развития белорусской советской литературы 20—30-х годов» Н. Перкина, «Белорусский роман» и «Горизонты белорусской прозы» А. Адамовича, «У истоков социалистического реализма» В. Ивашина, «Янка Купала. Духовный облик героя» и «Якуб Колас. Духовный облик героя» И. Науменко, «Белорусская детская литература» Э. Гуревич, «Янка Купала и белорусская поэзия» М. Яроша, «Истоки. Влияния. Ускоренность. Развитие белорусской литературы XIX—XX веков» В. Коваленко, «Белорусская критика и литературоведение: 20—30-е годы» М. Мушинского, «Структура произведения» В. Журавлева, «Белорусская советская поэма» Н. Арочко, «На перекрестке славянских традиций» А. Мальдиса, «Мифо-поэтические мотивы в белорусской литературе» В. Коваленко, «Белорусский роман: годы 70-е» П. Дюбайло и др.

История белорусской литературы, ее теория, идейно-художественное своеобразие, осмысление творческого пути ведущих писателей, раскрытие интернациональных взаимосвязей белорусской литературы с другими советскими литературами — исследования на эти темы воплощаются в десятках книг, статей и монографий. К этому следует добавить научное издание наследия классиков белорусской литературы, выдающихся памятников письменности.

Крупнейшим достижением института литературы за годы десятой пятилетки является написание «Истории белорусской литературы» (1977) в двух книгах на русском языке, рассчитанной на массового всесоюзного читателя.

Знаменательным поворотом в деятельности литературоведов института является также целенаправленное стремление расширять круг научных интересов, крепить творческие связи с учеными других советских республик и стран социализма. На протяжении ряда лет сотрудники института принимали участие в работе над такими фундаментальными трудами, осуществляемыми под руководством ИМЛИ, как многотомные «История советской многонациональной литературы», «История всемирной литературы».

Определенным показателем зрелости белорусской литературной науки можно считать славистические исследования, ведущиеся планомерно уже многие годы, активное участие ученых института во всех международных съездах славистов, издание ими сборников и монографий о взаимосвязях и взаимодействии литератур, о диалектике национального и интернационального в художественной литературе («Содружество литератур», «Страницы литературных связей», «Национальное и интернациональное в литературе», «Единство и взаимообогащение» и т. д.).

Новые грани славянского литературного взаимодействия и взаимообогащения, все более активная роль в этом процессе революционных, социалистических тенденций как в белорусской, так и в русской и польской литературах раскрыты в коллективном исследовании «Белорусская литература в мире славянских литератур». Новые материалы и новые аспекты изучения позволяют утверждать, что сближение литератур,

культур славянских народов на путях борьбы за гуманистические, прогрессивные идеалы практически содействовало выходу на тот уровень идейно-содержательного и стилевого развития, который ставит белорусскую прозу, поэзию и другие жанры в один ряд с высокоразвитыми современными литературами.

В перспективе научных исследований — дальнейшее более углубленное изучение взаимосвязей и взаимодействия белорусской литературы с литературами народов СССР, прежде всего с русской, украинской и литовской литературами. Белорусская литература — одна из ярких граней всей многонациональной советской литературы. В последние годы, повторяем, она также все сильнее осознается как часть всей мировой литературы. Это определяется эпической глубиной и философской масштабностью разговора со всем миром о проблемах, волнующих не только белорусов, но и многие другие народы, и сказывается в лучших произведениях современных белорусских писателей.

В 1983—1985 годах институт завершает фундаментальное коллективное исследование «Народный подвиг в Великой Отечественной войне и художественный опыт белорусской литературы в контексте других литератур», ряд других работ типологического характера. По результатам исследований будет подготовлен и издан ряд монографий, что явится важным вкладом в изучение проблемы связей литератур, процессов их сближения и взаимообогащения на современном этапе коммунистического созидания.

Институт продолжит участие в подготовке обобщающих изданий общесоюзного характера, в частности в написании «Истории литератур народов СССР дооктябрьского периода», осуществляемой ИМЛИ.

Расширяются и укрепляются международные научные связи института. Успешно осуществляется изучение белорусско-немецких, белорусско-чешских, белорусско-польских литературных связей. Предприняты конкретные шаги по укреплению научных контактов с литературоведами СФРЮ. Подготовлен и согласован проект Рабочего плана научного сотрудничества между Институтом литературы АН БССР и Институтом

словенской литературы и литературоведения Словенской академии наук. В аспекте общей проблемы «Взаимообогащение социалистических литератур как движущий фактор современного художественного прогресса» в течение 1981—1985 годов предусматривается исследование белорусско-югославских литературных связей на материале произведений, посвященных темам антифашистской борьбы советского и югославского народов в годы Великой Отечественной войны.

Ученые Института литературы АН БССР являются постоянными участниками международных конгрессов славистов, различного рода конференций, симпозиумов и коллоквиумов по вопросам развития славянской культуры, которые проводятся в братских социалистических странах и в нашей стране.

*1982*

## ВО ИМЯ ЖИЗНИ НА ЗЕМЛЕ

1. Что из написанного в годы войны и тогда прочитанного Вами запомнилось Вам больше всего? Что из этих произведений сохранило живую силу и в наши дни?

2. К 20-летию и 30-летию Победы над гитлеровской Германией журнал «Вопросы литературы» проводил анкеты среди писателей-фронтовиков, ответы на которые, как затем неоднократно отмечала критика, явились важным материалом для характеристики состояния нашей литературы о Великой Отечественной войне. Эта анкета должна продолжить две предыдущие. Что нового дала литература о войне в последнее десятилетие? Какие направления в ней Вам кажутся наиболее перспективными?

3. Будете ли Вы продолжать писать о войне? Что, на Ваш взгляд, необходимо еще рассказать о ней?

4. Какова в Ваших произведениях мера соотношения Вашего личного фронтового опыта и вымысла?

1. Из произведений, написанных в дни Отечественной войны, мне запомнились статьи Ильи Эренбурга, повесть

«С фронтовым приветом» В. Овечкина, а из произведений наших, белорусских писателей — романы Кузьмы Чорного, к сожалению, неоконченные. Находясь в сорок четвертом и сорок пятом годах на фронте, я с нетерпением ожидал, когда принесут «Красную звезду», в которой чаще всего печатался Эренбург.

Что касается повести В. Овечкина и романов К. Чорного («Млечный Путь», «Поиски будущего»), то они, по моему мнению, в середине 50-х годов, после XX съезда КПСС, как бы развились в целое направление нашей литературы, характеризовавшееся более правдивым показом жизни, изображением ее реальных противоречий и тенденций.

2. Советская литература успешно продолжала развивать тенденции, наметившиеся в середине 50-х годов. Анкеты «Вопросов литературы» в какой-то мере дали писателям материал для размышления. Думаю, в последующем обрели новую силу как произведения, рисующие войну панорамно, так и те, что изображают ее в локальном течении.

3. Буду писать. Есть темы, которых касался пока только в рассказах. Как бы примеривался к ним. Например, о том, как мы пришли в Германию и что там увидели. Использованный жизненный материал (особенно в моих панорамных романах) тоже в отдельных случаях как бы требует повторного, более углубленного прочтения.

4. В том, о чем пишу, стараюсь держаться поближе к увиденному, пережитому на войне. Но вымысел, фантазия присутствуют даже в самых моих автобиографических произведениях.

*1985*

## НАПЕРАДЗЕ ШМАТ РАБОТЫ

1. Ці пішацца сёння, і, калі без прымхаў, то што іменна?

2. Ці ўзнікла жаданне перагледзець набыткі, памяняць арыенціры, звярнуцца да іншых тэм і жанраў?

3. Сфера вашых жыццёвых інтарэсаў (так званае хобі).

1. Дасягнуў паважнага ўзросту: набліжаюся да 70-годдзя, але патроху пішу. Вядома, асабліва размахвацца не выпадае. Закончыў аўтабіяграфічную трылогію: «Дзяцінства», «Падлетак», «Юнацтва». «Дзяцінства» выйшла асобнай кніжкай, «Падлетак», надрукаваны часопісам, ляжыць без руху, «Юнацтва» прыняў да друку часопіс «Полымя» (ён і папярэднія аповесці пусціў у свет, і вялікае дзякуй яму за гэта).

Пішу апавяданні. Друкаваць іх таксама цяжка. Здасі ў часопіс — трэба год чакаць, газеты, выключаючы «ЛіМ», амаль не друкуюць. Наша сённяшняя літаратура як бы вярнулася да часоў «Нашай нівы». Адкуль пайшла, туды і прыйшла.

Працуючы другі год выкладчыкам літаратуры, а таксама ў акадэмічным Інстытуце літаратуры, займаюся таксама трохі літаратуразнаўствам. Калі не наспелі ў душы задумы чыста мастацкія, ахвотна пішу пра Купалу, Коласа, іншых мастакоў слова.

Нядаўна выйшла мая кніга «Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч». Доўга я думаў пра яе, збіраў факты, матэрыял і нарэшце напісаў.

Цяпер дапаўняю, пашыраю кнігу пра Янку Купалу. Напісаў і перагледзеў некаторыя раней напісаныя раздзелы. Але наперадзе яшчэ шмат работы.

Пішу аднačасова кнігу пра Змітрака Бядулю. Ён абыдзены крытыкай, літаратуразнаўствам. А пісьменнік цікавы, арыгінальны і ў нашай літаратуры непаўторны.

2. Жадання пераглядваць набыткі, мяняць арыенціры няма. У кожнага пісьменніка ёсць вызначаная жыццёвым вопытам тэма. Могуць мяняцца погляды, перакананні, адносіны да тых ці іншых палітычных ідэй, плыняў. Але эстэтычнае чуццё, светаадчуванне, маральна-этычныя крытэрыі, каштоўнасці — нейкія глыбінныя якасці, уласцівыя мастаку, не залежаць ад гэтага. Нездарма пісьменнікі самых розных напрамкаў, розныя ў светапоглядных адносінах, сімпатыях, антыпатыях, пішуць добрыя кнігі, і чытач, таксама мнагалікі, прымае іх.

Я амаль нічога не напісаў пра першыя пасляваенныя гады. А ведаю іх няблага: працаваў карэспандэнтам абласной, затым рэспубліканскай газеты, ездзіў па калгасах, саўгасах,

раёнах. Цяжкі быў час. Калгаснікам амаль нічога не плацілі, і ў той жа час не давалі засеяць лішнюю сотку, накасіць карове капу сена. Каму такое было патрэбна? Іменна ў той час з-за недальнабачнасці кіраўнікоў рознага маштабу вёску пачала пакідаць моладзь, і не толькі моладзь.

Пішу аповесць пра першыя пасляваенныя гады. Краіна адбудавалася пасля страшэннай спусташальнай вайны. Я часта прыязджаў у Мінск (вучыўся завочна ў БДУ) і бачыў, як ён літаральна расце на вачах. На сталае жыццё ў Мінск я пераехаў у 1951 годзе. Горад, хоць яшчэ сям-там праглядваліся руіны, пустэчы, актыўна жыў, набываў сённяшні воблік.

Увогуле за лічаныя гады краіна ўступіла ў нармальны рытм жыцця. На жаль, гэтага не скажаш пра іншы час, адлік якога можна пачынаць з нашай славутай перабудовы.

3. Люблю прыроду — лес, грыбы. Займаюся (на ўзроўні аматарства) параўнальным мовазнаўствам. Хоць яно, здаецца, зайшло ў тупік. Трэба нейкія кардынальныя адкрыцці, рашэнні, ідэі. Іх няма. Але як аматару, відаць, меркаваць пра такія матэрыі не выпадае.

*1994*

## СПАДЗЯВАННЕ НА ЛЕПШАЕ

Час одуму, час спадзяванняў…

Ён, гэты час, прыходзіць да чалавека менавіта на сумежжы гадоў, калі адзін год адыходзіць, а другі — прыходзіць. Тады міжволі і нараджаецца ў чалавека патрэба азірнуцца назад, на год пражыты, паразважаць над тым, які ён быў, якія прынёс страты і здабыткі, чым усцешыў і чым засмуціў… А, з другога боку, час гэты выспельвае ў душы і новы спадзеў, які звязваецца ўжо з годам надыходзячым; веру ў тое, што ён, з вялікай літары Новы год, будзе лепшым, шчадрэйшым, шчаслівейшым, больш плённым на самыя розныя, матэрыяльныя і духоўныя, скарбы, увогуле больш удачлівым, чым год стары (вядома ж, з малой літары).

На гэтым сумежжы гадоў «ЛіМ» звярнуўся да групы пісьменнікаў падзяліцца — сцісла, кшталтам навагодняга тосту — з чытачамі сваім одумам пра год стары і спадзяваннямі на год Новы. Звярнуліся да тых, каму, з аднаго боку, ужо за семдзесят, і да тых, хто не старэй сарака, каму пад трыццаць і за трыццаць.

Старэйшым — слова сёння, у апошнім нумары штотыднёвіка за 1995 год. Маладзейшыя возьмуць слова ў першым нумары «ЛіМа» ўжо года новага, 1996-га…

Як жывецца на схіле старога года? Ды, бадай, так, як і ўсім пісьменнікам. Наўрад ці можа сёння хто-небудзь з нас разлічваць, што ўдасца пражыць за творчую працу. Але хоць бы кнігі выходзілі, а то даводзіцца чакаць іх гадамі. Напрыклад, яшчэ ў лютым я вычытаў карэктуру свайго рамана «Сорак трэці», але і па сённяшні дзень ён не пабачыў свет. На 1996 год запланаваны ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» другі том збору маіх твораў, які складаецца з рамана «Смутак белых начэй», аповесцяў «Інтэрнат на Нямізе», «Развітанне ў Кавальцах», «Апошняя восень». Дык тут становішча яшчэ горшае — нават карэктуры няма.

І ўсё ж пісьменнік не можа не працаваць. Таму і я жыву новымі творчымі планамі. Нядаўна скончыў аповесць «Любімы горад», якую часопіс «Полымя» абяцае змясціць у другім нумары за 1996 год. Гэта працяг маіх аўтабіяграфічных твораў, з якімі чытач меў магчымасць пазнаёміцца раней. Цяпер галоўны герой паказаны ў пасляваенны час. А назва аповесці ўзята невыпадкова. Некалі вельмі папулярнай была песня пра любімы горад, які можа спаць спакойна. Я і вырашыў з вышыні сённяшняга дня, з вышыні свайго жыццёвага вопыту глянуць на самога сябе і сваіх равеснікаў у тым узросце, калі яны сама ўваходзілі ў жыццё. Мелі ўжо немалы вопыт, перажылі вайну і разам з тым у многім па-ранейшаму заставаліся празмерна рамантычнымі, а таму і цяжка ім было прывыкаць да суровых абставін паўсядзённасці.

Працягваю пісаць апавяданні. Некалькі запланавана ў трэці нумар часопіса «Маладосць». Увогуле, жанр апавядання мне вельмі падабаецца. Асабліва апавяданне, невялікае паме-

рам,— недзе пяць-шэсць твораў задумана. А сюжэты ўзяты з сучаснасці.

Праўда, за ажыццяўленне гэтай задумы вазьмуся крыху пазней. А цяпер працую над кнігай пра Максіма Багдановіча. Як чытач ведае, нядаўна ў мяне выйшлі гэткія ж даследчыцкія кнігі пра Дуніна-Марцінкевіча і Змітрака Бядулю. З прыцягненнем новых матэрыялаў. Ёсць у мяне і некалькі малавядомых фактаў з жыцця Багдановіча…

Так што ў Новым годзе хочацца спадзявацца на лепшае, а калі ў лепшае верыцца, то і працуецца…

*1995*

## СОВРЕМЕННАЯ БЕЛОРУССКАЯ ПРОЗА: ВРЕМЯ И ГЕРОЙ

Размышляя о литературе последних лет, мы вправе задуматься о путях ее развития, над тем, как успешно белорусские писатели сумели в художественных произведениях отразить это непростое время, показать образ современника. Имея в виду все сказанное, редакция журнала «Нёман» обратилась к писателям, критикам и литературоведам с просьбой ответить на следующие вопросы:

Сумела ли белорусская проза последнего времени отразить изменения, произошедшие в сознании современника?

В каких произведениях наиболее ярко воплощен духовный опыт белорусского народа?

Каким вы видите сегодняшнего героя — в литературе и в жизни?

Творчество кого из современных белорусских прозаиков импонирует вам?

Ваши пожелания журналу «Нёман».

Думаю, что в какой-то мере белорусская проза последнего времени сумела отразить изменения, происходящие в нашем обществе, но все еще впереди…

Из представителей молодого поколения прозаиков наиболее ярко духовный опыт белорусского народа воплощен в произведениях А. Федоренко, из старшего — в произведениях В. Адамчика, А. Кудравца.

Мне представляется, что современный герой — это прежде всего герой активный… Ну, а какой он в конкретном плане, зависит от его характера, жизненной позиции. Идет процесс преобразования. Многое только начинается. Нужно еще присматриваться, осмысливать…

«Нёману» желаю быть элитарным изданием, зеркалом нашей жизни.

*2003*

# ВЫСТУПЛЕНИ

## ДЫХАНИЕ ИСТОРИИ

Я свою задачу представляю несколько скромнее, «локальнее», чем ранее выступившие товарищи. Мне хочется сказать не об общих чертах литературы, а о тенденциях современной белорусской прозы. Здесь уже называли имя одного белорусского прозаика — В. Быкова. Это очень талантливый писатель, но у нас, в Белоруссии, работает большой отряд прозаиков — новеллистов, авторов талантливых повестей и романов.

За последние годы особенно больших успехов добился роман. Еще года три тому назад у нас задавал тон рассказ, но пришло новое поколение, молодежь, окрепло мастерство писателей среднего поколения (кстати, и В. Быков принадлежит к этому поколению), и вот в последние два-три года тенденция иная: наши прозаики проявляют интерес к более монументальным жанрам. В прошлом году журнал «Полымя» напечатал сеть романов. Никогда раньше белорусская проза, если говорить о крупных эпических полотнах, не брала такого разгона. Тематика этих произведений разнообразна, она напоминает как бы большой исторический пласт в разрезе.

Роман Аркадия Чернышевича «Хутор Малиновка» переносит читателя в дни первой русской революции. Это произведение интересно по своей манере: точность деталей, доскональное знание народного быта и в то же время подлинная поэтичность.

Время действия романа Николая Лобана «На пороге будущего» — канун Октября и дни революции. В центре книги — три поколения Шеметов, обычной крестьянской семьи. Н. Лобан — сторонник неторопливого, даже замедлен-

ного повествования, он внимательно, местами, может быть, даже чрезмерно подробно рассказывает о буднях не только главных, но и второстепенных героев.

Наиболее значительным достижением белорусской прозы последних лет является роман Ивана Мележа «Люди на болоте», роман о 20-х годах. А значительным он стал потому, что образы его главных героев Василя и Ганны из затерянной среди болот полесской деревушки — подлинно художественное открытие. С таким мастерством рисует Мележ эти характеры, такое богатство мыслей, чувств, настроений, стремлений в них открывает, что читателя — кто бы он ни был по своему интеллектуальному уровню — непременно обогатит знакомство с героями полесской хроники.

Все названные произведения — части задуманных крупных полотен, дилогий и трилогий. Поворот прозы к монументальности не случаен. В литературе усилилось стремление осмыслить исторический путь, пройденный народом, увидеть истоки героических характеров, оценить с позиций современности наше революционное прошлое, воплотить в художественных образах основные этапы становления советского общества.

Роман, в частности роман социальный, не может не нести в себе дыхания истории. Но острым, проблемным, волнующим будет только то произведение, которое затрагивает коренные интересы современников, проблематика которого актуальна и для наших дней.

В этом смысле, мне кажется, белорусская проза очень близка к прозе русской, имеет те же самые тенденции и общие черты,— это интерес к народной жизни во всей ее противоречивости и сложности, борьба с иллюстративностью, стремление к самостоятельным художественным открытиям. Вот, например, романы о революции. Вспомним «кожаные куртки» в некоторых произведениях 20-х годов. Сейчас художники хотят смотреть на революцию, на ее героев иначе и шире. А. Чернышевич, изображая взаимоотношения деревни с помещиками, зарождение социального недовольства, создает многогранные и очень человечные образы крестьян.

Особенностью произведений последних лет является то, что их авторы исследуют жизнь в ее самых разнообразных

связях, не избегая вопросов сложных, противоречивых, не «высветляя» суровую реальность жизни. Проза стала более внимательной к вопросам нравственным, этическим. Это вполне соответствует основным тенденциям нашей современной жизни. Сегодня, как никогда раньше, встает вопрос о духовном, моральном облике строителя коммунизма.

Новые качества белорусской прозы не с неба свалились — они были заложены в предыдущий период развития и продолжают то лучшее, что было создано литературой Белоруссии. Несомненно, что повести В. Быкова о войне — удачная попытка соединения высокого, героического — тех качеств, которые преимущественно несла предыдущая «военная» проза,— и обычного, будничного, без чего не выигрывалась ни одна самая героическая битва. Пристальное внимание авторов новых романов и повестей о Великой Отечественной войне к будничному, обычному совсем не значит, что авторы эти чураются «высокого», героического. Они стараются показать подлинную меру трудностей, чтобы раскрыть величественный героизм народа. И здесь идет продолжение, развитие на новой основе лучших традиций военной прозы предыдущего периода.

В отличие от авторов, которые проводят своих героев через множество событий, дорог, встреч с другими людьми, сюжеты военных повестей В. Быкова локальны, время действия в них ограничено — почти всегда один день, но коллизии избираются автором чрезвычайно драматические. Писатель очень внимателен к своим фронтовым героям, он умеет хорошо видеть и передать внутренний драматизм через детали обстановки. У В. Быкова мы видим синтез бытового и героического, действие очень напряженно, и это тоже способствует популярности его произведений.

Из наблюдений над прозой о войне можно, мне кажется, сделать общий вывод, что писатели стали уделять больше внимания поведению, думам и переживаниям рядовых участников войны. Стало даже традицией, которая, пожалуй, берет начало от «Севастопольских рассказов» Толстого, населять военный роман или повесть многими героями. Проблема таких произведений — народ на войне.

Военная белорусская проза последнего времени, как и проза о революционном прошлом, стремится к широким, эпическим полотнам. А. Кулаковский романом «Встречи на росстанях» закончил военную дилогию. Роман В. Карпова «Немиги кровавые берега» — первый из цикла о сражающемся и мирном Минске. Роман А. Адамовича «Сыновья уходят в бой» — продолжение его первой книги «Война под крышами». Романом о партизанах «Былое остается в сердце» завершается трилогия Р. Соболенко. Большую повесть о партизанской борьбе написал А. Карпюк.

С интересным романом «Птицы и гнезда», который открывает новый, не освоенный еще литературный материал, выступил новеллист Янка Брыль. Своеобразна форма этого произведения, где органически переплетаются лирика и глубокие философские раздумья.

Из произведений о нашей современности наиболее значителен роман Ивана Шамякина «Сердце на ладони». Автор его — очень интересный художник, остро чувствующий важные проблемы сегодняшнего дня, умеющий уловить и воплотить то, что назрело в жизни, что носится в воздухе, то есть умеющий «закреплять» в слове быстротекущую действительность. В центре романа — судьба доктора Савича; его считали предателем, репрессировали его дочь, и вот в наши дни дочь возвращается, ей удается разыскать людей, которые помогут ей восстановить доброе имя ее отца… Но находится человек, всячески мешающий этому. Это Гукан, который когда-то не только оклеветал Савича, но и сделал все, чтобы посадили его дочь. Прошлое как бы присутствует здесь в настоящем. Эпизоды борьбы советского подполья, действовавшего в городе в годы фашистской оккупации, тесно переплетены, связаны с нынешней деятельностью почти всех основных героев. Суд настоящего над прошлым составляет конфликт произведения, движет его сюжет, дает роману тот заряд драматизма, который не оставляет равнодушным читателя, хотя не все образы и сцены произведения достаточно психологически наполнены.

Из произведений о современности заслуживают также внимания роман Ф. Пестрака «Средиборье» и повесть А. Осипенко «Обжитый угол».

Несколько замедлил свое развитие белорусский рассказ, а ведь три-четыре года назад он был в авангарде литературы. В этом отношении наши молодые писатели отстают от молодых русских прозаиков, которые гораздо активнее используют этот жанр для вторжения в современность. Это отставание вызывает беспокойство.

*1965*

## СЕМ ГАДОЎ ПОШУКАЎ І ЗДЗЯЙСНЕННЯЎ

Сем гадоў, якія мінулі з часу IV з'езда пісьменнікаў Беларусі,— перыяд вельмі плённы для развіцця беларускай прозы. Плённы па мастацкай вазе кніг, якія прыйшлі да чытача, па яркасці творчых пісьменніцкіх індывідуальнасцей, якія разгарнуліся ў гэты час, нарэшце, па тым рэзанансе, які атрымала наша проза не толькі ў рэспубліцы, а і за яе межамі.

Гэта быў час пошукаў і здзяйсненняў, рэзкіх, часам супрацьлеглых сутыкненняў творчых прынцыпаў, літаратурных спрэчак, нараджэння новых жанраў, плыняў, якія дагэтуль у літаратуры або не бытавалі зусім, або былі прадстаўлены ў зародкавым выглядзе.

Вядома, поспехі беларускай літаратуры не з неба зваліліся. Яны з'явіліся працягам таго лепшага, што было створана літаратурай у папярэдні перыяд.

Беларуская проза апошніх гадоў развівалася пад сцягам ідэй XX і XXII з'ездаў партыі, адчуваючы на сабе подых тых жыватворных перамен, якімі характарызуецца ўсё наша савецкае жыццё. У літаратуры перамены гэтыя выявіліся перш за ўсё ў тым, што пачалі страчваць вагу творы, у якіх жыццё падавалася спрошчана, прасталінейна, з тэндэнцыяй лакіроўкі, згладжвання супярэчнасцей, творы, дзе на першы план выступала тэма, а не яе паўнакроўнае мастацкае ўвасабленне.

Асаблівасцю твораў апошніх гадоў з'яўляецца тое, што іх аўтары імкнуцца да мастацкага даследавання жыцця ў яго самых разнастайных сувязях, не пазбягаюць пытанняў склада-

ных, супярэчлівых. Проза стала больш уважлівай да пытанняў маральных, этычных. Гэта цалкам адпавядае асноўным тэндэнцыям нашага сучаснага жыцця. Сёння, як ніколі раней, паўстае пытанне аб духоўным, маральным абліччы будаўніка камунізму.

Сёння задача пісьменніка, які піша аб сучаснасці, ускладнілася. Пісьменнік, які працаваў у 20-я і 30-я гады, меў перад сабой выразны сацыяльна-класавы канфлікт, які бытаваў у жыцці і які станавіўся асноўнай драматычнай калізіяй мастацкага твора. Жыццё нашага сучасніка не дае матэрыялу з антаганістычнымі, класавымі супярэчнасцямі, але гэта не азначае, што ў сённяшнім жыцці няма канфліктаў, супярэчлівых тэндэнцый, сутыкнення поглядаў. Другая справа, што «дабро» і «зло» ў гэтых канфліктах, супярэчнасцях ляжаць не на процілегла-франтальных лініях, як было, скажам, у 20-я гады, сёння іх так проста, з ходу часам не размяжуеш. Наогул у жыцці рэдка трапляюцца з'явы, якія можна было б безапеляцыйна падвесці пад рубрыку «белых-белых» або «чорных-чорных». Адным словам, канфлікты нашых кніг аб сённяшнім жыцці ўсё болей і болей пераходзяць у сферу маральна-этычную, а гэта вельмі складаная галіна чалавечага жыцця, і залішне просталінейны падыход да яе часта з'яўляецца прычынай нашых творчых няўдач.

Сённяшні пісьменнік павінен быць на ўзроўні дасягненняў грамадства — палітычных, сацыяльных, інтэлектуальных, маральных. Не трэба гаварыць аб тым, што крыштальна выразнай павінна быць яго ідэйна-грамадская, партыйная пазіцыя. Мы жывём у свеце, дзе сілам сацыялізму, міру, прагрэсу супрацьстаяць сілы імперыялізму, агрэсіі, вайны. Літаратура — галіна ідэалогіі, а наша ідэалагічная зброя заўсёды павінна быць дзейснай. Ідэалогія не ведае мірнага суіснавання.

Бадай, кожны з апошніх сямі гадоў быў ураджайны на прозу. У шарэнгі празаікаў уліліся новыя маладыя сілы, выступілі з празаічнымі творамі некаторыя вядомыя паэты. Яшчэ гадоў дзесяць-дванаццаць назад вядучым жанрам у беларускай літаратуры была паэзія. Цяпер становішча перамянілася — на першым месцы проза. Відаць, гэта зусім нармальны

Што у Ивана уживала?
Уживала варенице и
Рыбу с перцем, чеснок с алейцем… [1]

На Купалу нібыта перуновым вогненным цветам цвіце папараць. Хто хоць аднойчы сарваў той цвет, пачынаў разумець размовы, якія вядуць паміж сабой дрэвы, кветкі, травы. Дрэвы ў ноч на Купалу сыходзяць са сваіх месц, рухаюцца, як жывёлы і людзі. Свет поўны чараў і загадак. Авалодаць чарамі, каб разгадаць сэнс жыцця, дадзена далёка не кожнаму…

Янка Купала рана захапіўся духам старажытнасці, які выразна адчуваўся ў абрадавай паэзіі беларусаў. У яго час старажытнага Ярылу, бога пладароддзя на жытнёвай ніве і пачуццёвага кахання, замяніў сціплы святы Юрый; замест Перуна па небе на вогненнай калясніцы раз’язджаў хрысціянскі святы Ілля; Стрыбог, цар вадзяных прастораў, таксама саступіў месца Міколу Мокраму, ці Марскому. Але сам дух павер’я яшчэ быў жывы і шмат гаварыў сэрцу паэта.

Калядкі, вяснянкі, куставыя, купальскія песні гэтак жа, як загаворы, замовы, нібы захоўвалі ў сабе адмецiны бачання, адчування свету нашымі далёкімі продкамі. Старажытныя эпічныя паданні, з якімі найбольш глыбока пазнаёміўся Янка Купала ў перыяд знаходжання ў Пецярбургу, уражвалі яго відавочнай адсутнасцю асобы паэты, стваральніка гэтых паданняў.

Гэту традыцыю Купала будзе шанаваць, працягваць у сваёй уласнай творчасці. Відаць, ёсць дастатковыя падставы сцвярджаць, што менавіта дух старажытных паданняў нарадзіў у творчай фантазіі Купалы вобраз гусляра — ахоўніка народнай традыцыі, песняра, які выракся ўсяго асабістага і жыве на свеце толькі дзеля народнага інтарэсу.

Першыя назіранні чалавека, першыя яго разумовыя практыкаванні датычаць свету фізічнага, акаляючай прыроды. З сузірання, узаемадзеяння з прыродай нараджаюцца пачатковыя веды і рэлігійныя вераванні нашага далёкага продка, тое і другое складала адно непарыўнае цэлае і, зрэшты, вылівалася

[1] Вестник Европы. 1818. № 21. С. 56.

ў паэзію. Карацей кажучы, наіўная, першабытная рэлігія нашых продкаў была адначасна і паэзіяй і заключала ў сабе ўсю мудрасць, усё кола ведаў першабытнага чалавека аб навакольнай прыродзе.

Янка Купала будзе вельмі даражыць нібы запазычанай ім у далёкіх стваральнікаў міфаў і паданняў менавіта вось гэтай рысай, суаднесенасцю свайго паэтычнага слова з наіўна-дзіцячым, не абцяжараным залішняй ускладненасцю поглядам на свет:

Песня мая не ўзышла сярод кветак,
Кветак цвітучага вечна паўдня…
Поўначы сумнай забыты палетак
Даў ёй жыццё пасярод палыння.

Пушча і ночка яе гадавалі,
Няньчылі казкамі долі нямой;
Дождж і расіца вясною купалі,
Снежныя буры тулілі зімой.[1]

Паэзія Янкі Купалы — і гэта асабліва адчуваецца на творах, якія ўвайшлі ў зборнік «Шляхам жыцця»,— быццам прасякнута старадаўнім, «язычніцкім» схіленнем перад сіламі прыроды, заклінаннем і заклікannем гэтых сіл прыйсці на дапамогу чалавеку, здзейсніць яго спадзяванні, асвяціць яго жыццё цяплом і шчасцем. Нібы бард далёкай старажытнасці, Янка Купала можа непасрэдна звяртацца да сонца, месяца, неба, зораў. Традыцыя гэта ў пачатку XX ст., відаць, магла існаваць толькі ў беларусаў, паэтычная культура якіх была недастаткова апрацаваная кніжным словам, у некаторых сваіх праявах яшчэ нібы непасрэдна змыкалася з міфам, паданнем, замовай. Вось верш «Песня сонцу»:

Клічам, сонца, цябе як адзін!
Распусці залацістыя косы,
Схаладзелы загон ацяплі,
Аквяці лугавыя пакосы,
Ўсходы новыя сей на зямлі.[2]

---

[1] Купала Янка. Шляхам жыцця. СПб., 1913. С. 2.

[2] Купала Янка. Шляхам жыцця. С. 10.

Такіх вершаў, якія нагадваюць звароты-ўвасабленні да розных сіл прыроды, у Янкі Купалы многа. Здаецца, яны і нараджаюцца, каб выказаць вялікую, святую для паэта радасць яднання чалавека з неабдымным светам прыроды, і выконваюць нават сацыяльна-грамадскую ролю, бо ад вобразаў, навеяных прыродай, паэт нязменна спускаецца ў бурлівае «мора людскога жыцця».

Ты, зялёная дубрава,
Сон скідай, расцвітай,
І шумеці добрай славай
Не кідай на ўвесь край.

…Маладыя загаворы
Ў ход пусці, сатвары;
Яснаглядам долы, горы
Асвянці, прыбяры.

…Абніміся з нівай роднай
І душой і грудзьмі,
Край прыбіты, непагодны
Ўскалыхні, падымі…[1]

*(«Ты, зялёная дубрава…»)*

Ад мастакоў старажытнага Вавілона бярэ пачатак выраз пра «музыку сфер», музыку, якую нібыта нараджаюць сваім рухам планеты і зоркі. Творчая спадчына Янкі Купалы таксама дае прыклад, калі не толькі для праяў унутранага жыцця чалавека, зрухаў душы, пераліваў інтымнага пачуцця, а і для выказвання настрою навакольнай прыроды паэт шукае і знаходзіць дзіўныя рытмы і гукавыя малюнкі.

Верш «Ты, зялёная дубрава…» па сваім рытмічна-інтанацыйным гучанні далёкі ад звычайнага гукапераймання, ад імітацыі шуму лесу; багацце яго «ўдарных» унутраных рыфмаў, з якіх сплецены на дзіва звонкія чатырохрадкоўі, нагадвае штосьці іншае, як бы нейкую надзвычай вясёлую пераклічку молата і кавадла дзе-небудзь у вясковай кузні. З другога боку, дадзены паэтам рытмічна-інтанацыйны малю-

[1] Там жа. С. 14.

нак таксама мае права на існаванне: нібы размаўляе дуброва гаманкім, перарывістым пошумам з імкліва налятаючымі вятрамі, якія похапкам, па-разбойніцку на яе накідваюцца.

Увогуле інтанацыя заклікання, замовы — рэшткаў далёкіх язычніцкіх рытуалаў, калі чалавек сілай свайго магічнага слова спрабаваў улагодзіць незразумелыя яму сілы прыроды, перацягнуць на свой бок ці нават прыручыць, прыстасаваць іх да сваіх інтарэсаў,— даволі часта выкарыстоўваецца Купалам, і найбольш у вершах, як гавораць, «пейзажных», у якіх лірычны герой застаецца сам-насам з прыродай. Гэта плынь купалаўскай лірыкі, да якой належаць вершы «Як я полем іду…», «Вячэрняя малітва», «У начным царстве», «Мая малітва», «Явар і каліна», «Дзве таполі», «Ваўкалак», «Ў вечным боры», «Хохлік», «Чорны бог», «Заклятая кветка», «На Купалле», «Жніво», «Адцвітанне» і іншыя, цікавыя перш за ўсё нібы жывой прысутнасцю той старадаўняй веры, з якой наш далёкі продак ставіўся да сіл прыроды як да істот адухоўленых.

Відаць, толькі на беларускай глебе, дзе ў значнай меры захаваліся рэшткі сівой, старажытнай славяншчыны, маглі ўзнікнуць падобныя вершы. У названай плыні купалаўскай лірыкі, гэтак жа як і ў паэме Якуба Коласа «Сымон-музыка», думка аб «чалавечым» жыцці дрэў, кветак, траў, рэчкі, возера, лесу не толькі паэтычны вобраз, метафара, арнамент твора, а і яго мастацкая ідэя. Без усёабдымнага антрапамарфізму, які з'яўляецца як бы самім паветрам прыродаапісальных купалаўскіх вершаў, немагчыма ўявіць іх з'яўленне на свет.

Паэт схіляе галаву перад неабдымнасцю сусвету, яго таямнічасцю, неразгаданасцю. Жыццё ўспрымаецца ў гэтай паласе купалаўскай лірыкі як тайна, загадка, як прывабная містэрыя, якую чалавек спасцігае сілай свайго пачуцця, мовай душы і сэрца.

Вось верш «Явар і каліна», адзін з купалаўскіх паэтычных дыяментаў гэтай пары. Змест яго немагчыма перадаць словамі. Гэта выказаная замілаванымі, надзвычай экспрэсіўнымі паэтычнымі радкамі хвала Жыццю, Каханню, увасобленым у вобразах дрэў — явара і традыцыйнай, песеннай, каліны, што шэпчуцца аб чымсьці неразгаданым, таямнічым пад вечным небам.

Згодна з уяўленнямі нашых далёкіх продкаў, неба ўвасабляла сабой мужчынскі пачатак. Яго ўплыў на вечны кругазварот жыцця на зямлі быў відавочны. На небе размяшчалася сонца, дзякуючы жыватворнаму цяплу і святлу якога нараджаецца жывое на зямлі. З неба ліюцца дажджы, каб гэта жывое магло расці і развівацца. Міжволі ва ўяўленні нашых продкаў узнікала думка аб шлюбных сувязях Бацькі-неба з Маці-зямлёй.

Водгалас далёкага, міфалагічнага павер'я, няхай сабе толькі паасобнымі рысамі, праглядвае ў названым купалаўскім вершы. Услухаемся ў яго радкі:

Песняй вясны лебядзінаю,
Скінуўшы зімнія чары,
Шэпчуцца явар з калінаю
Ў сумнай даліне над ярам.

Лісцікі зеленяй хваляцца
Небу панятлівай мовай;
Росамі мыюцца раніцай,
Песцяцца сонцам паўднёвым.

...Захадам модлы пакорныя
З маткай-зямлёй адпраўляюць;
Тайна ў ночаньку чорную
Месяца, зор выглядаюць...[1]

У сапраўднай паэзіі заўсёды як бы прысутнічае тайна, парыванне ў невядомыя, загадкавыя далі. Знаёмыя, даўно зведаныя рэчы, з'явы набываюць новае асвятленне, дадатковы таямнічы сэнс. Явар з калінаю «шэпчуцца» між сабой «небу панятлівай мовай», разам з «маткай-зямлёй» моляцца на схіле дня сонцу, якое, відаць, хаваецца за небакрай, а ноччу «месяца, зор выглядаюць». Гаворка, як бачым, ідзе аб з'явах маштабных, усясветных — аб сэнсе жыцця, кахання. Напружаныя дактылічныя радкі верша выліваюцца ў мілагучную мелодыю, здольную закрануць струны душы чытача.

---

[1] Купала Янка. Шляхам жыцця. С. 63.

У купалаўскіх вершах гэтай плыні прадметна-жыццёвы фон вельмі просты, звычайны: тое якраз, што акружае чалавека ў яго паўсядзённым жыцці,— зямля, вада, трава, дрэвы, сонца, вецер, святло дня, цемень ночы і г. д. Тым не меней названыя прадметы, з'явы быццам набываюць дадатковае асвятленне, бо словы, якія іх выражаюць, ставяцца ў кантэкст са словамі, вобразамі, што выклікаюць ва ўяўленні чытача шырокія, часам нечаканыя філасофска-паэтычныя асацыяцыі. У такіх вершах асабліва адчувальная стыхія музыкі. Змест верша «Дзве таполі» гэтак жа, як папярэдняга «Явар і каліна», пераказаць немагчыма: растуць за вёскай дзве таполі, гамоняць з вятрамі, шумяць лісцем, нарэшце засыхаюць. Верш пабудаваны на багацці рыфмаў, якія звіняць не толькі ў канцы радкоў, а і пасярэдзіне, і менавіта гэты прыцемнены, прыбеднены сэнс радкоў побач з іх незвычайным поўнагалоссем, музыкай як бы надае вершу дадатковы, таямнічы сэнс. Прывядзём яго цалкам.

Там, за вёскай, у полі дзве стаялі таполі,
Як адна, дзве таполі стаялі,
І стагналі у полі сухавейна таполі,
Як адна, дзве таполі стагналі.

Аб Усходзе у полі ўсё шумелі таполі,
Як адна, дзве таполі шумелі,
І аб Захадзе ў полі лісцем пелі таполі,
Як адна, дзве таполі ўсё пелі.

Што пануюць у полі над дубамі таполі,
Як адна, дзве таполі пануюць,
Што начуюць у полі самаўладна таполі,
Як адна, дзве таполі начуюць…

Неба помсту у полі тут пачулі таполі,
Як адна, дзве таполі пачулі,
І навекі у полі дзве заснулі таполі,
Як адна, дзве таполі заснулі.[1]

---

[1] Купала Янка. Шляхам жыцця. С. 66—67.

У вершы з першых радкоў прабіваецца прытоены матыў трывогі за жыццё. Таполі не проста шумелі з вятрамі, а «сухавейна стагналі», у полі яны «пануюць» над дубамі, «самаўладна» начуюць. Прадчуванне трывогі ў заключных радках тлумачыцца нарэшце даволі цьмяным напамінкам пра «неба помсту».

Зместам, або, як сёння гавораць, інфармацыяй, верш «Дзве таполі» не багаты. Але паўтораныя па два разы радкі, іх інтанацыйна-меладычнае гучанне, «музыка» шмат гавораць чалавечаму сэрцу. Пра тое найбольш, што шчасце на зямлі абмежаванае, недаўгавечнае, нават ілюзорнае.

Філасофскі па зместу і надзвычай дакладны злітымі ў адно гукавымі і жывапіснымі элементамі верш «Жніво», які пераклаў на рускую мову Максім Багдановіч. У гэтым творы Купала, надзелены дарам «музычнага» выяўлення багацця, разнастайнасці жыцця, паказаў сябе і майстрам жывапіснай, рэчава-прадметнай пластыкі. Як многа гавораць кожнаму, хто жыў у вёсцы ці хоць бачыў яе, першыя радкі: «Наспелая пастаць шчаслівых пасеваў за вёскай, на сонным лясоў рубяжы…» Малюнак вельмі дакладны зрокавымі рэаліямі: міжволі паўстае ў памяці разліў збожжавай нівы, асмужаная далеч, якая там, за гарызонтам, нібы агорнута сіняватай палоскай лесу.

Міфы нашых продкаў багатыя паэтычным зместам, хоць славянская міфалогія, магчыма, не стварыла такой разгалінаванай, багатай спадчыны, як, напрыклад, стварылі яе старажытныя грэкі. Далёкія нашы прародзічы гэтак жа, як і іншыя народы, усю разнастайнасць прыродных з’яў падзялілі на дзве процілеглыя часткі. Свет дзяліўся на царства святла і цемры, дабра і зла, і ў гэтых вотчынах адпаведна ўладарылі добрыя і злыя багі, або, як іх называлі, Белабог і Чарнабог. «Дзіўная паняверка славян, калі яны на сваіх святах і гульбішчах носяць чашу па кругу, прамаўляючы над ёй словы — не скажу блаславення ці пракляцця — у імя багоў добрага і злога, бо чакаюць ад добрага бога шчаслівай долі, а ад злога — нешчаслівай; таму злога бога нават называюць д’яблам або чорным богам»[1].

---

[1] Афанасьев А. Н. Поэтические воззрения славян на природу. М., 1968. С. 92.

Хрысціянскія царкоўнікі на працягу многіх стагоддзяў вытраўлівалі са свядомасці народа ўяўленні пра міфалагічных, язычніцкіх багоў. Але да канца так і не вытравілі. Гэтыя ўяўленні бытавалі ў сялянскім асяроддзі яшчэ і ў XX ст.

Янка Купала, які надзвычай чуйна ставіўся да духоўных набыткаў народа, не мог у сваёй творчасці абмінуць міфалагічных павер'яў, што так моцна ўтрымліваліся ў памяці многіх пакаленняў. У зборніку «Шляхам жыцця» змешчан верш «Чорны бог», дзе якраз і ідзе гаворка пра ўладара «дзікіх багнаў», які «вызваў пошасці, начніцы, цемрай зазіяў». Няма сумнення, што Чорны, герой драматычнай паэмы «Сон на кургане», таксама вядзе паходжанне ад міфалагічных павер'яў, якія захаваліся ў народзе. З той жа крыніцы прыйшлі ў Купалаву паэзію русалкі, відмы, ваўкалакі, папараць-кветка, шматлікія іншыя вобразы народнай фантазіі.

Воўк у беларусаў займае асаблівае месца сярод астатніх дэманічных сіл, не пазбаўлен яго вобраз і міфічнага значэння. Варта ўспомніць шматлікія казкі, дзе злую сілу найчасцей увасабляе воўк. Іначай, відаць, і не магло быць у народа, які жыў сярод лясоў, балот, хмызнякоў, у суседстве з гэтым хітрым і асцярожным драпежнікам. Снежань у нашых продкаў называўся «воўчым месяцам». Успомнім Купалаў радок з «Кургана»: «У Піліпаўку воўк нема вые…» Воўк прысутнічае ў шматлікіх мясцінах Купалавай паэзіі, там якраз, дзе ідзе гаворка пра злыя, варожыя чалавеку сілы («Воўк», «Ваўкалак», «Зімою», «У Піліпаўку» і г. д.).

Наяўнасць у жыцці розных чараў, чарадзейных сіл, якія схаваны ад чалавечага вока заслонай таямнічасці, загадкавасці, нават непазнанасці, з'яўляецца данінай светабачання, светасузірання, якія зноў жа бяруць пачатак ад сівых, старажытных часоў. Купала актыўна выкарыстоўвае гэтыя павер'і. Для паэта яны не толькі мастацкія вобразы, метафары, а сродак пазнання жыцця, бо жыццё па сваёй сутнасці з'яўляецца вялікай тайнай і містэрыяй. Грунтуючыся на міфалагічнай традыцыі, павер'ях, Купала піша вершы «У вечным боры», «Хохлік», «Заклятая кветка» і іншыя, якія арганічна ўпісваюцца ў паласу яго паэзіі з сучаснымі паэту сацыяльна-грамадскімі матывамі.

На двух вялікіх скрыжаваннях нарадзілася паэзія Янкі Купалы. Яе выклікала да жыцця сучасная паэту ява, абуджаная першай рускай рэвалюцыяй беларуская вёска з яе набалелымі сацыяльнымі, грамадскімі пытаннямі, патрабаваннем «зямлі і волі», «людзьмі звацца». З другога боку, паэзія гэта найбольш поўна зачэрпнула са скарбніцы духоўнага народнага жыцця, адчування і бачання ім навакольнага свету, адлюстраванага не толькі ў песні, казцы, легендзе, а і ў міфе, павер'і, рытуале таго ці іншага народнага свята.

Паэт чуйна прыслухоўваецца, напрыклад, да чарадзейнага, «заклінальнага» рытму замовы, ствараючы ў духу яе традыцый зусім сучасныя вершы.

Услухаемся ў радкі з верша «Адцвітанне»:

Не шасцяць каласы,
Звон не валіцца з касы,
Не кладуцца ў стог пласты,
Толькі сыплюцца лісты
На яловыя кусты,
На сухія верасы.[1]

Гукавая інструментоўка радкоў на «с» і «ы» стварае выразную ілюзію шэпту, словазлучэнні «на яловыя кусты», «на сухія верасы» як бы непасрэдна запазычаны з замовы.

Сказаным не адмаўляецца, што верш «Адцвітанне» — выдатны, яркі ўзор купалаўскай пейзажнай лірыкі з яе багатай малюнкавасцю і гукавой пластыкай.

На ўсім абсягу Беларусі рассеяны тысячы магільных курганоў. Курганы гэтыя, як вядома, насыпаліся ў гонар выдатных асоб — адважных воінаў, военачальнікаў, князёў, увогуле знатных людзей, якія чым-небудзь праславілі сваё імя. У паэме «Курган» Янка Купала намаляваў рамантычную, велічную фігуру гусляра, народнага заступніка, які, не збаяўшыся княжацкага гневу, не толькі не стаў пяяць яму хвалу і славу, а кінуў у твар суровыя словы абвінавачання як дэспату і прыгнятальніку народа.

[1] Купала Янка. Шляхам жыцця. С. 80.

У паэме «На Куццю», што, як і паэма «Курган», увайшла ў зборнік «Шляхам жыцця», сацыяльныя матывы нянавісці, адмаўлення свету паноў, іх фальшывай велічы і пыхі саступаюць месца матывам патрыятычным, і мы маем тут зусім іншую трактоўку вобраза князя, князёўны, княжацкай дружыны. У гэтай паэме ўжо сам князь, а не гусляр паўстае заступнікам народа, абаронцам славы роднага краю, яго нібыта велічнай мінуўшчыны.

Князь, князёўна, усе астатнія героі невялічкай паэмы «На Куццю» — постаці міфічныя, цені людзей, «духі», яны паўстаюць перад намі нібы ў сне, у трызненні — хісткія, пазбаўленыя жывой, рэальнай плоці здані:

Духі мінуўшчыны куццю
На старасвецкі лад спраўляюць.
Даўно бываламу жыццю
Дары належныя складаюць.[1]

Паэма «На Куццю» не стала мастацкай удачай Янкі Купалы, яна, так сказаць, знаходзіцца на перыферыі яго творчасці. У той жа час яна сведчыць пра гарачую любоў паэта да роднай зямлі, да яе далёкай сівой мінуўшчыны, якую ў духу міфа, легенды паэт іншы раз нават яўна ідэалізуе.

Ліра Купалы, якая прапела столькі песень аб народнай нядолі, якая ўмела быць баявой, узнёслай, рэвалюцыйнай, далёка не вычэрпваецца грамадскай тэмай. Гэта ліра здольна не толькі «сэрца мільёнаў падслухаць біцця», а і вельмі пранікнёна паглыбіцца ў тайны кожнага асобна ўзятага сэрца, выявіць найінтымнейшыя душэўныя зрухі, пачуцці.

Песня Купалы — гэта крык абуджанай рэвалюцыйным парываннем народнай грамады і ў той жа час зачараваны шэпт закаханага, малітва чулай душы, уражанай прыгажосцю свету. Уся неабдымная гама чалавечых пачуццяў сумяшчаецца ў купалаўскай песні. І гэтак жа, як мы гаварылі пра грамадскі, сацыяльны змест паэзіі Купалы, можна гаварыць пра яе агульначалавечы змест, пра яе філасофскія, інтымналірычныя, любоўныя матывы.

---

[1] Купала Янка. Шляхам жыцця. С. 193.

Чалавек для Купалы — бясконцы сусвет, законы яго духу канчаткова не выяўлены, магчымасці розуму — бязмежныя.

Няма для духу вольнага граніцы, меры,
Дзе б ён сягнуць не смеў, дзе б ён не узлунаў;
У хаосе быцця, у цьме ўсясветных з'яў
Ён не ніштожыцца, ў сябе не губіць веры.

Чалавек у купалаўскай паэзіі — перш за ўсё грамадзянін, сын сваёй бацькаўшчыны, носьбіт сацыяльных імкненняў народа, яго нацыянальнай самабытнасці. Пазаасабістыя каштоўнасці для паэта — змаганне за шчасце народа. Чалавек памрэ, загіне — народ, бацькаўшчына застануцца, будуць жыць.

У эстэтыцы Купалы сфера высокага, ідэальнага ў адрозненне ад «класічных» рамантыкаў аказваецца, такім чынам, сферай «зямной». А як жа быць з культам неба, паднябеснай высі, куды вельмі часта сягае думка паэта? У Купалы неба, сонца таксама выступаюць як сімвалы магутнасці, няскоранасці чалавека.

Зямлі і сонцу нізка пакланюся —
Я сын зямлі, і сонца вольны сын!

*(«Вечар», III, 289)*[1]

Узлёт у паднябесныя высі — заклік да грамадзянскага, патрыятычнага подзвігу.

Не паніжай сам духа вольнага
І ў паніжэнне іншым не давай;
Над рабскаю таўпой аслепленай,
На злом зямлі увысь, да зор сягай!

*(«Нашто?», III, 294)*

Такой жа «высокай», ідэальнай катэгорыяй паўстае ў лірыцы Купалы каханне. Яно — як найвялікшае таінства

---

[1] Янка Купала. Зб. тв.: У 7 т. Мн., 1972. Рымская лічба азначае том, арабская — старонку.

жыцця, містэрыя, сведкамі якой «зоры і месяц», а яднанне сэрцаў закаханых — «на зайздрасць цэламу свету».

Каханне — нібы зліццё чалавечых істот з бясконцасцю свету, з яго невымерным багаццем, прыгажосцю.

Абнімі ты мяне, маладая,
Абніманнем гарачым, агністым,
Дый памчымся ад краю да краю
Вольнай думкай па свеце цярністым.

Ў дзень вясёлы мы сонцам пякучым
Заіскрымся ў нябесным прасторы,
З ветрам-сокалам душы заручым,
Ў пушчу-лес упляцём загаворы.

*(«Абнімі...», III, 182)*

Яна, каханая,— «царыца», «царэўна», «каралеўна», да яе ног Ён, закаханы, гатоў пакласці ўвесь свет — «з зорак усходніх, заходніх, з маланкі выткаў бы шаты», «з сонца і кветак-пралесак карону». Такога любоўна-рамантычнага жывапісу словам да Купалы беларуская паэзія не ведала.

Узвышана-рамантычны вобраз каханай у радзе вершаў набывае даволі «зямныя» абрысы, як, напрыклад, у наступных радках:

Не хачу я жонкі
Не з сваёй старонкі,
Як я — багацейшай,
І як я — мудрэйшай.

*(«Мая жонка», III, 181)*

Наогул, культ жанчыны ў паэзіі Купалы высокі, авеяны рамантычна-ўзнёслымі пачуццямі, і канфлікт у любоўнай сферы вынікае якраз тады, калі прадмет паэтызацыі, ухвалення аказваецца залішне «зямным», супярэчыць палёту ўяўлення, высокай мары («А яна», «Быў гэта сон»).

Асаблівае месца ў купалаўскай творчасці займае паэма «Яна і я» (1913) — светлы гімн чалавечай працы, каханню, прыгажосці навакольнага свету.

Як і «Адвечная песня», гэта паэма пабудавана, здавалася б, на «звычайным» матэрыяле — змест яе складае каляндарнае кола сялянскіх заняткаў, рэдкіх святаў, бясконцых будняў, клопатаў. Але будзённае, звычайнае як бы ўзнята тут (як і ў «Адвечнай песні») на п’едэстал вечнасці, пададзена буйна, «вялікасна».

Яна, Ён — нібы першыя людзі на зямлі, яны «вырваны» з тыповага сялянскага асяроддзя, іх адзіныя суседзі — вецер, сонца, зямля, дрэвы, птушкі, зоркі і г. д.

Раем на зямлі выглядываў нам сад,
Я ў ім — Адам, яна ў ім — Ева;
У раі гэтым вецер быў нам бог і сват,
Вяцьвямі шлюб давала дрэва.

*(V, 130)*

Заручыны Яго і Яе — найвялікшы цуд жыцця, яго аснова, грунт. Іскрыстым пачуццём кахання, бляскам узаемнага шчасця гэтых двух нібы асветлены ўсе тыя прадметы, рэчы, да якіх дакранаюцца Ён і Яна, «мядовы месяц» заручаных расцягваецца ад ранняй вясны да лета, адсюль усе праявы іх сумеснага жыцця за гэты час, захады па гаспадарцы, змены ў прыродзе, якія спадарожнічаюць іх гаспадаранню, набываюць такое вялікае, бадай сімвалічнае, значэнне.

Рака кахання, нястрымнага пачуцця ўзаемнай пяшчотнасці, хвалямі якой падхоплены гэтыя «двое», як бы не дае ім заўважаць астатніх людзей: свет сышоўся ў Яго на Ёй, у Яе на Ім:

У ночнай цішы, ў любым упаенні,
У патаенні ад жыцця, людзей,
Агонь душу і сэрца рспрамене,
Агонь гарачых, злучаных грудзей.

*(V, 118)*

Культ каханай жанчыны, адзінай, «ненагляднай», авеян у купалаўскім творы паэзіяй «рыцарскага» высакародства. Ён перад Ёй «схіляецца», як перад багіняй, цудам жыцця, Ён для

Яе абаронца, заступнік. Ад любасці да Яе такім шматфарбным, багатым на колеры, гукі, пахі паўстае перад Ім навакольны свет. Усё, што ні зробіць Яна, Яму здаецца поўным чараў, незвычайнага хараства. Яна ўпрыгожыла сабой увесь свет, яго бясконцыя праявы, бо Ён глядзіць на ўсё вачамі бязмежна закаханага:

Бліскучыя агністыя праменні,
Купаючыся ў сажалчыным версе,
К маёй галубцы ў мёдным уміленні
Туліліся і грэлі персі.

Так палаценца мілая бяліла
Вадзіцай, пранікам на кладцы…

*(V, 127)*

Тонка даносіць Купала паэзію земляробчай працы, дзе чалавек застаецца адзін на адзін з прыродай, з зямлёй. У жыцці, запоўненым штодзённай працай, прылады працы, прадметы штодзённага побыту, ужытку набываюць надзвычай вялікае значэнне — гэтай атмасферай паэтызацыі ўтылітарнага Купалава паэма вельмі блізкая да «Новай зямлі» Якуба Коласа. Паэтызацыя «рэчавага» — адна з галоўных асаблівасцей мастацкага стылю паэмы.

Хоць героі паэмы «прыўзняты» над канкрэтным асяроддзем, з якога паходзяць, па спосабу жыцця, характару, звычаях яны — сяляне. Не маюць яны раскошаў, залішняга дастатку: у хаце, дзе жывуць Ён і Яна, «не выбіты атласам сцены, лавы», «над печкай, што стаіць каля парога, не працавалі мудры разьбяры».

А. Фадзееў адзначаў, што паэма Купалы як бы мае паэтычнымі вытокамі «язычніцкае» захапленне чарамі, цудамі свету, буйствам сіл прыроды. З гэтай думкай нельга не пагадзіцца. Паэзія Купалы ўвогуле ўзнікла на амаль не кранутай цаліне народнай моватворчасці, якую характарызуюць многія мінулыя вякі духоўнага жыцця народа. Народны паэтычны свет з яго міфалогіяй, антрапамарфізмам, «язычніцкім» здзіўленнем перад невымерным багаццем жыцця прыроды стаў светам паэзіі Купалы.

Для пацвярджэння гэтай думкі прывядзём такі прыклад. Кожны, хто чытаў празаічны, а затым вершаваны пераклады «Слова аб палку Ігаравым», здзейсненыя паэтам, мог заўважыць унутранае падабенства паміж духам помніка старажытнай усходнеславянскай паэзіі і паэтычным светам самога Купалы. Гэта падабенства датычыць перш за ўсё той сферы знітаванасці чалавека з прыродай, той «маштабнасці» мыслення, калі чалавек, як да блізкіх істот, можа звяртацца да неба, сонца, зорак, рэчкі і г. д.

Вось радкі са «Слова» (пераклад Я. Купалы), дзе Яраслаўна ў «Пуціўлі на сцяне» наракае на долю:

«О светлае сонца,
Трысветлае! Ўсюды
Цяплом і красою
Яснееш, як цуды.

Чаму ж, уладару,
Свой промень пякучы
На мужняе войска
Нанесла, не ждучы?»

*(V, 275)*

Гераіня паэмы «Яна і я» гэтак жа непасрэдна пасылае «заклінання слоўкі» да сіл прыроды:

«Ты, ясна сонца, месяц, ясен свет,
І вы, на небе чысценькія зоры,
Вы ўсе, што кропіце расою цвет,
І асвятляеце сушу і моры,—

Зямлю агрэйце, вырасцце траву,
Не пашкадуйце есць і піць жывінам,
Шаўковую сцяліце мураву,
Абгарадзіце жалязяным тынам…»

*(V, 122)*

Паэма «Яна і я», не падобная па духу ні на адзін твор у беларускай літаратуры і адметная нават у купалаўскай

творчасці, вызначаецца высокай паэтызацыяй жанчыны. Нягледзячы на тое што героі — простыя людзі, іх пачуцці вызначаюцца высакароднасцю, далікатнасцю.

## II

Беларускую прыроду з найбольшай сілай апеў Якуб Колас. Ні ў аднаго другога паэта не знойдзем мы столькі малюнкаў, навеяных палямі, лясамі, рэкамі, палявымі дарогамі, наогул усім тым, што акружае жыхара гэтага краю з яго першых крокаў жыцця.

Ёсць нешта язычніцкае, першароднае ў тым, як успрымае паэт такія, па сутнасці, паўсядзённыя, звычайныя для кожнага чалавека з'явы, як усход сонца, летняя навальніца, калючы зімовы мароз або, скажам, «першы гром».

Звернемся да верша «Першы гром»:

Голасам моцы, ціха і важна
Гром пракаціўся ўгары.
Луг адазваўся грому працяжна,
Лес адгукнуўся стары.

*(I, 204)*[1]

Адзначым, па-першае, гукавую інструментоўку верша. Велічна-ўрачыстая інтанацыя радкоў, алітэрацыі, інструментоўка на «р», «о», «а», увесь гукавы комплекс радкоў даволі дакладна перадаюць памятныя ўсім нам раскаты грому ў летнюю пару.

Няцяжка заўважыць і другую асаблівасць верша. Гром паўстае ў ім нібы жывая, адухоўленая істота. Вядома, мы тут маем справу з паэтычным прыёмам, а радкі, у якіх гэта з'ява апісваецца, можна назваць удала падабранымі, маляўнічымі метафарамі. Заўважым адначасна, што ўсё прыведзенае чатырохрадкоўе складаецца як бы з суцэльных метафар — «голасам моцы… гром пракаціўся», «луг адазваўся», «лес адгукнуўся».

---

[1] Якуб Колас. Зб. тв.: У 14 т. Мн., 1972. Рымская лічба азначае том, арабская — старонку.

За багаццем метафар у коласаўскай пейзажнай лірыцы стаіць і нешта большае, чым адны толькі паэтычныя ўвасабленні. Ствараючы ў паэмах «Новая зямля», «Сымон-музыка», алегарычных навелах «Казкі жыцця» маляўнічыя пейзажныя карціны, паэтызуючы прыроду, Якуб Колас абапіраецца на наіўны, характэрны для нашых далёкіх продкаў погляд на прыроду як на жывую істоту. Падобнае стаўленне да прыроды бачым і ў многіх пейзажных коласаўскіх вершах.

Якуб Колас нічога не выдумляў. Бачанне, адчуванне прыроды як жывой істоты ў нейкай меры захавалася ў народзе аж да пачатку XX ст., калі ў літаратуру прыйшлі Якуб Колас і Янка Купала. Такі погляд на навакольны свет быў данінай даўнім міфалагічным павер’ям. Зусім зразумела, што нашы вялікія песняры не маглі абмінуць у сваёй творчасці духоўных набыткаў роднага народа, у прыватнасці, такіх, як адухаўленне, ачалавечванне прыроды.

Традыцыя, паводле якой гром, вецер, хмаркі, рэчка, поле, дрэвы, лес, сонца, месяц, многія іншыя з’явы, прадметы прыроды ўяўляюцца жывымі істотамі, надзяляюцца чалавечымі якасцямі, схільнасцямі, выкарыстоўваецца Якубам Коласам у першую чаргу дзеля вырашэння мастацкіх, выяўленчых задач. Без апоры на гэту традыцыю наўрад ці здолеў бы паэт стварыць незабыўную пейзажную лірыку, якая складае адну з самых яркіх і бліскучых старонак беларускай паэзіі. На вершах гэтага цыкла ляжыць адбітак першароднасці, такой выключнай мастацкай выразнасці, якую паўтарыць немагчыма. У гэтым сэнсе ўсе вялікія, па-сапраўднаму народныя паэты з’яўляюцца першапраходцамі. У адпаведнасці са светабачаннем, светаадчуваннем народа яны даюць паэтычную назву, характарыстыку той ці іншай з’яве, прадмету. Карацей кажучы, яны нібы адкрываюць свет, як Калумб адкрыў Амерыку. У тым жа вершы Якуба Коласа «Першы гром» знаходзім радкі:

Гай страсянуўся, дрогнула поле,
Долы той гук паняслі.
Ў гэтым раскаце чуецца воля,
Чуецца радасць зямлі.

*(I, 204)*

У беларускай паэзіі ёсць многа іншых вершаў, якія так ці іначай паэтычна раскрываюць моц, веліч, хараство такой прыроднай з’явы, як гром. Тым не меней верш Якуба Коласа ў шэрагу падобных вершаў мы паставім на першае месца. У ім як бы выяўлены асноўныя, самыя характэрныя прыкметы грому, і далейшая распрацоўка тэмы ў такім жа ключы будзе гучаць як перапеў, паўтарэнне.

Ёсць яшчэ адзін аспект верша Коласа, прыхаваны ў падтэксце. Калі мы гаворым, што гром выступае ў ім нібы жывая, адухоўленая істота, то гэта не толькі паэтычны троп, увасабленне, за такім бачаннем свету стаіць міфалагічнае ўяўленне старажытных славян пра бога Перуна (паняцці «гром» і «пярун» у народнай этымалогіі адназначныя). Пярун быў увасабленнем агромністых, звышнатуральных сіл, якія чалавек яму прыпісваў. Славянскі бог-грамавік, як Індра ў старажытнаіндыйскіх «Ведах», Тор у германскай «Эддзе»,— вынік намаганняў нашых далёкіх продкаў намаляваць, вытлумачыць для сябе карціну свету, вызначыць у гэтым свеце галоўных дзеючых асоб. Вось у якія далі вядзе нас стылістыка прыродаапісальнага верша «Першы гром».

Для кожнага вялікага нацыянальнага паэта «дух предания» мае першаступенную ролю. Возьмем верш Пушкіна «Зимний вечер». Са школьных гадоў вядомы нам мілагучныя, задушэўныя радкі:

Буря мглою небо кроет,
Вихри снежные крутя;
То, как зверь, она завоет,
То заплачет, как дитя…

Няцяжка заўважыць, што, як і ў Коласавым вершы, тут той самы мастацкі прыём увасаблення, адухаўлення прыроды, які вядзе нас у сівую старажытнасць, да першабытных уяўленняў славян.

Можна сказаць, што, ствараючы пейзажную лірыку, Якуб Колас стварае традыцыю. Пра што б ні ішла ў прыродаапісальных вершах гаворка, паэт нязменна будзе прытрымлівацца аднаго і таго ж прынцыпу — гаварыць пра тую ці іншую з’яву самае галоўнае, даваць яе найбольш характэрныя, бачныя

ўсім прыкметы. Гутарка ідзе пра эпічную традыцыю, уласцівую, як бачым далей, не толькі пейзажным вершам Коласа, але і ўсёй яго лірыцы, апавяданням, алегарычным навелам, паэмам «Новая зямля» і «Сымон-музыка».

Пейзажная лірыка Якуба Коласа мае некалькі тэм, матываў, якія нязменна паўтараюцца, вар'іруюцца, складаючы сталае, у нейкай меры нават замкнёнае кола паэтычных карцін і ўяўленняў. Матывы і тэмы, якія найбольш прыцягваюць да сябе ўвагу паэта, наступныя: вясна, восень, зіма, дарога, поле, араты на полі, родны край, дрэвы, лес, навальніца, хмаркі, вецер, сонца, ноч, птушкі, жыта.

Нават адзін пералік тэм, матываў лірыкі паэта выразна паказвае, што Якуб Колас выступае як паэт земляробчага народа. Народ гэты жыве на зямлі, што размяшчаецца паміж Нёманам, Дняпром, Прыпяццю і Заходняй Дзвіной, асвоіў гэту зямлю, зросся з ёй. Свядомая памяць народа не занатавала, што ён жыў дзе-небудзь у другім месцы і з таго месца прыйшоў сюды.

Эпічная традыцыя, філасофія бытавання беларуса, выяўленыя ў яго песнях, казках, прыказках, прымаўках, якраз указваюць на тое, што ўся яго жыццёвая мудрасць, духоўнасць вырасла менавіта на гэтай зямлі і пад гэтым небам, на грунце яго жыцця сярод гэтых лясоў, палёў, пералескаў, хмызоў, рэк і азёр.

Эпічная традыцыя беларусаў рашуча ўказвае на мірнае іх бытаванне, накіраванае выключна на тое, каб як-небудзь выжыць, пракарміцца, здабыць кавалак хлеба на іх не надта ўрадлівай і не заўсёды ласкавай лясной, балотнай зямлі. Няма ў беларускага народа гераічных песень, былін, якія б натхнялі іх у баявых паходах, выяўлялі імкненне народа ўзвысіцца над сваімі суседзямі. Затое ёсць найбагацейшы казачны эпас. Асілкі, мудрацы, розныя іншыя хітрыя, кемлівыя, вынаходлівыя казачныя героі, якія перамагаюць дванаццацігаловага змея, цмока, іншую злыбеду, навалу, так ці іначай сведчаць пра гераічную душу народа, пра тое, што яму час ад часу прыходзілася брацца за меч, каб абараніць свой край ад налётаў прагных чужынцаў.

Якуб Колас выступіў у літаратуры ў складаны, супярэчлівы час першай рускай рэвалюцыі. Лірыка нашага песняра выраз-

на гэтыя супярэчнасці паказала. Як вядома, бурлівае трохгоддзе першай рускай рэвалюцыі пазначана на беларускай зямлі вострымі выступленнямі сялян супраць памешчыкаў, царскай казны, супраць усялякага сацыяльнага ўціску. Шматлікія коласаўскія вершы нясуць ідэі сялянскага пратэсту, непрымірымасці, нянавісці да прыгнятальнікаў. Нават пейзажная лірыка, здавалася б, самой сваёй прыродай закліканая выяўляць, паказваць прыгожае, вечнае, вельмі часта служыць у Якуба Коласа надзённым, сацыяльным задачам.

Але першая руская рэвалюцыя абудзіла і нацыянальную свядомасць беларусаў. Яна як бы завяршыла расцягнуты ў многіх папярэдніх дзесяцігоддзях працэс выспявання нацыянальнай самасвядомасці народа, яго пачуцця нацыянальнай годнасці. Таму паэзія Якуба Коласа, як і Янкі Купалы, не толькі адмаўляе, але і сцвярджае. Не мірачыся з паднявольным становішчам селяніна, дамагаючыся яму лепшай долі, яна адначасна ўздымае селяніна як спадчынніка, ахоўніка нацыянальнай цэласнасці, услаўляе яго родны край як асяроддзе яго жыццёвай і гістарычнай дзейнасці. Таму не трэба здзіўляцца, калі знойдзем у Якуба Коласа дыяметральна процілеглыя па вядучай ідэі, настрою вершы, прысвечаныя, скажам, роднаму краю. Вось шырокавядомы «Наш родны край»:

Край наш бедны, край наш родны!
Лес, балоты і пясок…
Чуць дзе крыху луг прыгодны…
Хвойнік, мох ды верасок.

*(I, 22)*

У 1909 годзе паэт напіша верш без назвы, у якім выразна відаць новы злом, паварот думак і настрояў:

Многа слаўненькіх куточкаў
Ёсць у нашым краі,
Дзе пад гоман ручаёчкаў,
Пад шум дрэў у гаі

Рой журботных дум пакінеш;
Дзе няма трывогі,
Дзе душою адпачынеш,
Змучаны з дарогі;

Дзе прыемны ветрык млее,
Збажыну калыша,
Дзе пакоем-згодай вее,
Дзе ўсё шчасцем дыша.

*(I, 162)*

Гэта ўжо не суцэльнае адмаўленне, як бачылі на прыкладзе верша «Наш родны край». Пры больш пільным, пранікнёным поглядзе на «выкляты богам» край паэт заўважае ў ім усё больш прыгажосці, гармоніі, паэзіі. Чым можна вытлумачыць гэту перамену?

Перш за ўсё ўмовамі грамадскага жыцця. Рэвалюцыя 1905—1907 гадоў абудзіла ў селяніне пачуццё ўласнай годнасці, незвычайна паспрыяла росту яго як асобы. Рэшткі патрыярхальных адносін у вёсцы, у вясковай сям'і разбураліся. Ды і нацыянальнае пачуццё, абуджанае, абвостранае рэвалюцыяй, як бы патрабавала новага погляду на родны край як на асяродак гістарычнай жыццядзейнасці народа.

Францішак Багушэвіч амаль не бачыў прыгажосці ў навакольных беларускіх краявідах. Гора, бяду, якія выпалі на долю селяніна, ён як бы праецыраваў на навакольны свет. Дый наўрад галодны, раздзеты, разуты мужык мог убачыць штонебудзь радаснае ў малюнках прыроды. Пейзажная лірыка ў беларускай паэзіі XIX ст. знаходзілася ў зародкавым стане. Гэта азначала, што ў насельнікаў беларускага краю было слаба развіта як нацыянальнае пачуццё, так і пачуццё асобы, індывідуальнасці.

Справа рашуча мяняецца з прыходам у літаратуру Янкі Купалы і Якуба Коласа. Іх магутныя таленты не маглі не заўважыць новых зрухаў, якасцей, перамен, якія намеціліся ў псіхалогіі народа і асобнага чалавека.

Мы пачалі гаворку пра пейзажную лірыку Якуба Коласа з вершаў, якія адбіваюць малюнкі грому, буры, навальніцы і настроі паэта ў сувязі з гэтымі малюнкамі. Увогуле, гром,

бура, навальніца імпануюць паэту. Ён любіць праявы магутнай, вялікаснай сілы ў прыродзе. Вершы «Першы гром», «Ноч перад навальніцай», «Будзе навальніца», «Вераб'іная ноч», «Перад бураю», «Перад навальніцай» поўныя паэтычнага схілення перад размахам стыхіі. У кожным з вершаў паэт знаходзіць новыя фарбы, дэталі, падрабязнасці для абмалёўкі летняй навальніцы. Ён нідзе не паўтараецца. Вось як бліскуча ў вершы «Перад бураю» намалявана пераднавальнічная атмасфера, стоеная, поўная напружанасці чакання буры цішыня:

Сонца зранку жарам пыша,
Ветрык лісце чуць калыша.
. . . . . . . . . . . . .
А зямля як бы замлела,
Толькі дуб стары нясмела
Зрэдку лісцем павядзе.

Змоўклі ўсе вакол абшары,
Бо замыслілі штось хмары…
Ой, знаць, бура загудзе!

(І, 340)

З гэткай жа дакладнасцю абмалюе паэт «вераб'іную», без грому і дажджу, пранізаную наскрозь толькі маланкамі ноч («Вераб'іная ноч») і пачатак сапраўднай навальніцы ўночы («Ноч перад навальніцай»). Нават з прыведзеных прыкладаў няцяжка зрабіць вывад, што паэт занатоўвае ўсе бакі, праявы навальнічнага працэсу, знаходзячы ў іх высокую, першародную паэзію:

Люблю я ночы той час дзіўны,
Калі прастор, абняты сном,
Пабудзіць голас пераліўны —
Далёкіх хмар магутны гром,

Калі працягла заракоча,
Гугухне голас угары,
І шыба ў вокнах забразгоча,
І гоман пойдзе па бары.

(І, 210)

Паэтызуючы з’явы прыроды, вялікасныя сваім размахам, паэт упадабляе ім грамадскія падзеі. Верш «Будзе навальніца», напісаны ў 1912 годзе, з’яўляецца, напрыклад, непасрэдным водгукам паэта на Ленскі расстрэл.

Варта сказаць, што паэтычнае мысленне Якуба Коласа не выходзіць з кола матываў, вобразаў, знаёмых, блізкіх кожнаму селяніну-беларусу. Вядома, лірычны герой пейзажнай лірыкі зусім не селянін, гэта чалавек адукаваны, інтэлігентны, надзелены чулай, уражлівай душой, здольнай захапляцца, зачароўвацца прыгажосцю навакольнага свету. Але гэта лірычная інтэлігенцкая душа ходзіць па дарогах, вядомых, зведаных кожным вясковым жыхаром, і бачыць толькі тое, што можа ўбачыць і ён.

Да вершаў, якія паэтызуюць гром, навальніцу, далучаецца шэраг іншых, у якіх, аднак, знаходзім тыя ж сімвалы markazнабаковасці, волі, руху ў нязведанае новае,— вершы, мастацкае жыццё якім даюць вобразы хмарак, ветру, дарогі, вясны. Інакш, відаць, не магло быць. Паэт меў перад вачамі рэвалюцыйную яву, бачыў жыццё на вялікім гістарычным зломе. Так ці інакш перад ім паўставала пытанне аб будучыні роднага краю. Ды і рамантыка маладосці з яе марамі, імкненнямі знайшла адбіццё ў гэтай паласе коласаўскай паэзіі. Адсюль і мноства вобразаў-сімвалаў, якія азначаюць рух, імкненне наперад, у яшчэ не вядомыя, але такія прывабныя далі.

Паэтызацыя вясны займае ў лірыцы Якуба Коласа прыкметнае месца. Можна нават сказаць, што з усіх пораў года паэт найбольш любіць вясну. Бліскучыя, іскрыстыя вершы гэтай плыні носяць пераважна прыродаапісальны характар. Вясна — прабуджэнне прыроды, аднаўленне кругавароту жыцця, і паэт не стамляецца спяваць ёй бадзёрыя, поўныя захаплення гімны. Іншы раз вясна паўстае нібы жывая істота, паэт звяртаецца да яе з заклікам, просьбай:

Ты прыйдзі, вясна жаданая,
Прыйдзі!
Гукам жыцця, песняй працы
Загудзі.
. . . . . . . . . . . . . . . .

Ты ляці на крыллях выраю
Скарэй,
Абласкай цяплом пахілых,
Абагрэй.

(I, 299)

З падобнымі матывамі мы не раз сутыкаемся пры разглядзе лірыкі Якуба Коласа, паэмы «Новая зямля», алегарычных навел «Казкі жыцця». Дух «заклікання вясны», вядома ж, ідзе ад сівой старажытнасці, ад абрадавай паэзіі славянскіх плямён, якая межавала з іх рэлігіяй. Тысячагоддзі назад наш далёкі продак жыў простым, нават прымітыўным жыццём, якое вельмі моцна залежала ад маці-прыроды. З наіўнай, дзіўнай непасрэднасцю ён любіў прыроду і ў той жа час яе баяўся. Напружана ўзіраўся ён, напрыклад, у розныя прыкметы набліжэння вясны, дапускаючы нават думку, што вясна можа не толькі запазніцца, але і не прыйсці зусім. Нам сёння здаюцца дзіцячымі выказванні, якія знаходзім у старажытнаіндыйскіх «Ведах»: «Ці ўзыдзе сонца? Ці вернецца зара, наш даўнішні дабрачыннік? Ці пераможа бог святла цёмныя сілы ночы?»

У навакольнай прыродзе, у яе шматлікіх праявах бачыў наш продак жывую істоту, заўжды здольную адгукнуцца на яго шчырае заклінанне, гімн, малітву, на яго смутак і радасць. Відаць, сам таго не ўсведамляючы, быў гэты наш продак паэтам, бо надзяліў свет дзівоснымі істотамі, якія жылі не толькі на небе, але і ў розных кутках зямлі: у лесе, рэчцы, хаце і нават у калодзежы. Менавіта з таго сівога, аддаленага ад нас тысячамі гадоў часу ў сённяшняе жыццё перайшлі, напрыклад, такія выразы, як «сонца ўсходзіць», «прыйдзе вясна», «наступае ноч», «ручэй гамоніць» і г. д. Без гэтага наіўна-дзіцячага, а калі карыстацца навуковай тэрміналогіяй,— прымітыўнага погляду на навакольны свет, які характарызаваў узровень духоўнага жыцця нашых далёкіх продкаў, не было б, аднак, і сённяшняга паэтычнага багацця жыцця з яго тропамі — метафарамі, параўнаннямі, асацыяцыямі, увасабленнямі і г. д.

Вялікія паэты, пісьменнікі, жывучы сённяшнімі вострымі клопатамі грамадства, да якога належалі самі, умелі чуйна

ўслухоўвацца ў павер'і жыцця мінулага, аднаўляць дух мінуўшчыны і нават, калі вынікала патрэба, тварыць у адпаведнасці з гэтым духам. Да такіх пісьменнікаў належаць Пушкін, Гогаль, а ў беларускай літаратуры Якуб Колас і Янка Купала. Якуб Колас выдатна валодаў здольнасцю глядзець на навакольны свет з даверліва-дзіцячай наіўнасцю, апавядаць пра ўбачанае, чутае, як расказваюць пра гэта безыменныя аўтары казак, быляў, народных павер'яў.

У міфах, казках, уяўленнях далёкай мінуўшчыны невычэрпныя скарбы паэзіі. Яны прасякнуты гарманічным адчуваннем свету, паэтыка іх абапіраецца на наглядныя, пластычныя вобразы з вельмі нязначнай доляй адцягненасці. Шматлікія вершы Якуба Коласа характарызуюцца менавіта гэтымі якасцямі:

Мароз, зіма,
Снягі вакол,
І спіць трава,
Пад снегам дол.

Мяцеліца,
Вятры гудуць,
Дубы ў лугах
Шумяць, равуць…

(I, 270)

На зрокавых і ў меншай ступені гукавых вобразах будуецца большасць вершаў аб вясне. Бадай, усім ім уласцівы дынамічны рытм, гукавая экспрэсія, гукаперайманне:

Вясна прыйдзе, снег пагіне,
Вышэй сонца хадзіць стане,
Промень ясны ўсюды кіне,
Рунь падыме на паляне.

З гор пальюцца першавалы,
Раскуюцца рэчкі з шумам,
Выйдзе з хаты стар і малы
Гаманліва дружным тлумам.

(I, 59)

Якуб Колас нідзе непасрэдна не выкарыстоўвае фальклорных матываў, інтанацый песень-вяснянак. Але і яго вясна блізкая да вобраза маладой дзяўчыны, апранутай у вянок з зелені і кветак, які бытуе ў народнай паэзіі:

Вясна, вясна
Жаданая!
Ты прыйдзеш зноў,
Ты вернешся!

Вясёлы спеў,
Прыветлівы
Вады ў руччах
Пачуецца.

*(I, 189)*

Вершы пра вясну, вясенні гром, хмаркі, вецер і, як убачым далей, пра зіму, восень, усход і захад сонца і г. д. Якуб Колас пісаў таму, што гэта былі тыповыя абставіны жыцця яго вясковага земляробчага народа. Вершаў пра ўсё гэта на беларускай мове яшчэ не было. Па іх дзеці маглі навучыцца пазнаваць і любіць свой край, яго ціхую, някідкую, але ад гэтага не менш прыгожую паэзію. Не трэба забываць, што Колас, пачаўшы паэтычную дзейнасць, ужо быў настаўнікам, навучаў вясковых дзяцей грамаце. Сам ён вучыўся па хрэстаматыях, падручніках па літаратуры, у якіх змяшчалася вельмі многа вершаў прыродаапісальнага характару. Паэт быў сынам селяніна, лесніка, правёў дзяцінства на ўлонні прыроды, яго сэрцу вельмі імпанавалі хрэстаматыйныя вершы Пушкіна, Нікіціна, Кальцова, байкі Крылова — ва ўсіх гэтых творах было шмат малюнкаў прыроды. Зрэшты, Колас сам напіша «Другое чытанне для дзяцей-беларусаў» з раздзеламі «Зіма», «Вясна», «Лета», «Восень», дзе прыродзе наогул адводзіцца вельмі вялікае месца. Так што, ствараючы пейзажныя вершы, паэт ствараў іх пэўным чынам у педагагічных мэтах.

«Дзякуй Госпаду Богу, сонечку яснаму, месячыку краснаму, звёздачкам светленькім, міру хрышчонаму, абразу чэснаму, што я ету ночку пераначаваў…» У гэтым урыўку з замовы выразна відаць, як навейшыя, хрысціянскія элементы

перакрыжаваліся з больш старажытнымі, язычніцкімі. Міфалогія беларусаў, як і астатніх славян, была багата паэтычнымі ўяўленнямі. Асабліва многа іх звязана з сонцам. Народ быў сапраўдным паэтам, ён ствараў мову, міфы, пазней казкі і песні. Кожнае паасобна ўзятае слова, як справядліва сцвярджае акадэмік Патабня, было закончаным мастацкім творам. Слова «сонца» паходзіць, напрыклад, ад санскрыцкага «су», што азначае «нараджаць, тварыць». У славян бацька-неба атрымаў назву Сварог, ён уяўляўся ўладаром сусвету, прабогам. Сын Сварога — Дажбог у той жа час быў і сонцам, царом, сынам неба.

Выгляд паднябесся з сонцам, месяцам, зоркамі наводзіў старажытнага чалавека на думку: адкуль гэта ўсё, дзеля чаго? Рэлігійны, а пазней паэтычны вобраз таго ж Дажбога, бога-сонца, стварaўся фантазіяй народа ў адпаведнасці з велізарнасцю, магутнасцю з’явы, якую чалавек не мог сабе растлумачыць.

Якуба Коласа ад тых далёкіх часоў, калі тварыліся міфы, аддаляюць тысячагоддзі. І ўсё ж ёсць нешта ад міфа, містэрыі, язычніцкага гімна ў гонар цара неба і ў вершах беларускага паэта «Усход сонца» і «Заход сонца»:

На усходзе неба грае
Пераліўным блескам,
Сыпле золата над гаем
І над пералескам.

Чуць-чуць дрогне, праліецца
Чырвань на усходзе —
Гэта неба усміхнецца
Людзям і прыродзе.

*(І, 82)*

Абодва вершы бліскучыя па майстэрству, поўныя святочна прыўзнятага настрою. Разам з тым яны ўяўляюць сабой яркія, вельмі дакладныя нават у дробязях паэтычныя карціны ўсходу і захаду сонца, багатыя пластычнымі, зрокавымі вобразамі. Карацей кажучы, гэта два маленькія шэдэўры. Жывапісны, малюнкавы бок коласаўскіх вершаў здзіўляе, уражвае.

Зіма «нясе сярдзітым духам», зімой зацірае жыццё прыроды, але і гэта пара мае сваю прыгажосць і паэзію. Паэт намалюе нам мяцеліцу, віхуру, не раз раскажа пра злосны сіберны вецер, які «свішча за сцяною», у коміне вые, але знойдзе запамінальныя яркія словы і вобразы, каб пахваліць, уславіць зіму:

Люблю я зімы з маразамі,
Завеі белыя ў палях,
І снегу скрып пад палазамі,
І ціш зімовую ў лясах.

*(I, 351)*

Варта прыгадаць у гэтай сувязі верш «На рэчцы зімою», герой якога, вясковы падлетак, вандруючы па замёрзлай рэчцы, нібы чытае кнігу прыроды, адкрывае для сябе безліч яе чар, загадак, таямніц.

Лірыка Коласа пастаянна звяртаецца да адных і тых жа тэм, вобразаў, матываў. У нейкай меры яна пакідае ўражанне аднастайнасці. Пра гэта пісалі яшчэ крытыкі дарэвалюцыйнай пары. Але ў гэтым і сіла паэзіі Коласа. Яна вельмі арганічная, праўдзівая, вырастае як бы з самой беларускай зямлі, яе някідкай прыроды.

«Асенні» цыкл вершаў беларускага паэта асабліва прыгнятае сваім змрочным, аднастайным настроем. З верша ў верш вандруюць падобныя вобразы накшталт «вецер свішча», «вецер вые», «дожджык сее беспрастанку», «сыплюцца кроплі дробна і часта», «ссохлі травы, усё павяла» і г. д. І толькі ў вершы «Адлёт жураўлёў» пранізліва-шчымлівы матыў расстання з летам, пераходзячы ў лірычную, філасофскую тэму вечнага кругавароту жыцця, недаўгавечнасці шчасця, глыбока кранае сэрца. Гэта адзін з тых вершаў, які выяўляе ў Коласе паэта вельмі глыбокага, бліскучага, здольнага перадаць самыя тонкія адценні чалавечых перажыванняў:

У бязмежным небе
Роўненькім шнурочкам
Жураўлі на вырай
Мкнуцца над лясочкам.

Меншыцца шнурочак,
У паднеб'і тае,
Вось ледзь-ледзь чарнее,
Міг — і прападае.

І стаіш ты, смутны,
Доўга пазіраеш,
Як бы нешта страціў,
А што — сам не знаеш.

*(І, 135—136)*

Вершы, падобныя «Адлёту жураўлёў», уражваюць сваёй непасрэднасцю, глыбінёй пачуцця, перажывання. Тут мы маем выпадак, калі не вельмі патрэбны яркія тропы, асацыяцыі, эпітэты, параўнанні, калі паэт дасягае глыбокага паэтычнага ўздзеяння, шчасліва знайшоўшы рытмічны ключ, настрой і дакладныя, зразумелыя ўсім вобразы:

Замірае лета,
Заціхаюць далі,
Сірацее рэчка,
Халадзеюць хвалі.

*(І, 135)*

Пейзажнымі вершамі Колас малюе паэтычны воблік зямлі, краю, у якім спрадвеку жыве родны яму народ. Так здарылася, што да прыходу ў беларускую літаратуру Купалы, Коласа толькі ў казках, песнях нешта было сказана пра рэчку-рэчаньку, цёмны лес, месячык на небе, поле, лугі-сенажаці.

Якуб Колас меў чулае, уражлівае сэрца. Навакольная прырода глыбока яго хвалявала. Ён адчуваў, што прыгажосць беларускіх лясоў, палёў, нікім яшчэ не апетая, тоіць у сабе вялікую паэзію. Паэзію гэту трэба было раскрыць, малюнкі роднага краю нібы выставіць на агляд сабе і людзям. Не адзін раз прызнаецца паэт у сваёй любові да роднай зямлі:

Вобразы мілыя роднага краю,
Смутак і радасць мая!
Што маё сэрца да вас парывае?
Чым так прыкованы я

К вам, мае ўзгорачкі роднага поля,
Рэчкі, курганы, лясы,
Поўныя смутку і жальбы нядолі,
Поўныя сумнай красы?

(I, 105)

Існавала яшчэ адна прычына, якая вымагала ад паэта гэтак настойліва, паслядоўна расказваць пра родны край, спяваючы яму нават узнёслыя гімны. Пра Беларусь здаўна бытавала думка як пра край забіты, гнілы, дзе толькі туманы, балоты і ніякай прыгажосці. Несправядлівую гэту думку трэба было абвергнуць. Але паэтызацыя, узвышэнне роднай зямлі ніколі не былі ў Коласа прамалінейнымі.

Малюючы воблік роднага краю, паэт вельмі часта паказвае, як прыроднае, прыгожае сутыкаюцца з грамадскім, сацыяльным. Мы бачылі: радасць, захапленне выклікаюць усход, захад сонца, шматлікія іншыя праявы жыцця прыроды.

Коласаўскі герой, які жыве пад вечным небам, калі не ў думках, то пачуццём часта звяртаецца да гэтай глыбокай, бязмежнай высі. Свет паўстае перад ім поўны загадкавасці, таямнічасці. Філасофская тэма жыцця і смерці развіваецца пераважна ў лірычна-філасофскіх адступленнях паэм «Новая зямля» і «Сымон-музыка». Але тым не меней яна, як і карціны прыроды, пададзеныя ў рамантычна-філасофскім ключы, стварае цэльную, высокую плынь паэм, якая як бы аблямоўвае тое сацыяльнае, будзённае і бытавое, што з'яўляецца асноўным прадметам мастацкага паказу. Менавіта сутыкненне «хуткаплыннай» гістарычнай, нават штодзённай явы з вечнасцю, яе праекцыя на вечнасць надаюць гэтым творам мастацка-філасофскую вышыню, высокае гучанне.

Карціны прыроды нярэдка намаляваны яркімі рамантычнымі фарбамі. Іх паэтыка прыкметна адрозніваецца ад вобразна-стылявых сродкаў «бытавых» раздзелаў. «Зварот пары, знікненне лета… то — водгулле душы паэта, то — смутны вобраз развітання, то — струн дрыгучых заміранне» — у гэтых радках, як бачым, няма ўласцівай паэтыцы «Новай зямлі» ў цэлым прадметнай, рэчавай пластыкі, контуры вобраза тут хутчэй рамантычна неакрэсленыя, размытыя.

Рамантычны жывапіс у пэўнай меры ўласцівы пейзажным малюнкам, у якіх прысутнічае лірычная тэма паэта:

Малюнкі родныя і з'явы!
Як вы мне любы, як цікавы!
Як часта мілай чарадою
Вы ўстаяце перада мною!
І так панадна смеяцеся
Жывою баграю па лесе,
І златаблескімі снапамі
Праменняў-стрэлаў над палямі,
І брыльянцістаю расою,
Калі гарачаю касою
Скрозь лісцяў сетачкі-аконцы
На ёй заззяе ціха сонца,
Яе так песціць, так кахае,
Па ёй вясёлкі рассыпае!

(VI, 134)

А вось яшчэ яркі рамантычны малюнак схілу лета, стылістыка якога вызначаецца вобразнасцю, істотна аддаленай ад стыхіі чыста сялянскага жыцця, светабачання. Тут ужо зусім іншая прырода вобразна-асацыятыўнага рада, бліжэйшая хутчэй да ўспрымання чалавека інтэлігенцкага, чым сялянскага асяроддзя:

Зварот пары, зніканне лета…
То — водгулле душы паэта,
То — смутны вобраз развітання,
То — струн дрыгучых заміранне,
Натхненнай песні жаль сардэчны,
Жыцця і смерці — сымбаль вечны!
І люб і смуцен час прыгоды,
Калі душа ўсяе прыроды
З тваёю злучыцца душою
Ў адным суладдзі і настроі!
І ты маўчыш, маўчаць і далі,
Як бы ў адной агульнай хвалі,
У адной асветленай часіне
Жыццё злучыла свае плыні

І бег свой вечны прыпыніла,
І неба твар свой адчыніла.
На залаты парог паўдзення
Скрозь бела-руннае адзенне
У багне неба ясна-сіняй
Ступае сонца, як багіня,
І стрэлы-косы раскідае,
Як чараўніца маладая.

(VI, 119)

Зіма, вясна, лета, восень прадстаўлены ў паэме «Новая зямля» яркімі, незабыўнымі карцінамі. Поры года, нібы жывыя істоты («Гуляй, зіма, твая часіна!»). Коласаўскі антрапамарфізм блізкі да фальклорнай традыцыі з яе персаніфікацыяй прыродных з'яў, якія акружаюць чалавека ў жыцці. Зрэшты, гэта невычэрпная крыніца мастацкага вобразнага бачання свету, бо, скажам, дзякуючы такому погляду на прыроду рэчка, поле, лес, луг могуць поўніцца радасцю, смуткаваць, гаварыць, смяяцца, г. зн. жыць такім жа, як і чалавек, жыццём. Гэта пэўная даніна зжытаму, міфалагічнаму светаўспрыманню, рэшткі якога, як бачым, захаваліся ў беларусаў да ХХ ст.

Калі ў пушкінскіх радках «Буря мглою небо кроет, вихри снежные крутя; то, как зверь, она завоет, то заплачет, как дитя» з'явы прыроды прыпадабняюцца звярынаму ці чалавечаму голасу, то паэтыка «Новай зямлі» дазваляе не толькі такое прыпадабненне, а і прамое, непасрэднае надзяленне прыроды чалавечымі якасцямі. Абапіраючыся на фальклорную традыцыю, Колас можа напісаць:

Ідзі, зіма, ідзі ў дарогу:
Прайшоў твой час, дзякаваць Богу!
Пабач, старая: там, у полі,
Чарнеюць леташнія ролі!
А ўзгоркі, вунь, паразумнелі,
Бо вельмі значна палыселі.
А лес, глядзі, які вясёлы!
І дуб смяецца, хоць і голы.

(VI, 182—183)

Высокі ў «Новай зямлі» паэтычны культ сонца, вясны, лета як сіл жыватворных, якія даюць пачатак усяму жывому.

Паэма наскрозь прасякнута здзіўленнем, захапленнем паэта гарманічнай зладжанасцю навакольнай прыроды. Дрэва, жывёліна, расліна — гэта, як і чалавек, таксама асобны свет, са сваімі адметнымі, цікавымі законамі жыцця («Ніхто з граніц сваіх не выйдзе, з законаў, жыццем напісаных»).

І не толькі жывым здзіўляецца, захапляецца паэт, а і нежывым, бо граніцы між імі не такія строгія, канчаткова не выяўленыя, таксама выклікаюць паэтычнае пачуццё. Над зямлёй грымяць навальніцы, шумяць вятры, плюскочуць хвалямі ручай, рэчка. Музыка нежывой прыроды вельмі многа гаворыць чалавечаму сэрцу. У гэтай стыхіі дзівосных гукаў, фарбаў, колераў, бясконцых праяў жывой і нежывой прыроды фарміруецца духоўны свет Костуся, надзвычай дапытлівага хлапчука, надзеленага чулай, уражлівай душой.

Крыніцамі паэтычнага пачуцця ў «Новай зямлі» нярэдка з'яўляюцца дзве як бы з'яднаныя стыхіі — «буянне» жыцця і яго таемнасць, неразгаданасць:

На божы свет, як бы з магілы,
З зямлі травінкай далікатнай,
Густою шчотачкаю здатна
Выходзяць дробныя зярняткі.
Як у калысачцы дзіцятка,
Калі ўжо трошкі акрыяе,
Сваю галоўку падымае
І навакол глядзіць здзіўлёна,—
Так гэта збожжайка зялёна
Да сонца цягнецца лісткамі,
Бы к матцы дзіцятка рукамі.

(VI, 34)

Адчуванне велічнасці, загадкавасці жыцця, «божага свету» абумоўлівае ў рэшце рэшт стылістыку пейзажных карцін, малюнкаў, якія нярэдка вызначаюцца «маштабнымі», рамантычнымі фарбамі. У той жа час коласаўскі жывапіс, як відаць з прыведзенага ўрыўка, нярэдка па-сялянску чуллівы, «сентыментальны», стылістыка яго характарызуецца частым ужы-

ваннем назоўнікаў і прыметнікаў з памяншальна-ласкальнымі суфіксамі.

Філасофскае дыханне паэмы, калі думка паэта сягае далёка за межы звычайнасці, будзённасці, калі, нарэшце, адчуванне багацця жыцця, з’яў прыроды вынікае з падтэксту, са стылістыкі, скажам, пейзажных карцін і малюнкаў, вызначае мастацкую своеасаблівасць, непаўторнасць твора. Сівая, язычніцкая даўніна, даўно забытая міфалогія, як бачым, прысутнічаюць пэўнымі сваімі элементамі ў паэзіі беларускіх песняроў Янкі Купалы і Якуба Коласа. Ад гэтага іх паэзія не перастае быць вельмі сучаснай, блізкай нам і яснай да празрыстасці.

Так, гэта ніякі не парадокс, што ў XX ст. Якуб Колас і Янка Купала, паэты вельмі сучасныя, «сацыяльныя» ў тым, што звычайна называюць светаадчуваннем, светабачаннем, грунтуюцца на духоўным вопыце далёкіх продкаў, вопыце, здавалася б, забытым, зжытым, які калі і застаўся, то ў казках, песнях, створаных у незапамятныя часы. Але, відаць, казка, песня даюць штосьці істотнае і сучасніку, калі яны захаваліся да нашых дзён. Ва ўсякім выпадку дзеці нашага індустрыяльнага веку, якія ў якасці цацак маюць самалёты, тралейбусы, розныя машыны, з няменшай, чым дзвесце і трыста гадоў назад, увагай слухаюць казкі. Магчыма, да казкі, якая нясе ў сабе першабытны, наіўны вопыт далёкіх продкаў, можна прымяніць словы Маркса аб «дзяцінстве чалавецтва», якімі ён ацэньваў эстэтычную вартасць для сучасніка твораў старажытнагрэчаскага мастацтва.

Калі ў творы сцвярджаецца ідэя, што асэнсаваным, духоўным жыццём жыве не толькі чалавек, але і дрэва, птушка, ручай, то гэта называецца анімізмам, інакш кажучы, перажыткам поглядаў людзей старажытнасці на свет і прыроду. Нашы далёкія продкі, не могучы вытлумачыць рэальныя сувязі паміж з’явамі, прадметамі навакольнага свету, надзялялі іх чыста чалавечымі якасцямі.

Калі мы сёння ў паэта ці празаіка чытаем: «мора смяялася», «на усходзе неба грае пераліўным блескам», то называем такія выразы паэтычнымі тропамі, метафарамі. Як да пэўнага паэтычнага прыёму адносіцца сённяшні чытач да

таго, што ў байках жывёлы, звяры, птушкі, нават дрэвы як бы размаўляюць паміж сабой.

Некалькі слоў пра вельмі адметную з’яву беларускай літаратуры — «Казкі жыцця» Якуба Коласа. Ідэалогія алегарычных навел адчувальна абапіраецца на міфалагічныя, антрапамарфічныя ўяўленні, паводле якіх не толькі чалавек жыве асэнсаваным жыццём, а жывуць такім жыццём птушкі, звяры і нават прадметы нежывой прыроды.

Не ў аднэй толькі нашай душы
Зерне ёсць хараства —
Аб ім казку складае ў цішы
Колас нівы, трава.
Не ў адным толькі сэрцы людзей
Іскра праўды гарыць —
Аб ёй песню пяе салавей,
Аб ёй рэчка журчыць.
У той песні, шырокай, як свет,
Чутны ветры і гром.
Дык прымі ж ты прывет,
Свет бязмежны, мой дом.

(V, 469)

З прыведзенага дванаццацірадкоўя вынікае знаёмая па паэме «Сымон-музыка» ідэя аб злучанасці «быцця і небыцця», аб здольнасці ўсяго, што ёсць у бязмежным свеце, адчуваць, жыць адметным жыццём, быць часцінкай гарманічнай суладнасці існага. Дарэчы, паэма «Сымон-музыка» ў першых варыянтах таксама называлася «казкай жыцця».

Алегарычная творчасць Коласа — яскравае сведчанне таго, што пісьменнік усё жыццё задумваўся над складанымі маральна-філасофскімі пытаннямі свайго часу. Яго алегорыя — тая запаветная скарбонка, якой пісьменнік давяраў дарагія для сябе думкі і, калі хочаце, нават сумненні. Аднак Коласавы алегорыі — не толькі алегорыі. Гэта — паўторым сказанае ў пачатку раздзела — апавяданні, у якіх прырода жыве сама па сабе і ў той жа час настолькі цесна судакранаецца з пачуццямі, адчуваннямі чалавека, што нараджае ў яго душы імпульс, той сплаў, з якога пачынаецца мастацтва.

«Казкі жыцця» ў гэтым плане — эцюды аб еднасці, знітаванасці чалавечых пачуццяў, адчуванняў з праявамі навакольнай прыроды.

Навелы, сабраныя пад назвай «Казкі жыцця», складаюць, па сутнасці, адзіны твор. Пісаліся яны на працягу паўстагоддзя і адносяцца да ліку твораў, якія сам пісьменнік лічыў найбольш значнымі. Вядома, што Колас з дзяцінства захапляўся байкамі Крылова, многія з іх ведаў на памяць і ў далейшым, калі стаў пісьменнікам, досыць шырока карыстаўся формамі алегарычнага мыслення.

Аднак варта сказаць, што пісьменнік уносіць у свае казкі зусім новыя якасці. Адметнасць ягоных навел у тым, што яны шчодра насычаны элементамі даўно забытага пісьмовай літаратурай расліннага эпасу. Гэты момант надзвычай цікавы, бо з усіх славянскіх народаў, бадай, толькі ў беларусаў захаваліся рэшткі міфалагічных адчуванняў, у адпаведнасці з якімі яшчэ можна і сёння пісаць апавяданні, у якіх размаўляюць між сабой дрэвы, расліны, розныя казюркі, матылі, птушкі, нават рэчка і возера.

Прывядзём узор народнай алегорыі, запісанай вядомым этнографам і фалькларыстам М. Федароўскім у Слонімскім павеце.

**Гутарка дуба з грыбам**

— Адхіліся, дубе, бо я расту! Ты дзесяць лет расцеш, ды німа нічога, а я за гадзіну вырасту.

А дуб кажа:

— Ты за гадзіну вырасцеш, звалішся і счарвіваеш, а я ў сто лет звалюсь, а другія сто лет корань у зямлі сядзець будзе[1].

«Казкі жыцця» былі той прыдатнай мастацкай формай, у якой пісьменнік імкнуўся выказаць маральна-этычныя ісціны, якія звычайна выказваюцца ў байках. Паэтыка байкі грунту-

---

[1] Рукапісны аддзел бібліятэкі Варшаўскага ўніверсітэта. Сігнатура 133 — IV, том IX, арх. 28 (матэрыялы М. Федароўскага).

ецца на тым, што дзеючыя ў ёй асобы — усе гэтыя ільвы, мядзведзі, ваўкі, лісіцы і г. д.— нясуць на сабе замацаваныя ў народнай свядомасці «нарицательные» якасці. Паэтубайкапісцу няма патрэбы характарызаваць, скажам, ваўка, бо ў свядомасці чытача ён заўсёды паўстае як драпежнік, лісіца — хітрай, мядзведзь — моцным, але абмежаваным разумова. У пэўнай ступені на гэтай заканамернасці трымаецца і Коласава алегорыя, хоць ён значна пашырае кола сваіх казачных перажыванняў. Чытачу не цяжка здагадацца, што лес — сімвал мнагалюддзя; дуб — сілы, велічы, мудрасці; рака — плыні жыцця.

Тым часам не толькі як алегорыі пісаліся «Казкі жыцця». Колькі ў іх непасрэднага паэтычнага захаплення «буйствам» сіл прыроды, іх размахам, колькі міфалагічнага, «языческого» любавання сонцам, ветрам, бурай-навальніцай і г. д. Прырода ў гэтых навелах — мудрая настаўніца чалавека, перад якой ён схіляе галаву.

Не толькі Янка Купала і Якуб Колас выкарыстоўвалі ў творчасці напаўзабытую міфалагічную спадчыну свайго народа, а і паэты, пісьменнікі, значна маладзейшыя за іх,— Пятрусь Броўка, Максім Танк, Аркадзь Куляшоў. Жыве гэта традыцыя і сёння. У беларускай літаратуры яшчэ магчыма звярнуцца да сонца, месяца, зорак, ракі як ды жывых, адухоўленых асоб, і зварот такі чытачом успрымаецца зусім натуральна, дае добры паэтычны плён.

*1988*

## АДРАДЖЭННЕ СЛАВЯН І ТВОРЧАСЦЬ В. ДУНІНА-МАРЦІНКЕВІЧА

### I

XIX стагоддзе — час славянскага Адраджэння. У розных краінах яно ішло па-рознаму. Паўднёвыя славяне — балгары, сербы — змагаліся за нацыянальнае адраджэнне супраць шматвяковага турэцкага ярма. Пэўныя культурныя заваёвы

чэхаў, славакаў былі дасягнуты ў зацятай, працяглай барацьбе з германскім (аўстрыйскім і нямецкім) засіллем.

Своеасаблівыя абставіны нацыянальнага адраджэння склаліся ў Беларусі, славянскім краі, народ якога, бадай, самым апошнім стаў прабуджацца да свядомага нацыянальнага і культурнага жыцця. На гэта былі свае сацыяльна-гістарычныя прычыны. Калі астатнія народы адваёўвалі сваю незалежнасць у барацьбе з чужаземным прыгнётам, то беларусам прыйшлося змагацца за ўласны нацыянальны воблік у акружэнні славянскім, можна сказаць, роднасным — рускім і польскім.

На славянскае Адраджэнне, безумоўна, паўплывалі бурныя падзеі неспакойнага, запоўненага еўрапейскімі рэвалюцыямі XIX стагоддзя. На Пражскім славянскім з'ездзе, які праходзіў у чэрвені 1848 года, ва ўсёй паўнаце і вастрыні паўстала пытанне аб нацыянальнай незалежнасці кожнага са славянскіх народаў: «Мы заўсёды былі раз'яднаны перад аб'яднанымі сіламі захопнікаў. І вось на адным канцы заваяваў нас немец, у другім краі — мадзьяр, у трэцім — турак, у чацвёртым — італьянец, у пятым — татарын — усюды чужаземец стаў нашым гаспадаром, а мы — ягонымі слугамі»[1].

Упершыню на пражскім форуме перад еўрапейскай грамадскасцю было пастаўлена пытанне аб прыгнечаных славянскіх народах, сцверджана неабходнасць вырашэння гэтага вострага, балючага пытання.

Славянскае Адраджэнне мела глыбокія гістарычныя карані. Бо яшчэ ў Сярэднія вякі існавалі два Балгарскія царствы, Вялікамараўскае княства, шмат стагоддзяў сваёй гісторыі налічвала Польская дзяржава. Вялікае Княства Літоўскае, у склад якога ўваходзілі беларускія землі, таксама было значнай дзяржавай сярэднявечча. Дзяржаўнай мовай у Вялікім Княстве была мова беларуская, і кіравалася яно юрыдычнымі ўсталяваннямі, што ўзніклі яшчэ ў часы Кіеўскай Русі.

Ідэя Адраджэння славян вынікала з адчування славянскімі народамі сваёй супольнасці. Вучоныя славянскага свету з ранніх гістарычных часоў сцвярджалі роднасць, блізкасць усіх

---

[1] Slovanský sjezd v Praze: Sbírka dokumentů. Praha, 1848. C. I. S. 25.

славян. На новую вышыню ўзнялі гэтае пытанне серб Юрый Крыжаніч (XVIII ст.), балгарын П. Хілендарскі (XVIII ст.), Ян Колар, Ф. Галноўскі, П. Шафарык, вялікі польскі паэт Адам Міцкевіч і выдатны сербскі вучоны-філолаг Вук Карджыч (першая палова XIX ст.). Такім чынам, ідэя славянскай супольнасці была як бы рухавіком Адраджэння славянскіх народаў.

Самаахвярная барацьба славян за вызваленне ад чужаземнай няволі заклінальным рэхам адгукнулася на Беларусі. Ідэі славянскай еднасці, раўнапраўя, самавызначэння не маглі не ўплываць на станаўленне новай беларускай літаратуры. Тым болей што ўплывы славянскіх культур на культуру Беларусі мелі глыбокі гістарычны грунт. Калі беларускія аўтары сярэднявечча ажыццяўлялі пераклады-пераробкі такіх вядомых у той час твораў, як аповесць аб Троі, аб Александрыі, рыцарскія раманы пра Трыстана і Ізольду, пра Баву-Каралевіча, Атылу і іншыя, то рабілі яны гэтыя пераклады перш за ўсё з сербскай, балгарскай, чэшскай, рускай і іншых моў.

Так здарылася, што беларуская літаратура, якая, пачынаючы з дзейнасці асветніка і гуманіста Францыска Скарыны, налічвала сотні кніг, у канцы XVII стагоддзя заняпала. Новая беларуская літаратура, пачатак нараджэння якой паклала XIX стагоддзе, страціла ці амаль страціла сувязь з літаратурай папярэдняй. Але гістарычная памяць жыла. Яна натхняла беларускіх аўтараў на творчую дзейнасць.

У XVII стагоддзі (у канцы яго), піша найвыдатнейшы беларускі паэт і даследчык літаратуры Максім Багдановіч, друкаванае беларускае слова амаль знікла, але рукапісная літаратура была велізарная. Яна праіснавала аж да нашых дзён, толькі мяняючыся ў розныя эпохі па свайму складу[1].

Максім Багдановіч сцвярджае далей, што беларускі народ не tabula rasa, а самастойная нацыянальная велічыня, беларускі ж рух — жывая культурна-грамадская сіла, якая выйшла з глыбінь беларускага жыцця-быцця, але выхад гэтай сілы на прасторы сусветнай гісторыі арганічна быў звязаны з агульным уздымам нацыянальна-вызваленчай барацьбы

[1] Багдановіч М. Зб. тв.: У 2 т. Мн., 1968. Т. 2. С. 219.

прыгнечаных славянскіх народаў і заканамерным працэсам іх культурнага адраджэння. Вось чаму беларуская культура — не штосьці адасобленае, ізаляванае, а глыбока жыццёвая з'ява, якая знаходзіцца ў рэчышчы агульнаеўрапейскага прагрэсу.

Максім Багдановіч, як бачым, беларускае адраджэнне не звязваў з адраджэннем перш за ўсё славянскіх народаў. І гэта зусім слушна. Адраджэнне і развіццё ў XIX стагоддзі культуры такіх славянскіх народаў, як балгарскі, украінскі, польскі, чэшскі, славацкі, сербскі, харвацкі і інш., з'яўлялася для дзеячаў беларускай культуры тым арыенцірам, на які нельга было не раўняцца.

Аб гэтым сведчаць і выказванні многіх іншых беларускіх пісьменнікаў, у прыватнасці Францішка Багушэвіча, які ў прадмове да зборніка «Дудка беларуская» як на прыклад, варты пераймання, указвае на развіццё на роднай мове літаратуры балгар, чэхаў, харватаў, украінцаў, якія сталі на шлях нацыянальнага адраджэння і ствараюць на роднай мове сваю літаратуру.

Пісаная гісторыя не ведае на лясной раўніне, якую з сярэдзіны першага тысячагоддзя нашай эры займалі старажытныя ўсходнеславянскія плямёны, якога-небудзь адзінага аднароднага племені[1].

У перыяд стварэння беларускай і ўкраінскай народнасці рускі паўночны ўсход адасобіўся ад рускага поўдня і захаду. Адмеціны племяннной індывідуальнасці ўсходнеславянскага арэала пачынаюць узмацняцца, узбуйняцца, нараджаючы характэрныя рысы, якія вызначылі аблічча трох братніх народаў: рускага, беларускага і ўкраінскага.

Беларуская мова не паходзіць ні ад рускай, ні ад украінскай, а развіваецца самастойна, паралельна з імі на грунце блізкіх, роднасных племянных элементаў.

Беларусы стварылі выдатны фальклор, багаты і прыкметны ў славянскім свеце. Ды і кніжная культура сярэднявечнай Беларусі, як было сказана, была, бадай, найбольш багатай сярод усходняга славянства. Дастаткова назваць імёны Францыска Скарыны, Сымона Буднага, Васіля Цяпінскага, іншых

[1] Пыпин А.С. История русской этнографии. СПб, 1892. С. 4—6.

асветнікаў і друкароў, якія выдалі сотні кніг на кірыліцы ў многіх гарадах, мястэчках беларускага краю.

Мы не павінны забываць гэтыя імёны. Бо ў значнай меры яны апладнілі нараджэнне народнай, нацыянальнай ідэі, якая стала грунтам станаўлення беларускай літаратуры. З другога боку, паўторымся, нельга не заўважыць, што мастацкая сувязь твораў Скарыны, Буднага, Цяпінскага з рэальным мысленнем, светаадчуваннем чытача-беларуса, якім быў у XIX стагоддзі небагаты шляхціц ці адукаваны селянін, адносная. Можа, па гэтай прычыне на даляглядзе беларускай літаратуры выразней свецяць сатырычныя па жанру творы, якія ўзніклі ў XVII стагоддзі: «Прамова Мялешкі», «Ліст да Абуховіча», а ў XIX стагоддзі бурлескныя паэмы «Энеіда навыварат» і «Тарас на Парнасе». Бо тут мы ўжо маем адмысловы, народны пагляд на свет: гумар, іронію, той вельмі арганічны мастацкі сплаў, які будзе і ў далейшым характарызаваць развіццё маладой, вельмі дэмакратычнай па зместу і духу беларускай літаратуры.

У выніку трох падзелаў Польшчы паміж Расіяй, Прусіяй і Аўстрыяй (1772, 1793, 1795 гг.) беларускі край быў далучан да Расіі. Няма падставы маляваць названую падзею толькі ў ружовых фарбах. І ўсё ж гэта спрыяла развіццю беларускай культуры. Злучыліся народы аднаго гістарычнага кораня, сустрэліся культуры, родныя, блізкія па вытоках. І хоць царызм не прызнаваў ні беларускай нацыі, ні беларускай мовы, менавіта ў гэты час беларускае мастацкае слова стала шырэй і часцей прабівацца ў друк, фармуючы новую беларускую літаратуру.

Ля калыскі новай беларускай літаратуры ў большасці сваёй стаялі людзі, выхаваныя на ўзорах польскай культуры. Такімі з’яўляліся Ян Чачот, Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, Францішак Багушэвіч, Янка Лучына. Яны лепей, чым хто, адчувалі, разумелі, што беларускі народ мае вострую патрэбу ў развіцці ўласнай культуры і ў першую чаргу літаратуры, і — можна сцвярджаць — прысвяцілі гэтай справе ўласнае жыццё.

Многія польскія пісьменнікі, дзеячы культуры, у прыватнасці паэты Адам Міцкевіч, Уладзіслаў Сыракомля (Людвік Кандратовіч), Адам Плуг, кампазітар Станіслаў Манюшка, з сімпатыяй ставіліся да маладой беларускай літаратуры. Беларусь

не была для іх чужая: яны выраслі на гэтай зямлі, ведалі яе побыт, норавы, чэрпалі з крыніц народнага мастацкага слова беларусаў. Але былі і другія дзеячы, якія, змагаючыся за ідэалы аднаўлення польскай дзяржаўнасці, забывалі пра беларускі народ, яго культуру, ягоную цягу да самастойнага духоўнага жыцця.

Царскі ўрад і яго чыноўнікі ў імкненні беларусаў да самастойнага духоўнага і культурнага жыцця бачылі небяспеку, сепаратысцкія імкненні. Тым часам насуперак русіфікатарскай палітыцы царскага ўрада развіццё беларускай культуры, літаратуры хоць і марудна, але пасоўвалася наперад. Беларускія песні, казкі час ад часу друкуюць рускія і польскія часопісы, газеты. Пачынаецца вывучэнне побыту, народнай творчасці беларусаў, прытым як з боку рускіх, так і польскіх даследчыкаў. Гэта дало добры плён. У выніку шматгадовай, самаахвярнай работы этнографаў і фалькларыстаў І. Насовіча, Е. Раманава, А. Сержпутоўскага, П. Шэйна, М. Федароўскага, А. Пыпіна і многіх іншых было даказана, што народ беларускі існуе, мае сваю арыгінальную вусную творчасць, свой пагляд на свет, сваю філасофію бытавання.

На ніве прыгожага пісьменства беларусаў XIX стагоддзя бачны дзве выразна акрэсленыя постаці: Вікенція Дуніна-Марцінкевіча і Францішка Багушэвіча. Было, вядома, нямала другіх пісьменнікаў, але гэтыя вызначаюцца як найбольш буйныя фігуры, вяршыні літаратурнага працэсу.

Беларуская нацыянальная ідэя нарадзілася і чым далей, тым больш выспявала менавіта ў XIX стагоддзі. В. І. Дунін-Марцінкевіч успрыняў яе наймацней і, хоць быў выхаваны на ўзорах польскай літаратуры і культуры, па-польску пісаў нават больш, чым па-беларуску, першы глыбока зразумеў, што беларуская літаратура можа ўзнікнуць толькі на грунце духоўнага жыцця роднага народа. Пісьменнік быў перакананы: літаратура беларуская даможацца поспехаў толькі на ўласным шляху, ні ў чым не пераймаючы, не паўтараючы літаратуры — няхай сабе блізкія па духу — рускую ці польскую.

Марцінкевіч усведамляў, якая б ні была бедная, жанрава абмежаваная беларуская літаратура, ёй наканаваны ўласны

шлях; яна здольна вучыцца на лепшых узорах літаратуры рускай, польскай, украінскай, але паўтарыць іх вопыт не можа.

Новая беларуская літаратура пачала развівацца як літаратура глыбока народная. Так здарылася, што асяроддзе буйных і нават сярэдніх па дастатку беларускіх памешчыкаў не вылучыла са свайго асяроддзя больш-менш прыкметных дзеячаў нацыянальнай літаратуры і культуры.

На Беларусі і часткова на Украіне існавала своеасаблівая сацыяльная катэгорыя насельніцтва — дробная шляхта. Шляхта гэтая не была памешчыцкім класам у поўным сэнсе слова. Большасць яе складалі маламаёмасныя панкі, арандатары і нават сяляне.

Шляхта, аднак, моцна прылучана да стварэння беларускай літаратуры: дваранскі тытул некаторых дзяцей больш заможных шляхціцаў даваў ім магчымасць вучыцца ў гімназіях, паступаць ва ўніверсітэты. Шмат хто з беларускіх пісьменнікаў XIX стагоддзя паходзіць з шляхты.

Беларуская літаратура XIX стагоддзя дае вельмі яркі прыклад поўнага зліцця асобы пісьменніка, яго жыццёвай дзейнасці з ягонымі творамі. Прыклад самаахвярнага служэння беларускіх пісьменнікаў свайму народу здзіўляе, захапляе высокім усведамленнем абавязку, бескарыслівасцю, адданасцю ідэі. Не толькі В. Дуніну-Марцінкевічу, Ф. Багушэвічу, Я. Лучыне, а і пісьменнікам XX стагоддзя Я. Купалу, Я. Коласу, З. Бядулю, Цётцы, М. Багдановічу, М. Гарэцкаму ганарараў не плацілі. Яны выпускалі свае творы, як кажуць, на ўласны страх і рызыку. Але ў XX стагоддзі хоць існавалі беларускія выдавецкія суполкі, накшталт такіх, як «Загляне сонца і ў наша аконца» ў Пецярбурзе, «Наша ніва» ў Вільні. Рэвалюцыя 1905 года зняла забарону з беларускай мовы. А ў часы В. Дуніна-Марцінкевіча і Ф. Багушэвіча забарона існавала, хоць афіцыйна не дэкларавалася, лютавала цэнзура і не знаходзілася выдаўцоў, каб надрукаваць беларускую кнігу.

Колькі трэба было вынаходлівасці, вытрымкі, цярпення, веры ў сваю справу, каб у невыносна цяжкіх умовах пісаць па-беларуску! За сціплымі выданнямі «Сялянкі», «Гапона», «Вечарніц» В. Дуніна-Марцінкевіча, «Дудкі беларускай» і «Смыка беларускага» Ф. Багушэвіча — па сутнасці, гераічны

подзвіг іх аўтараў. Мала напісаць кнігу, трэба было знайсці сродкі, каб яе выдаць. Напрыклад, не раз В. Дуніну-Марцінкевічу прыйшлося ездзіць да знаёмых панкоў, гандляроў, чыноўнікаў, кланяцца, прыніжацца; пазычаючы грошы, пісаць бясконцыя прашэнні, каб прапусціць твор праз цэнзуру. Многія творы тагачаснай літаратуры так і не ўбачылі свету пры жыцці іх аўтараў, былі надрукаваны значна пазней у газеце «Наша ніва» ці нават, наогул, у савецкі час.

Беларуская літаратура з першых сваіх крокаў вызначалася глыбокім дэмакратызмам, духам народнасці, пільнай увагай да жыцця простага чалавека. Няма сумнення, што рэвалюцыйныя ідэі, якія пачалі пашырацца пасля выступлення дзекабрыстаў, паўстанняў 1830—1831 і 1863—1864 гадоў, далі моцны штуршок развіццю і пашырэнню мастацкага беларускага слова.

У той час, калі літаратура беларусаў рабіла толькі першыя крокі, літаратуры руская і польская былі шырока вядомыя. Руская літаратура ведала класіцызм, сентыменталізм, рамантызм. Яшчэ ў першай палове XIX стагоддзя ў ёй відавочна перамагаў рэалістычны напрамак. Няма патрэбы даказваць, што роднасныя літаратуры — руская і польская — дабратворна ўплывалі на станаўленне маладой літаратуры беларусаў. Але бясспрэчна і другое — кожная літаратура, калі яна выказвае карэнныя, глыбінныя духоўныя імкненні, запатрабаванні народа, павінна знайсці ўласны шлях. У гэтым сэнсе шлях беларускай літаратуры не падобны на шляхі літаратур рускай і польскай, затое мае агульныя рысы з развіццём, станаўленнем літаратуры ўкраінскай, што абумоўлена, відаць, падабенствам гістарычных лёсаў беларускага і ўкраінскага народаў.

Бытуе думка, што беларуская літаратура XIX стагоддзя ў сваім станаўленні, развіцці абмінула перыяды класіцызму, сентыменталізму, рамантызму, стыхійна з прычыны яе глыбока народных вытокаў ступіўшы на шлях рэалізму[1].

Мы сапраўды не знаходзім арыгінальных беларускіх твораў, цалкам народжаных у рэчышчы названых напрамкаў. І ўсё ж, улічваючы спецыфічныя ўмовы развіцця беларускай

---

[1] Ларчанка М. Па шляху рэалізму. Мн., 1958.

літаратуры, варта прызнаць, што на яе станаўленне аказвалі пэўны ўплыў творы, напісаныя на польскай мове: драмы, трагедыі, камедыі, што ставіліся на сцэнах панскіх тэатраў, езуіцкіх калегій, а таксама вершы, што чыталіся на зборышчах апалячанай беларускай шляхты.

Элементы сентыменталізму, перадрамантызму, рамантызму прысутнічаюць у творах В. Дуніна-Марцінкевіча. Мы знаходзім у пісьменніка пэўнае «канструяванне» станоўчых герояў, рашучае штучнае размежаванне герояў «добрых» і «благіх», ідэалізацыю герояў. І калі прыгледзецца ўважліва, то прыйдзецца згадзіцца, што менавіта гэтыя якасці ішлі ад творчай практыкі напрамкаў, якія называліся вышэй, іх канонаў і патрабаванняў. Як і ў творах сентыменталізму або рамантызму, у В. Дуніна-Марцінкевіча ёсць героі «адной» гіпербалізаванай страсці, якія часта з'яўляюцца носьбітамі ідэй самога аўтара. Галоўная прыкмета ўплыву рамантызму на В. Дуніна-Марцінкевіча бачыцца ў тым, што ягоная творчасць у немалой ступені з'яўляецца ўтылітарна-выхаваўчай, тэндэнцыйнай, дыдактычна-павучальнай. Пісьменнік нярэдка бачыць сваю ролю ў тым, каб стварыць узор, вызначыць маральна-этычны напрамак паводзін чалавека. Творчасць В. Дуніна-Марцінкевіча, такім чынам, як бы сумяшчае розныя функцыі недастаткова развітога нацыянальнага жыцця, з'яўляючыся нібы заменай адсутнічаючых школ нацыянальнай арыентацыі, трыбунай нацыянальнага дэмакратычнага абуджэння сялянскіх мас.

В. Дунін-Марцінкевіч, малюючы сялян, не выходзіць з рамак іх паўсядзённага прыгоннага побыту. Нярэдка намаляваныя ім характары надзелены толькі знешнімі рысамі. Пісьменнік імкнецца выклікаць спагаду чытача да сваіх герояў і ў гэтым бачыць сваю галоўную задачу.

Нараджэнне новай беларускай літаратуры пачалося з першых гадоў і дзесяцігоддзяў XIX стагоддзя. Мы ўжо гаварылі, што дзеці беднай шляхты, гэтыя своеасаблівыя беларускія «лішнія людзі», якія туліліся па розных маёнтках польскіх магнатаў і проста больш-менш багатых шляхціцаў, па сваім сацыяльным, матэрыяльным становішчы мала чым адрозніваліся ад звычайных сялян. Хіба толькі тым, што былі

больш адукаваныя. Мова, звычаі, светапогляд гэтых «лішніх людзей» мелі шмат агульнага з тым, што мы бачым у дробнашляхецкім і нават сялянскім асяроддзі.

Тым часам XIX стагоддзе — стагоддзе рэвалюцый, бунтаў, шматлікіх сацыяльных узрушэнняў. Яго пачатак адзначаны выгнаннем Напалеона з рускай зямлі і распаўсюджаннем ідэй, якія прынеслі рускія салдаты і афіцэры, што прайшлі па шэрагу краін Заходняй Еўропы, бачылі парадак, умовы жыцця розных народаў і не маглі не параўноўваць убачанае з тым, як жылося і вялося на роднай зямлі. Людзі прыгонніцкай, напаўфеадальнай Расіі не маглі не падзівіцца на зладжана-сытую, добраўпарадкаваную Еўропу. Выступленне ў 1825 годзе дзекабрыстаў было прамым і непасрэдным водгаласам таго, што ўбачыла апранутая ў салдацкія шынялі перадавая частка Расіі ў Еўропе.

Дарэчы, названыя факты некаторым чынам звязаны з асабістым лёсам В. Дуніна-Марцінкевіча. Непадалёку ад Бабруйска, ад засценка Панюшкавічы, дзе знаходзіўся арандаваны ў Богуша-Сестранцэвіча маёнтак бацькоў В. Марцінкевіча і дзе ён нарадзіўся, правёў дзіцячыя гады, на рацэ Беразіне армія Напалеона пацярпела канчатковую катастрофу. Тут жа пад горадам панёс паражэнне польскі корпус Дамброўскага, які штурмаваў Бабруйскую крэпасць, тоўкся на месцы некалькі месяцаў дый так і не ўзяў яе. Пра гэта ведаў дапытлівы хлапчук, будучы беларускі пісьменнік. Як паказваюць новыя крыніцы, у 1819 годзе 11-гадовы Дунін-Марцінкевіч паехаў да роднага дзядзькі Богуша-Сестранцэвіча, мітрапаліта каталікаў Расіі, і доўгі час жыў у Пецярбурзе[1], паступіў, хутчэй за ўсё, у медыка-хірургічную акадэмію. Не выключана, што малады Марцінкевіч быў сведкам выступлення дзекабрыстаў. У 1826 годзе Богуш-Сестранцэвіч памёр, і няўтульна стала ў агромністым горадзе беднаму юнаку з ціхай правінцыі, у якога не было сродкаў для існавання, бо не было болей дзядзькавай дапамогі. Тады, відаць па ўсім, з Пецярбурга Марцінкевіч пераехаў у Вільню або ў Мінск.

---

[1] Янушкевіч Я. На свой хлеб // Тэатральная Беларусь. 1993. № 1. С. 51.

Беларуская літаратура адольвала вялікія цяжкасці. Правіцелі «единой и неделимой» не маглі дапусціць, што апрача ўкраінскай (яна таксама нараджалася з вялікімі цяжкасцямі і пакутамі) узнікне яшчэ і беларуская літаратура. І вось вынікі: ніводны беларускі пісьменнік XIX стагоддзя не пражыў ціхамірна сваё жыццё. Кожны якім-небудзь спосабам пакараны. Амаль усе без выключэння беларускія літаратары — людзі высокай самаахвярнасці, пакутнікі, вінаватыя без віны. Паўлюк Багрым рэкрутаваны ў салдаты, Ян Чачот адбываў высылку ў Сібіры. Сасланы ў Архангельск першы беларускі крытык Рамуальд Падбярэскі. Зведаў салдатчыну на Каўказе паэт-рэвалюцыянер Франц Савіч. Арцём Вярыга-Дарэўскі зведаў пакутніцкі лёс выгнанніка ў Сібіры.

Спіс можна працягваць...

Цікава паставіць пытанне так: дзякуючы чаму ўцалела некалькі значных беларускіх пісьменнікаў, у ліку якіх В. Дунін-Марцінкевіч, Ф. Багушэвіч, А. Ельскі, Я. Лучына (Неслухоўскі)? Якія абставіны гэтаму спрыялі? Адказаць на гэтае пытанне не так проста. Кідаецца ў вочы: найменш пацярпелі літаратары, якія не прымалі ўдзел у паўстаннях, што трэслі Польшчу і Беларусь на працягу ўсяго стагоддзя. Напрыклад, А. Ельскі, Я. Лучына. Як выратаваўся ад пакарання Ф. Багушэвіч, які ўдзельнічаў у паўстанні К. Каліноўскага і нават быў паранены, застаецца пакуль што тайнай. Можа, выратавала яго тое, што пераехаў на Украіну, вучыўся ў Нежынскім ліцэі, стаў юрыстам.

Відавочная яшчэ адна акалічнасць: царскі рэжым больш давяраў людзям з нейкім становішчам: уладальнікам няхай сабе невялікіх маёнткаў, тым, хто меў якую-небудзь пасаду, атрымаў адукацыю. А часовыя, вандроўныя выхавальнікі шляхецкіх дзяцей, бібліятэкары, іншыя дробныя інтэлігенты, служылы люд, што часта, праз год-два перабіраўся з месца на месца, даверу ў вачах царскіх сатрапаў не меў.

Відаць, беларускай літаратуры XIX стагоддзя пашанцавала ў тым сэнсе, што В. Дунін-Марцінкевіч купіў сабе Люцынку — маленькі маёнтачак, які стаў, аднак, жытлом для сям'і паэта, прыстанішчам для яго самога. А Ф. Багушэвіча, Я. Лучыну ратавалі дыпломы і службовыя пасады. Дый аўтары

паэм «Энеіда навыварат» і «Тарас на Парнасе», як досыць пераканаўча паказаў нам даследчык Г. В. Кісялёў, былі людзьмі з некаторым зажыткам: Равінскі[1] — памешчык, высокі па чыну службовец, Вераніцын — сярэдняга дастатку чыноўнік[2].

Большасць астатніх нашых літаратараў, дзяцей беззямельнай шляхты, якія не атрымалі ні значнай адукацыі, ні сталага прыстанішча, нягледзячы на яўную літаратурную адоранасць, што-небудзь істотнае стварыць у літаратуры не маглі. І хоць жыццё гэтых пісьменнікаў аддалена ад нас на якую-небудзь сотню з лішнім гадоў, мы фактычна маем аб іх вельмі небагатыя звесткі.

Пісьменніку, паэту трэба нарадзіцца ў прыгожай мясціне. Маючы на ўвазе В. Дуніна-Марцінкевіча, варта сказаць, што ў гэтым сэнсе беларускай літаратуры пашанцавала. Бабруйшчына — мяжа паміж раўнінным, балотна-лясным Палессем і ўзгоркаватым, прыгожым на краявіды сярэднебеларускім узвышшам. На Бабруйшчыне высокае паўднёвае неба, ахінутыя сіняватай наміткай смугі бясконцыя лясы, адчуванне прасторы. Прыгажосць рана западае ў душу чалавека, тым болей калі гэты чалавек паэт у душы[3].

Будучы пісьменнік нарадзіўся ў сям'і арандатараў фальварка Яна (Івана) Мікалаевіча Дуніна-Марцінкевіча і Марцыяны з Нядзведскіх. Продкі пісьменніка належалі да шляхты сярэднезаможнай, служылай, не шарачковай, якая, аднак, паступова бяднела і страціла маёнткі. Сам пісьменнік неаднаразова ўспамінаў, што да яго роду належалі людзі ў мінулым знакамітыя. Пра гэта, дарэчы, сведчыць і прыдомак «Дунін», што азначае — датчанін, выхадзец з Даніі. Прыдомак, відаць, бярэ пачатак з тых часоў, калі Польшча знаходзілася ў уніі са Швецыяй, часткай якой была і Данія.

Шляхецкі род Марцінкевічаў, які меў герб Лебедзь, у XVII стагоддзі валодаў маёнткам Марцінкевічы, размешчаным у Смаленскім ваяводстве.

У 1832 годзе, хадайнічаючы аб зацвярджэнні свайго роду ў дваранстве, Дунін-Марцінкевіч пералічвае прадстаўнікоў

---

[1] Кісялёў Г. В. Загадка беларускай Энеіды. Мн., 1971.

[2] Кісялёў Г. В. Пошукі імя. Мн., 1978.

[3] Александровіч С. Незабыўнымі сцежкамі. Мн., 1959. С. 18.

роду, якія займалі досыць высокае службовае становішча. Яны мелі чыны паручнікаў і ротмістраў у войску Рэчы Паспалітай. Адзін з Марцінкевічаў быў замкавым намеснікам горада Мінска. Паводле метрычнага запісу аб хрышчэнні Вінцэнта, ягоны бацька меў па тым часе званне навагрудскага падчашага. Зямлі ці якой-небудзь іншай маёмасці Марцінкевічы, аднак, не мелі.

Маці пісьменніка таксама належыць да знакамітага роду. Ва ўсялякім выпадку яе брат С. Богуш-Сестранцэвіч меў сан магілёўскага архібіскупа. Ён затым пераехаў у Пецярбург і кіраваў усімі касцёламі Расійскай імперыі.

С. Богуш-Сестранцэвіч сыграў вялікую ролю ў лёсе пляменніка. Ён сам быў навукоўцам і пісьменнікам, пісаў драмы, оды, трагедыі і, наогул, быў відным дзеячам эпохі Асветніцтва.

Ён быў членам Акадэміі навук, размешчанай у Пецярбурзе, адзін час быў нават яе прэзідэнтам. Выбіраўся дзядзька Дуніна-Марцінкевіча ганаровым членам Маскоўскага, Віленскага, Ягелонскага ўніверсітэтаў. Ён пражыў доўгае — 95 гадоў — жыццё, ведаў у гэтым жыцці шматлікія ўзлёты і спады.

Не выключана, як мы ўжо гаварылі, што Марцінкевіч, які жыў у Пецярбурзе, у Богуша-Сестранцэвіча, мог бачыць на ўласныя вочы выступленне дзекабрыстаў, якое адбылося ў снежні таго ж года на Сенацкай плошчы сталіцы. Ягонай душы гэта не ўзрушыла, як не ўзрушылі падзеі наступныя: польскае паўстанне 1830—1831 гадоў, хваляванні 1848 года, паўстанне пад кіраўніцтвам Каліноўскага 1863 года.

Некаторыя даследчыкі імкнуцца прадставіць В. Дуніна-Марцінкевіча бунтаром, рэвалюцыйным змаганнікам. Але гэта не зусім так. В. Дунін-Марцінкевіч як пісьменнік быў умераны і памяркоўны. І ад гэтага не пераставаў быць дэмакратам. Можна дапусціць, што такія з’явішчы, якія адбываліся ці маглі адбыцца на вачах будучага пісьменніка,— разгром напалеонаўскай арміі на Беразіне, разгром дзекабрыстаў на Сенацкай плошчы, падаўленне паўстання ў Вільні 1830—1831 гадоў — павярнулі думкі пісьменніка ў тым кірунку, што вайной, сілай, паўстаннем, бунтам нічога не дасягнеш.

Век Марцінкевіча быў грымучы. На XIX век прыпадае два разгромленыя польскія паўстанні і ў дадатак яшчэ паўстанне Кастуся Каліноўскага, дзве еўрапейскія рэвалюцыі — 1830 і 1848 гадоў, водгулле якіх данеслося і да Беларусі. Ды яшчэ варта ўспомніць шматлікія сялянскія выступленні напярэдадні і пасля адмены прыгоннага права.

Амаль усе беларускія пісьменнікі пацярпелі ад рэвалюцыйных бур і завірух, што пранесліся над іх краем. Бо ўдзельнічалі яны ці не ўдзельнічалі ў мяцежных падзеях, царска-памешчыцкія вярхі ўсё адно лічылі іх падбухторшчыкамі бунтаў. Колькі беларускіх літаратараў адсядзела па астрогах, па высылках, было аддадзена ў салдатчыну, а то і проста замардавана. Нарадзілася б вялікая літаратура, каб раптам увесь гэты строй сасланых, пакараных, залічаных у неблаганадзейныя з тайным ці яўным паліцэйскім надзорам раптам трапіў ва ўмовы вольнай творчай працы. Якое б багацце літаратуры ён мог стварыць!

В. Дунін-Марцінкевіч быў пісьменнік вельмі біяграфічны. Ён не так многа пісаў на адцягненыя тэмы, больш трымаўся вядомых фактаў, таго, што добра ведаў, бачыў на ўласныя вочы або хоць бы чуў. У гэтым выпадку ягоная фантазія станавілася крылатай, здольнай на дадумванне, на багатыя фарбы, колеры, адценні. Ён асабіста ведаў некалькі маёнткаў (Прушынскага ў Лошыцы пад Мінскам, Лапы ў вёсцы Рудабелка пад Бабруйскам, у Шчаўрах каля Крупак), уладальнікі якіх добра і гуманна абыходзіліся з сялянамі. Сяляне адказвалі ім узаемнасцю. Палі ў гэтых мясцінах былі добра апрацаваны, давалі багатыя ўраджаі. Радавала вока сялянскае жытло і наогул увесь сельскі парадак.

Пісьменнік лічыў: так можа быць усюды. Трэба толькі няспынна, настойліва і зацята нагадваць панам пра іх абавязкі перад народам.

В. Дунін-Марцінкевіч быў дэмакратычна настроены чалавек. Ён сябраваў з Людвікам Кандратовічам (Сыракомлем), паэтам, у творчасці якога адчувальна прасочваюцца рэвалюцыйныя матывы, з кампазітарам С. Манюшкам, іншымі літаратурнымі і культурнымі дзеячамі, прыналежнасць якіх да дэмакратычных колаў сумнення не выклікае. Тым часам усе

гэтыя людзі былі шляхецкімі дэмакратамі. Яны не падымалі руку на існуючы лад, парадак. Больш таго, шлях бунту, мецяжу, паўстання яны лічылі пагібельным для справы прагрэсу, паляпшэння жыцця. Так думаў і В. Дунін-Марцінкевіч, і гэта яго прынцыповае перакананне, якое, дарэчы, арганічна вынікае са зместу і з духу ягонай творчасці.

## II

Па ахопу з'яў сучаснай яму рэчаіснасці, тэматыцы, праблематыцы спадчына В. Дуніна-Марцінкевіча найшырэйшая і найбагацейшая ў беларускай літаратуры XIX стагоддзя. У адрозненне ад іншых пісьменнікаў ён не абмінае ў сваіх творах паказу жыцця дваранства, шляхецкага, дробнамаянтковага асяроддзя («Сялянка», «Залёты», «З-над Іслачы, або Лекі на сон», «Пінская шляхта»), а таксама гістарычнай тэматыкі («Славяне ў XIX стагоддзі», «Люцынка, альбо Шведы на Літве»), чым значна пашырае межы беларускай літаратуры. Але, як і ў іншых беларускіх пісьменнікаў, большая частка напісанага прысвечана жыццю вёскі, яе побыту, абмалёўцы характару беларускага селяніна. Селянін, ягоная праца, кола яго этычных, маральных, эстэтычных уяўленняў — усё гэта складае асноўны змест творчасці Марцінкевіча. Нават у тых творах, дзе пануе сентыментальная стыхія ідэалізацыі адносін паміж панам і селянінам, ацэнкі «дабра» і «зла» дадзены з пазіцый народнай этыкі і маралі, пісьменнік як бы «падцягвае» пана да ўзроўню народных ідэалаў.

Двухактовая камедыя-опера «Сялянка» («Ідылія»), напісаная ў 1842—1844 гадах,— першы твор В. Дуніна-Марцінкевіча, які дайшоў да нас. Дазвол віленскага цэнзара А. Мухіна на яе выпуск датаваны 5 мая 1844 года, а надрукавана лібрэта ў друкарні Ю. Завадскага толькі ў 1846 годзе.

Упершыню опера пастаўлена на сцэне ў Мінску 9 лютага 1852 года.

В. Дунін-Марцінкевіч добра засвоіў форму «сялянкі», шырока распаўсюджаную ў польскай літаратуры, ахвотна карыстаўся вершаваным апавяданнем і наогул любіў лёгкую вадэвільную форму са шчаслівым канцом, дзе абавязкова

прысутнічае любоўны трохкутнік і на любоўнай інтрызе завязваецца дзеянне. Сітуацыі ў такіх творах вельмі ўмоўныя. У «Ідыліі», напрыклад, усе праблемы вырашаюцца, калі можна сказаць так, на плошчы любоўнай інтрыгі. У гераіню «Ідыліі» шляхцянку Юлію, пераапранутую ў сялянскую вопратку, закаханы амаль што ўсе персанажы мужчынскага полу, хоць сэрца Юліі імкнецца толькі да Караля Лятальскага.

Сюжэт оперы вельмі нескладаны. Падзеі адбываюцца ў маёнтку Караля Лятальскага, легкадумнага маладога пана, які праводзіць зімы і леты за мяжой, у Парыжы, у прыемных вандроўках. Да роднага краю, яго насельнікаў панок, па ўсіх прыкметах, залятае рэдка і наогул да ўсяго роднага ставіцца даволі грэбліва.

У маёнтку Лятальскага ў яго ранейшага апекуна Яна Дабровіча ёсць дачка Юлія, якая шчыра любіць Караля Лятальскага. Успаміны Юліі пра дзяцінства заўсёды звязваюцца з вобразам Караля.

Каханне, якое нараджаецца рана, на зары чалавечага жыцця, вытрымлівае моцныя выпрабаванні. Аддаючы даніну ўмоўнасці сюжэту оперы, не можам, аднак, папракнуць пісьменніка за выдуманасць калізій. Можа такое быць, таму роля Юліі зусім не здаецца ідылічнай. Нават невялікая хітрасць гераіні, якая пераапранаецца сялянкай і ў такім вобліку паўстае перад Каролем Лятальскім, не выклікае пачуцця пярэчання (той жа прыём выкарыстаны А. С. Пушкіным у ягонай аповесці «Барышня-крестьянка»).

Вядома, пісьменнік аддае даніну жанру. Камедыя-опера жыве і рухаецца наперад дзякуючы хітра завязаным вузлам, сплячэнням патайных стрэч, спатканняў, якія на вачах гледача раскрываюцца, даючы вясёлы і камічны эфект.

Камедыя-опера заканчваецца шчасліва. Толькі Марцінкевіч не быў бы значным пісьменнікам, лібералам і дэмакратам, каб абмежаваўся ў сваім творы наследаваннем далёкім перажыўшым час буколікам. На невялікім абсягу любоўнай «ідыліі» паміж легкадумным ветрагонам Лятальскім і закаханай у яго Юліяй пісьменнік разгортвае досыць шырокую карціну народнага жыцця з яго духоўнымі каштоўнасцямі: песнямі, танцамі, бясконцымі прымаўкамі, прыказкамі, якія,

нібы з мяшка, сыпле рухавы, увішны войт Навум Прыгаворка.

Адчувае аўтар «Ідыліі», што ў песні выяўляецца душа народа, таму ў ягонай камедыі так многа лірычных, віншавальных бытавых песень. Сёння гэта можна назваць просталінейнымі адносінамі да фальклору. А ў тагачасных умовах пашырэнне народнай песні сродкамі друкаванага слова прыцягвала ўвагу і да народнага жыцця.

Марцінкевіч (у сваіх беларускіх творах) пастаянна малюе беларускую вёску. Героем яго твораў нязменна з'яўляецца вясковы люд, які гаворыць на сваёй роднай беларускай мове, якую пісьменнік імкнецца больш-менш літаратурна апрацоўваць. Марцінкевіч асабліва моцны ў апісанні розных сялянскіх звычаяў, святаў, на якіх, калі можна сказаць так, асноўнай гераіняй выступае беларуская песня.

Адна са свядомых творчых мэт Марцінкевіча — асветніцтва. Ён хоча сеяць асвету сярод люду, які, каб быў прызвычаены «да навукі чытання, будзе развіваць пастунова свой розум, які дагэтуль гібеў у цямноце, улагоджваць звычаі, пазбавіцца ад укаранёных благіх нахільнасцей і захоча выконваць сваё цяжкае прызначэнне ў жыцці. Сам факт пісання па-беларуску вылучае тэндэнцыю асаблівасці народнай»[1].

Мы не павінны дакараць Марцінкевіча за ягоныя пошукі згоды паміж панам і селянінам. Прыгон ёсць прыгон, і з гісторыі яго не выкрасліш. Пры жыцці пісьменніка парвалася, кажучы словамі Някрасава, «цепь великая, порвалась и ударила одним концом по барину, другим — по мужику». Пра гэта Марцінкевіч раскажа, хоць і не робячы асаблівых націскаў, у паслярэформенных творах — камедыі «Пінская шляхта» (1866) і «Залёты» (1870), якія пры жыцці пісьменніка свету не ўбачылі.

Хто ішоў на змену шляхце? Яшчэ ў «Сялянцы», напісанай на дваццаць два гады раней за «Залёты», дзе ў цэнтры твора хапуга і тарбахват Сабковіч, пісьменнік раскрывае прыроду ліхвяра, новага эксплуататара, які займае месца старой шляхты.

---

[1] Gołąbek J. Wincenty Dunin-Marcinkiewicz. Wiena, 1932. S. 114.

Выхаваны на ўзорах старапольскай пісьменнасці з яе культам шляхціца-рыцара, высакароднага, мужнага заступніка сялян (Адам Міцкевіч у «Пане Тадэвушы» выдатна раскрывае духоўны свет, норавы, звычаі гэтага асяроддзя), Марцінкевіч не мог схіліцца перад новым гаспадаром жыцця. Калізія ў сусветнай літаратуры не новая: успомнім Бальзака, пісьменніка, які выйшаў з дэмакратычнага асяроддзя, але свае сімпатыі аддаваў каралеўскай уладзе і арыстакратам, рускага Чэхава, які ў напісаных у канцы жыцця п’есах «Вішнёвы сад», «Тры сястры» даў узоры шчымліва-прыгожай паэзіі занепадаючых дваранскіх гнёздаў.

Марцінкевіч не выпадкова, а зусім свядома выступіў як пісьменнік беларускі, аддзяляючыся тым самым ад літаратуры польскай. Але што значаць тады яго польскія творы? Тым болей што гісторыя польскай літаратуры пра яго бадай што маўчыць, як маўчала сучасная пісьменніку польская крытыка, не заўважаючы ні благіх, ні добрых вартасцей марцінкевічаўскіх кніг. Наадварот, беларускія творы Марцінкевіча, як пераканаемся, выклікалі ў друку вострую палеміку, рознагалоссе думак і паглядаў.

Тут ёсць адна цікавая акалічнасць. Несумненна, што ў беларускім прыгожым пісьменстве Марцінкевіч займае месца першаступеннае, якое яму па праву належыць. Да пісання беларускіх твораў яго заахвочвалі У. Сыракомля, Адам Плуг, Аляксандр Ельскі, другія відныя літаратары, што жылі і працавалі ў адзін з ім час. Але калі ягоныя папярэднікі дый сучаснікі толькі час ад часу пісалі па-беларуску, то Марцінкевіч прысвяціў пісьменнасці на мужыцкай мове жыццё. Усё гэта яшчэ раз пацвярджае, што перад намі паэт не польскі, а беларускі. Але чаму ён усё-такі, не звяртаючы ўвагі на маўчанне крытыкі, працягваў пісаць па-польску?

Польскія творы Марцінкевіча, як і «мужыцкія», служылі справе беларускай літаратуры. Не будзем забываць: шляхту, няхай сабе апалячаную, ён таксама лічыў беларускім народам. Ланцуг шляхціц — селянін для пісьменніка быў неразрыўны. Як шляхціц не мог жыць без селяніна, так селянін — без шляхціца. Можна лаяць пісьменніка за ягоныя кансерватыўныя пагляды, але яны былі менавіта такія. Такім чынам, польскія

творы Марцінкевіча злучаны з беларускімі. У польскіх творах ён узносіць, паэтызуе шляхту, яе дабрачыннасці, яе слаўнае мінулае. У беларускіх творах такім «высокім» героем выступае мужык, селянін. Заўважым: ён у абмалёўцы пісьменніка зусім не занядбаны, цёмны, забіты. Ён, як Навум Прыгаворка ці палясоўшчык Тарас («Тарас на Парнасе»), чалавек кемлівы, увішны, часта відавочна разумней за пана. Вось такая атрымліваецца арыфметыка.

В. Дунін-Марцінкевіч паэтызуе родны край, у яго шмат малюнкаў беларускай прыроды. Добра адчуваў ён, што песня найлепш выяўляе душу народа, таму ўключыў у драматычныя творы і вершаваныя аповесці вялікую колькасць прыпевак, жартоўных, бытавых, вясельных песень.

Малюючы народны характар, В. Дунін-Марцінкевіч даражыць традыцыяй, якая, вядома ж, вядзе і ў прошласць, ахопліваючы цэлыя вякі гістарычнага бытавання народа. Ён разумеў, што не выкшталцаваныя па замежнай модзе паны, а непісьменнае сялянства — захавальнік традыцый: асаблівасцей побыту, звычаяў народа, што ў песні, прыказцы, прымаўцы — вытокі жыццесцвярджальнага народнага духу.

Новая беларуская літаратура, калі мець на ўвазе кніжную культуру, распрацаванасць літаратурных стыляў, іх «прывязанасць» да пэўнага сацыяльнага асяроддзя, зачыналася амаль на голым месцы. Развіццё беларускай літаратуры XVI—XVIII стагоддзяў было перапынена паланізацыяй краю, і В. Дунін-Марцінкевіч мог абапірацца толькі на фальклор ды яшчэ на традыцыі батлейкі, школьнай драмы, досыць пашыранай на Беларусі.

Сённяшняму чытачу творы В. Дуніна-Марцінкевіча, напісаныя пераважна сілабічным вершам (гэта, безумоўна, уплыў польскай традыцыі), здаюцца груваcткімі, абцяжаранымі непатрэбнымі бытавымі падрабязнасцямі; далёка не бліскучая іх мова, перанасычаная паланізмамі, дыялектызмамі, прастамоўнымі выразамі. Але В. Дунін-Марцінкевіч пісаў, не маючы перад сабой амаль ніякіх узораў беларускага прыгожага пісьменства, ішоў па цаліку, пракладваючы шлях у літаратуру народнаму слову. Заслуга пісьменніка перад літаратурай над-

звычай вялікая і, трэба сказаць, да апошняга часу як след не ацэненая.

Ад В. Дуніна-Марцінкевіча бярэ пачатак эпічная традыцыя, якая пазней знойдзе найбольш поўнае ўвасабленне ў творчасці Я. Коласа. Абапіраючыся на фальклор, на багацце яго мастацка-выяўленчых сродкаў, В. Дунін-Марцінкевіч ствараў нацыянальную літаратуру, імкнуўся маляваць нацыянальныя тыпы і характары.

Апладняючы свае творы малюнкамі нораваў, быту, абрадаў, адбіраючы і не баючыся ўстаўляць у аўтарскі тэкст найбольш яркія народныя песні, прымаўкі, прыказкі, нават жарты, Марцінкевіч рос як мастак. Бо этнаграфічнае, фальклорнае ўсё болей сплаўлялася з уласным стылем пісьменніка. Можна з поўнай падставай сцвярджаць, што ніхто да беларускага дудара гэтак шырока і поўна не выкарыстаў столькі першасных фальклорных і этнаграфічных крыніц.

Марцінкевіч рана паверыў у народную ідэю. Ідэя гэтая аказалася вельмі плённай для яго як мастака. Духоўнае багацце народа апладняе творы пісьменніка, які, нібы па прыступках лесвіцы, уздымаецца на новыя і новыя мастацкія вышыні.

Марцінкевіч не толькі сябраваў з польскім паэтам Сыракомлем (Л. Кандратовічам), але і схіляўся перад ягоным талентам. Яны былі людзьмі прыкладна аднаго светапогляду: шляхецкімі дэмакратамі з добрым дамешкам сялянскага, народнага светаадчування. Нават невялікі прамень надзеі на магчымасць перамен да лепшага распрамляў крыллі іх фантазіі, абуджаў актыўны творчы настрой.

Марцінкевіч адчуваў, што селянін, няхай сабе прыгонны, прыніжаны, але не забіты канчаткова, не страціў вольналюбівую натуру, сяганні, бачыў, што ў сялянскім асяроддзі ёсць людзі актыўныя, дзейсныя, якія не саступаюць панам ні ў розуме, ні ў дасціпнасці і, нават будучы прыгоннымі, здольны пастаяць за сябе.

«Гапон» — беларуская аповесць у чатырох песнях напісана ў 1854 годзе (дазвол цэнзара на друкаванне атрыманы 18 лютага 1855 года). Пісьменнік імкнецца закласці ў беларускую літаратуру эпічную будучыню, стварыць эпас. Няхай сабе мужыцкі, сялянскі. Творчая задача была ў тым, каб уславіць

беларускага селяніна, узвялічыць яго, паказаць яго немалую фізічную і духоўную сілу. Мужыка пісьменнік імкнецца ўзвесці на высокі гераічны п’едэстал. Таму ён свядома ідзе на рамантызацыю, паэтызацыю, ідэалізацыю вобраза селяніна. А хіба без прыёмаў ідэалізацыі створаны, скажам, казкі пра герояў-асілкаў, народныя легенды і вядомыя нам эпасы, памяткі старых часоў — «Іліяда», «Давід Сасунскі», «Слова аб палку Ігаравым» і нават «Калевала», твор XIX стагоддзя.

Аповесць «Гапон» — пачатковы беларускі эпас, і пісьменнік наўмысна падкрэслівае гэта шматлікімі сцэнамі, дэталямі, нават тым, што чацвёртую, заключную, песню аповесці цалкам будуе на фальклорнай аснове вясельнага беларускага абраду і завяршае аповесць чыста казачным прыёмам, трохі яго перайначыўшы: «Я на тым вяселлі быў, піва, мёд, гарэлку піў, у роце здаволь было, аж па барадзе цякло».

Творчасць Марцінкевіча ледзь не цалкам ляжыць у рэчышчы фальклорна-родавай эстэтыкі з яе выдзяленнем агульнага, а не індывідуальнага, і ў гэтай сувязі варта ўспомніць сцверджанне А. Весялоўскага, што чалавечая індывідуальнасць, асоба ў літаратуры, мастацтве не можа нарадзіцца раней, чым усвядоміць сваю адметнасць, непаўторнасць народ, этнас. Творчасць Марцінкевіча і разгортвалася якраз у той час, калі беларусы толькі пачыналі ўсведамляць сябе народам, нацыяй. Гэтым трэба вытлумачваць і той факт, напрыклад, што аўтары паэм «Энеіда навыварат», «Тарас на Парнасе», шматлікіх «Гутарак», якіх бы мы сёння лічылі выдатнымі беларускімі пісьменнікамі, узвялі на літаратурны алімп, пажадалі за лепшае застацца ананімамі. Бо не было яшчэ сярод беларусаў выразнага пачуцця нацыянальнай еднасці, гордасці за сваю зямлю, радзіму, народ. Сярод другіх славянскіх народаў трохі запознена ішлі беларусы да ўсведамлення сваёй асобнасці, адметнасці, нацыянальнай годнасці. Калі на тое пайшло, то нават у пачатку XX стагоддзя, калі ў літаратуру прыйшлі волаты мастацкага слова Янка Купала і Якуб Колас, працэс гэты канчаткова не завяршыўся.

Творы Марцінкевіча — пачатак беларускай літаратуры. У сваіх творах ён расказвае пра цяперашняе і мінулае жыццё краю, пра побыт, норавы, звычаі людзей, якія тут жывуць, пра іх будні і святы. Творы гэтыя ў значнай меры дыдактычныя,

бо Марцінкевіч у новай беларускай літаратуры быў першым асветнікам, верыў, што сваім мастацкім словам можа палепшыць норавы, сеяць разумнае, добрае і вечнае.

Быліца «Староўскія дзяды» значна пашырае, паглыбляе эпічны змест творчасці Марцінкевіча. Як Адам Міцкевіч у «Дзядах», пісьменнік звяртаецца тут да старажытных беларускіх абрадаў, міфаў, паданняў. Улічваючы творы, пазней напісаныя аўтарам на польскай мове («Славяне ў XIX стагоддзі», «З-над Іслачы, або Лекі на сон»), можна сказаць, што Марцінкевіч мог стаць добрым гістарычным пісьменнікам. Меў ён дзеля гэтага неабходныя якасці: сентыментальна-рамантычны погляд на жыццё, захапленне мінуўшчынай краю, любоў да роднай зямлі. Ды й асабістая біяграфія Марцінкевіча як бы давала ў гэтай справе прастор: было сярод продкаў пісьменніка некалькі славутых асоб, ды й прыдомак Дунін, г. зн. датчанін, вараг у сённяшнім разуменні слова, сведчыў пра старажытнасць і знакамітасць марцінкевічаўскага роду.

Для Марцінкевіча палякі былі братнім народам, з якім ён прызнаваў цесную сувязь, але з якім канчаткова не зліваўся[1]. Беларусы — як просты люд, так і шляхта — выклікаюць у паэта глыбокую павагу, нават захапленне: «Працавіты люд на Беларусі — з гарачым у сэрцы замілаваннем здавён захоўвае прастату звычаяў, добразычлівасці сваіх прaайцоў»[2].

У «Дудары беларускім» аўтар з гонарам піша аб тым, што беларускае асяроддзе, у якое траплялі ягоныя кнігі, вітала яго крокі з удзячнасцю, «пачцівая Беларусь» вызначыла мэты, да якіх з такой цяжкасцю, няўдачамі, набіваючы мазалі, ішоў, падала мне руку дапамогі і заахвоціла неяк, каб на маёй няўдзячнай ніве не стамляўся працаваць».

Так, «мужыцкая» нацыя ўшаноўвала свайго дудара-песняра, чалавека беднага, але самаахвярнага, толькі ў плане духоўнай, маральнай падтрымкі, бо друкаванне ягоных твораў не давала яму якога-небудзь прыбытку, а толькі страты.

Нават з гонарам пісьменнік гаворыць пра справу, якую ад кніжкі да кніжкі здзяйсняе: «Гэта я першы паэзію нашага

---

[1] Gołąbek J. Wincenty Dunin-Marcinkiewicz. S. 114.

[2] Там жа. С. 114.

сялянскага люду апрануў у шаты народнай эстэтыкі, увёў на сцэну жыцця і пакінуў у шэрагах твораў айчыннага пісьменства, чым і ганаруся. Таму ласкавая крытыка «Ідыліі», «Гапона» і «Вечарніц» ... адгадала мэту, да якой сваімі творамі я адважыўся імкнуцца. Бо ці ж не слушна думаць, што праз іх наш селянін, будучы заахвочаны да навукі чытання, паволі разаўе свой розум, ахоплены дагэтуль цемрай, а змякчаючы звычаі, пазбудзецца ўкаранёных дрэнных заган і заахвоціцца да выканання цяжкага прызначэння ў сваім жыцці. Ці ж малая гэта будзе для мяне ўзнагарода?»[1]

Рамантычная па сваёй прыродзе, вершаваная, як пазначыў яе пісьменнік, аповесць з мясцовай легенды «Травіца братсястрыца» (1857). У друкаваныя зборнікі Марцінкевіча яна не ўваходзіла і ўпершыню ўбачыла свет толькі ў 1945 годзе.

Вось такі лёс беларускай літаратуры — некаторыя яе творы друкуюцца амаль праз сто гадоў пасля іх напісання.

Падзеі аповесці перанесены ў сівую мінуўшчыну. Але, як амаль заўсёды бывае ў Марцінкевіча, яны звязаны з мясцінамі, якія ў той ці іншай ступені яму знаёмыя і дарагія. Падзеі ў дадзеным выпадку разгортваюцца ў абсягах уладанняў князя Барыса (г. Барысаў), які Вольгерду, «літоўскаму князю, быў правай рукой» (зноў жа гістарычная дакладнасць тут, як і ў іншых творах, умоўная, пададзеная паводле легенды).

Гэта ўсё ж эпічная традыцыя. Як бачым, Марцінкевіч імкнецца ўсталяваць гэтую традыцыю ў літаратуры, каб засведчыць існаванне беларусаў як народа. Пісьменнік заглядвае ў мінуўшчыну краю, паэтызуе народныя звычаі, абрады, шырока выкарыстоўвае песні, легенды. Прычым — заканамерная асаблівасць — ён заўсёды выкарыстоўвае сюжэты народных твораў, якія бытуюць у знаёмай, блізкай яму мясцовасці. З гэтага можна зрабіць выснову, што Марцінкевіч у вельмі адчувальнай меры пісьменнік аўтабіяграфічны. Такую здагадку ўпершыню выказаў Максім Гарэцкі ў сваёй «Гісторыі беларускай літаратуры»[2].

---

[1] Gołąbek J. Wincenty Dunin-Marcinkiewicz. S. 115.

[2] Гарэцкі М. Гісторыя беларускай літаратуры. Вільня. 1924. С. 85—86.

Фарбаў, красак, адценняў і таноў у мастацкай палітры Марцінкевіча прыбаўляецца. Ужо нельга сказаць адназначна, што ён пісьменнік цалкам рамантычнага ці сентыментальнага складу, бо настойліва прабіваюцца ў ягонай творчай манеры рысы, якасці новага, рэалістычнага напрамку.

## III

Пасля пераможнага шэсця ў выдавецкай справе, калі на працягу 50-х гадоў убачылі свет чатыры зборнікі Марцінкевіча («Сялянка» надрукавана яшчэ ў 1846 г.), з беларускім перакладам «Пана Тадэвуша» А. Міцкевіча Марцінкевіч атрымаў поўнае паражэнне. Напачатку справы ішлі як быццам нядрэнна. На выданне падпісалася даволі значная колькасць людзей, аматараў беларускага слова, сярод якіх былі інтэлігентныя чытачы — урачы, настаўнікі, службовы люд і нават сяляне.

Друкаванне «Пана Тадэвуша» намячалася на 1859 год, калі слава Марцінкевіча як беларускага песняра была ў зеніце, дасягнула найвышэйшага пункта.

Дазвол на друкаванне беларускага «Пана Тадэвуша» даваў знаёмы нам цэнзар Павел Кукальнік — шчыры прыхільнік яднання славян, але падпісваць кнігу ў друк прыйшлося цэнзару Мухіну, які замяніў Кукальніка, а гэта быў зусім не добразычлівы і не ліберальны чалавек. У той час, калі ў віленскай друкарні Сыркіна былі надрукаваны два сшыткі перакладу, а друкаванне трэцяга падыходзіла да канца, Сыркін звярнуўся ў цэнзурны камітэт за дазволам на выпуск кнігі. З гэтага і загарэўся агонь.

Дарма пісьменнік пісаў прашэнні ў цэнзурны камітэт, спасылаючыся на клопаты цара аб адукацыі сялян, на тое, што ён працуе «ў духу ўрада», сее сярод народа асвету, патраціў на друкаванне перакладу значныя сродкі[1] і г. д. Царскія чыноўнікі былі няўмольныя. У лістападзе 1859 года ўладальнік друкарні Сыркін здаў тыраж надрукаванай кнігі (1000 экзэмпляраў) у цэнзурны камітэт. Удалося выратаваць толькі паасобныя экзэмпляры перакладу.

---

[1] Пачынальнікі. Мн., 1977. С. 138.

Што сабой уяўляе пераклад Марцінкевічам «Пана Тадэвуша» з мастацкага боку? Ёсць на гэты конт рэцэнзія Мікалоюса Акялайціса, літоўскага грамадскага дзеяча і пісьменніка. Прызначаная для друку, яна, аднак, свету не ўбачыла. Паасобныя мясціны перакладу аўтар хваліць, некаторымі незадаволен, асаблівыя пярэчанні выклікаюць у яго каментарыі, але ў цэлым яму па душы з'яўленне шэдэўра польскай літаратуры на сялянскай, мужыцкай мове. «Гэты пераклад,— сцвярджае Акялайціс,— які прысвячаецца землякам і сялянам з-над Дняпра, Дзвіны, Свіслачы, Віліі і Нёмана і змяшчае толькі дзве першыя кнігі арыгінала, з'яўляецца, як слушна прызнаецца сам перакладчык, «Панам Тадэвушам, апранутым у сялянскую сярмягу».

Бачым, такім чынам, тое ж аблічча, паставу, прыгажосць і зухаватасць пана Тадэвуша, толькі замест панскага ўбрання ўпрыгожваюць яго беларуская світка і лыкавыя лапці»[1].

Можна пагадзіцца з Акялайцісам. Пераклад «Пана Тадэвуша» не ўздымаецца ў творчасці Марцінкевіча над мастацкім узроўнем астатніх твораў. Ва ўсялякім выпадку благім яго назваць нельга, нават параўноўваючы з больш блізкім нам па часе перакладам Б. Тарашкевіча і нядаўнім, ажыццёўленым Я. Семяжонам. Улюбёны ў старую Польшчу, яе ахутаную флёрам рыцарскага подзвігу мінуўшчыну, замкі, палацы арыстакратаў, пісьменнік данёс да чытача — і не толькі селяніна — многа паэтычных, прасякнутых непадробным пачуццём карцін і малюнкаў.

Акрамя таго, пераклад Марцінкевіча адлюстроўвае стан тагачаснай беларускай мовы, нераспрацаванасць яе стыляў, лексічную абмежаванасць, асабліва пры перадачы высокіх, якія выходзяць за межы сялянскіх уяўленняў, прадметаў і паняццяў. Тым не меней самому Марцінкевічу праца над перакладам «Пана Тадэвуша» дала вельмі шмат у сэнсе росту, развіцця яго пісьменніцкага майстэрства.

Пераклад «Пана Тадэвуша» Адама Міцкевіча як бы азначае непасрэдны «заход» В. Дуніна-Марцінкевіча ў польскую літаратуру. З польскай літаратурай у дудара беларускага

---

[1] Пачынальнікі. С. 139.

найбольш трывалыя сувязі. Але ўзнятая на хвалі славянскага Адраджэння творчасць Марцінкевіча не абмінала ўвагай жыццё другіх славянскіх народаў, іх літаратуры і культуры.

«Быліцы, расказы Навума» складаюцца з дзвюх гісторый. «Халімон на каранацыі» — другая гісторыя — расказвае пра падарожжа беларускага селяніна, гарадзецкага старшыны Халімона Забалотнага на каранацыю рускага цара Мікалая Першага.

«Маскоўская» паэма Марцінкевіча «Халімон на каранацыі» як бы працягвае тэму бывалага, вынаходлівага беларуса, народнага героя, калі можна сказаць так, сучаснага пісьменніку Васіля Цёркіна. Дарэчы, пра Васіля Цёркіна пісьменнік мог чуць ці нават чытаць пра яго, бо славутай паэме А. Твардоўскага папярэднічала паэма з такой жа назвай і героем, якая была напісана ў Айчынную вайну 1812 года.

«Халімон на каранацыі» — бадай, самы спелы па мастацкай дасканаласці твор Марцінкевіча. У ім пісьменнік паэтызуе беларускага селяніна, яго востры, калі хочаце, нават «дзяржаўны», розум:

Думалі, што Забалотны,
Галавой не абаротны,
Згадзіць беларуску чэсць.
Нябось!.. Мы самі з вусамі,
Знаем, як ладзіць з панамі,
Умеем парадак весць.

Даволі лёгка ўгадваюцца падзеі, якія ляглі ў аснову быліны-паэмы: каранацыя новага цара Мікалая Першага, дзеля якой у далёкую Маскву былі выкліканы прадстаўнікі ўсіх саслоўяў імперыі, у тым ліку і беларускі селянін Халімон Забалотны («Падумаў царок дабрэнькі, што вось Халімон старэнькі, гарадзецкі старшына, на прозвішча Забалотны, можа б, дзеткі, быў ахвотны спазнаць сваяго цара»).

Паэма пабудавана своеасаблiва: падзеі дзяржаўнай важнасці, якія афіцыйныя асобы бачаць у арэоле дзяржаўнага бляску, паказаны праз успрыманне простага селяніна, аднаго з тых, каго нават звычайныя павятовыя чыноўнікі ставяць не надта высока: «Як указ той прачыталі, валасы на сабе рвалі

ўсе палатныя чыны; акружны ледзь не збясіўся, яго пісар аж упіўся,— така чэсць для старшыны!»

Паэма «Халімон на каранацыі» прасякнута роздумам аб лёсе народным, аб жыцці-быцці простага чалавека, у грамадстве яўна недаацэненага і, можна сказаць, занядбанага.

Гэта «мужыцкая» паэма. Апавяданне ў ёй вядзецца ад імя гарадзецкага старшыны, чалавека, вядома, бывалага, змыслага, але ў той жа час цесна, непарыўна звязанага з колам чыста сялянскіх уяўленняў.

Апору славянскіх народаў, іх надзею на лепшую будучыню Марцінкевіч бачыць у Расіі, нават у асобе рускага цара.

Сказаў бы я смела, як мы таму рады,
Што, маючы дзетак нясметны грамады,
Ён паляку, рускім, сынам Русі-белай
Без выбару бацькай для грамады цэлай.
Яму б са слязінай у ногі пакланіўся,
Прасіў да маліў бы, вось пакуль дабіўся,
Штоб над мужычкамі шчыру меў апеку,
Вялеў справіць розум цёмну чалавеку,
Штоб дзетачак нашых чытаць навучылі,
Штоб Бога па ксёнжцы за цара малілі[1].

Марцінкевіч сцвярджае: пана селянін можа не любіць, а ў цара-бацюхну, у ягоную справядлівасць верыць, як у самога Бога. Калі і ўзнікае ў душы селяніна незадавальненне царскімі парадкамі, то ён тлумачыць яго тым, што праўду пра жыццё народнае закрылі ад цара розныя паны, падпанкі, і яны, а не цар найбольшая злыбеда для селяніна. Падобныя настроі бытавалі ў сялянскім асяроддзі не толькі ў той час, калі пісалася «быліца» Навума Прыгаворкі, а і значна пазней, у бурлівыя гады першай рускай рэвалюцыі.

Як бачым, Марцінкевіч дакладны, малюючы сучаснае яму сацыяльна-грамадскае становішча. Селяніна ён не выдумляе, а паказвае такім, якім ён быў у рэальным жыцці.

Паўстанне 1863 года, арышт, турма, паліцэйскі нагляд падсеклі творчыя крылы пісьменніка. Але не настолькі, каб

---

[1] Дунін-Марцінкевіч В. Творы. Мн., 1964. С. 369—370.

ён увогуле перастаў пісаць. Ён стварае «Пінскую шляхту» (1866), надрукаваную больш чым праз паўстагоддзе ў газеце «Вольная Беларусь» (1918), камедыю «Залёты» (1870), якая ўбачыла свет у той жа газеце трохі раней.

Пішучы «Пінскую шляхту», Марцінкевіч, відаць, яшчэ спадзяваўся абвесці вакол пальца чыноўнікаў ад друку. Таму напісаў сваю камедыю, ці, дакладней, фарс-вадэвіль, нібыта на ўкраінскай мове. Друкаваць мастацкія творы па-ўкраінску ў той час дазвалялася, забарона датычыла толькі ўкраінскіх кніг на грамадска-палітычныя тэмы.

«Пінская шляхта» напісана на паляшуцкім дыялекце, распаўсюджаным у паўднёвых раёнах Беларусі, якія мяжуюць з Украінай. Вялікі вандроўнік, падарожнік, Марцінкевіч бываў, відаць, на Украіне, чытаў украінскія кнігі, а што датычыць Палесся, то дакладна вядома, што ён завітваў туды неаднаразова. Ды і фальварак Панюшкавічы, размешчаны каля Бабруйска, дзе нарадзіўся і правёў дзіцячыя гады Марцінкевіч, фактычна мяжуе з Палессем, і «паляшуцкая» гаворка тут навіной не была.

Дый увогуле ўплыў тагачаснай украінскай літаратуры на творчасць В. Дуніна-Марцінкевіча, і ў прыватнасці на стварэнне камедыі «Пінская шляхта», вялікі, адчувальны.

Беларускі пісьменнік ведаў і любіў украінскую літаратуру. Параўноўваючы «Пінскую шляхту» з камедыямі «Наталка-Палтаўка» (1820) І. Катлярэўскага, «Сватанне на Ганчароўцы» (1836) Г. Квіткі-Аснаўяненкі, лёгка ўбачыць падабенства інтрыгі, сюжэтных хадоў і ўвогуле таго народнага досціпу, што служыць асновай шматлікіх твораў украінскай і беларускай літаратуры.

Яшчэ раз зададзім сабе пытанне: «Чаму Марцінкевіч не менш, чым па-беларуску, пісаў па-польску?» Адказ ужо даваўся: шляхціца, як і селяніна, пісьменнік бачыў раўназначнымі сіламі народа. Не польскага, а беларускага. Шляхціц апалячыўся, ён належыць да іншага, чым селянін, саслоўя, але на зямлю, на якой жыве, ён ні адкуль не прыходзіў, ён жыве тут вечна. То чаму ж у такім выпадку ён не можа лічыцца прадстаўніком беларускага народа? Багацей жыве, часам пагарджае селянінам. Ёсць такое. Але з гэтым злом трэба змагацца.

І яшчэ Марцінкевіч пісаў па-польску таму, што стылістыка, якой ён авалодаў у беларускіх творах, зусім не падыходзіла да твораў польскіх. У селяніна і пана былі неаднолькавыя ўяўленні пра жыццё, духоўныя каштоўнасці, ідэалы. Не мог, напрыклад, пісьменнік расказаць пра смелага, адважнага, разумнага сялянскага хлапца Гапона гэтак жа, як расказваў пра маладога шляхціца Даліву («Люцынка, альбо Шведы на Літве»). З селянінам пісьменнік звязваў сферу звычайнага, паўсядзённага жыцця, са светам шляхецтва — гістарычную прошласць, высокую рамантыку і патэтыку.

Кінем позірк на яшчэ адзін твор Марцінкевіча, на напісаную па-польску паэму «Славяне ў XIX стагоддзі» (1856), якую сам пісьменнік назваў гістарычным паданнем у дзвюх песнях. Тэма агульнасці, еднасці славян выступае ў спадчыне Марцінкевіча адчувальна. Пра барацьбу паўднёвых славян пісалі многія польскія і рускія пісьменнікі. Для палякаў тэма гэтая была нават бліжэй, бо яны, як і паўднёвыя славяне, бачылі сваю краіну разарванай на часткі, прыніжанай, прыгнечанай чужынцамі.

Мужным барацьбітом за свабоду роднага народа Кізралі-Кірджалі захапляліся многія славянскія пісьменнікі. Нават вялікі Пушкін. У яго знаходзім спачатку чарнавыя накіды паэмы «Кірджалі» (1828), затым аповесць «Кірджалі» (1834).

Не выключана, што аповесць А. С. Пушкіна паслужыла творчым штуршком для польскага празаіка М. Чайкоўскага, які стварыў аднайменны раман у двух тамах («Kirdżali», 1839). У сваю чаргу з раманам М. Чайкоўскага быў добра знаёмы В. Дунін-Марцінкевіч. У ягонай паэме ў наяўнасці падобныя, як у рамане Чайкоўскага, павароты, калізіі, сюжэт, пейзажныя замалёўкі, выкарыстаны нават заўвагі польскага празаіка да свайго твора. Паэма-балада Марцінкевіча напісана ў высокім рамантычным ключы. Тут не знойдзем рэалістычных карцін, дэталяў. У стылі паэмы пануюць аднапланавыя характарыстыкі: герой або светлы, прыгожы, харобры, разумны, або чорны, цёмны, агідны да немагчымасці.

У баладзе маем, як кажуць, мастацкі прыём з «пераапрананнем». Кізралі служыць у турэцкім войску — «Ёсць у Мехметавым войску Ага адважны, завецца Кізралі... Розныя

чуткі аб ім у народзе: быццам балгаркай была яго маці, бацька ж — нашчадак шляхетнае знаці. Вось чаму часта ў журбоце ён ходзіць, зрок павяртае да роднага краю, што паланёны варожаю зграяй»[1].

У Кізралі ёсць каханка, дзяўчына, якая адказвае яму ўзаемнасцю. Але паколькі дзяўчына хрысціянка, яна не можа назваць мужам «вызнаўцу Карана». Прыходзіцца Кізралі раскрыць сваю тайну перад каханай.

Каханыя з'ядналі рукі і сэрцы. Кізралі як тыгр змагаецца з ворагамі. Але і яны не дрэмлюць. Яны высачылі, што жонка Кізралі жыве ў замку баярына Тудора, узялі штурмам гэты замак, а ўсіх ягоных насельнікаў вынішчылі. Не ўсіх — адну жанчыну нібыта вывезлі ў карэце. Кізралі пераўвасабляецца ў Чорнага Пілігрыма і з яшчэ большай адвагай і мужнасцю знішчае ненавісных ворагаў. Тым часам жонка Кізралі не загінула. Яна нарадзіла сына, гадуе яго і ловіць кожную вестку з поля вайны. Чуючы пра гераічныя подзвігі Чорнага Пілігрыма, сэрцам здагадваецца, што гэта яе муж. Усё вырашаецца шчасліва. Кізралі «песціць сына і жонку цалуе».

Як заўсёды ў Марцінкевіча, подзвіг узнагароджваецца яшчэ ў гэтым жыцці.

Дух паўднёвых гераічных славян пісьменнік добра адчуў. Увогуле ён быў перакананы, што лёс кожнага славянскага народа належным чынам вызначыцца толькі тады, калі запануе ідэя славянскага адзінства. Кожны народ — частка вялікай сям'і. У тым ліку і народ беларускі.

Пэўнымі рысамі балада Марцінкевіча блізкая да рамантычнай паэмы А. Міцкевіча «Конрад Валенрод». Блізкая ідэя абодвух твораў, хоць у Міцкевічавым маем карціну барацьбы славян і літоўцаў супраць нямецкіх заваёўнікаў-крыжаносцаў. Балада Марцінкевіча нясе думку, што водгалас барацьбы паўднёвых славян супраць турэцкай няволі ў будучым пашырыцца, памножыць сілы тых народаў, якія яшчэ гібеюць пад чужаземным ярмом.

В. Дунін-Марцінкевіч разумеў і засведчыў сваёй творчасцю, што існуе яўнае міжславянскае супрацоўніцтва, усве-

---

[1] Дунін-Марцінкевіч В. Творы. С. 249.

дамленне славянскай еднасці, якое абапіраецца ў першую чаргу на давер да Расіі. Не трэба ў Марцінкевіча шукаць ідэі рэакцыйнага панславізму — яе няма. Ёсць адчуванне славянскай агульнасці, прагнае жаданне свабоды, вольнасці кожнаму з вялікіх ці малых славянскіх народаў.

Творчасць Марцінкевіча завяршае цэлую эпоху ў развіцці прыгожага беларускага пісьменства. Гэта эпоха, у якой няма яшчэ празмернага, адналінейнага адмаўлення ўсяго панскага, памешчыцкага, што не належыць да кола сялянскіх уяўленняў. Няма падкрэслівання пакут і нягод, што выпалі на долю селяніна. Для Марцінкевіча шляхціц, нават буйны — таксама народ. Ён ніадкуль не прыязджаў і звязаны з беларускім краем усімі ніцямі жыцця.

В. Дунін-Марцінкевіч меў шчырае, добрае сэрца. Усімі сіламі душы, творчай фантазіі жадаў ён вольнага, шчаслівага жыцця працоўнаму люду, зрабіў простага чалавека, мужыка героем літаратурных твораў, з яго імкненнямі, жаданнямі звязваў этычныя і эстэтычныя ідэалы.

Матывы жыццялюбства, разняволенасці, раскаванасці чалавечай асобы, яе права на чалавечае, зямное шчасце шырока прадстаўлены ў творчасці Марцінкевіча.

У створаным пісьменнікам мастацкім свеце пануе суладнасць, спакой і гармонія. Ён бачыў магчымасць добразычлівых адносін паміж людзьмі, якое б сацыяльнае становішча яны ні займалі, якімі б ні былі па нацыянальнасці. Разам з Марцінкевічам, з яго ўяўленнямі пра памяркоўнасць, згоду, мірнае суіснаванне народаў адышла ў гісторыю цалкам літаратурная эпоха.

*1993*

# ВОДЗЫВЫ НА ДЫСЕРТАЦЫІ

## ОТЗЫВ
### официального оппонента И. Я. Науменко на докторскую диссертацию П. К. Дюбайло «Современный белорусский роман»

Белорусский роман за последние 10—15 лет добился несомненных успехов, выросли сами художественные критерии оценки произведений, обогатилась идейно-философская концепция жизни и литературного героя. Особенностью современной белорусской прозы является то, что она стремится к художественному исследованию жизни в самых разнообразных связях, проявлениях, не избегая вопросов сложных, противоречивых.

Современная белорусская проза имеет в своих рядах многих признанных, известных всесоюзному читателю авторов, достигших высокого художественного мастерства. Ежегодно многие белорусские книги переводятся на русский язык, на языки народов СССР, некоторые из них выходят в иностранных переводах.

Современными мы называем не только те произведения, которые так или иначе касаются событий последних лет, но, самое главное, произведения, в которых наличествует современный взгляд на мир, современные идейно-эстетические и морально-нравственные оценки тех или иных жизненных явлений. В современной белорусской литературе как бы родилось законное стремление осмотреться, пройти по тем путям-дорогам, по которым прошел народ в своем историческом, революционном деянии. Но основное требование современности остается и в таких книгах: показать наиболее важные тенденции общественной жизни, дать почувствовать

читателю, как изменился за годы советской власти человек, что новое появилось в его психологии, отношении к жизни, в моральном облике.

Я считаю вполне оправданной тему докторской диссертации П. К. Дюбайло «Современный белорусский роман». За последнее время в белорусской литературе накопилось много фактов, явлений, которые ждут литературоведческого исследования, обобщения, известной научной оценки.

Писать о современности трудно. Это касается в той же мере критика, литературоведа, что и писателя, посвятившего свое творчество современной теме. Жизнь беспрерывно развивается, подлинный смысл того или иного общественного события, как и литературного явления, становится иногда понятным спустя многие годы. Тем не менее литературоведение не должно уходить только в историю литературы, уклоняясь от научного анализа современного литературного процесса. Достоинством П. К. Дюбайло как ученого-литературоведа является именно то, что он посвящает свои работы вопросам современного развития белорусской литературы. Из опубликованных работ автора о военном белорусском романе, написанных им глав в книге «Беларуская савецкая проза: Раман і аповесць» (Минск, 1971 г.), многочисленных статей в периодической печати выросла и настоящая диссертация. Главной задачей автора диссертации является идейно-эстетический анализ современного белорусского романа, исследование его способности отражать дух и требования нашего времени, воплощения литературным героем ведущих тенденций действительности, а также рассмотрение жанрово-стилевых форм, достижений и возможностей.

Белорусский роман в диссертации П. К. Дюбайло рассматривается в единстве с развитием многонационального советского романа. Типологические и другие сравнения позволяют автору лучше, глубже выявить наиболее плодотворные тенденции в развитии жанра романа, установить, как, обогащаясь достижениями других национальных литератур, все более идейно и художественно совершенствуется белорусский роман, становясь важным средством художественного познания жизни.

Диссертация «Современный белорусский роман» состоит из введения (стр. 1—21), четырех глав (или частей, как их называет автор), носящих названия:

1. Роман и время (стр. 22—119); 2. Проблема героя, характера (стр. 120—263); 3. Проблема стиля (264—418); 4. Обновление жанровой структуры (стр. 419—482); заключения (стр. 483—492) и библиографии, учитывающей 429 названий разного рода работ и статей, касающихся темы диссертации (стр. 493—519).

Подобное построение диссертации не вызывало бы возражений, если бы в ней была глава или хотя бы часть главы, посвященная исследованию традиций белорусской романистики. Такой раздел представляется необходимым в работе по той важной причине, что современный белорусский роман очень тесно спаян с лучшими произведениями предшествующих периодов в развитии белорусской литературы, особенно с творческим опытом Я. Коласа и К. Чорного. Известно, например, что ряд современных белорусских произведений о Великой Отечественной войне продолжают и развивают идеи, заложенные в неоконченных «военных» романах К. Чорного, активно, действенно влияет опыт Я. Коласа и К. Чорного на творчество почти всех видных современных белорусских прозаиков. Теории не бывает без истории. Диссертация П. К. Дюбайло, по моему мнению, выиграла бы, если бы <нрзб> были устойчивые, проверенные временем оценки, которые давались лучшим, ставшим хрестоматийными, произведениям белорусской литературы 20-х, 30-х и 40-х годов. Тем более что белорусский роман как жанр возник в советское время, а возмужание, заметный рост современного романа в значительной мере является не чем иным, как, если говорить образно, возвращением этого жанра на «круги своя», т. е. обращением к лучшему художественному опыту предшествующей литературы.

Постараюсь пояснить свою мысль.

Пафос первой главы диссертации «Роман и время», как в известной мере всей работы в целом, составляет мысль, что пятнадцать последних лет в развитии советской литературы — качественно новый этап. Мысль совершенно пра-

вильная, но нуждающаяся в некотором уточнении. Сам диссертант утверждает, что литература стала способной активно обновляться лишь потому, что она, во-первых, по-прежнему плодотворно наследовала то лучшее, что было в ней на предшествующих этапах развития, и, во-вторых, что смогла решительно порвать с тенденциями схематизма, иллюстративности, бесконфликтности (стр. 22).

Таким образом, в своем становлении современный белорусский роман, как вся проза в целом, стараясь приблизиться к правде жизни, давая «бой» теории бесконфликтности, отрицая произведения иллюстративные, схематические, с одной стороны, обращался к жизненному факту, явлению, выхваченному из жизни характеру, с другой — интенсивно обогащался опытом лучших произведений предшествующих периодов. Одним словом, глава о традициях белорусского романа (еще раз повторяю это замечание) была бы очень кстати в диссертации.

Первая глава «Роман и время» написана в виде пространного критического обзора произведений, появившихся в белорусской литературе за последние пятнадцать лет. Несмотря на некоторую разбросанность, бесплановость построения, «перечислительный принцип», однообразие и односторонность отдельных критических авторских оценок, глава в целом дает правильное представление о сдвигах в белорусской прозе, произошедших за последнее десятилетие. П. К. Дюбайло справедливо отмечает, что тенденции, которые характеризовали собой новый этап в развитии белорусской прозы, наиболее отчетливо проявились сначала в рассказе, что только в первой половине 60-х годов белорусский роман занял свое законное место, как бы возглавив остальные прозаические жанры.

Нельзя не согласиться с доказательной, обоснованной мыслью диссертанта, что во второй половине пятидесятых годов наиболее значительных успехов достигли писатели, обращавшиеся к жизненному материалу, связанному в той или иной мере с их духовным, жизненным опытом. В числе произведений, ставших заметными вехами в белорусской прозе 60-х годов, автор справедливо называет романы «Люди на болоте» И. Мележа, «Птицы и гнезда» Я. Брыля, «Сердце на

ладони» И. Шамякина, «На пороге будущности» М. Лобана, «Застенок Малиновка» А. Чернышевича, «Встречи на росстанях» А. Кулаковского и некоторые другие. Отличительной особенностью названных произведений, по мысли автора, является «включение» в духовный мир героев большого социального, морального, философского содержания эпохи, их сформировавшей.

П. К. Дюбайло широко, панорамно, можно даже сказать, чрезмерно подробно освещает поиски и свершения современной белорусской прозы, уделяя внимание даже произведениям второстепенным, не оставившим заметного следа в литературе. Рассмотрение ведется то по жанровым признакам, то в тематическом плане, и это, как уже отмечалось, создает впечатление известной «пестроты», фрагментарности, которыми отличается первая глава диссертации. Но в общем плане диссертации она нужна, эта глава. Пусть конспективно, отрывочно, но автор намечает в ней «силовые линии» более пристального теоретического осмысления наиболее заметных явлений современной белорусской прозы, и в первую очередь романа.

Вторая глава диссертации посвящена рассмотрению проблемы героя, характера в современном белорусском романе. Автор совершенно справедливо замечает, что герой, характер в романе — основной фокус идейно-художественного освоения действительности. Через судьбу героя, раскрывая разнообразные, многообразные связи личности с обществом, временем, историей, показывая взаимозависимость характера и обстоятельств, человека и среды, которая его окружает, писатели выявляют характерные черты действительности, социальное, политическое, нравственное «состояние мира».

Как и во введении, диссертант ведет здесь успешную полемику с представителями модернистских течений западной литературы, отрицающих связь человеческой личности с историей, прогресс в самой истории, пропагандирующих невозможность взаимопонимания и солидарности между людьми.

Не вызывает возражений теоретическая часть главы, где автор рассматривает диалектику индивидуального и общего в каждом типическом характере, проблему «укрупнения»

литературного образа, отличия в показе характера связей личности и общества в произведениях на историческую и современную тему и т. д.

В этой главе, к сожалению, тоже не всегда выдерживается строгий план, а примеры из белорусской литературы зачастую как бы только иллюстрируют пространные авторские рассуждения. Не всегда рассмотрение даже наиболее значительных произведений сцементировано ведущей авторской мыслью, мысль эта движется как-то прерывисто, скачкообразно, растекается по многим ответвлениям, теряя свою определенность. Думаю, что у П. К. Дюбайло это происходит от желания не отстать от моды, блеснуть эрудицией, показать знакомство с разнообразными литературоведческими и критическими работами, появившимися в самое последнее время. Все это хорошо, но было бы еще лучше, если бы мысль исследователя логически вытекала из конкретно анализируемого литературного материала, а не привносилась извне, как зачастую бывает. Скажем, в современном белорусском романе есть эпические, объемные человеческие характеры, поданные в движении, в становлении, в сложной, противоречивой диалектике, как, например, в романах И. Мележа «Люди на болоте» и «Дыхание грозы», есть менее объемные, схваченные в один какой-либо переломный момент, в критической ситуации, показанные в своей ведущей человеческой сущности в военных повестях В. Быкова, есть образы, созданные по законам лирической прозы, как у Я. Брыля, например.

Обо всем этом говорит П. К. Дюбайло, все это понимает, но пробиться к подобным истинам иногда можно лишь продираясь через множество разбросанных, отвлеченных, не вытекающих из конкретного анализа произведения (или хотя бы группы сходных, близких по теме, жанру, стилю произведений) рассуждений.

Диссертант стремится охватить как можно больше литературного материала, пропустить его через призму теоретического осмысления и в подобном стремлении «объять необъятное» теряет подчас главную нить своего исследования.

Там же, где исследователь стоит на твердой почве конкретного анализа, а, к счастью, такой анализ составляет большую

часть рассматриваемой главы, места для подобных упреков нет или почти нет. П. К. Дюбайло во второй главе работы в целом удалось показать своеобразие характеров, нарисованных современными белорусскими романистами, их связь с историей и современностью.

Наиболее значительной, как в смысле сделанных наблюдений, рекомендаций, обобщений, так и по сложности задач, стоящих перед исследователем, представляется третья глава диссертации «Проблемы стиля». Автор абсолютно прав, когда заявляет, что в самой богатой в стилевом отношении литературе очень важно исследовать и стиль творческих индивидуальностей, и общие стилевые тенденции, течения, направления, даже определенное стилевое единство всей национальной литературы.

П. К. Дюбайло удалось, пусть в общих чертах, показать богатство, стилевое разнообразие современной белорусской прозы. Наиболее широким, ярко выраженным, традиционно устойчивым автор справедливо видит реалистически-аналитическое направление, представленное такими именами, как И. Мележ, И. Шамякин, И. Лобан, А. Кулаковский, В. Быков, П. Пестрак, А. Карпюк, А. Осипенко, И. Пташников и др. Диссертант довольно убедительно раскрывает индивидуальный творческий облик каждого из названных писателей, показывает их место в общем стилевом «строе», эволюции стиля прозы в целом и отдельной, наиболее примечательной творческой личности.

С таким же знанием дела анализируются произведения писателей, творчество которых автор относит к лирическому или романтическому направлению в современной белорусской прозе (Я. Брыль, В. Короткевич и др.).

Интересна, содержательна четвертая глава диссертации «Обновление жанровой структуры», в значительной мере построенная на материале всесоюзной советской и зарубежной литературы. Нельзя не согласиться с утверждением автора, что жанровая форма современного романа, ее внутренняя структура становится все более динамической, подвижной, что на перекрещении поэтических противоположностей складывается наиболее «разомкнутая» жанровая форма, что совре-

менный роман «ломает» видовые и жанровые рамки, вбирает в себя разные стилевые направления и т. д. Представляется убедительной полемика автора с рядом литературоведов и критиков о так называемом «романе событий», его наблюдения над движением жанровой формы в романе-эпопее, прочно утвердившемся в современной белорусской прозе.

П. К. Дюбайло, проанализировав большой фактический материал, приходит к совершенно правильному выводу, что, наследуя в начале простейшие классические формы, белорусский роман не канонизировал их, он на своем пути был и остается в постоянном движении, поисках, обновлении жанровой формы, не теряя однако в своем развитии лучших традиций, связанных с народностью, партийностью, гуманизмом, которые живы, действенны в произведениях писателей разных поколений.

Автор диссертации привлек для анализа огромный литературный материал. Можно с уверенностью сказать, что он не обошел своим вниманием ни одно сколько-нибудь заметное произведение, которое появилось в белорусской прозе за последние пятнадцать лет. С такой же пристальной внимательностью следит автор за развитием критической и литературоведческой мысли в рамках указанного времени, учитывает критические оценки, иногда спорит и не соглашается с ними. Являясь исследованием в основе своей литературоведческим, диссертация П. К. Дюбайло не теряет, однако, своего злободневного, критического пафоса, она направлена против произведений схематических, иллюстративных, с облегченным решением сложных жизненных вопросов.

Названные мной выше недостатки и упущения работы во многом проистекают от огромности материала, который автор вовлек в орбиту своего исследования. Хотелось сказать обо всем, а возможности такой не было, поэтому поневоле в иных местах приходилось упрощать, говорить бегло, давать поверхностные оценки.

Диссертация имеет еще один, правда более частный недостаток. Автор, пожалуй, чрезмерно часто делает ссылки на признанные авторитеты, иногда подменяет конкретный анализ общими рассуждениями, идет не от частного к целому, а,

наоборот, иллюстрирует какой-то общий тезис конкретными примерами.

В целом диссертация П. К. Дюбайло «Современный белорусский роман» представляется исследованием серьезным, основательным, имеющим как теоретическое, так и практическое значение. Автор доказал свое умение ориентироваться в сложном многообразном потоке современной литературы, его глубокая литературоведческая подготовка не вызывает сомнения. Напечатанные работы и автореферат излагают основное содержание диссертации.

Считаю, что диссертация П. К. Дюбайло «Современный белорусский роман» удовлетворяет высоким требованиям, предъявляемым к работам, представленным на соискание ученой степени доктора филологических наук, а ее автор вполне достоин этой высокой ученой степени.

И. Я. Науменко, доктор филологических наук, профессор

Минск, 24 декабря 1971 г.

## ВОДЗЫЎ

### на дысертацыю Е. Л. Бондаравай «Проблемы белорусского киноискусства и печать», прадстаўленую на атрыманне вучонай ступені доктара філалагічных навук.

Е. Л. Бондарава вядома нашай грамадскасці даўно. З першых пасляваенных гадоў яе імя пачало мільгаць на старонках газет, часопісаў, падпісанае пад матэрыяламі, у якіх ішла гаворка аб тых ці іншых кінакарцінах, выпушчаных на экран. Я хачу аддаць належнае Е. Л. Бондаравай за гэтую яе сталую прывязанасць да праблем кінамастацтва, за, так сказаць, даўнюю любоў, тым больш што кінастудыя «Беларусьфільм» не вельмі часта радуе нас значнымі мастацкімі ўдачамі і дасягненнямі.

Кіно — мастацтва маладое, калі параўноўваць яго з жывапісам, тэатрам, музыкай, літаратурай, якія сягаюць сваім

паходжаннем у часы сівой старажытнасці. Аднак па сіле ўздзеяння на чалавека сучаснасці, на яго сэрца, розум, яно, як гаварыў У. І. Ленін, сапраўды важнейшае з усіх мастацтваў.

Бясспрэчна, што задачы дальнейшага развіцця савецкага кінамастацтва, павышэння яго ролі ў ідэалагічнай барацьбе, няўхільнае павышэнне ідэйнага і культурнага ўзроўню народных мас — усё гэта патрабуе тэарэтычнага асэнсавання працэсаў, якія адбываюцца ў нашым кінамастацтве, шырокага прафесіянальнага асвятлення праблем кінамастацтва ў друку. Адным словам, нашаму кіно не ў меншай меры, чым таленавітыя сцэнарысты, рэжысёры, акторы, патрэбны і свае тэарэтыкі, крытыкі, якія б сваім аўтарытэтным словам змагаліся супроць шэрасці, пасрэднасці, падтрымлівалі ўсё жывое, яркае, таленавітае.

У гэтай сувязі я зноў хачу сказаць, што больш аўтарытэтнага, дасведчанага крытыка, даследчыка беларускага кіно, чым Е. Л. Бондарава, я не ведаю. Ёсць іншыя таварышы, якія паспяхова і плённа працуюць у названай галіне, але і сярод іх, думаецца, Е. Л. Бондарава займае віднае, пачэснае месца, а па свайму, так сказаць, «вытворчаму» стажу, мабыць, пераўзыходзіць іх. Напісаўшы многія дзясяткі кінарэцэнзій, артыкулаў, на працягу многіх гадоў ставячы перад чытацкай грамадскасцю надзённыя, актуальныя пытанні развіцця кінамастацтва, яна натуральна, заканамерна перайшла да тэарэтычных прац, сведчаннем чаго з’яўляюцца манаграфіі «Очерк на экране» (у сааўтарстве з Л. Шылавай, Мінск, 1969, аб’ём 6,4 друк. арк.), «В кадре и за кадром» (Мінск, 1973, 11,5 др. арк.), праблемныя артыкулы ў літаратурна-мастацкіх часопісах, навуковых зборніках.

Наколькі мне вядома, і дысертацыя Е. Л. Бондаравай, якую мы цяпер абмяркоўваем, хутка ўбачыць свет як кніга, прынясе карысць, бо яна несумненна мае практычнае і тэарэтычнае значэнне.

Узнікае пытанне, ці правамерна Е. Л. Бондарава прэтэндуе на навуковую ступень доктара філалагічных навук? Тэорыя кіно — гэта ўсё-такі галіна мастацтвазнаўства, а ў нашым вучоным савеце сабраны спецыялісты па філалогіі, і вучоныя ступені яны прысуджаюць па філалагічных навуках.

Думаю, што мы можам разглядаць дысертацыю Е.Л. Бондаравай, бо ў ёй даследуюцца не толькі праблемы беларускага кінамастацтва 1968—1974 гг. (у пэўнай меры праблемы ўсёй гісторыі беларускага кінамастацтва), а і тое, як гэтыя праблемы адлюстроўваюцца ў друку, як абмяркоўваюцца шырокай грамадскасцю. А гэта ўжо прадмет журналістыкі, філалогіі, і наш савет мае права сказаць аб гэтым сваё аўтарытэтнае слова.

Мне хочацца назваць дысертацыю Е. Л. Бондаравай даследаваннем грунтоўным, глыбока прафесіянальным. У ёй чатыры раздзелы: «Новые горизонты киноискусства и кинокритики», «Осмысливать нравственный опыт поколений», «Диалектика современности и отображение ее на экране и в критике», «Кинокритика — действенность публицистики», уступ і заключэнне. У сваёй рабоце дысертантка ўводзіць нас у складаны свет кіно — і не толькі беларускага, а ў значнай меры і ўсесаюзнага — і праблемы, якія хвалююць яе, хвалююць і нас, бо гутарка зрэшты ідзе аб тым, як самыя даступныя з мастацтваў — кіно, тэлебачанне — адлюстроўваюць вопыт гісторыі і жывое дыханне сучаснасці, як дапамагаюць асэнсаваць поступ эпохі, раскрыць сутнасць спраў, імкненняў сучасніка, як узбагачаюць нас нраўсцвеннымі, духоўнымі каштоўнасцямі.

Уважліва, добразычліва, не ідучы ў той жа час ні на якія кампрамісы, аналізуе Е. Л. Бондарава ўсе больш-менш прыкметныя з’явы беларускага кіно, прыходзячы да зусім правільнай высновы, што галоўная тэма беларускага кінамастацтва — рэвалюцыйная і антыфашысцкая барацьба. У лентах летапісу народнага подзвігу, як дакументальнага, так і ігравога кіно, сцвярджае яна, праявіліся найбольш плённыя тэндэнцыі кінамастацтва рэспублікі, найвышэйшыя пункты яго ўзлёту. На прыкладах аналізу найбольш яркіх дакументальных і ігравых кінафільмаў аўтар паказвае і працэс станаўлення, узмужнення кінакрытыкі.

Правільна, на нашу думку, Е. Л. Бондарава разглядае поспехі беларускай кінапубліцыстыкі, прысвечанай народнаму подзвігу ў Айчынную вайну, бачачы заруку гэтых поспехаў у праўдзівым паказе чалавека, адлюстраванні яго ўнутраных духоўных рэзерваў, маральнай вышыні, якой ён дасягнуў, здзяйс-

няючы подзвіг. Дысертантка бачыць у кінадакументалістыцы, прысвечанай вайне, два жанравыя напрамкі: кінааповесць, дзе на першым плане яркая падзея, і нарыс, дзе ўвага стваральнікаў ленты засяроджана на вобразе галоўнага героя ці на кінапартрэце народных герояў.

Нельга не пагадзіцца і са шматлікімі надзвычай трапнымі заўвагамі, назіраннямі, вывадамі, якія робіць Е. Л. Бондарава, разглядаючы найбольш значныя дасягненні мастацкага беларускага кіналетапісу на героіка-патрыятычную тэму, аналізуючы і творы так званага сярэдняга ўзроўню ці проста мастацкі няўдалыя, бездапаможныя. Яна зусім правільна сцвярджае, напрыклад, што ў адным з лепшых пасляваенных кінафільмаў — у «Канстанціне Заслонаве», як і ў наступных — «Чырвонае лісце», «Міколка-паравоз», «Дзяўчынка шукае бацьку», «Гадзіннік спыніўся апоўначы» — праявіліся лепшыя традыцыі даваенных гісторыка-рэвалюцыйных фільмаў, а таксама такія плённыя тэндэнцыі, як яснасць аўтарскай пазіцыі ў ацэнцы гістарычных падзей, праўдзівасць у паказе часу, рэальных герояў.

З такой жа ўвагай да вытокаў поспеху і няўдач прааналізаваны кінафільмы «Праз могілкі», «Я родам з дзяцінства», «Вайна пад дахамі», «Сыны ідуць у бой», «Альпійская балада», «Я, Францыск Скарына», «Рудобельская рэспубліка», «Крушэнне імперыі», «Зімародак», «Бацька», «Заўтра будзе позна», «Полымя», «Руіны страляюць ва ўпор» і інш. У драматургіі,— робіць вывад дысертантка,— пачатак усіх поспехаў і недахопаў сучаснага беларускага кіно, як і кіно папярэдняга часу. Е. Л. Бондарава на вялікім фактычным матэрыяле паказвае, што мастацкі слабыя, недасканалыя сцэнарыі прыводзяць да нежыццёвасці сітуацый, схематычнасці, бледнасці герояў у цэлым шэрагу кінафільмаў, бо ў іх знікае першаадкрыццё героя, якое складае сутнасць мастацкай творчасці.

Такім чынам, праблемай нумар адзін для беларускага і ў пэўнай меры для ўсесаюзнага кіно Е. Л. Бондарава лічыць мастацкую якасць сцэнарыя, гэта значыць літаратурнай асновы. Вывад дысертанткі мы лічым зусім правільным. Тым больш што яна заяўляе аб гэтым неаднаразова. Але мне здаецца, Е. Л. Бондарава — і гэта больш важна не для дысертацыі, якую

яна тут абараняе, а для кнігі, якая ў хуткім часе выйдзе,— недастаткова завастрыла пытанне, чаму кінастудыя «Беларусьфільм» выпускае так многа «сярэдніх» і няўдалых фільмаў і так мала такіх, якія без нацяжкі можна назваць добрымі і выдатнымі. Адказ вядомы: слабыя сцэнарыі. Але чаму яны слабыя, калі сённяшняя беларуская літаратура з'яўляецца адным з лепшых, перадавых атрадаў літаратуры ўсесаюзнай? У дысертацыі неаднаразова падкрэсліваецца, што творчыя кінаарганізацыі слаба звязаны з пісьменнікамі, мала звяртаюць увагі на выдатныя дасягненні літаратуры. Але, думаецца, пытанне можна было паставіць шырэй: аб сувязі стваральнікаў кіно з жыццём, веданні гэтага жыцця, яго ідэалаў, запатрабаванняў.

На стар. 383-384 сама Е. Л. Бондарава пра гэта нарэшце гаворыць: «Каждая национальная кинематография различима на общем фоне многоликого советского экрана и обогащает общую советскую социалистическую культуру выпуском произведений с подлинно народными характерами. Через них открывается душа народная, произошедшие в республике социальные перемены. Искусство всегда сильно неразрывной связью с коренными интересами народа. Лучшие фильмы различных киностудий нашей страны завоевывают всенародную популярность в силу того, что, будучи национальными по жизненному материалу, характерам героев, творческой манере художников, они социалистические, интернациональные по своему идейному пафосу. В таких произведениях обычно раскрыты сами истоки характеров — условия их формирования, закалки, проявления».

Маючы пэўныя ўдачы ў паказе героікі народа ў Айчынную вайну, беларускае кіно не можа пахваліцца асаблівымі дасягненнямі ў адлюстраванні нашай мірнай стваральнай явы. Беларусь стала высокаіндустрыяльнай рэспублікай, карэнным чынам змянілася жыццё вёскі, адбыліся значныя перамены ў сацыяльным, духоўным клімаце грамадства, аднак у кіно, за выключэннем некалькіх удалых дакументальных лент і значна меншай колькасці лент мастацкіх, якія зрэшты нельга назваць поўнымі мастацкімі ўдачамі, мы гэтага не бачым. Вось тут бы і паставіць ва ўсёй яго глыбіні і вастрыні пытанне: чаму адстае ў гэтай вялікай справе самае мабільнае, даступ-

нае з мастацтваў, дзе прычыны, вытокі такога зацяжнога крызісу? Паўтараем, праблема гэтая пастаўлена, вырашаецца ў дысертацыі, але, як нам здаецца, без дастаткова глыбокай канцэнтрацыі ўвагі даследчыка на ўсіх яе аспектах.

Е. Л. Бондарава паказвае глыбокае веданне спецыфікі сучаснага кіно, і аб чым бы ні ішла гутарка ў рабоце: ці то аб кінапубліцыстыцы, ці аб асаблівасцях фільма для дзяцей, экранізацыі шырока вядомых мастацкіх твораў, своеасаблівасцях фільмаў для тэлебачання, гістарычнай тэме ў кіно — усюды выказвае трапныя, спелыя, можна сказаць, вынашаныя думкі і назіранні, робіць правільныя вывады.

Разгляд поспехаў і няўдач беларускага кіно вядзецца на шырокім фоне глыбока прафесіянальнай размовы аб дасягненнях, пошуках усесаюзнага кінамастацтва, у цесным кантэксце, сувязі з тымі працэсамі, якія наогул ідуць у кіно.

Глыбокі аналіз поспехаў і няўдач беларускага кінамастацтва падмацоўваецца такой жа сур'ёзнай, кваліфікаванай размовай аб тым, як ацэньвае прадукцыю кінематаграфістаў грамадскасць рэспублікі ў рэцэнзіях, водгуках, дыскусіях, што з'яўляюцца ў друку. Гэта другая важная задача, пастаўленая даследчыцай у рабоце, і трэба сказаць, што яна з ёй справілася. І правільныя вывады зрабіла. Няхай сабе не заўсёды была прафесіянальнай размова аб тых ці іншых з'явах кіно на старонках газет, часопісаў, не ўлічвалася ўся спецыфіка экрана, але мастацкая вартасць фільмаў гледачамі і кінакрытыкай была ацэнена правільна. Шырокага гледача, які суадносіць убачанае на экране з тым, што сам ведае пра жыццё, што закладзена ў яго жыццёвым, мастацкім вопыце, увясці ў зман нельга, да якіх бы чыста кінематаграфічных прыёмаў ні прыбягалі стваральнікі мастацкіх палотнаў. Мае рацыю даследчыца і тады, калі гаворыць, што грамадскасць станоўча ўплывае на дзейнасць майстроў кіно. Так ці іначай, але беларускі кінематограф развіваецца, удасканальваецца, яго найбольш прыкметныя, яркія майстры — рэжысёры, кінааператары — у сваёй дзейнасці ідуць па ўзыходзячай лініі.

Працэс станаўлення беларускай кінакрытыкі — падчас складаны, супярэчлівы — даследчыцай прасочан гэтак жа

грунтоўна, кваліфікавана, як і сам працэс пошукаў, здзяйсненняў, пралікаў і няўдач, які ідзе ў кінамастацтве.

Апрача недахопаў работы, пра якія я ўжо гаварыў, можна сказаць яшчэ пра адзін, што адносіцца да ліку найбольш прыкметных. На маю думку, удачы ці няўдачы сцэнарыстаў, рэжысёраў можна было найбольш рэльефна паказаць, скрупулёзна, шырока і аб'ёмна прааналізаваўшы адзін-два найбольш тыповыя ўдалыя і няўдалыя фільмы. Дысертантка ж стараецца ахапіць сваёй увагай амаль усё, што створана беларускімі кінамайстрамі, і ад гэтага ў шэрагу мясцін работы нараджаецца скорагаворка, агляднасць.

Ёсць у дысертацыі недакладнасці, апіскі, хоць, трэба сказаць, даволі рэдкія. На стар. 75 сцвярджаецца, напрыклад, што творы Я. Коласа «Суд у лесе» і «Адплата» — п'есы, хоць гэта, як усім вядома, паэмы. На 92 стар. знаходзім выраз «портреты о героях» — так гаварыць, здаецца, нельга. Фільм «Парашуты на дрэвах», пра які гаворыцца на 153 стар., на экран, здаецца, не выйшаў. Чамусьці адсутнічае на многіх старонках дысертацыі, напісанай на рускай мове, цвёрды знак, і ад гэтага аж няёмка робіцца, ловіш сябе на адчуванні, што ты, відаць, адстаў ад правіл правапісання. Ёсць апіскі, сінтаксічныя, граматычныя памылкі, стылёвыя недакладнасці на стар. 149, 208, 209, 223, 300, 317, 366.

У цэлым работа напісана граматна, вопытным, сталым пяром, прызвычаеным да даследчыцкай работы, і сказанае вышэй з'яўляецца прыватным момантам.

Лічу, што дысертацыя Е. Л. Бондаравай «Проблемы белорусского киноискусства и печать» з'яўляецца сур'ёзным тэарэтычным даследаваннем, якое разам з іншымі работамі аўтара глыбока і ўсебакова асэнсоўвае шляхі развіцця беларускага кінамастацтва і станаўлення кінакрытыкі. Е. Л. Бондарава безумоўна заслугоўвае прысуджэння ёй навуковай ступені доктара філалагічных навук.

Аўтарэферат і навуковыя працы Е. Л. Бондаравай поўнасцю раскрываюць змест дысертацыі.

14.XI.75 г. І. Я. Навуменка, доктар філалагічных навук,
прафесар, чл.<ен>-кар.<эспандэнт> АН БССР

# [ДЫСЕРТАЦЫЯ АНТАНІНЫ АЛЕГАЎНЫ ШАЛЕМАВАЙ…]

Дысертацыя Антаніны Алегаўны Шалемавай «Станаўленне класічных асноў беларускай паэзіі» напісана на цікавую і маладаследаваную тэму. Сапраўды, чым і як вытлумачыць фенамен беларускай літаратуры, у прыватнасці, паэзіі, якая, з'яўляючыся ў XIX стагоддзі жанрава, стылёва, тэматычна абмежаванай, з яўнымі родавымі прыкметамі літаратуры «областнической», у XX стагоддзі, і асабліва ў савецкі час становіцца раптам паэзіяй яркай, багатай і разнастыльнай, у многіх адносінах бліскуча развітай, з глыбокім філасофскім зместам і артыстычна апрацаванымі формамі.

Даследчыкі рускай літаратуры, вядомыя вучоныя-літаратуразнаўцы І. І. Замоцін, Я. І. Барычэўскі, А. М. Вазнясенскі, М. М. Піятуховіч, якія прыехалі на пастаянную працу ў Беларусь на пачатку 20-х гадоў і фактычна закладалі падмурак беларускай літаратуразнаўчай навукі, першыя ўказалі на арганічную блізкасць лепшых узораў беларускага мастацкага слова да шэдэўраў рускай класічнай літаратуры XIX стагоддзя. Яны пачалі актыўна і мэтаімкненна вывучаць гісторыю, традыцыі, фальклор і літаратуру беларускага народа, прыйшоўшы да вываду, што народ беларускі мае багатую духоўную культуру, літаратуру, што ён не толькі браў у другіх, а і сам выпраменьваў святло духоўнасці, узбагачаючы скарбніцу агульначалавечай культуры і літаратуры.

Акадэмік І. І. Замоцін, вядомы сваімі працамі па гісторыі рускага рамантызму, актыўна вывучаў творчасць Янкі Купалы, Якуба Коласа і першы заўважыў трывалыя творчыя ніці, якія яднаюць іх паэзію з бессмяротнай пушкінскай паэзіяй. Так здарылася, што працы І. І. Замоціна, Я. І. Барычэўскага і другіх даследчыкаў беларускай літаратуры, якія падыходзілі да яе ўзброеныя выдатным веданнем літаратуры рускай, па шэрагу прычын былі забыты, выкраслены з навуковага ўжытку і фактычна не ўлічваліся новымі пакаленнямі літаратуразнаўцаў, да якіх належыць таксама аўтар названай дысертацыі А. А. Шалемава.

Вядома, у працах І. І. Замоціна, Я. І. Барычэўскага, А. М. Вазнясенскага шмат такога, што не вытрымала праверку часам,— сацыялагічнага спрашчэння, напрыклад,— але ёсць там і выдатныя думкі, назіранні. Да якіх мы прыходзім наноў цяпер, праз пяцьдзясят гадоў пасля таго, як гэтыя думкі былі выказаны.

Але, зрэшты, добра, што прыходзім. Было б, вядома, лепей, каб А. А. Шалемава пачала свой разгляд тыпалагічнай блізкасці пушкінскай паэзіі з лепшымі творамі Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, не абмінуўшы прац, скажам, Замоціна ці Барычэўскага. Але не будзем залішне дакараць даследчыцу — не адна яна так робіць. Усім нам варта прыкласці намаганні, каб аднавіць традыцыю, уважліва вывучыць і ўзважыць усё непераходзячае і каштоўнае, што ёсць у галіне вывучэння беларуска-рускага мастацкага яднання.

Зместам дысертацыі А. А. Шалемавай з'яўляецца даследаванне ўплыву Пушкіна на выпрацоўку, як сказана ў назве работы, «класічных асноў беларускай паэзіі». Пад класічнымі асновамі аўтар работы разумее асэнсаванне беларускай літаратурай ідэйна-мастацкіх традыцый пушкінскай спадчыны, якая з'яўляецца мастацкай вяршыняй рускай класічнай літаратуры XIX стагоддзя.

Даследчыца справядліва сцвярджае, што беларуская літаратура XIX стагоддзя, хоць у межах часу і стаяла бліжэй да пушкінскай спадчыны, не магла, аднак, плённа ўзаемадзейнічаць з ёй з прычыны сваёй тэматычнай абмежаванасці, вузкасці творчых гарызонтаў. Пушкін, па сцвярджэнні дысертанткі, пачынае даваць святло беларускай паэзіі толькі тады, калі сама беларуская паэзія ў асобе выдатных сваіх прадстаўнікоў Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча знайшла сілы і была здольна дацягнуцца да ўзораў гэтай найвыдатнейшай паэзіі.

У дысертацыі шляхам тыпалагічнага параўнання твораў Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча з шэрагам пушкінскіх твораў прасочваецца, як пад уздзеяннем генія рускай літаратуры ўсталёўвалася ў беларускай паэзіі народнасць, гармонія формы і зместу, мастацкае майстэрства пра-

статы і дакладнасці, уменне ўвасобіць у слове нацыянальны характар свайго народа.

Гэткім жа шляхам параўноўваюцца рамантычныя паэмы Пушкіна і Янкі Купалы, прасочваюцца ідэйна-мастацкія паралелі паміж «Яўгеніем Анегіным» Пушкіна і «Новай зямлёй» Якуба Коласа, паміж некаторымі творамі А. С. Пушкіна і Максіма Багдановіча.

Не заўсёды, праўда, гэтыя паралелі з'яўляюцца сапраўды тыпалагічнымі, навукова абгрунтаванымі. У шэрагу выпадкаў дысертантка проста адшуквае моманты тэматычнай, сэнсавай блізкасці ў творах Пушкіна і беларускіх паэтаў, г. зн. такіх паралеляў, якія ляжаць на паверхні і відаць няўзброеным вокам.

Нацяжкамі, напрыклад, здаецца параўнанне пушкінскай «Деревни» з купалаўскімі і коласаўскімі вершамі, прысвечанымі занядбалай беларускай вёсцы, або тэмы «поэт и толпа» ў Пушкіна і Янкі Купалы.

Іншы раз параўнанні А. А. Шалемавай, як нам уяўляецца, пазбаўлены гістарычнага грунту, не ўлічваюць перамен, якія адбыліся за пэўны гістарычны час у грамадскай свядомасці. Так, стаўленне літаратуры да фальклору было розным у часы Пушкіна і Янкі Купалы. Таму наўрад ці варта было ставіць у адзін рад паэму Пушкіна «Руслан і Людміла» і паэму Купалы «Курган», тым больш што купалаўская паэма не з'яўляецца творам фальклорнага рамантызму, яе паэтыка — іншай прыроды.

Увогуле, станаўленне класічных асноў рускай і беларускай літаратуры адбывалася ў розных гістарычных умовах і гэты фактар варта было даследчыцы ўлічваць глыбей і паўней.

Нягледзячы на адметнасць гістарычных шляхоў развіцця, у беларускім народзе ніколі не згасала ўсведамленне роднасці, блізкасці з вялікім усходнім братам. У гэтым найпершая прычына таго, што літаратура беларусаў, праходзячы ў XIX і асабліва ў XX стагоддзі этапы паскоранага развіцця, нязменна звярталася да рускай класічнай літаратуры і да яе вяршыні — паэзіі Пушкіна. У гэтым сэнсе, як мне здаецца, дысертантка добра выканала пастаўленую перад сабой задачу. Яна

даволі пераканаўча даказала, што ў імкненні да мастацкай дасканаласці Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч пастаянна звярталіся да Пушкіна, кожны па-свойму вучыліся ў геніяльнага рускага паэта. Вучыліся не толькі майстэрству ўвасобіць у мастацкім слове багацце, разнастайнасць жыцця, а і аптымістычнаму погляду на навакольны свет, разуменню яго зладжанасці, гарманічнасці, што асабліва характэрна для Якуба Коласа і Максіма Багдановіча.

А. А. Шалемава добра ведае рускую літаратуру. Варта ўсялякай пахвалы яе тэарэтычная падрыхтоўка, якая, відаць, вынікае з працы дысертанткі ў якасці выкладчыка на філалагічным факультэце БДУ імя У. І. Леніна. Ва ўсякім выпадку А. А. Шалемава напісала грунтоўную працу, у якой здолела даказаць, што многія якасці беларускай літаратуры, такія, як народнасць погляду на навакольны свет, увага да простага чалавека, які станавіўся героем мастацкіх твораў, да паўсядзённага жыцця, усталёўваліся ў мастацкім слове Купалы, Коласа, Багдановіча ў многіх адносінах дзякуючы жыватворнаму ўздзеянню паэзіі Пушкіна, Кальцова, Нікіціна, Някрасава.

Работа А. А. Шалемавай пакуль адна з нямногіх спроб тыпалагічнага параўнання дзвюх блізкіх, роднасных літаратур, і спроба, як бачым, досыць удалая.

Лічу, што А. А. Шалемава ўпаўне заслугоўвае прысуджэння ёй навуковай ступені кандыдата філалагічных навук.

Рэферат А. А. Шалемавай адлюстроўвае асноўныя палажэнні дысертацыі.

Стылёвыя недакладнасці, пагрэшнасці адзначаны на палях дысертацыі.

І. Я. Навуменка, доктар філалагічных навук, прафесар

19.VI.81 г.

# ВОДЗЫЎ

## на доктарскую дысертацыю Т. І. Шамякінай «Беларуская класічная літаратурная традыцыя і міфалогія»

Той, хто чытае часопіс «Роднае слова» (да 90-х гадоў мінулага стагоддзя называўся «Бел.<аруская> л<ітарату>ра і мова ў школе»), даўно заўважыў артыкулы Таццяны Іванаўны Шамякінай, прысвечаныя розным аспектам культуры народаў і міфалогіі. Акрамя многалікіх артыкулаў, у якіх вытлумачваецца прырода розных міфаў, ёсць некалькі падручнікаў і вучэбна-метадычных дапаможнікаў для школ, гімназій, ВНУ пра суадносіны літаратуры і міфа. Ужо адно гэтае робіць Т. І. Шамякіну бадай што адзіным аўтарам, а значыць, і аўтарытэтам у разуменні прыроды, спецыфікі міфа, яго сувязі з літаратурай і мовай.

Надрукован, паўторым, яшчэ шэраг работ гэтага аўтара, у якіх прасочваецца развіццё старажытных культур розных народаў (Месапатаміі, Старажытнай Індыі, Кітая і г. д.). Усё гэта сведчыць пра глыбокі інтарэс, эрудыцыю Т. І. Шамякінай да пытанняў вытокаў мыслення, у тым ліку і мастацкага (так званых архетыпаў), іншых пытанняў і паняццяў, што датычаць свядомасці і падсвядомасці чалавека.

Мушу заўважыць, што рэальныя тэарэтычныя наработкі Т. І. Шамякінай значна шырэй матэрыялу, які прадстаўлен у дысертацыі на атрыманне вучонай ступені доктара філалагічных навук і называецца «Беларуская класічная літаратурная традыцыя і міфалогія». Нават за тыя работы, якія папярэднічалі дысертацыі, мы б мелі поўнае марaльнае права прысудзіць аўтару высокую вучоную ступень, якой яна дамагаецца ў прадстаўленай дысертацыі.

Яшчэ хочацца сказаць пра агромністае кола літаратуры, якая распрацавана дысертанткай і пэўным чынам ілюструе, падмацоўвае яе палажэнні і думкі. У спісе работ (з іх бяруцца цытаты) названа 382. Праўда, 62 работы з гэтай колькасці належаць самой дысертантцы. Такім чынам, з думкамі другіх аўтараў яна сутыкаецца ў 320 работах. Гэта нікольк не азначае, што дысертацыя Т. І. Шамякінай эклектычная. Не,

яна цалкам самастойная, нават у некаторых вывадах залішне смелая. Але так ці іначай варта было ўзгадніць свае назіранні з думкамі шматлікіх аўтараў, якія пісалі пра міф. Магчыма, дысертантка прыцягнула залішне вялікае кола аўтараў: хацела ахапіць літаральна ўсё, звязанае з міфам. На мой погляд, можна было так і не высільвацца. Мы б зразумелі яе і без гэтай усёабдымнасці.

Даследчыца зусім справядліва ўсведамляе, што нацыянальныя вытокі, у тым ліку вытокі літаратуры, іх даследаванне немагчыма без глыбокага вывучэння «нацыянальнай міфалогіі і агульначалавечых архетыпаў, увасобленых у шэдэўрах літаратуры…»

Апрача таго ў сучаснай гуманітарнай навуцы вырасла неабходнасць дасканалага вызначэння традыцыі як назапашвання культурнай памяці. Літаратуразнаўчая навука мае патрэбу і ў больш глыбокім, грунтоўным вывучэнні міфапаэтыкі.

Даследчыца заяўляе: «Навізна працы заключана і ў самой яе структуры. Шэраг пытанняў, узнятых у дысертацыі, у той ці іншай ступені закраналіся рознымі аўтарамі, але менавіта ў такой пастаноўцы, а галоўнае, у такой звязцы праблема міфа і класічнай традыцыі ніколі нікім у беларускай навуцы не ставілася, хоць на самай справе менавіта структура (характар сувязі) вызначае глыбінны сэнс закладзенай у ёй інфармацыі і адпаведным чынам дыктуе выкарыстанне таго ці іншага метаду» (с. 11).

Т. І. Шамякіна часта ўжывае тэрмін «мозг». Гэта не філалагічная традыцыя. Нам дастаткова паняцця «свядомасць». Няхай мозгам займаюцца фізіёлагі. Можа, па той прычыне, што дысертантка стараецца ўсё ахапіць, на ўсё даць адказы, работа яе ў некаторай ступені перанасычана матэрыялам, адказамі на пытанні, якія не з'яўляюцца галоўнымі і ўзнікаюць па ходу даследавання. А міф — гэта ж не толькі метафізіка, ідэя, а таксама і пачуццёвая карціна. Міф выклікае розныя эмоцыі.

Каб не склалася ўражанне, што дысертацыя Т. І. Шамякінай дактрынёрскі засушаная, цалкам перанасычана духам метафізікі, мушу адразу сказаць, што аснова яе глыбока філасофская, што ў гэтай жанчыны мужчынскі розум, пры-

кладна такі, як ва ўсіх яе апанентаў, да якіх яна часта звяртаецца і сярод якіх няма ніводнай жанчыны.

Яшчэ адна заўвага. Відаць, не трэба нам, філолагам, займацца ДНК, адбіраць хлеб у фізікаў, хімікаў ці каго там яшчэ. Таму, скажам, наступны пасаж у дысертацыі Т. І. Шамякінай з'яўляецца нацяжкай. Прывяду гэтае месца цалкам. «Любы аб'ект на зямлі з'яўляецца жывой галаграфічнай мадэллю Сусвету. Ён звязаны з космасам і іншымі аб'ектамі пры дапамозе рэзанансных узаемадзеянняў. Працэсы ва ўсім свеце ўплываюць рэзанансна на працэсы ўнутры арганізма, і, наадварот, кожны зямны аб'ект уплывае на светабудову».

У рабоце — галоўным чынам з пазіцый швейцарскага вучонага Юнга — даследуецца свядомасць і падсвядомасць чалавека. Мова — канчатковы вынік працэсаў, якія адбываюцца ў свядомасці і падсвядомасці.

Услед за буйнейшымі вучонымі XIX і XX стагоддзяў Т. І. Шамякіна лічыць, што зусім правамерна: зараджэнне мовы ішло ў непарыўным адзінстве з міфамі.

Нельга не згадзіцца і з наступным сцверджаннем дысертанткі: успрыманне прыроды як жывой істоты, здольнай адчуваць і думаць. Дарэчы, на глебе гэтага народнага антрапамарфізму пабудавана філасофская канцэпцыя паэмы Якуба Коласа «Сымон-музыка».

Народная антрапалогія і міфалогія трактуе такія паняцці, як круг, кола, як сімвал усяго Сусвету.

Варта прызнаць малапаспяховымі і нядоказнымі філалагічныя практыкаванні дысертанткі на стар. 61—62 адносна гнязда слоў, звязаных з дрэвам. Гэта ўсё лёгкадумна і ляжыць на паверхні. Так, аўтар дысертацыі лічыць, што слова «вецер» мае сувязь са словам «ветка». Але ж трэба ўлічваць усю індаеўрапейскую традыцыю. Па-нямецку вецер «Wind». Гэтак жа па-англійску, па-французску — «Vert». Ніякай сувязі з веткамі ў адпаведных мовах няма.

Тое самае датычыць астатніх прыведзеных слоў.

Таксама лёгкаважна, без уліку гістарычна-геаграфічных умоў дысертантка пераносіць назву егіпецкага бога сонца Ра ў беларускія словы.

Дысертацыя насычана роздумам яе аўтара, яна не паўтарае вычытанае ў другіх аўтараў, няхай славутых, сусветна вядомых, а прыўносіць штосьці сваё, глыбока абдуманае і зрэшты пераканаўчае.

Дысертантка сцвярджае: «Міфалогія ўзнікае на аснове калектыўнага несвядомага. К. Юнг убачыў агульныя рысы ў розных відах чалавечай фантазіі: міфах, паэзіі, снах. Гэта і ёсць пласт калектыўнага несвядомага, які ідэнтычны ва ўсіх людзей і таму ўтварае ўсеагульную аснову душэўнага жыцця кожнага чалавека, знаходзячы праяўленні праз псіхічныя першавобразы або «архетыпы».

Сёння гэтае схіленне перад Юнгам стала бадай што ўсеагульным, і мы не замахваемся на тое, каб знайсці ў тэорыі «архетыпаў» якія-небудзь хібы. Вядома, напрыклад, што амерыканская літаратура яшчэ і сёння знаходзіцца пад моцным уплывам Фрэйда, настаўніка Юнга, і працягвае нараджаць высокамастацкія творы.

Справа ў другім. У вытлумачэнні свету філасофія (раней бы мы сказалі «буржуазная філасофія») знаходзіцца ў крызісе. Пачаўся гэты крызіс даўно, яшчэ ў часы Канта. Імануіл Кант прызнаваў матэрыю, але меў сумненне наконт таго, ці адлюстроўваюць нашы органы пачуццяў сапраўдны яе стан. Прастору і час ён аб’яўляў апрыёрнымі, г. зн. давопытнымі пачуццямі, уласцівымі ўсім людзям.

Нітачка нявер’я пацягнулася далей. Такія суб’ектыўныя ідэалісты, як Юм і Фіхтэ, лічылі навакольны свет толькі комплексам сваіх адчуванняў. А бліжэйшы да нашага часу філосаф Шапенгаўэр лічыў навакольнае жыццё «калектыўным сном».

Я далёкі ад думкі аб’ядноўваць «калектыўны сон» з «калектыўным несвядомым». Толькі трэба мець на ўвазе, што даследаванне міфа, «архетыпаў» будзе працягвацца і пасля Юнга, і, відаць, апошняе слова яшчэ не сказана, дый ці будзе сказана.

Глыбокім, грунтоўным па асноўнай думцы з’яўляецца другі раздзел дысертацыі «Гісторыя беларускай літаратуры ў аспекце міфапаэтыкі». Т. І. Шамякіна выказвае ў гэтым раздзеле многа нетрывіяльных наватарскіх думак, заяўляючы

сябе глыбокім літаратуразнаўцам, і, калі хочаце, філосафам, здольным да значных абагульненняў.

Вось, напрыклад, наступнае сцверджанне: «Жывучы ў свеце сімвалаў, кожны з класікаў асэнсоўвае ўласную місію ў жыцці і літаратуры. Купала як пясняр Адраджэння, Колас як найглыбейшы філосаф, Гарэцкі як шукальнік сувязі паміж продкамі і нашчадкамі і Багдановіч як акумулятар агульначалавечай сімволікі, шукальнік яе дзеяння на нацыянальнай глебе».

Дысертацыя Т. І. Шамякінай — унікальная з’ява ў літаратуразнаўчай даследчыцкай думцы апошніх гадоў. Па глыбіні пранікнення ў навуковыя дыскурсы, якія датычаць міфалогіі, роднаснасці міфалагічнага і мастацкага мыслення, вывучэнні філасофскага стрыжня народных вераванняў яна на сённяшні дзень не мае сабе роўных.

І ўвогуле Таццяна Іванаўна Шамякіна адкрыла і паспяхова распрацоўвае цэлы пласт, разрэз невядомага або малавядомага ў нашым літаратуразнаўстве, што яна з улікам прадстаўленай бліскучай дысертацыі, якая падводзіць пэўныя вынікі яе шматгадовай даследчай работы, безумоўна заслугоўвае прысуджэння ёй высокай навуковай ступені доктара філалагічных навук.

10.11.2001 І. Я. Навуменка, д.<октар> ф.<ілалагічных> н.<авук>, акадэмік

# НЕКРАЛОГІ

## БЫВАЙ, НАШ ТАВАРЫШ…

Памёр Яўгеній Сямёнавіч Мазалькоў, відны савецкі літаратар, перакладчык і крытык, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі, заслужаны дзеяч культуры БССР. Перастала біцца сэрца даўняга і вернага друга беларускай літаратуры, аднаго з самых нястомных яе паўпрэдаў у Маскве, перад шматмільённым рускім чытачом. Памёр шчыры, добры, вельмі абаяльны чалавек.

Толькі тры месяцы назад, у верасні мы адсвяткавалі яго шасцідзесяцігадовы юбілей.

Да многіх дзясяткаў беларускіх кніг, выдадзеных на рускай мове, Яўгеній Сямёнавіч абавязкова меў тое ці іншае дачыненне. Ён памагаў рускаму чытачу шырэй і глыбей зразумець неўміручае слова Купалы і Коласа, перакладаў і прапагандаваў творы Кузьмы Чорнага, Змітрака Бядулі, Максіма Багдановіча, Петруся Броўкі, Аркадзя Куляшова, Максіма Танка, Міхася Лынькова, Івана Шамякіна, Івана Мележа, Пімена Панчанкі, Паўла Кавалёва і многіх іншых беларускіх пісьменнікаў.

Ён рана зразумеў свой вялікі абавязак перад родным народам. Юнак з Крычаўшчыны прыязджае ў Маскву дваццатых гадоў, настойліва вучыцца, з галавой уваходзіць у вір літаратурнага жыцця, і ў хуткім часе становіцца на дарогу, па якой ідзе ўсё жыццё — пашырае абсягі дзейнасці беларускай кнігі. Ён горача любіў і глыбока ведаў беларускае мастацкае слова і хацеў, каб яго гэтак жа любілі і ведалі ва ўсёй неабсяжнай савецкай краіне. Ён многае здолеў і зрабіў, фактычна ўзначаліўшы, калі можна сказаць так, школу мастацкага перакладу з беларускай мовы на рускую. Гэтай пачэснай рабоце ён прысвяціў усё жыццё.

Яўгеній Сямёнавіч сябраваў з Купалам і Коласам, быў адным з першых літаратуразнаўцаў, хто напісаў кнігі пра іх, нашых класікаў. Лёс кнігі пра Янку Купалу быў асабліва шчаслівы. Яна вытрымала шмат выданняў, перакладзена на некалькі моў — саюзных і зарубежных.

Мне давялося сустрэцца з Яўгеніям Сямёнавічам у той час, калі ён ужо меў шырокую вядомасць, калі да яго слова ўважліва прыслухоўваліся ў рэдакцыях і выдавецтвах. Я спадзяваўся ўбачыць строгага мэтра, а сустрэў вельмі мяккага, сардэчнага, добразычлівага чалавека. Жыў Яўгеній Сямёнавіч тады ў невялікай кватэры драўлянага катэджыка па Харошаўскай шашы. Яго стол быў завалены рукапісамі, гранкамі, карэктурамі. Гэта ўсё былі пераклады з беларускай мовы, артыкулы, даведкі, рэцэнзіі, прысвечаныя беларускім кнігам і аўтарам. Як даўно знаёмаму, роднаму, Яўгеній Сямёнавіч пачаў расказваць пра свае клопаты і згрызоты, распытаў пра літаратараў, значна за мяне маладзейшых. Распытаў зацікаўлена: як жывуць, пра што пішуць ці думаюць пісаць?.. Сярэдніх па ўзросце, а таксама маладзейшых і самых маладых ён перакладаў гэтак жа ахвотна, як некалі Купалу і Коласа.

Ён сеяў добрае, прыгожае, і яго ніва дала буйны плён. Памяць аб ім, руплівым сейбіце, не згасне. Бывай, наш таварыш…

*1969*

## [ДАРАГІЯ ТАВАРЫШЫ І СЯБРЫ!..]

Дарагія таварышы і сябры!

Перастала біцца сэрца выдатнага пісьменніка, вядомага вучонага, грамадскага дзеяча, нашага дарагога, незабыўнага Міхася Ціханавіча Лынькова. З імем Міхася Лынькова звязаны вызначальны этап у развіцці беларускай літаратуры, калі яна, акрыленая ідэаламі Кастрычніка, савецкага жыцця, стала паказваць новага чалавека, народжанага ў гарніле

рэвалюцыйнага змагання і стварэння новай сацыялістычнай явы. Апавяданні «Над Бугам», «Андрэй Лятун», «Баян» і многія іншыя сёння можна назваць не толькі класічнымі, а і бессмяротнымі, бо ў іх вытокі таго духу, пафасу, таго непаддзельна народнага погляду на навакольны свет, якія трывала ляглі ў падмурак беларускай савецкай літаратуры і вызначалі шляхі яе дальнейшага развіцця.

Удзельнік грамадзянскай вайны, збіральнік маладых літаратурных сіл і іх настаўнік, паплечнік Янкі Купалы і Якуба Коласа, рэдактар часопіса «Полымя», адзін з першых кіраўнікоў Саюза пісьменнікаў БССР, арганізатар і сталы супрацоўнік Інстытута літаратуры АН БССР, дэпутат Вярхоўнага Савета БССР некалькіх скліканняў, дэлегат ад Беларусі ў ААН, Міхась Ціханавіч на працягу ўсяго свайго свядомага жыцця быў яркім прыкладам грамадзяніна-патрыёта, пісьменніка-камуніста, чалавека вялікага і чулага сэрца. Пад яго бацькоўскім наглядам мы вучыліся і раслі, са школьнай парты прылучаючыся да таго шырокага, шматколернага свету, які вясёлкавай крыніцай струменіў з яго апавяданняў, што так рана сталі хрэстаматыйнымі.

Міхасю Лынькову як аднаму з самых яркіх нашых пісьменнікаў было суджана паказаць гераічную душу роднага народа, які распраміў плечы, паўстаў ва ўвесь свой рост у спрыяльным савецкім клімаце, пад мудрым кіраўніцтвам Камуністычнай партыі. І зусім не выпадкова ад рамантычных, узнёслых апавяданняў дваццатых і трыццатых гадоў пісьменнік прыйшоў да рамана-эпапеі «Векапомныя дні», у якой шырока і глыбока паказаў бяспрыкладна гераічнае змаганне беларускага народа ў Айчынную вайну.

Такія пісьменнікі, як Міхась Лынькоў, не паміраюць. Яго творы будуць свяціць новым пакаленням, вучыць любіць чалавека, дапамагаць жыць і змагацца за высокія камуністычныя ідэалы.

Бывай, наш дарагі, незабыўны Міхась Ціханавіч.

*1975*

## [ПАВАЖАНЫЯ ТАВАРЫШЫ!..]

Паважаныя таварышы!

Сёння мы развітваемся са старэйшынай беларускай літаратуры, народным пісьменнікам Беларусі, акадэмікам АН БССР Кандратам Кандратавічам Крапівой (Атраховічам), байкапісцам-сатырыкам, драматургам, празаікам, вучоным і грамадскім дзеячам.

Сем савецкіх дзесяцігоддзяў не змаўкаў голас Кандрата Крапівы. Стыхія камічнага, якая выбухнула ў крапівінскім таленце, была такой напорыстай, магутнай, што адразу забяспечыла паэту-сатырыку самую шырокую і ўдзячную аўдыторыю. Рагатала ўся Беларусь: байкі, сатырычныя вершы Крапівы чыталі, атрымаўшы свежую газету і пасеўшы на прызбы, вясковыя дзядзькі, без іх не абыходзіліся самадзейныя спектаклі, сходкі, з крапівінскімі прыпеўкамі ішлі ў наступ за новы быт рашучыя камсамольцы дваццатых і трыццатых гадоў. Паэт-гумарыст і сатырык размаўляў са сваім чытачом на вельмі зразумелай яму мове. Гэтая мова нібы ўвабрала ў сябе спрадвечную дасціпнасць вострых на язык людзей, якіх ва ўсе часы меў кожны сялянскі куток: усіх гэтых жартаўнікоў, перасмешнікаў, вастрасловаў, складальнікаў небывала дзіўных гісторый.

Нарадзіўся Кандрат Крапіва 22 лютага (па новаму стылю 5 сакавіка) 1896 года ў вёсцы Нізок былога Ігуменскага павета (сёння Уздзенскі раён Мінскай вобласці) у сялянскай сям'і. Скончыў царкоўнапрыходскую школу, апошнія класы народнага вучылішча ва Уздзе, затым чатырохкласнае вучылішча (пачынаў у мястэчку Стоўбцы, затым перавёўся ў м. Койданава). У Мінску здаў экзамен на званне народнага настаўніка і праз год пачаў працаваць настаўнікам земскага народнага вучылішча ў вёсцы Мнішаны Пяршайскай воласці Мінскага павета. Але ўжо грымела Першая сусветная вайна.

Дзевятнаццацігадовы Атраховіч прызываецца ў царскую армію. Гарадское вучылішча давала права на паступленне ў школу прапаршчыкаў, якую будучы пісьменнік скончыў у

Гатчыне, служыў у запасным палку ў Асташкаве, затым з маршавай ротай быў пасланы на Румынскі фронт.

Па дэкрэту савецкай улады Атраховіч, ужо ў чыне паручніка, быў дэмабілізаваны як настаўнік. Працаваў настаўнікам, на сельскай гаспадарцы; а ў жніўні 1920 г. быў мабілізаваны ў Чырвоную Армію. У 1922 годзе ў газеце «Красноармейская правда» быў надрукаван першы мастацкі твор Крапівы — вершаваны фельетон «Жили-были».

Увесь астатні жыццёвы шлях Кандрата Крапівы — супрацоўніка Інбелкульта, часопіса «Полымя рэвалюцыі», удзельніка вызвалення Заходняй Беларусі і камандзіра кулямётнай роты ў час фінскай вайны 1939—40 гг., супрацоўніка франтавой газеты «За Савецкую Беларусь» і рэдактара сатырычнай газеты-агітплаката «Раздавім фашысцкую гадзіну» ў Айчынную вайну, рэдактара часопіса «Вожык», дырэктара Інстытута мовазнаўства АН БССР, віцэ-прэзідэнта АН БССР — гэта шлях самаадданага служэння Радзіме і народу.

Без драм, камедый, увогуле драматургічнай творчасці Крапівы цяжка ўявіць развіццё тэатра імя Янкі Купалы дый астатніх беларускіх тэатраў. Дастаткова сказаць, што камедыя «Хто смяецца апошнім» ставілася ў 170 тэатрах Савецкага Саюза, а таксама на шэрагу зарубежных сцэн.

«Канец дружбы», «Партызаны», «Хто смяецца апошнім», «Проба агнём», «Мілы чалавек», «Пяюць жаваранкі», «Людзі і д’яблы», нарэшце, «Брама неўміручасці» — іскрыстая, поўная народнага досціпу і глыбокай філасофскай развагі камедыя, напісаная не маладым, адсвяткаваўшым сямідзесяцігоддзе пісьменнікам,— большая палавіна гэтых рэчаў была падзеяй у савецкай драматургіі і жыцці тэатра.

Пакінуў свой след Кандрат Крапіва ў прозе, напісаўшы раман «Мядзведзічы» і рад бліскучых гумарыстычных апавяданняў, яму належаць значныя працы па мовазнаўству, ён стваральнік і рэдактар акадэмічных беларуска-рускіх і руска-беларускіх слоўнікаў.

Кандрат Крапіва заўсёды пісаў аб самым значным, істотным і важным, што наспела ў жыцці і як бы патрабавала грамадскай ацэнкі, суда. Як заўсёды, у Кандрата Крапівы

высокае дасканалае майстэрства, мастацкасць суседнічаюць з добрай усмешкай, поўным народнай дасціпнасці словам.

Вялікая наша страта. Можа быць, самая цяжкая пасля смерці Якуба Коласа. Ад нас адышоў пісьменнік-класік. Але ён жыве і будзе жыць: у сваіх кнігах, якія выдаюцца і будуць перавыдавацца, у школьных хрэстаматыях, па якіх будуць навучацца наступныя пакаленні школьнікаў, на сцэне тэатраў, з якіх будзе гучаць яго сакавітае, поўнае досціпу беларускае слова.

*1991*

# АЎТАБІЯГРАФІЯ

Нарадзіўся я 16 лютага 1925 года ў мястэчку Васілевічы на Палессі. Бацька — чыгуначны рабочы, стрэлачнік, адпрацаваўшы нешта гадоў каля сарака на станцыі, нядаўна перайшоў на пенсію. У сям'і было нас трое хлопцаў (я старэйшы) і сястра. Васілевічы — даволі люднае драўлянае мястэчка, з пяцікіламетровай па даўжыні цэнтральнай вуліцай і чыгуначнай станцыяй. Гудкі цягнікоў змешваліся тут з мычаннем кароў і кудахтаннем курэй. Маё дзяцінства прыпала якраз на той час, калі па пыльнай вуліцы прагрукатаў першы трактар, а ў бязвоблачным блакіце неба, перастаючы быць дзівам, праляцеў самалёт. Але, нягледзячы на яўны трыумф тэхнікі, найбольшы ўплыў на мяне ў той час меў мой дзед па бацьку, які стаяў як бы ў апазіцыі да ўсёй гэтай тэхнікі і навізны. Цягнулі мяне да дзеда яго казкі і паняверкі, якіх ён ведаў нямала. Дзіўна, але навучыў мяне чытаць таксама дзед, хоць сам ён быў непісьменны. Ён ведаў толькі некалькі літар і ахвотна раскрыў мне іх сэнс, пра астатнія я дапытаўся ў маці і ў старэйшых за мяне шкаляроў з нашай вуліцы.

Кнігі пачаў чытаць рана, здаецца, з другога класа школы. Здарылася так, што спачатку, у гады навучання ў пачатковай школе, чытаў сур'ёзныя кнігі — Тургенева, Гогаля, Талстога. Але потым дзяцінства ўзяло сваё і я накінуўся на Жуля Верна, Майна Рыда, Дзюма. У Васілевічах нават у тыя далёкія трыццатыя гады можна было дастаць даволі рэдкую кнігу. Сябраваў з хлопцамі, старэйшымі за мяне, і гэта значна пашырала мае магчымасці ў сэнсе забеспячэння кнігамі.

У школе даваліся мне ўсе прадметы, але найбольш любіў літаратуру. Перад вайной за адзін год скончыў два класы — восьмы і дзявяты.

Дзякуючы таму, што бацька як чыгуначнік штогод меў бясплатны білет, яшчэ ў дзяцінстве я пабываў у Маскве. На

экскурсію ў Мінск паслала школа. У часе летніх канікул, пачынаючы гадоў з адзінаццаці-дванаццаці, працаваў падсобнікам на чыгунцы ці ў лесе, зарабляючы сабе школьную амуніцыю. Школа наша была ўзорнай дзесяцігодкай, яе выпускнікі паспяхова паступалі ў вышэйшыя навучальныя ўстановы, у ваенныя вучылішчы, і гэта сярод нас, вучняў, нараджала рамантычныя парыванні і мары. Шлях у шырокі свет, здавалася, быў расчынены. Але пачалася вайна.

Айчынная вайна, якая супала з маім юнацтвам, бадай, стала для мяне пачаткам актыўнага жыцця. За вайну прыйшлося пабачыць і перажыць усялякае. Тыдзень ці два ў першы месяц баёў быў у знішчальным батальёне, спаў з вучэбнай вінтоўкай на саломе ў клубе, пакуль непаўналетніх не адлічылі з гэтага батальёна. Потым, калі стала вядома, што мястэчка зоймуць фашысты, разам са школьнымі сябрамі рушыў у водступ, на Усход. Але далёка адысці не давялося, вайна дагнала каля Дняпра. Недзе ў канцы восені сорак першага года з ліку вучняў старэйшых класаў у мястэчку стварылася невялікая падпольная група, у якую ўваходзіў і я. Збіралі зброю, слухалі радыё, распаўсюджвалі савецкія лістоўкі і газеты, шукалі сувязі з партызанамі. Група ўцалела, хоць у сорак другім годзе фашысты і расстралялі нашага кіраўніка. У далейшым, ужо ў сорак трэцім годзе я быў разведчыкам дэсанцкай разведвальнай групы капітана Манзіенкі, якая дзейнічала ў калінкавіцкіх і васілевіцкіх лясах, быў сувязным, а потым байцом у партызанскай брыгадзе імя Панамарэнкі.

Прыдняпроўскае Палессе было вызвалена Савецкай Арміяй восенню сорак трэцяга года. Пасля партызан я трапіў спачатку ў запасны полк, а потым на фронт. Удзельнічаў у баях пад Ленінградам, на Карэльскім перашэйку, ва Усходняй Прусіі і ў Сілезіі.

Першыя шэсць пасляваенных гадоў працаваў уласным карэспандэнтам мазырскай абласной газеты «Бальшавік Палесся» па Васілевіцкаму кусту, адначасова завочнічаючы на філалагічным факультэце БДУ імя У. І. Леніна. За гэты час аб’ездзіў усё Палессе, пісаў заметкі, нарысы, фельетоны і вершы. Пазней працаваў у «Звяздзе», у часопісе «Маладосць».

*1962*

# УСПАМІНЫ

## ДНІ, ЯКІЯ НАДОЎГА ЗАПОМНІЛІСЯ

У першыя пасляваенныя гады ў рэдакцыях раённых, абласных газет працавала мноства новых людзей з вельмі небагатым журналісцкім вопытам. Гэта былі ўчарашнія партызаны, франтавікі, даваенныя селькоры. Вучыцца пісаць ім трэба было надзвычай аператыўна, бо газеты матэрыялу патрабавалі шмат. Для маладога журналіста раённай, абласной газеты аўтарытэт рэспубліканскай «Звязды» быў бездакорны. Атрымліваючы тое ці іншае заданне, літсупрацоўнік, карэспандэнт нязменна лістаў падшыўку «Звязды», стараючыся знайсці патрэбны для сябе адказ.

Пачынаючы гэтыя невялікія нататкі пра «Звязду» сорак шостага і сорак сёмага гадоў, я зрабіў спачатку мысленнае падарожжа ў мінулае. Я працаваў куставым карэспандэнтам абласной газеты «Бальшавік Палесся» (Мазыр), жыў наводшыбе, штодзённых зносін з калектывам рэдакцыі не меў. Мая журналісцкая практыка была мізэрная, таму без пераўвелічэння магу сказаць, што «Звязда» для мяне была вельмі сур’ёзным дарадчыкам.

Жыццё пасля вайны было нялёгкім — разбураныя гарады, спаленыя вёскі, зямлянкі, неўраджайны, засушлівы сорак шосты год, жонкі-ўдовы, дзеці-сіроты. І ўсё ж кожны новы дзень нёс новыя падзеі і спадзяванні. Варта было цаніць тое, што ёсць — здабытае крывёю, нечалавечымі пакутамі.

Гэты настрой журналісты «Звязды», мне здаецца, добра адчувалі. Газета ў той час друкавала многа карэспандэнцый, замалёвак, нарысаў, якія як бы дыхалі радасцю заваяванага мірнага жыцця, паэтызавалі калгасныя і саўгасныя будні. Куды толькі не завітвалі «звяздоўцы»! Тэмай карэспандэнцыі,

замалёўкі рабілася гутарка вяскоўцаў на прызбе, зімовы дзень ці вечар у калгасе, новы дом, у які сям'я перасялілася з зямлянкі, малюнак таго, як красуе на полі жыта, як цвіце лён, як абмалочваецца першы сноп.

Мне тады здавалася, што «Звязда» спявае. Вельмі многія яе матэрыялы вызначаліся шчырасцю, цеплынёй, чалавечнасцю, яны як бы мелі на мэце паказаць чытачу шырыню жыццёвых даляглядаў, абудзіць у ім радасць, веру ў лепшую будучыню.

Частымі былі матэрыялы з «глыбінкі». У Тураў, Лельчыцы — у гэтыя аддаленыя ад чыгункі палескія мясціны — у той час не так лёгка было дабрацца, але «звяздоўцы» дабіраліся ўлетку і зімою, пісалі пранікнёныя нарысы, падмацаваныя здымкамі фотакарэспандэнтаў.

Пасляваенная «Звязда» хораша адчувала і паказвала звычайнага чалавека — трактарыста, каваля, хлебароба, даярку. Яны былі асноўнымі героямі яе матэрыялаў. Іх вачыма газета ўмела глядзець на свет, на жыццё.

Такой я памятаў «Звязду». Але, можа, памяць падвяла? Яна, як кажуць, інструмент не заўсёды надзейны. Ды і часу мінуў немалы кавалак — болей як дваццаць гадоў. Змяніліся мы самі, змяніліся нашы густы.

Не без хвалявання гартаю кранутыя часам, сям-там падклееныя старонкі падшыўкі за сорак шосты і сорак сёмы гады. Ёсць штосьці да болю шчымлівае ў гэтых вандроўках па даўно пройдзеных дарогах і сцежках, у пазнаванні таго, што запала ў сэрца, але даўно мінулася, сплыло. Не, не падвяла памяць. «Звязда» менавіта такая, якой запомнілася, і цяпер гэта можна даказаць дакументальна. Клопат пра аднаўленне разбуранага вайной жыцця, пра чалавека — у кожным нумары. Інфармацыя пра будаўніцтва цагельных заводаў, школ, пра высяленне з зямлянак, крытыка ў адрас нядбайных, а то і нячыстых на руку гаспадарнікаў мае ў газеце сталую прапіску.

Іншы раз знаходзіш проста трывожныя радкі, накшталт такіх: «Гомель да вайны быў прыгожым горадам. Цяпер цэнтр яго забудоўваецца карлікавымі домікамі (асабліва ў раёне Конскага рынку)» («Звязда» ад 17 ліпеня 1946 г.).

У Гомелі мне давялося нядаўна пабываць. Жыццё выправіла памылку. І хораша ад думкі, што газета яе своечасова заўважыла.

Вось некаторыя нарысы таго часу, якія добра запомніліся: «У глухім кутку», «Зімовы дзень», «У зімовы вечар», «Калгасныя конюхі», «Садоўнікі», «Там, дзе былі папялішчы», «Новы дом», «Малацьба»...

Кажуць, што газета жыве адзін дзень. Але справа, відаць, у тым, што ёсць дні, якія надоўга запамінаюцца. Дзякуй табе, «Звязда»!

Свае нататкі хачу закончыць звяздоўскай заметкай, вельмі тыповай для таго часу: «Крычаў. 2 кастрычніка 1946 г. Калгасніца сельгасарцелі «Завет Леніна» Аляксандра Зебрава нарадзіла трайню. Усе нованароджаныя ў добрым стане. Цяпер Зебрава мае 8 дзяцей. Калгас пабудаваў калгасніцы дом і выдаў малочную карову. Дапамогу аказалі таксама раённыя арганізацыі».

Трайняты калгасніцы Зебравай — як бы хрэснікі «Звязды». Цяпер ім болей як па дваццаць. Просіцца, як кажуць, новая тэма.

*1968*

## ВЯЛІКАЕ СЭРЦА

Апавяданнямі Міхася Лынькова я захапляўся з дзяцінства. Надзвычай любіў «Андрэй Лятун», «Над Бугам», «Баян». У школьныя гады прачытаў усё, што напісаў пісьменнік, і да цяперашняга часу зрокава памятаю вокладкі лынькоўскіх кніг, іх памеры.

Міхась Лынькоў пісаў проста, шчыра, усхваляваная лірычнасць яго твораў спалучалася з мяккім, народным па сваёй прыродзе гумарам. Ніхто з небеларускіх пісьменнікаў, як мне здаецца, лепш за яго не перадаў радасць абноўленага Кастрычніцкай рэвалюцыяй жыцця. І найлепш гэта было зроблена ў лынькоўскіх апавяданнях дваццатых — пачатку трыццатых гадоў.

Маё асабістае знаёмства з Міхасём Ціханавічам адбылося ў пачатку пяцідзясятых гадоў. Я працаваў у часопісе «Маладосць», у склад рэдкалегіі якога ўваходзіў і Міхась Ціханавіч. «Маладосць» рабіла першыя крокі, таму калектыў часопіса, па тым часе таксама малады, меў вострую патрэбу ў падтрымцы такіх вопытных пісьменнікаў, як Міхась Лынькоў.

Міхась Ціханавіч сістэматычна прачытваў матэрыялы, якія мы яму дасылалі, акуратна з'яўляўся на пасяджэнні рэдкалегіі, выказваў сваю думку, а калі магчымасці прыйсці ў рэдакцыю ў яго не было, прысылаў заўвагі пісьмова. Увогуле ён быў вельмі добразычлівы да маладых аўтараў, наводмаш, з пляча ніколі не сек, крытычныя прапановы рабіў у далікатнай, някрыўднай форме.

Памятаю адзін выпадак. Здарылася так, што я зацікавіўся Індыяй, прачытаў дзве ці тры кнігі, прысвечаныя гэтай краіне, а Міхась Ціханавіч якраз вярнуўся з Індыі. Супрацоўнікі папрасілі Міхася Ціханавіча падзяліцца ўражаннямі ад паездкі ў Індыю, і ён з уласцівым яму гумарам расказваў, як ляцелі дэлегаты над Індыйскім акіянам на трохматорным самалёце, як адказаў адзін матор, потым другі, як баяліся напалоханыя пасажыры, каб не адказаў апошні матор і самалёт не пайшоў старчака ў мора.

Выкарыстаўшы момант, я папытаўся пра вераванні індусаў. Мабыць, у маім пытанні быў элемент пахвальбы: маўляў, і мы не лыкам шытыя, калі пра такое пытаемся. Міхась Ціханавіч адказаў вельмі грунтоўна, ён ведаў намнога больш, чым я вычытаў з кніг пра Індыю.

Міхасю Ціханавічу пасылаліся на прагляд мае першыя апавяданні, і ён, відаць, благаславіў іх, бо яны былі без асаблівых пярэчанняў надрукаваны ў «Маладосці».

Але ў далейшым сталася так, што Міхась Ціханавіч, сам пра тое не здагадваючыся, трохі мне як бы нават нашкодзіў. Абараніўшы кандыдацкую дысертацыю, я некалькі гадоў выкладаў беларускую літаратуру ў Белдзяржуніверсітэце, і мне меліся даць кватэру. Пры размеркаванні (гэта было позна вечарам) мне сказалі, што я атрымліваю два пакоі ў трохпакаёвай кватэры. А назаўтра рашэнне адмянілі, аддаўшы кватэру другой выкладчыцы, жонцы памерлага афіцэра. За яе,

не ведаючы, што пакоі наканоўваліся мне, хадайнічаў перад рэктарам Міхась Ціханавіч.

Ён даведаўся пра гэта праз некалькі гадоў. Тое рашэнне рэктара было, зрэшты, справядлівае, выкладчыцы кватэра па тым часе была патрэбна больш, чым мне, на Міхася Ціханавіча я нікольві не крыўдзіўся. А ён пасмутнеў, даведаўшыся ў мяне самога, што было іменна так.

Я шмат разоў сустракаўся з Міхасём Ціханавічам у Доме творчасці ў Каралішчавічах, на Нарачы, у іншых мясцінах, пасылаў і атрымліваў ад яго віншавальныя паштоўкі, напісаныя прыгожым, адметным почыркам, прасякнутыя добрым цёплым гумарам. Я пісаў пра творчасць Міхася Ціханавіча юбілейныя артыкулы ў газеты, з радасцю чытаў студэнтам лекцыі пра яго творчасць, па маім сцэнарыі быў зняты дакументальны фільм «Міхась Лынькоў».

У яго было добрае, вялікае сэрца. Ён быў надзвычай сціплы, нават сарамлівы.

У той жа час Міхась Ціханавіч быў чалавекам высокага партыйнага, грамадзянскага абавязку. Грамадскае ён ставіў вышэй асабістага — гэта было цвёрдым, непахісным яго ўнутраным перакананнем. Ён хараша, высакародна пражыў асабістае і літаратурнае жыццё і застаўся для нас сярод самых выдатных пісьменнікаў і людзей.

*1979*

## ЯГО ЎПЛЫЎ

Якуба Коласа я люблю з дзяцінства. Яго творы запалі ў душу нейкай асаблівай мяккасцю, цеплынёй, задушэўнасцю. У мае школьныя гады мне надзвычай падабалася «Дрыгва». Увогуле ў той час аповесць «Дрыгва» была для нас, вучняў, настольнай кнігай. Мы па ёй пісалі дыктоўкі, вучыліся на гэтым творы роднай мове. Доўгі час я хацеў прачытаць яшчэ тады, у дзяцінстве, палескія аповесці Якуба Коласа, але ажыццявіць сваю мару мне ўдалося толькі пасля вайны.

Першы раз я ўбачыў Якуба Коласа ў 1946 годзе ва ўніверсітэце, дзе я тады вучыўся. Адзначаўся 40-гадовы юбі-

лей творчасці народнага паэта, і ён прыехаў да нас, студэнтаў, выступіў з прамовай. Потым сталася так, што мой пісьменніцкі лёс і мой лёс як навуковага работніка быў звязаны з творчасцю Якуба Коласа. Я пісаў сваю кандыдацкую дысертацыю «Тэма працы ў творчасці Коласа», і мне прыходзілася ездзіць па коласаўскіх мясцінах, збіраць матэрыял аб жыцці, аб рэвалюцыйнай дзейнасці народнага паэта. Памятаю, у 1953 годзе я напісаў першы нарыс аб працы Якуба Коласа і рэвалюцыйным змаганні ў Пінкавічах, дзе ён жыў у перыяд першай рускай рэвалюцыі. Гэты нарыс праз Максіма Лужаніна быў паказаны Коласу. Ён зрабіў невялікія да яго папраўкі.

Як пісьменнік, я люблю Якуба Коласа. Люблю яго багатую мову, яго ўменне шырока глядзець на свет, бачыць у чалавеку розныя якасці, люблю гумар яго. У сваёй творчай практыцы я заўсёды абапіраўся на вялікага песняра.

Мне прыйшлося напісаць дзве кнігі, прысвечаныя Якубу Коласу, яго творам. Першая, «З глыбінь жыцця», была выдадзена ў 1959 годзе. Другую напісаў я праз дзесяць гадоў. Называецца яна «Духоўны воблік героя». Думаю, калі дазволіць здароўе, час, напісаць яшчэ трэцюю кнігу — аб стылі Якуба Коласа — і праз яе паглядзець на той уплыў, які зрабіла творчасць выдатнага мастака на ўсю беларускую літаратуру — на прозу, на паэзію. Гэты ўплыў, як мне здаецца, можна добра вызначыць.

*1982*

## КАЛІ ПРЫЙДУЦЬ НАШЫ?

Я ўглядаюся ў здымак, зроблены ў чэрвені 1974 года ў Хатыні, куды я павёз прыехаўшага да мяне ў Мінск старога баявога сябра Фёдара Манзіенку, на жаль, цяпер ужо нябожчыка, і многае, многае ўспамінаецца з тых далёкіх векапомных гадоў партызанскага змагання з ненавісным ворагам…

Я бачыў гэты самалёт. Так здарылася, што па справах падпольнай групы я пакіраваў у вёску, размешчаную ад родных

Васілевіч вёрст за дванаццаць, і там заначаваў. Сядзеў на лавачцы з мясцовым хлопцам, з якім разам вучыўся ў школе.

Гэта быў сорак другі год, чэрвень месяц. Настрой, які тады валодаў намі, быў трывожны, панылы. Пасля пераможнай, радаснай зімы, калі немцаў пагналі ад Масквы, калі Чырвоная Армія наступала на іншых напрамках, калі ў нямецкіх зводках разы два-тры нават мільганула назва беларускага Віцебска, фашысты зноў узялі ў рукі ініцыятыву. Захапілі Керч, дабівалі акрываўлены Севастопаль, пад Харкавам акружылі вялікую групу савецкіх войскаў…

Трэба разумець настрой таго часу. Патрыятычна настроеная моладзь, асабліва тая, якая намацвала ніці сувязей з падполлем, з партызанамі, што пачыналі разгортваць дзейнасць, чуйна прыслухоўвалася да падзей на фронце. Фронт азначаў усё. Ад поспехаў на фронце залежала, як хутка прагоняць немцаў, а значыць, прыйдуць нашы, усталюецца ранейшае жыццё, можна будзе адчуваць сябе вольнымі людзьмі, вучыцца, працаваць. Думка гэтая: калі прыйдуць нашы — сядзела ў свядомасці неадступна. Я клаўся спаць і прачынаўся з ёю.

Летам, у чэрвені, змрок наступае позна. Недзе а дванаццатай гадзіне, калі мы з таварышам збіраліся разысціся, пачуўся гул самалёта. Яго сілуэт мільгануў над лесам, затым самалёт зрабіў яшчэ два ці тры кругі. І гул матора пачаў аддаляцца ва ўсходнім напрамку…

Мы з таварышам рашылі: самалёт савецкі. Аднак пра тое, чаму ён кружыў над мясцовым лесам, прыходзілася толькі здагадвацца.

Адгадка прыйшла няхутка, позняй восенню таго ж года. У гэты час савецкія войскі ўжо вялі зацятыя баі ў Сталінградзе. Многа іншых падзей адбылося за гэты час. Умацаваліся мясцовыя партызаны, асабліва атрад імя Варашылава, людзей якога з Мазыра, Калінкавіч вывеў у лес капітан-акружэнец Кузьма Бакун. Загартавалася мястэчковая падпольная група, хоць нашага кіраўніка Анісіма Белага, ягоную сястру Олю фашысты расстралялі. І я пасядзеў у турме, пабачыў, як кажуць, у вочы смерці.

Той восенню сорак другога года мы ўжо мелі трывалую сувязь як з партызанамі, так і з дэсантнікамі, ваеннымі раз-

ведчыкамі, якія прыляцелі на памятным самалёце. Іх узначальваў капітан Фёдар Манзіенка, палітрук, перавучаны на разведчыка, ураджэнец Адэсы.

Скінулі дэсантнікаў на лес, і ад гэтага здарылася бяда. Яна здарылася яшчэ і ад таго, што парашутыстаў ніхто не чакаў, не паліў, як увайшло ў далейшую практыку, кастроў, не падаваў папераджальных знакаў.

Скакалі ў адны дзверы, груз выкінулі праз другія. Бачылі, што пад імі лес, вузкая лінія звілістай рачулкі. Першы скочыў масквіч Толя, затым радыстка і сам камандзір, нарэшце два астатнія дэсантнікі.

Ён, камандзір, завіс паміж трыма вольхамі. За плячамі, акрамя парашута, было болей за сотню кілаграмаў грузу. Разгойдаўшыся, прыстаў нарэшце да большага дрэва, падрэзаў зверху стропы — ад аднаго дрэва адстаў. Затым адхліснуў лямку з грудзей. Парашут цягнуў уверх. Нарэшце капітан падрэзаў усе стропы, пакінуўшы толькі лямку, на якой сядзеў.

На зямлі Манзіенка пачаў падаваць умоўныя знакі — заквакаў лягушкай. Пачуў адказ. Хутка знайшоў радыстку. Яна адна апусцілася на паляну.

Вандруючы па лесе, капітан з радысткай пачулі стогн. Пакуль знайшлі месца, адкуль ён даносіўся, было позна. Масквіч Толя, які завіс уніз галавой, быў мёртвы. Похапкам пахавалі таварыша.

Увогуле іх высадку нельга было назваць удалай. Яшчэ адзін дэсантнік завіс уніз галавой. Але ён здагадаўся падаць пра сябе сігнал — стрэліў з пісталета, яго выратавалі. Валодзя Офман, маскоўскі мастак-афарміцель, якога ўзялі ў групу за веданне нямецкай мовы, ад групы адбіўся і знайшлі яго толькі праз тры месяцы.

Увосень 1942 года група Манзіенкі аб’ядналася з калінкавіцкім атрадам імя Варашылава. Хоць разведчыкі захоўвалі сваю самастойнасць. Да лета 1943 г. яны стварылі ўласны атрад — № 14. Дзіўны быў гэты атрад. Толькі камандзір Манзіенка, некалькі яго памочнікаў, радысткі, падрыўнікі былі ў лесе. Астатні народ сядзеў на станцыях — ад Мазыра, Калінкавіч да Васілевіч і Рэчыцы. Бо атрад быў разведвальна-дыверсійны. Кожны дзень (а то і два-тры на дзень) радысткі

выходзілі ў эфір, перадавалі ў Маскву, у Цэнтр разведдадзеныя.

Я і мае таварышы Мікалай Белы, Іван Доўжык, Мікалай Пінчук, яшчэ некалькі хлопцаў і дзяўчат былі ў гэтым атрадзе ці, праўдзівей, служылі разведчыкамі манзіенкаўскай групы.

Летам сорак другога, калі немцы рваліся да Сталінграда, грымела ад партызанскіх выбухаў чыгунка. Без выбухаў не абыходзілася, бадай, ніводная ноч. Непаўторнае было тое лета. Здавалася, нават навакольныя лясныя абшары — сасняк на сыпучых пясках, беразнякі, круглыя купы лазняку на балацянках, зарослыя травой лясныя сцежкі, па якіх шнырылі мы, сувязныя-разведчыкі,— былі прасякнуты адчуваннем таго, што на свеце ідзе самая вялікая вайна.

У нямым чаканні, здавалася, застылі лясныя вёскі — з крытымі дранкаю хатамі, саламянымі стрэхамі хлявоў. Узыходзіла сонца, і над сасоннікамі, над соннымі з выгляду ваколіцамі трымцела няпэўная, з сіняватым адценнем смуга. Яна, здаецца, таксама сведчыла аб значнасці, неразгаданасці падзей, якімі ахоплен свет. «Калі прыйдуць нашы?» — гэтае пытанне не знікала і цяпер. Толькі адказ быў няпэўны: вельмі далёка зайшоў вораг. Нялёгка будзе яго выгнаць…

Шмат пашкодзілі фашыстам партызаны, у шэрагах якіх змагаліся і дэсантнікі і падпольшчыкі. Акрамя дыверсій на чыгунцы, выбухаў магнітных мін, ад якіх узрываліся цыстэрны з гаручым, вагоны, ворагу наносіўся вялікі маральны, гаспадарчы ўрон. Усю жывёлу, напрыклад, якую немцы рэквізавалі ў насельніцтва спаленых вёсак і трымалі ў гарнізонах саўгаса «Ведрыч» і ў кашарах «Заготжывёлы» ў мястэчку Васілевічах, партызаны адабралі, загналі ў свой лес.

І ўсё ж не гэта, як здаецца, было галоўным у дзейнасці капітана, пазней маёра-разведчыка Фёдара Манзіенкі. Галоўнае: звесткі пра ворага, часам вельмі каштоўныя.

Збіраліся і факты мясцовага значэння, якія Цэнтр таксама патрабаваў. Вось адна з радыёграм (яны ўсе захоўваюцца ў ваенным архіве г. Падольска Маскоўскай вобласці).

«У Цэнтр. 12.5.43 г. Абстаноўка ў гарнізоне Васілевічы.

Немцаў — 80 чалавек, ахова чыгункі. Немцаў-жандармаў — 23. Добраахвотнікаў — 57 чалавек. Паліцыі — 120 чалавек. З іх перайшло да нас са зброяй у руках 18 чалавек.

6 мая ў Васілевічах выгрузіліся 3 эшалоны немцаў з Гомеля. Узброены кулямётамі, мінамётамі, аўтаматамі, вінтоўкамі. Да 100 аўтамашын. Грузавыя матацыклы без нумароў, веласіпеды. Палавіна паехала па чыгуначнай ветцы. Частка рушыла пешшу на Маканавічы…»

З такіх вось будзённых звычайных паведамленняў там, у Цэнтры, складвалася, відаць, карціна жыцця глыбокага тылу акупантаў.

Цікавіўся Цэнтр не толькі выездам, прыбыццём воінскіх часцей. Ён патрабаваў асвятляць усе бакі дзейнасці ворага. Пагэтаму разведчыкі, побач з паведамленнямі аб руху эшалонаў, перадыслакацыі воінскіх часцей, перадавалі Фёдару Манзіенку дадзеныя аб колькасці нарабаванага фашыстамі збожжа, забранага ў насельніцтва малака, мяса, аб гаспадарчай рабоце прадпрыемстваў.

У рукі камандзіра групы траплялі копіі, а іншы раз арыгіналы загадаў, распараджэнняў розных фюрараў, бургамістраў, старастаў, а таксама газеты, якія фашысты выдавалі на рускай і нямецкай мовах. Гэта была дадатковая інфармацыя.

Ужо некалькі месяцаў радысткі адстуквалі радыёграмы аб руху эшалонаў па чыгунцы Жыткавічы — Гомель. Перадача і прыём не заўсёды былі паспяховыя. У эфіры шмат перашкод. Але так ці інакш Цэнтр атрымліваў дакладную інфармацыю аб дзеяннях ваеннай, адміністрацыйнай нямецкай машыны ў міжрэччы Дняпра і Прыпяці.

Назіраючы за перавозкамі немцаў, усё болей набываў вопыту Манзіенка, якому яшчэ ў красавіку 1943 года кінулася ў вочы: лік эшалонаў, якія ідуць да фронту, нягледзячы на партызанскія дыверсіі, няўхільна павялічваецца. Гітлераўцы перавозяць у асноўным гаручае, баявую тэхніку, а таксама каменны вугаль. Бензін, гарматы, аўтамашыны — гэта ясна. Фашысты ўмацоўваюць фронт. А дзеля чаго каменны вугаль?

Пасля нядоўгіх развагаў Манзіенка прыйшоў да вываду: вугалем фашысты забяспечваюць заводы, на якіх рамантуюць ваенную тэхніку. У такіх гарадах, як Гомель, Бранск, Харкаў: там ёсць машынабудаўнічыя заводы.

Тады ж Манзіенка адчуў: вораг пачынае рыхтавацца да нейкай буйной аперацыі. Магчыма, да новага наступлення.

21 мая 1943 года Манзіенка паведаміў Цэнтру: з 10 па 18 мая на фронт накіравана 1550 гітлераўцаў. Бензіна перавезена 4900 тон, боепрыпасаў — 420 вагонаў. Аўтамашын легкавых, пафарбаваных у светла-кафейны колер, перакінута 370, аўтамабіляў грузавых — 332, усюдыходаў — 154, харчовых прыпасаў — 540 вагонаў. З фронту ў Германію пакіравала 120 санітарных вагонаў.

Пачынаючы з мая 1943 г., Манзіенка сустрэўся амаль з усімі сувязнымі, якія асвятлялі ваенныя перавозкі па чыгунцы, і ўсіх настойліва прасіў: асаблівую ўвагу звяртаць на новую тэхніку.

Поспех прыйшоў. Новы танк адзін сувязны-мастак з Васілевіч (хоць тэхніку везлі на платформах, накрытых брызентам) нават змаляваў, прыслаў камандзіру чарцёж-малюнак.

Зрэшты разведчыкі здабылі дакладныя звесткі пра новыя танкі.

Манзіенка неадкладна радыраваў Цэнтру, што танкі новай канструкцыі прывозяцца па чыгунцы Брэст — Гомель упершыню. Вага іх 70—75 тон, таўшчыня брані — 80 міліметраў, шырыня гусеніц — 70 сантыметраў. Да машын ёсць запасныя гусеніцы: за тыдзень іх перавезлі 65 вагонаў. Узбраенне танка — гармата. Сярэдняя далечыня стральбы — 7,5 кіламетра.

5 ліпеня 1943 года разгарнулася на Курскай дузе гіганцкая танкавая бітва. Несумненна: савецкае камандаванне ўлічыла інфармацыю, якая паступіла ад закінутай у палескія лясы групы Манзіенкі, і гэтая інфармацыя спрацавала на нашу Перамогу.

Нашы прыйшлі. Яшчэ восенню 1943 года. Атрад Манзіенкі рушыў за Буг, у Польшчу для далейшай дзейнасці. Каб не трапіць у рукі ворага, у канцэнтрацыйны лагер, папярэджаныя нашай настаўніцай, мы ўліліся, як кажуць, у мясцовы атрад Панамарэнкі, з якім таксама мелі сувязь. Вызвалялі родныя Васілевічы, памагалі байцам падалей адагнаць ворага.

Потым былі новыя дарогі вайны. Я ўдзячны лёсу, што мне пашанцавала дайсці да Германіі, бачыць ганьбу ворага, адчуць зіхатлівую радасць, слодыч нашай вялікай Перамогі.

*1995*

# ДЗЁННІКАВЫЯ ЗАПІСЫ

6.12.80

Біблейскае мысленне. Чалавек здзіўлен. Галоўнае пытанне, якое стаіць перад ім,— адкуль ён з'явіўся? Хто ён?

Схіленне перад адным магутным Богам. (Можа, угадваецца за гэтым нядаўняе мнагабожжа?). Асноўная запаведзь: вер аднаму Богу. Самая шырокая рэгламентацыя ва ўсім. Нават у побыце. Біблейскі народ — народ жывёлагадоўчы пераважна. Козы, «овны» (свінні няма). Цікавае светаадчуванне — фантастычнае. Галоўнае: стрымлівай сябе, будзь верны Богу, інакш Бог пакарае. Праз усю Біблію.

Думаю пра светаадчуванне старажытных.

Сёння чытаю. Хачу напісаць «Коласа» для школы. Чытаў дзіцячыя творы. Усе на апафеозе прыроды. Даніна даўняму схіленню перад языч.<ніцкімі> багамі.

Была бітва за прэмію. За «Гіст.<орыю>». Асабліва лютавалі Бур. і Н. Паш-віч. Вельмі самаўпэўненыя. Няўжо расце новая небяспека кар'ерызму?

А-іч выд.<адзены> на трох мовах. Сёння ў «ЛіМе» рэц.<энзія> Каваленкі. Шмат чаго ў смутку ўгадаў. Разумная рэц.<энзія>, хоць не ўсё ўбач.<ыў> крытык.

Ядзя хворая. Не думаю, што сур'ёзна. Можа, вынік упартай летняй працы на дачы. Не прайшла дарма лепка печы.

Мароз сёння. - 10°С. Халадней за ўсё ў Беларусі.

Б-ль падціснуў хвост. Ці не ад падзей у Польшчы. Куды прывядуць гэтыя падзеі?

7.12.80 г.

«ЛіМ» надрукаваў артыкул В. Каваленкі пра «Смутак». Каваленка піша пра чысты біяграфізм рамана. Значыць, і я ўмею містыкі даць. Не было поруч са мной маіх хлопцаў-сяброў на Карэльскім перашыйку. Загінулі яны ў другіх мясцінах. Але хіба гэта галоўнае? Загінулі ж…

Холадна. -10°С. Пачалася зіма халадамі.

Заўтра будзе месяц, як вярнуўся з Чэхаславакіі. Хутка ляціць час.

Пачаў пісаць раздзел пра дзіцячыя творы Коласа. Заўтра пайду выбіраць тыраж для Збору твораў. 20 тыс. мне не трэба. Хай хоць раз будзе свята «на вяку чарвяку».

Плацілі мне заўсёды не надта высокія ганарары. Хай хоць цяпер павысяць.

6.10.81 г.

Не створан я для дзённікаў.

Выйшаў І т. Збору і кніжачка пра мяне. Зацята змагаўся я за Збор. Афармленне добрае. Прысылалі з Васілевіч запрашэнне: будзе вечар маёй творчасці і прысlацъ ім «Зварот да народа» (сам, маўляў, усё адно не прыедзеш). Абразліва.

Адпачынак правёў на дачы. Два, тры тыдні добра, а потым самотна. Грыбоў не было.

Рыцары «плашча» віжуюць па-ранейшаму. Яшчэ з большым імпэтам. Прыйдзеш на прыпынак аўтобуса — ужо стаіць. Мнагавата рыцараў. Выявіў ужо дзясяткі два-тры. Брыдка. Няўжо вяртаецца час Л. С.

Панская Варшава «балюе». Яшчэ з большым імпэтам, чым летась. Што выйдзе з гэтага балявання?

Стаўлю зубы. Як іх ставіць, калі ўсе (амаль усе) прыродныя хочуць вырваць.

На дачы завітаў такі Мяленцьевіч. Зацяты юдафоб. Ці здаецца такім. Учора ў бібліятэцы гаварыў з Фімай.

7.10.81

Учора ў суседа білі доўга шурупы ў сценку. Хадзіў вечарам на праходку. Трэба кожны дзень хадзіць.

Учора прасядзеў у бібліятэцы. Кончыў кнігу пра Кузняцова. Жорсткі чалавек пры ўсім яго розуме. Я б так не здолеў. Фіме <нрзб> расказваў пра кнігу, якая не выйшла. Прасочым за вынікам.

4.XI.81

Лета, а разам з ім і восень праляцелі. Нідзе не быў, выключаючы трохдзённую паездку ў Суздаль, Уладзімір і Загорск. Хацелася паглядзець, якія там мясціны. Лес на наш не падобны. Паўночны. Многа балацянак. Сасна ў сумесі з бярозай. Бярэзнікаў найбольш.

Суздаль уражвае. Маленькі гарадок і дзясяткі цэркваў. Храмы ва Уладзіміры стаяць на высокім пагорку і позірку адкрываецца вельмі прыгожы від.

Загорск (Сергіеў Пасад) збудаван у гонар перамогі над татарамі.

Хварэў 5 дзён. Чым далей, тым цяжэй хварэю. Сухі кашаль, які ніяк нельга было ліквідаваць.

Скончыў «Помні свой лес». Жыжэнка яго пераклаў, назваў «лихим». Спачатку апавяданне называлася «Купка на плошчы». Ідэя змянілася ў выніку пісання, а праўдзівей, перапісвання. Усё, як было, а акцэнты змяніліся.

«Лит.<ературная> газета» ўжо два гады «друкуе» нейкі матэрыял пра мяне. Ніяк не можа надрукаваць. Ёсць большыя славутасці. Не вельмі ўкрыўджан. Чытаў той матэрыял, напісаны літаратурнай дзяўчынкай, якая паходзіць з Брэстчыны, а жыве ў Маскве.

Увогуле, загадкі, загадкі ў жыцці.

А. Мальдзіс мусіў ехаць у Амерыку. Чаму Мальдзіс іменна.

Сёння канчаецца мая хвароба і я рад.

Учора дапісаў кавалачак да «Замяці жаўталісця». Так вёрстка вымагала. Сказаў тое, што ўжо было, толькі ў падтэксце.

Напісаў дзіцячае, на тры старонкі апавяданне «За капусту». Дзіўна, яно мне навеяна капустай, якую насіў з Чырвонаармейскай.

Сустрэў па дарозе Я. Міско. Пакуль надрукаваў апавяданне на машынцы, Міско памёр.

З моцных уражанняў — абмеркаванне на нашым Савеце аспіранцкіх спраў. Крытыкаваў Адамовіча, і ён прыняў крытыку.

Хачу напісаць апавяданне «Загародка на ваколіцу». Мучыць мяне гэтая тэма. Праўдзівей, ёсць некалькі мясцін (васілевіцкіх), якія пастаянна ўсплываюць у памяці. Казарма, вуліца каля былой МТС, загародка (выхад) на аколіцу. Чамусьці ў дзяцінстве выхад на аколіцу мяне вельмі цікавіў. Прыбягаў туды. Нават днём было ўражанне таямнічасці.

Апавяданні, якія хачу напісаць (каб не забыць):

1) Якая доўгая вайна…
2) Нявольнік рэжымаў.
3) Самая прыгожая жанчына. Княгіня.
4) Загародка на ваколіцу.
5) Стук у дзверы ноччу. Маканавічы. Петрыкавец.
6) Мілановічы. Маці, дачка.
7) Дамок пад чарэшняй. Хвядосік.
8) Арсень і Арсеніха.
9) Брыбра і Макар.
10) Смяецца хата.

16 ліпеня 1993. Пятніца.

Учора ездзіў у Акадэмію. Здаў Ларысе друкаваць «Юнацтва». Аповесць мне падабаецца. Няўжо памыляюся. З трох апавяданняў — адно слабое (пра <нрзб> і Параску). Сустрэў у пераходзе А. Мар-ча, затым А. Ма-ва. Рыцары плашча і кінжала вельмі цікавяцца настроем і поглядамі. Тыдзень назад аднаго паліцая, які чытаў КПСС, абазваў «зас-цам».

Сёння Кац-сіва сустрэў. Ці не з той жа місіяй.

Дрэнна сплю пасля санаторыя. Няўжо перабаяўся?

2 жніўня 1993. Панядзелак.

31 ліп. прыехала Таня з Дзімам. Быў на дачы, хадзіў у грыбы. Згубіў расчоску. Лівень.

Рыхтуемся да з’езда славістаў.

Ляснуў мой адпачынак. У санат.<орыі> «Каапερатар» кончыў «Юнацтва». Рыцараў плашча і кінжала аж зашмат і тут. Я. Б. вядзе, вядома, дзённік і не напіша, што служыць гэтым рыцарам.

У свеце — няпэўнасць. Размова з Мушынскім і Майхровічам. На чыім возе еду, таму песню пяю. Чарнаморска-Балтыйскі саюз — дрэнь, але я не запярэчыў.

Няўжо нават такія, як Майхровіч, лічаць, што не трэба магутная Расія.

3 жніўня 1993. Аўторак.

Сёння выйшаў «Вецер у соснах». Выходзіў тры гады. У газ.<еце> «Мы и время» арт.<ыкул> Адамовіч — стукач. Капуцкі ўпіраецца. Шкадую Паўліка. Дзімка ходзіць як попік у даўгой сарочцы.

4 жніўня 1993. Серада.

Быў у АН. Атр<ым>ліваў зарп.<лату>. Зрабіў вымову бухгалтарцы за мой адпачынак (хацелі пусціць). Гаварыў з былой бібліятэкаркай.

З сынам жах.

5 жніўня 1993. Чацвер.

Дзень Арла і Белгарада. Які гэта быў памятны час. Бачыў па тэлевізары трох вялікіх асоб. Кожны ў сваім асобным горадзе.

Сіяніст ці то хворы, ці то п’яны.

Сёння, калі ішоў сюды, зблытаў Карпенку з Гайсёнкам. Дзімка сядзеў у скрыні для пасцелі.

10 жніўня 1993 г. Аўторак.

Палучыў долары на з'езд славістаў.

Не трэба размаўляць з Бушай пра тое, чаго яна не разумее. Ноччу Буша ў сне крычала.

Чаму зацягнулі з атрым. долараў і не далі гал. бух<гал>тару? Пытанне. Мой сакратар зашыўся <нрзб>.

27 жніўня 1993. Пятніца.

У нядзелю ад'еду на кангрэс у Браціславу. Еду без асабл.<івай> ахвоты. Хоць паўтара гады жыў клопатам.

Учора сапсаваў настрой шпік Якавенка, які сустрэўся, а таксама другі шпік — Аксамітаў, што з дурной просьбай пазваніў вечарам. Няўжо рыцары плашча і кінжала зробяць што-небудзь нядобрае, як зрабілі гадоў 10—11 назад, пасадзіўшы замест брацілаўскага ў пражскі самалёт. Дый у Брацілаве правакатараў хапала: нават нейкую паперу з пратэстам пісаў.

12 верасня 1993. Нядзеля.

Прыехаў са Славакіі (9). Цяжка далася гэтая паездка, асабліва падрыхтоўка да яе. Долары, долары!

На з'ездзе нейкая пакуль што мне незразумелая барацьба за месца ў міжнародным камітэце. Дзіўны, незразумелы <нрзб>. А ўвогуле ўсё кончылася добра. Шмат у дэлегацыі тых, хто ездзіць кожны раз. Увогуле індаеўрапеістыка, здаецца, заходзіць у тупік. Брашур на гэты раз не было. Дастаў урала-індаеўрап. мовы. Ездзіў у Марцін. Уражанне ад вёскі — уніфікацыя.

У Марціне, размешч. між гор, нейкае мярцвянае святло.

Трапіўся інжынер, які працаваў у Мінску. Жыў у інтэрнаце і гатэлі «Дружба», у пакоі 512. О, усёўладная <нрзб>.

15 кастрычніка 1993. Чацвер.

12.10 ездзіў у Пасадзец. Уражанне невыдатнае: лес далёка. Сочаць па-ранейшаму. Машына паказалася і развярнулася. Мабыць, і шафёр з «гэтых», бо адразу павярнуў, куды сказаў «нейкі» хлопец.

Дурнота, дурнота. Прасвісталі краіну і працягваюць тое самае. І спадар Ш-і такая ж дурная, хітрая сволач.

На моўнай камісіі сутыкнуўся з паліцаем Лепешавым. Цягнуць правапіс на 60 год назад. Правакацыя на правакацыі.

На дачу мяне не бяруць. Маўляў, нічога не ўмею рабіць.

Сёння «ЛіМ» надрукаваў два апавяданні.

23 кастрычніка 1993. Субота.

Учора абараніўся Кісялёў. Скрыва паглядаюць на мяне Чамярыцкі і Мархель. Прычына вядомая.

Маё сумеснае жыццё робіцца ўсё горшым і горшым. Я. П. лічыць, што я нічога не ўмею рабіць. Увогуле, мяне не дапускаюць да работы на дачах, і тыя невялікія навыкі, якімі я валодаў у дзяцінстве і юнацтве, я страчваю (умеў палоць, пілаваць дровы, касіць, зграбаць сена і г. д.). У Я. П. гноіцца ўжо некалькі гадоў палец, і галоўная прычына ў гэтым.

24 кастрычніка. Нядзеля.

Настрой кепскі. З-за Я. П. немагчыма гаварыць. Грубасць бясконцая. Няўжо буду такім і я, калі захварэю. Божа, не дапусці. Між іншым адчуваю сябе няважна. Без бачнай прычыны. Што хацеў — зрабіў. Напісаў заключную частку трылогіі (вельмі невялікай) «Юнацтва». Астатняе — не істотна. Зрабіў, можа, не ўсё і не так, як трэба, з таго, што дала мне па сутнасці наша сялянская культура. Спрабаваў, як і Куляшоў, увесці ў літаратуру асобу праз яе інтымны і грамадскі свет.

6 лістапада 1993. Субота.

Шпікі, шпікі… Прасралі дзяржаву і не пакідаюць далейшай, як сказаў Хонекер, на 90% бяссэнсавай, дурной работы. Учора ў магазіне «Мастацтва» спытаў у чалавека, які купіў дзве нямецкія кнігі (не спытаў, а хацеў паглядзець назвы), але ён груба адказаў мне: «Глядзі там, на паліцы». Немец, сволач. Тры гады назад ён бы так са мной не размаўляў. Сказаў шафёру, Валодзю Г. Той, відаць, данёс. І вот сёння сустракае мяне ў пераходзе артыст А-ў (стукач, якога даўно ведаю), а ў біб<ліятэ>цы другі стукач. У іх электронная сувязь, відаць. У нас, у навуковай бібліятэцы, ёй і не пахне.

Бедная дзяржава. «Скучно жить на свете, господа…»

Ля дачы гідраізаляцыю зрабілі.

Харошы сюжэт: размова з заслаўскімі бабамі, якія кралі капусту, на аўтобусным прыпынку.

Урывак з аповесці Шамякіна ў «ЛіМе» неблагі.

9 лістапада 1993 г. Аўторак.

Адмовіўся ўдзельнічаць у камісіі Гілевіча па правапісу бел.<арускай> мовы і ад выступлення на адкрыцці нямецк.<ай> выстаўкі ў <нрзб> б<ібліятэ>цы АН. У вайну акадэмія была канюшняй. А цяпер немцы прывезлі 1000 кніг і трэба іх хваліць.

Звысака глядзяць на нас цяпер немцы. У аднаго (у магазіне «Мастацтва») я хацеў зазірнуць, якія купляе кнігі. Дык ён мяне злосна паслаў да паліц, на якіх ляжаць кнігі. Ці магчыма было такое тры-чатыры гады назад.

11 лістапада, 1993. Чацвер.

Учора ў бібліятэцы на нямецкай выстаўцы не выступаў. Не магу бачыць немцаў (праўдзівей, хлусіць). У будынку акадэміі была канюшня, цяпер прыслалі тысячу кніг і хвалі іх.

# ЛІСТЫ

**Да Асіпенкі**

26-IX-55 г.

Паважаны таварыш Асіпенка!

Ваша апавяданне «Над Нёманам» рэдакцыя атрымала. Гаворым адкрыта — апавяданне слабае, друкаваць яго нельга.

У аснову апавядання пакладзены канфлікт, які можа быць у жыцці. Брыгадзір Васіль Мароз баіцца сеяць кукурузу, а яго каханая Аляксандра Нікіціна стаіць за кукурузу. На гэтай глебе на нейкі час не ладзіцца ў іх і ў каханні. Нарэшце, Васіль зразумеў сваю памылку, і каханне, як кажуць, завяршаецца шчаслівым канцом.

Самы галоўны недахоп Вашага апавядання — схематызм. З першай старонкі чытач уяўляе героя (Вы яго так малюеце) перадавым чалавекам. Ён малады чалавек, дэмабілізаваны воін. Чытачу невядома, чаму раптам Васіль стаў кансерватарам, чаму ён не хоча сеяць кукурузу. Паводзіны Васіля псіхалагічна не матывіраваны, а пагэтаму і ўвесь канфлікт уяўляецца фальшывым, надуманым. Падзеі мільгаюць у Вашым апавяданні, як у калейдаскопе, апавяданне хутчэй нагадвае карэспандэнцыю, а не мастацкі твор. Мова Ваша таксама жадае быць лепшай — яна пакуль што шэрая, невыразная.

Адным словам, усе гэтыя недахопы і прывялі да таго, што апавядання не атрымалася. Што можа сказаць чытач пра герояў пасля таго, як прачытае Ваша апавяданне? Нічога, апрача таго, што Васіль энергічны, дэмабілізаваны воін, які невядома чаму памыліўся, а Аляксандра, напэўна, добрая звеннявая.

Працуйце.
З таварыскім прывітаннем!
Заг.<адчык> аддзела навукі
і студэнцкай моладзі *І. Навуменка.*

### Да П. П. Ахрыменкі

Паважаны таварыш Ахрыменка!

Вашага Шаўчэнку я здаў. Хутка паявіцца. Шліце Азершчынскі хор. Пабольш увагі звярніце на самастойна складзеныя песні. Памер 6—7 старонак.

З прывітаннем!

*І. Навуменка*
[1956]

### Да М. С. Белага

8 апрель 1944 г.

Здравствуй, Николай!

Прымі, дружа мой, сардэчнае прывітанне ад мяне. Я табе ўжо паслаў адзін ліст, але адказу не атрымаў. Я філосаф і тут. Але маёй філасофіі часта перашкаджаюць патрабаванні маёй утробы, бо я іх не выконваю. Харчы дрэннаватыя, 3-я катэгорыя.

Дружа мой, напішы мне, ці была тая тэлеграма, спытай пра гэта ў Садоўскага. Напішы ўвогуле пра ўсё. Напішы, ці прыязджаў хто правяраць нашу падпольную працу. Напішы пра Доўжыка і пра Драпезу. Я не прападу нідзе.

Схадзі к маім бацькам і ўзнай, як яны жывуць. Працуй, дарагі прыяцель, працуй так, каб сказаць: «О! Гэты хлапец варт многага!» Пішы, бо я хачу ўсё ведаць. Знай, што калі лёс занёс мяне сюды, то не падкачаю.

Пака ўсяго найлепшага. Охота на фронт.

Твой прыяцель *Іван Науменка.*

Жму руку. Бывай!

Здароў, дружа мой Мікола!

Ты павінен прасціць мяне, што я так доўга не пісаў табе. Увесь час падарожнічаю. Кідаюць з месца на месца. Перад вачамі ўсё новыя і новыя гарызонты. Сваё апошняе пісьмо я пісаў табе з Усход.<няй> Прусіі. Цяпер іншыя гарызонты. Усё асталося ззаду. Цяпер Карпаты, Польшча. Магчыма, пабачу яшчэ чэхаў ці венграў.

Прайшоў без малага год, а колькі я пабачыў! Праўда, то, што я бачу, не новае для мяне, я чытаў пра гэта. Мяне нішто не здзіўляе.

Цяпер мяне называюць «панам». Быт і норавы тутэйшага народу апісваць не буду, ты прадставіш сам. Скажу толькі, што мы далёка перагналі Польшчу ў многіх адносінах.

Пасада мая тая самая. Працы пака малавата. Што я раблю? — спытаеш ты. Нічога асаблівага. Кніг няма, сумую.

Сягоння я дзяжурны па часці, ужо 2 часы ночы, сяджу і пішу табе.

Такіх, як я, 4 чалавекі тут. Цэлая група. Аднаго «ліцінаціка» прыслалі сягоння прама з Масквы. Два астатнія ўжо мае старыя знаёмыя. З адным я працаваў раней у другіх часцях. Адзін з іх, закавай пароды, закончыў аспірантуру, але, патрэбна сказаць, чалавек кемлівы, а галоўнае — страшэнна працавіты. Праўда, пытаннямі літаратуры ён зусім не цікавіцца. Я з ім страшэнна спору, падтруніваю над ім памінутна. Увогуле, я атупеў, але гарачы, як і раней.

А з маёй «адукацыяй» проста немагчыма пераварваць ніякіх аўтарытэтаў.

Мой настрой? Добры. Праўда, іншы раз находзіць такі сум, што проста дзявацца няма куды. Веру ў нашу вялікую будучыню. Па натуры я не вялікі смяляка, але па духу — ого! Пагэтаму мне не страшны ніякія прадстаячыя выпрабаванні. А галоўнае, што я хачу табе сказаць, што я не трус. Я наблюдаў такую карціну: людзі, быва ўшыя на перадавой, на фронце многа больш мяне, пры небяспецы разгубляліся болей.

Але ў мяне адна рыса: калі справа ідзе аб маім існаванні, тады мой глузд працуе з шалёнай хуткасцю.

Ніякіх заметак аб сваіх прыгодах і атрыманых уплывах, а таксама і аб людзях, з якімі я жыў, ваяваў, я не раблю.

Думаю, што ўсё схаваецца ў галаве, як у Чорнага.

Шкада, вельмі шкада Брэля Васіля. Ён працаваў разам з намі.

Як Грыцкін? Дзе Драпеза? Ці чуў ты што-небудзь аб Круглікаве? Напішы мне адрас Драпезы.

Пішы падрабязна аб жыцці ў нашым родным мястэчку. Што новага.

Перадавай прывітанне Доўжыку Ване, Пінчуку, Науменка А., Брэль Каці, Гусінцавай, Ларчанку, Т. Садоўскаму і друг.<ім>.

Схадзі да маіх бацькоў і скажы ім, дзе я.

Ну, бывай, дружа!

Крэпка жму табе руку!

Твой сябр *Іван.*

18.12.44 г.

Здароў, дарагі сябра мой Мікола!

Дазволь абняць цябе ў чэсць новага года, у чэсць незнаёмага, але, напэўна, вялікага 45-ага! Дарагі дружа! Іван з чырвоным носам мае вялікія намеры на будучыню. Дык няхай жа ўсё яно здзейсніцца! Няхай гэты год будзе апошнім годам, няхай гэты год дасць мне магчымасць абняць маімі доўгімі рукамі цябе.

Я вып'ю заўтра. Вып'ю за ўсё: за наша гераічнае прошлае і вялікае будучае, за цябе і сябе. Жыву добра. За гэты год я аб'ездзіў столькі, што каб пачаў хваліцца, то, нават, брадзягу б зайздрасць узяла. Цяпер уздыхаю пад коўдрай польскага неба. Дружа! Пішы падрабязней, як поўзаеш там ты. Ты «звіні» мяне, ты, напэўна, лятаеш там, але гэта маё вобразнае выражэнне. Пішы, як праводзіш свой час, якія гарызонты ўперадзе.

Я пісаў у ОК ЛКСМБ і Зімяніну аб нашай працы, але адказу яшчэ не атрымаў.

Калі можна, то ты дастань і для мяне які-небудзь дакумент аб нашай працы, бо калі буду ўступаць у партыю, будзе патрэбны. Прышлі на мой адрас.

Чытаю Леніна II том «Выбран.<ых> твораў». Працую, павышаю свае веды ў мове.

Напішы, што за жонка ў Садоўскага, ды не забудзь перадаць ад мяне прывітанне шчаслівай пары.

Перадай прывітанне Доўжыку. Хаця я буду сам пісаць яму.

Ну пака бывай.

З прывітаннем!

P. S. Адрас Драпезы — прышлі.

Твой сябр *І. Я. Навуменка.*

30.XII.44

2.V.45

Здароў, мой дружа Мікола!

Дазволь цябе спачатку павіншаваць з святам 1-га Мая!

А яшчэ дазволь вылаяць цябе, нягодніка, за тое, што перастаў пісаць мне лісты.

Хіба ты не ведаеш, што я твой сябра, хіба ты не ведаеш, што я ў «Гірманіі» і сумую па кавалачку паперы з дому. Напэўна, па дзеўках ходзіш, стары бабыль.

Я свята правёў так сабе. Пагода была хмурая, на душы было смутна, бо дзень і ноч працую. Выпіў я ўсяго тры шклянкі гарэлкі. Вось і ўсё. А працаваць трэба — служба.

А ўвогуле на душы ў мяне май. Старую ведзьму Германію палажылі на дзве лапаткі і задубілі ёй падол, каб адрэзаць хвост.

Я рады, што дажыў да гэтага часу. То ба-ж та!

Няхай ведаюць, з кім захацелі мець справу.

Што ні дзень, то лепшыя паведамленні.

Увогуле, усё добра.

Толькі я маю страх, што мне яшчэ прыдзецца дастаткова паслужыць.

Пасля вайны не ахота быць ваенным.

Пішы, як у Вас там справы.

З маімі дзеўкамі мне не вязе. Сівой я зусім перастаў пісаць. Сяменаўна таксама ад рук адбілася.

Напэўна, дзеўка для мяне павінна нарадзіцца ў 1947 годзе. Тыя сапсаваліся.

Дружа Мікола, пішы пра свой быт і думы.

Я чакаў, чакаў ад цябе спраўкі, ды так і не дачакаўся. Відна, у цябе многа спраў.

Я хацеў бы ад цябе атрымаць ліст, дзе ты не пісаў мне пра твой маральны настрой і безканечныя планы, а напісаў, дзе Драпеза, Круглікаў ды іншыя нашы.

З гарачым прывітаннем з Германіі!

*Іван Навуменка.*

Здароў Коля!

Сардэчна вітаю цябе з заканчэннем гэтай вялікай барацьбы.

Тыя ідэалы, у якія мы верылі і за якія змагаліся,— перамаглі.

І ты, і я, і нашы таварышы былі чэснымі ў гэтай вайне. А гэта галоўнае.

Цяпер новая эра. Каваць сябе, падняцца ідэйна і ў грамаце ўвысь. Мне давядзецца яшчэ служыць. Я згодзен.

Але я ніколі не адвыкну ад дум аб універсітэце.

Настрой у мяне добры.

Я рад, што ўсё ж у будучым я буду грамадзянінам.

У мінулым годзе ў чэрвені і маі я ўжо быў, бадай, з зоркамі. З мяне ўсё ж не выдатны начальнік выйшаў бы. Тры месяцы гэтай вайны я быў «Швэйкам», а ўвесь астатні час ваяваў на адказных пасадах.

Чатыры разы прадстаўлены к узнагародзе, можа быць, удасца атрымаць.

Справа ў тым, што ў мяне няма прамога начальства.

Ну бывай! Жыві!

Рад за цябе.

Шлю фотакартку.

Твой сябра *Іван.*

2.6.45.

Здароў, сябра Мікола!

Даўно атрымаў твой ліст, але ўсё не мог дабраць часу адказаць. То работа, то другая якая-небудзь халера, але, як бачыш, сувязь у нас нетрывалая. З гэтага часу пастараюся пісаць больш-менш рэгулярна.

Жыву нядрэнна. У матэрыяльных адносінах нават добра. У маральных — таксама добра. Толькі вельмі многа часу займае работа. А хочацца пісаць.

За гэтыя два гады напісаў я дзясяткі два апавяданняў і аповесць. Аповесць будзе, мабыць, хутка надрукавана. Кніжачку апавяданняў табе высылаю. Спадзяюся, што вышлю з часам яшчэ некалькі кніжак.

Гэтай зімой думаю напісаць яшчэ адну аповесць аб пасляваенным жыцці і, калі будзе здароўе, засяду за нешта вялікае. Уласна кажучы, апавяданні, якія я напісаў і пішу,— падрыхтоўка да гэтай работы. Хваліцца рана, у апавяданні я сябе адчуваю даволі надзейна, а як будзе з вялікім палатном — невядома.

Але як бы там ні было — буду пісаць пра наша пакаленне, пра тыя гераічныя дні, якія мы разам з табой перажывалі. Трэба сабраць матэрыялаў, пагаварыць з людзьмі. Будзе час — прыеду летам на наша Палессе, каб сустрэцца з былымі партызанамі і падпольшчыкамі.

Добрыя былі мы хлопцы і добрыя справы рабілі. Ва ўсякім разе столькі разоў ставілі на карту жыццё. Але, браце, на зямлі ёсць многа дурняў, якія ці не хочуць, ці не могуць гэтага зразумець. Але, як той казаў, разумных людзей усё-такі больш.

Ты пісаў, што прыедзеш у Мінск. Прыязджай, Мінск — добры горад. Вып’ем гарэлкі, успомнім мінулае, пагаворым. Даўно ўжо мы не бачыліся.

Іван Доўжык п’е гарэлку, і я трохі баюся, каб не засасала яго абывательскае балота. Васенда якім быў дурнем, такім і застаўся. Праўда, ажаніўся, цяпер, можа, паразумнее.

Як ты там трымаешся? Напішы, я ж нічога не ведаю. Вельмі шкадую, што не здолеў з табой пабачыцца ў Васілевічах. Быў я там усяго чатыры дні, ды і то адзін дзень правёў з сынам.

Сын — добры. Калі будзе ўсё, як трэба, са здароўем, вырасце чалавекам.

Чакаю новага патомства. Дактары кажуць, што паявіцца на свет дачка.

Прывітанне тваёй Марыі і тваім чадам.

Пішы. *І. Навуменка.*

8.10.57 г.
г. Мінск

Мой адрас: Мінск, вул. Кірава,
дом № 11, кв. 16.

Прывітанне, Мікола!

Атрымаў два твае лісты, а таксама тэлеграму з прычыны майго саракагоддзя. Дзякуй за ўсё разам. І за фота дзякуй.

Жыву памалу, часта хварэлі дзеці. Праўда, апошні грып мы пераняслі досыць лёгка. Чытаю кнігі, трошкі пішу. Думаю, што праз год будзе ў мяне новая тоўстая кніга пра вайну. Некаторыя раздзелы пішуцца лёгка, але большасць — цяжка — апісваю і тое, чаго сам не бачыў, а толькі вывучыў.

Ад Манзіенкі я пісьма не палучаў. Яго адрас даў мне Рэпіч. З Рэпічам я не бачыўся, усё гэта ён мне сказаў па тэлефоне. Рэпіча я яшчэ не бачыў, сустрэнуся — распытаю.

Манзіенку я яшчэ не пісаў. Што мне яму напісаць? Хіба папрасіць, каб даў матэрыял, якога не ведаем мы з табой і які можна будзе выкарыстаць у кнізе. Адным словам, гэтага пытання я яшчэ не вырашыў. Летам я быў у Адэсе, каб ведаў, што там жыве Манзіенка, зайшоў бы да яго. Але ж тады я адраса яго не ведаў, і ніхто мне яго не даў.

Спецыяльна да Манзіенкі я не паеду, калі хоча, няхай прыедзе ў Мінск. Калі ў яго ёсць матэрыял, багаты матэрыял, можа, калі-небудзь удалося б напісаць кніжачку.

Нядаўна выйшла адна такая кніжачка Хрыстафора Прыбыля. Называецца «Особое задание». Такая, як і ў нас, група дзейнічала пад Бабруйскам.

Напішы, калі хочаш, Манзіенку. Я напішу яму, параіўшыся з Рэпічам.

Тваёй дзяўчынцы адкажу асобна. На журналістыку яна без стажу не паступіць, туды прымаюць толькі са стажам.

Вялікае прывітанне Марыі і ўсяму твайму сямейству.

Твой *Іван.*

2.III.65

**Да В. У. Быкава**

Дорогой Василь Владимирович прими искренние сердечные поздравления твоим шестидесятилетием и присвоением звания Героя Социалистического Труда — *Иван Науменко.*

[18.06.1984]

**Да Я. П. Веліхава**

117910 Москва В-485
Профсоюзная, 84/32
ак. Велихову Е. П.
Телетайп: Парсек 111325

Президиум АН БССР рекомендует для участия в форуме по проблеме ограничения вооружения

академика-секретаря отделения физико-математических наук АН БССР академика АН БССР Ф. И. Федорова. Может выступить по научным (физическим) аспектам ограничения вооружений.

Зав.<едующего> сектором Института литературы АН БССР члена-кор.<респондента> АН БССР А. М. Адамовича. Может выступить по гуманитарным, философско-литературным проблемам войны и мира.

Ученого секретаря отделения общественных наук АН БССР к.<андидата> и.<сторических> н.<аук> В. Е. Снапковского. Может выступить по вопросам, связанным с обсуждением в ООН проблем ограничения гонки вооружений, реакцией ООН на новые мирные инициативы СССР.

В качестве участников форума Президиум АН БССР рекомендует вице-президента АН БССР, академика АН БССР И. Я. Науменко, академика-секретаря ООН, академика АН БССР Н. В. Бирилло.

220072 Минск
Ленинский просп., 66
Президиум АН БССР

Вице-президент АН БССР
академик АН БССР *И. Я. Науменко.*

**Да У. М. Верамейчыка**

Паважаны Уладзімір Міхайлавіч!

Атрымаў Вашы вершы пра Васілевічы, і яны мне амаль усе спадабаліся. Асабліва пра Нехарань і «Горад вясковы». Што значыць — радзіма!

Пра «Суп з сюрпрызам» я двойчы гаварыў Дзяльцу, і ён двойчы размаўляў з дырэктарам выдавецтва. Адтуль пярэчаць: маўляў, слабаватая будзе кніга. Я выходзіў на Спрынчана, які паехаў у адпачынак, выйду на Жычку, які яго замяняе. Выйду і на дыр.<эктара> выд<авецт>ва, якога асабіста не ведаю.

Адным словам, навін пэўных няма. Але змагаемся. У ліпені я пайду ў адпачынак, але да таго што-небудзь Вам паведамлю.

Няхай жывуць Васілевічы, вясковы горад.

Ваш *І. Навуменка.*

16.06.87 г.

**Да А. І. Вярцінскага**

Галоўнаму рэдактару газеты
«Літаратура і мастацтва»
т. Вярцінскаму А.

У сувязі з надрукаваннем артыкула «Затапленне» (ЛіМ, 02.01.87 г.) паведамляем, што ў гэтай зоне знаходзіцца 30 помнікаў археалогіі. Да цяперашняга часу часткова вывучаны 7. Пасля прыняцця 20.03.1986 г. Саветам Міністраў Беларускай ССР пастановы «Аб мерапрыемствах па падрыхтоўцы зоны затаплення вадасховішча Даўгаўпілскай ГЭС на тэрыторыі Віцебскай вобласці», а таксама вырашэння шэрагу пытанняў у Прэзідыуме АН БССР, звязаных з павелічэннем колькасці работнікаў і выдзяленнем адпаведнага фонду заработнай платы, стала магчымым праводзіць у вялікіх маштабах археалагічнае даследаванне помнікаў, якія падлягаюць затапленню. З 1986 г. Інстытут гісторыі АН БССР атрымлівае запланаваныя яму асігнаванні ў памеры 40 тыс. рублёў штогод. Значэнне помнікаў, што знаходзяцца на гэтай тэрыторыі, вялікае. І АН БССР прымае захады па іх вывучэнню.

Віцэ-прэзідэнт АН БССР
акадэмік АН БССР *І. Я. Навуменка.*

[1987]

**Да Н. С. Гілевіча**

Першаму сакратару
праўлення Саюза пісьменнікаў
БССР
тав. Гілевічу Н. С.

У адказ на Ваша пісьмо ад 22.12.86 г. № 560 паведамляем, што стварыць у Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР аддзел па вывучэнню дзіцячай літаратуры ў сучасны момант практычна немагчыма, паколькі інстытут не мае адзінак для пашырэння сваёй структуры.

Разам з тым, улічваючы важную ідэйна-выхаваўчую ролю дзіцячай літаратуры і актуальнасць праблемы яе далейшага развіцця ў рэспубліцы, інстытут мае намер стварыць групу па вывучэнню дзіцячай літаратуры ў межах існуючай структуры і не выключае ў будучым (у наступнай пяцігодцы) стварэнне асобнага аддзела, мяркуючы пачаць работу ў гэтым напрамку з падрыхтоўкі адпаведных кадраў праз аспірантуру ўжо з гэтага года.

Віцэ-прэзідэнт АН БССР
акадэмік АН БССР *І. Я. Навуменка*

[1986—1987]

**Да У. А. Гілепа**

Намесніку міністра культуры БССР
тав. Гілепу У. А.

Пытанне аб кансервацыі апрацаванага археолагамі дрэва, якое зараз складзена ў раскопе каля станцыі метро «Няміга», было разгледжана з удзелам спецыялістаў Інстытута гісторыі АН БССР. Кансервацыю вырашана правесці на базе Беларускага тэхналагічнага інстытута ў г. Барысаве.

Што датычыць адкапаных участкаў абарончага вала XII ст., якія дагэтуль знаходзяцца ў непарушаным выглядзе, дык неабходна прыкласці ўсе намаганні, каб закансерваваць іх на месцы, у межах раскопу.

Віцэ-пр.<эзідэнт АН БССР> *І. Я. Навуменка.*

[1989—1990]

**Да Пятра Глебкі**

Дарагі Пятро Фёдаравіч!

Шчыра віншую Вас і Вашу сям'ю з вялікім святам Кастрычніка. Жычу добрага здароўя, новых кніг, бадзёрага настрою.

*Навуменка.*

[1967]

**Да В. М. Гурбо**

10 февраля [1977 г.]

Председателю Слуцкого городского
Совета депутатов трудящихся
т. Гурбо В. М.

Уважаемый Василий Михайлович!

Ко мне обратилась Илюкевич Софья Васильевна, сортировщица длинного волокна Слуцкого льнозавода. Она строит дом, на кирпичном заводе часть кирпича ей продали. Но для достройки еще надо 4—5 тысяч белого или красного кирпича и тонна цемента.

Илюкевич С. В.— в числе лучших работниц завода, перевыполняет нормы и заслуживает того, чтобы ей помогли с постройкой дома.

С искренним уважением!

Депутат Минского обл.<астного> Совета
директор Института
литературы им. Я. Купалы АН БССР
член-корреспондент АН БССР *И. Я. Науменко.*

**Да І. Г. Дарашкевіча**

10 февраля [1977 г.]

Председателю Дзержинского райсовета
депутатов трудящихся
т. Дорошкевичу И. Г.

Уважаемый Иосиф Георгиевич!

Ко мне уже во второй раз обращается гр<аждан>ка Вариоцкая М. А. (г. Дзержинск, ул. Кирова, 10, кв. 18) по вопросу о невозможности совместного проживания с гр<аждан>кой Гинтовой в их совместной двухкомнатной квартире.

Я уже обращался к секретарю Дзержинского РК КПБ т. Н. Павличкову и получил ответ, что вопрос о неуживчивости Вариоцкой и Гинтовой рассматривался на заседании исполкома 14.10.76 г. и Гинтовой запрещено проживание в ее комнате внуков.

Но, как опять сообщает Вариоцкая М. А., действенных мер принято не было, и Вариоцкую М. А. по-прежнему оскорбляют соседка и ее внуки.

Выход, наверно, в том, что этих людей надо расселить, подселив к Вариоцкой М. А. другую одинокую женщину.

С уважением!

Депутат Минского областного Совета,
директор Института литературы
им. Я. Купалы АН БССР
член-корреспондент АН БССР *И. Я. Науменко.*

**Да М. І. Дземчука**

31.07.91

Намесніку Старшыні Савета
Міністраў Беларускай ССР
М. І. Дземчуку

Аб навуковай канферэнцыі па
праблемах беларускага правапісу

Прэзідыум Акадэміі навук БССР паведамляе, што ў адпаведнасці з п. 6 р. V Дзяржаўнай праграмы развіцця беларускай і іншых нацыянальных моў у Беларускай ССР Інстытутам мовазнаўства імя Я. Коласа АН БССР унесена заяўка на правядзенне ў 1992 г. навуковай канферэнцыі па праблемах беларускага правапісу.

У плане падрыхтоўкі да канферэнцыі ў маі бягучага года адбылося пасяджэнне Навуковага савета па мовазнаўству, у якім прынялі ўдзел вядучыя моваведы ВНУ рэспублікі і Інстытута мовазнаўства АН БССР. У ходзе абмеркавання было прапанавана стварыць рабочыя групы пры ВНУ, якія б на аснове аналізу матэрыялаў вызначылі кола пытанняў беларускага правапісу, што патрабуюць свайго вырашэння. У Інстытуце мовазнаўства такая група створана. У яе склад увайшлі члены-карэспандэнты АН БССР А. І. Падлужны і А. І. Жураўскі, дактары філалагічных навук Г. А. Цыхун, В. П. Лемцюгова, А. М. Булыка, кандыдаты філалагічных навук А. У. Арашонкава, І. І. Крамко, А. А. Крывіцкі. Задача гэтай групы — разгледзець існуючыя правілы беларускага правапісу і вызначыць, якія з іх патрабуюць удасканалення.

На пасяджэнні было выказана меркаванне, што на канферэнцыі трэба абмеркаваць усё кола пытанняў. Пасля канферэнцыі кампетэнтная камісія на аснове аналізу ўсіх матэрыялаў павінна ўнесці канкрэтныя прапановы па ўдасканаленню існуючага правапісу.

Згодна з Вашым даручэннем ад 2.7.91 № 12/70 бюро аддзялення грамадскіх навук разгледзела пытанне аб аргкамітэце

канферэнцыі, прысвечанай удасканаленню беларускага правапісу. У сувязі з тым, што аргкамітэт павінен аб'яднаць прадстаўнікоў АН БССР, Міністэрства народнай адукацыі БССР, Міністэрства культуры БССР, Саюза пісьменнікаў БССР, было б мэтазгодным, каб старшынёй аргкамітэта быў прызначаны адзін з намеснікаў старшыні Савета Міністраў рэспублікі, а намеснікамі старшыні, адпаведна, па аднаму прадстаўніку ад усіх вышэйназваных бакоў.

У склад аргкамітэта на падставе рэкамендацый АН БССР, Міністэрства народнай адукацыі БССР, Міністэрства культуры БССР, Саюза пісьменнікаў БССР прапануюцца:

| | | |
|---|---|---|
| 1. Абабурка Мікалай Васільевіч | — | дацэнт кафедры беларускай мовы Магілёўскага дзяржпедінстытута імя А. Куляшова |
| 2. Алейнік Галярыта Мікалаеўна | — | дырэктар бібліятэкі імя У. І. Леніна |
| 3. Анічэнка Уладзімір Васільевіч | — | прафесар Гомельскага дзяржуніверсітэта імя Ф. Скарыны, доктар філалагічных навук |
| 4. Банько Васіль Канстанцінавіч | — | вучоны сакратар аддзялення грамадскіх навук АН БССР, кандыдат філасофскіх навук |
| 5. Бірыла Мікалай Васільевіч | — | акадэмік-сакратар аддзялення грамадскіх навук АН БССР, акадэмік АН БССР |
| 6. Біч Міхаіл Восіпавіч | — | намеснік дырэктара Інстытута гісторыі АН БССР, доктар гістарычных навук |
| 7. Булыка Аляксандр Мікалаевіч | — | загадчык аддзела беларуска-рускіх моўных сувязей Інстытута мовазнаўства АН БССР, доктар філалагічных навук |

| | | |
|---|---|---|
| 8. Данільчык Зінаіда Пятроўна | — | дацэнт кафедры беларускай мовы Гродзенскага дзяржуніверсітэта імя Я. Купалы, кандыдат філалагічных навук |
| 9. Кабашнікаў Канстанцін Паўлавіч | — | загадчык аддзела славістыкі Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР, доктар філалагічных навук |
| 10. Клышка Анатоль Канстанцінавіч | — | пісьменнік (ад Саюза пісьменнікаў БССР) |
| 11. Лозка Аляксандр Юр'евіч | — | старшыня Рады Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны АН БССР, кандыдат філалагічных навук |
| 12. Лыч Леанід Міхайлавіч | — | вядучы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі АН БССР, доктар гістарычных навук |
| 13. Малажай Галіна Мікалаеўна | — | прафесар Брэсцкага педінстытута імя А. С. Пушкіна, доктар філалагічных навук |
| 14. Маслоўскі Віталь Іванавіч | — | вядучы спецыяліст Міністэрства народнай адукацыі БССР |
| 15. Навуменка Іван Якаўлевіч | — | віцэ-прэзідэнт АН БССР, акадэмік АН БССР |
| 16. Несцяровіч Віктар Іванавіч | — | загадчык кафедры беларускай мовы і літаратуры Віцебскага дзяржпедінстытута імя С. М. Кірава, кандыдат філалагічных навук, дацэнт |
| 17. Падлужны Аляксандр Іосіфавіч | — | дырэктар Інстытута мовазнаўства імя Я. Коласа АН БССР, член-карэспандэнт АН БССР |

| | | |
|---|---|---|
| 18. Рылатка Уладзімір Пятровіч | — | намеснік міністра культуры БССР |
| 19. Сакалоўская Ала Станіславаўна | — | загадчык кафедры беларускай мовы і нацыянальнай культуры Мінскага дзяржпедінстытута замежных моў, кандыдат філалагічных навук, дацэнт |
| 20. Саўчук Тамара Мікалаеўна | — | галоўны інспектар Міністэрства народнай адукацыі БССР |
| 21. Стапановіч Іосіф Міхайлавіч | — | намеснік старшыні Рады Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны АН БССР, кандыдат біялагічных навук |
| 22. Сухнат Людміла Канстанцінаўна | — | першы намеснік міністра народнай адукацыі БССР |
| 23. Сцяцко Павел Уладзіміравіч | — | прафесар Гродзенскага дзяржуніверсітэта імя Я. Купалы, доктар філалагічных навук |
| 24. Цішчанка Іван Кірылавіч | — | старшы навуковы супрацоўнік Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР, кандыдат філалагічных навук |
| 25. Цыхун Генадзь Апанасавіч | — | загадчык аддзела славянскага і тэарэтычнага мовазнаўства Інстытута мовазнаўства імя Я. Коласа АН БССР, доктар філалагічных навук |
| 26. Шакун Леў Міхайлавіч | — | прафесар Беларускага дзяржуніверсітэта імя У. І. Леніна, доктар філалагічных навук |

| | | |
|---|---|---|
| 27. Шуба Павел Паўлавіч | — | прафесар Беларускага дзяржуніверсітэта імя У. І. Леніна, доктар філалагічных навук |
| 28. Юрэвіч Уладзімір Міхайлавіч | — | пісьменнік (ад Саюза пісьменнікаў БССР) |
| 29. Яскевіч Аляксандр Сямёнавіч | — | старшы навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры імя Я. Купалы АН БССР, кандыдат філалагічных навук |

Віцэ-прэзідэнт АН БССР
акадэмік АН БССР *І. Я. Навуменка.*

**Да М. І. Дзяльца**

Председателю
Госкомиздата БССР
тов. Дельцу М. И.

Уважаемый Михаил Иванович!

В 1982 г. издательство «Наука и техника» выпустило в свет первый том «Истории белорусского театра» (дооктябрьский период) тиражом в 1350 экз.<емпляров>. Книга в течение короткого срока была распродана. Нам известно, что многие желающие приобрести I том сейчас не имеют этой возможности.

Планом того же издательства предусмотрено издание второго тома «Истории белорусского театра» (1917—1945 гг.). Естественно, что этот том, затрагивающий более близкий к нам период, вызовет значительно больший интерес и спрос со стороны любителей театра. Этот интерес возрастет еще более, когда речь пойдет об издании третьего тома, охватывающего период от 1945 по 1985 гг. (план издания 1986 г.).

В связи с этим Президиум АН БССР просит Вас решить вопрос об увеличении тиража издания «Истории белорусского театра» — II тома до 2—2,5 тыс. экз.<емпляров>, III тома — до 3—3,5 тыс. экз.<емпляров>.

С уважением

Вице-президент АН БССР
академик АН БССР *И. Я. Науменко.*

[1984]

Председателю
Госкомиздата БССР
тов. Дельцу М. И.

Уважаемый Михаил Иванович!

Планом издания издательства «Наука и техника» на 1986 г. предусмотрена публикация третьего тома «Истории белорусского театра» объемом в 50 п.<ечатных> л.<истов>.

Предыдущий, второй том, посвященный развитию театра с 1917 по 1945 г., выйдет в конце 1984 г. в объеме до 50 п.<ечатных> л<истов>.

Если 2 том охватывает период в 28 лет и является по содержанию чисто историческим, то 3 том (1945—1985) освещает не только более продолжительную по времени историю театра, но и ставит проблемы его современного развития.

Чтобы более-менее обстоятельно осветить современный период развития театра с его многочисленными аспектами и проблемами, крайне необходимо увеличить объем 3 тома хоты бы до 65 листов.

В связи с этим Президиум АН БССР просит разрешить издание 3 тома «Истории белорусского театра» объемом в 65 п.<ечатных> л.<истов>. При этом следует учесть, что 1 и 2 тома вместо плановых 100 п.<ечатных> л.<истов> имеют объем только 88 п.<ечатных> л.<истов>. Просим также разрешить издательству печатание 3 тома на другой полиграфи-

ческой базе, т. к. по техническим причинам типография издательства «Наука и техника» может издавать книги объемом не более 50 п.<ечатных> л.<истов>.

С уважением

Вице-президент АН БССР
академик АН БССР *И. Я. Науменко.*

[1984]

Председателю
Госкомиздата БССР
тов. Дельцу М. И.

Издательство «Наука и техника» в 1984—1986 гг. публикует подготовленный в Институте истории АН БССР четырехтомный труд «История рабочего класса Белорусской ССР» общим объемом около 150 печ.<атных> листов. Опубликование его за счет выделяемого институту листажа привело к накоплению значительного числа готовых к печати работ.

В связи с этим просим отнести запланированный к изданию на 1986 год 4-й том «Истории рабочего класса Белорусской ССР» за счет неакадемических авторов.

Вице-президент АН БССР
академик АН БССР *И. Я. Науменко.*

[1985—1986]

5.12.88

Старшыні Дзяржкамвыда БССР
тав. Дзяльцу М. І.

Паважаны Міхаіл Іванавіч!

Кіруючыся пастановай ЦК КПБ і Савета Міністраў БССР ад 24 лютага 1988 г. аб развіцці Акадэміі навук рэспублікі, Рэдакцыйна-выдавецкі савет акадэміі і выдавецтва «Навука і тэхніка» праводзяць пэўную работу па ўдасканаленні рэдакцыйна-выдавецкага працэсу. Але відавочна, што кардынальных зрухаў тут можна дасягнуць толькі на шляху ўкаранення сучаснай шрыфтанаборнай тэхнікі. Асабліва гэта датычыць малатыражных выданняў, якія складаюць абсалютную большасць кніжнай навуковай прадукцыі акадэміі. Таму звяртаемся да Вас з просьбай пры размеркаванні тэхнікі выдзеліць для выдавецтва «Навука і тэхніка» тры шрыфтанаборныя машыны «Тыпатайпер-3».

Віцэ-прэзідэнт АН БССР
старшыня РВС АН БССР
акадэмік АН БССР *І. Я. Навуменка.*

Председателю Государственного комитета
Белорусской ССР по делам издательств,
полиграфии и книжной торговли
тов. Дельцу М. И.

Пунктом 11.4 постановления Совета Министров БССР от 28 апреля 1977 г. № 129 «О ставках авторского вознаграждения за издание произведений науки, литературы и искусства» предусмотрено, что авторам ранее опубликованных в энциклопедических изданиях статей за перепечатку их в переизданиях или новых энциклопедических изданиях авторское вознаграждение не выплачивается, если объем перепечатанных статей не превышает 10 000 печатных знаков.

Такое положение противоречит действующему законодательству, согласно которому авторское вознаграждение выплачивается во всех случаях использования произведений, за исключением прямо предусмотренных в законе.

Случаи использования произведений без выплаты авторского вознаграждения предусмотрены статьей 489 Гражданского кодекса БССР, в которой не содержится указания на возможность безгонорарного переиздания статей в энциклопедических изданиях.

Перепечатка статей без выплаты гонорара вызывает справедливое недовольство авторов, создающих произведения для энциклопедических изданий, поскольку они поставлены в худшие условия по сравнению с другими авторами (в частности, за переиздание афоризмов, крылатых слов и т. п. произведений авторское вознаграждение выплачивается, несмотря на то что объем этих произведений исчисляется далеко не тысячами печатных знаков).

В связи с изложенным, просим Госкомиздат БССР войти в Совет Министров БССР с предложением исключить из названного постановления пункт 11.4 как не соответствующий действующему законодательству об авторском праве.

В других союзных республиках нет ограничений в выплате авторского вознаграждения за переиздание статей в энциклопедических изданиях.

Начальник Белорусского
республиканского отделения ВААП
В. А. Хорсун

Вице-президент
Академии наук БССР
*И. Я. Науменко.*

**Да Додзіна**

Уважаемый товарищ Додин!

Просим Вас организовать для нашего журнала материал на тему: «Полет на Марс». Желательно, чтобы в этом материале были отражены новейшие открытия ядерной физики и возросшие в связи с этим возможности межпланетного сообщения.

Материал хочется иметь популярный, хорошо написанный. Размер материала 6—8 страниц на машинке, желательный срок — 10 марта.

Ваш материал «Музей революции» помещен в февральском номере. Давайте что-либо свое.

С товарищеским приветом!

Зав.<едующий> отделом науки
и студенческой молодежи *И. Науменко*

[1956]

**Да П. С. Кабзарэўскага**

Дорогой Павел Семенович!

Опоздал, но стараюсь держать слово. Высылаю рассказ «Сіні снег» (из новых, нигде не печатавшихся). Если подойдет, возьмите.

Было много дел, да и загрипповал напоследок. Этим стараюсь оправдаться.

Спасибо Вам за заботу.

С уважением, приветом!

*И. Науменко.*

6.III.68 г.

Дорогой Павел Семенович!

Янка Брыль мне сказал, что требуется еще один мой рассказ. В качестве такового можно взять «Ять» (он Вам, кажется, нравился) или «Рельсы». Печатались они по-русски только один раз. Можно и перевести еще раз, поскольку перевод не блещет прежний.

Впрочем, можете взять, что Вам больше нравится, полагаюсь на Ваш вкус.

Спасибо за заботу обо мне.

С приветом, дружеским и теплым.

*И. Науменко.*

31.III.68 г.

Дорогой Павел Семенович!

Несколько дней назад послал Вам письмо, но, по-видимому, оно не дошло. Рассказ «Синий снег» (он таки на пяти страницах), конечно, не из лучших. Просто этюд. Высылаю Вам сборник, переведите, если сможете по времени, «Трымценне дубовага лісця».

Русских текстов поэтому не высылаю. Этот рассказ опубликован в сборнике «Путешествие в юность» («Сов.<етский> писатель», 1967. М.). Перевод его сделан неважно, и я хотел бы, чтобы Вы его перевели.

С уважением, дружеским приветом!

*И. Я. Науменко*

8.IV.68 г.

P. S. Можете перевести на свой вкус любой рассказ из этого сборника.

Простите, что причинил Вам столько хлопот.

Дорогой Павел Семенович!

Посылаю Вам «Валошкі ў жыце». По-моему, рассказ так себе. Погоды не сделает. Но раз обещал — высылаю. Извините, что не сделал этого раньше. Было много разных забот и хлопот. Докторскую диссерт.<ацию> защитил. Завтра едем в Гагры с семьей.

Желаю Вам доброго здоровья и всяких других благ.

Ваш *И. Науменко.*

16.VI.69 г.

Дорогой Павел Семенович!

Поздравляю с Новым Годом!

Желаю доброго здоровья, творческих успехов, хорошего настроения и прочих жизненных радостей.

Крепко жму Вашу трудовую талантливую руку.

*И. Науменко.*

Дорогой Павел Семенович!

Поздравляю Вас и все Ваше семейство с Новым годом!

Желаю доброго здоровья, творческого настроения, всяких — больших и обычных — успехов.

*И. Науменко.*

**Да В. А. Каваленкі**

Дырэктару Інстытута
літаратуры АН БССР
чл.<ену>-кар.<эспандэнту> АН БССР
Каваленку В. А.

Нягледзячы на маё папярэджанне, нейкі Белы А. Я. (у чэрвені 1986 г. ён нібыта прадстаўляў клуб калекцыянераў «Пошук», цяпер, праз чатыры месяцы, прадстаўляе клуб «Спадчына») прыняў удзел у «Скарынінскіх чытаннях», якія

арганізаваў і правёў інстытут. Больш таго, не з'яўляючыся членам Саюза мастакоў, Белы А. Я. наладзіў у сценах Акадэміі навук БССР выстаўку ўласных твораў, а за правядзенне «Скарынінскіх чытанняў» «ўзнагародзіў» ад імя клуба «Спадчына» самаробнымі медалямі і граматамі некаторых супрацоўнікаў інстытута і іншых асоб.

Нагадваю, што выстаўка Белага А. Я., назначаная на 12.06—26.06.86 г. у Палацы Белсаўпрофа, была забаронена дырэктыўнымі органамі.

Кіруючыся вышэйсказаным, прашу сабраць «граматы» і «медалі», раздадзеныя Белым А. Я., супрацоўнікам інстытута і вярнуць іх па прызначэнню, г. зн. самому Беламу А. Я.

Прашу ў будучым падобных з'яў не дапускаць.

Віцэ-прэзідэнт АН БССР
акадэмік АН БССР *І. Я. Навуменка.*

[лістапад 1986 г.]

**Да М. В. Кавалёва**

21.07.86

Председателю Совета
Министров БССР
тов. Ковалеву М. В.

Глубокоуважаемый Михаил Васильевич!

Академия наук Белорусской ССР испытывает значительные трудности с обеспечением жильем сотрудников. Многие доктора, кандидаты наук, не говоря о младшем научном и инженерно-техническом персонале, живут в неблагоприятных условиях. Если обеспечение жильем будет сохранено на настоящем уровне, то понадобится более тридцати лет, чтобы удовлетворить нуждающихся (в очереди около 2000 человек).

Академия наук практически лишена возможности принимать на работу молодых специалистов. Мы не можем

васць стаўлення Навуменкі, дэпутата Мінскага абласнога Савета дэпутатаў, да сваіх абавязкаў народнага абранніка. Гэта прамова, а таксама выступленні пісьменніка на ўрачыстых вечарынах, прысвечаных 70-годдзю Максіма Танка (1982) і 150-годдзю з дня смерці А. С. Пушкіна (1987), на гадавым сходзе аддзялення грамадскіх навук АН Беларусі (1981) у значнай меры выклікаюць цікавасць не толькі як тэксты, напісаныя І. Навуменкам, але і як дакументы эпохі. Яны сведчаць пра тое значэнне, якое надавалася пісьменніку, пра тую ролю, якую адыгрывалі ў грамадстве вялікія творчыя асобы, урэшце, пра самую атмасферу часу, калі мастацкая культура, і літаратура ў прыватнасці, была «магутнай ідэйнай зброяй партыі і народа». Так, адзначаючы як несумненнае дасягненне правядзенне Інстытутам літаратуры імя Янкі Купалы канферэнцый, прысвечаных 500-гадоваму юбілею Міколы Гусоўскага і 300-гадоваму — Сімяона Полацкага, кажучы пра набліжэнне 500-годдзя з дня нараджэння Ф. Скарыны, у справаздачы на сходзе аддзялення грамадскіх навук І. Навуменка канстатуе: «Не сакрэт, што ў свеце яшчэ ёсць сілы, якія свядома ці несвядома прыніжаюць славянскія культуры, як і гістарычную ролю славянскіх народаў. Уздымаючы, паказваючы ў сапраўдным гістарычным, культурным, мастацкім святле такіх выдатных дзеячаў, як Мікола Гусоўскі, Сімяон Полацкі, Францыск Скарына, мы гэтым самым не толькі выхоўваем пачуццё патрыятызму, гордасці за сваю зямлю, народ у нашых суайчыннікаў, але і даем ідэалагічную водпаведзь ідэйным праціўнікам». Безумоўна, у гэтых словах адбілася і даніна часу — часу, калі існаваў выразны падзел на два светы, з іх непрымірымымі супярэчнасцямі. Аднак тут апрача іншага выказана і вельмі важная для І. Навуменкі думка — пра веліч славянскай культуры, пра адзінства славянскіх народаў. З асаблівай сілай гэта думка прагучыць у дакладзе пісьменніка і літаратуразнаўцы «Адраджэнне славян і творчасць В. Дуніна-Марцінкевіча» (1993) на XI з’ездзе славістаў у Браціславе. Гэта быў чацвёрты і апошні славістычны форум, у якім браў удзел І. Навуменка. На двух папярэдніх, у Кіеве і Сафіі, тэмай яго выступленняў была творчасць Янкі Купалы і Якуба Коласа — пісьменнікаў, даследаванню спадчыны якіх ён прысвяціў амаль усё сваё навуковае жыццё, да якіх вяртаўся зноў і зноў. «Пастаянна дапісваю свае кнігі «Янка Купала. Духоўны воблік героя» і «Якуб Колас. Духоўны воблік героя». Па сутнасці, гэта не дзве кнігі, а кніг дзесяць»,— прызнаваўся І. Навуменка ў інтэрв’ю «Час абуджае

думку творцаў» (1986). Выдадзеныя асобнымі брашурамі даклады «Творчество Янки Купалы и Якуба Коласа в контексте славянских литератур» (1983) і «Элементы міфалогіі ў паэзіі Янкі Купалы і Якуба Коласа» (1988) фактычна і былі тымі працамі, якія паглыблялі, удакладнялі, развівалі многія праблемы, закранутыя даследчыкам раней, або адкрывалі новыя ракурсы аналізу спадчыны песняроў. У згаданых выступленнях погляд аўтара скіроўваецца найперш на народна-паэтычную падаснову творчасці Янкі Купалы і Якуба Коласа, на вытокі іх вобразнага мыслення, якія вынікаюць з міфалагічнага бачання свету. Пры гэтым у першым з дакладаў большая ўвага надаецца светапоглядным пытанням, адметнасцям індывідуальнай аўтарскай манеры волатаў беларускага слова, іх сувязям з польскай, рускай і ўкраінскай літаратурай, а таксама працягу іх традыцый у айчыннай паэзіі і прозе. Другі даклад тычыцца ў большай ступені паэтыкі твораў Янкі Купалы і Якуба Коласа, у ім раскрываюцца вобразнае багацце, рытмічныя, інтанацыйныя, гукавыя асаблівасці верша двух творцаў. Але і ў першым, і ў другім выпадку даследчык канцэнтруецца пераважна на творчасці Янкі Купалы і Якуба Коласа, амаль не закранаючы біяграфіі, асабістых момантаў жыцця аўтараў. Хоць, як сцвярджаў І. Навуменка ў гутарцы з М. Мікулічам («Усякаму пакаленню трэба баявая справа…», 1997), усіх пісьменнікаў, пра якіх пісаў,— Я. Купалу, Я. Коласа, В. Дуніна-Марцінкевіча, З. Бядулю і М. Багдановіча — ён «спасціг больш-менш глыбока як людзей, асоб». Выдатным доказам гэтаму служыць ужо згаданы вышэй даклад, прысвечаны В. Дуніну-Марцінкевічу. Сапраўды, асоба аўтара, ва ўсёй разнастайнасці яе біяграфічных і псіхалагічных чыннікаў, разгалінаваных грамадскіх і прыватна-сяброўскіх сувязяў, прэзентаваная на вялікім сацыяльна-палітычным фоне эпохі, становіцца стрыжнем цэласнага аналізу творчасці аднаго з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры. Такі падыход яскравей высвечваў і асобу самога І. Навуменкі — навукоўца-літаратуразнаўцы і чалавека, які акцэнтаваў увагу на сугучных яму светапоглядных установках «аб'екта даследавання». Гэта, як ужо зазначалася, была прыхільнасць да ідэі славянскай супольнасці. «В. Дунін-Марцінкевіч разумеў і засведчыў сваёй творчасцю, што існуе яўнае міжславянскае супрацоўніцтва, усведамленне славянскай еднасці, якое абапіраецца ў першую чаргу на давер да Расіі. Не трэба ў Марцінкевіча шукаць ідэі рэакцыйнага панславізму, яе няма. Ёсць адчуванне славянскай агульнасці, прагнае жаданне свабоды, вольнасці кожнаму з вялікіх

ці малых славянскіх народаў»,— заўважае І. Навуменка. Ідэя славянскай еднасці, якая выступала, гаворачы словамі даследчыка, «рухавіком Адраджэння» славянскіх народаў у часы В. Дуніна-Марцінкевіча, была дарагой яму і бачылася асабліва актуальнай у пераломныя 90-я гады мінулага стагоддзя, калі рушыліся былыя трывалыя міжасобасныя і міждзяржаўныя сувязі. У гэтым нескладана пераканацца, калі ўважліва прачытаць дзённікавыя запісы пісьменніка таго ж 1993 года, якім пазначана і выступленне на з'ездзе славістаў, а таксама яго інтэрв'ю гэтага перыяду.

Плёнам навуковай дзейнасці І. Навуменкі былі не толькі выступленні, артыкулы, манаграфіі, але і водзывы на дысертацыі, якія, як вядома, афіцыйна не друкуюцца, а зачытваюцца падчас абароны і захоўваюцца ў асабістых справах суіскальнікаў навуковай ступені. У архіве пісьменніка ў БДАМЛМ знаходзяцца чатыры ўзоры гэтага навуковага жанру, якія і ўвайшлі ў 10-томны Збор твораў. Першае, што звяртае на сябе ўвагу, калі знаёмішся з гэтымі тэкстамі,— надзвычайная дасведчанасць навукоўца, прычым не толькі ў галіне літаратуразнаўства, грунтоўнае веданне прадмета рэцэнзаванай дысертацыі, індывідуальны падыход да асобы аўтара навуковай працы. Так, водзыў на доктарскую дысертацыю П. Дзюбайлы «Современный белорусский роман», які датуецца 1971 годам, уяўляе сабой, хутчэй, своеасаблівы навукова-творчы дыялог з суіскальнікам. І. Навуменка не проста дае характарыстыку рабоце, але і дзеліцца сваім поглядам на беларускі раман 1955—1970 гадоў, асаблівасці ўсёй айчыннай прозы таго перыяду, на само паняцце сучаснасці мастацкага твора. Аналізуючы структуру дысертацыі, аўтар водзыву выказвае канцэптуальную заўвагу: адсутнасць у працы раздзела, прысвечанага даследаванню традыцый беларускай раманістыкі. І гэтая заўвага не застаецца галаслоўнай. І. Навуменка пераканаўча даказвае, што беларускі раман 1955—1970 гадоў вельмі цесна знітаваны з лепшымі творамі папярэдніх перыядаў у развіцці айчыннай літаратуры, асабліва з творчым вопытам Якуба Коласа і Кузьмы Чорнага. У прыватнасці, ён звяртае ўвагу на тое, што шэраг твораў пра Вялікую Айчынную вайну працягваюць і развіваюць ідэі, закладзеныя ў нясконччаных «ваенных» раманах К. Чорнага.

Уважліва, добразычліва, аднак у той самы час крытычна, уступаючы ў некаторых момантах у палеміку з дысертантам, прачытвае І. Навуменка і ўсе раздзелы навуковай працы. Паводле зробленых ім заўваг, расстаўленых акцэнтаў складваецца цэласнае ўяўленне

як пра саму працу, так і пра адметнасць беларускай раманістыкі і стан літаратуразнаўчай думкі таго часу. Вылучаныя І. Навуменкам у якасці найбольш удалых момантаў дысертацыі развагі П. Дзюбайлы пра тое, што раман у 1-й палове 1960-х гадоў заняў у айчыннай прозе сваё законнае месца, як бы ўзначаліўшы астатнія празаічныя жанры, што найбольш значных поспехаў дасягнулі ў той час пісьменнікі, якія звярталіся да жыццёвага матэрыялу, звязанага з іх духоўным, жыццёвым вопытам, што самым шырокім стылёвым кірункам у беларускай прозе названага перыяду быў рэалістычна-аналітычны, прадстаўлены імёнамі І. Мележа, І. Шамякіна, В. Быкава, І. Пташнікава, вытрымалі праверку часам, даказалі рацыю і дысертанта, і яго апанента.

Знаўцам не толькі беларускай літаратуры, але і айчыннага кіно паказвае І. Навуменку датаваны 1975 годам воздыў на доктарскую дысертацыю Е. Бондаравай «Проблемы белорусского киноискусства и печать». У ім ён дае вельмі высокую ацэнку суіскальніцы навуковай ступені, называючы Е. Бондараву самым аўтарытэтным даследчыкам беларускага кіно, згадваючы, што яе артыкулы з’явіліся яшчэ ў першыя пасляваенныя гады. Аднак тут жа задаецца заканамерным пытаннем: ці правамерна суіскальніца прэтэндуе на ступень доктара філалагічных навук, бо тэорыя кіно — гэта ўсё-такі галіна мастацтвазнаўца. І станоўча адказвае на яго: «Думаю, што мы можам разглядаць дысертацыю Е. Л. Бондаравай, бо ў ёй даследуюцца не толькі праблемы беларускага кінамастацтва 1968—1974 гг. (у пэўнай меры праблемы ўсёй гісторыі беларускага кінамастацтва), а і тое, як гэтыя праблемы адлюстроўваюцца ў друку, як абмяркоўваюцца шырокай грамадскасцю. А гэта ўжо прадмет журналістыкі, філалогіі…» І ўсё ж большая частка водзыву прысвечана менавіта праблемам кіно, адлюстраваным у дысертацыі. І. Навуменка пагаджаецца з Е. Бондаравай, што плённыя тэндэнцыі кінамастацтва рэспублікі, найвышэйшыя пункты яго ўзлёту звязаны з патрыятычнай тэмай, паказам гераізму народа ў Вялікую Айчынную вайну, і характарызуе яе назіранні і высновы з гэтай нагоды як правільныя і трапныя. У той жа час, звяртаючы ўслед за даследчыцай увагу на тое, што айчыннае кіно не можа пахваліцца асаблівымі поспехамі ў адлюстраванні сучаснага дня краіны, перамен у сацыяльным, духоўным клімаце грамадства, І. Навуменка робіць ёй заўвагу ў недастаткова глыбокай пастаноўцы пытання, у чым прычыны і вытокі такога зацяжнога крызісу, у адсутнасці канцэнтрацыі

на ўсіх яго аспектах. Аўтар водзыву асабліва падкрэслівае, што праблемай нумар адзін для беларускага кіно Е. Бондарава лічыць мастацкую якасць сцэнарыя, то бок драматургіі, літаратурнай асновы. І тут ён таксама слушна папракае дысертантку ў тым, што яна недастаткова завастрыла ў сваёй працы пытанне, чаму кінастудыя «Беларусьфільм» выпускае так шмат «сярэдніх» і няўдалых фільмаў і так мала такіх, якія без нацяжкі можна назваць добрымі і выдатнымі. Вядомы адказ — слабыя сцэнарыі — выклікае натуральнае неўразуменне: «Але чаму яны слабыя, калі сённяшняя беларуская літаратура з'яўляецца адным з лепшых, перадавых атрадаў літаратуры ўсесаюзнай?» Як бачым, дзякуючы зацікаўленаму, небесстаронняму падыходу І. Навуменкі да разбору дысертацыйнай працы яна становіцца падставай для абмеркавання не столькі вузкапрафесійных кіназнаўчых момантаў, колькі надзённых, часам крызісных з'яў у беларускім кіно. Застаецца толькі шкадаваць, што пастаўленыя дысертанткай і адзначаныя ў водзыве на яе працу, а то і заглыбленыя І. Навуменкам яшчэ ў другой палове мінулага стагоддзя пытанні і праблемы, якія тычацца беларускага кінамастацтва, найперш ігнаравання яго прадстаўнікамі выдатных дасягненняў айчыннай літаратуры, застаюцца актуальнымі і сёння.

Магчымасцю весці гаворку не толькі непасрэдна пра навуковую працу, але і пра забытыя на той час старонкі беларускага літаратуразнаўства стаў для І. Навуменкі напісаны ў 1981 годзе водзыў на кандыдацкую дысертацыю А. Шалемавай «Станаўленне класічных асноў беларускай паэзіі». Адзначыўшы выдатную тэарэтычную падрыхтоўку суіскальніцы, тое, што яна добра выканала пастаўленую перад сабой задачу — асэнсаваць уплыў ідэйна-мастацкіх традыцый пушкінскай спадчыны на творчасць класікаў айчыннай паэзіі, назваўшы яе работу досыць удалай спробай тыпалагічнага параўнання дзвюх роднасных літаратур, аўтар водзыву, тым не менш, робіць А. Шалемавай вельмі істотную заўвагу. А менавіта — ігнараванне прац даследчыкаў 1920-х гадоў І. Замоціна, Я. Барычэўскага, А. Вазнясенскага, М. Піятуховіча, якія першымі «ўказалі на арганічную блізкасць лепшых узораў беларускага мастацкага слова да шэдэўраў рускай класічнай літаратуры XIX стагоддзя». Зрэшты, І. Навуменка тлумачыць гэтае ігнараванне аб'ектыўнымі прычынамі. Не кажучы непасрэдна пра лёс рэпрэсаваных навукоўцаў, ён з жалем зазначае, што іх імёны былі выкраслены з навуковага ўжытку, а іх працы, у якіх выказаны выдатныя думкі і

назіранні, невядомыя новым пакаленням літаратуразнаўцаў. «Усім нам варта прыкласці намаганні, каб аднавіць традыцыю, уважліва вывучыць і ўзважыць усё непераходзячае і каштоўнае, што ёсць у галіне вывучэння беларуска-рускага мастацкага яднання» — такімі словамі падагульняе свае развагі пра пачынальнікаў айчыннай навукі пра літаратуру І. Навуменка. Нагадаем, што гэтыя словы прагучалі ў 1981 годзе, і прайшло яшчэ не менш як дзесяцігоддзе, перш чым пачала, з аднаго боку, аднаўляцца перарваная традыцыя, а з іншага — закладацца аснова новага беларускага літаратуразнаўства, якое пазбавілася прыстаўкі «савецкае».

У 2001 годзе І. Навуменка даў водзыў на прысвечаную спецыфіцы міфа, яго сувязі з літаратурай і мовай доктарскую дысертацыйную працу Т. Шамякінай «Беларуская класічная літаратурная традыцыя і міфалогія», якая якраз і стала прыкладам новых падыходаў у літаратуразнаўстве. Пра тое, што гэты водзыў напісаны ўжо ў постсавецкі час, красамоўна сведчыць хоць бы наступны выраз аўтара, якім ён пачынае свае разважанні з нагоды філасофскай асновы дысертацыі, у прыватнасці поглядаў К. Юнга: «У вытлумачэнні свету філасофія (раней бы мы сказалі «буржуазная філасофія») знаходзіцца ў крызісе». Гаворачы пра актуальнасць тэмы працы, І. Навуменка звязвае яе з наспелай у гуманітарнай навуцы неабходнасцю «дасканалага вызначэння традыцыі як назапашвання культурнай памяці», больш грунтоўнага вывучэння міфапаэтыкі, даследавання нацыянальных вытокаў, што немагчыма без разгляду міфалогіі і агульначалавечых архетыпаў, увасобленых у шэдэўрах літаратуры. Наагул жа аўтар водзыву надзвычай высока ацэньвае прадстаўленую суіскальніцай дысертацыю, называючы яе «ўнікальнай з'явай» у літаратуразнаўчай думцы апошніх гадоў. Ён падкрэслівае эрудыцыю, нетрывіяльныя наватарскія развагі, глыбокае пранікненне ў невядомыя або малавядомыя навуковыя дыскурсы, здольнасць да значных абагульненняў Т. Шамякінай, самастойнасць яе працы. Па сутнасці, ён выказвае даследчыцы толькі дзве крытычныя заўвагі. Першая тычыцца таго, што яна робіць адхіленні ад «філалагічнай традыцыі» і, часта сыходзіць у сферы іншых навук, «адбіраючы хлеб» у фізікаў, хімікаў, фізіёлагаў. Другую заўвагу рэцэнзента выклікалі «філалагічныя практыкаванні дысертанткі <…> адносна гнязда слоў, звязаных з дрэвам», якія ён назваў малапаспяховымі і нядоказнымі. У якасці аргументаў І. Навуменка прыводзіць адпаведныя прыклады, звяртаючыся да

розных індаеўрапейскіх моў. Заўважым, што пісьменнік мог кваліфікавана падысці да гэтага пытання, бо займаўся параўнальным мовазнаўствам, у чым прызнаваўся ў інтэрв'ю і адказах на пытанні анкет. Гэтым захапленнем ён нават надзяліў галоўнага героя сваёй аповесці «Вір» (1997).

У спадчыне І. Навуменкі прадстаўлены і такі жанр, як некралог. З трох тэкстаў, якія змяшчаюцца ў томе ў адпаведным раздзеле, раней апублікаваны быў толькі жалобны артыкул «Бывай, наш таварыш…», прысвечаны памяці літаратуразнаўцы, перакладчыка Яўгена Мазалькова. У гэтым невялікім творы даецца, тым не менш, выразная і дакладная ацэнка асобе і творчай дзейнасці нябожчыка. І. Навуменка вельмі ёміста характарызуе Я. Мазалькова як «вернага друга беларускай літаратуры, аднаго з самых нястомных яе паўпрэдаў у Маскве, перад шматмільённым рускім чытачом». Сапраўды, нарадзіўшыся на Магілёўшчыне, усё сваё свядомае жыццё Я. Мазалькоў пражыў у Расіі, быў старшынёй савета па беларускай літаратуры пры праўленні Саюза пісьменнікаў СССР, пісаў працы пра творчасць беларускіх аўтараў. Заўважым, што будучага народнага пісьменніка і аўтарытэтнага перакладчыка звязвалі шматгадовыя творчыя і асабістыя адносіны, захавалася іх ліставанне, пра якое будзе сказана ніжэй.

Некралогі з нагоды сыходу з жыцця Міхася Лынькова і Кандрата Крапівы друкуюцца адпаведна паводле аўтографа і машынапісу, што захоўваюцца ў прыватным архіве нашчадкаў І. Навуменкі. У артыкуле, прысвечаным М. Лынькову, аўтар пераканаўча вызначае месца пісьменніка і яго творчасці ў айчынным прыгожым пісьменстве. Ён справядліва адзначае, што з імем М. Лынькова звязаны той этап у гісторыі беларускай літаратуры, калі яна стала паказваць чалавека, «народжанага ў горніле рэвалюцыйнага змагання і стварэння новай сацыялістычнай явы». А ў апавяданнях пісьменніка — вытокі таго духу, пафасу, народнага погляду на свет, якія «трывала ляглі ў падмурак беларускай савецкай літаратуры» і пазначалі шляхі яе далейшага развіцця. Пералічваючы немалыя працоўныя і грамадскія дасягненні М. Лынькова, у першую чаргу як нястомнага арганізатара літаратурнага і навуковага працэсу ў краіне, дэпутата Вярхоўнага Савета БССР, дэлегата ад Беларусі ў ААН, І. Навуменка аддае належнае таксама асабістым якасцям пісьменніка — «чалавека вялікага і чулага сэрца».

Слова на развітанне з Кандратам Крапівой, створанае І. Навуменкам, найбольш упісваецца ў класічныя рамкі жанру некралога.

Аўтар у ім не толькі характарызуе шматгранную дзейнасць народнага пісьменніка і прызнанага навукоўца-мовазнаўцы, але і разглядае яго жыццёвы шлях і найбольш значныя творы. Як і ў згаданых вышэй жалобных тэкстах, у гэтым некралогу І. Навуменку ўдалося ў трапных, яскравых выразах перадаць самае істотнае, што было ўласціва непаўторнаму таленту выбітнага майстра. Так, ён вельмі дакладна вылучае ў якасці дамінанты творчай індывідуальнасці Кандрата Крапівы «стыхію камічнага», якая забяспечыла пісьменніку самую шырокую і ўдзячную аўдыторыю.

Сярод твораў, напісаных І. Навуменкам у дакументальным жанры, найбольш вядомым з’яўляецца, безумоўна, «Аўтабіяграфія» (1962), упершыню апублікаваная ў зборніку пісьменніцкіх жыццяпісаў «Пяцьдзясят чатыры дарогі» (1963). Гэты твор — найпершая крыніца звестак пра дзіцячыя ўражанні пісьменніка, пра яго падпольшчыцка-партызанскае юнацтва, пасляваенную журналісцкую дзейнасць. Многае з таго, што толькі пункцірна, лапідарна, але вельмі выразна, экспрэсіўна пазначана ў «Аўтабіяграфіі», атрымае сваё ўвасабленне як у мастацкіх палотнах І. Навуменкі, узбагачаючыся і глыбінёй, і аўтарскай фантазіяй, так і ў іншых яго творах дакументальнага жанру, у прыватнасці ва ўспамінах.

У 10-ты том Збору твораў увайшлі чатыры тэксты І. Навуменкі, напісаныя ў гэтым жанры. Усім ім уласцівы выразныя адзнакі мемуараў-нарыса: фрагментарнасць, невялікі ахоп рэчаіснасці, сцісласць. Малафарматнасць твораў тлумачыцца тым, што пісаліся яны «на выпадак», для зборнікаў успамінаў або як матэрыял для газеты. Тым не менш гэта не перашкодзіла пісьменніку стварыць выразныя замалёўкі, незабыўныя штрыхі ўбачанага і адчутага.

Гісторыка-мемуарны нарыс «Дні, якія надоўга запоўніліся» (1968) упершыню быў апублікаваны ў кнізе «Наша “Звязда”», прысвечанай 50-годдзю найстарэйшай рэспубліканскай газеты. І. Навуменка аддаў працы ў «Звяздзе» сем гадоў. Ён прыйшоў туды, маючы ўжо немалую практыку ў якасці карэспандэнта мазырскай абласной газеты «Бальшавік Палесся». Аднак у цэнтры ўвагі ва ўспамінах не праца ў «Звяздзе», а само выданне, асаблівасці яго матэрыялаў першых пасляваенных гадоў. А яшчэ — вобраз часу і характарыстыка людзей, якія працавалі на журналісцкай ніве ў той няпросты перыяд. Менавіта іх, учарашніх партызанаў, франтавікоў, даваенных селькараў, якія шчыравалі ў рэдакцыях раённых і абласных газет, згадвае пісьменнік у першых радках свайго твора, да-

лучаючы ў гэты шэраг і сябе. У гэтых «новых людзей з вельмі небагатым журналісцкім вопытам» «Звязда» карысталася бездакорным аўтарытэтам, была для іх самым сур'ёзным дарадчыкам. Эталонам прафесійнасці паўстаюць са старонак нарыса аўтары, якія працавалі ў газеце. І не толькі дзякуючы свайму майстэрству, уменню пісаць «пранікнёныя» артыкулы, але і сваёй адданасцю справе, імкненню быць у гушчы жыцця, аператыўна падрыхтаваць матэрыял. Пісьменніку ўдалося сказаць пра «Звязду» нешта вельмі важнае, ён здолеў вызначыць своеасаблівую звышмэту газеты, паказаў, што яна выконвала для людзей таго часу пэўную «тэрапеўтычную» функцыю: «Мне тады здавалася, што «Звязда» спявае. Вельмі многія яе матэрыялы вызначаліся шчырасцю, цеплынёй, чалавечнасцю, яны як бы мелі на мэце паказаць чытачу шырыню жыццёвых даляглядаў, абудзіць у ім радасць, веру ў лепшую будучыню». Адметна, што ў нарысе ўтрымліваюцца і цікавыя заўвагі аб працы над ім, паказваецца сам «механізм» стварэння твора мемуарнага жанру. Так, напісанне ўспамінаў немагчымае без вяртання ў мінулае, абдумвання былых падзей. Вось як пра гэты падрыхтоўчы працэс кажа І. Навуменка: «Пачынаючы гэтыя невялікія нататкі пра «Звязду» сорак шостага і сорак сёмага гадоў, я зрабіў мысленнае падарожжа ў мінулае». У той самы час мемуары аддалены ад даўніх падзей значным часавым адрэзкам, таму нават добрая памяць аўтара не заўсёды садзейнічае дакладнасці іх узнаўлення, да таго ж і сама аўтарская ацэнка перажытага можа змяніцца з часам. Пра гэта таксама разважае пісьменнік. Падводзячы вынік успамінам пра гераіню нарыса, ён адзначае: «Такой я памятаў «Звязду». Але, можа, памяць падвяла? Яна, як кажуць, інструмент не заўсёды надзейны. Ды і часу мінуў немалы кавалак — болей як дваццаць гадоў. Змяніліся мы самы, змяніліся нашы густы». І ўсё ж любы мемуарыст імкнецца ў сваім творы да большай дакладнасці, паўнаты і аб'ектыўнасці, а таму, апрача ўласнай памяці, можа прыцягваць дадатковыя матэрыялы, каб узнавіць па іх ход падзей, для большай пераканаўчасці сваіх довадаў. Такім дадатковым матэрыялам сталі для І. Навуменкі старыя выпускі «Звязды», ён дае слова самой газеце, згадвае назвы артыкулаў, цытуе радкі яе карэспандэнцый.

Нарыс «Вялікае сэрца» (1979) — слова І. Навуменкі пра Міхася Лынькова. Ён быў напісаны адмыслова для зборніка «Святло яго душы» (1979), куды ўвайшлі ўспаміны пра пісьменніка. І. Навуменка апісвае найперш свае ўражанні ад сустрэч з М. Лыньковым —

напачатку завочных, як з аўтарам любімых з дзяцінства апавяданняў. Потым — асабістых, асабліва памятных па часах працы ў часопісе «Маладосць». Каб перадаць непаўторны чалавечы воблік М. Лынькова, І. Навуменка выкарыстоўвае разнастайныя прыёмы. Гэта і скупыя, дакладныя, амаль безацэначныя фразы, за якімі, аднак, паўстае дакладны псіхалагічны партрэт адказнага, добрасумленнага рэдактара і крытыка: «Міхась Ціханавіч сістэматычна прачытваў матэрыялы, якія мы яму дасылалі, акуратна з'яўляўся на пасяджэнні рэдкалегіі, выказваў сваю думку, а калі магчымасці прыйсці ў рэдакцыю ў яго не было, прысылаў заўвагі пісьмова». І жывая, каларытная сцэнка — аповед М. Лынькова пра свае прыгоды ў Індыі супрацоўнікам рэдакцыі. І паказ асобы галоўнага героя нарыса праз яго ўчынкі. І наўпроставая аўтарская характарыстыка: «У яго было добрае, вялікае сэрца. Ён быў надзвычай сціплы, нават сарамлівы». Так ствараецца вельмі прывабны вобраз чалавека, які, паводле слоў І. Навуменкі, «хораша, высакародна пражыў асабістае і літаратурнае жыццё».

Падобным чынам будуюцца і ўспаміны пра Якуба Коласа «Яго ўплыў» (1982). Цікавым фактам з'яўляецца тое, што гэта вуснае выказванне І. Навуменкі. У раздзеле «Заўвагі» зборніка «Успаміны пра Якуба Коласа» (1982), куды ўвайшоў гэты твор, адзначаецца, што тэкст друкуецца з магнітафоннага запісу, які захоўваецца ў Літаратурным музеі Якуба Коласа. І. Навуменка пачынае з ураджанняў ад твораў Я. Коласа, якія атрымаў яшчэ ў маленстве, асобна вылучае аповесць «Дрыгва», якая ў школьныя гады была своеасаблівым падручнікам роднай мовы, згадвае некалькі эпізодаў, звязаных з асобай вялікага песняра. Так, незабыўнай стала для І. Навуменкі прамова народнага паэта ў 1946 годзе перад студэнтамі БДУ. Памятнай падзеяй было і тое, што яго нарыс, прысвечаны працы Коласа і рэвалюцыйнаму змаганню ў Пінкавічах, прачытаў сам герой твора і нават зрабіў невялікія папраўкі да яго. Творчасць вялікага песняра, прызнаецца І. Навуменка, фактычна стала лёсавызначальнай для яго навуковай дзейнасці: ёй прысвечана кандыдацкая дысертацыя, кнігі «З глыбінь жыцця», «Якуб Колас. Духоўны воблік героя».

Тэма і героі ўспамінаў «Калі прыйдуць нашы?» (1995) праходзяць праз многія творы І. Навуменкі. Яны паўстаюць са старонак апавяданняў і ваеннай трылогіі «Сасна пры дарозе» (1962), «Вецер у соснах» (1967), «Сорак трэці» (1973), а таксама ў дакументальных нарысе і аповесці — «Агнём гартаваныя» (1974) і «Капітан Стэп

ідзе ў разведку» (1982). Аднак у першым выпадку рэальныя падзеі, якія леглі ў аснову твораў, людзі, якія ў гэтых падзеях удзельнічалі, атрымалі мастацкае ўвасабленне. У другім — наадварот, аповед максімальна прэтэндуе на дакладнасць, на перадачу «толькі фактаў», а таму ён падкрэслена адстаронены і вядзецца ад трэцяй асобы. У створаным жа значна пазней за астатнія мемуарным творы «Калі прыйдуць нашы?» на першае месца выходзіць менавіта асоба аўтара. Зыходным пунктам для ўспамінаў І. Навуменкі стала фота, зробленае ў чэрвені 1974 года ў Хатыні. На ім зняты яго баявы сябар Фёдар Манзіенка — камандзір дэсантнай групы, скінутай у чэрвені 1942 года ў палескія лясы для вядзення разведвальнай дзейнасці. «Я бачыў гэты самалёт»,— піша аўтар пра сябе, маладога хлопца, які нібыта невыпадкова, не толькі па справах падпольнай групы, апынуўся за некалькі вёрст ад родных Васілевічаў, але і каб стаць сведкам такой незвычайнай падзеі, якая ў многім прадвызначыць яго далейшы лёс.

І. Навуменка хоць і коратка, аднак амаль хранікальна апавядае пра справы на фронце, пра дзейнасць групы Манзіенкі, яе сувязь з мясцовымі партызанамі і падпольшчыкамі, дапаўняючы свае словы тэкстамі радыёграм. Аднак гэтая падзейная паслядоўнасць выкладання ўвесь час перапыняецца аўтарскімі каментарыямі, якія істотна дамалёўваюць агульную карціну таго, што адбываецца, эмацыянальна насычаюць яе. Пісьменніку важна перадаць атмасферу часу, а таксама свае адчуванні і думкі той пары, сугучныя адчуванням і думкам патрыятычна настроенай моладзі, якая апынулася ў акупацыі і для якой «фронт азначаў усё». Індывідуальнае адчуванне эпохі, далучанасць да яе вялікіх падзей пранізвае твор ад першага да апошняга радка. У арбіту такога аўтарскага ўспрымання, рамантычнага паводле сваёй сутнасці, уключаецца і навакольная рэчаіснасць: не толькі людзі, але і лясныя абшары «прасякнуты адчуваннем таго, што на свеце ідзе самая вялікая вайна», нават няпэўная, «з сіняватым адценнем смуга», якая трымціць над ваколіцамі, сведчыць «аб значнасці, неразгаданасці падзей, якімі ахоплен свет». Кантраст паміж фактаграфічнасцю і вобразнасцю, перадача рэальных падзей і ўнутраных перажыванняў стварае жывы, стэрэаскапічны малюнак аднаго з самых памятных для пісьменніка эпізодаў Вялікай Айчыннай вайны.

Найбольш цікавымі ў шэрагу дакументальных твораў бачацца дзённікавыя запісы І. Навуменкі. Сам ён у інтэрв'ю «Мае героі былі рамантыкамі» (2003) на пытанне, ці ёсць у яго дзённік, не без

выкліку адказаў: «Нашто мне дзённікі, калі ўсе мае апавяданні друкуюцца». Сапраўды, аўтабіяграфічны характар твораў пісьменніка, адлюстраванне праз сваіх герояў асабістага жыццёвага вопыту, уласнага ўнутранага свету, мастацкая аб'ектывацыя яго ў прозе нібыта не патрабавалі дадатковага самавыражэння, якім пераважна і з'яўляецца дзённік. Як бы там ні было, выявіць удалося зусім невялікую колькасць дзённікавых запісаў І. Навуменкі — за 1980—1981 і 1993 гады. З вялікай доляй верагоднасці можна сцвярджаць, што пісьменнік, у адрозненне ад многіх сваіх сабратаў па пяры, вёў запісы толькі для сябе, не маючы на ўвазе іх наступную публікацыю. Яны нават не рабіліся ў якім-небудзь асобным сшытку, а перамяжоўваюцца з выпіскамі з розных крыніц, з якімі І. Навуменка працаваў у бібліятэцы. Як і належыць дзённіку, тут падаецца інфармацыя пра падзеі мінулага дня, якая ў большай ці меншай ступені аналізуецца або атрымлівае пэўную ацэнку. Аўтар апісвае падзеі, удзельнікам якіх ён быў, падзеі, відавочцам якіх ён не мог быць, але якія непакоілі яго, а таксама факты свайго душэўнага свету. Большасць запісаў падаюцца пункцірна, скупа, яны пераважна не ранжуюцца, а выліваюцца нібыта своеасаблівая плынь свядомасці, дзе ў роўнай ступені для аўтара важныя, як, напрыклад, у першым запісе (6.12.80), і яго развагі аб біблейскім мысленні, і думкі аб прачытаных за дзень творах, і хвароба жонкі, і ўмовы надвор'я, і сітуацыя ў Польшчы і інш. Не выключэнне тут нават факты, звязаныя са значнымі падзеямі ў жыцці (выданне Збору твораў, паездка на з'езд славістаў і інш.). Нататкі пра іх таксама лаканічныя, аднак яны валодаюць вялікай інфармацыйнай насычанасцю. Для аўтара гэтыя падзеі не патрабавалі разгорнутага выкладання, яны перажываліся эмацыянальна, пакідаючы ў дзённіку толькі невялікія адзнакі, паводле якіх няцяжка было потым узнавіць у памяці кожную з іх.

Нягледзячы на нешматлікасць дзённікавых запісаў І. Навуменкі, іх тэматычны спектр даволі шырокі. Сустракаюцца побытавыя, літаратурныя, вандроўныя нататкі, заўвагі пра ўзаемаадчыненні ў сям'і, выказванні па актуальных сацыяльна-палітычных праблемах. Асабліва часта аўтар давярае дзённіку свае творчыя планы. У нататцы за 4.IX.81 захаваўся пералік дзесяці апавяданняў, якія ён збіраўся напісаць. Мастацкую задуму аднаго з іх І. Навуменка раскрывае больш падрабязна: «Хачу напісаць апавяданне «Загародка на ваколіцу». Мучыць мяне гэтая тэма. Праўдзівей, ёсць

некалькі мясцін (васілевіцкіх), якія пастаянна ўсплываюць у памяці. Казарма, вуліца каля былой МТС, загародка (выхад) на аколіцу. Чамусьці ў дзяцінстве выхад на аколіцу мяне вельмі цікавіў». У гэтым запісе яскрава праступае асоба аўтара — творцы, які чэрпае натхненне ў родных мясцінах, дарагіх сэрцу ўспамінах. Аўтарскае, індывідуальна-асабовае «я» пісьменніка, чалавека са сталымі прыхільнасцямі і небесстароннім поглядам на рэчы, выяўляецца і пры апісанні І. Навуменкам сваіх паездак у новыя мясціны. І тут ракурс разгляду падпарадкаваны, так бы мовіць, не агульнапрызнаным турыстычным канонам. Падарожжа ў Суздаль, Уладзімір і Сергіеў Пасад, славутыя сваімі храмамі, пакідае ў душы і на старонках дзённіка ўражанні не столькі аб архітэктурных асаблівасцях гарадоў, колькі аб прыродзе гэтых месцаў: «Хацелася паглядзець, якія там мясціны. Лес на наш не падобны. Паўночны. Многа балацянак. Сасна ў сумесі з бярозай. Бярэзнікаў найбольш» (4.XI.81). Як бачым, любімы пісьменнікам лес становіцца нібыта своеасаблівым камертонам для ацэнкі пэўнага ландшафту. Асоба аўтара ў дзённіку яскрава раскрываецца і праз характарыстыкі знаёмых яму людзей, праз аповед пра ўзаемадачыненні з імі. Разгорнутых псіхалагічных партрэтаў там няма. Героі ў нататках з’яўляюцца пераважна ў сувязі з якімі-небудзь падзеямі, яны ацэньваюцца сітуацыйна. Часта гэта негатыўна-крытычныя водзывы, асабліва ў дачыненні да асоб, якіх І. Навуменка называе «рыцарамі плашча і кінжала».

Дзённікавыя запісы вяліся І. Навуменкам ужо ў паважаным узросце. Гэта быў сталы чалавек, які перажываў другую палову жыцця. Відаць, таму нярэдкія ў дзённіку заўвагі пра хуткаплыннасць часу, скаргі на здароўе і спробы падвесці пэўныя творчыя падрахункі. Так, 24 кастрычніка 1993 года пісьменнік занатоўвае: «Між іншым адчуваю сябе няважна. Без бачнай прычыны. Што хацеў — зрабіў. Напісаў заключную частку трылогіі (вельмі невялікай) «Юнацтва». Астатняе — не істотна. Зрабіў, можа, не ўсё і не так, як трэба, з таго, што дала мне, па сутнасці, наша сялянская культура. Спрабаваў, як і Куляшоў, увесці ў літаратуру асобу праз яе інтымны і грамадскі свет».

Эпісталярная спадчына І. Навуменкі, якая ўвайшла ў том, прадстаўлена ў першую чаргу прыватнымі лістамі, адрасаты якіх — родныя з Васілевічаў, жонка, дзеці, сябар юнацтва Мікалай Белы, беларускія пісьменнікі Васіль Быкаў, Кандрат Крапіва, Максім Лужанін, Міхась Лынькоў, Іван Мележ, Іван Пташнікаў, Максім

Танк, перакладчыкі яго твораў на рускую мову П. Кабзарэўскі і Я. Мазалькоў, кансультант па беларускай літаратуры праўлення СП СССР В. Шчадрына, землякі У. Верамейчык і С. Мікула. Значную частку эпісталярыя складаюць таксама службовыя лісты, дасланыя ад імя віцэ-прэзідэнта АН БССР у часе працы І. Навуменкі на гэтай пасадзе ў 1982—1992 гадах. У БДАМЛМ была выяўлена і вялікая колькасць лістоў, напісаных І. Навуменкам падчас яго рэдактарскай працы ў часопісе «Маладосць». Аднак праз абмежаванасць аб'ёму выдання і пэўную стэрэатыпнасць згаданых эпісталярных тэкстаў у том уключана толькі некалькі іх узораў.

Асаблівую гістарычную каштоўнасць уяўляюць сабой лісты, дасланыя І. Навуменкам з фронту. Гэта ліст да родных ад 9 кастрычніка 1944 года і пяць лістоў да М. Белага, дасланых з красавіка 1944 па чэрвень 1945 года. У лісце да родных І. Навуменка паўстае найперш клапатлівым сынам і братам: «Жалко, что Коля в Гомеле. Хороший он парень. Вообще у нас семья не плохая. Как поживает Аня? Когда буду ехать домой, Ане привезу хустку и ботинки на высоких каблуках, Володе галифе, матери чепчик и отцу люльку и капшук. А Коле пришлю в посылке молоток и щипцы. Всех обделю». Лісты да М. Белага, таварыша па падпольнай групе, даюць уяўленне пра мясціны, у якія закідваў І. Навуменку франтавы лёс: «Сваё апошняе пісьмо я пісаў табе з Усход. Прусіі. Цяпер іншыя гарызонты. Усё асталося ззаду. Цяпер Карпаты, Польшча. Магчыма, пабачу яшчэ чэхаў ці венграў» (ліст ад 18.12.1944), пра некаторыя побытавыя акалічнасці: «Харчы дрэннаватыя, 3-я катэгорыя» (8.04.1944). Тут можна знайсці і наўпроставыя самахарактарыстыкі аўтара: «Па натуры я не вялікі смяляка, але па духу — ого! Пагэтаму мне не страшны ніякія прадстаячыя выпрабаванні» (18.12.44). Адметныя яны і сваім юнача-мужчынскім гумарам: «А яшчэ дазволь вылаяць цябе, нягодніка, за тое, што перастаў пісаць мне лісты. Хіба ты не ведаеш, што я твой сябра, хіба ты не ведаеш, што я ў «Гірманіі» і сумую па кавалачку паперы з дому. Напэўна, па дзеўках ходзіш, стары бабыль» (2.V.45). У лісце, напісаным ужо пасля перамогі, у чэрвені 1945 года, І. Навуменка не стрымлівае сваіх радасных пачуццяў з нагоды гэтага і дзеліцца з таварышам планамі на будучыню: «Здароў, Коля! Сардэчна вітаю цябе з заканчэннем гэтай вялікай барацьбы. Тыя ідэалы, у якія мы верылі і за якія змагаліся,— перамаглі. І ты, і я, і нашы таварышы былі чэснымі ў гэтай вайне. А гэта галоўнае. Цяпер новая эра. Каваць

сябе, падняцца ідэйна і ў грамаце ўвысь. Мне давядзецца служыць. Я згодзен. Але я ніколі не адвыкну ад дум аб універсітэце» (2.6.1945). Лісты франтавога часу да М. Белага каштоўныя яшчэ і тым, што ў іх ёсць заўвагі, важныя для разумення творчай індывідуальнасці будучага пісьменніка: «Ніякіх заметак аб сваіх прыгодах і атрыманых уплывах, а таксама і аб людзях, з якімі я жыў, ваяваў, я не раблю. Думаю, што ўсё схаваецца ў галаве, як у Чорнага» (18.12.1944). У пазнейшых, пасляваенных лістах, І. Навуменка будзе дзяліцца з сябрам ужо сваімі творчымі планамі, у прыватнасці, ёсць яго цікавыя развагі пра падыход да напісання буйнога твора: «Гэтай зімой думаю напісаць яшчэ адну аповесць аб пасляваенным жыцці і, калі будзе здароўе, засяду за нешта вялікае. Уласна кажучы, апавяданні, якія я напісаў і пішу,— падрыхтоўка да гэтай работы. Хваліцца рана, у апавяданні я сябе адчуваю даволі надзейна, а як будзе з вялікім палатном — невядома. Але як бы там ні было — буду пісаць пра наша пакаленне, пра тыя гераічныя дні, якія мы разам з табой перажывалі. Трэба сабраць матэрыялаў, пагаварыць з людзьмі. Будзе час — прыеду летам на наша Палессе, каб сустрэцца з былымі партызанамі і падпольшчыкамі» (8.10.1957).

Лісты да жонкі і дзяцей дасылаліся Іванам Якаўлевічам пераважна з адпачынку — з Гаграў, Дубултаў і іншых мясцін, таму ў іх шмат заўваг пра надвор’е, пра мора, пра дамы адпачынку і іх насельнікаў. Але ўражвае найперш тое, што і там пісьменнік працягваў працу над сваімі творамі і шчыра абменьваўся з сямейнікамі думкамі і перажываннямі наконт гэтага. «Сижу над рукописью. Кончаю работу. Дома останется поправить мелочи, детали, переписать начисто. Работа не такая трудная. Вместе с тобой, в Гаграх, два года я начинал работу. Далась она мне трудно. Но теперь я — военный теоретик»,— піша І. Навуменка аб працы над раманам «Смутак белых начэй» старэйшай дачцэ Валерыі ў лісце ад 20.VII.1978. А ў лісце да жонкі Ядвігі Паўлаўны ёсць яго вельмі асабістае шчымлівае прызнанне ўжо з іншай нагоды: «Увесь апошні тыдзень хаджу пад уражаннем смерці Мележа. Першыя дні нават уночы не спаў. Думаю, Мележ прадчуваў сваю смерць. Усе яго размовы (ды і справы) сведчаць пра гэта. Згубілі самага моцнага пісьменніка і што цяпер у прозе будзе, не ведаю» (20.VIII.1976). Прыведзеныя вышэй цытаты сведчаць пра атмасферу даверлівасці, шчырасці, узаемнай павагі, любові і клопату, якая панавала ў сям’і Навуменкаў.

Асобна варта сказаць пра лісты, а дакладней, кароткія цыдулкі, да Ядвігі Паўлаўны, якія пісаліся Іванам Якаўлевічам у лютым

1964 года падчас яе знаходжання ў радзільні пасля нараджэння сына Паўла. Кожнае слова прамяніцца тут каханнем да любай жанчыны, маці яго дзяцей, а таксама ўсведамленнем адказнасці мужчыны і мужа за сваю справу і сваю сям'ю («Здравствуй, Куля! Крепко тебя целую и поздравляю тебя с сыном. Со своим заданием ты справилась отлично»; «Здравствуй, Куля-Гуля! Хлопчику я очень рад — сбылась моя сокровенная мечта. Теперь надо кормить детей и делать дело»).

Сярод лістоў І. Навуменкі да беларускіх пісьменнікаў і перакладчыкаў яго твораў на рускую мову найбольш паказальныя 36 лістоў да Я. Мазалькова (датуюцца 1958—1967 гадамі), тым больш што тут можна казаць шырэй — пра ліставанне, бо захавалася і 17 лістоў адрасанта, напісаных у адказ (датуюцца 1961—1965 гадамі). Пераважна гэта ліставанне тычыцца выдавецкіх спраў, звязаных з выхадам у свет зборнікаў апавяданняў І. Навуменкі на рускай мове «Друзья-товарищи» (1959), «Голубиный взлет» (1961), «Путешествие в юность» (1967), а таксама перакладу рамана «Сасна пры дарозе». Так, у прыватнасці, у адным з лістоў І. Навуменка распавядае пра сітуацыю з яго аповесцю «Бульба», якая атрымала адмоўную рэцэнзію ў выдавецтве «Молодая гвардия»: «Я сам считаю повесть не совершенной, требующей доработки. Но, кажется, здесь начинается расхождение мое с рецензентами: что и как дорабатывать. <…> Повесть не поняли. <…> В рецензии Ир. Бразуль выхвачены отдельные фразы, в качестве ложных представлены самые юмористические места (речи Веньямина перед лесом и за столом). При таком подходе на доработку я не решаюсь. Если и дорабатывать, то не для таких рецензентов» (23.XII.1964). Заўважым, што аповесць усё ж была надрукавана, толькі ў іншым выдавецтве — «Советский писатель», у згадным ужо зборніку «Путешествие в юность». Ёсць у лістах да Я. Мазалькова і кароткія справаздачы аб пісьменніцкім жыцці ў Беларусі, якія ў ліку іншага выдатна перадаюць атмасферу адлігі, што панавала ў той час у грамадстве: «В начале сентября (пятого) у нас пленум. Собирались говорить лишь о молодых, но потом повестку расширили. В начале крепко «Звязда» ругала Б. Саченку, потом Г. Березкина. Теперь будут давать отбой. На обоих этих авторов смотрят теперь более благосклонно, а статьи, появившиеся в газете, считаются ошибочными, односторонними» (30.VIII.1962). Хочацца падкрэсліць надзвычай цёплы, добразычлівы тон ліставання аўтара і перакладчыка, які ўсталяваўся з самага

пачатку. Яны не толькі абмяркоўваюць свае працоўныя справы, але і дзеляцца прыватнымі навінамі, узаемна перадаюць прывітанні сямейнікам адзін аднаго. У лістах Іван Якаўлевіч неаднаразова згадвае і сваё хобі: «У нас — масса грибов. Я ездил уже два раза. Банку маринованных и «нізку» белых, сушенных специально приберегу для Вас» (10.9.1961).

Лісты, напісаныя І. Навуменкам як віцэ-прэзідэнтам АН БССР, дэманструюць, наколькі шырокае кола праблем даводзілася яму вырашаць на гэтай высокай пасадзе. Гэта пытанні гісторыі і культуры Беларусі, структуры акадэмічных інстытутаў, забеспячэння жыллём супрацоўнікаў акадэміі, выплаты аўтарскіх узнагарод навукоўцам, афармлення падпіскі на галіновыя часопісы Цэнтральнай навуковай бібліятэкай АН БССР, працы беларускіх навукоўцаў у архівах АН СССР і шмат якія іншыя.

Значная і пакуль што яшчэ невядомая шырокаму чытачу і нават даследчыкам эпісталярная спадчына І. Навуменкі, як і іншыя творы, што ўпершыню прадстаўлены ў гэтым выданні, чакаюць свайго пільнага прачытання і ўважлівага аналізу. Гэты артыкул — толькі першая прыступка на шляху іх спасціжэння.

*Наталля Пыско*

# КАМЕНТАРЫІ

Дзясяты том Збору твораў Івана Навуменкі складаюць п'еса «Птушкі між маланак» (1981), вершы (1946—1950-я), інтэрв'ю (1963—2003), анкеты (1972—2003), выступленні (1965—1993), водзывы на дысертацыі (1971—2001), некралогі (1969—1991), аўтабіяграфія (1962), успаміны (1968—1995), дзённікавыя запісы (1980—1993), лісты (1944—1992).

П'еса «Птушкі між маланак» была апублікавана пры жыцці пісьменніка ў часопісе «Полымя» (1982, № 5), а таксама ў Зборы твораў І. Навуменкі ў 6 тамах (Мінск, 1981—1984; т. 5, 1983). З сямі вершаў, уключаных у том, шэсць друкаваліся ў перыядычным друку і калектыўных зборніках, верш «Гарачымі іскрамі словы б ляцелі…» публікуецца ўпершыню. У раздзеле «Інтэрв'ю» змешчана 34 тэксты, з іх 31 друкаваўся ў перыядычным друку, інтэрв'ю «Роздум аб сучаснасці» — у перыядычным друку (ЛіМ. 1982. 19 сак.) і шостым томе Збору твораў у 6 тамах, «Усякаму пакаленню трэба баявая справа…» — у перыядычным друку (Беларуская думка. 1997. № 4) і кнізе М. Мікуліча «Пошук вядзе ў глыбіню» (Гродна, 1998), «Мае героі былі рамантыкамі» — у зборніку «Беларускае літаратуразнаўства» (Мінск, 2008). З 11 анкет, якія ўвайшлі ў том, 10 публікаваліся ў перыядычным друку і зборніках, а анкета «Свяшчэнная вайна» таксама ў пятым томе Збору твораў у 6 тамах, «Адказ на пытанні анкеты, прапанаванай А. М. Адамовічам» публікуецца ўпершыню. У раздзел «Выступленні» ўключана 14 тэкстаў, з іх дзевяць друкаваліся ў перыядычным друку, зборніках і асобнымі брашурамі, выступленне «Сем гадоў пошукаў і здзяйсненняў» —

у перыядычным друку (ЛіМ. 1966. 13 мая) і шостым томе Збору твораў у 6 тамах, «За імклівым днём сучаснасці» — у шостым томе Збору твораў у 6 тамах, тры тэксты — [Таварышы дэпутаты!..], [Паважаныя таварышы!..], [Дарагія таварышы!..] — публікуюцца ўпершыню. Чатыры тэксты, змешчаныя ў раздзеле «Водзывы на дысертацыі», друкуюцца ўпершыню. З трох тэкстаў, якія склалі раздзел «Некралогі», адзін — «Бывай, наш таварыш…» — публікаваўся ў перыядычным друку (ЛіМ. 1969. 19 снеж.), два — друкуюцца ўпершыню. Аўтабіяграфія была апублікавана ў зборніку «Пяцьдзясят чатыры дарогі» (1963) і ў пятым томе Збору твораў у 6 тамах. З чатырох тэкстаў, якія ўвайшлі ў раздзел «Успаміны», тры друкаваліся ў калектыўных зборніках, адзін — «Калі прыйдуць нашы?» — у перыядычным друку (ЛіМ. 1995. 21 крас.), твор «Дні, якія надоўга запомніліся» ўваходзіў у шосты том Збору твораў у 6 тамах. Дзённікавыя запісы публікуюцца ўпершыню. У раздзел «Лісты» ўключана 148 тэкстаў. Усе яны, апрача ліста да Максіма Танка ад [17 верасня 1982 г.], друкуюцца ўпершыню.

Крыніцамі друку раней не публікаваных тэкстаў з'яўляюцца аўтографы і машынапісы, якія захоўваюцца ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва (БДАМЛМ), Цэнтральнай навуковай бібліятэцы НАН Беларусі (ЦНБ), Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры (ДМГБЛ), Рэчыцкай цэнтральнай раённай бібліятэцы (РЦРБ), прыватным архіве нашчадкаў пісьменніка.

Усе матэрыялы, якія ўваходзяць у том, апрача сямі вышэйназваных, у Збор твораў уключаны ўпершыню. Пры адсутнасці аўтарскіх назваў твораў падаюцца рэдактарскія назвы (па першых радках тэкстаў) у квадратных дужках. Тэксты, за выключэннем лістоў, друкуюцца ў жанрава-храналагічным парадку, датуюцца па прыжыццёвых выданнях, аўтографах і машынапісных крыніцах. Лісты размяшчаюцца ў алфавітным парадку па адрасатах і ў храналагічнай паслядоўнасці (у межах лістоў да аднаго адрасата). У выпадку адсутнасці аўтарскай даты, дата лістоў вызначалася па кантэксце ці па штэмпелі на канверце або тэлеграме, яна падаецца ў квадратных дужках, прыблізныя звесткі суправаджаюцца пытальнікам у круглых дужках. Недатаваныя і не вызначаныя па даце лісты перанесены ў канец спіса лістоў да пэўнага адрасата. Рубрыка «Друкуецца» захавана ў каментарыях да кожнага твора.

Для ўзнаўлення дакладнага аўтарскага тэксту твораў, удакладнення іх датавання і напісання каментарыяў выкарыстана вялікая колькасць матэрыялаў, звязаных з жыццём і творчасцю Івана Навуменкі. Ніжэй падаюцца асноўныя крыніцы:

**1. Матэрыялы, якія захоўваюцца ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва (БДАМЛМ):**

а) фрагменты аўтографаў драмы пад назвай «Лілі Марлен» і п'есы без назвы, якія можна лічыць рабочымі матэрыяламі да п'есы «Птушкі між маланак»; аўтограф верша «Гарачымі іскрамі словы б ляцелі…»; фрагмент аўтографа інтэрв'ю «Размова на парозе пяцідзесяцігоддзя»; аўтограф інтэрв'ю «Аблічча галоўнага героя»; фрагмент аўтографа анкеты «Свяшчэнная вайна»; аўтограф «Адказу на пытанні анкеты, прапанаванай А. М. Адамовічам»; фрагменты аўтографа выступлення «Сем гадоў пошукаў і здзяйсненняў»; аўтографы выступленняў «За імклівым днём сучаснасці», [Таварышы дэпутаты!..], [Дарагія таварышы!..]; фрагменты аўтографа выступлення «Найярчэйшая зорка ў цудоўным сузор'і…»; аўтограф «Водзыву на дысертацыю Е. Л. Бондаравай "Проблемы белорусского киноискусства и печать"», прадстаўленую на атрыманне вучонай ступені доктара філалагічных навук»; аўтограф «Водзыву на доктарскую дысертацыю Т. І. Шамякінай "Беларуская класічная літаратурная традыцыя і міфалогія"»;

б) машынапіс верша «Брыгадзір»; машынапіс інтэрв'ю «Пад сцягам сацыялістычнага рэалізму», «Літаратура — гэта самапазнанне»; фрагмент машынапісу анкеты «Свяшчэнная вайна»; машынапісы выступленняў «Сем гадоў пошукаў і здзяйсненняў», «За імклівым днём сучаснасці», [Таварышы дэпутаты!..], [Паважаныя таварышы!..], [Дарагія таварышы!..]; фрагменты машынапісу выступлення «Найярчэйшая зорка ў цудоўным сузор'і…»; машынапіс «Отзыва официального оппонента И. Я. Науменко на докторскую диссертацию П. К. Дюбайло "Современный белорусский роман"»; машынапіс водзыву [Дысертацыя Антаніны Алегаўны Шалемавай…]; фрагмент машынапісу «Аўтабіяграфіі»;

в) лісты да Асіпенкі, П. П. Ахрыменкі, Додзіна, П. С. Кабзарэўскага, Куксы, Максіма Лужаніна, М. Ц. Лынькова, М. Ц. Лынькова і С. З. Лыньковай-Куспіц, Я. С. Мазалькова, Я. С. і К. І. Мазальковых, І. П. Мележа, І. П. Мележа і Л. Я. Пятровай, Я. П. Навуменка, І. М. Пташнікава, Пятровіча, Супруновіча, сям'і, Максіма

Танка, Максіма Танка і Л. А. Скурко, нявызначанай асобы, Г. В. Штыхава.

**2. Матэрыялы, якія захоўваюцца ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы НАН Беларусі (ЦНБ):**

а) ліст да Пятра Глебкі.

**3. Матэрыялы, якія захоўваюцца ў Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры (ДМГБЛ):**

а) лісты да В. У. Быкава, Кандрата Крапівы, В. М. Шчадрыной.

**4. Матэрыялы, якія захоўваюцца ў Рэчыцкай цэнтральнай раённай бібліятэцы (РЦРБ):**

а) лісты да У. М. Верамейчыка, С. К. Мікулы.

**5. Матэрыялы, якія захоўваюцца ў прыватным архіве нашчадкаў пісьменніка:**

а) аўтограф некралога [Дарагія таварышы і сябры!..]; аўтограф дзённікавых запісаў;

б) машынапіс некралога [Паважаныя таварышы!..];

в) лісты да М. С. Белага, Я. П. Веліхава, А. І. Вярцінскага, Н. С. Гілевіча, У. А. Гілепа, В. М. Гурбо, І. Г. Дарашкевіча, М. І. Дземчука, М. І. Дзяльца, В. А. Каваленкі, М. В. Кавалёва, В. Ф. Кебіча, П. П. Кішкурны, Б. В. Леўшына, Н. М. Мазай, А. П. Маслава, М. Ф. Мельнікава, У. І. Міхасёва, Ю. М. Міхневіча, М. У. Мясніковіча, В. І. Навуменка, Я. П. Навуменка, Я. П. і П. І. Навуменкаў, П. Ф. Паляка, М. П. Паўлічкава, першага сакратара Саюза пісьменнікаў БССР, П. Ц. Петрыкава, В. А. Пячэннікава, родных, А. К. Тамашова, П. М. Федасеева, І. Г. Чыгрынава, А. М. Шэльдава, В. Б. Юрэвіча і іншых асоб, у выканкам Заслаўскага гарсавета народных дэпутатаў, Міністэрства замежных спраў БССР, Міністэрства культуры Беларускай ССР, Савет Міністраў БССР, ЦК КПБ.

**6. Прыжыццёвыя выданні твораў Івана Навуменкі:**

а) Зб. тв., 1983, т. 5, 6;

б) брашуры: «Праблемы развіцця літаратуры ў эпоху сучаснага навукова-тэхнічнага прагрэсу», 1978; «Творчество Янки Купалы и Якуба Коласа в контексте славянских литератур», 1983; «Элементы міфалогіі ў паэзіі Янкі Купалы і Якуба Коласа», 1988; «Адраджэнне славян і творчасць В. Дуніна-Марцінкевіча», 1993.

**7. Прыжыццёвыя публікацыі ў перыядычным друку:**

а) часопісы: «Беларуская думка», 1997, № 4; «Вопросы литературы», 1965, № 1; 1969, № 7; 1973, № 10; 1975, № 5; 1982,

№ 10; 1985, № 5; «Маладосць», 1956, № 9; 1968, № 10; 1975, № 2; «Нёман», 1984, № 9; 2003, № 3; «Полымя», 1982, № 5; 1985, № 8.

б) газеты: «Бальшавік Палесся», 1946, 29 мая, 5 снеж.; 1947, 9 лют.; 1949, 21 снеж.; «Беларускі ўніверсітэт», 1984, 20 снеж.; «Белорусская нива», 2000, 15 лют.; «Вячэрні Мінск», 1972, 10 мая; 1985, 18 крас.; 1997, 14 жн.; «Голас Радзімы», 1973, № 50; 1985, 21 лют.; «Гомельская праўда», 1979, 30 лістап; «Звязда», 1963, 27 крас.; 1980, 31 ліп.; 1982, 24 студз.; 1985, 16 лют.; «ЛіМ», 1948, 7 лют.; 1966, 13 мая; 1967, 19 мая; 1973, 3 студз.; 1975, 12 снеж.; 1979, 8 чэрв., 28 верас.; 1981, 10 крас., 6 лістап; 1982, 19 сак., 17 верас; 1986, 11 крас.; 1987, 13 лют.; 1994, 6 мая; 1995, 21 крас., 29 снеж.; 1996, 19 ліп.; «Литературная газета», 1981, 16 снеж.; «Мінская праўда», 1979, 15 мая; «Навіны АН Беларусі», 1994, 10 чэрв.; «Рэспубліка», 1998, 30 кастр.; «7 дней», 1995, 18 лют.; 2000, 12 лют.; «Советская Белоруссия», 1980, 3 снеж.; «Чырвоная змена», 1947, 24 крас.; 1975, 16 лют.

Тэксты публікуюцца паводле правіл сучаснай арфаграфіі з захаваннем характэрных асаблівасцей мовы пісьменніка. У выніку зверкі тэкстаў з аўтографамі, машынапісамі і прыжыццёвымі выданнямі выпраўлены памылкі друку. Апіскі, арфаграфічныя памылкі і прапушчаныя літары выпраўлены без агаворак. Выпраўленне фактычных памылак падаецца ў каментарыях. Скарачэнні ў тэкстах, апрача агульнапрынятых, раскрываюцца поўнасцю і прыводзяцца ў кутніх дужках. У кутніх дужках падаюцца таксама пазначэнні *нрзб* у выпадках нечытэльнасці і кан’ектуры. У квадратных дужках падаецца закрэслены аўтарам тэкст, пропускі ў тэксце, якія немагчыма ўзнавіць, а таксама дата, вызначаная паводле вывучэння гісторыі тэксту.

У каментарыях прыводзяцца звесткі пра ўсе вядомыя на час падрыхтоўкі выдання аўтографы, машынапісы, друкаваныя крыніцы тэксту, указваюцца адзінкі і месца іх захавання.

Навукова-даведачны апарат завяршаюць «Анатаваны паказальнік імёнаў», «Анатаваны паказальнік перыядычных выданняў» і «Паказальнік твораў да 1—10 тт.».

## П’ЕСА

### 1981

### Птушкі між маланак (с. 3)

Друкуецца паводле Зб. тв., 1983, т. 5.

Пад тэкстам: 1981.

Упершыню — часоп. «Полымя», 1982, № 5.

У БДАМЛМ, у асабістым архіве І. Навуменкі, захоўваюцца фрагменты двух чарнавых аўтографаў з варыянтамі тэксту драмы пад назвай «Лілі Марлен» (ф. 495, воп. 1, адз. зах. 79, арк. 1—17), а таксама фрагмент чарнавога аўтографа п’есы без назвы (ф. 495, воп. 1, адз. зах. 83, арк. 8—11), якія можна лічыць рабочымі матэрыяламі да п’есы «Птушкі між маланак». Пра гэта сведчыць змест аўтографаў, пазначаны ў іх жанр твора, прозвішчы, імёны, род дзейнасці асобных персанажаў і інш. Многія дыялогі, рэмаркі, якія характарызуюць акалічнасці, месца і абстаноўку дзеяння, з гэтых варыянтаў п’есы ў відазмененым выглядзе ўвайшлі ў канчатковы тэкст драмы.

С. 3:

*СД* (SD — скар. ад *ням.* Sicherheitsdienst des Reichsfuhrers SS — служба бяспекі рэйхсфюрара СС) — служба бяспекі і палітычнай разведкі (шпіянажу) унутры СС, якая дзейнічала ў межах Нацыянал-сацыялісцкай партыі (НСДАП) у час дыктатуры гэтай партыі ў Германіі. Заснавана ў 1931 г. Г. Гімлерам як служба разведкі, з верас. 1932 г. называлася СД.

*Эсэсаўцы* — ваеннаслужачыя войскаў СС, якія ўзніклі на аснове СС (SS — скар.: ад *ням.* Schutzstaffel — ахоўныя атрады) — ваенізаваных фарміраванняў Нацыянал-сацыялісцкай германскай рабочай партыі. Часці войскаў СС бралі ўдзел як у ваенных дзеяннях, так і ў карных аперацыях.

С. 5:

*«Лілі Марлен»* — песня, якая атрымала папулярнасць у час Другой сусветнай вайны як у нямецкіх салдат, так і ў салдат саюзных армій. Словы Х. Ляйпа (1893—1983), музыка Н. Шульца (1911—2002).

С. 8:

*...даносіцца мелодыя «Кацюшы».*— «Кацюша» — папулярная руская песня. Словы М. Ісакоўскага (1900—1973), музыка М. Блантэра (1903—1990).

С. 8—9:

*Савецкае інфармбюро* (Савецкае інфармацыйнае бюро) — інфармацыйна-прапагандысцкае ведамства ў СССР, утворанае пры Савеце Народных Камісараў 24 чэрв. 1941 г. Асноўнай задачай бюро было складанне зводак для радыё, газет і часопісаў пра становішча на франтах, працу тылу, пра партызанскі рух у час Вялікай Айчыннай вайны. Ліквідавана пастановай ЦК КПСС ад 5 студз. 1961 г.

С. 9:

*На Курскім і Белгародскім напрамках нашы войскі ўтрымліваюць пазіцыі...* — тут і далей гаворка ідзе пра падзеі Курскай бітвы — адной з вырашальных вайсковых аперацый у Вялікую Айчынную вайну. Адбылася ў ліп.— жн. 1943 г. на тэрыторыі сучасных Курскай, Арлоўскай, Белгародскай, Бранскай і Калужскай абл. Расіі, Харкаўскай і Сумскай абл. Украіны. Складалася з двух этапаў: абарончых баёў (5—23 ліп.) і контрнаступлення (12 ліп.— 23 жн.) савецкіх войск. Падчас гэтай вайсковай аперацыі адбылася найбуйнейшая танкавая бітва Другой сусветнай вайны.

*Курск* — горад у Расіі, цэнтр Курскай вобл.

С. 10:

*Курская анамалія* (Курская магнітная анамалія) — найбуйнейшы жалезарудны басейн на тэрыторыі Курскай, Белгародскай і Арлоўскай абл. Расіі. Плошча каля 120 тыс. квадратных кіламетраў. Выяўлена ў 1783 г., эксплуатуецца з 1952 г.

С. 14:

*...на Курскай дузе.*— Курская дуга, або Курскі выступ,— звернуты на захад выступ у раёне Курска, які ўтварыўся ў ходзе наступлення Чырвонай Арміі і контрнаступлення гітлераўскіх войск ва ўсходняй Украіне ўзімку і ўвесну 1943 г. Глыбіня выступу складала да 150 км, шырыня да 200 км.

*Чырвоная Армія* — Рабоча-Сялянская Чырвоная Армія (РСЧА) — афіцыйная назва Савецкай Арміі ў 1918—1946 гг. З'яўлялася асноўнай часткай узброеных сіл Савецкай дзяржавы, у склад якіх таксама ўваходзілі Ваенна-Марскі Флот, пагранічныя і ўнутраныя войскі.

С. 15:

*...немцы стаялі пад Масквой.*— у ходзе маштабнага наступлення ў верас.— снеж. 1941 г. нямецка-фашысцкія войскі наблізіліся да Масквы на адлегласць 25—30 км.

С. 16:

*«Тэлефункен»* — нямецкая прамысловая кампанія, вядомая найперш як вытворца тэле- і радыёабсталявання, сродкаў сувязі. Заснавана ў 1903 г.

С. 17:

*...закончыць нямецкі тэхнікум. У Ленінградзе.*— маецца на ўвазе Цэнтральны нямецкі педагагічны тэхнікум. Створаны ў Маскве ў 1921 г. як Нямецкі практычны інстытут народнай адукацыі, у 1923 г. пераўтвораны ў педагагічны тэхнікум з правамі вышэйшай навучальнай установы. У 1925 г. пераведзены ў Ленінград. Расфармаваны ў 1935 г.; Ленінград — горад на паўночным захадзе Расіі, на ўзбярэжжы Фінскага заліва і ў вусці ракі Нявы. Заснаваны ў 1703 г. Пятром І і названы ў яго гонар Санкт-Пецярбургам. У гады Першай сусветнай вайны перайменаваны ў Петраград. Пасля смерці У. І. Леніна ў 1924 г. названы Ленінградам. З 1991 г. носіць ранейшую назву — Санкт-Пецярбург.

С. 20:

*...пра Старажытную Індыю...* — Старажытная Індыя — дзяржава ў Паўднёвай Азіі ў далінах рэк Інд і Ганг, якая існавала ў III тыс. да н. э.— VI ст. н. э.

*Арыйскія плямёны* — індаеўрапейскія плямёны, што ў IV—III тыс. да н. э. насялялі стэпавую зону паўднёва-ўсходняй Еўропы (паводле іншых звестак — поўдзень Сярэдняй Азіі і прылеглую да яго тэрыторыю Іранскага плато). Разглядаюцца як непасрэдныя продкі сучасных індаіранскіх і большасці еўрапейскіх народаў.

С. 21:

*...прынеслі высокую нардычную культуру.*— маецца на ўвазе культура нардычнай (паўночнай) расы — малой расы ў складзе вялікай еўрапеоіднай расы. Згодна з тэорыяй нардызму, узятай на ўзбраенне тэарэтыкамі германскага фашызму і ўзведзенай у ранг афіцыйнай ідэалогіі гітлераўскай Германіі, прадстаўнікі нардычнай расы з’яўляюцца стваральнікамі сусветнай цывілізацыі.

*Індаеўрапейцы* — народы-носьбіты індаеўрапейскіх моў. Да індаеўрапейцаў адносіцца большая частка сучаснага чалавецтва, імі і роднымі ім з’яўляюцца многія старажытныя і сучасныя народы: армяне, балты, германцы, грэкі, індыйцы, іранцы, кельты, славяне і інш.

С. 26:

*Айн мамент* (*ням.*) — Хвіліначку.

*Вас волен зі?* (*ням.*) — Чаго жадаце?

*Гут, гут.* (*ням.*) — Добра, добра.

*Хачу з вярблюдам.*— маюцца на ўвазе цыгарэты маркі «Кэмэл», на пачцы якіх размешчана выява вярблюда.

*Нікс* (*ням.*) — Няма.

*...Афрыку прасвісталі.*— гаворка ідзе пра падзеі ў Паўночнай Афрыцы — на тэрыторыі Егіпта і Магрыба — у час Другой сусветнай вайны. У выніку наступлення англа-амерыканскіх войскаў у сак.— крас. 1943 г. італа-нямецкія войскі, акружаныя на паўвостраве Бон, 13 мая 1943 г. былі вымушаны капітуляваць.

С. 28:

*Волга* — рака ў еўрапейскай частцы Расіі, адна з найвялікшых рэк на зямным шары, найбуйнейшая ў Еўропе.

*Вялікі Каўказскі хрыбет* (Вялікі Каўказ) — горная сістэма, якая цягнецца з захаду на ўсход паміж Чорным і Каспійскім морамі. Даўжыня больш за 1100 км, шырыня да 180 км.

*Германскія плямёны* — вялікі саюз плямён індаеўрапейскай моўнай групы ў паўночна-заходняй частцы Еўропы. Займалі тэрыторыю паміж Паўночным і Балтыйскім морамі, Рэйнам, Дунаем і Віслай, а таксама Паўднёвую Скандынавію. Паводле пісьмовых крыніц вядомы з I ст. да н. э.

*Інд* — рака ў Кітаі, Індыі, Пакістане.

*Ганг* — рака ў Індыі, Бангладэш.

*Месапатамія* (Двухрэчча) — прыродная вобласць у Заходняй Азіі, у басейне рэк Тыгр і Еўфрат. Адзін з цэнтраў старажытнай цывілізацыі.

С. 29:

*Першая сусветная вайна* (1914—1918) — вайна паміж дзвюма кааліцыямі дзяржаў: Цэнтральнымі дзяржавамі (Германія, Аўстра-Венгрыя, Турцыя, Балгарыя) і Антантай (Расія, Францыя, Вялікабрытанія, Сербія, пазней Японія, Італія, Румынія, ЗША і інш.), выкліканая барацьбой за сферы ўплыву, крыніцы сыравіны, сусветнае панаванне.

*Згубленыя пакаленні...* — яшчэ: страчанае пакаленне — паняцце, што ўзнікла пасля Першай сусветнай вайны і характарызуе маладых франтавікоў, якія вярнуліся дадому маральна і фізічна скалечанымі, не маглі адаптавацца да мірнага жыцця.

С. 30:

*...яшчэ ў трэцім веку існавала Гоцкая дзяржава на Дняпры...* — маецца на ўвазе дзяржава Ойум, заснаваная готамі на пачатку III ст. н. э. і знішчаная гунамі прыканцы IV ст. Традыцыйна лакалізуецца ў Прыдняпроўі; Дняпро (Днепр) — рака ў Расіі, у Віцебскай, Магілёўскай і Гомельскай абл. Беларусі і ва Украіне; трэцяя паводле даўжыні і плошчы басейна рака Еўропы пасля Волгі і Дуная, упадае ў Чорнае мора.

*Готы* — плямёны ўсходніх германцаў якія на пачатку I тыс. н. э. перасяліліся са Скандынавіі на паўднёвае ўзбярэжжа Балтыйскага мора.

*Крым* — паўвостраў у паўночнай частцы Чорнага мора. Абмываецца на ўсходзе Азоўскім морам і Керчанскім пралівам.

*...у чацвёртым веку мелі Біблію на сваёй мове...*— маецца на ўвазе Гоцкая Біблія — першы літаратурны твор на германскай (а менавіта гоцкай) мове, які адначасова з’яўляецца і першым перакладным германскім пісьмовым помнікам. Пераклад быў зроблены ў IV ст. н. э. арыянскім епіскапам Вульфілай. Сёння існуюць толькі асобныя фрагменты гэтага перакладу.

*Гамбург* — горад на поўначы Германіі, на рацэ Эльбе.

*Мюнхен* — горад на паўднёвым усходзе Германіі, у перадгор’ях Альпаў, на рацэ Ізар.

С. 32:

*«Любімы горад»* — песня ў выкананні М. Бернэса (1911—1969). Словы Я. Далматоўскага (1915—1994), музыка М. Багаслоўскага (1913—2004).

*«Любимый город, можешь спать спокойно, / И видеть сны, и зеленеть среди весны...»* — радкі з песні «Любімы горад». У арыгінале гэтыя радкі гучаць крыху інакш: «Любимый город, может спать спокойно, / И видеть сны, и зеленеть среди весны...»

С. 36:

*...вызвалены Арол і Белгарад.*— Арол — горад у Расіі, цэнтр Арлоўскай вобл.; Белгарад — горад на поўдні еўрапейскай тэрыторыі Расіі, цэнтр Белгародскай вобл.; Арол і Белгарад былі вызвалены савецкімі войскамі 5 жн. 1943 г.

С. 39—40:

*«Там, перед казармой, где большая дверь, / Столб стоял фонарный, стоит еще теперь, / Сколько ночей под фонарем / Стояли мы с тобой вдвоем, / С тобой, Лили Марлен!..»*; *«Трубы прозвучали, долг меня зовет, / Долго мы стояли, прощаясь у ворот, /*

*Мы расставались в поздний час, / Там, где встречались столько раз / С тобой, Лили Марлен...»* — рускі пераклад першага і трэцяга куплетаў песні «Лілі Марлен» невядомага аўтара.
С. 40:

*Гебітскамісар* (*ням.* Gebietskommissar) — афіцыйны тытул службовай асобы, якая ажыццяўляла адміністрацыйныя функцыі на акупаваных нацысцкай Германіяй тэрыторыях, паводле іерархічнага статусу прыраўноўваўся да кіраўнікоў раённых адміністрацый у самой Германіі.
С. 43:

*«Vor der Kaserne, vor dem großen Tor / Stand eine Laterne und steht sie noch davor. / Und alle Leute soll'n es seh'n, / Wenn wir bei der Laterne steh'n, / Wie einst Lili Marleen...»* — першыя два радкі адпавядаюць прыведзенаму вышэй рускаму перакладу: «Там, перед казармой, где большая дверь, / Столб стоял фонарный, стоит еще теперь». Тры наступныя — канцавыя радкі другога куплета: «Пусть же узнают все о том, / Увидев нас под фонарем / С тобой, Лили Марлен…» (пераклад С. Шатрова).
С. 61:

*«А ў полі вярба, / Пад вярбой вада, / Там хадзіла, там гуляла / Дзеўка малада...»*; *«Хлопец да вады, / Дзеўка ад вады. / Пастой, пастой, дзяўчынанька, / Дай, кажа, вады...»* — радкі з беларускай народнай песні «А ў полі вярба».

*«А Лявоніха не маткай была / Ды нямытую кашульку дала. / Нямытую, некачаную, у суседа пазычаную...»* — радкі з беларускай народнай песні «Лявоніха».
С. 62:

*Гестапа* (*ням.* Gestapo, скар. ад Geheime Staatspolizei) — дзяржаўная тайная паліцыя ў фашысцкай Германіі ў 1933—1945 гг. Заснавана пад кіраўніцтвам Г. Герынга ў Прусіі з мэтай задушэння апазіцыі нацысцкаму рэжыму. Увосень 1934 г. створана агульнадзяржаўнае гестапа (узаконена дэкрэтам ад 17.06.1936). У сваёй дзейнасці выкарыстоўвала прэвентыўныя арышты, жорсткія катаванні, правакацыі і інш. З верас. 1939 г. у складзе Галоўнага ўпраўлення імперскай бяспекі (РСХА). У Другую сусветную вайну органы гестапа найбольш актыўна пераследавалі ўдзельнікаў руху Супраціўлення ў акупаваных нямецка-фашысцкімі войскамі краінах, у тым ліку на тэрыторыі Беларусі. Пасля падзення нацысцкай дыктатуры гестапа было ліквідавана і абвешчана па-за законам. На Нюрбергскім працэсе прызнана злачыннай арганізацыяй.

## ВЕРШЫ

### 1946

### Вясна (с. 66)

Друкуецца паводле газ. «Бальшавік Палесся», 1946, 29 мая, дзе ўпершыню апублікаваны.

Пад тэкстам: С. Кляшторны. Васілевічы.

### Ты выйдзі, паслухай… (с. 67)

Друкуецца паводле газ. «Бальшавік Палесся», 1946, 5 снеж., дзе ўпершыню апублікаваны.

Пад тэкстам: І. Науменка.

### 1947

### Я голас аддам... (с. 68)

Друкуецца паводле газ. «Бальшавік Палесся», 1947, 9 лют., дзе ўпершыню апублікаваны.

Пад тэкстам: І. Науменка.

*Праметэй* — адзін з тытанаў у старажытнагрэчаскай міфалогіі, абаронца людзей ад самавольства багоў.

### Загулі трактары... (с. 69)

Друкуецца паводле газ. «Чырвоная змена», 1947, 24 крас., дзе ўпершыню апублікаваны.

Перад тэкстам: Іван Науменка.

## Брыгадзір (с. 69)

Друкуецца паводле газ. «ЛіМ», 1948, 7 лют., дзе ўпершыню апублікаваны.

Пад тэкстам: 1947 г. Перад тэкстам: Іван Науменка.

У БДАМЛМ, у асабістым архіве І. Навуменкі, захоўваецца машынапіс верша (ф. 495, воп. 1, адз. зах. 84, арк. 2). Пад тэкстам надрукавана дата — 1947 г. і неўстаноўленай асобай зроблены допіс наступнага зместу: «Глубокоуважаемый Иван Яковлевич! Пусть этот экземпляр одного из первых Ваших стихотворений, свидетельствующий, кстати, об эпической природе Вашего таланта, станет началом систематизации Вашего личного архива. 10.V.76 г.».

## 1956

## Бывай, наш паэце... (с. 70)

Друкуецца паводле часоп. «Маладосць», 1956, № 9, дзе ўпершыню апублікаваны.

Уваходзіў у зб.: «Жыццё для народа», 1962; «Універсітэт паэтычны», 1971.

Верш прысвечаны памяці Якуба Коласа. У нумары часопіса «Маладосць», дзе ўпершыню надрукаваны твор, змешчаны вялікі партрэт паэта з подпісам: «Якуб Колас. 3 лістапада 1882 года — 13 жніўня 1956 года».

С. 70:

*Кастрычнік* — маецца на ўвазе Кастрычніцкая рэвалюцыя 1917 г., узброенае звяржэнне Часовага ўрада і прыход да ўлады ў Расіі партыі бальшавікоў.

## [1950-я гады]

### Гарачымі іскрамі словы б ляцелі… (с. 71)

Друкуецца паводле аўтографа (БДАМЛМ, ф. 495, воп. 1, адз. зах. 85, арк. 3).

Датаваны супрацоўнікамі БДАМЛМ.

## ІНТЭРВ'Ю

## 1963

### Новыя героі, новыя праблемы (с. 72)

Друкуецца паводле газ. «Звязда», 1963, 27 крас., дзе ўпершыню апублікавана.

Пад тэкстам: Іван Навуменка.

С. 72:

*«Бабруйсксельмаш»* (Бабруйскі завод сельскагаспадарчага машынабудавання) — завод, створаны ў 1960 г. у Бабруйску на базе рамонтна-механічнага завода. У 1970—1990 гг. уваходзіў у вытворчыя аб'яднанні «Бабруйсксельмаш», «Бабруйскферммаш», «Бабруйскаграмаш». З 2004 г.— адкрытае акцыянернае таварыства «Бабруйсксельмаш».

*«Сасна пры дарозе»* — раман, напісаны ў 1962 г.

*Нядаўняя сустрэча кіраўнікоў партыі і ўрада з дзеячамі літаратуры і мастацтва…* — сустрэча адбылася 7-8 сак. 1963 г. у Маскве ў Свярдлоўскай зале Крамля.

*Камунізм* — у марксізме: грамадска-эканамічны лад, які грунтуецца на сацыяльнай роўнасці, грамадскай уласнасці на сродкі вытворчасці і садзейнічае ўсебаковаму развіццю асобы.

*Летась выйшаў у свет мой першы раман «Сасна пры дарозе», які, здаецца, з пэўнай прыхільнасцю сустрэты чытачом і крытыкай.*— раман упершыню апублікаваны ў часоп. «Маладосць» (1962. № 7—10). Асобнай кнігай выйшаў у 1962 г. На момант

інтэрв'ю атрымаў наступныя рэцэнзіі ў друку: Бугаёў Д. «Тэма традыцыйная, але…» (Беларусь. 1963. № 3); Дзюбайла П. «Выпрабаванне чалавечай годнасці» (Чырвоная змена. 1963. 17 лют.); Куляшоў Ф. «Усё адолее чалавек» (Полымя. 1963. № 4); Пашкевич Н. «Сквозь огонь войны» (Советская Белоруссия. 1963. 5 янв.).

*Гэта другая кніга будзе называцца «Сорак трэці»...* — другі раман ваеннай трылогіі І. Навуменкі атрымаў назву «Вецер у соснах» (1967), «Сорак трэці» (1973) — заключная кніга трылогіі.

*Аповесць будзе хутка завершана, і я спадзяюся, што яшчэ ў сёлетнім годзе яна ўбачыць свет.*— урывак з аповесці «Бульба» (1964) быў надрукаваны ў газ. «Мінская праўда» (1963. 21 ліп.). Цалкам яна ўпершыню апублікавана ў часоп. «Маладосць» (1964. № 8). Асобнай кнігай выйшла ў 1964 г.

*Ёсць у мяне некалькі апавяданняў, таксама прысвечаных жыццю моладзі. На працягу гэтага года пачну іх друкаваць.*— на працягу года былі апублікаваны апавяданні «Звіні, званок!» (Бярозка. 1963. № 9), «Здарэнне на паўстанку "Вялікія Іваны"» (Маладосць. 1963. № 7) і «Водбліскі зыркіх ракет» (Звязда. 1963. 9 чэрв.), якое пазней друкавалася пад назвай «Ракеты над горадам».

## 1967

### Ад'язджаючы на чацвёрты ўсесаюзны… (с. 73)

Друкуецца паводле газ. «ЛіМ», 1967, 19 мая, дзе ўпершыню апублікавана.

Перад тэкстам: Іван Навуменка.

С. 73:

*...чацвёрты ўсесаюзны...* — маецца на ўвазе IV з'езд пісьменнікаў СССР. Праходзіў у Маскве 22—27 мая 1967 г.

## 1968

### Я — за рамантыку (с. 73)

Друкуецца паводле часоп. «Маладосць», 1968, № 10, дзе ўпершыню апублікавана.

Пад тэкстам: Гутарку вёў Аляксей Гардзіцкі. Друкавалася ў скарочаным варыянце на рускай мове пад назвай «Мое поколение» ў газ. «Книжное обозрение», 1968, 26 кастр.

С. 73:

«*Вераніка*» — апавяданне, напісанае ў 1957 г.

С. 74:

*...прэмія імя Ленінскага камсамола Беларусі, якой ён быў удастоены летась.*— Ленінскі камсамол Беларусі (Ленінскі Камуністычны Саюз Моладзі Беларусі, ЛКСМБ) — маладзёжная арганізацыя Беларусі. Працавала пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі Беларусі (КПБ) і Усесаюзнага Ленінскага Камуністычнага Саюза Моладзі (ВЛКСМ); прэмія Ленінскага камсамола Беларусі — прэмія, якая прысуджалася маладым аўтарам, а таксама калектывам і арганізацыям за выдатныя дасягненні ў галіне навукі, тэхнікі, вытворчасці, культуры. Заснавана ў 1967 г.; І. Навуменка быў узнагароджаны прэміяй у 1967 г. за кнігу «Таполі юнацтва» (1966).

*— Першыя мае апавяданні «Сямнаццатай вясной», «Сідар і Гараська» і «Эх, махорачка...» — расказвае пісьменнік,— былі надрукаваны ў 1955 годзе.*— Апавяданне «Сямнаццатай вясной» (1956) упершыню надрукавана ў часоп. «Маладосць» (1956. № 3), «Сідар і Гараська» (1955) і «Эх, махорачка...» (1955) — таксама ў «Маладосці» (1955. № 6) пад агульнай рубрыкай «З незабыўных дзён».

*Брацкая ГЭС* (імя 50-годдзя Вялікага Кастрычніка) — гідраэлектрастанцыя на Ангары ў г. Брацку Іркуцкай вобл. Расіі. Будаўніцтва ГЭС доўжылася з 1954 па 1967 г.

*...казахстанскі цалінны стэп...* — маецца на ўвазе асваенне цаліны — комплекс мерапрыемстваў па павелічэнні вытворчасці збожжа ў СССР у 1955—1965 гг. шляхам увядзення ў абарот цалінных — слабаасвоеных, але ўрадлівых — зямельных рэсурсаў найперш у Казахстане, а таксама ў Паволжы, Сібіры, на Урале, Далёкім Усходзе.

*...Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, дзе я працую...* — Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт (БДУ) — найстарэйшы ўніверсітэт Беларусі, знаходзіцца ў Мінску. Заснаваны паводле пастановы ЦВК БССР у 1921 г. Афіцыйна адкрыўся 30 кастр. 1921 г.; І. Навуменка працаваў на філалагічным факультэце БДУ з 1954 г., у 1958—1969 гг.— старшым выкладчыкам, дацэнтам кафедры беларускай літаратуры, у 1969—1972 гг.— прафесарам, загадчыкам той жа кафедры.

*...ў часы Сцёпкі Баруты...* — Сцёпка Барута — галоўны герой аповесці Якуба Коласа «На прасторах жыцця» (1926).

С. 75:

*«Сокі цаліны»* (1914—1929) — раман Цішкі Гартнага.

*Лабановіч* — галоўны герой трылогіі Якуба Коласа «На ростанях» (1923—1954).

*...Максім Танк, што працаваў па той бок мяжы, у былой Заходняй Беларусі...* — Заходняя Беларусь — частка тэрыторыі Беларусі, якая ў выніку польска-савецкай вайны 1920 г. адышла да Польшчы паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. і знаходзілася ў яе складзе да верас. 1939 г. Тэрыторыя Заходняй Беларусі прыблізна адпавядае сучасным Брэсцкай, Гродзенскай, частцы Мінскай і Віцебскай абл.; Максім Танк удзельнічаў у рэвалюцыйна-вызваленчым руху ў Заходняй Беларусі. Быў інструктарам ЦК КСМЗБ, у інструктарскай групе ЦК КПЗБ. Актыўна супрацоўнічаў з нелегальным друкам, з 2-й пал. 1930-х гг.— на рабоце ў легальных выданнях.

С. 76:

*«Трывожнае шчасце»* — пенталогія, якую склалі аповесці «Непаўторная вясна» (1957), «Начныя зарніцы» (1958), «Агонь і снег» (1959), «Пошукі сустрэчы» (1959), «Мост» (1965).

*«Сустрэнемся на барыкадах»* — раман-эпапея, напісаны ў 1951—1954 гг.

*«Сорак трэці»* — гл. камент. да інтэрв'ю «Новыя героі, новыя праблемы» (с. 674).

С. 77:

*«Сасна пры дарозе»* — гл. камент. да інтэрв'ю «Новыя героі, новыя праблемы» (с. 673).

*...«Жураўліны крык» і «Альпійская балада»...* — аповесць «Жураўліны крык» напісана ў 1959 г., «Альпійская балада» — у 1963 г.

*Ядвіся* — гераіня аповесці Якуба Коласа «У палескай глушы» (1923), якая ўваходзіць у трылогію «На ростанях» (1923—1954).

## 1972

### «Ісці ўслед за бягучым днём…» (с. 77)

Друкуецца паводле газ. «Вячэрні Мінск», 1972, 10 мая, дзе ўпершыню апублікавана пад рубрыкай «Пісьменнік за рабочым сталом».

Пад тэкстам: Гутарку вёў І. Кудраўцаў.

С. 77:

*«Сасна пры дарозе»* — гл. камент. да інтэрв'ю «Новыя героі, новыя праблемы» (с. 673).

*«Вецер у соснах»* (1967) — раман асобнай кнігай выйшаў у 1967 г.

*«Бульба»* — гл. камент. да інтэрв'ю «Новыя героі, новыя праблемы» (с. 674).

*«Вайна каля Цітавай копанкі»* (1957) — аповесць асобнай кнігай выйшла ў 1959 г.

*«Янка Купала. Духоўны воблік героя»* (1967) — манаграфія асобнай кнігай выйшла ў 1967 г.

*«Якуб Колас. Духоўны воблік героя»* (1968) — манаграфія асобнай кнігай выйшла ў 1968 г.

С. 78:

*— Нядаўна выйшаў з друку мой зборнік «Тая самая зямля».*— зборнік выйшаў у 1971 г.

*«У бары на світанні»* — аповесць, напісаная ў 1971 г.

*«Сорак трэці»* — гл. камент. да інтэрв'ю «Новыя героі, новыя праблемы» (с. 674).

*…паездка з сябрамі-літаратарамі ў Магнітагорск…* — Магнітагорск — горад у Чалябінскай вобл. Расіі, адзін з найбуйнейшых сусветных цэнтраў чорнай металургіі; І. Навуменка наведаў Магнітагорск у сак. 1971 г. у складзе дэлегацыі беларускіх пісьменнікаў (А. Адамовіч, М. Аўрамчык, В. Вітка, С. Грахоўскі, А. Грачанікаў, У. Караткевіч, А. Лойка, У. Паўлаў), якую ўзначальваў Я. Брыль.

*Палессе* — гісторыка-культурная і фізіка-геаграфічная вобласць на тэрыторыі Палескай нізіны. Размяшчаецца на поўдні Беларусі і поўначы Украіны, часткова ахоплівае тэрыторыі Люблінскага ваяводства Польшчы і Бранскай вобл. Расіі.

*...пленума Саюза пісьменнікаў СССР, які праходзіў пад сцягам пастановы КПСС «Аб літаратурна-мастацкай крытыцы».*— СССР (Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік) — шматнацыянальная федэратыўная дзяржава, якая існавала са снеж. 1922 да снеж. 1991 г. на тэрыторыі Усходняй Еўропы, паўночнай частцы Цэнтральнай і Усходняй Азіі, была найбуйнейшай паводле плошчы краінай свету; Саюз пісьменнікаў СССР — арганізацыя прафесійных пісьменнікаў Савецкага Саюза. Створана ў 1934 г. на І з'ездзе пісьменнікаў СССР. Пасля распаду СССР падзялілася на мноства арганізацый у розных краінах постсавецкай прасторы; КПСС (Камуністычная партыя Савецкага Саюза) — кіруючая палітычная арганізацыя ў СССР. Утворана як Расійская сацыял-дэмакратычная рабочая партыя ў сак. 1898 г. У 1917—1918 гг.— Расійская сацыял-дэмакратычная рабочая партыя (бальшавікоў). У 1918—1925 гг.— Расійская камуністычная партыя (бальшавікоў). У 1925—1952 гг.— Усесаюзная камуністычная партыя (бальшавікоў). Спыніла існаванне ў 1991 г.; пастанова ЦК КПСС «Аб літаратурна-мастацкай крытыцы» была прынята 21 студз. 1972 г.; пленум праўлення Саюза пісьменнікаў СССР адбыўся ў канцы студз. 1972 г.

С. 79:

*...напісаць манаграфію «Стыль Якуба Коласа».*— асобнае даследаванне пад такой назвай І. Навуменкам напісана не было.

## 1973

## Прэмія абавязвае (с. 80)

Друкуецца паводле газ. «ЛіМ», 1973, 3 студз., дзе ўпершыню апублікавана з рэдакцыйным падзагалоўкам «Гутарка з Іванам Навуменкам».

С. 80:

*...аб прысуджэнні Дзяржаўнай прэміі БССР?* — Дзяржаўныя прэміі БССР — дзяржаўныя ўзнагароды за творчыя дасягненні ў галіне навукі і тэхнікі, літаратуры, мастацтва і архітэктуры. Заснаваныя ЦК КПБ і Саветам Міністраў БССР. Уручаліся ў 1965—1992 гг., з 1992 г.— Дзяржаўныя прэміі Рэспублікі Беларусь. І. Навуменка быў уганараваны Дзяржаўнай прэміяй БССР імя Якуба Коласа

(прысуджаецца за творы прозы, працы ў галіне літаратуразнаўства і крытыкі) за кнігі «Янка Купала. Духоўны воблік героя» (1967) і «Якуб Колас. Духоўны воблік героя» (1968).

*...ўдзячны роднай партыі...* — маецца на ўвазе Камуністычная партыя Савецкага Саюза — гл. камент. да інтэрв'ю «Ісці ўслед за бягучым днём…» (с. 678).

*— Мінулы год прайшоў пад знакам купалаўскага і коласаўскага юбілеяў...* — у 1972 г. адзначаліся 90-годдзі з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа.

*...прыйшлося напісаць пра іх даволі значную колькасць артыкулаў, выступаць з дакладамі...* — у 1972 г. выйшлі наступныя артыкулы І. Навуменкі, прысвечаныя Янку Купалу і Якубу Коласу: «В живом строю литературы» (у кн.: Колас Я. «На просторах жизни; Трясина»); «Наш Купала» (зб. «Народныя песняры»); «Пясняр савецкай явы» (Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. № 5); «Наш Колас» (Коммунист Белоруссии. № 10); «Летапіс жыцця і барацьбы» (Полымя. № 11); «Вялікі народны паэт» (ЛіМ. 7 ліп.).

*...выкладчык беларускай літаратуры...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Я — за рамантыку» (с. 676).

*...хочацца напісаць кнігу «Стыль Якуба Коласа»* — гл. камент. да інтэрв'ю «Ісці ўслед за бягучым днём…» (с. 678).

*...працаваў над раманам «Сорак трэці», якім завяршыцца трылогія, распачатая кнігамі «Сасна пры дарозе» і «Вецер у соснах».*— гл. камент. да інтэрв'ю «Новыя героі, новыя праблемы» (с. 673, 674).

**У беларускіх літаратуразнаўцаў (с. 81)**

Друкуецца паводле газ. «Голас Радзімы», 1973, № 50, дзе ўпершыню апублікавана.

С. 81:

*Інстытут літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук БССР* — навуковая ўстанова. Заснавана ў 1931 г. як Інстытут літаратуры і мастацтва. У 1935 г. рэарганізавана ў Інстытут мовы, літаратуры і мастацтва, з 1952 па 1957 г.— Інстытут літаратуры і мастацтва. З 2008 г.— Інстытут мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы. З 2012 г.— у складзе Цэнтра даследаванняў белару-

скай культуры, мовы і літаратуры, з 2016 г.— як філіял «Інстытут літаратуразнаўства імя Янкі Купалы»; Акадэмія навук БССР — вышэйшая дзяржаўная навуковая ўстанова, якая ажыццяўляе і каардынуе фундаментальныя і пошукавыя даследаванні па асноўных кірунках прыродазнаўчых, тэхнічных і грамадскіх навук. Заснавана 1 студз. 1929 г. у Мінску на базе Інстытута беларускай культуры. Да 1936 г. называлася Беларуская акадэмія навук. З 1992 г.— Акадэмія навук Беларусі, з 1997 г.— Нацыянальная акадэмія навук Беларусі.

*...няштатны карэспандэнт Сцяпан Лаўшук...* — С. Лаўшук супрацоўнічаў з газ. «Голас Радзімы» ў 1970—1990 гг.

*...да дырэктара інстытута члена-карэспандэнта АН БССР...* — І. Навуменка працаваў дырэктарам Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы з крас. 1973 па кастр. 1982 г. Членам-карэспандэнтам АН БССР абраны ў 1972 г.

*...доктар філалагічных навук...* — ступень доктара філалагічных навук І. Навуменка атрымаў у 1969 г.

*...ўзначальваў кафедру беларускай літаратуры БДУ імя Леніна...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Я — за рамантыку» (с. 676); імя У. І. Леніна БДУ насіў у 1949—1991 гг.

*...«Сасна пры дарозе», «Вецер у соснах»...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Новыя героі, новыя праблемы» (с. 673, 674).

С. 82:

*Беларуская дакастрычніцкая літаратура* — беларуская літаратура да Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 г.

*...на шляхах сацыялістычнага рэалізму...* — сацыялістычны рэалізм — творчы метад літаратуры і мастацтва, які грунтаваўся на сацыялістычных канцэпцыях светаўспрымання. У аснову мастацка-выяўленчых патрабаванняў пакладзены народнасць, гуманістычнасць, рамантыка, праўдзівасць гісторыка-канкрэтнага адлюстравання рэчаіснасці. Тэрмін упершыню з'явіўся ў перыядычным друку ў 1932 г. і быў заклікаў абазначыць мастацкую своеасаблівасць савецкай літаратуры.

*...марксісцка-ленінскай тэорыі літаратуры.*— марксісцка-ленінская тэорыя літаратуры — тэорыя, у аснове якой ляжыць марксісцка-ленінская філасофія (дыялектычны і гістарычны матэрыялізм). Падыходзіць да прыроды мастацкай творчасці як да адной з форм грамадскай свядомасці, адлюстравання рэчаіснасці, падкрэслівае адзінства пытанняў метадалогіі і паэтыкі і разглядае другія на аснове першых.

*Сектар дакастрычніцкай літаратуры...* — структурная адзінка Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы. Утворана ў 1952 г. як сектар дарэвалюцыйнай літаратуры. У 1963—1979 гг.— сектар дакастрычніцкай літаратуры і тэксталогіі. З 1992 г.— аддзел гісторыі старажытнай і новай беларускай літаратуры. З 2008 г.— сектар гісторыі беларускай літаратуры.

*...кіруе доктар філалогіі Ю. Пшыркоў...* — Ю. Пшыркоў быў загадчыкам сектара ў 1953—1980 гг.

*Сектар тэорыі літаратуры* — структурная адзінка Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы. Утворана ў 1969 г. З 1992 г.— аддзел тэорыі літаратуры, з 2008 г.— аддзел тэорыі і гісторыі літаратуры.

*...пад кіраўніцтвам прафесара Н. Перкіна...* — Н. Перкін узначальваў сектар у 1970—1976 гг.

*Сектар савецкай літаратуры* — структурная адзінка Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы. Утворана ў 1952 г. З 1992 г.— аддзел сучаснай беларускай літаратуры, з 2008 г.— аддзел беларускай літаратуры XX і XXI стст.

С. 83:

*...чатырохтомнай гісторыі беларускай літаратуры.*— маецца на ўвазе «Гісторыя беларускай савецкай літаратуры» (т. 1-2, 1965—1966) і «Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры» (т. 1-2, 1968—1969).

*...завяршаюць падрыхтоўку падобнага выдання, але на рускай мове...* — маецца на ўвазе «История белорусской дооктябрьской литературы» (1977) і «История белорусской советской литературы» (1977).

*...зборы твораў: Якуба Коласа ў чатырнаццаці тамах, Янкі Купалы ў сямі і Кузьмы Чорнага ў васьмі тамах.*— Збор твораў Якуба Коласа ў 14 т. выходзіў у 1972—1978 гг.; Янкі Купалы ў 7 т.— у 1972—1976 гг.; Кузьмы Чорнага ў 8 т.— у 1972—1975 гг.

## 1975

### Вяртанне ў маладосць (с. 83)

Друкуецца паводле газ. «Чырвоная змена», 1975, 16 лют., дзе ўпершыню апублікавана.

Пад тэкстам: Інтэрв'ю правяла М. Старых.

Перад тэкстам змешчаны Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР «Аб узнагароджанні пісьменніка Навуменкі І. Я. ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга»: «За заслугі ў развіцці савецкай літаратуры і ў сувязі з пяцідзесяцігоддзем з дня нараджэння ўзнагародзіць пісьменніка Навуменку Івана Якаўлевіча ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга». Указ падпісаны старшынёй Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР М. Падгорным і сакратаром Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР М. Геаргадзэ. Пад подпісам: Масква, Крэмль, 14 лютага 1976 г.

С. 83:

*...доктару філалагічных навук, члену-карэспандэнту АН БССР, дырэктару Інстытута літаратуры АН, лаўрэату Дзяржаўнай прэміі БССР імя Якуба Коласа і прэміі Ленінскага камсамола рэспублікі...*— гл. камент. да інтэрв'ю «Я — за рамантыку» (с. 675), «Прэмія абавязвае» (с. 678—679), «У беларускіх літаратуразнаўцаў» (с. 679—680).

С. 84:

*Шэсць гадоў я працаваў карэспандэнтам газеты «Бальшавік Палесся»...* — І. Навуменка працаваў уласным карэспандэнтам газ. «Бальшавік Палесся» па Васілевіцкім, Даманавіцкім, Калінкавіцкім і Хойніцкім раёнах у 1945—1951 гг.

*«Загулі, загулі трактары»* — гл. камент. на с. 671.

*...ў «Звяздзе», а потым у часопісе «Маладосць», куды я перайшоў працаваць.*— у газ. «Звязда» І. Навуменка працаваў у 1951—1952 гг. карэспандэнтам па Палескай вобл., затым — літаратурным супрацоўнікам; у часоп. «Маладосць» працаваў у 1953—1958 гг. загадчыкам аддзела навукі і студэнцкай моладзі, аддзела рабочай і сельскай моладзі, аддзела прозы.

*...аднаму юнаку.*— героем нарыса быў Радамір Лукошка, студэнт-дыпломнік гідратэхнічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага політэхнічнага інстытута.

*Працавалі там у той час Кулакоўскі, Рылько...* — А. Кулакоўскі ў 1953—1958 гг. займаў пасаду галоўнага рэдактара часоп. «Маладосць».

*...«Сідар і Гараська» і «Эх, махорачка...»* — гл. камент. да інтэрв'ю «Я — за рамантыку» (с. 675).

*«Хлопцы-равеснікі»* — зборнік выйшаў у 1958 г.

*«Верасы на выжарынах»* — зборнік выйшаў у 1960 г.

*...выдаў пяць зборнікаў апавяданняў...* — «Сямнаццатай вясной» (1957), «Хлопцы-равеснікі» (1958), «Верасы на выжарынах» (1960), «Таполі юнацтва» (1966), «Вераніка» (1968).

*...«Сасна пры дарозе», «Вецер у соснах», «Сорак трэці»...*— гл. камент. да інтэрв'ю «Новыя героі, новыя праблемы» (с. 673, 674).

С. 85:

*...свой партызанскі атрад, разведвальную групу...* — І. Навуменка быў партызанам Васілевіцкай брыгады імя П. К. Панамарэнкі, якая дзейнічала з 31 кастр. па 17 лістап. 1943 г. у Васілевіцкім раёне Палескай вобл. Уваходзіў у армейскую разведвальна-дыверсійную групу на чале з капітанам Ф. Манзіенкам, якая дзейнічала ў 1942—1943 гг. на тэрыторыі Палесся.

*...з камандзірамі Палескага злучэння.*— Палескае партызанскае злучэнне створана ў сак. 1943 г. на базе злучэння партызанскіх атрадаў у паўночных раёнах Палескай вобл., якое сфарміравалася ў ліст. 1941 — лют. 1942 г. і з крас. 1942 па сак. 1943 г. дзейнічала ў аб'яднанні з Мінскім партызанскім злучэннем. З канца верас. 1943 г. па меры вызвалення Палескай вобл. адбывалася злучэнне партызанскіх фарміраванняў з часцямі Чырвонай Арміі. Камандзіры злучэння — Ф. М. Языковіч, К. М. Бакун, І. Д. Вятроў, І. В. Скалабан (загінуў), Р. М. Дарожка.

*Палессе* — гл. камент. да інтэрв'ю «Ісці ўслед за бягучым днём...» (с. 677).

*...стаў адным з арганізатараў і актыўным удзельнікам камсамольскага падполля...* — у 1941—1943 гг. на тэрыторыі Васілевіцкага раёна Гомельскай вобл. дзейнічала патрыятычнае падполле, у тым ліку падпольная камсамольская група «За Радзіму», у якую ўваходзіў І. Навуменка.

*Разам з часцямі Савецкай Арміі вызваляў родныя Васілевічы і ўдзельнічаў у баях на Ленінградскім і Першым Украінскім франтах.*— Савецкая Армія — афіцыйная назва Узброеных сіл СССР у 1946—1991 гг. У 1918—1946 гг.— Чырвоная Армія; Васілевічы — горад у Рэчыцкім раёне Гомельскай вобл. радзіма І. Навуменкі. Вызвалены 18 лістап. 1943 г.; Ленінградскі фронт — аператыўна-стратэгічнае аб'яднанне войск Чырвонай Арміі. Утвораны 23 жн. 1941 г. шляхам падзелу Паўночнага фронту на Карэльскі і Ленінградскі. Перад фронтам стаяла задача абароны Ленінграда. У 1943—1944 гг. ажыццяўляў наступальныя аперацыі па вызваленні захопленых ворагам тэрыторый. 24 ліп. 1945 г. пераўтвораны ў Ленінградскую

ваенную акругу; 1-шы Украінскі фронт — аператыўна-стратэгічнае аб'яднанне войск Чырвонай Арміі на паўднёва-заходнім кірунку. Утвораны 20 кастр. 1943 г. шляхам перайменавання Варонежскага фронту. Расфарміраваны 10 чэрв. 1945 г.

*Анегін* — галоўны герой рамана ў вершах «Яўгеній Анегін» (1823—1831) А. С. Пушкіна.

*Пячорын* — галоўны герой рамана «Герой нашага часу» (1838—1840) М. Ю. Лермантава.

С. 86:

*...за кнігу апавяданняў «Таполі юнацтва»...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Я — за рамантыку» (с. 675).

С. 87:

*...выкладаў у БДУ імя У. І. Леніна...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Я — за рамантыку» (с. 676), «У беларускіх літаратуразнаўцаў» (с. 680).

*«Развітанне ў Кавальцах»* — аповесць, напісаная ў 1974 г.

*«У бары на світанні»* — гл. камент. да інтэрв'ю «Ісці ўслед за бягучым днём…» (с. 677).

*«Бульба»* — гл. камент. да інтэрв'ю «Новыя героі, новыя праблемы» (с. 674).

*А пакуль у бліжэйшых планах франтавая аповесць «Карэльскі перашыек»...* — задума гэтай аповесці атрымала рэалізацыю ў рамане «Смутак белых начэй» (1978).

*«Апошняя восень»* — аповесць, напісаная ў 1975 г.

*Пачата аповесць пра сучаснасць — «Месяц жаўталісця».*— аповесць была скончана ў 1976 г., выйшла пад назвай «Замяць жаўталісця».

*...будаўніцтва нафтагіганта...* — маецца на ўвазе Мазырскі нафтаперапрацоўчы завод, вытворчая дзейнасць якога пачалася ў 1975 г.

*...узвышаюцца буравыя вышкі...* — гаворка ідзе пра Рэчыцкае радовішча нафты, адкрытае ў 1964 г.

**Размова на парозе пяцідзесяцігоддзя (с. 88)**

Друкуецца паводле часоп. «Маладосць», 1975, № 2, дзе ўпершыню апублікавана пад рубрыкай «Віншуем з юбілеем!», з рэдакцыйным падзагалоўкам «Інтэрв'ю з Іванам Навуменкам».

У БДАМЛМ, у асабістым архіве І. Навуменкі, захоўваецца фрагмент чарнавога аўтографа інтэрв'ю (ф. 495, воп. 1, адз. зах. 216, арк. 7).

С. 88:

*...былога супрацоўніка часопіса, нашага аўтара, а таксама актыўнага члена рэдкалегіі...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 682).

*Старажытныя грэкі* — насельніцтва Старажытнай Грэцыі (Элады) — цывілізацыі на тэрыторыі паўднёвай часткі Балканскага паўвострава, астравоў Эгейскага мора, заходняга ўзбярэжжа паўвострава Малая Азія і іншых зямель у II—I тыс. да н. э.

*Пачаў я друкавацца ў «Маладосці»...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Я — за рамантыку» (с. 675).

*...працуеце на новай пасадзе — дырэктарам Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР.*— гл. камент. да інтэрв'ю «У беларускіх літаратуразнаўцаў» (с. 679—680).

*...расставацца са студэнтамі, з выкладчыцкай дзейнасцю.*— гл. камент. да інтэрв'ю «Я — за рамантыку» (с. 676).

С. 90:

*...трылогію пра партызанскі рух на Палессі.*— гл. камент. да інтэрв'ю «Новыя героі, новыя праблемы» (с. 673, 674).

*Нядаўна надрукавана ў «Полымі» невялічкая аповесць «Развітанне ў Кавальцах».*— «Развітанне ў Кавальцах» (1974) надрукавана ў часоп. «Полымя» (1974. № 12).

*«Месяц жаўталісця»* — гл. камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 684).

**Пад сцягам сацыялістычнага рэалізму (с. 90)**

Друкуецца паводле газ. «ЛіМ», 1975, 12 снеж., дзе ўпершыню апублікавана з рэдакцыйным падзагалоўкам «Гутарка з лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі БССР, членам-карэспандэнтам АН БССР, дырэктарам Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Іванам Навуменкам».

Пад тэкстам: Гутарку запісаў П. Захаравіч.

У БДАМЛМ, у асабістым архіве І. Навуменкі, захоўваецца машынапіс інтэрв'ю з аўтарскімі праўкамі (ф. 495, воп. 1, адз. зах. 330, арк. 1—61). Асобныя старонкі адсутнічаюць, назва і дата не пазначаны.

С. 90:

*...XXV з'езду Камуністычнай партыі.*— Камуністычная партыя — гл. камент. да інтэрв'ю «Ісці ўслед за бягучым днём...» (с. 678); XXV з'езд КПСС праходзіў у Маскве з 24 лют. па 5 сак. 1976 г.

*Пастанова ЦК КПСС аб перадз'ездаўскім сацыялістычным спаборніцтве* — верагодна, маецца на ўвазе пастанова ЦК КПСС, Савета Міністраў СССР, Усесаюзнага ЦК прафсаюзаў і ЦК ВЛКСМ «Аб усесаюзным сацыялістычным спаборніцтве за павышэнне эфектыўнасці вытворчасці і якасці працы, за паспяховае выкананне народнагаспадарчага плана на 1976 год» ад 21 студз. 1976 г.; ЦК КПСС — Цэнтральны камітэт КПСС — вышэйшы калектыўны кіруючы орган партыі ў прамежках паміж з'ездамі; сацыялістычнае спаборніцтва — грамадскія адносіны пры сацыялізме, масавы рух працоўных, скіраваны на найвышэйшыя дасягненні ў вытворчасці матэрыяльных і духоўных даброт.

*Інстытут літаратуры імя Янкі Купалы* — гл. камент. да інтэрв'ю «У беларускіх літаратуразнаўцаў» (с. 679—680).

С. 91:

*...двухтомная Гісторыя беларускай літаратуры, разлічаная на рускага чытача.*— гл. камент. да інтэрв'ю «У беларускіх літаратуразнаўцаў» (с. 681).

*...чатырохтомную гісторыю, якая выйшла раней.*— гл. камент. да інтэрв'ю «У беларускіх літаратуразнаўцаў» (с. 681).

*...выйшла кніга кандыдата філалагічных навук М. Мушынскага...* — маецца на ўвазе манаграфія «Беларуская крытыка і літаратуразнаўства, 20—30-я гады» (1975).

*«Вытокі. Уплывы. Паскоранасць»* — кніга выйшла ў 1975 г.

*«Чалавек у савецкім рамане»* — кніга выйшла ў 1975 г.

*...завяршае работу, прысвечаную новай праблеме...*— маецца на ўвазе манаграфія «Здалёк і зблізку: беларуская проза на літаратурнай планеце» (1976).

*...сектара савецкай літаратуры, якім кіруе доктар філалагічных навук П. Дзюбайла...* — сектар савецкай літаратуры — гл. камент. да інтэрв'ю «У беларускіх літаратуразнаўцаў» (с. 681); П. Дзюбайла кіраваў сектарам у 1967—1995 гг.

С. 92:

*Навукова-тэхнічная рэвалюцыя* (НТР) — карэннае, якаснае пераўтварэнне навукі, тэхнікі, сістэмы прадукцыйных сіл на аснове

ператварэння навукі ў вядучы фактар развіцця вытворчасці. НТР пачалася з сярэдзіны 1940-х гг., яе перадумовы створаны ў канцы XIX — пачатку XX ст. у сувязі з шэрагам адкрыццяў у прыродазнаўчых навуках. Уплывае на ўсе бакі жыцця грамадства, у тым ліку на яго сацыяльную і галіновую структуру, культуру, побыт і псіхалогію людзей, змяняе ўмовы, характар і змест іх працы, уздзейнічае на экалагічную сітуацыю, дэмаграфічныя працэсы і інш.

*...загадчыка сектара дакастрычніцкай літаратуры і тэксталогіі Ю. Пшыркова...* — гл. камент. да інтэрв'ю «У беларускіх літаратуразнаўцаў» (с. 680—681).

*«Летапіс рэвалюцыі»* — верагодна, маецца на ўвазе кніга «Эпас рэвалюцыі» (1975).

*...сацыялістычнага рэалізму...* — гл. камент. да інтэрв'ю «У беларускіх літаратуразнаўцаў» (с. 680).

*...над фашызмам...* — фашызм — палітычная плынь праваэкстрэмісцкага характару і адпаведны ёй таталітарны рэжым; ідэалогія, заснаваная на ваяўнічым антыдэмакратызме і нацыяналізме, кульце расавай перавагі. Найбольш характэрныя рысы фашысцкага палітычнага рэжыму: адмаўленне ад дэмакратычнай сістэмы як формы дзяржаўнага ладу на карысць дыктатуры, татальны масавы тэрор, сцвярджэнне асаблівай місіі адпаведнага («абранага») народа і апраўданне выкарыстання ім сілы для вырашэння сваіх геапалітычных інтарэсаў, насаджэнне культу пэўнага харызматычнага лідара.

С. 93:

*Сектар тэорыі літаратуры* — гл. камент. да інтэрв'ю «У беларускіх літаратуразнаўцаў» (с. 681).

*Завяршаецца выданне Збору твораў Янкі Купалы, Якуба Коласа, Кузьмы Чорнага.*— гл. камент. да інтэрв'ю «У беларускіх літаратуразнаўцаў» (с. 681).

*...пяцітомны Збор твораў Змітрака Бядулі.*— Збор твораў Змітрака Бядулі ў 5 т. выйшаў у 1985—1989 гг.

*...акадэмічнага выдання Збору твораў Міхася Лынькова...*— Збор твораў М. Лынькова ў 8 т. выйшаў у 1981—1985 гг.

*...«Раман. Аповесць. Праблемы жанру», «Апавяданне. Нарыс. Праблемы жанру»...* — верагодна, маюцца на ўвазе кнігі «Беларуская савецкая проза: Раман і аповесць» (1971) і «Беларуская савецкая проза: Апавяданне і нарыс» (1971).

*...«Людзі на балоце» і «Подых навальніцы»...* — раман «Людзі на балоце» напісаны ў 1961 г., «Подых навальніцы» — у 1964—1965 гг.

*...напісаў трэці раман — «Снежань» і збіраецца яго друкаваць.*— Раман пад назвай «Завеі, снежань» (1976) упершыню апублікаваны ў часоп. «Полымя» (1976. № 3—5). Асобным выданнем выйшаў у 1978 г.

*«Плач перапёлкі»* — раман, напісаны ў 1972 г.

*...вялікай школай сацыялізму.*— сацыялізм — тут: сацыяльны лад грамадства, які прадугледжвае пабудову і функцыянаванне ўсёй сістэмы грамадскіх адносін, грамадскай структуры і інстытутаў, у тым ліку дзяржавы, у адпаведнасці з сацыялістычнымі ідэямі.

*«Мсціжы»* — раман, напісаны ў 1972 г.

С. 95:

*«Сэрца на далоні»* — раман, напісаны ў 1964 г.

*«Крыніцы»* — раман, напісаны ў 1957 г.

*...«Глыбокай плыні».*— раман «Глыбокая плынь» напісаны ў 1949 г.

*«Снежныя зімы»* — раман, напісаны ў 1970 г.

*«Атланты і карыятыды»* — раман, напісаны ў 1974 г.

*Пралеткультаўцы, у пэўнай меры лефаўцы...* — пралеткультаўцы — члены Пралеткульта — масавай культурна-асветнай і літаратурна-мастацкай арганізацыі, якая існавала ў СССР у 1917—1932 гг.; лефаўцы — члены ЛЕФа (Левага фронту мастацтваў) — літаратурна-мастацкага аб’яднання, якое дзейнічала ў Маскве ў 1922—1929 гг.

*«Жалезны паток»* — аповесць, напісаная ў 1924 г.

*«Падзенне Даіра»* — аповесць, напісаная ў 1923 г.

С. 96:

*...пісьменніцкіх з’ездаў?* — маюцца на ўвазе VII з’езд пісьменнікаў БССР (Мінск, 11—12 мая 1976 г.) і VI з’езд пісьменнікаў СССР (Масква, 21—25 чэрв. 1976 г.).

С. 97:

*...Мінскага аўтазавода...* — Мінскі аўтамабільны завод (МАЗ) — прадпрыемства па выпуску вялікагрузных аўтамабіляў, заснаванае ў 1944 г.

*«Заводскі раён»* — аповесць, напісаная ў 1973 г.

*Наш Саюз пісьменнікаў...* — маецца на ўвазе Саюз пісь-

меннікаў БССР — добраахвотная грамадская творчая арганізацыя прафесійных літаратараў Беларусі. Створаны паводле пастановы ЦК КП(б)Б ад 27 мая 1932 г. «Аб перабудове літаратурна-мастацкіх арганізацый БССР». Арганізацыйна аформлены І Усебеларускім з'ездам пісьменнікаў (Мінск, 8—14 чэрв. 1934 г.).

*...станкабудаўнічага завода імя Кірава.*— Станкабудаўнічы завод імя С. М. Кірава — прадпрыемства, заснаванае ў 1883 г. у Мінску як Кашарскі машынабудаўнічы і чыгуна-медна-металургічны завод. З 1925 г.— чыгуналіцейны і машынабудаўнічы завод «Металіст», з 1928 г.— машынабудаўнічы завод «Камунар». З 1934 г. спецыялізуецца на станкабудаванні, у гэтым жа годзе яму прысвоена імя С. М. Кірава.

*...А. Адамовіч з'яўляецца добрым раманістам, аўтарам шырока вядомай аповесці...* — А. Адамовіч на той час аўтар дылогіі «Партызаны», якую склалі раманы «Вайна пад стрэхамі» (1960) і «Сыны ідуць у бой» (1963), а таксама «Хатынскай аповесці» (1972), за якую ў 1976 г. быў уганараваны Дзяржаўнай прэміяй Беларусі імя Якуба Коласа.

*...надрукаваў свой раман.*— маецца на ўвазе раман «Падвышанае неба» (1975), упершыню надрукаваны ў часоп. «Маладосць» (1975. № 9).

*Напісаў аповесць малады вучоны Я. Лецка.*— верагодна, маецца на ўвазе аповесць «Па цаліку» (1977).

*Некалькі паэтычных зборнікаў выдаў кандыдат філалагічных навук М. Арочка...* — маюцца на ўвазе зборнікі «Не ўсе лугі пакошаны...» (1958), «Ветраломная паласа» (1962), «Крылатае семя» (1967), «Кветкі бяссмертніка» (1972).

С. 98:

*У сваіх сацыялістычных абавязацельствах...* — сацыялістычныя спаборніцтвы — індывідуальныя або калектыўныя абавязацельствы ўдзельнікаў сацыялістычнага спаборніцтва па выкананні і перавыкананні дзяржаўных планаў развіцця народнай гаспадаркі, культурнага будаўніцтва, павышэння дабрабыту працоўных.

## 1979

### Тлумачальнікі выдуманых сноў (с. 99)

Друкуецца паводле газ. «Мінская праўда», 1979, 15 мая, дзе ўпершыню апублікавана пад рубрыкай «Дэзінфарматары перад мікрафонам».

Пад тэкстам: Гутарку запісаў А. Анікееў. (БелТА).

С. 99:

*Радыёстанцыя «Свабода»* — амерыканская радыёстанцыя, заснаваная ў Мюнхене ў 1952 г., ва ўмовах халоднай вайны, для вядзення інфармацыйна-прапагандысцкай барацьбы супраць СССР. Упершыню выйшла ў эфір у сак. 1953 г. як радыё «Вызваленне», неўзабаве перайменавана ў радыё «Свабода». У яе складзе былі адпаведныя нацыянальныя рэдакцыі, у тым ліку з 1954 г. беларуская. У пач. 1970-х гг. камісія Кангрэса ЗША афіцыйна прызнала факт фінансавання радыёстанцыі амерыканскімі спецслужбамі з дзяржаўных бюджэтных крыніц. Да канца 1980-х гг. на «Свабодзе» карэспандэнтамі і каментатарамі працавалі пераважна эмігранты з СССР, кіруючыя пасады займалі кадравыя амерыканскія спецыялісты.

*«Вазьму твой боль»* — раман, напісаны ў 1978 г.

*...для іудушак...* — іудушка (*пагард.*) — здраднік (ад імені апостала Іуды Іскарыёта, які, паводле евангельскай легенды, прадаў Ісуса Хрыста).

*БелТА* (Беларускае тэлеграфнае агенцтва) — дзяржаўны інфармацыйны орган. Створаны 7 сак. 1931 г. Займаецца зборам і перадачай палітычнай, эканамічнай і іншай інфармацыі для прэсы, тэлебачання, радыё, а таксама сродкаў камунікацыі на аснове электронных тэхналогій.

*...дырэктар Інстытута літаратуры АН БССР...* — гл. камент. да інтэрв'ю «У беларускіх літаратуразнаўцаў» (с. 679—680).

*...з Мюнхена...* — гл. камент. да п'есы «Птушкі між маланак» (с. 669).

С. 100:

*ЦРУ* (Цэнтральнае разведвальнае ўпраўленне) — каардынуючы цэнтр цывільнай і ваеннай разведкі, асноўны орган

стратэгічнай разведкі ЗША, які ажыццяўляе сваю дзейнасць на правах самастойнага разведведамства. Створана ў 1947 г.

С. 101:

*...сацыялізму...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Пад сцягам сацыялістычнага рэалізму» (с. 688).

*...пасварыць працоўных рэспублік савецкіх...* — маюцца на ўвазе пятнаццаць савецкіх сацыялістычных рэспублік, якія ўваходзілі ў склад СССР.

*...ў разгар халоднай вайны* — халодная вайна — тэрмін, якім абазначаецца стан ваенна-палітычнай канфрантацыі дзяржаў, груп дзяржаў, калі адкрытых ваенных сутыкненняў не адбываецца, але вядзецца гонка ўзбраенняў, робяцца спробы эканамічнага націску, арганізуюцца ваенна-палітычныя блокі і саюзы, ствараюцца ваенна-стратэгічныя плацдармы і базы. Халодная вайна паміж СССР і яго саюзнікамі, з аднаго боку, і ЗША з іх саюзнікамі — з іншага, цягнулася з сярэдзіны 1940 да пачатку 1990 гг. Галоўныя яе прычыны — несумяшчальнасць геапалітычных мэтаў ЗША і СССР, процілегласць іх сацыяльных сістэм, заснаваных на ідэалогіях, якія ўзаемавыключалі адна адну. Ідэалагічнай праявай халоднай вайны была вострая канфрантацыя ў сферы прапаганды, якая вялася ў сродках масавай інфармацыі. Кожны з бакоў абвінавачваў іншы ў агрэсіўных намерах і дзеяннях, недэмакратызме палітычнай сістэмы, парушэннях правоў чалавека, прапагандаваў перавагі свайго ладу жыцця.

С. 102:

*...ў сацыялістычных краінах...* — сацыялістычныя краіны — азначэнне, якое выкарыстоўвалася ў СССР для абазначэння краін, якія сталі на шлях развіцця сацыялізму, г. зн. прытрымліваліся ідэалогіі марксізму-ленінізму. Да сярэдзіны 1980-х гг. у СССР да сацыялістычных адносілі пятнаццаць краін.

## Літаратура — гэта самапазнанне (с. 102)

Друкуецца паводле газ. «ЛіМ», 1979, 28 верас., дзе ўпершыню апублікавана пад рубрыкай «Пісьменнік, кнігі, жыццё» з рэдакцыйным падзагалоўкам «На пытанні нашага карэспандэнта адказвае лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Коласа і прэміі ЛКСМБ, пісьменнік, член-карэспандэнт АН БССР Іван Навуменка».

Пад тэкстам: Інтэрв'ю правёў Уладзімір Аніскові.

У БДАМЛМ, у фондзе газ. «ЛіМ», захоўваецца аўтарызаваны машынапіс інтэрв'ю (ф. 12, воп. 3, адз. зах. 223, арк. 1—24) з аўтарскімі праўкамі. На першай старонцы ў левым верхнім куце надпіс сінім чарнілам: № 39. На апошняй старонцы рукой І. Навуменкі напісана: «Чытаў і правіў. І. Навуменка. 19.9.79 г.».

С. 102:

*...кіраўнік буйной навукова-даследчай установы, якой з'яўляецца Інстытут літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук БССР...* — гл. камент. да інтэрв'ю «У беларускіх літаратуразнаўцаў» (с. 679—680).

*...паказаў маці...*— М. П. Навуменка.

*...працаваў карэспандэнтам абласной газеты «Бальшавік Палесся»* — гл. камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 682).

*...ў Мазыры, цэнтры былой Палескай вобласці.*— Палеская вобл.— адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка ў БССР у 1938—1954 гг. Утворана 15 студз. 1938 г. Уключала 17 раёнаў. Пасля скасавання 8 студз. 1954 г. тэрыторыя Палескай вобл. далучана да Гомельскай.

*Там друкаваў вершы, потым — у «Чырвонай змене», нават у «Літаратуры і мастацтве» ў 1947 годзе быў надрукаваны мой верш...*— гл. камент. на с. 671—673.

С. 103:

*Паступіў на факультэт журналістыкі, потым перавёўся на філфак...* — І. Навуменка вучыўся на завочным аддзяленні філалагічнага факультэта БДУ ў 1945—1950 гг.

*...першым маім сур'ёзным творам стала кандыдацкая дысертацыя, якую пісаў па абавязку і абараніў у 1954 годзе.*— назва дысертацыі: «Тема труда в творчестве Якуба Коласа».

*...сталае апавяданне я надрукаваў у 1955 годзе ў часопісе «Маладосць».*— гл. камент. да інтэрв'ю «Я — за рамантыку» (с. 675).

*...даследаванні пра творчасць Янкі Купалы і Якуба Коласа атрымалі Дзяржаўную прэмію...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Прэмія абавязвае» (с. 678—679).

*...думаю іх перавыдаць...* — дапрацаванае выданне манаграфіі «Янка Купала» пабачыла свет у 1980 г. Дапрацаванае і перапрацаванае выданне манаграфіі «Якуб Колас: Духоўны воблік героя» — у 1981 г.

С. 104:

*...выкладчыцкая работа ва ўніверсітэце на кафедры беларускай літаратуры.*— гл. камент. да інтэрв'ю «Я — за рамантыку» (с. 676).

*«Блажен, кто посетил сей мир в его минуты роковые»* — радкі з верша Ф. І. Цютчава (1803—1873) «Цыцэрон» (1829—1930).

*Я ўдзельнічаў у падпольных справах, быў у партызанах, быў на фронце.*— гл. камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 683).

С. 105:

*Няхай сабе жыў у райцэнтры...* — маюцца на ўвазе Васілевічы — гл. камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 683). У 1926—1927 і 1937—1959 гг. былі цэнтрам Васілевіцкага раёна.

*...было акрылена рэвалюцыяй...* — маецца на ўвазе Кастрычніцкая рэвалюцыя 1917 г.— гл. камент. да верша «Бывай, наш паэце...» (с. 673).

*...новая грамадская атмасфера сярэдзіны 50-х гадоў, якую прадвызначыў дваццаты з'езд партыі.*— XX з'езд КПСС адбыўся 14—25 лют. 1956 г. у Маскве. Найбольш вядомы асуджэннем культу асобы і ідэалагічнай спадчыны І. В. Сталіна, якое ўтрымлівалася ў дакладзе М. С. Хрушчова «Аб кульце асобы і яго выніках», прачытаным на закрытым пасяджэнні з'езда. Прызнанне «памылак», якія трактаваліся як «адступленне ад ленінскіх норм і прынцыпаў партыйнага жыцця», садзейнічала дэмакратызацыі як самой партыі, так і жыцця краіны ў цэлым, большай адкрытасці заходняму свету, свабодзе творчай дзейнасці.

С. 106:

*...народнасць і партыйнасць...* — адны з базавых паняццяў марксісцка-ленінскай эстэтыкі.

С. 107:

*НТР* — гл. камент. да інтэрв'ю «Пад сцягам сацыялістычнага рэалізму» (с. 686—687).

С. 108:

*МТС* — скар.: машынна-трактарная станцыя — дзяржаўнае прадпрыемства ў СССР, якое ажыццяўляла абслугоўванне і рамонт трактароў, камбайнаў і іншай сельскагаспадарчай тэхнікі і давала яе ў арэнду калгасам. МТС пачалі працаваць у канцы 1920-х гг., скасаваны ў 1958 г.

*«Інтэрнат на Нямізе»* — аповесць, напісаная ў 1971 г.

*...ў новым рамане, «Смутак белых начэй»...* — раман «Смутак белых начэй» (1970—1978) упершыню быў апублікаваны ў часоп. «Полымя» (1979. № 5-6).

С. 109:

*«Мульменкаў сад»* — апавяданне, напісанае ў 1979 г. Упершыню апублікавана ў часоп. «Маладосць» (1980. № 2).

*«Кацюша»* — апавяданне, напісанае ў 1966 г. Упершыню апублікавана ў часоп. «Беларусь» (1979. № 10).

*...рэцэнзію Любові Карніловіч...* — рэцэнзія пад назвай «На высокай трагічнай ноце» была апублікавана ў газ. «ЛіМ» (1979. 17 жн.).

*...«Сасна пры дарозе», «Вецер у соснах» і «Сорак трэці»...*— гл. камент. да інтэрв'ю «Новыя героі, новыя праблемы» (с. 673, 674).

С. 110:

*...мой першы фронт — Ленінградскі.*— гл. камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 683).

*Прыдняпроўе* — гісторыка-геаграфічны рэгіён Беларусі, які займае Магілёўскую, частку Віцебскай і Гомельскай абл.

*...нашай пісьменніцкай арганізацыі...* — маецца на ўвазе Саюз пісьменнікаў БССР — гл. камент. да інтэрв'ю «Пад сцягам сацыялістычнага рэалізму» (с. 688—689).

*Кажуць, што кожны чацвёрты беларус загінуў у вайне...* — такімі былі звесткі афіцыйнай статыстыкі СССР аб дэмаграфічных стратах Беларусі ў Вялікай Айчыннай вайне. Некаторыя сучасныя даследчыкі сцвярджаюць, што ў рэспубліцы загінуў кожны трэці жыхар, называюцца і значна меншыя лічбы.

*«В полях за Вислой сонной лежат в земле сырой Сережка с Малой Бронной и Витька с Моховой»... Верш, які стаў песняй.*— радкі з верша Я. Вінакурава (1925—1993) «Масквічы» (1953). Пакладзены на музыку А. Эшпаем (1925—2015).

С. 111:

*Міця Птах* — галоўны герой раманаў І. Навуменкі «Сасна пры дарозе», «Вецер у соснах», «Сорак трэці».

*...бацька мой...* — Я. П. Навуменка.

С. 112:

*...толькі адна сястра...* — Г. Я. Навуменка.

С. 113:

*...я пісаў Крамера.*— Крамер Аўгуст Эрнэставіч — герой раманаў І. Навуменкі «Сасна пры дарозе», «Вецер у соснах», «Сорак трэці».

*Фашызм* — гл. камент. да інтэрв'ю «Пад сцягам сацыялістычнага рэалізму» (с. 687).

*...змянілі імя галоўнага героя ў новым рамане?* — галоўны герой рамана «Смутак белых начэй» — Сяргей Каліноўскі.

С. 114:

*...і ў хрэстаматыйным вершы, дзе хлопчыка вельмі «цягнуць санкі з дому», і ў «Новай зямлі», і ў трылогіі...* — маецца на ўвазе верш Якуба Коласа «На рэчцы зімою» (1910), а таксама яго паэма «Новая зямля» (1911—1923) і трылогія «На ростанях» (1923—1954).

*...і ў «Вайне і міры», і ў «Казаках», і ў «Севастопальскіх апавяданнях»...* — раман «Вайна і мір» напісаны ў 1863—1869 гг., аповесць «Казакі» — у 1862 г., «Севастопальскія апавяданні» — у 1885 г.

*...я цяпер якраз пішу п'есу на ваенную тэму.*— маецца на ўвазе п'еса «Птушкі між маланак» — гл. камент. на с. 665.

*Сацыяльны заказ* — актуальная для грамадства патрэба, а таксама выкананне інтэлектуальнай работы, да прыкладу, у галіне мастацтва ці культуры, з улікам ідэалагічнай скіраванасці афіцыйнай палітыкі дзяржавы. Увядзенне тэрміна ў агульнае карыстанне звязваецца з літаратурна-мастацкім аб'яднаннем ЛЕФ (1922—1929).

С. 115:

*...падзеі адбываюцца ў час Курскай бітвы...* — гл. камент. да п'есы «Птушкі між маланак» (с. 666).

*...на Палессі...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Ісці ўслед за бягучым днём…» (с. 677).

*Надпрыпяччына* — тэрыторыя ў раёне ракі Прыпяць на поўдні Гомельскай вобл.

*...«Развітанне ў Кавальцах», «Замяць жаўталісця», «Апошняя восень»...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 684).

*Можа, гэта будзе раман — «Раён»,— так сказаць, тая глыбінка, дзе мне давялося працаваць, пасляваеннае жыццё.*— твор пад такой назвай І. Навуменкам напісаны не быў. Яго задума атрымала рэалізацыю ў аповесці «Любімы горад» (1996).

С. 116:

*...«алгебра поверяет гармонию»...* — відазменены выраз з «маленькай трагедыі» А. С. Пушкіна «Моцарт і Сальеры» (1930), сцэна першая (маналог Сальеры). У арыгінале: «…Поверил / Я алгеброй гармонию…».

С. 117:

*...як ставіў пытанне ў адным з артыкулаў Алесь Адамовіч,— «а што там, далей»?* — маецца на ўвазе артыкул *«А што там, далей?»* (1973), упершыню апублікаваны на рускай мове ў часоп. «Нёман» (1973. № 3).

С. 118:

*«Брускі»* — раман, напісаны ў 1928—1937 гг.

*«Час, наперад!»* — раман, напісаны ў 1932 г.

*«Гідрацэнтраль»* — раман, напісаны ў 1930—1931 гг.

*«Спалох на загонах»* — аповесць, напісаная ў 1930 г.

*ЦК партыі* — маецца на ўвазе Цэнтральны Камітэт КПБ — вышэйшы калектыўны кіруючы орган Камуністычнай партыі Беларусі паміж з'ездамі ў 1924—1991 гг.

*«Вазьму твой боль»* — гл. камент. да інтэрв'ю «Тлумачальнікі выдуманых сноў» (с. 690).

С. 119:

*«Пушча»* — раман, напісаны ў 1978 г.

С. 120:

*Сацыялістычны рэалізм* — гл. камент. да інтэрв'ю «У беларускіх літаратуразнаўцаў» (с. 680).

*«Узаемазбліжэнне і ўзаемаўзбагачэнне»* — верагодна, маецца на ўвазе калектыўны зборнік «Адзінства і ўзаемаўзбагачэнне: пытанні ўзаемасувязей савецкіх літаратур» (1980).

*Сёлета выйдзе кніга «Беларуская літаратура ў свеце славянскіх літаратур»...* — верагодна, маецца на ўвазе кніга А. Мальдзіса «На скрыжаванні славянскіх традыцый» (1980).

*Распачата серыя «Праблемы сучаснасці» — адна манаграфія выйшла раней, хутка з'явіцца чарговая.*— верагодна, маюцца на ўвазе калектыўныя зборнікі «Беларуская літаратура і праблемы сучаснасці» (1978), «Беларуская літаратура: Дзень сённяшні» (1980).

*Вялікае значэнне надаём мы падрыхтоўцы да стварэння новай Гісторыі беларускай літаратуры. Падрыхтоўцы ў тым плане, што без асэнсавання вопыту пакалення, якое прадстаўлена, скажам, Пташнікавым, Чыгрынавым, Стральцовым, Пысіным, Бураўкіным, Барадуліным, Гілевічам, Макалём, Вярцінскім і ўсімі астатнімі, яна не можа быць напісана.*— новая «Гісторыя беларускай літаратуры XX стагоддзя» ў 4 т. была выдадзена Інстытутам літаратуры імя Янкі Купалы ў 1999—2014 гг.

## У задуме: новы раман (с. 121)

Друкуецца паводле газ. «Гомельская праўда», 1979, 30 ліс-тап., дзе ўпершыню апублікавана на старонцы літаратуры і мастацт-ва «Крыніцы» пад рубрыкай «Інтэрв'ю даюць землякі».

С. 121:

*...узначальвае Інстытут літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук БССР.*— гл. камент. да інтэрв'ю «У беларускіх літаратуразнаўцаў» (с. 679—680).

*...як сказаў паэт, трэба часцей ездзіць на бацькоўскую зямлю...* — верагодна, маецца на ўвазе верш Р. Барадуліна «Трэба дома бываць часцей» (1960).

*«Кніга адкрывае свет»* — зборнік выйшаў у 1978 г.

*...выйшла аж тры кнігі: «Тополя нашей юности» ў мас-коўскім выдавецтве «Художественная литература», «Замять жел-толистья» — у «Советском писателе», «Последняя осень» — у «Мастацкай літаратуры».*— «Тополя нашей юности», «Замять желтолистья» — кнігі выйшлі ў 1978 г., «Последняя осень» — у 1979 г.; «Художественная литература» — савецкае, пасля расійскае кніжнае выдавецтва. Заснавана ў 1930 г. у Маскве. Спецыялізуецца на выданні твораў рускіх пісьменнікаў, а таксама савецкіх і за-межных аўтараў у перакладзе на рускую мову; «Советский писа-тель» — выдавецтва Саюза пісьменнікаў СССР. Заснавана ў 1934 г. у Маскве. Выпускала кнігі як рускіх савецкіх пісьменнікаў, так і пісьменнікаў усіх іншых рэспублік СССР у перакладзе на рускую мову; «Мастацкая літаратура» — дзяржаўнае выдавецтва. Засна-вана ў 1972 г. у Мінску на базе рэдакцый мастацкай і дзіцячай літаратуры выдавецтва «Беларусь».

*...выйдзе зборнік «Смутак белых начэй», у які ўключаны раман з аднайменнай назвай, аповесць «Інтэрнат на Нямізе»...*— зборнік выйшаў у 1980 г.; «Смутак белых начэй», «Інтэрнат на Нямізе» — гл. камент. да інтэрв'ю «Літаратура — гэта самапазнан-не» (с. 693).

*Напісаў п'есу.*— маецца на ўвазе п'еса «Птушкі між мала-нак» — гл. камент. на с. 665.

*«Раён»* — гл. камент. да інтэрв'ю «Літаратура — гэта сама-пазнанне» (с. 695).

*...шэсць гадоў адпрацаваў у «Бальшавіку Палесся»...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 682).

*...былой Палескай вобласці...*— гл. камент. да інтэрв'ю «Літаратура — гэта самапазнанне» (с. 692).

С. 122:

*...«Гісторыя беларускай літаратуры» на рускай мове...* — гл. камент. да інтэрв'ю «У беларускіх літаратуразнаўцаў» (с. 681).

*Яна абмяркоўвалася ў Маскве і атрымала досыць высокі водгук і ацэнку.*— у Маскве прайшоў круглы стол, прысвечаны абмеркаванню «Истории белорусской дооктябрьской литературы» (1977) і «Истории белорусской советской литературы» (1977), а таксама «Истории литовской литературы» (1977). Абмеркаванне было наладжана саветамі па беларускай і літоўскай літаратурах пры СП СССР і рэдакцыяй часоп. «Вопросы литературы». Справаздача аб круглым стале «История национальной литературы — для всесоюзного читателя» была апублікавана ў часоп. «Вопросы литературы» (1979. № 3).

*«Беларускае літаратуразнаўства і крытыка»* — гл. камент. да інтэрв'ю «Пад сцягам сацыялістычнага рэалізму» (с. 686).

*«Вытокі. Уплывы. Паскоранасць»* — гл. камент. да інтэрв'ю «Пад сцягам сацыялістычнага рэалізму» (с. 686).

*«Гарызонты беларускай прозы»* — кніга выйшла ў 1974 г.

*...10-томны Збор твораў І. Мележа...* — Збор твораў І. Мележа ў 10 т. выходзіў у 1979—1985 гг.

*...8-томны — М. Лынькова і 5-томны — З. Бядулі...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Пад сцягам сацыялістычнага рэалізму» (с. 687).

*Да стагоддзя з дня нараджэння класікаў беларускай літаратуры Я. Купалы і Я. Коласа рыхтуем новыя манаграфіі.*— стагоддзе з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа адзначалася ў 1982 г. Да гэтай даты Інстытут літаратуры імя Янкі Купалы выдаў звыш дзесяці кніг.

## 1980

### Это память о чем-то… (с. 122)

Друкуецца паводле газ. «Советская Белоруссия», 1980, 3 снеж., дзе ўпершыню апублікавана.

Пад тэкстам: Беседу вел Р. Ерохин.

С. 122:

*«Мастацкая літаратура»* — гл. камент. да інтэрв'ю «У задуме: новы раман» (с. 697).

*...начать выпуск в свет Собрания сочинений...* — Збор твораў І. Навуменкі ў 6 т. выходзіў у 1981—1984 гг.

*«У бары на світанні»* — гл. камент. да інтэрв'ю «Ісці ўслед за бягучым днём…» (с. 677).

*...«Мой сябар Пятрусь», «Пераломны ўзрост», «Снежань»...* — аповесці, напісаныя ў 1958 г.

*«Вайна каля Цітавай копанкі»* — гл. камент. да інтэрв'ю «Ісці ўслед за бягучым днём…» (с. 677).

*...«Замяць жаўталісця», «Развітанне ў Кавальцах»...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 684).

С. 123:

*...«Сасна пры дарозе», «Вецер у соснах», «Сорак трэці»...*— гл. камент. да інтэрв'ю «Новыя героі, новыя праблемы» (с. 673, 674).

*«Бульба»* — гл. камент. да інтэрв'ю «Новыя героі, новыя праблемы» (с. 674).

*«Смутак белых начэй»* — гл. камент. да інтэрв'ю «Літаратура — гэта самапазнанне» (с. 693).

*«Інтэрнат на Нямізе»* — гл. камент. да інтэрв'ю «Літаратура — гэта самапазнанне» (с. 693).

*...отмечены Государственной премией БССР...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Прэмія абавязвае» (с. 678—679).

*...делегирую в собрание лишь отдельные, на мой взгляд, лучшие главы...* — у Збор твораў увайшлі раздзелы з манаграфіі «Янка Купала» (1980) «Ад прадзедаў, спакон вякоў…» і «Святло сэрца».

*...могли войти и статьи о Кондрате Крапиве, Иване Мележе...* — у Збор твораў увайшлі артыкулы «Старэйшына роднай

літаратуры» (1973), прысвечаны Кандрату Крапіве і «Магутны талент эпіка» (1969) пра І. Мележа.

С. 124:

*Первый свой рассказ вы написали в пятьдесят пятом году.*— гл. камент. да інтэрв'ю «Я — за рамантыку» (с. 675).

*Будучи корреспондентом областной газеты «Бальшавік Палесся»...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 682).

*Работая в «Звяздзе»...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 682).

**Аблічча галоўнага героя (с. 125)**

Друкуецца паводле газ. «Звязда», 1980, 31 ліп., дзе ўпершыню апублікавана пад рубрыкай «Магістралі творчасці».

У БДАМЛМ, у асабістым архіве І. Навуменкі, захоўваецца чарнавы аўтограф адказаў на пытанні інтэрв'ю (ф. 495, воп. 1, адз. зах. 217, арк. 1—9). Аўтар і дата не пазначаны.

С. 125:

*Былы падпольшчык, партызан...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 683).

*...споўнілася 25 гадоў з часу апублікавання вашых першых твораў.*— гл. камент. да інтэрв'ю «Я — за рамантыку» (с. 675).

*Моладзь ехала на цаліну.*— гл. камент. да інтэрв'ю «Я — за рамантыку» (с. 675).

*Я працаваў тады ў часопісе «Маладосць».*— гл. камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 682).

С. 126:

*...удзельнічаў у баях на Карэльскім перашыйку, ва Усходняй Прусіі, у Польшчы, Сілезіі.*— Карэльскі перашыек — участак сушы паміж Фінскім залівам Балтыйскага мора і Ладажскім возерам; Усходняя Прусія — герцагства Прусія, якое ўзнікла ў 1525 г. на частцы земляў Тэўтонскага ордэна, захопленых немцамі ў прусаў (адсюль назва), у 1618 г. аб'ядналася з Брандэнбургам. Аб'яднаная дзяржава атрымала назву Прусія, былое герцагства стала лічыцца Прусіяй Усходняй. У 1947 г. Усходняя Прусія ліквідавана, землі адышлі да СССР (пазней — Расіі), Літвы і Польшчы; Сілезія —

гістарычная славянская вобласць у верхнім і сярэднім цячэнні ракі Одра (Одэр). Большая частка ў складзе Польшчы. Паўднёвая Сілезія часткова ў складзе Чэхіі.

*...«Сасна пры дарозе», «Вецер у соснах», «Сорак трэці»...*— гл. камент. да інтэрв'ю «Новыя героі, новыя праблемы» (с. 673, 674).

*«Смутак белых начэй»* — гл. камент. да інтэрв'ю «Літаратура — гэта самапазнанне» (с. 693).

С. 127:

*«Інтэрнат на Нямізе»* — гл. камент. да інтэрв'ю «Літаратура — гэта самапазнанне» (с. 693).

*«Салдаты вярнуліся»* — апавяданне, напісанае ў 1964 г.

*...п'еса, якая патрабуе дапрацоўкі...* — маецца на ўвазе п'еса «Птушкі між маланак» — гл. камент. на с. 665.

*«Срэбраныя мхі»* — апавяданне, напісанае ў 1981 г.

*...з адэскім журналістам В. І. Мамантавым...* — Адэса — горад ва Украіне, адміністрацыйны цэнтр Адэскай вобл.; В. І. Мамантаў працаваў рэдактарам газеты Адэскай ваеннай акругі «Защитник Родины».

*...напісаў дакументальную аповесць...* — маецца на ўвазе рускамоўная аповесць «Капітан Стэп ідзе ў разведку», якая ўпершыню выйшла асобным выданнем у 1982 г.

*...на Палессі.*— гл. камент. да інтэрв'ю «Ісці ўслед за бягучым днём...» (с. 677).

*«Мастацкая літаратура»* — гл. камент. да інтэрв'ю «У задуме: новы раман» (с. 697).

*...«Вайна каля Цітавай копанкі», «У бары на світанні»...*— гл. камент. да інтэрв'ю «Ісці ўслед за бягучым днём...» (с. 677).

С. 128:

*...«Развітанне ў Кавальцах», «Апошняя восень», «Замяць жаўталісця»...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 684).

*«Бульба»* — гл. камент. да інтэрв'ю «Новыя героі, новыя праблемы» (с. 674).

*«Янка Купала», «Якуб Колас»* — гл. камент. да інтэрв'ю «Ісці ўслед за бягучым днём...» (с. 677).

*...хачу змясціць у Зборы твораў хоць асноўныя, найбольш значныя раздзелы з гэтых кніг...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Это память о чем-то...» (с. 699).

## 1981

### Шляхам перамог — шляхам набыткаў (с. 128)

Друкуецца паводле газ. «ЛіМ», 1981, 6 лістап., дзе ўпершыню апублікавана пад рубрыкай «Інтэрв'ю ў нумар».

С. 128:

*Напярэдадні Кастрычніка…* — маецца на ўвазе дзяржаўнае свята ў СССР — гадавіна Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі 1917 г. Адзначалася ў дзень здзяйснення Кастрычніцкай рэвалюцыі штогадова 7 і 8 лістап.

*…пад знакам рашэнняў XXVI з'езда КПСС…* — XXVI з'езд КПСС праходзіў у Маскве з 23 лют. па 3 сак. 1976 г. На ім былі зацверджаны Асноўныя кірункі эканамічнага і сацыяльнага развіцця СССР на 1981—1985 гг. і на перыяд да 1990 г.

*…акадэмікам АН БССР…* — І. Навуменка быў абраны акадэмікам АН БССР у 1980 г.

*…дырэктарам Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы...*— гл. камент. да інтэрв'ю «У беларускіх літаратуразнаўцаў» (с. 679—680).

С. 129:

*…Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі…* — гл. камент. да верша «Бывай, наш паэце...» (с. 673).

*Царская Расія* — маецца на ўвазе Расійская імперыя (Расія) — манархічная саслоўная шматнацыянальная дзяржава ва Усходняй Еўропе і на значнай частцы Азіі ў 1721—1917 гг.

*…узнагароджаны ордэнам Дружбы народаў…* — ордэн Дружбы народаў — адна з дзяржаўных узнагарод СССР. Заснаваны 17 снеж. 1972 г. указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР у азнаменаванне 50-годдзя ўтварэння СССР. Спыніў існаванне ў 1991 г.; Інстытут літаратуры імя Янкі Купалы быў узнагароджаны ордэнам Дружбы народаў Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР ад 29 крас. 1981 г. «за заслугі ў развіцці беларускага літаратуразнаўства і падрыхтоўцы навуковых кадраў»; У БДАМЛМ, у асабістым архіве І. Навуменкі, захоўваецца чарнавы аўтограф выступлення без назвы і даты (ф. 495, воп. 1, адз. зах. 198, арк. 6-7) наступнага зместу: «Дарагія таварышы! Мы шчыра ўдзячны Цэнтральнаму Камітэту КПСС, Прэзідыуму Вярхоўнага

Савета СССР, Савецкаму ўраду, ЦК КПБ, Прэзідыуму Вярхоўнага Савета і ўраду БССР за высокую ацэнку работы нашага інстытута — узнагароджанне ордэнам Дружбы народаў. Мы разглядаем гэтую ўзнагароду як пэўны аванс і прыкладзем усе намаганні, усе свае сілы, каб дастойна яго апраўдаць.

Ордэн Дружбы народаў — выдатны ордэн, таварышы. Ён як бы сімвалізуе сілу яднання савецкіх народаў, іх інтэрнацыяналізм, патрыятызм, пачуцці сям'і адзінай, адданасць светлым ідэалам камунізму. Гэтыя якасці нашага народа з'яўляюцца вызначальнымі і для савецкай літаратуры, для беларускай савецкай літаратуры, якую мы з вамі вывучаем.

Ордэн Дружбы народаў абавязвае нас, таварышы, падняць на новы, вышэйшы ўзровень даследчую дзейнасць, працоўную дысцыпліну, ідэйна-выхаваўчую работу ў калектыве. На клопаты партыі і ўрада мы павінны адказаць новымі працамі, якія б сталі прыкметнай з'явай у культурным і літаратурным жыцці рэспублікі.

Мы павінны напісаць кнігу, у якой на вялікім літаратурным матэрыяле прасачыць вытокі дружбы, прыязні, сапраўднага брацтва, якое звязвае беларускі народ з вялікім рускім народам і з усімі народамі нашай многанацыянальнай савецкай дзяржавы. Я думаю, што мы такую кнігу напішам.

Дазвольце яшчэ раз выказаць шчырую падзяку нашай партыі і ўраду за няспынныя клопаты аб развіцці савецкай навукі, літаратуры і культуры».

*...дзевяць супрацоўнікаў за ўдзел у стварэнні двухтомнай «Гісторыі беларускай савецкай літаратуры» на рускай мове сталі лаўрэатамі Дзяржаўнай прэміі БССР.*— «Гісторыя беларускай савецкай літаратуры» — гл. камент. да інтэрв'ю «У беларускіх літаратуразнаўцаў» (с. 681); Дзяржаўная прэмія БССР — гл. камент. да інтэрв'ю «Прэмія абавязвае» (с. 678); Дзяржаўная прэмія БССР імя Якуба Коласа была прысуджана ў 1980 г. В. Барысенку, П. Дзюбайлу, В. Каваленку, А. Коршунаву, А. Мальдзісу, М. Мушынскаму, Н. Перкіну, Ю. Пшыркову, М. Ярошу.

*Гэта быў чацвёрты ўсесаюзны з'езд, у якім я ўдзельнічаў.*— маецца на ўвазе VII з'езд пісьменнікаў СССР, які праходзіў з 30 чэрв. па 7 ліп. 1981 г. у Маскве.

С. 130:

*...пастановы ЦК КПСС «Аб літаратурна-мастацкай крытыцы».*— гл. камент. да інтэрв'ю «Ісці ўслед за бягучым днём…» (с. 678), «Пад сцягам сацыялістычнага рэалізму» (с. 686).

*...раман пра станаўленне нашай інтэлігенцыі ў пасляваенны перыяд, пра Мінск 50-х гадоў...* — маецца на ўвазе раман «Летуценнік» (1983).

С. 131:

*...закончыў п'есу «Птушкі між маланак».*— гл. камент. на с. 665.

*«За капустай»* — верагодна, маецца на ўвазе апавяданне «За капусту» (1982).

*...з адэскім журналістам В. І. Мамантавым...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Аблічча галоўнага героя» (с. 701).

*...напісаў дакументальную кніжку «Капітан Стэп ідзе ў разведку»* — гл. камент. да інтэрв'ю «Аблічча галоўнага героя» (с. 701).

*...пра вядомага партызанскага камандзіра Ф. С. Манзіенку, дарэчы, і майго камандзіра.*— гл. камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 683).

*Ён з'яўляецца прататыпам аднаго з герояў трылогіі.*— Ф. Манзіенка стаў прататыпам капітана Фёдара Мазурэнкі — аднаго з герояў раманаў «Сасна пры дарозе» (1962), «Вецер у соснах» (1967), «Сорак трэці» (1973).

*...рыхтую Збор твораў...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Это память о чем-то…» (с. 699).

## Как земля поет… (с. 131)

Друкуецца паводле газ. «Литературная газета», 1981, 16 снеж., дзе ўпершыню апублікавана ў падрубрыцы «Литературная мастерская» рубрыкі «Советская литература».

Пад тэкстам: Беседу вела Г. Грибовская.

Друкавалася ў скарочаным варыянце на беларускай мове ў газ. «Голас Радзімы», 1982, 11 лют.

С. 131:

*Действительный член АН БССР...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Шляхам перамог — шляхам набыткаў» (с. 702).

*...директор Института литературы имени Янки Купалы.*— гл. камент. да інтэрв'ю «У беларускіх літаратуразнаўцаў» (с. 679—680).

С. 132:

*...с фронтов республиканской Испании...* — маецца на ўвазе грамадзянская вайна ў Іспаніі 1936—1939 гг.

*...«Сосна при дороге», «Ветер в соснах», «Сорок третий»...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Новыя героі, новыя праблемы» (с 673, 674).

*«Грусть белых ночей»* — гл. камент. да інтэрв'ю «Літаратура — гэта самапазнанне» (с. 693).

*Я был подпольщиком, партизаном...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 683).

*...на Карельском перешейке...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Аблічча галоўнага героя» (с. 700).

*Литература должна, как писал М. Горький, раскрывать химию факта, поднимаясь над ним, возвеличивая его.*— верагодна, маецца на ўвазе наступнае выказванне Максіма Горкага з артыкула «Літаратурныя забавы» (1935): «Тысячами голосов советский человек, строитель новой культуры, ежедневно говорит литераторам: я был пастухом, был социально опасным правонарушителем, был батраком кулака,— стал инженером, медиком, ученым-естествоиспытателем; я была батрачкой, горничной, домашним животным моего мужа,— я стала профессором философии, агрономом, парторгом и т. д. Говоря это, люди сообщают как бы только о факте своего физического перемещения в социальной среде, не умея и иногда — не желая рассказывать о химии факта. Вскрыть психохимический процесс перемещения из ряда чернорабочих батраков в ряды мастеров культуры, вскрыть закономерность этого явления, показать, какую роль играла в нем классовая идеология пролетариата, как сопротивлялись ей зоологические эмоции мещанства,— это дело революционера-художника, "инженера душ"».

*...с которым скоро познакомится и всесоюзный читатель...* — раман «Смутак белых начэй» у перакладзе на рускую мову Э. Карпачова і В. Элькіна выйшаў у Маскве ў зб. «Грусть белых ночей» (1982), куды таксама ўвайшла аповесць «Інтэрнат на Нямізе».

С. 138:

*«Горячий снег»* — раман, напісаны ў 1970 г.

*«Танки идут ромбом»* — раман, напісаны ў 1963 г.

*«Пастух и пастушка»* — аповесць, напісаная ў 1971 г.

*«Знаменосцы»* — раман-трылогія, напісаны ў 1946—1948 гг.

*...месяцы Смоленска, Киева, Минска, Сталинграда. В моем восприятии все памятные даты, связанные с освобождением этих городов...* — Смаленск — горад у Расіі, цэнтр Смаленскай вобл., вызвалены ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў 25 верас. 1943 г.; Кіеў вызвалены 6 лістап. 1943 г., Мінск — 3 ліп. 1944 г.; Сталінград — у 1925—1961 гг. назва г. Валгаграда на паўднёвым усходзе еўрапейскай часткі Расіі (да 1925 г. меў назву Царыцын), вызвалены ад нямецкіх войскаў 2 лют. 1943 г.

С. 134:

*...«Замять желтолистья», «Последняя осень», «Прощание в Ковальцах»...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 684).

*В новом романе я хочу рассказать о трудностях послевоенного восстановления, показать атмосферу 50-х годов, когда в основном уже был отстроен Минск...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Шляхам перамог — шляхам набыткаў» (с. 704).

*...ехали покорять целину.*— гл. камент. да інтэрв'ю «Я — за рамантыку» (с. 675).

*Родное селение...* — маюцца на ўвазе Васілевічы — гл. камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 683).

*«Долгое-долгое детство»* — аповесць, напісаная ў 1974—1978 гг.

С. 135:

*Дед Щукарь* — адзін з герояў рамана М. Шолахава «Узнятая цаліна» (1930—1959).

*Василий Теркин* — галоўны герой паэмы А. Твардоўскага «Васіль Цёркін» (1941—1945).

*Остап Бендер* — галоўны герой раманаў І. Ільфа і Я. Пятрова «Дванаццаць крэслаў» (1927) і «Залатое цяля» (1931).

*...недавно вышли две монографии И. Науменко — о Янке Купале и Якубе Коласе...* — маюцца на ўвазе кнігі «Янка Купала» (1980) і «Якуб Колас: Духоўны воблік героя» (1981).

*...пьеса о городском подполье периода войны...* — маецца на ўвазе п'еса «Птушкі між маланак» — гл. камент. на с. 665.

## 1982

### Арыенцір у творчым працэсе (с. 135)

Друкуецца паводле газ. «Звязда», 1982, 24 студз., дзе ўпершыню апублікавана.

С. 135:

*...з дня прыняцця Цэнтральным камітэтам КПСС пастановы «Аб літаратурна-мастацкай крытыцы».*— гл. камент. да інтэрв'ю «Ісці ўслед за бягучым днём…» (с. 678), «Пад сцягам сацыялістычнага рэалізму» (с. 686).

*...дырэктар Інстытута літаратуры імя Я. Купалы АН БССР...* — гл. камент. да інтэрв'ю «У беларускіх літаратуразнаўцаў» (с. 679—680).

*...акадэмік...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Шляхам перамог — шляхам набыткаў» (с. 702).

*Камунізм* — гл. камент. да інтэрв'ю «Новыя героі, новыя праблемы» (с. 673).

С. 137:

*Сацыялістычны рэалізм* — гл. камент. да інтэрв'ю «У беларускіх літаратуразнаўцаў» (с. 680).

*З трох запланаваных кніг выйшлі ў свет ужо дзве — «Нараджэнне новага мастацтва» і «Паэзія абнаўлення свету».*— калектыўныя манаграфіі пабачылі свет адпаведна ў 1980-м і 1981-м гг. Трэцяя кніга — «Магчымасці рэалізму» (аўтары В. Жураўлёў і М. Тычына) — выйшла ў 1982 г.

*Асноўны калектыў стваральнікаў гэтай двухтомнай гісторыі адзначаны высокай узнагародай — Дзяржаўнай прэміяй БССР.*— гл. камент. да інтэрв'ю «Шляхам перамог — шляхам набыткаў» (с. 703).

*...Ленінграда...* — гл. камент. да п'есы «Птушкі між маланак» (с. 667).

*СССР* — гл. камент. да інтэрв'ю «Ісці ўслед за бягучым днём…» (с. 678).

*...краін сацыялістычнай садружнасці.*— гл. камент. да інтэрв'ю «Тлумачальнікі выдуманых сноў» (с. 691).

С. 138:

*...партыйная і глыбока народная.*— гл. камент. да інтэрв'ю «Літаратура — гэта самапазнанне» (с. 693).

С. 139:

*Саюз пісьменнікаў* — гл. камент. да інтэрв'ю «Пад сцягам сацыялістычнага рэалізму» (с. 688—689).

*...саюзнымі рэспублікамі...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Тлумачальнікі выдуманых сноў» (с. 691).

**Роздум аб сучаснасці (с. 140)**

Друкуецца паводле газ. «ЛіМ», 1982, 19 сак., дзе ўпершыню апублікавана пад рубрыкай «Інтэрв'ю ў нумар».

Пад тэкстам: Інтэрв'ю ўзяў Алесь Марціновіч.

Уваходзіла ў Зб. тв., 1984, т. 6.

С. 140:

*...віцэ-прэзідэнт Акадэміі навук БССР...* — Акадэмія навук БССР — гл. камент. да інтэрв'ю «У беларускіх літаратуразнаўцаў» (с. 680); на пасадзе віцэ-прэзідэнта АН БССР І. Навуменка працаваў у 1982—1992 гг.

*...лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР.*— гл. камент. да інтэрв'ю «Прэмія абавязвае» (с. 678—679).

*Напярэдадні пленума праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі, які разгледзіць стан пісьменніцкай публіцыстыкі...* — Саюз пісьменнікаў Беларусі — гл. камент. да інтэрв'ю «Пад сцягам сацыялістычнага рэалізму» (с. 688—689); Пленум, на парадку дня якога было пытанне «Мастацкая публіцыстыка: стан, пошукі, перспектывы», прайшоў 23—24 сак. 1982 г. у Мінску.

С. 141:

*Пачынаў з допісаў, некаторыя з якіх да вайны друкаваліся ў васілевіцкай раённай газеце «Сацыялістычная праца», а таксама ў мазырскім «Бальшавіку Палесся» і «Чырвонай змене».*— матэрыялаў І. Навуменкі, якія друкаваліся да вайны ў «Сацыялістычнай працы» і «Чырвонай змене», не выяўлена. У «Бальшавіку Палесся» былі змешчаны нататкі «Класная насценгазета "Выдатнік"» (1941. 5 мая), «Бескультур'е — спадарожнік расхлябанасці» (1941. 19 мая; у суаўтарстве з М. Белым); Васілевічы — гл. камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 683); Васілевіцкі раён — гл. камент. да інтэрв'ю «Літаратура — гэта самапазнанне» (с. 693).

С. 141—142:

*...Палескай вобласці...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Літаратура — гэта самапазнанне» (с. 692).

С. 142:

*...пачаў працаваць карэспандэнтам «Бальшавіка Палесся».*— гл. камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 682).

*...вучыўся завочна ў Беларускім дзяржаўным універсітэце.*— гл. камент. да інтэрв'ю «Я — за рамантыку» (с. 676), «Літаратура — гэта самапазнанне» (с. 692).

*...перайшоў у рэспубліканскую «Звязду»...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 682).

*...пяць гадоў працаваў у часопісе «Маладосць»: спачатку загадчыкам аддзела моладзі, крыху пазней загадчыкам аддзела прозы...*— гл. камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 682).

*...што такое «райза», «МТС», «Сельгастэхніка»?* — райза — скар.: раённы зямельны аддзел (з *рус.* «районный земельный отдел») — структурнае падраздзяленне пры выканкамах раённых Саветаў. Райза кіравалі сельскагаспадарчай вытворчасцю на тэрыторыі раёнаў, ажыццяўлялі кантроль за працай калгасаў і саўгасаў, вырашалі пытанні ўнутрыгаспадарчага і міжгаспадарчага землеўпарадкавання. У 1947 г. пераўтвораны ў аддзелы сельскай гаспадаркі райвыканкамаў, у 1953 г.— у раённыя ўпраўленні сельскай гаспадаркі; ТС — гл. камент. да інтэрв'ю «Літаратура — гэта самапазнанне» (с. 693); «Сельгастэхніка» — назва створаных у 1961 г. сельскагаспадарчых прадпрыемстваў у СССР, якія займаліся эксплуатацыяй, забеспячэннем запаснымі часткамі і рамонтам сельскагаспадарчай тэхнікі.

С. 143:

*...«Спорт і бульба» — ён быў змешчаны ў газеце «Звязда»...* — фельетон апублікаваны пад псеўданімам С. Кляшторны ў газ. «Бальшавік Палесся» (1946. 19 мая).

*«Пчолы і трутні»* — фельетон апублікаваны пад псеўданімам С. Кляшторны ў газ. «Бальшавік Палесся» (1946. 11 верас.).

*...тагачаснага калгаса «Парыжская камуна» Васілевіцкага раёна...* — калгас у вёсцы Галаўкі Бабічскага сельсавета. Арганізаваны ў 1930 г., існаваў да 1957 г.

*А першую рэцэнзію надрукаваў у 1948 годзе ў «Бальшавіку Палесся».*— рэцэнзія пад назвай «Пачатак вялікай барацьбы» была апублікавана 10 ліп.

*«Пачатак»* — аповесць напісана ў 1946 г., упершыню апублікавана ў часоп. «Полымя» (1948. № 4).

*«Замяць жаўталісця»* — гл. камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 684).

*...у «Бальшавіку Палесся» змясціў артыкул «У Калінкавічах не будуюць цагельныя заводы»* — артыкул быў апублікаваны 13 крас. 1946 г.

С. 144:

*...пішу раман, прысвечаны інтэлігенцыі.*— гл. камент. да інтэрв'ю «Шляхам перамог — шляхам набыткаў» (с. 704).

*Ёсць у мяне яшчэ чатыры ненадрукаваныя апавяданні, адно для дзяцей, прапанаваў «Бярозцы».*— верагодна, маюцца на ўвазе апавяданні «Загародка на ваколіцу» (1981), «Неспакой» (1982) і «Выбар» (1981), якія былі ўпершыню апублікаваны ў часоп. «Полымя» (1982. № 11) пад шапкай «Новыя апавяданні», а таксама ўпершыню апублікаванае ў часоп. «Бярозка» (1982. № 5) апавяданне «На канікулах» (1982), якое ў далейшым друкавалася пад назвай «За капусту».

*У «Полымя» аддаў п'есу.*— маецца на ўвазе п'еса «Птушкі між маланак» — гл. камент. на с. 665.

*...да стагоддзя з дня нараджэння нашых песняроў...* — гл. камент. да інтэрв'ю «У задуме: новы раман» (с. 698).

*...шмат пісаў пра іх творчасць.*— у 1982 г. І. Навуменка апублікаваў звыш дваццаці прац, прысвечаных жыццю і творчасці Янкі Купалы і Якуба Коласа.

*У «Народнай асвеце» сёлета выходзіць мая новая кніга пра Якуба Коласа.*— маецца на ўвазе кніга «Якуб Колас: Нарыс жыцця і творчасці» (1982); «Народная асвета» — беларускае дзяржаўнае выдавецтва. Заснавана ў 1951 г. у Мінску як Дзяржаўнае вучэбна-педагагічнае выдавецтва Міністэрства культуры Беларусі. З 1963 г.— сучасная назва.

## 1984

## Из реки по имени факт (с. 145)

Друкуецца паводле часоп. «Неман», 1984, № 9, дзе ўпершыню апублікавана пад рубрыкай «Литературная критика».

Перад тэкстам: Георгий Синенко — Иван Науменко.

С. 145:

*...писал о нем не однажды...* — Г. Сіненка — аўтар манаграфіі «Іван Навуменка» (1981), рэцэнзіі на зб. «Замяць жаўталісця» (1977): «У чым твая сіла, чалавек?..» (Вячэрні Мінск. 1978. 30 студз.).

*Первый рассказ напечатал...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Я — за рамантыку» (с. 675).

*...матери...* — М. П. Навуменка.

*Заметки в газеты стал посылать в 15—16 лет, накануне войны.*— гл. камент. да інтэрв'ю «Роздум аб сучаснасці» (с. 708).

*...пошел работать в газету. Меня сразу взяли в областную...* — маецца на ўвазе газ. «Бальшавік Палесся» — гл. камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 682).

*...«филологическое» поколение...* — яшчэ: шасцідзясятнікі — паняцце, якое ўжываецца для характарыстыкі творчай моладзі, што ўваходзіла ў літаратуру ў канцы 1950-х—1960-я гг. і чыё станаўленне прыпала на час пасля XX з'езда КПСС. Большасць прадстаўнікоў гэтага пакалення мела філалагічную адукацыю.

*...работал в журнале «Маладосць».*— гл. камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 682).

*Поспособствовали общественная атмосфера...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Літаратура — гэта самапазнанне» (с. 693).

*...о научно-технической революции.*— гл. камент. да інтэрв'ю «Пад сцягам сацыялістычнага рэалізму» (с. 686).

С. 147:

*...«Люди на болоте» и «Дыхание грозы»...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Пад сцягам сацыялістычнага рэалізму» (с. 688).

*...полесской...* — Палессе — гл. камент. да інтэрв'ю «Ісці ўслед за бягучым днём…» (с. 677).

*...древних греков...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Размова на парозе пяцідзесяцігоддзя» (с. 685).

С. 148:

*Моральный кодекс строителя коммунизма* — звод прынцыпаў камуністычнай маралі, які ўвайшоў у тэксты Трэцяй праграмы КПСС і Статута КПСС, прынятыя XXII з'ездам (1961).

*...античные времена...* — антычнасць — тэрмін, які ўжываецца ў дачыненні да грэка-рымскай даўніны. Ахоплівае перыяд з IX ст. да н. э. да 476 г. н. э.

С. 149:

*Дед Пилип* — П. А. Навуменка.

*...прикованный к постели Н. Островский...* — З 1927 г. і да канца жыцця М. Астроўскі быў прыкаваны да ложка невылечнай хваробай.

*Павка Корчагин* — галоўны герой аўтабіяграфічнага рамана М. Астроўскага «Як гартавалася сталь» (1932—1934).

*...тогда как С. Есенин, наоборот, рассказав в автобиографии о «дотворческом» периоде жизни, переадресовывал своих читателей к своим стихам.*— верагодна, маецца на ўвазе аўтабіяграфія С. Ясеніна «О себе» (кастр. 1925), якая заканчваецца наступным радком: «Что касается остальных автобиографических сведений, они в моих стихах».

*В статье «Радость полная и неполная» вы прямо говорите об опасности, которую таит в себе приземленность, бескрылая фактографичность, ограничивающие полет фантазии, «простор выдумки, вымысла»...*— І. Сіненка спасылаецца на наступныя радкі з артыкула І. Навуменкі «Радасць поўная і няпоўная» (1964): «Ці не залішне мы прывязваем мастацкія характары да жывых рэальных прататыпаў, калі пішам свае кнігі? Ці не абмяжоўваем гэтым самым палёт фантазіі, прастор выдумкі, вымыслу, якія, вядома, не павінны адрывацца ад глебы рэальнасці, але ў той жа час як бы сінтэзаваць у адным фокусе шматлікія факты супярэчлівай, хуткаплыннай рэчаіснасці? Ці не вядзе прымітыўна зразуметы рэалізм, дзе і фігуры выпісаны, і колер вачэй не забыты, і вопратку героі носяць па апошняй модзе, да натуралізму, вельмі блізкага да бяскрылай фактаграфічнасці?»

*...писал об этом вашем противоречии между теоретиком-литературоведом и практиком-писателем, попутно упрекая вас как раз в «фактографизме» и в других подобных грехах.*— у манаграфіі «Іван Навуменка» Г. Сіненка, аналізуючы партызанскую трылогію аўтара, у прыватнасці, адзначаў: «Такім чынам, дакументальная

дакладнасць, «праўда факта», не заўсёды дазваляе пісьменніку аб'ёмна аднавіць «праўду жыцця», такая тэндэнцыя аўтабіяграфізму часам уступае ў вострую процілегласць з законамі жанравай формы рамана, запавольвае часам развіццё дзеяння, зніжае тыповую цэласнасць характару».

С. 150:

*...начал с «Детства», «Отрочества», «Юности»...*— «Дзяцінства» (1852), «Малалецтва» (1852—1854), «Юнацтва» (1855—1857) — аўтабіяграфічныя аповесці, якія склалі трылогію.

*«Берег»* — раман, напісаны ў 1975 г.

*«Выбор»* — раман, напісаны ў 1980 г.

*Литература должна раскрывать «химию» фактов.*— гл. камент. да інтэрв'ю «Как земля поет…» (с. 705).

*...«Сосна при дороге», «Ветер в соснах», «Сорок третий»...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Новыя героі, новыя праблемы» (с. 673, 674).

*Готовя собрание своих сочинений...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Это память о чем-то…» (с. 699).

С. 151:

*...компонуя отдельные книги своей трилогии в цельное эпическое повествование.*— маецца на ўвазе трылогія «Блуканне па пакутах», якая складаецца з раманаў «Сёстры» (1921—1922), «Васямнаццаты год» (1927—1928) і «Пахмурны ранак» (1940—1941).

*...довольно сдержанный отзыв М. Горького об этой книге…* — верагодна, маюцца на ўвазе радкі з напісанага ў 1923 г. ліста Максіма Горкага да швейцарскага выдаўца Э. Ронігера: «"Хождение по мукам" чрезвычайно интересно и тонко рисует психологию русской девушки, для которой настала пора любить. Фоном служит жизнь русской интеллигенции накануне войны и во время ее. Есть интересные характеры и сцены. Но, на мой взгляд, роман этот перегружен излишними подробностями, растянут и тяжел. Во всяком случае, эта книга не из лучших Алексея Толстого...»

С. 151—152:

*...пошел в наше, белорусское Сопротивление, в подпольную группу...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 683).

С. 152:

*Позже ушел в лес, в партизанский отряд. Воевал и на фронте.*— гл. камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 683—684).

*Но я прежде стал кандидатом филологических наук...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Літаратура — гэта самапазнанне» (с. 692).

*...я и четвертый роман из этого цикла напишу («Фронт»).*— задума напісання рамана І. Навуменкам ажыццёўлена не была.

*«Капитан Степь уходит в разведку»* — гл. камент. да інтэрв'ю «Аблічча галоўнага героя» (с. 701).

С. 153:

*«Никто не забыт, ничто не забыто...»* — лозунг, што ўжываецца ў прымяненні да подзвігу салдат Вялікай Айчыннай вайны, які застаўся здабыткам агульнанароднай памяці. Упершыню гэта фраза была ўжыта ў вершы рускай паэткі В. Бергольц (1910—1975), напісаным у 1959 г. спецыяльна для мемарыяльнай стэлы на Піскароўскіх могілках у Ленінградзе, дзе пахаваны многія ахвяры Ленінградскай блакады. Цытата з верша В. Бергольц стала назвай для шматлікіх мемарыяльных праектаў, звязаных з памяццю пра Вялікую Айчынную вайну.

*«Брестская крепость»* — кніга пабачыла свет у 1957 г., другое выданне — дапоўненае і пашыранае — у 1964 г.

С. 154:

*...начиная с «Третьей ракеты»...* — «Трэцяя ракета» — аповесць, напісаная ў 1961 г.

С. 155:

*Октябрьская социалистическая революция* — гл. камент. да верша «Бывай, наш паэце...» (с. 673).

С. 156:

*...в методе социалистического реализма.*— гл. камент. да інтэрв'ю «У беларускіх літаратуразнаўцаў» (с. 680).

*«Я — за романтику» («Маладосць», 1968).*— маецца на ўвазе інтэрв'ю І. Навуменкі — гл. камент. на с. 675 і тэкст на с. 73.

*Совсем недавно вы сказали — и тут вспоминается А. Блок,— что творчество начинается с музыки...* — маецца на ўвазе інтэрв'ю І. Навуменкі «Как земля поет...» — гл. камент. на с. 704 і тэкст на с. 131.

*...в споре с критикой, которая упрекала вас в «бесхозяйственности» (В. Юревич), обнаруженной в том, что вы перенесли в роман использованные в рассказах «образы, ситуации, даже целые эпизоды»...* — маецца на ўвазе артыкул У. Юрэвіча «Вяртанне ў маладосць» (1974), дзе даследчык адзначае: «Калі, чытаючы раман «Сасна пры дарозе», увесь час прыгадваеш вобразы, сітуацыі, нават цэлыя эпізоды, ужо выкарыстаныя ў апавяданнях («Сямнаццатай

вясной», «Сідар і Гараська», «Хлопцы-равеснікі» і інш.), у аповесцях («Снежань», «Мой сябар Пятрусь»), становіцца трошачкі шкада аўтара за такую “негаспадарлівасць”».

С. 157:

*...не принимал участия в коллективизации, не строил Днепрогэс.*— Калектывізацыя — працэс аб’яднання аднаасобных сялянскіх гаспадарак у сельскагаспадарчыя кааператывы. Праводзілася ў канцы 1920 — пач. 1930-х гг. у СССР з мэтай сацыялістычных пераўтварэнняў у вёсцы, ліквідацыі сельскай буржуазіі (кулацтва), павышэння таварнасці сельскагаспадарчай вытворчасці; Днепрагэс (Дняпроўская гідраэлектрастанцыя) — буйная гідраэлектрастанцыя на поўдні Украіны, пятая ступень каскада гідраэлектрастанцый, забяспечвае электраэнергіяй Данецка-Крыварожскі прамысловы раён. Знаходзіцца ў г. Запарожжа і ёсць найстарэйшай сярод каскада электрастанцый на р. Дняпро. Першая чарга пабудавана ў 1927—1932 гг., у час Вялікай Айчыннай вайны разбурана, адноўлена ў 1944—1950 гг. У 1969—1980 гг. пабудаваны Днепрагэс-2.

С. 158:

*Я написал пьесу «Птицы между молний». В черновом варианте есть еще одна — «Водяная мельница».*— «Птушкі між маланак» — гл. камент. на с. 665; п’еса «Вадзяны млын» засталася няскончанай. Чарнавыя варыянты захоўваюцца ў БДАМЛМ (ф. 495, воп. 1, адз. зах. 80—82).

*...делу партии...* — маецца на ўвазе КПСС — гл. камент. да інтэрв’ю «Ісці ўслед за бягучым днём…» (с. 678).

*Ленинский тезис о том, что беспартийность — это буржуазная идея, партийность — идея социалистическая...* — маецца на ўвазе выказванне з артыкула У. І. Леніна «Сацыялістычная партыя і беспартыйная рэвалюцыйнасць» (1905): «Беспартийность есть идея буржуазная. Партийность есть идея социалистическая».

С. 159:

*Фашизм* — гл. камент. да інтэрв’ю «Пад сцягам сацыялістычнага рэалізму» (с. 678).

*«Осенние мелодии»* — раман, завершаны ў 1987 г.

### «Пішу пра свайго сучасніка» (с. 160)

Друкуецца паводле газ. «Беларускі ўніверсітэт», 1984, 20 снеж., дзе ўпершыню апублікавана пад рубрыкай «Сустрэчы для вас».

Пад тэкстам: А. Матусевіч, наш кар.

Ніжэй змешчаны аўтограф І. Навуменкі наступнага зместу: «Жадаю студэнтам нашага слаўнага БДУ здзяйснення самых высокіх мар і жаданняў. У першую чаргу паспяхова скончыць універсітэт, а далей сплочваць доўг грамадству, верна, самаахвярна служыць нашай сацыялістычнай Радзіме. І. Навуменка».

С. 160:

*...з віцэ-прэзідэнтам Акадэміі навук БССР.*— гл. камент. да інтэрв'ю «Роздум аб сучаснасці» (с. 708).

*...той, хто вучыўся, выкладаў...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Я — за рамантыку» (с. 676), «Літаратура — гэта самапазнанне» (с. 692).

*Рэвалюцыя адкрыла ўсе шляхі...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Літаратура — гэта самапазнанне» (с. 693).

*20 мільёнаў жыццяў загубіла вайна.*— такімі былі звесткі афіцыйнай статыстыкі СССР аб дэмаграфічных стратах краіны ў Вялікай Айчыннай вайне. Сучасныя даследчыкі называюць лічбу ў 26,6 мільёна чалавек.

С. 161:

*...ўдзел пісьменніка ў партызанскім руху...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 683).

*Ёсць яшчэ задума напісаць кнігу чацвёртую...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Из реки по имени факт» (с. 714).

*...у тых Васілевічах...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 683).

*І ў рэдакцыі працаваў...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 682).

*...напісаць апавяданне «Развітанне ў Кавальцах».*— гл. камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 684).

*«Іван ды Мар'я»* — апавяданне, напісанае ў 1972 г.

С. 162:

*У інтэрнаце па вуліцы Свярдлова...* — маецца на ўвазе інтэрнат Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, размешчаны на вуліцы Свярдлова ў Мінску.

*...ў аповесці «Летуценнікі»...* — верагодна, маецца на ўвазе раман «Летуценнік» (1983).

## 1985

### Знайсці свайго героя (с. 163)

Друкуецца паводле газ. «Звязда», 1985, 16 лют., дзе ўпершыню апублікавана.

Пад тэкстам: Гутарыў У. Марук.

С. 163:

*...лаўрэату Дзяржаўнай прэміі БССР...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Прэмія абавязвае» (с. 678—679).

*Давялося быць падпольшчыкам, партызанам...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 683).

*...удзельнічаў у баях на Карэльскім перашыйку, ва Усходняй Прусіі, у Польшчы, Сілезіі.* — гл. камент. да інтэрв'ю «Аблічча галоўнага героя» (с. 700—701).

*...«Сасна пры дарозе», «Вецер у соснах», «Сорак трэці»...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Новыя героі, новыя праблемы» (с. 673, 674).

*«Смутак белых начэй»* — гл. камент. да інтэрв'ю «Літаратура — гэта самапазнанне» (с. 693).

*...напісаў некалькі «інтэлігенцкіх» аповесцей.* — маюцца на ўвазе аповесці «У бары на світанні» (1971), «Развітанне ў Кавальцах» (1974), «Замяць жаўталісця» (1976).

*...кнігі «Янка Купала», «Якуб Колас»...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Ісці ўслед за бягучым днём…» (с. 677).

С. 164:

*Талстой таксама не бачыў, ды і не мог бачыць, падзей пад Аўстэрліцам, на Барадзінскім полі... Але напісаў геніяльны твор пра вайну.* — маюцца на ўвазе Аўстэрліцкая бітва, якая адбылася 20 лістап. (2 снеж.) 1805 г. паміж руска-аўстрыйскай і французскай арміямі каля горада Аўстэрліц (цяпер г. Слаўкаў, Чэхія), а таксама Барадзінская бітва — генеральная бітва ў час Айчыннай вайны 1812 г. паміж расійскай і французскай арміямі 26 жн. (7 верас.) каля сяла Барадзіно, за 124 км на захад ад Масквы. Гэтыя падзеі знайшлі

адлюстраванне ў рамане «Вайна і мір» (1863—1869) Л. Талстога, які нарадзіўся ў 1828 г.

*НТР* — гл. камент. да інтэрв'ю «Пад сцягам сацыялістычнага рэалізму» (с. 686).

*...стараюся паглыбіцца ў хімію факта...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Как земля поет…» (с. 705).

С. 165:

*...і ў «Звяздзе» працаваў...*— гл. камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 682).

*Іслач* — рака ў Мінскай і Гродзенскай абл., левы прыток Бярэзіны (басейн ракі Нёман).

*...пасля 20-га з'езда партыі.*— гл. камент. да інтэрв'ю «Літаратура — гэта самапазнанне» (с. 693).

*...быў выкладчыкам...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Я — за рамантыку» (с. 676).

С. 166:

*Чэхаў некалі вобразна сказаў, што за дзвярамі ў кожнага павінен стаяць чалавек з малаточкам і сваім стукам напамінаць пра тое, што не ўсё яшчэ добра на свеце.*— маюцца на ўвазе радкі з апавядання А. Чэхава «Агрэст» (1898): «Надо, чтобы за дверью каждого довольного, счастливого человека стоял кто-нибудь с молоточком и постоянно напоминал бы стуком, что есть несчастные, что как бы он ни был счастлив, жизнь рано или поздно покажет ему свои когти, стрясется беда — болезнь, бедность, потери, и его никто не увидит и не услышит, как теперь он не видит и не слышит других».

## З думкай пра дзень заўтрашні (с. 167)

Друкуецца паводле газ. «Голас Радзімы», 1985, 21 лют., дзе ўпершыню апублікавана пад рубрыкай «Былое не можа сцерціся з памяці» з рэдактарскім падзагалоўкам «Гутарку з беларускім пісьменнікам, акадэмікам Іванам Навуменкам вядзе наш карэспандэнт Галіна Уліцёнак».

С. 167:

*...былы падпольшчык, партызан, франтавік.*— гл. камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 683).

*«Хлопцы самай вялікай вайны»* — апавяданне, напісанае ў 1970 г.

*У Васілевіцкім раёне...*— гл. камент. да інтэрв'ю «Літаратура — гэта самапазнанне» (с. 693).

*...маё знаходжанне ў Германіі ў канцы вайны яшчэ не занатавана на паперы.*— гэты перыяд свайго жыцця І. Навуменка пазней апіша ў аўтабіяграфічнай аповесці «Юнацтва» (1994).

*Васілевічы* — гл. камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 683).

*Днепр* (Дняпро) — гл. камент. да п'есы «Птушкі між маланак» (с. 669).

С. 168:

*«Капітан Стэп ідзе ў разведку»* — гл. камент. да інтэрв'ю «Аблічча галоўнага героя» (с. 701).

*...першую імперыялістычную вайну.*— маецца на ўвазе Першая сусветная вайна (1914—1918).

С. 169:

*Сацыялізм* — гл. камент. да інтэрв'ю «Пад сцягам сацыялістычнага рэалізму» (с. 688).

*Камунізм* — гл. камент. да інтэрв'ю «Новыя героі, новыя праблемы» (с. 673).

*...былі знішчаны Хірасіма і Нагасакі.*— Хірасіма — горад у Японіі, на паўднёвым захадзе вострава Хонсю, адміністрацыйны цэнтр прэфектуры Хірасіма. У Другую сусветную вайну падвергнуты атамнаму бамбаванню (6 жн. 1945 г.) амерыканскай авіяцыяй. Ад выбуху загінула больш за 200 тыс. чалавек, многія памерлі ад хвароб, звязаных з радыяцыяй. Горад адбудаваны, на месцы выбуху ўзведзены мемарыяльны комплекс Міру; Нагасакі — горад у Японіі, на захадзе вострава Кюсю, адміністрацыйны цэнтр прэфектуры Нагасакі. У канцы Другой сусветнай вайны на Нагасакі 9 жн. 1945 г. скінута амерыканская атамная бомба. Была разбурана трэць горада, каля 75 тыс. чалавек забіты і паранены.

*...быў на сесіі ААН...* — ААН (Арганізацыя Аб'яднаных Нацый) — міжнародная арганізацыя, створаная для падтрымання міру, бяспекі і развіцця супрацоўніцтва паміж усімі краінамі. Афіцыйнай датай утварэння ААН лічыцца 24 кастр. 1945 г., калі набыў моц яе Статут. У 1970 г. у складзе дэлегацыі БССР І. Навуменка прымаў удзел у працы XXV сесіі Генеральнай Асамблеі ААН у Нью-Ёрку.

*ЮНЕСКА* (Арганізацыя Аб'яднаных Нацый па пытаннях адукацыі, навукі і культуры) — спецыялізаваная ўстанова ААН, якая садзейнічае ўмацаванню міру і міжнароднай бяспекі праз развіццё супрацоўніцтва паміж дзяржавамі ў галіне адукацыі, навукі і культуры. Створана 16 лістап. 1945 г., афіцыйна дзейнічае з 4 лістап. 1946 г., калі набыў моц яе Статут. Штаб-кватэра арганізацыі знаходзіцца ў Парыжы.

*...Мінскай абласной камісіі садзейнічання Фонду міру...*— маецца на ўвазе Савецкі фонд міру — грамадская арганізацыя ў СССР, якая акумулявала добраахвотныя фінансавыя ўнёскі грамадзян і арганізацый і накіроўвала іх на рэалізацыю праграм па ўмацаванні міру і міжнароднай бяспекі. Заснавана 27 крас. 1961 г. у Маскве. У Беларусі 3 сак. 1972 г. утворана рэспубліканская камісія садзейнічання Савецкаму фонду міру, аддзяленні якой працавалі ва ўсіх абласных цэнтрах, гарадах і раёнах. Пасля распаду СССР, 24 жн. 1991 г. быў заснаваны Беларускі фонд міру.

*У Заходняй Германіі...* — маецца на ўвазе Федэратыўная Рэспубліка Германія (ФРГ) да яе аб'яднання ў кастр. 1990 г. з Германскай Дэмакратычнай Рэспублікай.

С. 170:

*...сацыялістычных краін...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Тлумачальнікі выдуманых сноў» (с. 691).

*...ўрывак з рамана. Галоўны герой — вучоны. Ён займаецца праблемамі гісторыі, асэнсоўвае вопыт мінулай вайны.*— маецца на ўвазе раман «Асеннія мелодыі» (1987).

*...зрабіў дзве п'есы. Яны яшчэ не пастаўлены, але спадзяюся...* — маецца на ўвазе п'еса «Птушкі між маланак» (сцэнічнага ўвасаблення не атрымала) — гл. камент на с. 665, а таксама нясконачаная п'еса «Вадзяны млын» — гл. камент. да інтэрв'ю «Из реки по имени факт» (с. 715).

*...як віцэ-прэзідэнт АН БССР...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Роздум аб сучаснасці» (с. 708).

*...створана гісторыя БССР у пяці тамах...* — маецца на ўвазе «Гісторыя Беларускай ССР» (т. 1—5, 1972—1975).

*...гісторыя беларускай літаратуры ў чатырох і ў двух для ўсесаюзнага чытача.*— гл. камент. да інтэрв'ю «У беларускіх літаратуразнаўцаў» (с. 681).

*Выдаём 30-томны збор фальклору, гісторыю тэатра, жывапісу.*— верагодна, маюцца на ўвазе наступныя выданні: шмат-

томная серыя «Беларуская народная творчасць», выпуск якой распачаўся ў 1970 г. (выйшла 47 тамоў), «Гісторыя беларускага тэатра» (т. 1—3, 1983—1987), «Гісторыя беларускага мастацтва» (т. 1—6, 1987—1994).

С. 171:

*«Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі»* — сямітомнае выданне, выходзіла ў 1984—1988 гг.

*...віншуе вас з шасцідзесяцігоддзем...* — 60 гадоў І. Навуменку споўнілася 16 лют. 1985 г.

**Навукі крокі сажнёвыя (с. 171)**

Друкуецца паводле газ. «Вячэрні Мінск», 1985, 18 крас., дзе ўпершыню апублікавана разам з іншымі матэрыяламі пад шапкай «Пошук і адкрыцці вучоных — на службу нашай Радзіме».

С. 171:

*«...Можа ўласных Платонаў і хуткіх розумам Неўтонаў Расійская зямля нараджаць»* — пераклад на беларускую мову радкоў з «Оды на дзень уступлення на ўсерасійскі прастол яе вялікасці гасударыні імператрыцы Елісаветы Пятроўны 1747 года»; Неўтон — даўняе вымаўленне прозвішча Ісаака Ньютана.

*Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя* — гл. камент. да верша «Бывай, наш паэце...» (с. 673).

*Напярэдадні Дня навукі...* — маецца на ўвазе Дзень савецкай навукі. Адзначаўся ў СССР у трэцюю нядзелю красавіка. У 1985 г.— 21 крас.

*...з віцэ-прэзідэнтам АН БССР...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Роздум аб сучаснасці» (с. 708).

*На нечарговым сакавіцкім (1985 г.) пленуме ЦК КПСС...* — пленум адбыўся 11 сак.; ЦК КПСС — гл. камент. да інтэрв'ю «Ісці ўслед за бягучым днём…» (с. 678), «Пад сцягам сацыялістычнага рэалізму» (с. 686).

С. 172:

*...за гады дзясятай пяцігодкі...* — маецца на ўвазе дзясяты пяцігадовы план развіцця народнай гаспадаркі СССР (1976—1980).

*ЭВМ* (электронная вылічальная машына) — вылічальная машына, у якой апрацоўка інфармацыі адбываецца з дапамогай электронных схем.

*...ў Інстытуце матэматыкі Акадэміі навук БССР...* — Інстытут матэматыкі Акадэміі навук БССР заснаваны ў 1959 г. у Мінску на базе матэматычных лабараторый Інстытута фізікі і матэматыкі АН БССР (існаваў у 1955—1959 гг.). Да 1965 г.— Інстытут матэматыкі і вылічальнай тэхнікі.

*...ў Інстытуце тэхнічнай кібернетыкі...* — Інстытут тэхнічнай кібернетыкі Акадэміі навук БССР — навуковая ўстанова. Заснаваны ў 1965 г. у Мінску на базе лабараторый кібернетычнага профілю Інстытута матэматыкі і вылічальнай тэхнікі. У 2002 г. Інстытут тэхнічнай кібернетыкі разам з навукова-даследчым аб'яднаннем «Кібернетыка» і навукова-інжынерным прадпрыемствам «Сістэмы аўтаматызацыі» рэарганізаваны ў Аб'яднаны інстытут праблем інфарматыкі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі.

*...ў Інстытуце фізікі цвёрдага цела і паўправаднікоў...* — Інстытут фізікі цвёрдага цела і паўправаднікоў АН БССР — навуковая ўстанова. Заснаваны ў 1963 г. у Мінску на базе аддзела фізікі і хіміі цвёрдага цела і паўправаднікоў АН БССР (існаваў з 1958 г.). З 2005 г.— Аб'яднаны інстытут фізікі цвёрдага цела і паўправаднікоў. У 2007 г. пераўтвораны ў Навукова-практычны цэнтр па матэрыялазнаўстве Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі.

*...Інстытута фізікі...* — Інстытут фізікі АН БССР — навуковая ўстанова. Заснаваны ў 1955 г. у Мінску на базе сектара фізікі і матэматыкі (існаваў з 1953 г.) Фізіка-тэхнічнага інстытута АН БССР. Да 1959 г.— Інстытут фізікі і матэматыкі. З 1988 г. носіць імя Б. І. Сцяпанава.

*...ў Фізіка-тэхнічным інстытуце...* — Фізіка-тэхнічны інстытут АН БССР — навуковая ўстанова. Заснаваны ў 1931 г. у Мінску (існаваў да 1938 г.). У 1945 г. у АН БССР створаны фізіка-тэхнічны сектар, які ў 1947 г. рэарганізаваны ў Фізіка-тэхнічны інстытут.

*...Інстытуце цепла- і масаабмену...* — Інстытут цепла- і масаабмену АН БССР — навуковая ўстанова. Заснаваны ў 1952 г. у Мінску на базе энергетычнага сектара (існаваў з 1946 г.) Інстытута торфу АН БССР. У 1952—1963 гг.— Інстытут энергетыкі. З 1975 г. носіць імя А. В. Лыкава.

*...Інстытута механікі металапалімерных сістэм...* — Інстытут механікі металапалімерных сістэм АН БССР — навуковая ўстанова. Заснаваны ў 1969 г. у Гомелі на базе аддзела механікі

палімераў АН БССР (існаваў з 1963 г.). З 1994 г. носіць імя У. А. Белага.

С. 173:

*...комплексную праграму навукова-тэхнічнага прагрэсу Беларусі да 2005 года.*— Комплексная праграма навукова-тэхнічнага прагрэсу — дакумент, які вызначаў мэты развіцця навукі і тэхнікі ў краіне, прыярытэтныя навукова-тэхнічныя праблемы, што падлягалі распрацоўцы, і чаканыя сацыяльна-эканамічныя наступствы іх рэалізацыі. Праграмы складаліся, пачынаючы з 1972 г., тэрмінам на 15, а потым 20 гадоў наперад з актуалізацыяй раз у пяць гадоў.

*У сістэме аддзялення грамадскіх навук АН БССР...* — аддзяленне грамадскіх навук — структурная адзінка АН БССР, якая аб'ядноўвае навукова-даследчыя ўстановы сацыяльнага і гуманітарнага профілю. Створана ў 1936 г. Сучасная назва — аддзяленне гуманітарных навук і мастацтваў Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі.

*...цэнтр сацыялагічных даследаванняў ідэалагічнай работы.*— верагодна, маецца на ўвазе аддзел сацыялагічных даследаванняў ідэалагічных працэсаў, які існаваў у складзе Інстытута філасофіі і права АН БССР.

**Задачы вынікаюць з самога жыцця... (с. 173)**

Друкуецца паводле часоп. «Полымя», 1985, № 8, дзе ўпершыню апублікавана ў раздзеле «Крытыка і літаратуразнаўства» з рэдактарскім падзагалоўкам «Дыялог».

С. 173:

*...як у адну і тую ж раку, нельга ступіць двойчы. Усё цячэ, мяняецца...* — выказванне, якое ўзыходзіць да старажытнагрэчаскага філосафа Геракліта Эфескага (каля 520—460 да н. э.).

С. 174:

*...шасцітомным Зборам твораў...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Это память о чем-то…» (с. 699).

*...рэдагаваў у школе насценгазету...* — І. Навуменка быў адказным рэдактарам класнай насценгазеты «Выдатнік».

*Мае заметкі друкавалі васілевіцкая газета «Сацыялістычная праца», мазырская абласная «Бальшавік Палесся» і нават*

*рэспубліканская «Чырвоная змена»...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Роздум аб сучаснасці» (с. 708); васілевіцкая — Васілевічы — гл. камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 683); Васілевіцкі раён — гл. камент. да інтэрв'ю «Літаратура — гэта самапазнанне (с. 693); мазырская абласная — маецца на ўвазе Палеская вобл.— гл. камент. да інтэрв'ю «Літаратура — гэта самапазнанне» (с. 692).

*КІЖ (быў да вайны ў Мінску Камуністычны інстытут журналістыкі — скарочана КІЖ)...* — Камуністычны інстытут журналістыкі імя С. М. Кірава існаваў у 1932—1940 гг. у Мінску як навучальная ўстанова для падрыхтоўкі кадраў для раённых, абласных і рэспубліканскіх газет. Заснаваны на базе газетнага аддзялення Камуністычнага ўніверсітэта Беларусі. Рэарганізаваны ў Беларускі інстытут журналістыкі (існаваў да 1941 г.).

*«Усе мае творы,— прызнаваўся Гётэ,— фрагменты адной вялікай споведзі».*— словы з аўтабіяграфічнага твора І. В. Гётэ «Паэзія і праўда» (1811—1831).

С. 175:

*...«Сасна пры дарозе», «Вецер у соснах», «Сорак трэці».*— гл. камент. да інтэрв'ю «Новыя героі, новыя праблемы» (с. 673, 674).

*Міця Птах* — гл. камент. да інтэрв'ю «Літаратура — гэта самапазнанне» (с. 694).

*Бацька мой...* — Я. П. Навуменка.

*«Вераніка»* — гл. камент. да інтэрв'ю «Я — за рамантыку» (с. 675).

*...«Развітанне ў Кавальцах», «Замяць жаўталісця»...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 684).

С. 176:

*«У бары на світанні»* — гл. камент. да інтэрв'ю «Ісці ўслед за бягучым днём...» (с. 677).

*«Апошняя восень»* — гл. камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 684).

С. 177:

*«На ростанях»* — гл. камент. да інтэрв'ю «Літаратура — гэта самапазнанне» (с. 695).

С. 178:

*«Тоўсты і тонкі»* — апавяданне, напісанае ў 1883 г.

*«Унтэр Прышыбееў»* — апавяданне, напісанае ў 1885 г.

*...штаны шырокія, як Чорнае мора.*— перайначаны выраз з аповесці М. Гогаля «Тарас Бульба» (1835), у арыгінале: «шаровары шириною в Черное море».

*...рэдкая птушка даляціць да сярэдзіны Дняпра.*— выраз з аповесці М. Гогаля «Страшная помста» (1831).

*...як правільна гаварыў Бялінскі, калі вы возьмеце ваду з ракі Волгі, то вы нідзе не ўбачыце чыстай вады, узятай, скажам, Волгай з Камы, з Акі.*— маюцца на ўвазе словы з артыкула чацвёртага (1843) з цыкла «Творы Аляксандра Пушкіна» (1843—1846) В. Бялінскага: «И кто может разложить химически воду, например, Волги, чтоб узнать в ней воды Оки или Камы?»

С. 179:

*...прызнанне Льва Талстога пра тое, як нарадзілася яго славутая аповесць «Хаджы-Мурат». Ішоў дарогай і ўбачыў, як, нягледзячы ні на што, расце на ёй, трымаецца за жыццё куст дзядоўніку.*— маецца на ўвазе запіс Л. Талстога ў дзённіку 19 ліп. 1896 г.: «Вчера иду по передвоенному черноземному пару. Пока глаз окинет, ничего кроме черной земли — ни одной зеленой травки. И вот на краю пыльной, серой дороги куст татарина (репья), три отростка: один сломан, и белый, загрязненный цветок висит; другой сломан и забрызган грязью, черный, стебель надломлен и загрязнен; третий отросток торчит вбок, тоже черный от пыли, но все еще жив и в серединке краснеется.— Напомнил Хаджи-Мурата. Хочется написать. Отстаивает жизнь до последнего, и один среди всего поля, хоть как-нибудь, да отстоял ее»; Аповесць «Хаджы-Мурат» напісана ў 1896—1904 гг.

*Іслач* — гл. камент. да інтэрв'ю «Знайсці свайго героя» (с. 718).

С. 180:

*...быў удзельнікам дэлегацыі на сесіі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый...* — гл. камент. да інтэрв'ю «З думкай пра дзень заўтрашні» (с. 719).

*«Смутак белых начэй»* — гл. камент. да інтэрв'ю «Літаратура — гэта самапазнанне» (с. 693).

*...на Ленінградскім фронце...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 683).

С. 181:

*...тэрмаядзерная рэакцыя.*— разнавіднасць ядзернай рэакцыі, пры якой лёгкія атамныя ядры аб'ядноўваюцца ў больш цяжкія за кошт кінетычнай энергіі іх цеплавога руху.

*...асновы геннай інжынерыі...* — генная (генетычная) інжынерыя — раздзел малекулярнай біялогіі, звязаны з мэтанакіраваным канструяваннем новых спалучэнняў генаў, якіх няма ў прыродзе.

С. 182:

*...Купала і тэатрам цікавіўся, стаяў ля калыскі нашага беларускага тэатра.*— Янка Купала высока цаніў дзейнасць і прапагандаваў на стронках газ. «Наша ніва» творчасць Першай беларускай трупы І. Буйніцкага (існавала ў 1907—1913 гг.). Прысутнічаў на першых пастаноўках сваёй п’есы «Паўлінка» (1912) у Вільні, Пецярбургу і Радашковічах у 1913 г. З пачатку адкрыцця ў 1920 г. Беларускага дзяржаўнага тэатра ў Мінску стаў сапраўдным сябрам творчага калектыву: наведваў спектаклі, рэпетыцыі, удзельнічаў у абмеркаваннях, патрабавальна ставіўся да ведання акцёрамі беларускай мовы.

*І стварэннем Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, і Акадэміяй цікавіўся.*— Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт — гл. камент. да інтэрв’ю «Я — за рамантыку» (с. 676); Янка Купала быў ініцыятарам стварэння БДУ, падтрымліваў з ім цесныя сувязі; Акадэмія — гл. камент. да інтэрв’ю «У беларускіх літаратуразнаўцаў» (с. 680); Янка Купала ўваходзіў у склад камісіі па арганізацыі Інстытута беларускай культуры, на базе якога была заснавана Беларуская акадэмія навук. У 1922 г. абраны правадзейным членам Інбелкульта, у 1928 г.— зацверджаны правадзейным членам Беларускай акадэміі навук.

*...шмат узяў у Пецярбургу, на курсах Чарняева, дзе выкладалі першакласныя спецыялісты.*— Пецярбург — гл. камент. да п’есы «Птушкі між маланак» (с. 667); Вячэрнія агульнаадукацыйныя курсы Чарняева — чатырохгадовая сярэдняя навучальная ўстанова для дарослых, якая была арганізавана А. С. Чарняевым і дзейнічала ў 1902—1915 гг. у Пецярбургу. На курсах выкладалі вядомыя навукоўцы прафесары У. І. Бауман (матэматыка), А. К. Барадзін (літаратура), А. К. Генкель (батаніка), К. Ф. Жакаў (літаратура, этыка, псіхалогія), М. К. Кніповіч (заалогія), П. Л. Мальчэўскі (хімія). Янка Купала вучыўся на гэтых курсах у 1909—1913 гг.

С. 183:

*Я быў у Германіі. Прыйшоў туды разам з нашай арміяй у якасці пераможцы — гэта вельмі цікавы этап. Я, акрамя некалькіх дробных апавяданняў, нічога не напісаў пра гэта.*— гл. камент. да інтэрв’ю «З думкай пра дзень заўтрашні» (с. 719).

С. 184:

*«Безумная затея нами движет, чтоб каждую строку прожить собой и самому еще при этом выжить».*— радкі з верша М. Луконіна «Наверно, так писать стихи нельзя…» (1971).

*...вельмі добрую працу напісалі, прысвечаную тэарэтычным аспектам сённяшняй літаратуры...* — верагодна, маецца на ўвазе кніга «Сучасная беларуская паэзія: Творчая індывідуальнасць і літаратурны працэс» (1983).

*Я пачынаў пісаць вершы, калі працаваў карэспандэнтам.*— гл. на с. 671—673 і камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 682).

С. 185:

*Адна надрукавана — «Птушкі між маланак»...* — гл. камент. на с. 665.

*«Вадзяны млын»* — гл. камент. да інтэрв'ю «Из реки по имени факт» (с. 715).

*«Летуценнік»* — гл. камент. да інтэрв'ю «Шляхам перамог — шляхам набыткаў» (с. 704).

*...займаўся нарысамі, некаторыя нават у маскоўскіх альманахах друкаваліся.*— нарыс І. Навуменкі «В глубине Полесья: По коласовским местам» быў надрукаваны ў «Литературной газете» (1958. 30 снеж.)

*Нават прац «Янка Купала» і «Якуб Колас», за якія я атрымаў Дзяржаўную прэмію, у шасцітомніку няма.*— гл. камент. да інтэрв'ю «Прэмія абавязвае» (с. 678—679), «Это память о чем-то…» (с. 699).

*Там ёсць толькі артыкулы пра Купалу і Коласа, якія ў свой час друкаваліся ў часопісах...* — у Збор твораў увайшлі артыкулы пра Янку Купалу: «Ад прадзедаў спакон вякоў…» (Полымя. 1980. № 2), «Святло сэрца» (асобна не друкаваўся, уваходзіў як раздзел у кнігу «Янка Купала») «Перачытваючы Купалу» (Полымя. 1966. № 10), «Наш Купала» (зб. «Народныя песняры», 1972), «Публіцыстычная лірыка Купалы» (Полымя. 1982. № 6); пра Якуба Коласа: «Дум уладар» (ЛіМ. 1962. 2 лістап.), «Пейзажная лірыка Якуба Коласа» (Полымя. 1981. № 5), «Слова пра Коласа» (ЛіМ. 1982. 29 кастр.), «Мир живой, очеловеченный» (Вопросы литературы. 1982. № 7), «Чароўны свет мастацтва», «Энцыклапедыя сялянскага жыцця», «Герой, які вучыцца і вучыць», «Мой Колас»,

«Непаўторная пара дзяцінства» (гэтыя артыкулы ўваходзілі як раздзелы ў кнігу «Якуб Колас: Нарыс жыцця і творчасці», 1982).
С. 186:

*...ў гэтым годзе выйдзе раман «Летуценнік».*— твор выйшаў у зб. «Летуценнік; Смутак белых начэй: Раманы» (1985).

*...пазней я выдам зборнік апавяданняў, якіх больш дзясятка назбіралася.*— апавяданні, напісаныя І. Навуменкам у 1981—1986 гг., увайшлі ў зб. «Асеннія мелодыі: Раман, апавяданні» (1987).

*«Мастацкая літаратура»* — гл. камент. да інтэрв’ю «У задуме: новы раман» (с. 697).

*«Дрыгва»* — аповесць, напісаная ў 1933 г.

*...сабраў усе выданні «Дрыгвы», якія толькі існуюць на рускай і беларускай мове. Усе пяць выданняў даваенных...* — Першае асобнае выданне «Дрыгвы» выйшла ў 1934 г. Пазней аповесць перавыдавалася ў 1935, 1936, 1937, 1940, 1946, 1952, 1959, 1966, 1970, 1981 гг. Асобнай кнігай на рускай мове ўпершыню выйшла ў 1934 г. у перакладзе М. Хаванскага. У 1948, 1950, 1965 гг. выдавалася ў перакладзе В. Тарсіса, у 1965, 1972 гг.— у перакладзе М. Златагорава.

*...збіраюся нават напісаць пра стыль «Дрыгвы». У гэтым годзе часопіс «Полымя» артыкул мне заказаў.*— асобны артыкул пра стыль «Дрыгвы» І. Навуменкам напісаны не быў.
С. 186—187:

*...няўдалы, так сказаць, як лічыцца, другі том «Мёртвых душ».*— «Мёртвыя душы» — паэма (раман) М. Гогаля. Першапачаткова твор задумваўся як трохтомны. Першы том выдадзены ў 1842 г. Амаль гатовы другі том быў знішчаны пісьменнікам, захавалася толькі некалькі раздзелаў у чарнавіках (упершыню апублікаваны ў 1855 г.). Трэці том пачаты не быў.
С. 187:

*...трылогію пра старажытнарымскага гісторыка Іосіфа Флавія.*— трылогію склалі раманы «Іудзейская вайна» (1932), «Сыны» (1935) і «Настане дзень» (1942).

*...«Сравнительную мифологию». Кніга выйшла яшчэ ў 1863 годзе ў Пецярбургу.*— манаграфія напісана ў 1856 г., на рускай мове выйшла ў 1863 г. у Маскве.
С. 187—188:

*...два апошнія тамы «Гісторыі рускай літаратуры», якая выйшла ў чатырох тамах.*— маецца на ўвазе выданне «История русской литературы» (т. 1—4, 1980—1983). Том трэці — «Расцвет

рэалізма» (1982), том чацвёрты — «Литература конца XIX — начала XX века» (1983).

С. 188:

*...два тамы выйшлі «Гісторыі сусветнай літаратуры».—* маецца на ўвазе выданне «История всемирной литературы» (т. 1—8, 1983—1994). Том першы — «Литература Древнего мира» (1983), том другі — «Средневековая литература III—XIII вв.» (1984).

С. 189:

*...вярнуўся з сустрэч з выбаршчыкамі.—* 24 лют. 1985 г. І. Навуменка быў абраны дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР па Мазырскай—Заходняй выбарчай акрузе № 339.

*...ён стаіць на сямі пагорках, нібы Старажытны Рым.—* Рым — сталіца Італіі. Адзін з найстарэйшых гарадоў свету (заснаваны ў 753 г. да н. э.). У III ст. да н. э.— 330 н. э.— сталіца вялікай міжземнаморскай дзяржавы — Старажытнага Рыма. Горад размешчаны на сямі пагорках: Палаціне, Капітоліі, Квірынале, Цэліі, Авенціне, Эксвіліне і Вімінале; Мазыр таксама размешчаны на ўзгоркавай мясцовасці ў межах Мазырскай грады.

*Прыпяць* — рака ў Брэсцкай і Гомельскай абл. Беларусі, Валынскай, Ровенскай і Кіеўскай абл. Украіны, правы прыток Дняпра.

*...магутны нафтаперапрацоўчы завод...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 684).

*...магутная ЦЭЦ...* — маецца на ўвазе Мазырская ЦЭЦ — размешчаная ў Мазырскім раёне цеплаэлектрацэнтраль, якая забяспечвае электрычнай і цеплавой энергіяй Мазырскі нафтаперапрацоўчы завод і горад Мазыр. Уведзена ў эксплуатацыю ў 1974 г.

*...фабрыка трыкатажу, індывідуальнага пашыву.—* маюцца на ўвазе мазырская трыкатажная фабрыка «Славянка» (працавала ў 1927—2012 гг.) і Мазырская швейная фабрыка, створаная ў 1944 г. як фабрыка пашыву адзення і абутку «Індпашыў» (сучасная назва — Мазырская швейная фабрыка «Надэкс»).

*...якімі былі да сямнаццатага года...* — маецца на ўвазе да Кастрычніцкай рэвалюцыі — гл. камент. да верша «Бывай, наш паэце...» (с. 673).

*Леў Талстой, як вядома, таксама не ўдзельнічаў у Айчыннай вайне 1812 года, нарадзіўся толькі праз 16 гадоў пасля гэтай памятнай гістарычнай даты, але, тым не меней, напісаў «Вайну і мір».—* гл. камент. да інтэрв'ю «Знайсці свайго героя (с. 717—718); Айчынная вайна 1812 года — абарончая вайна Расіі

супраць французскай агрэсіі; першы этап агульнаеўрапейскай антынапалеонаўскай вайны 1812—1814 гг.

С. 189—190:

*...ўдзельнічаў вялікі пісьменнік у якасці баявога афіцэра ў пазнейшай, Крымскай вайне...* — Крымская вайна 1853—1856 гг. (Усходняя вайна) — вайна паміж Расійскай імперыяй, з аднаго боку, і кааліцыяй у складзе Брытанскай, Французскай, Асманскай імперый і Сардзінскага каралеўства, з іншага, за панаванне на Блізкім Усходзе. Асноўныя баі праходзілі ў раёне Крымскага паўвострава (адсюль назва), Закаўказзя і Чорнага мора. З пачатку Крымскай вайны Л. Талстой знаходзіўся ў Дунайскай арміі, а з лістап. 1854 па канец жн. 1855 г. быў у Севастопалі, удзельнічаў у абароне горада.

## 1986

### «Час абуджае думку творцаў» (с. 190)

Друкуецца паводле газ. «ЛіМ», 1986, 11 крас., дзе ўпершыню апублікавана пад рубрыкай «Пісьменнік, кніга, жыццё».

Пад тэкстам: Інтэрв'ю ўзяў Алесь Марціновіч.

С. 190:

*...«Сасна пры дарозе», «Вецер у соснах», «Сорак трэці»...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Новыя героі, новыя праблемы» (с. 673, 674).

*«Смутак белых начэй»* — гл. камент. да інтэрв'ю «Літаратура — гэта самапазнанне» (с. 693).

*«Летуценнік»* — гл. камент. да інтэрв'ю «Шляхам перамог — шляхам набыткаў» (с. 704).

*...«Янка Купала. Духоўны воблік героя» і «Якуб Колас. Духоўны воблік героя».*— гл. камент. да інтэрв'ю «Ісці ўслед за бягучым днём...» (с. 677).

С. 191:

*...акадэмік АН БССР...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Шляхам перамог — шляхам набыткаў» (с. 702), «У беларускіх літаратуразнаўцаў» (с. 680).

*...віцэ-прэзідэнт Акадэміі навук БССР...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Роздум аб сучаснасці» (с. 708).

*...старшыня Вярхоўнага Савета БССР.*— Вярхоўны Савет БССР — вышэйшы прадстаўнічы і заканадаўчы орган дзяржаўнай улады ў БССР у 1938—1990 гг.; І. Навуменка займаў пасаду старшыні Вярхоўнага Савета БССР з 28 сак. 1985 па 15 мая 1990 г.

*...ўзяты курс на паскарэнне...* — маецца на ўвазе палітычны курс Генеральнага сакратара ЦК КПСС М. С. Гарбачова, абвешчаны 23 крас. 1985 г. на Пленуме ЦК КПСС; адзін з ключавых кірункаў рэфарматарскага курсу, які праводзіўся ў СССР у 1985—1991 гг. Яго мэтай было паскарэнне сацыяльнага і эканамічнага развіцця Савецкага Саюза.

*З лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі БССР і прэміі Ленінскага камсамола Беларусі...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Я — за рамантыку» (с. 675), «Прэмія абавязвае» (с. 678—679).

*...прыняты гістарычныя рашэнні XXVII з'езда КПСС...* — XXVII з'езд КПСС праходзіў у Маскве з 25 лют. па 6 сак. 1986 г. На ім былі зацверджаны Асноўныя кірункі эканамічнага і сацыяльнага развіцця СССР на 1986—1990 гг. і на перыяд да 2000 г.

*...сацыяльны заказ...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Літаратура — гэта самапазнанне» (с. 695).

*...будзе засяроджана ўвага і на з'ездзе пісьменнікаў рэспублікі...* — маецца на ўвазе IX з'езд пісьменнікаў Беларусі, які праходзіў 23—24 крас. у Мінску.

С. 191—192:

*...«Якая доўгая вайна», якое будзе друкавацца ў «Маладосці».*— апавяданне «Якая доўгая вайна» (1986) было надрукавана ў часоп. «Маладосць» (1986. № 6).

С. 192:

*...ў іншых саюзных рэспубліках...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Тлумачальнікі выдуманых сноў» (с. 691).

*...Ленінградзе...* — гл. камент. да п'есы «Птушкі між маланак» (с. 667).

*...не магу забыць паездку ў 1966 годзе ва Узбекістан, калі праходзіла Дэкада беларускай літаратуры.*— Дэкада літаратуры і мастацтва Беларусі ва Узбекістане праходзіла 17—26 крас. 1966 г. У гэты час (26 крас.) у Ташкенце здарыўся моцны землятрус.

*...Дэкада беларускага мастацтва ў 1940 годзе ў Маскве.*— Дэкада беларускай літаратуры і мастацтва ў Маскве адбылася ў чэрв. 1940 г.

*...працуючы ва ўніверсітэце...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Я — за рамантыку» (с. 676).

*...на Далёкім Усходзе...* — Далёкі Усход — тут: крайняя ўсходняя частка Расійскай Федэрацыі, якая ўключае Прыморскі і Хабараўскі краі, Амурскую, Камчацкую, Магаданскую і Сахалінскую вобл., а таксама ўсходнюю частку Якуціі і Чыцінскай вобл.

*...тэатра імя Янкі Купалы.*— тэатр імя Янкі Купалы — найстарэйшы беларускі тэатр. Створаны ў Мінску ў 1920 г. як Беларускі дзяржаўны тэатр. З 1926 г.— Першы беларускі дзяржаўны тэатр. Імя Янкі Купалы прысвоена 21 снеж. 1944 г. У 1944—1993 гг. насіў назву Беларускі тэатр імя Янкі Купалы. Сучасная назва — Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы.

С. 193:

*...творчага саюза рэспублікі...* — маецца на ўвазе Саюз пісьменнікаў БССР — гл. камент. да інтэрв'ю «Пад сцягам сацыялістычнага рэалізму» (с. 688—689).

*«Узнятая цаліна»* — раман (кніга першая — 1932, кніга другая — 1959).

*«Брускі»* — гл. камент. да інтэрв'ю «Літаратура — гэта самапазнанне» (с. 696).

*«Час, наперад!»* — гл. камент. да інтэрв'ю «Літаратура — гэта самапазнанне» (с. 696).

*«Спалох на загонах»* — гл. камент. да інтэрв'ю «Літаратура — гэта самапазнанне» (с. 696).

*«Над ракою Арэсай»* — паэма, напісаная ў 1933 г.

*«Рэвізор»* (1836) — п'еса М. Гогаля.

*Пісьменнік асоба творчая, самастойная, гаварыў Ільіч, ён піша адпаведна свайму светаразуменню, уяўленню пра ідэал, але мы бальшавікі і мы павінны свядома і мэтанакіравана фарміраваць літаратурны працэс.*— маецца на ўвазе наступная цытата з «Успамінаў аб Леніне» (1924) К. Цэткін: «Каждый художник, всякий, кто себя таковым считает, имеет право творить свободно, согласно своему идеалу, независимо ни от чего.

— Но, понятно, мы — коммунисты. Мы не должны стоять сложа руки и давать хаосу развиваться, куда хочешь. Мы должны вполне планомерно руководить этим процессом и формировать его результаты».

*...адзін Віктар Казько — наколькі я ведаю — мае на Палессі хаціну...* — Палессе — гл. камент. да інтэрв'ю «Ісці ўслед за бягучым днём...» (с. 677); У канцы 1970-х гг. В. Казько пасяліўся ў сялянскай хаце ў адной з вёсак Гомельскай вобл., жыў там месяцамі, назіраючы прыродны колазварот, побыт і нормы палешукоў.

С. 194:

*...з родных мне Васілевіч.*— гл. камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 683).

*...выйшаў мой раман «Летуценнік».*— гл. камент. да інтэрв'ю «Шляхам перамог — шляхам набыткаў» (с. 704), «Задачы вынікаюць з самога жыцця...» (с. 728).

*Ён друкаваўся ў «Полымі»...* — раман надрукаваны ў часоп. «Полымя» (1984. № 5).

*Пакуль што раман крытыкай незаўважаны.*— на момант інтэрв'ю «Летуценнік» атрымаў наступныя рэцэнзіі ў друку: Ламека Л. «Свет летуценнасці і дзеяння» (ЛіМ. 1985. 15 лют.); Мартинович А. «Трудные уроки истины» (Знамя юности. 1984. 27 июля).

*«Асеннія мелодыі»* — раман, напісаны ў 1987 г.

*...як і іншыя нацыі краіны...* — маецца на ўвазе СССР — гл. камент. да інтэрв'ю «Ісці ўслед за бягучым днём...» (с. 678).

С. 195:

*...хіба што вазьмуся за працяг трылогіі.*— гл. камент. да інтэрв'ю «Из реки по имени факт» (с. 714).

*...і ў падполлі быў, і ў партызанах, а потым і на фронце.*— гл. камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 683—684).

С. 196:

*Часопіс «Маладосць» — там тады працаваў Іван Пташнікаў...* — І. Пташнікаў у 1958—1962 гг. працаваў у часоп. «Маладосць» рэдактарам аддзела прозы.

*«Інтэрнат на Нямізе»* — гл. камент. да інтэрв'ю «Літаратура — гэта самапазнанне» (с. 693).

*«Смутак белых начэй»* — гл. камент. да інтэрв'ю «Літаратура — гэта самапазнанне» (с. 693).

С. 197:

*...з мастакамі-абстракцыяністамі?* — абстракцыяністы — прадстаўнікі абстрактнага мастацтва, плыні ў выяўленчым мастацтве многіх краін. У яе аснову пакладзены метад абстракцыянізму, паводле якога галоўная мэта мастацкай творчасці — выяўленне чыста суб'ектыўных эмоцый, падсвядомых імпульсаў, духоўных сутнасцяў. Узнікла ў 1910—1913 гг. Практыка абстрактнага мастацтва зводзіцца да складання з дапамогай адцягненых элементаў мастацкай формы (каляровая пляма, лінія, аб'ём і інш.) нявыяўленых кампазіцый, імпульсіўна-стыхійных ці рацыяналістычна ўпарадкаваных.

С. 198:

*...«Птушкі між маланак» ужо друкавалася ў «Полымі».*— гл. камент. на с. 665.

*...«Вадзяны млын» яшчэ буду дапрацоўваць.*— гл. камент. да інтэрв'ю «Из реки по имени факт» (с. 715).

*...і ў Томску, і ў Омску.*— Томск — горад у Расіі, цэнтр Томскай вобл., порт на рацэ Том; Омск — горад у Расіі, цэнтр Омскай вобл., размешчаны пры ўпадзенні ракі Ом у раку Іртыш.

*Неяк у Ільфа і Пятрова запыталі, як яны ўдвух могуць пісаць. Пятроў адказаў: «У той час, калі Ільф бегае па рэдакцыях, я вартую рукапіс. І, наадварот, калі я бегаю па рэдакцыях, ён сцеражэ рукапісы».*— верагодна, маецца на ўвазе цытата з уступнага слова «Ад аўтараў» да рамана І. Ільфа і Я. Пятрова «Залатое цяля» (1931): «Как мы пишем вдвоем? Да так и пишем вдвоем. Как братья Гонкуры. Эдмонд бегает по редакциям, а Жюль стережет рукопись, чтобы не украли знакомые».

*Вы неяк сказалі, што марыце напісаць артыкул пра стыль «Дрыгвы» Якуба Коласа?* — гл. камент. да інтэрв'ю «Задачы вынікаюць з самога жыцця...» (с. 728).

С. 199:

*Пры перавыданнях у гаворцы пра Коласа з'явіўся раздзел аб пейзажнай лірыцы, расказаў пра Коласа — дзіцячага пісьменніка.*— верагодна, маецца на ўвазе кніга «Якуб Колас: Нарыс жыцця і творчасці» (1982), у якую ўвайшлі раздзелы «Пейзажная лірыка Якуба Коласа» і «Непаўторная пара дзяцінства».

*Напісаў раздзелы «Купала і міфы», «Купала і старажытнасць».*— верагодна, маецца на ўвазе раздзел «Ад прадзедаў, спакон вякоў...» з манаграфіі «Янка Купала» (1980).

*Калі ўдасца, хацеў бы перавыдаць гэтыя кнігі дапоўненымі.*— у 2003 г. была перавыдадзена кніга І. Навуменкі «Якуб Колас: Нарыс жыцця і творчасці».

*Купала свае першыя зборнікі напісаў, працуючы вінакурам.*— восенню — зімой 1906 г. Янка Купала працаваў памочнікам вінакура на бровары ў вёсцы Яхімоўшчына за 20 км ад Маладзечна. Увесну 1907 г.— памочнікам вінакура ў маёнтку Дольны Сноў Навагрудскага павета Мінскай губерні.

*«Жалейка»* — першы зборнік вершаў (1908) Янкі Купалы.

*«Гусляр»* — другі зборнік вершаў (1910) Янкі Купалы.

*Захапіўся Дуніным-Марцінкевічам.*— І. Навуменка напісаў і выдаў манаграфію «Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч» (1992).

## 1994

### «Апавяданні ваенныя яшчэ пішу. І буду пісаць» (с. 199)

Друкуецца паводле газ. «Навіны АН Беларусі», 1994, 10 чэрв., дзе ўпершыню апублікавана з рэдактарскім падзагалоўкам «З пісьменнікам, саветнікам прэзідыума АНБ акадэмікам І. Я. Навуменкам гутарыць Аляксандр Юрын».

С. 199:

*...за адзін год скончыў два класы.*— І. Навуменка перад пачаткам Вялікай Айчыннай вайны за адзін навучальны год скончыў два класы — восьмы і дзявяты (экстэрнам).

С. 200:

*...ўдзельнічаў у падпольным і партызанскім руху, затым быў на фронце.*— гл. камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 683—684).

*...«Сідар і Гараська», «Эх, махорачка»...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Я — за рамантыку» (с. 675).

*Дваццаты з'езд партыі* — гл. камент. да інтэрв'ю «Літаратура — гэта самапазнанне» (с. 693).

*Леў Талстой напісаў «Вайну і мір» праз многа гадоў пасля заканчэння Айчыннай вайны 1812 года. Ён нават нарадзіўся праз 16 гадоў пасля таго, як Расія спыніла нашэсце напалеонаўскіх войск.*— гл. камент. да інтэрв'ю «Знайсці свайго героя» (с. 717—718), «Задачы вынікаюць з самога жыцця…» (с. 729—730).

*...Талстой удзельнічаў у Севастопальскай абароне 1853—1855 гг.*— гл. камент. да інтэрв'ю «Задачы вынікаюць з самога жыцця…» (с. 730); Севастопальская абарона 1854—1855 гг.— абарона Севастопаля расійскімі войскамі ад узброеных сіл саюзных дзяржаў (Францыя, Вялікабрытанія, Турцыя, Сардзінскае каралеўства) у Крымскую вайну 1853—1856 гг. Працягвалася з канца верас. 1854 па пачатак верас. 1855 г.

С. 201:

*...«Сасна пры дарозе», «Вецер у соснах», «Сорак трэці».*— гл. камент. да інтэрв'ю «Новыя героі, новыя праблемы» (с. 673, 674).

*...«Дзяцінства», «Падлетак», «Юнацтва»...* — аповесці, напісаныя адпаведна ў 1991, 1993 і 1994 гг.

*«Смутак белых начэй»* — гл. камент. да інтэрв'ю «Літаратура — гэта самапазнанне» (с. 693).

## 1995

### «Цените каждое мгновение жизни» (с. 201)

Друкуецца паводле газ. «7 дней», 1995, 18 лют., дзе ўпершыню апублікавана пад рубрыкай «Гостиная “7 дней”».

Пад тэкстам: Беседовала Ольга Мамчиц.

С. 201:

*«Сасна пры дарозе»* — гл. камент. да інтэрв'ю «Новыя героі, новыя праблемы» (с. 673).

С. 201—202:

*«Вайна каля Цітавай копанкі»* — гл. камент. да інтэрв'ю «Ісці ўслед за бягучым днём…» (с. 677).

С. 202:

*«Сорак трэці»* — гл. камент. да інтэрв'ю «Новыя героі, новыя праблемы» (с. 674).

*...академик Академии наук Республики Беларусь, долгое время возглавлял Институт литературы...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Шляхам перамог — шляхам набыткаў» (с. 702), «У беларускіх літаратуразнаўцаў» (с. 679—680).

*...был председателем Верховного Совета БССР...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Час абуджае думку творцаў» (с. 731).

*...в канун его семидесятилетия...* — 70 гадоў І. Навуменку споўнілася 16 лют. 1995 г.

*...первая книга которой — «Детство», вышла отдельным изданием.*— «Дзяцінства» (1991) выйшла асобным выданнем у 1992 г.

*Во втором номере «Немана» сейчас печатается в переводе на русский язык вторая повесть — «Отрочество».*— у часоп. «Нёман» (1995. № 2) была надрукавана аповесць «Дзяцінства» (1991) у перакладзе на рускую мову А. Ждана.

*...«Юность» — можно будет прочитать в «Полымі»...* — аповесць «Юнацтва» (1994) надрукавана ў часоп. «Полымя» (1994. № 7).

*...в черновом варианте это — «Вяртанне».*— аповесць у канчатковым варыянце атрымала назву «Любімы горад» (1996).

*«Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч»* — гл. камент. да інтэрв'ю «Час абуджае думку творцаў» (с. 734).

*«Змітрок Бядуля»* — кніга выйшла ў 1995 г.

*...боялись говорить, что в белорусской литературе есть «импрессионизмы», «символизмы».*— імпрэсіянізм — літаратурна-

мастацкі кірунак апошняй трэці XIX — пач. XX ст., які грунтуецца на дынамічнай раўнавазе суб'ектыўнага і аб'ектыўнага пачаткаў, на фіксацыі няўлоўных уражанняў, пачуццяў, станаў душы аўтара або героя; сімвалізм — літаратурна-мастацкі кірунак канца XIX — пач. XX ст., які ўзыходзіць да эстэтыкі рамантызму і вылучае ў якасці свайго асноўнага мастацкага прыёму сімвал як сродак выражэння неспасцігальнай сутнасці прадметаў і з'яў.

С. 203:

*...согласились с осуждением культа личности...* — маецца на ўвазе асуджэнне культу асобы і ідэалагічнай спадчыны І. В. Сталіна — гл. камент. да інтэрв'ю «Літаратура — гэта самапазнанне» (с. 693).

*...«Где-то — кажется, в Бразилии — есть один счастливый человек».*— радок з трагедыі У. Маякоўскага «Уладзімір Маякоўскі» (1913), дзея першая (маналог У. Маякоўскага).

*«Адвячорак на ўскраіннай вуліцы»* — апавяданне, напісанае ў 1995 г.

*...среди шестидесятников...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Из реки по имени факт» (с. 711).

*...революция дала нам возможность...* — маецца на ўвазе Кастрычніцкая рэвалюцыя 1917 г.

*Социалистический строй* — гл. камент. да інтэрв'ю «Пад сцягам сацыялістычнага рэалізму» (с. 688).

*В последнем фильме Игоря Добролюбова по «Эпилогу» Шамякина...* — фільм «Эпілог» (1994), суаўтарамі сцэнарыя якога выступілі І. Дабралюбаў і І. Шамякін, зняты паводле матываў аповесцей апошняга «Вернісаж» (1992) і «Paradies auf Erden» (1992).

С. 204:

*Хочу написать рассказ «Реквием»...* — задума ажыццёўлена не была.

## 1996

### Давайце верыць у чалавека (с. 204)

Друкуецца паводле газ. «ЛіМ», 1996, 19 ліп., дзе ўпершыню апублікавана з рэдактарскім падзагалоўкам «З Іванам Навуменкам гутараць сябры літаб'яднання "Літаратар"».

Пад тэкстам: Гутарку падрыхтаваў да друку Мікола Чэмер.

С. 204:

*«Літаратар»* — творчая суполка маладых літаратараў пры Саюзе беларускіх пісьменнікаў. Існавала ў 1990—2010-х гг.

*...народным пісьменнікам Беларусі...* — званне народнага пісьменніка Беларусі І. Навуменку было прысвоена ў 1995 г.

*...акадэмікам...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Шляхам перамог — шляхам набыткаў» (с. 702).

С. 205:

*«Аўтабіяграфія»* — гл. камент. на с. 839 і тэкст на с. 498.

*«Сказки и правда о небе»* (1930) — кніга рускага пісьменніка В. Язвіцкага (1883—1957).

*«Сокі цаліны»* — гл. камент. да інтэрв'ю «Я — за рамантыку» (с. 676).

*...у Васілевічах...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 683).

С. 206:

*...працаваў карэспандэнтам мазырскай абласной газеты «Бальшавік Палесся»...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 682), «Задачы вынікаюць з самога жыцця...» (с. 724).

*«Ішоў ён полем, брыгадзір чацвёртае брыгады, на ніве гэтай камандзір і першы сам араты»* — радкі з верша «Брыгадзір» (1947), якія ў арыгінале гучаць крыху інакш — гл. камент. на с. 672 і тэкст на с. 69—70.

*«Ты ўсхваляваная стаяла ля дошкі з думкаю адною. Яна білася ў інтэгралах, каб выйсці формулай скупой...»* — верш не выяўлены.

*«За росквіт нашых сёл, за гул заводаў, за гоман трактароў — прымі падзяку вечную, народаў нашых родны друг і правадыр...»* — радкі з верша «Паклон табе зямны» (1949), якія ў арыгінале гучаць крыху інакш: «За росквіт нашых сёл, / за вольны спеў заводаў, / За гоман трактароў, / за ніў калгасных шыр / Прымі падзяку вечную народа, / Наш родны бацька, друг і правадыр».

*— Калі гаварыць пра вершы, то дзясяткі два я надрукаваў у абласной газеце. Друкаваліся яны нават і ў «Чырвонай змене», і ў «ЛіМе»...* — гл. камент. на с. 671—673.

С. 207:

*Адказны сакратар...* — Б. Глікін.

*...працаваў у «Маладосці», загадваў рознымі аддзеламі...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 682).

*І сеў-напісаў гумарэску. Гэта было ў 1954 годзе, і называлася яна «Ганьба «святога» Лукі».*— апавяданне ў Зб. тв. у 6 т. датуецца 1956 г.

*...«Сідар і Гараська» і «Эх, махорачка...». У «Маладосці» выйшлі.*— гл. камент. да інтэрв'ю «Я — за рамантыку» (с. 675).

*Мы ў адным пакоі жылі з Адамовічам, а ён усё пісаў тады сваю «Войну под крышами».*— І. Навуменка жыў у адным пакоі з А. Адамовічам у інтэрнаце БДУ на вул. Свярдлова ў Мінску ў 1-й пал. 1950-х гг.; «Вайна пад стрэхамі» — гл. камент. да інтэрв'ю «Пад сцягам сацыялістыснага рэалізму» (с. 689).

*...«Вецер у соснах», «Сорак трэці»...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Новыя героі, новыя праблемы» (с. 674).

*«Любімы горад»* — гл. камент. да інтэрв'ю «Цените каждое мгновение жизни» (с. 736).

С. 208:

*У 47-м была праведзена грашовая рэформа, адмянілі камерцыйныя цэны на хлеб...* — грашовая рэформа ў СССР у 1947 г. была праведзена з 16 па 29 снеж. у форме дэнамінацыі. Адначасова з ёй былі адменены карткі на харчовыя і прамысловыя тавары, а таксама высокія цэны па камерцыйным гандлі і ўведзены адзіныя зніжаныя дзяржаўныя рознічныя цэны. На хлеб і муку цэны ў сярэднім былі зніжаны на 12 %.

*...з біяграфічнага цыкла...* — маюцца на ўвазе аповесці «Дзяцінства» (1991), «Падлетак» (1993), «Юнацтва» (1994).

*...маё пакаленне не было страчаным, якое Рэмарк апісаў.*— страчанае пакаленне — гл. камент. да п'есы «Птушкі між маланак» (с. 668). Тэма страчанага пакалення стала лейтматывам творчасці Э. М. Рэмарка. У прыватнасці яго найбольш вядомыя раманы «На Заходнім фронце без перамен» (1929), «Вяртанне» (1931) і «Тры таварышы» (1938) склалі своеасаблівую трылогію пра Першую сусветную вайну і яе трагічныя наступствы ў лёсах страчанага пакалення.

*...мой бацька...* — Я. П. Навуменка.

С. 209:

*Луўр* — помнік архітэктуры класіцызму, мастацкі музей у Парыжы, адно з самых вялікіх мастацкіх сховішчаў свету.

*«Палескія рабінзоны»* — аповесць, напісаная ў 1930 г.

*«Таямнічы востраў»* — раман, напісаны ў 1875 г.

*Палессе* — гл. камент. да інтэрв'ю «Ісці ўслед за бягучым днём...» (с. 677).

*Са сваіх Васілевічаў у 51-м я ўжо выехаў назаўсёды...*— І. Навуменка ў лістап. 1951 г. паступіў у аспірантуру БДУ і пераехаў у Мінск.

*Ёсць, як Колас пісаў, мясціны, дзе і птушка гнязда не ўе і не спявае...* — маецца на ўвазе аповесць Я. Коласа «У палескай глушы» (1923), галоўны герой якой, Лабановіч, гаворыць: «Я звярачаў увагу на тое, што ёсць такія мясціны, дзе птушкі не хочуць гняздзіцца і спяваць, а стараюцца абмінаць іх».

С. 210:

*«Замяць жаўталісця»* — гл. камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 684).

*...у Мазырскім педінстытуце...* — Мазырскі педагагічны інстытут — вышэйшая навучальная ўстанова ў Мазыры. Заснаваны ў 1944 г. як Мазырскі настаўніцкі інстытут. У 1952 г. рэарганізаваны ў Мазырскі педагагічны інстытут. У 1964 г. прысвоена імя Н. К. Крупскай. У 2002 г. рэарганізаваны ў Мазырскі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт, якому ў 2006 г. прысвоена імя І. Шамякіна.

*Гэта, як піша Багдановіч пра Вераніку,— выдумка маёй галавы.*— Вераніка — гераіня аднайменнай паэмы М. Багдановіча, напісанай у 1911—1913 гг. Эпіграфам да твора стаў радок з паэмы «Armando» італьянскага паэта Дж. Праці (1815—1884): «Яна — выдумка маёй галавы».

*Ён жа адразу і не ведаў, што Таццяна выйдзе замуж.*— Таццяна — галоўная гераіня рамана ў вершах А. С. Пушкіна «Яўгеній Анегін» (1823—1831). Наконт гэтай гераіні вядомыя словы Л. М. Талстога, сказаныя ім у размове з Г. А. Русанавым у 1883 г.: «Это мнение напоминает мне случай, бывший с Пушкиным. Однажды он сказал кому-то из своих приятелей: “Представь, какую штуку удрала со мной моя Татьяна. Она — замуж вышла! Этого я никак не ожидал от нее”».

*Анегін* — гл. камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 684).

*...«алгеброй поверять интуицию»...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Літаратура — гэта самапазнанне» (с. 695).

С. 211:

*...Горкаму аднойчы прыслаў адзін аўтар верш, і там было так: «Семен Михайлович Буденный скакал на рыжем кобыле». Дык*

*Горкі пасля пісаў, што «если на эту животину сесть, то неизвестно, куда она занесет...»* — верагодна, маецца на ўвазе гісторыя, апавеdзеная У. Маякоўскім падчас выступлення ў Доме камсамола Чырвонай Прэсні на вечары, прысвечаным дваццацігоддзю дзейнасці, 25 сак. 1930 г.: «Я был на юге и прочел одно стихотворение в газете. Целиком я его не запомнил, только лишь одну строфу: «В стране советской полуденной, / Среди степей и ковылей, / Семен Михайлович Буденный / Скакал на сером кобыле». Я очень уважаю Семена Михайловича и кобылу его, пусть он на ней скачет, и пусть она невредимым выносит его из боев. Я не удивляюсь, отчего кобыла приведена в мужском роде, так как это тоже после проф. Воронова операция мыслимая, но если по кобыле не по тому месту ударение сделать, то кобыла занесет, пожалуй, туда, откуда и Семен Михайлович не выберется».

*...здымалі нават з нумара апавяданне — «Пад пошум дубоў» у «Полымі».*— апавяданне, напісанае ў 1964 г., упершыню апублікавана ў часоп. «Полымя» (1966. № 7).

*«Смутак белых начэй»* — гл. камент. да інтэрв’ю «Літаратура — гэта самапазнанне» (с. 693).

*У «Вайне каля Цітавай копанкі»...* — гл. камент. да інтэрв’ю «Ісці ўслед за бягучым днём...» (с. 677).

*...з «Сасны пры дарозе»...* — гл. камент. да інтэрв’ю «Новыя героі, новыя праблемы» (с. 673).

*Галоўліт* — Галоўнае ўпраўленне па справах літаратуры і выдавецтваў у СССР. Існавала ў 1923—1991 гг. Ажыццяўляла цэнзуру і кантроль за выдавецкай дзейнасцю.

С. 212:

*...закон аб мовах...* — закон «Аб мовах у Беларускай ССР» быў прыняты на 14-й сесіі Вярхоўнага Савета БССР 11-га склікання 26 студз. 1990 г.

*...быў старшынёй Вярхоўнага Савета тады.*— гл. камент. да інтэрв’ю «Час абуджае думку творцаў» (с. 731).

*...а Фет пра рэвалюцыйную дэмакратыю і слухаць не хацеў, і, як ехаў міма Маскоўскага ўніверсітэта, дык пляваў у той бок.*— пра гэта ёсць запіс у дзённіку А. Чэхава за 1896 г.: «Мой сосед В. Н. Семенкович рассказывал мне, что его дядя Фет-Шеншин, известный лирик, проезжая по Моховой, опускал в карете окно и плевал на университет. Харкнет и плюнет: тьфу! Кучер так привык к этому, что всякий раз, проезжая мимо университета, останавливался»; Маскоўскі ўніверсітэт — найстарэйшая і найбуйнейшая

вышэйшая навучальная ўстанова Расіі, адзін з цэнтраў сусветнай навукі. Заснаваны па ініцыятыве М. В. Ламаносава ўказам імператрыцы Лізаветы Пятроўны ў 1755 г. З 1940 г. носіць імя М. В. Ламаносава.

*Пішучы свае ранейшыя кніжкі,— пра Коласа, Купалу...*— гл. камент. да інтэрв'ю «Ісці ўслед за бягучым днём…« (с. 677), «Літаратура — гэта самапазнанне» (с. 692), «Роздум аб сучаснасці» (с. 710).

*...пранікнуць у хімію факта...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Как земля поет…» (с. 705).

*...Дунін-Марцінкевіч краў сваю першую жонку праз вакно — бацька не аддаваў!* — першая жонка В. Дуніна-Марцінкевіча — Ю. Дунін-Марцінкевіч (Бараноўская), яе бацька — Ю. Бараноўскі.

*Выпісала яму хросная маці «Нашу ніву» і «Нашу долю»...*— В. Е. Сёмава выпісвала М. Багдановічу «Нашу ніву» і «Нашу долю» ў 1906 г.

*...срэбнага веку...* — срэбны век — вобразная назва перыяду ў гісторыі рускай літаратуры (1890 гг.— першае дваццацігоддзе XX ст.).

*...на персідскай старажытнай мове...* — старажытнаперсідская мова — першапачатковы перыяд развіцця персідскай мовы. Адносіцца да моў іранскай групы індаіранскай галіны індаеўрапейскай сям'і моў. Узнікла на паўднёвым захадзе Ірана і функцыянавала да III ці IV ст. да н. э.

С. 213:

*Шаляніца* — безразважны чалавек, дзівак.

*Пасля яго Кавалёў пераклаў — дык ужо нядрэнна.*— Д. Кавалёў пераклаў на рускую мову раман І. Мележа «Подых навальніцы» (1964—1965) і ў суаўтарстве з Т. Залатухінай раман «Завеі, снежань» (1976).

*Ён жа і маё апавяданне пераклаў, і яно адразу трапіла ў «Наш современник».*— маецца на ўвазе апавяданне «Іван ды Мар'я» (1972), апублікаванае ў часоп. «Наш современник» (1975. № 12).

*...пару маіх аповесцей пераклаў неблагі ленінградскі перакладчык Астроўскі.*— А. Астроўскі пераклаў аповесць І. Навуменкі «Развітанне ў Кавальцах» (1974).

*...«блажен, кто смолоду был молод»...* — радкі з рамана ў вершах А. С. Пушкіна «Яўгеній Анегін» (1823—1831).

С. 213—214:

*...у семдзесят з лішнім гадоў Гётэ закахаўся ў шаснаццацігадовую, і закахаўся настолькі, што напісаў стансы, якія і дагэтуль дзівяць чалавецтва. Ну, канешне, замуж яму тую дзяўчынку не аддалі.*— І. В. Гётэ ў 1821 г. падчас свайго знаходжання на адпачынку ў Марыенбадзе закахаўся ў Ульрыку фон Левецаў. У 1823 г. ён зрабіў прапанову дзяўчыне, аднак атрымаў адмову. Свой смутак з гэтай нагоды паэт выказаў у «Марыенбадскай элегіі» (1824).

С. 214:

*...Марыінскія Вары ў Чэхаславакіі...* — Марыінскія Вары — у сапраўднасці Марыянске-Лазне, былы Марыенбад, бальнеалагічны курорт у Чэхіі, размешчаны за 40 км на поўдзень ад г. Карлавы Вары; Чэхаславакія — дзяржава ў Цэнтральнай Еўропе ў 1918—1992 гг. на тэрыторыі сучасных Чэхіі і Славакіі.

*Марыя Дзмітрыеўна* — М. Д. Міцкевіч.

*...а я тады працаваў у «Звяздзе»...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 682).

*...глядзеў на адну бухгалтарку.*— А. А. Кетлер-Яцкевіч.

*...Ядвісю, тое першае няўдалае каханне...* — Я. І. Баранцэвіч.

*...першае выданне «У палескай глушы»...* — «У палескай глушы» (1923) — аповесць Якуба Коласа, якая ўваходзіць у трылогію «На ростанях» (1923—1954). Упершыню асобным выданнем выйшла ў 1923 г.

*...віцэ-прэзідэнцтва ў Акадэміі — таксама нервовая работа.*— гл. камент. да інтэрв'ю «Роздум аб сучаснасці» (с. 708).

*...бедны Колас і памёр служачы...* — Якуб Колас з 1929 г. да канца жыцця займаў пасаду віцэ-прэзідэнта Акадэміі навук БССР. Памёр 13 жн. 1956 г. за сваім рабочым сталом.

С. 215:

*...Андрэй Федарэнка, мой зямляк, з Калінкавіцкага раёна.*— А. Федарэнка нарадзіўся ў вёсцы Бярозаўка Мазырскага раёна Гомельскай вобл. Працаваў у Калінкавічах на чыгунцы.

*«Сыч»* — апавяданне, напісанае ў 1996 г.

*«Сястра»* — раман, напісаны ў 1927—1928 гг.

*...дзед...* — П. А. Навуменка.

С. 216:

*...біблейскія міфы...* — Біблія — збор твораў старажытнага пісьменства, Святое Пісанне іудзейскай (Стары Запавет) і хрысціянскай (Стары і Новы Запаветы) рэлігій. Складалася на працягу

I тыс. да н. э.— II ст. н. э. на тэрыторыі Палесціны (старaж. Ізраільска-Іудзейскае царства) і ў месцах яўрэйскай дыяспары на арамейскай, старажытнаяўрэйскай і старажытнагрэчаскай мовах; Біблейскімі міфамі, або біблейскімі паданнямі, звычайна называюць паданні Старога Запавету, якія апавядаюць пра падзеі, што адбываліся да нараджэння Ісуса Хрыста.

*...з яго самнамбулам.*— маецца на ўвазе вобраз з верша М. Багдановіча «Самнамбул» (1909—1912).

*...не ўзарвуць яшчэ некалькімі чарнобылямі...* — маецца на ўвазе аварыя на Чарнобыльскай АЭС 26 крас. 1986 г.

*...Беніслаўская — настолькі любіла паэзію Ясеніна, што прыйшла на яго магілу і застрэлілася...* — Г. Беніслаўская 3 снеж. 1926 г. застрэлілася на магіле С. Ясеніна на Ваганькаўскіх могілках у Маскве, пакінуўшы пасмяротную запіску.

*...«все прогрессы реакционные, если падает человек»...* — перайначаны радок з паэмы А. Вазнясенскага «Оза» (1964). У арыгінале: «Все прогрессы — / реакционны, / если рушится человек».

## 1997

### «Усякаму пакаленню трэба баявая справа...» (с. 217)

Друкуецца паводле кнігі М. Мікуліча «Пошук вядзе ў глыбіню», 1998.

Упершыню — часоп. «Беларуская думка», 1997, № 4.

С. 217:

*...літаратуразнаўца-акадэмік...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Шляхам перамог — шляхам набыткаў» (с. 702).

*...дырэктар інстытута...* — гл. камент. да інтэрв'ю «У беларускіх літаратуразнаўцаў» (с. 679—680).

*...віцэ-прэзідэнт Акадэміі навук...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Роздум аб сучаснасці» (с. 708).

*...народны дэпутат, старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Задачы вынікаюць з самога жыцця...» (с. 729), «Час абуджае думку творцаў» (с. 731).

*...уганараваны высокім званнем народнага пісьменніка Беларусі.*— гл. камент. да інтэрв'ю «Давайце верыць у чалавека» (с. 738).
С. 218:

*Васілевічы* — гл. камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 683).

*...не ведала прыгону...* — прыгон (прыгоннае права) — прымацаванне сялян да зямлі законамі феадальнай дзяржавы; залежнасць сялян ад феадалаў у асабістых, маёмасных, зямельных, адміністрацыйна-юрыдычных адносінах.

*Да рэвалюцыі Васілевічы мелі статус валаснога, а пасля рэвалюцыі двойчы раённага цэнтра — у 1927—1928 гг. і недзе пачынаючы з 1937 года. Раён ліквідавалі ўжо дзесьці ў канцы 50-х гадоў.*— гл. камент. да інтэрв'ю «Літаратура — гэта самапазнанне» (с. 693); Васілевічы былі цэнтрам воласці Рэчыцкага павета.

*Мой бацька...* — Я. П. Навуменка.

*...закончыў царкоўнапрыходскую школу...* — царкоўнапрыходскія школы — адзін з тыпаў пачатковых школ у Расійскай імперыі, у тым ліку ў Беларусі. Падпарадкоўваліся Свяшчэннаму Сіноду і знаходзіліся ў распараджэнні царкоўных прыходаў. Узніклі ў XI ст. як царкоўныя школы, школы святароў, дзейнічалі да 1918 г.

*...дзед...* — П. Навуменка.

*...маці...* — М. П. Навуменка.

*...меншы брат...* — М. Я. Навуменка.

*...самы малодшы...* — У. Я. Навуменка.

*...сястра, якая нарадзілася ў 1939 годзе.*— Г. Я. Навуменка.
С. 219:

*...ў Васілевічах месцілася лясная школа, фактычна тэхнікум, якую пасля перавялі ці то ў Гомель, ці то ў Буда-Кашалёва.*— лясны тэхнікум у Васілевічах працаваў у 1925— 1927 гг. (да гэтага знаходзіўся ў Гомелі, потым у Буда-Кашалёве).

*...«Вайну і мір»...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Літаратура — гэта самапазнанне» (с. 695).
С. 220:

*...у Мазырскі педінстытут.*— гл. камент. да інтэрв'ю «Давайце верыць у чалавека» (с. 740).
С. 221:

*Да нас позна немцы прыйшлі, дзесьці ў жніўні. Смаленск ужо быў заняты.*— Васілевічы былі акупаваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі 25 жн. 1941 г.; Смаленск — гл. камент. да інтэрв'ю

«Как земля поет…» (с. 706); Смаленск быў заняты гітлераўцамі 16 ліп. 1941 г.

*...Бранска, Арла...* — Бранск — горад у Расіі, цэнтр Бранскай вобл., на рацэ Дзясна; Арол — гл. камент. да п'есы «Птушкі між маланак» (с. 669).

*...арганізавалі спачатку самадзейную падпольную групу...*— гл. камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 683).

*У канцы* чэрвеня *1942 года ў нашым раёне спусцілі групу ваенных разведчыкаў пад кіраўніцтвам капітана Манзіенкі.*— гл. камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 683).

*Я пра яго пісаў, ёсць аж дзве кніжкі.*— маюцца на ўвазе два выданні кнігі «Капитан Степь уходит в разведку» (1982, 1986 — дапоўненае).

*Нас вызвалілі рана, у 1943 годзе...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 683).

*Адзін з нашых хлопцаў, той, што працаваў настаўнікам, трохі папрацаваў у паліцыі...* — М. С. Белы.

С. 222:

*Потым я пайшоў у партызаны.*— гл. камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 683).

*«За баявыя заслугі»* — медаль, заснаваны ўказам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР ад 17 кастр. 1938 г. Уручаўся ў тым ліку за ўзорнае выкананне баявых заданняў камандавання на фронце барацьбы з нямецкімі захопнікамі.

*...напісаў партызанскую трылогію...*— гл. камент. да інтэрв'ю «Новыя героі, новыя праблемы» (с. 673, 674).

С. 223:

*...разам з арміяй вызвалялі Васілевічы.*— гл. камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 683).

*Ваяваў на Карэльскім перашыйку (бралі ўсе чатыры лініі Манергейма), потым трапіў ва Усходнюю Прусію і закончыў вайну ў Сілезіі.*— Карэльскі перашыек, Усходняя Прусія, Сілезія — гл. камент. да інтэрв'ю «Аблічча галоўнага героя» (с. 700—701); Лінія Манергейма — сістэма фінскіх доўгатэрміновых фартыфікацыйных збудаванняў і загарод працягласцю 135 км на Карэльскім перашыйку ўздоўж мяжы з СССР. Пабудавана ў 1927—1939 гг. пры ўдзеле нямецкіх, англійскіх, французскіх і бельгійскіх спецыялістаў. Уключала паласу забеспячэння, галоўную паласу абароны, другую і тылавую палосы. Названа імем К. Г. Э. Манергейма.

*Шэсць гадоў пасля вайны працаваў карэспандэнтам палескай абласной газеты...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 682); Палеская вобл. — гл. камент. да інтэрв'ю «Літаратура — гэта самапазнанне» (с. 692).

*...адначасова вучыўся ў БДУ.*— гл. камент. да інтэрв'ю «Я — за рамантыку» (с. 676), «Літаратура — гэта самапазнанне» (с. 692).

С. 223—224:

*Яшчэ да вайны пачаў пісаць у раённую, потым абласную газету, у якой пасля працаваў карэспандэнтам, у «Чырвоную змену».*— гл. камент. да інтэрв'ю «Роздум аб сучаснасці» (с. 708—709).

С. 224:

*...ў хуткім часе мяне перавялі ў «Звязду».*— гл. камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 682).

*...паступіў у аспірантуру.*— І. Навуменка вучыўся ў аспірантуры БДУ ў 1951—1954 гг.

*...П. Машэраў арганізаваў часопіс «Маладосць», мяне запрасілі туды.*— гл. камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 682); Часоп. «Маладосць» заснаваны ў 1953 г., калі П. М. Машэраў быў першым сакратаром ЦК ЛКСМБ.

*...дзе ўжо працавалі А. Кулакоўскі, І. Грамовіч, М. Аўрамчык...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 682); І. Грамовіч працаваў адказным сакратаром часоп. «Маладосць» у 1953—1954 гг., М. Аўрамчык — загадчыкам аддзела паэзіі ў 1953—1980 гг.

*У «Маладосці», пачынаючы з 1954 года, пачаў друкаваць апавяданні. «Эх, махорачка», «Сямнаццатай вясной» і іншыя былі напісаны менавіта тады.*— гл. камент. да інтэрв'ю «Я — за рамантыку» (с. 675).

С. 225:

*У 1954 годзе я абараніў кандыдацкую дысертацыю...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Літаратура — гэта самапазнанне» (с. 692).

*...да 1958 года выкладаў у БДУ...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Я — за рамантыку» (с. 676).

*...Алесь Адамовіч, у якога падобная да маёй біяграфія.*— падчас Вялікай Айчыннай вайны А. Адамовіч быў сувязным, затым — байцом партызанскага атрада імя Кірава 37-й брыгады імя Пархоменкі Мінскага злучэння.

*«Война под крышами»* — гл. камент. да інтэрв'ю «Пад сцягам сацыялістычнага рэалізму» (с. 689).

С. 226:

*Дубулты (гэта пісьменніцкі дом адпачынку, размешчаны ў Латвіі)* — Дубулты — частка г. Юрмала за 22 км ад Рыгі. У Дубултах знаходзіцца Дом творчасці пісьменнікаў імя Я. Райніса, створаны ў 1946 г.

*...напішу пра бургамістра...* — Крамера — гл. камент. да інтэрв'ю «Літаратура — гэта самапазнанне (с. 694).

С. 226—227:

*...Пушкін пісаў, што такую нечаканую штуку выкінула Таццяна: узяла ды раптам выскачыла замуж.*— гл. камент. да інтэрв'ю «Давайце верыць у чалавека» (с. 740).

С. 227:

*Анегін* — гл. камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 684).

*...ў «Любімым горадзе»...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Цените каждое мгновение жизни» (с. 736).

*«На сотай вярсце»* — апавяданне, напісанае ў 1996 г.

*...як пісаў М. Горкі, «хімію» факта як-небудзь здабуду.*— гл. камент. да інтэрв'ю «Как земля поет…» (с. 705).

С. 228:

*Вакуленка* — герой раманаў І. Навуменкі «Сасна пры дарозе» (1962), «Вецер у соснах» (1967), «Сорак трэці» (1973), прататыпам якога быў Ф. І. Паўлоўскі (1908—1989), удзельнік партызанскага руху ў Беларусі, Герой Савецкага Саюза.

...*«Сястру»*... — гл. камент. да інтэрв'ю «Давайце верыць у чалавека» (с. 743).

*...напісаў ужо і пра Я. Коласа, і пра Я. Купалу...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Ісці ўслед за бягучым днём…» (с. 677), «Літаратура — гэта самапазнанне» (с. 692), «Роздум аб сучаснасці» (с. 710).

*Выдаў кнігі пра В. Дуніна-Марцінкевіча, З. Бядулю, пра М. Багдановіча кнігу напісаў.*— гл. камент. да інтэрв'ю «Час абуджае думку творцаў» (с. 734); Манаграфія «Змітрок Бядуля» выйшла ў 1995 г., манаграфія «Максім Багдановіч» — у 1997 г.

*Асірацелы без маці і асірацелы без Беларусі.*— Маці М. Багдановіча М. А. Багдановіч памерла, калі Максіму было няпоўных пяць гадоў. Пасля яе смерці сям'я Багдановічаў у 1896 г. з Гродна пераехала ў Ніжні Ноўгарад.

С. 229:

*І. Мележ пісаў аднойчы: «З усёй працы самае цяжкае для мяне — партрэты... Майстэрства партрэта мне здаецца*

*адным з самых складаных у творчасці. Яно, на маю думку, патрабуе асаблівай выразнасці бачання, тонкасці пісьма...»* — цытата з артыкула «Майстэрства — гэта імкненне» (1968). У арыгінале першая фраза гучыць крыху інакш: «З усяго таго, што прыходзіцца пераадольваць у рабоце за пісьмовым сталом, самае цяжкае для мяне — партрэты».

*Ёсць у лесе мясціны, як адзначаў Я. Колас, дзе і птушка гнязда не ўе.*— гл. камент да інтэрв'ю «Давайце верыць у чалавека» (с. 740).

*...ўздоўж Свіслачы (хоць і не тут тая даўняя сеча была)...* — маецца на ўвазе бітва на Нямізе (3 сак. 1067 г.) — бітва перыяду феадальнай раздробненасці Русі, што адбылася на рацэ Нямізе паміж войскамі Яраславічаў — Ізяслава Кіеўскага, Святаслава Чарнігаўскага і Усевалада Пераяслаўскага — і войскам Усяслава Полацкага, які быў разбіты; Свіслач — рака ў Мінскай і Магілёўскай абл., правы прыток Бярэзіны (басейн Дняпра).

С. 230:

*...загадчыкам кафедры БДУ...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Я — за рамантыку» (с. 676).

С. 231:

*...поўніўся сенсуалізмам...* — сенсуалізм — кірунак у тэорыі пазнання, які прызнае адчуванне адзінай крыніцай аб'ектыўных ведаў, змест пазнання і свядомасці імкнецца вывесці з дзейнасці органаў пачуццяў і іх сведчанняў.

*У маці Гогаля...* — М. І. Гогаль-Яноўская.

*...сын-пісьменнік мусіў дзвюх сясцёр узяць у Пецярбург...* — у 1839 г. М. В. Гогаль забраў сваіх сясцёр Ганну і Лізавету з радовага маёнтка Васільеўка ў Пецярбург, дзе яны за казённы кошт вучыліся ў Патрыятычным інстытуце.

*«забіты дух яго вякамі, страх адчуваў перад панамі»* — радкі з паэмы Якуба Коласа «Новая зямля» (1911—1923). У арыгінале гэтыя радкі гучаць крыху інакш: «Забіты дух яго вякамі ўжо чуе страх перад панамі».

*...«Новай зямлі»...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Літаратура — гэта самапазнанне» (с. 695).

С. 232:

*Дунін-Марцінкевіч быў вясёлы, дасціпны, трохі авантурны — першую жонку праз акно ўкраў.*— гл. камент. да інтэрв'ю «Давайце верыць у чалавека» (с. 742).

*...выдаў на ёй у 50-х гадах чатыры кнігі.*— у 1850-х гг. выйшлі наступныя кнігі В. Дуніна-Марцінкевіча: «Hapon» (1855), «Wieczernice i Obłąkany» (1855), «Ciekawyś? Przeczytaj!» (1856), «Dudarz białoruski, czyli Wszystkiego po trosze» (1857).

*...«Малыя дрывасекі», «Пяць лыжак заціркі»...* — апавяданні, напісаныя адпаведна ў 1914-м і 1912-м гг.

*Імпрэсіянізм* — гл. камент. да інтэрв'ю «Цените каждое мгновение жизни» (с. 736—737).

*...шчыра ўспрыняў рэвалюцыю...* — маецца на ўвазе Кастрычніцкая рэвалюцыя 1917 г.— гл. камент. да верша «Бывай, наш паэце...» (с. 673).

*«Жыць нам прыйшлося вялікімі днямі на пераломе жалеза і песень»* — радкі з верша Максіма Танка «У маршы» (1935). У арыгінале апошняе слова гучыць інакш — «песні».

*...шмат узяў ад польскага авангарда.*— авангард (авангардызм) — умоўная абагульненая назва мастацкіх кірункаў XX ст., для якіх характэрны пошукі новых, небывалых, часта штучных формаў і сродкаў мастацкага выяўлення, недаацэнка або адмаўленне традыцый і абсалютызацыя наватарства. Польскі літаратурны авангард прадстаўлены найперш суполкамі «Скамандр», «Кракаўскі авангард», «Жагары».

*...«На этапах», «Журавінавы цвет» і «Пад мачтай»...* — зборнікі выйшлі адпаведна ў 1936, 1937 і 1938 гг.

*«а вочы мокрыя ад слёз»* — радок з верша Максіма Танка «Спатканне» (1936).

*«Песня кулікоў»* — верш, напісаны ў 1936 г.

С. 233:

*...узбагачанае мадэрнам.*— мадэрн (мадэрнізм) — агульная ўмоўная назва нерэалістычных літаратурных, архітэктурных і мастацкіх кірункаў, творчасці асобных майстроў XX ст.

*...падчас выбараў у праўленне...* — маецца на ўвазе ў праўленне Саюза пісьменнікаў БССР — гл. камент. да інтэрв'ю «Пад сцягам сацыялістычнага рэалізму» (с. 688—689).

*Мяне вось запрасілі на сустрэчу літаратары з часопіса «Першацвет».*— гл. камент. да інтэрв'ю «Давайце верыць у чалавека» (с. 737) і тэкст на с. 204.

*...мой зямляк Андрэй Федарэнка.*— гл. камент. да інтэрв'ю «Давайце верыць у чалавека» (с. 743).

С. 234:

*У «Першацвеце» А. Пашкевіч друкуецца, ужо ўзяўся пісаць пра М. Багдановіча...* — на момант інтэрв'ю ў часоп. «Першацвет» былі апублікаваны наступныя артыкулы А. Пашкевіча, прысвечаныя М. Багдановічу: «"Шануйце песні свае...": Апошняя рэдакцыя «Апокрыфа» Максіма Багдановіча» (1993. № 6) і «Вернік «блакітнага крыжа»: Некалькі заўваг наконт антыномаў неба і зямлі ў творчасці Максіма Багдановіча» (1995. № 12).

## «Таинство творчества можно сравнить с муками любви...» (с. 234)

Друкуецца паводле газ. «Вечерний Минск», 1997, 14 жн., дзе ўпершыню апублікавана пад рубрыкай «Встреча для вас».

Пад тэкстам: Записала Алла Казакова.

С. 234:

*...в Центральной детской библиотеке.*— маецца на ўвазе Цэнтральная дзіцячая бібліятэка г. Мінска імя М. Астроўскага. Створана ў 1924 г., імя М. Астроўскага прысвоена ў 1939 г.

*...народный писатель республики...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Давайце верыць у чалавека» (с. 738).

*«Дзяцінства. Падлетак. Юнацтва»* — кніга выйшла ў 1997 г.

С. 235:

*...был партизаном, подпольщиком.*— гл. камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 683).

*...трилогию Льва Толстого «Детство», «Отрочество», «Юность».*— гл. камент. да інтэрв'ю «Из реки по имени факт» (с. 713).

*...у деда.*— П. Навуменкі.

*...родители* — Я. П. Навуменка і М. П. Навуменка.

*«Новая хата»* — апавяданне, напісанае ў 1959 г.

*...двухлетняя внучка...* — Я. П. Навуменка, поўная цёзка жонкі пісьменніка.

*...первую повесть, написанную в 1958 году.*— першая аповесць І. Навуменкі — «Вайна каля Цітавай копанкі» (1957), 1958 г. датуюцца аповесці пісьменніка «Снежань», «Пераломны ўзрост» і «Мой сябар Пятрусь».

*...около двух десятков стихотворений было опубликовано в периодической печати.*— гл. камент. на с. 671—673.

*За последние пять лет опубликовал пять научных книг...* — у 1992—1997 гг. выйшлі манаграфіі І. Навуменкі «Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч» (1992), «Адраджэнне славян і творчасць В. Дуніна-Марцінкевіча» (1993), «Змітрок Бядуля» (1995), «Максім Багдановіч» (1997).

С. 235—236:

*...занятось в журналистике...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 682).

С. 236:

*...преподавание на филологическом факультете Белгосуниверситета...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Я — за рамантыку» (с. 676).

*...работа в Институте литературы Академии наук.*— гл. камент. да інтэрв'ю «У беларускіх літаратуразнаўцаў» (с. 679—680).

*Почти десять лет был вице-президентом Академии наук.*— гл. камент. да інтэрв'ю «Роздум аб сучаснасці» (с. 708).

*...проблемы Чернобыля.*— гл. камент. да інтэрв'ю «Давайце верыць у чалавека» (с. 744).

*...намерен написать книгу о Полесье* — задума рэалізаваная не была; Палессе — гл. камент. да інтэрв'ю «Ісці ўслед за бягучым днём...» (с. 677).

*В следующем году в Варшаве должен состояться конгресс славистов, председателем Совета которых я являюсь.*— маецца на ўвазе XII Міжнародны з'езд славістаў, які праходзіў у Кракаве 27 жн.— 3 верас. 1998 г.; І. Навуменка быў старшынёй Беларускага камітэта славістаў у 1989—2004 гг.

## 1998

### «Радзіма не там, дзе жывецца больш сытна і бесклапотна, а там, дзе твае карані, душа, дзе ты сам — часцінка ўсяго» (с. 237)

Друкуецца паводле газ. «Рэспубліка», 1998, 30 кастр., дзе ўпершыню апублікавана пад рубрыкай «Званы госць».

Пад тэкстам: Гутарыў Міхаіл Шыманскі.

С. 237:

*...народны пісьменнік Беларусі...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Давайце верыць у чалавека (с. 738).

*...прафесар...* — І. Навуменка атрымаў званне прафесара ў 1971 г.

*...акадэмік...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Шляхам перамог — шляхам набыткаў» (с. 702).

*«Лес, як і чалавек, бываў сумны і радасны, гнеўны і добры, у яго было тысяча казак і тысяча песень. Настрой лесу мяняўся кожнага дня і кожнай гадзіны».*— радкі з апавядання І. Навуменкі «Верасы на выжарынах…» (1959).

С. 238:

*Васілевічы* — гл. камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 683).

*Палессе* — гл. камент. да інтэрв'ю «Ісці ўслед за бягучым днём…» (с. 677).

*Майго бацьку Якава Піліпавіча...* — Я. П. Навуменку.

*...дзед...* — П. А. Навуменка.

*Маці Марыя Пятроўна* — М. П. Навуменка.

*Бабічы* — вёска ў Рэчыцкім раёне Гомельскай вобл.

*У нас было чацвёра дзяцей.*— гл. камент. да інтэрв'ю «Ўсякаму пакаленню трэба баявая справа…» (с. 745).

С. 239:

*«Мая сямнаццатая вясна, расказвае Іван Навуменка вуснамі аднаго свайго героя, была вельмі багатай на кветкі, на цеплыню, на тыя цудоўныя дні, калі, здаецца, сама зямля спявае песню сонцу, жыццю, высокаму сіняму небу. Даўно ўжо з усіх кветак я найбольш палюбіў бэз... Але бэз у гэтую вясну на першым часе не хваляваў мяне і не радаваў зусім. Упершыню за многія гады і мне, і маім сябрам не трэба было здаваць экзаменаў...»* — цытуюцца радкі з апавядання «Сямнаццатай вясной» (1956); герой-апавядальнік — Цімох.

*Днепр* — гл. камент. да п'есы «Птушкі між маланак» (с. 669).

*...стварылася невялікая падпольная група, у якую ўваходзіў і я.*— гл. камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 683).

С. 240:

*...быў разведчыкам дэсантнай групы капітана Манзіенкі...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 683).

*Быў сувязным, а потым байцом у партызанскай брыгадзе імя Панамарэнкі.*— гл. камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 683).

*Савецкая Армія* — гл. камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 683).

*...прыдняпроўскае...* — Прыдняпроўе — гл. камент. да інтэрв'ю «Літаратура — гэта самапазнанне» (с. 694).

*Удзельнічаў у баях пад Ленінградам, на Карэльскім перашыйку, ва Усходняй Прусіі і Сілезіі.*— Ленінград — гл. камент. да п'есы «Птушкі між маланак» (с. 667); Карэльскі перашыек, Усходняя Прусія, Сілезія — гл. камент. да інтэрв'ю «Аблічча галоўнага героя» (с. 700—701).

*...працаваў уласным карэспандэнтам мазырскай абласной газеты «Бальшавік Палесся»...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 682); «Літаратура — гэта самапазнанне» (с. 692).

*...адначасова завочна вучыўся на філалагічным факультэце Белдзяржуніверсітэта.*— гл. камент. да інтэрв'ю «Я — за рамантыку» (с. 676), «Літаратура — гэта самапазнанне» (с. 692).

*...працаваў у «Звяздзе», часопісе «Маладосць».*— гл. камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 682).

*...ў «Маладосці» былі надрукаваны мае першыя апавяданні «Сідар і Гараська», «Эх, махорачка...».*— гл. камент. да інтэрв'ю «Я — за рамантыку» (с. 675).

*...«Сасна пры дарозе», «Вецер у соснах», «Сорак трэці».*— гл. камент. да інтэрв'ю «Новыя героі, новыя праблемы» (с. 673, 674).

С. 241:

*...над фашызмам.*— гл. камент. да інтэрв'ю «Пад сцягам сацыялістычнага рэалізму» (с. 687).

С. 242:

*Тры месяцы быў у Амерыцы як член беларускай дэлегацыі на сесіі ААН.*— гл. камент. да інтэрв'ю «З думкай пра дзень заўтрашні» (с. 719).

С. 243:

*Валерыя* — В. І. Навуменка.

*...дачка Таня жыве ў Маскве, замужам.*— Т. І. Навуменка замужам за В. У. Алеевым.

*Дык яна падручнікі па музыцы для школ піша...* — Т. І. Навуменка аўтар падручнікаў «Музыка» (з В. У. Алеевым) для агульнаадукацыйных устаноў. Выдаюцца з 1998 г.

*Сын Павел скончыў Белдзяржуніверсітэт, філолаг, ён выкладае беларускую літаратуру.*— П. І. Навуменка скончыў Белдзяржуніверсітэт у 1986 г., выкладае на філалагічным факультэце БДУ.

С. 244:

*Дача ў мяне сціплая, на той самай вядомай Лысай Гары.*— Лысая Гара — другі паводле вышыні пункт Беларусі. Знаходзіцца ў Мінскім раёне, за 21 км на поўнач ад Мінска. Вышыня 342 м. Займае цэнтральную частку Лагойскага ўзвышша. У канцы 1960 — пач. 1970-х гг. у раёне Лысай Гары былі пабудаваны дачы беларускіх пісьменнікаў.

*...Дзіма, сын дачкі Тані...* — Д. В. Алееў.

*...старшынёй Вярхоўнага Савета Беларусі...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Час абуджае думку творцаў» (с. 731).

*...віцэ-прэзідэнтам Акадэміі навук.*— гл. камент. да інтэрв'ю «Роздум аб сучаснасці» (с. 708).

*Яшчэ Пушкін адкрыў, што паэт — вышэй цароў, калі ты паэт, жыві адзін.*— верагодна, маюцца на ўвазе радкі А. С. Пушкіна з верша «Паэту» (1830): «Ты царь: живи один. Дорогою свободной / Иди, куда влечет тебя свободный ум, / Усовершенствуя плоды любимых дум, / Не требуя наград за подвиг благородный».

*...сустрэча прэзідэнта рэспублікі А. Р. Лукашэнкі з членамі Рады Саюза беларускіх пісьменнікаў.*— сустрэча адбылася 16 верас. 1998 г.; Саюз беларускіх пісьменнікаў — гл. камент. да інтэрв'ю «Пад сцягам сацыялістычнага рэалізму» (с. 688—689).

С. 245:

*Марыя* — М. М. Зялёнка.

## 2000

### «Время думать о своей культуре и языке» (с. 246)

Друкуецца паводле газ. «7 дней», 2000, 12 лют., дзе ўпершыню апублікавана пад рубрыкай «Гость недели».

Пад тэкстам: Ольга Мещерякова.

С. 246:

*...советник президиума Национальной академии наук Республики Беларусь...* — гл. камент. да інтэрв'ю «У беларускіх літаратуразнаўцаў» (с. 680); І. Навуменка быў саветнікам пры прэзідыуме НАН Беларусі ў 1992—2002 гг.

*...председатель специализированного совета по защите кандидатских и докторских диссертаций...* — І. Навуменка ўзна-

чальваў спецыялізаваны савет па абароне кандыдацкіх і доктарскіх дысертацый пры Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы з сярэдзіны 1970-х да 2006 г.

*...председатель республиканского Комитета славистов.*— гл. камент. да інтэрв'ю «Таинство творчества можно сравнить с муками любви…» (с. 752).

*В Средние века…* — Сярэднія вякі (Сярэдневякоўе, Сярэднявечча) — назва эпохі паміж старажытнасцю (антычнасцю) і Адраджэннем. Храналагічныя межы: канец IV—V ст.— сярэдзіна XV — пач. XVI ст.

*«Ліст да Абуховіча»* — помнік беларускай літаратуры, напісаны ў 1655 г. Адрасаваны смаленскаму ваяводу П. Абуховічу, які ў 1654 г. здаў горад рускім войскам у час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—1667 гг. Ва ўсіх вядомых спісах аўтарам «Ліста» названы Цыпрыян Камуняка. Упершыню апублікаваны ў 1910 г.

*«Прамова Мялешкі»* — помнік беларускай літаратуры 1-й пал. XVII ст. Створана ў форме прамовы на сейме, прыпісанай смаленскаму кашталяну І. Мялешку. Упершыню апублікавана ў 1822 г. у перакладзе на польскую мову.

С. 247:

*...после первой русской революции 1905 года…* — рэвалюцыя 1905—1907 гг. у Расіі — першая расійская рэвалюцыя; няўдалая спроба змены дзяржаўнага ладу. Выклікана рэзкім абвастрэннем эканамічнага і сацыяльна-палітычнага становішча ў сувязі з руска-японскай вайной 1904—1905 гг.

*...восхищался коласовской «Дрыгвой» (кстати, собрал более 10 изданий этой книги…* — гл. камент. да інтэрв'ю «Задачы вынікаюць з самога жыцця…» (с. 728).

*Скоро выйдет книга о творчестве раннего Кузьмы Черного.*— манаграфія «Ранні Кузьма Чорны (1923—1929)» выйшла ў 2000 г.

С. 248:

*...работа в подполье…* — гл. камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 683).

*...под Ленинградом…* — гл. камент. да п'есы «Птушкі між маланак» (с. 667).

*...Чехословакию.*— гл. камент. да інтэрв'ю «Давайце верыць у чалавека» (с. 743).

*«Тихий Дон»* — раман, напісаны ў 1928—1940 гг.

*...серия книг «Памяць»...* — гісторыка-дакументальныя хронікі гарадоў і раёнаў Беларусі — шматтомнае выданне, распачатае ў 1985 г.

*...погибшим за революцию...* — маецца на ўвазе Кастрычніцкая рэвалюцыя 1917 г.— гл. камент. да верша «Бывай, наш паэце...» (с. 673).

*...во время репрессий.*— маюцца на ўвазе масавыя палітычныя рэпрэсіі, якія ажыццяўляліся ў СССР у часы сталінізму (канец 1920 — пач. 1950-х гг.).

*«Закон Божий»* — тут: кнігі Святога Пісання, Біблія — гл. камент. да інтэрв'ю «Давайце верыць у чалавека» (с. 743—744).

*...социалистическая идея...* — ідэя пабудовы грамадства на аснове ажыццяўлення прынцыпаў сацыяльнай справядлівасці, свабоды і роўнасці.

*...уехали из страны прекрасные писатели Некляев, Быков.*— з чэрв. 1999 г. У. Някляеў жыў у Польшчы, затым чатыры гады ў Фінляндыі, вярнуўся ў Беларусь у 2004 г.; В. Быкаў з чэрв. 1998 г. жыў у Фінляндыі, затым пэўны час у Германіі, са снеж. 2002 г.— у Чэхіі. Вярнуўся ў Беларусь у 2003 г. за месяц да смерці. С. 249:

*Даже Пушкин ответил царю, что был бы с декабристами на Сенатской площади.*— паводле сведчанняў, якія захаваліся ва ўспамінах сучаснікаў паэта, такі адказ А. С. Пушкін даў Мікалаю I падчас іх сустрэчы ў Маскве 8 верас. 1826 г. на пытанне імператара, што б ён зрабіў, калі б 14 снеж. 1825 г. быў у Пецярбургу; Дзекабрысты (ад *рус.* декабрь — снежань) — удзельнікі расійскага дваранскага апазіцыйнага руху, члены розных таемных таварыстваў 2-й пал. 1810 — 1-й пал. 1820-х гг., якія арганізавалі антыўрадавае паўстанне 14 снеж. 1825 г. на Сенацкай плошчы ў Санкт-Пецярбургу; Сенацкая плошча — адна з цэнтральных плошчаў Санкт-Пецярбурга. Пачала фарміравацца ў 1704 г. Назву атрымала ў 1763 г. пасля размяшчэння на ёй урадавай установы — сената. У 1923—2008 гг.— плошча Дзекабрыстаў.

*...прославлял Петра...* — маецца на ўвазе расійскі імператар Пётр I, якому прысвечаны вершы А. С. Пушкіна «Стансы» (1826), «Пір Пятра Першага» (1835), паэмы «Палтава» (1828), «Медны

коннік» (1833), нясконченый раман «Арап Пятра Вялікага» (1827), гістарычная праца «Гісторыя Пятра І» (1832—1837).

*«И в мой жестокий век восславил я свободу...»* — радок з верша А. С. Пушкіна «Я памятник себе воздвиг нерукотворный...» (1836). У арыгінале гэты радок гучыць крыху інакш: «Что в мой жестокий век восславил я свободу...».

*«Путешествие из Петербурга в Москву»* — філасофска-публіцыстычны трактат А. М. Радзішчава, апублікаваны ў 1790 г.

*«Устаньце, браткі, устаньце, хлопцы! Устань ты, наша старана! Ужо глядзіць нам на палаткі жыцця новага вясна!»* — радкі з верша Якуба Коласа «Беларусам» (1906). У арыгінале гэтыя радкі гучаць крыху інакш: «Ўстаньце, хлопцы, ўстаньце, браткі! / Ўстань ты, наша старана! / Ўжо глядзіць к нам на палаткі / Жыццявя новага вясна».

*«Я маўчу, маўчу, трываю, ды трываю да пары. Але скора загукаю: стрэльбы, хлопчыкі, бяры!»* — перайначаныя радкі з верша Якуба Коласа «Мужык» (1909). У арыгінале: «Я — мужык, а гонар маю. / Гнуся, але да пары. / Я маўчу, маўчу, трываю, / Але скора загукаю: / "Стрэльбы, хлопчыкі, бяры!"».

*«Свае таргуюць і чужыя табой, няшчасны беларус...»* — радкі з верша Янкі Купалы «Сярод раз'юшаных сатрапаў...» (1914).

*...в Собрании сочинений Купалы...* — маецца на ўвазе Поўны зб. тв. Янкі Купалы ў 9 т. (1995—2003).

*...в трудные времена керенщины...* — кераншчына — перыяд, калі на чале Часовага ўрада Расіі стаяў А. Ф. Керанскі (ліп.—кастр. 1917 г.).

С. 250:

*...был вице-президентом Академии наук.*— гл. камент. да інтэрв'ю «Роздум аб сучаснасці» (с. 708).

*...«Тутэйшымі»...* — «Тутэйшыя» — добраахвотнае таварыства маладых беларускіх літаратараў у 1987—1990 гг.

*...Института истории...* — Інстытут гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі — навуковая ўстанова. Заснавана ў 1929 г. на базе гістарычных кафедраў Інстытута беларускай культуры. Да 1931 г.— Інстытут гістарычных навук.

*Союз Беларуси и России* (Саюзная дзяржава) — наддзяржаўнасць Расійскай Федэрацыі і Рэспублікі Беларусь з паэтапнай арганізацыяй адзінай палітычнай, эканамічнай, ваеннай, мыт-

най, валютнай, юрыдычнай, гуманітарнай і культурнай прасторы. Дагавор аб Саюзе Беларусі і Расіі быў падпісаны 2 крас. 1997 г.; 8 снеж. 1999 г. падпісаны дагавор аб стварэнні Саюзнай дзяржавы, які набыў моц 26 студз. 2000 г.

*...отведена роль Северо-Западного края...* — Паўночна-Заходні край — афіцыйная назва ў XIX — пач. XX ст. тэрыторыі Віленскай, Гродзенскай, Ковенскай (з 1842 г.), Віцебскай, Мінскай і Магілёўскай губерняў Расійскай імперыі.

*...политика (который, кстати, воспитывался в Борисове)...* — гаворка ідзе пра А. Б. Чубайса, які нарадзіўся і правёў першыя гады жыцця ў г. Барысаве Мінскай вобл.

*Одна дочь живет в Москве...* — Т. І. Навуменка.

*...в Гнесинском институте...* — Дзяржаўны музычна-педагагічны інстытут імя Гнесіных — вышэйшая навучальная ўстанова ў Маскве. Створана ў 1895 г. як прыватнае Музычнае вучылішча сясцёр Я., А. і М. Гнесіных. З 1992 г.— Расійская акадэмія музыкі імя Гнесіных.

*...пишет книги по музыке.*— гл. камент. да інтэрв'ю «Радзіма не там, дзе жывецца больш сытна і бесклапотна, а там, дзе твае карані, душа, дзе ты сам — часцінка ўсяго» (с. 754).

*...писала диссертацию на белорусском материале.*— маецца на ўвазе кандыдацкая дысертацыя Т. І. Навуменка «Принцип прозы в отечественной вокальной музыке 60—80-х годов XX века» (абаронена ў 1989 г.)

*Вторая — глазной хирург...* — В. І. Навуменка.

*...сын — преподаватель университета.*— П. І. Навуменка — гл. камент. да інтэрв'ю «Радзіма не там, дзе жывецца больш сытна і бесклапотна, а там, дзе твае карані, душа, дзе ты сам — часцінка ўсяго» (с. 754).

### «У мяне шчаслівы лёс» (с. 251)

Друкуецца паводле газ. «Белорусская нива», 2000, 15 лют., дзе ўпершыню апублікавана пад рубрыкай «З нагоды юбілею».

Пад тэкстам: Гутарыў Іван Белавус.

С. 251:

*...акадэміка НАН Беларусі, члена-карэспандэнта, доктара філалагічных навук...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Шляхам перамог — шляхам набыткаў» (с. 702), «У беларускіх літаратуразнаўцаў» (с. 680).

*...прафесара...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Радзіма не там, дзе жывецца больш сытна і бесклапотна, а там, дзе твае карані, душа, дзе ты сам — часцінка ўсяго» (с. 753).

*...заслужанага дзеяча навукі Рэспублікі Беларусь.*— І. Навуменку ганаровае званне «Заслужаны дзеяч навукі» было прысвоена ў 1978 г.

*...званне народнага пісьменніка...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Давайце верыць у чалавека» (с. 738).

*...жонку сваю...* — Я. П. Навуменка.

*...бацька мой...* — П. Я. Навуменка.

*...у Васілевічах...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 683).

С. 252:

*«Людзі на балоце»* — гл. камент. да інтэрв'ю «Пад сцягам сацыялістычнага рэалізму» (с. 688).

*«Новая зямля»* — гл. камент. да інтэрв'ю «Літаратура — гэта самапазнанне» (с. 695).

*«Ад гоману бароў, / Ад песень дудароў, / Ад светлых воблікаў / Загінутых дзяцей. / Ад тысячы ніцей, / З якімі злучана / Жыццё і небыццё...»* — перайначаныя радкі з уступа да паэмы Якуба Коласа «Сымон-музыка» (1911—1925). У арыгінале: «Ад роднае зямлі, ад гоману бароў, / Ад казак вечароў, / Ад песень дудароў, / Ад светлых воблікаў закінутых дзяцей, / Ад шолаху начэй, / Ад тысячы ніцей, / З якіх аснована і выткана жыццё / І злучана быццё і небыццё…».

С. 253:

*«Сымон-музыка»* — паэма (1911—1925) Якуба Коласа.

*Калі татары завалодалі Масквой, іншымі княствамі...*— маецца на ўвазе мангола-татарская няволя на Русі — сістэма

панавання мангола-татарскіх ханаў на землях паўночна-ўсходняй і паўднёва-заходняй Русі ў XIII—XV стст. Устаноўлена ў выніку заваявання гэтых зямель мангольскім ханам Батыем у 1237—1240 гг. Да пачатку 1260-х гг. Русь знаходзілася пад уладай вялікіх мангольскіх ханаў, потым — ханаў Залатой Арды.

*...Кіеўскай Русі...* — Кіеўская Русь — раннефеадальная дзяржава ўсходне-славянскіх і некаторых неславянскіх плямён у IX — 1-й трэці XII ст. з цэнтрам у Кіеве. У розны час у яе ўваходзілі тэрыторыі ад Прычарнаморскіх стэпаў да Паўночнай Дзвіны, ад Днястра і Заходняга Буга да Акі і Волгі.

*Вялікае Княства Літоўскае* (поўн. назва Вялікае Княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае) — феадальная дзяржава на тэрыторыі Беларусі і Літвы, якая існавала ў XIII — канцы XVIII ст.

*...пасля Люблінскай уніі...* — міжнародна-прававы акт аб'яднання Вялікага Княства Літоўскага і Польшчы ў адну федэратыўную дзяржаву — Рэч Паспалітую. Прыняты 1 ліп. 1569 г. у Любліне. Дзейнічаў да 1795 г.

*Польшча стала «ад можа да можа»* — «ад можа да можа» *(пол.)* — ад мора да мора. У часы кіравання дынастыі Ягелонаў межы Рэчы Паспалітай (федэрацыі Польскай Кароны і Вялікага Княства Літоўскага) распаўсюджваліся ад Балтыйскага і амаль да Чорнага мора.

*...пасля Брэсцкай уніі...* — акт пра арганізацыйнае аб'яднанне праваслаўнай царквы з каталіцкай на тэрыторыі Рэчы Паспалітай, абвешчаны 9 кастр. 1596 г. на царкоўным саборы ў Брэсце. Скасаваны ў Расійскай імперыі Полацкім царкоўным саборам 1839 г.

С. 254:

*...выдаў на старажытнаславянскай мове свае 23 кнігі Біблii.*— Ф. Скарына ў 1517—1519 гг. у Празе выдаў 23 кнігі Старога Запавету. Мова яго перакладаў Бібліі вызначаецца айчыннымі даследчыкамі як беларуская рэдакцыя царкоўнаславянскай мовы.

*...аб школьнай рэформе, што адбываецца ў нашай рэспубліцы.*— рэформа, якая афіцыйна пачалася ў 1998 г., прадугледжвала паступовы перавод агульнаадукацыйнай школы на 12-гадовы тэрмін навучання, з абавязковай 10-гадовай адукацыяй і адкрыццём ліцэйскіх класаў. У 2008 г. гэта рэформа была згорнута, адбылося вяртанне да 11-гадовага навучання.

С. 255:

*Я быў у Амерыцы, у тым ліку і ў Нью-ёркскім універсітэце.*— гл. камент. да інтэрв'ю «З думкай пра дзень заўтрашні» (с. 719); Нью-ёркскі ўніверсітэт — прыватны некамерцыйны навукова-даследчы ўніверсітэт ЗША. Заснаваны 21 крас. 1831 г. Да 1896 г. насіў назву Універсітэт горада Нью-Ёрка.

*...за час «перабудовы».*— перабудова ў СССР у 1985—1991 гг.— тэрмін, які ўвайшоў у шырокі ўжытак з сярэдзіны 1980-х гг. і абазначаў курс на рэфармаванне сацыяльна-эканамічнай і палітычнай сістэмы СССР. У выніку перабудовы разам з пэўнымі зрухамі ў дэмакратызацыі грамадства адбылося абвастрэнне крызісу ў многіх сферах жыцця.

*Саюз пісьменнікаў* — гл. камент. да інтэрв'ю «Пад сцягам сацыялістычнага рэалізму» (с. 688—689).

*У лясным тэхнікуме...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Усякаму пакаленню трэба баявая справа…» (с. 745).

*...быў у партызанах, ваяваў на фронце...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 683).

*...калі б мы не былі ў тым, вялікім Саюзе...* — маецца на ўвазе Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік — гл. камент. да інтэрв'ю «Ісці ўслед за бягучым днём…» (с. 678).

*...за саюз з Расіяй* — гл. камент. да інтэрв'ю «Время думать о своей культуре и языке» (с. 758—759).

## 2003

## «Мае героі былі рамантыкамі» (с. 256)

Друкуецца паводле зб. «Беларускае літаратуразнаўства», 2008, дзе ўпершыню апублікавана з падзагалоўкам «Стэнаграма размовы з народным пісьменнікам Беларусі Іванам Навуменкам у БДУ (на аснове вучэбнай кінастужкі, знятай 1 верасня 2003 года)».

Пад тэкстам: Рэдактарская апрацоўка Паўла Навуменкі, падрыхтоўка да друку Аксаны Дарагакупец, Вольгі Міцкевіч.

С. 256:

*...сваёй творчасцю даказаў, што кніга адкрывае свет.*— алюзія на зборнік літаратурна-крытычных артыкулаў І. Навуменкі «Кніга адкрывае свет» (1978).

*...акадэмік Нацыянальнай акадэміі навук...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Шляхам перамог — шляхам набыткаў» (с. 702), «У беларускіх літаратуразнаўцаў» (с. 680).

*...віцэ-прэзідэнт Акадэміі навук...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Роздум аб сучаснасці» (с. 708).

*...заслужаны дзеяч навукі...* — гл. камент. да інтэрв'ю «У мяне шчаслівы лёс» (с. 760).

*...М. Горкага, які абышоў амаль усю Расію.*— у крас. 1891 г. М. Горкі адправіўся вандраваць па Расійскай імперыі. Пабываў у Паволжы, на Доне, ва Украіне, у Крыме і на Каўказе. Большую частку шляху прайшоў пешкі.

*...Браслаўшчыну...* — Браслаўскі раён — адміністрацыйная адзінка ў складзе Віцебскай вобл. Размешчаны на паўночным захадзе Беларусі.

*...быў на вайне і ў партызанах...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 683).

*«Сасна пры дарозе», «Вецер у соснах», «Сорак трэці»* — гл. камент. да інтэрв'ю «Новыя героі, новыя праблемы» (с. 673, 674).

*...ў кніжцы «Дзяцінства. Падлетак. Юнацтва»...* — кніга выходзіла ў 1997-м і 2000-м гг.

С. 257:

*...2 класы я скончыў за год...*— гл. камент. да інтэрв'ю «Апавяданні ваенныя яшчэ пішу. І буду пісаць» (с. 735).

*Палессе* — гл. камент. да інтэрв'ю «Ісці ўслед за бягучым днём…» (с. 677).

*...як вызвалялі мае Васілевічы, я і сам у гэтым удзельнічаў...*— гл. камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 683).

*...вызвалялі і Рэчыцу, і Бранск...* — Рэчыца была вызвалена ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў 18 лістап. 1943 г.; Бранск — гл. камент. да інтэрв'ю «Усякаму пакаленню трэба баявая справа» (с. 746); Бранск быў вызвалены 17 верас. 1943 г.

С. 258:

*...як адзначалі і Вы самі, і вядомыя беларускія крытыкі, у тым ліку В. Каваленка, абсалютна не трэба атаясамліваць героя Івана Якаўлевіча з самім Іванам Якаўлевічам.*— І. Навуменка адзначаў гэта, у прыватнасці, у інтэрв'ю «Літаратура — гэта самапазнанне» — гл. камент. на с. 691 і тэкст на с. 102.

*...узнагароджаны ордэнам Чырвонай Зоркі.*— ордэн Чырвонай Зоркі — ордэн СССР, зацверджаны пастановай Прэзідыума ЦВК СССР ад 6 крас. 1930 г.

С. 259:

*Вадасховішча і сапраўды ўзарвалі, але былі выратаваны жыцці многіх людзей. Гэты выпадак апісаны ў адным з тамоў энцыклапедыі.*— маецца на ўвазе вадасховішча Атмахау — Атмухуўскае возера, размешчанае ў раёне горада Атмухуў у Апольскім ваяводстве Польшчы. Пра гэты выпадак І. Навуменка згадвае ў сваёй аповесці «Юнацтва» (1994): «І толькі ў другім выданні «Гісторыі Вялікай Айчыннай вайны» (гэта зусім іншая гісторыя ў параўнанні з першай, якая выйшла на некалькі гадоў раней), у томе, дзе расказваецца пра ваенныя аперацыі ў Верхняй Сілезіі, я знайшоў напамінак пра вадасховішча Атмахау. Напісана там, што савецкае камандаванне ведала аб намеры немцаў узарваць вадасховішча і выратавала, такім чынам, жыцці многіх тысяч савецкіх салдат».

*...з дня вызвалення Курскай дугі...* — 23 жн. 1943 г.; Курская дуга — гл. камент. да п’есы «Птушкі між маланак» (с. 666).

*...Саюза рускіх пісьменнікаў...* — верагодна, маецца на ўвазе Саюз пісьменнікаў РСФСР — арганізацыя прафесійных пісьменнікаў, створаная ў 1958 г. Пасля распаду СССР падзяліўся на Саюз пісьменнікаў Расіі і Саюз расійскіх пісьменнікаў.

С. 260:

*...ў аповесці «Юнацтва»...* — гл. камент. да інтэрв’ю «Апавяданні ваенныя яшчэ пішу. І буду пісаць» (с. 735).

С. 261:

*...ў «Інтэрнаце на Нямізе»...* — гл. камент. да інтэрв’ю «Літаратура — гэта самапазнанне» (с. 693).

*Андрушкевіч* — галоўны герой рамана «Асеннія мелодыі» (1978).

*...ён напісаў раман пра ткацкую фабрыку...* — гаворка ідзе пра У. Дадзіёмава і яго раман «Над Нёманам» (1955, новая рэд. 1957).

*«Жлобінскія маладагвардзейцы»* — дакументальная кніга, напісаная ў 1950 г. У. Дадзіёмавым.

*...«Маладой гвардыяй»...* — раман «Маладая гвардыя» напісаны ў 1945 г. (перапрацаваная рэд.— 1951 г.).

*«Сямнаццаць імгненняў вясны»* — дванаццацісерыйны савецкі мастацкі тэлефільм (1973) рэжысёра Т. Ліёзнавай (1924—2011). Зняты паводле аднайменнага рамана (1969) Ю. Сямёнава (1931—1993).

*Гестапа* — гл. камент. да п’есы «Птушкі між маланак» (с. 670).

*Над нашым падполлем узяла шэфства самая сапраўдная разведка...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 683).

*...Савецкай Арміі.*— гл. камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 683).

С. 262:

*...пад Арол, пад Белгарад...* — гл. камент. да п'есы «Птушкі між маланак» (с. 669).

*Сталінград* — гл. камент. да інтэрв'ю «Как земля поет...» (с. 706).

С. 263:

*...Ю. Бондараў спецыяльна пісаў пра каханне нашага салдата і нямецкай дзяўчыны.*— маецца на ўвазе раман Ю. Бондарава «Бераг» (1975).

*«Сказ пра Лысую гару»* — ананімная паэма, напісаная ў 1975 г. адразу пасля будаўніцтва пісьменніцкіх дач на Лысай Гары. Упершыню апублікавана ў 1988 г. У 1991 г. выдадзена асобнай кнігай. На вокладцы аўтар — Францішак Вядзьмак-Лысагорскі. Цяпер на аўтарства паэмы прэтэндуюць беларускія паэты Мікола Аўрамчык і Ніл Гілевіч.

*...«ўсе прафесары, дацэнты перад Навуменкам адным, нібыта дробязныя цэнты перад далярам залатым».*— радкі з паэмы «Сказ пра Лысую гару». У арыгінале гэтыя радкі гучаць крыху інакш: «Ды ўсе прафесары й дацэнты / Перад Навуменкам адным / Былі, як дробязныя цэнты / Перад далярам залатым».

*Гілевіч прызнаўся, што паэму ён напісаў.*— Н. Гілевіч апублікаваў у газ. «Народная воля» (2003. 30 жн.) артыкул «Як быў напісаны "Сказ пра Лысую гару"». У 2003 г. паэма з указаннем яго аўтарства была выдадзена асобнай кнігай.

С. 264:

*Ад нашых ананімных паэм...* — маюцца на ўвазе паэмы «Тарас на Парнасе» (1850-я гг.) і «Энеіда навыварат» (1820-я гг.). Аўтар «Тараса на Парнасе» К. Вераніцын. Бальшыня даследчыкаў уважае аўтарам «Энеіды навыварат» В. Равінскага.

*«Паўлінка»* — п'еса (1913) Я. Купалы.

*Пан Быкоўскі* — персанаж п'есы Я. Купалы «Паўлінка» (1913).

*Мікіта Зносак* — галоўны герой п'есы Я. Купалы «Тутэйшыя» (1924).

*«Янка Купала. Духоўны воблік героя»* і *«Якуб Колас. Духоўны воблік героя»* — гл. камент. да інтэрв'ю «Ісці ўслед за бягучым днём…» (с. 677).

*Яны цяпер ужо называюцца проста «Янка Купала» і «Якуб Колас».*— гл. камент. да інтэрв'ю «Літаратура — гэта самапазнанне» (с. 692), «Роздум аб сучаснасці» (с. 710).

*...нашага ўніверсітэта...*— маецца на ўвазе БДУ — гл. камент. да інтэрв'ю «Я — за рамантыку» (с. 676).

*...выйшла кніга «Ранні К. Чорны»...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Время думать о своей культуре и языке» (с. 756).

*...мадэрнізму...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Усякаму пакаленню трэба баявая справа…» (с. 750).

*...імпрэсіянізму...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Цените каждое мгновение жизни» (с. 736—737).

С. 265:

*«Вайна каля Цітавай копанкі»* — гл. камент. да інтэрв'ю «Ісці ўслед за бягучым днём…» (с. 677).

*«Дзяцінства. Падлетак. Юнацтва»* — гл. камент. да інтэрв'ю «Апавяданні ваенныя яшчэ пішу. І буду пісаць» (с. 735).

*«Пераломны ўзрост»* — гл. камент. да інтэрв'ю «Это память о чем-то…» (с. 699).

*Пушча ўпадабаў сабе дзяўчыну, якая пазней стала яго жонкай...* — С. Э. Плашчынская.

*Чорны гэты факт дакладна апісаў у літаратурнай гісторыі пра цыганку Нону.* — верагодна, маецца на ўвазе апавяданне К. Чорнага «Пачуцці» (1926).

*...ў Саюзе беларускіх пісьменнікаў...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Пад сцягам сацыялістычнага рэалізму» (с. 688—689).

С. 266:

*...захапіўся гісторыяй Хрыста.*— Ісус Хрыстос (каля 4 г. да н. э.— каля 30 г. н. э.) — заснавальнік хрысціянства; паводле хрысціянскага веравучэння, Богачалавек, у якім спалучаны боская (Бог-сын, другая асоба Святой Тройцы) і чалавечая (нараджэнне ад Панны Марыі) прыроды.

*...і ў Бібліі...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Давайце верыць у чалавека» (с. 743—744).

*...і ў Евангеллі...* — Евангелле — раннехрысціянскі твор пра жыццё і вучэнне Ісуса Хрыста. Аўтарамі Евангелляў лічаць апосталаў або іх вучняў. Творы ўзніклі на мяжы I—II стст. н. э.

Падзяляюцца на кананічныя — ад Мацвея, Марка, Лукі і Іаана (уваходзяць у Новы Запавет) і апакрыфічныя.

*Хрысціянства* — адна з трох сусветных (разам з будызмам і ісламам) рэлігій. Узнікла ў І ст. як монатэістычнае вучэнне на базе традыцый іудаізму і антычнай філасофіі ва ўсходніх правінцыях Рымскай імперыі на тэрыторыі былога Ізраільска-Іудзейскага царства. Да V ст. распаўсюдзілася на ўсёй тэрыторыі грэка-рымскай цывілізацыі і залежных ад Рыма краінах Еўропы, Азіі, Паўночнай Афрыкі. Пасля хрысціянізацыі большасці насельніцтва германа-раманскага (VIII ст.) і славянскага (X ст.) рэгіёнаў стала галоўным веравызнаннем у Еўропе.

*...мой дзед...* — П. А. Навуменка.

*Споведзь* — пакаянне, адно з сямі хрысціянскіх таінстваў, якое заключаецца ў прызнанні вернікам сваіх грахоў перад святаром, які дазвольнымі (магічнымі) словамі ад імя Ісуса Хрыста адпускае грахі хрысціяніну, што шчыра пакаяўся.

*...даў мне лыжачку прычасці...* — гаворка ідзе пра абрад прычасця — адно з сямі хрысціянскіх таінстваў. У час прычасця вернікі з’ядаюць кавалачак асвячонага хлеба і выпіваюць лыжачку віна, якія сімвалізуюць «цела і кроў» Ісуса Хрыста, і тым самым далучаюцца да «Боскай сутнасці». Лічыцца, што ў час апошняй трапезы Ісус Хрыстос частаваў сваіх вучняў віном і хлебам, ператвараючы іх у цела і кроў сваю, наказваў захоўваць гэты абрад у памяць пра яго.

С. 267:

*...загадвалі кафедрай беларускай літаратуры БДУ...* — гл. камент. да інтэрв’ю «Я — за рамантыку» (с. 676).

*...дырэктарам Інстытута літаратуры, і старшынёй Вярхоўнага Савета Беларусі...*— гл. камент. да інтэрв’ю «У беларускіх літаратуразнаўцаў» (с. 679—680), «Час абуджае думку творцаў» (с. 731).

*...«Начных успамінах».*— «Начныя ўспаміны» — мемуары, напісаныя ў 2001 г.

*...і ў «Новай зямлі»...* — гл. камент. да інтэрв’ю «Літаратура — гэта самапазнанне» (с. 695).

*...ў «Сымоне-музыку»...* — гл. камент. да інтэрв’ю «У мяне шчаслівы лёс» (с. 760).

*«На ростанях»* — гл. камент. да інтэрв’ю «Літаратура — гэта самапазнанне» (с. 695).

*...«Казак жыцця»...* — «Казкі жыцця» (1908—1955) — цыкл алегарычных апавяданняў.

*...настаўнікаў, якія прымалі ўдзел у нелегальным з'ездзе...* — маецца на ўвазе нелегальны з'езд настаўнікаў Мінскай губерні, які адбыўся 9—10 (22—23) ліп. 1906 г. у вёсцы Мікалаеўшчына Мінскага павета.

*...Мінск быў губерняй і ўваходзіў у Віленскае генерал-губернатарства.*— Мінская губерня — адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка на тэрыторыі Беларусі ў 1793—1921 гг.; Віленскае генерал-губернатарства — адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка ў Расійскай імперыі ў 1794—1912 гг. Цэнтр — г. Вільня (у 1794—1796 гг.— г. Гродна). Мінская губерня ўваходзіла ў склад Віленскага генерал-губернатарства ў 1834—1856 і 1862—1870 гг.

*Выдаваліся і дзве газеты: мінская губернская і віленская генерал-губернатарская.*— верагодна, маюцца на ўвазе «Минские губернские ведомости» і «Виленские губернские ведомости».

С. 268:

*...не быў у Сталінградзе, але напісаў пра яго апавяданне.*— верагодна, маецца на ўвазе аповесць «Помні Сталінград» (2000).

*...Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта...* — Брэсцкі дзяржаўны ўніверсітэт імя А. С. Пушкіна — найстарэйшая ВНУ Брэстчыны. Заснаваны паводле пастановы СНК БССР у 1945 г. як настаўніцкі інстытут. У 1949 г. прысвоена імя А. С. Пушкіна. У 1950 г. на базе інстытута заснаваны Брэсцкі дзяржаўны педагагічны інстытут імя А. С. Пушкіна, які ў 1995 г. пераўтвораны ў Брэсцкі дзяржаўны ўніверсітэт (імя А. С. Пушкіна прысвоена ў 1999 г.).

*Ён пераклаў твор на англійскую мову і змясціў яго ў нейкай амерыканскай газеце.*— Ц. Ліякумовіч пераклаў на рускую мову ўрывак з аповесці І. Навуменкі «Помні Сталінград» (2000). Гэты пераклад пад назвай «На берегу Волги» быў надрукаваны ў газ. «Земляки» (2003. № 107), якая выдаецца ў Чыкага (ЗША).

*Ён пераклаў, па-мойму, і «Сасну пры дарозе», і «Вецер у соснах», і «Сорак трэці».*— Я. Мазалькоў пераклаў раман «Сасна пры дарозе»; раманы «Вецер у соснах» і «Сорак трэці» пераклаў М. Гарбачоў.

*...творы перакладала сямейства Гарбачовых, якія працавалі ў выдавецтве «Савецкі пісьменнік».*— Т. Я. і М. С. Гарбачовы; «Советский писатель» — гл. камент. да інтэрв'ю «У задуме: новы раман» (с. 697).

*...ў гэтым выдавецтве выйшла большасць з 20 маіх кніг, перакладзеных на рускую мову.*— у выдавецтве «Советский писатель» выйшлі наступныя кнігі І. Навуменкі: «Голубиный взлет» (1961), «Сосна при дороге» (1964), «Путешествие в юность» (1967), «Ветер в соснах» (1969, 1975), «Та самая земля» (1973), «Сорок третий» (1975, 1976), «Замять желтолистья» (1978), «Грусть белых ночей» (1982), «Янка Купала; Якуб Колас» (1982), «Прощание в Ковальцах» (1986), «Мечтатель» (1987).

*...удавалася друкаваць пераклады маіх твораў сярод літаратурных класікаў у «Раман-газеце».*— у «Роман-газете» (1980. № 3) апублікаваны аповесці І. Навуменкі «Последняя осень» (пер. Л. Салавей), «Прощание в Ковальцах» (пер. А. Астроўскі), «Замять желтолистья» (пер. М. Гарбачоў).

С. 268—269:

*Аповесць «Друзья-товарищи» выйшла ў «Маладой гвардыі».*— «Друзья-товарищи» (1959) — зборнік апавяданняў (пер. Я. Мазалькоў); «Молодая гвардия» — савецкае, затым расійскае выдавецтва. Заснавана ў 1922 г. у Маскве па ініцыятыве ЦК ВЛКСМ з мэтай асветы і выхавання моладзі.

С. 269:

*Друкаваліся творы і ў часопісе «Дружба народов»...* — у часоп. «Дружба народов» апублікаваны наступныя творы І. Навуменкі: апавяданні «Ровесники», «Домик редактора», «Трое из зеленого павильона» (1958. № 6; пер. Б. Якаўлеў), «Роман с эпилогом» (1961. № 3; пер. Б. Якаўлеў), «Необыкновенный день», «Трепет дубовой листвы» (1966. № 4; пер. М. Златагораў, К. Дабравольская), аповесць «Прощание в Ковальцах» (1975. № 12; пер. А. Астроўскі).

*...займаўся параўнальным мовазнаўствам.*— параўнальна-гістарычнае мовазнаўства — галіна мовазнаўства, якая даследуе генетычныя сувязі моў, апісвае моўную роднасць у яе эвалюцыі ў часе і прасторы, вывучае асобную мову (або групу моў) у яе развіцці на падставе параўнання з адпаведнымі фактамі іншых моў.

*...я ж старшыня камітэта славістаў.*— гл. камент. да інтэрв'ю «Таинство творчества можно сравнить с муками любви…» (с. 752).

## АНКЕТЫ

### 1972

### Пытанні анкеты кафедры літаратуры Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта (с. 270)

Друкуецца паводле зб. «Беларуская літаратура», вып. 13, 1985, дзе ўпершыню апублікавана.

Пад тэкстам: 25/IV-72.

### 1973

### Страничка о своей работе (с. 271)

Друкуецца паводле часоп. «Вопросы литературы», 1973, № 10, дзе ўпершыню апублікавана пад рубрыкай «События. Информация. Хроника».

С. 271:

*...статья о влиянии научно-технической революции...* — верагодна, маецца на ўвазе артыкул «Літаратура і НТР» (Полымя. 1975. № 8); навукова-тэхнічная рэвалюцыя — гл. камент. да інтэрв'ю «Пад сцягам сацыялістычнага рэалізму» (с. 686—687).

С. 272:

*...хочу написать работу «Стиль Якуба Коласа».*— гл. камент. да інтэрв'ю «Ісці ўслед за бягучым днём…» (с. 678).

*...статья Е. Стариковой «Социологический аспект современной “деревенской прозы”»...* — артыкул надрукаваны ў часоп. «Вопросы литературы» (1972. № 7).

### 1975

### Свяшчэнная вайна (с. 272)

Друкуецца паводле Зб. тв., 1983, т. 6, дзе апублікавана з падзагалоўкам «Адказы на пытанні часопіса “Вопросы литературы”».

Пад тэкстам: 1965 (год пазначаны памылкова, насамрэч 1975).

Упершыню — часоп. «Вопросы литературы», 1975, № 5, пад рубрыкай «К 30-летию Победы в Великой Отечественной войне».

У БДАМЛМ, у асабістым архіве І. Навуменкі, захоўваюцца фрагмент чарнавога аўтографа адказаў на пытанні анкеты (ф. 495, воп. 1, адз. зах. 216, арк. 5) і фрагмент машынапісу адказаў на пытанні анкеты (ф. 495, воп. 1, адз. зах. 332, арк. 1).

С. 272:

*...часопіс правёў сярод пісьменнікаў-франтавікоў анкету...*— анкета «О прошлом во имя будущего» (Вопросы литературы. 1965. № 5).

С. 273:

*...ў сваім мястэчку на Палессі...* — маюцца на ўвазе Васілевічы — гл. камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 683); Палессе — гл. камент. да інтэрв'ю «Ісці ўслед за бягучым днём...» (с. 677).

*...у Сілезіі, на 1-м Украінскім фронце...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Аблічча галоўнага героя» (с. 700—701), «Вяртанне ў маладосць» (с. 683—684).

*...час, звязаны з вызваленнем Арла, Белгарада, з першымі салютамі...* — гл. камент. да п'есы «Птушкі між маланак» (с. 669); У гонар вызвалення Арла і Белгарада 5 жн. 1945 г. быў дадзены салют у Маскве.

*...я быў прылучан да партызанскіх спраў...*— гл. камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 683).

С. 274:

*«Вайну і мір» напісаў Леў Талстой, які нават не нарадзіўся, калі ішла вайна 1812 года.*— гл. камент. да інтэрв'ю «Знайсці свайго героя» (с. 717—718), «Задачы вынікаюць з самога жыцця...» (с. 729—730).

*...пад Ленінградам, ва Усходняй Прусіі...* — гл. камент. да п'есы «Птушкі між маланак» (с. 667), інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 683), «Аблічча галоўнага героя» (с. 700).

*...Чэхаславакіі.*— гл. камент. да інтэрв'ю «Давайце верыць у чалавека» (с. 743).

## 1977

### Адказ на пытанні анкеты, прапанаванай А. М. Адамовічам (с. 274)

Друкуецца ўпершыню паводле аўтографа (БДАМЛМ, ф. 495, воп. 1, адз. зах. 218, арк. 1—11).

Пад тэкстам подпіс: І. Навуменка і дата — 29.VI.77 г.

С. 275:

*...паступіўшы ў аспірантуру...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Усякаму пакаленню трэба баявая справа…» (с. 747).

С. 276:

*...доўгі час працаваў у газеце...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 682).

*«Сасна пры дарозе»* — гл. камент. да інтэрв'ю «Новыя героі, новыя праблемы» (с. 673).

*Калі вызвалялі Васілевічы...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 683).

С. 277:

*«Сямнаццатай вясной»* — гл. камент. да інтэрв'ю «Я — за рамантыку» (с. 675).

*«Трое з зялёнай будкі»* — апавяданне, напісанае ў 1956 г.

*«Эх, махорачка...»* — гл. камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 675).

С. 278:

*...маю філалагічныя тытулы і званні...* — гл. камент. да інтэрв'ю «У беларускіх літаратуразнаўцаў» (с. 680), «Радзіма не там, дзе жывецца больш сытна і бесклапотна, а там, дзе твае карані, душа, дзе ты сам — часцінка ўсяго» (с. 753).

*Я надрукаваў першыя апавяданні ў 1955 годзе, у атмасферы, калі мы адмаўляліся ад многіх уяўленняў, што не вытрымалі праверкі часам.*— гл. камент. да інтэрв'ю «Я — за рамантыку» (с. 675), «Літаратура — гэта самапазнанне» (с. 693).

*...удзельнічаў у падпольных, партызанскіх справах, быў на фронце...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 683).

*Раён наш...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Літаратура — гэта самапазнанне» (с. 693).

С. 279:

*...Васіль і Ганна...* — Васіль Дзяцел і Ганна Чарнушка — галоўныя героі трылогіі І. Мележа «Палеская хроніка» (1961—1976).

*...як пісаў паэт Максіміліян Валошын: «Весь трепет жизни всех веков и рас живет в тебе. Всегда. Теперь. Сейчас».*— радкі з верша «Дом паэта» (1926).

*«Дом над морам»* — апавяданне, напісанае ў 1958 г.

*«Рыжыя коні»* — апавяданне, напісанае ў 1962 г.

*«Вераніка»* — гл. камент. да інтэрв'ю «Я — за рамантыку» (с. 675).

## 1979

### Мастацкае слова сёння і заўтра (с. 279)

Друкуецца паводле газ. «ЛіМ», 1979, 8 чэрв., дзе ўпершыню апублікавана.

## 1981

### Перадз'ездаўская трыбуна (с. 281)

Друкуецца паводле газ. «ЛіМ», 1981, 10 крас., дзе ўпершыню апублікавана.

С. 281:

*Напярэдадні VIII з'езда пісьменнікаў Беларусі, які пачне сваю работу 14 красавіка...* — VIII з'езд пісьменнікаў Беларусі праходзіў 14—15 крас. 1981 г. у Мінску.

С. 282:

*...сацыяльнага заказу...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Літаратура — гэта самапазнанне» (с. 695).

*...сацыялізму...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Пад сцягам сацыялістычнага рэалізму» (с. 688).

## 1982

### Итоги, перспективы, задачи (с. 282)

Друкуецца паводле часоп. «Вопросы литературы», 1982, № 10, дзе ўпершыню апублікавана пад рубрыкай «Жизнь. Искусство. Критика» з падзагалоўкам «Институты литературы навстречу 60-летию СССР».

С. 282:

*СССР* — гл. камент. да інтэрв'ю «Ісці ўслед за бягучым днём…» (с. 678).

*...ИМЛИ и Пушкинского дома АН СССР...* — ИМЛИ (Інстытут сусветнай літаратуры імя А. М. Горкага) — навукова-даследчы інстытут, створаны ў 1932 г. у Маскве як Літаратурны інстытут імя Максіма Горкага. З 1934 г. меў назву Інстытут літаратуры імя А. М. Горкага. У 1938 г. увайшоў у склад Акадэміі навук і атрымаў сучасную назву; Інстытут рускай літаратуры (Пушкінскі дом) заснаваны ў 1905 г. у Пецярбургу як сховішча музейнага тыпу і крыніцазнаўчы цэнтр пушкіназнаўства (Пушкінскі дом). З 1918 г. у складзе Акадэміі навук, у 1930 г. ператвораны ў навукова-даследчы Інстытут рускай літаратуры; АН СССР — вышэйшая навуковая ўстанова СССР. Заснавана ў пачатку 1724 г. (адкрыта ў канцы 1725 г.) як Акадэмія навук і мастацтваў у Санкт-Пецярбургу. З 1747 г. мела назву Імператарская акадэмія навук і мастацтваў у Санкт-Пецярбургу, з 1803 г.— Імператарская акадэмія навук, з 1836 г.— Імператарская Санкт-Пецярбургская акадэмія навук. У 1917—1925 і з 1991 гг.— Расійская акадэмія навук.

*...республик...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Тлумачальнікі выдуманых сноў» (с. 691).

С. 283:

*...института...* — маецца на ўвазе Інстытут літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук БССР — гл. камент. да інтэрв'ю «У беларускіх літаратуразнаўцаў» (с. 679—680).

*...метод социалистического реализма...* — гл. камент. да інтэрв'ю «У беларускіх літаратуразнаўцаў» (с. 680).

*...до Октября...* — маецца на ўвазе Кастрычніцкая рэвалюцыя 1917 г.— гл. камент. да верша «Бывай, наш паэце...» (с. 673).

С. 284:

*...четырехтомная «История белорусской литературы»...*— гл. камент. да інтэрв'ю «У беларускіх літаратуразнаўцаў» (с. 681).

*...«История белорусской советской литературы», «История белорусской дооктябрьской литературы»...* — гл. камент. да інтэрв'ю «У беларускіх літаратуразнаўцаў» (с. 681).

*«Проблемы современной белорусской прозы»* — кніга выйшла ў 1967 г.

*«Содружество литератур»* — кніга выйшла ў 1968 г.

*«В. И. Ленин и литература»* — кніга выйшла ў 1970 г.

*«Современная белорусская поэзия»* — кніга выйшла ў 1970 г.

*...«Белорусская советская проза: Рассказ и очерк», «Белорусская советская проза: Роман и повесть»...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Пад сцягам сацыялістычнага рэалізму» (с. 687).

*«Пути развития советской прозы»* — кніга выйшла ў 1972 г.

*«Стиль писателя»* — кніга выйшла ў 1974 г.

*«Единство и взаимообогащение»* — гл. камент. да інтэрв'ю «Літаратура — гэта самапазнанне» (с. 696).

*«Рождение нового искусства: Социалистический реализм — закономерность исторического развития белорусской литературы».*— гл. камент. да інтэрв'ю «Арыенцір у творчым працэсе» (с. 707).

*«Франциск Богушевич и проблема реализма в белорусской литературе XIX столетия»* — манаграфія выйшла ў 1957 г.

*«Белорусская советская проза»* — поўная назва манаграфіі «Беларуская савецкая проза (20-я — пач. 30-х гг.)», выйшла ў 1960 г.

*«Пути развития белорусской советской литературы 20—30-х годов»* — манаграфія, напісаная ў 1960 г.

*«Белорусский роман»* — манаграфія выйшла ў 1961 г.

*«Горизонты белорусской прозы»* — гл. камент. да інтэрв'ю «У задуме: новы раман» (с. 698).

*«У истоков социалистического реализма»* — манаграфія выйшла ў 1963 г.

*«Янка Купала. Духовный облик героя» и «Якуб Колас. Духовный облик героя»* — гл. камент. да інтэрв'ю «Існі ўслед за бягучым днём…» (с. 677).

*«Белорусская детская литература»* — манаграфія выйшла ў 1970 г.

*«Янка Купала и белорусская поэзия»* — манаграфія выйшла ў 1971 г.

*«Истоки. Влияния. Ускоренность. Развитие белорусской литературы XIX—XX веков»* — гл. камент. да інтэрв'ю «Пад сцягам сацыялістычнага рэалізму» (с. 686).

*«Белорусская критика и литературоведение, 20—30-е годы»* — гл. камент. да інтэрв'ю «Пад сцягам сацыялістычнага рэалізму» (с. 686).

*«Структура произведения»* — манаграфія выйшла ў 1978 г.

*«Белорусская советская поэма»* — манаграфія выйшла ў 1979 г.

*«На перекрестке славянских традиций»* — гл. камент. да інтэрв'ю «Літаратура — гэта самапазнанне» (с. 696).

*«Мифо-поэтические мотивы в белорусской литературе»* — манаграфія выйшла ў 1981 г.

*«Белорусский роман: годы 70-е»* — манаграфія выйшла ў 1982 г.

С. 285:

*...за годы десятой пятилетки...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Навукі крокі сажнёвыя» (с. 721).

*...«Истории белорусской литературы» (1977) в двух книгах на русском языке...* — гл. камент. да інтэрв'ю «У беларускіх літаратуразнаўцаў» (с. 681).

*...стран социализма.*— гл. камент. да інтэрв'ю «Тлумачальнікі выдуманых сноў» (с. 691).

*«История советской многонациональной литературы»* — шасцітомнае выданне, выходзіла ў 1970—1974 гг.

*«История всемирной литературы»* — гл. камент. да інтэрв'ю «Задачы вынікаюць з самога жыцця…» (с. 729).

*...международных съездах славистов...* — міжнародныя з'езды славістаў — навуковыя форумы, якія праводзяцца з 1929 г. у славянскіх краінах па чарзе кожныя пяць гадоў. З 1958 г. арганізуюцца Міжнародным камітэтам славістаў.

*«Страницы литературных связей»* — кніга выйшла ў 1970 г.

*«Национальное и интернациональное в литературе»* — манаграфія (1971) Н. Перкіна.

С. 286:

*СФРЮ* (Сацыялістычная Федэратыўная Рэспубліка Югаславія) — дзяржава, якая існавала ў 1945—1992 гг. у паўднёва-ўсходняй Еўропе, на паўночным захадзе і ў цэнтры Балканскага паўвострава. Да 1963 г. мела назву Федэратыўная Народная Рэспубліка Югаславія.

С. 286—287:

*...Институтом словенской литературы и литературоведения Словенской академии наук.*— Інстытут славенскай літаратуры і літаратуразнаўства — навуковая ўстанова, створаная ў 1948 г. Да 1972 г. мела назву Інстытут літаратуры. Уваходзіць у навукова-даследчы цэнтр Славенскай акадэміі навук і мастацтваў, які быў створаны ў 1981 г.; Славенская акадэмія навук і мастацтваў — вышэйшая нацыянальная навуковая ўстанова Славеніі. Дзейнічае з 1938 г. у Любляне. Да 1943 г. мела назву Акадэмія навукі і мастацтва.

## 1985

### Во имя жизни на земле (с. 287)

Друкуецца паводле часоп. «Вопросы литературы», 1985, № 5, дзе ўпершыню апублікавана пад рубрыкай «К 40-летию Победы в Великой Отечественной войне».

Перад тэкстам: Иван Науменко. Пад тэкстам: г. Минск.

С. 287:

*К 20-летию и 30-летию Победы над гитлеровской Германией журнал «Вопросы литературы» проводил анкеты среди писателей-фронтовиков...* — гл. камент. да анкеты «Свяшчэнная вайна (с. 770—771).

С. 287—288:

*«С фронтовым приветом»* — аповесць, напісаная ў 1945 г.

С. 288:

*Находясь в сорок четвертом и сорок пятом годах на фронте...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 683).

*...«Млечный Путь», «Поиски будущего»...* — раманы, напісаныя адпаведна ў 1944-м і 1943-м гг.

*XX съезд КПСС* — гл. камент. да інтэрв'ю «Літаратура — гэта самапазнанне» (с. 693).

## 1994

### Наперадзе шмат работы (с. 231)

Друкуецца паводле газ. «ЛіМ», 1994, 6 мая, дзе ўпершыню апублікавана пад рубрыкай «Анкета».

С. 289:

*...«Дзяцінства», «Падлетак», «Юнацтва».*— гл. камент. да інтэрв'ю «Апавяданні ваенныя яшчэ пішу. І буду пісаць» (с. 735).

*«Дзяцінства» выйшла асобнай кніжкай...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Цените каждое мгновение жизни» (с. 736).

*...«Падлетак», надрукаваны часопісам...* — аповесць надрукавана ў часоп. «Полымя» (1993. № 9).

*...«Юнацтва» прыняў да друку часопіс «Полымя»...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Цените каждое мгновение жизни» (с. 736).

*...ён і папярэднія аповесці пусціў у свет...* — аповесць «Дзяцінства» надрукавана ў часоп. «Полымя» (1991. № 4—6).

*...ў акадэмічным Інстытуце літаратуры...* — гл. камент. да інтэрв'ю «У беларускіх літаратуразнаўцаў» (с. 679—680); І. Навуменка працаваў у Інстытуце літаратуры з 1973 г.

*Нядаўна выйшла мая кніга «Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч».*— гл. камент. да інтэрв'ю «Час абуджае думку творцаў» (с. 734).

*...кнігу пра Янку Купалу.*— гл. камент. да інтэрв'ю «Ісці ўслед за бягучым днём…» (с. 677), «Літаратура — гэта самапазнанне» (с. 692).

*Пішу адначасова кнігу пра Змітрака Бядулю.*— гл. камент. да інтэрв'ю «Цените каждое мгновение жизни» (с. 736).

*...працаваў карэспандэнтам абласной, затым рэспубліканскай газеты...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 682).

С. 290:

*Пішу аповесць пра першыя пасляваенныя гады.*— маецца на ўвазе аповесць «Любімы горад» (1996).

*...вучыўся завочна ў БДУ...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Я — за рамантыку» (с. 676), «Літаратура — гэта самапазнанне» (с. 692).

*...перабудовы.*— гл. камент. да інтэрв'ю «У мяне шчаслівы лёс» (с. 762).

*...параўнальным мовазнаўствам.*— гл. камент. да інтэрв'ю «Мае героі былі рамантыкамі» (с. 769).

## 1995

### Спадзяванне на лепшае (с. 290)

Друкуецца паводле газ. «ЛіМ», 1995, 29 снеж., дзе ўпершыню апублікавана пад рубрыкай «На сумежжы гадоў».

С. 291:

*...рамана «Сорак трэці», але і па сённяшні дзень ён не пабачыў свет.*— «Сорак трэці» — гл. камент. да інтэрв'ю «Новыя героі, новыя праблемы» (с. 674); Гаворка ідзе пра трэцяе асобнае выданне рамана, ажыццёўленае ў 1996 г.

*На 1996 год запланаваны ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» другі том Збору маіх твораў, які складаецца з рамана «Смутак белых начэй», аповесцяў «Інтэрнат на Нямізе», «Развітанне ў Кавальцах», «Апошняя восень».*— маецца на ўвазе выданне «Выбраныя творы» (т. 1-2; 1995—1997); «Мастацкая літаратура» — гл. камент. да інтэрв'ю «У задуме: новы раман» (с. 697); «Смутак белых начэй», «Інтэрнат на Нямізе» — гл. камент. да інтэрв'ю «Літаратура — гэта самапазнанне» (с. 693); «Развітанне ў Кавальцах», «Апошняя восень» — гл. камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 684).

*...аповесць «Любімы горад», якую часопіс «Полымя» абяцае змясціць у другім нумары за 1996 год.*— «Любімы горад» — гл. камент. да інтэрв'ю «Цените каждое мгновение жизни» (с. 736); Аповесць была надрукавана ў часоп. «Полымя» (1996. № 2-3).

*...працяг маіх аўтабіяграфічных твораў...* — маецца на ўвазе трылогія «Дзяцінства», «Падлетак», «Юнацтва» — гл. камент. да інтэрв'ю «Апавяданні ваенныя яшчэ пішу. І буду пісаць» (с. 735).

*...песня пра любімы горад...* — гл. камент. да п'есы «Птушкі між маланак» (с. 669).

*Працягваю пісаць апавяданні. Некалькі запланавана ў трэці нумар часопіса «Маладосць».*— у 1996 г. апавяданні І. Навуменкі («Груша на прыгуменні», «Калабарацыяніст Пеця Жучок», «Ліпы цвітуць», «Сельсаветчыкі» — усе датуюцца 1996 г.) былі апублікаваны ў часоп. «Маладосць» (№ 5).

С. 292:

*...працую над кнігай пра Максіма Багдановіча.*— гл. камент. да інтэрв'ю «Усякаму пакаленню трэба баявая справа...» (с. 748).

*...кнігі пра Дуніна-Марцінкевіча і Змітрака Бядулю.*— гл. камент. да інтэрв'ю «Час абуджае думку творцаў» (с. 734), «Цените каждое мгновение жизни» (с. 736).

### 2003

### Современная белорусская проза: время и герой (с. 292)

Друкуецца паводле часоп. «Нёман», 2003, № 3, дзе ўпершыню апублікавана.

## ВЫСТУПЛЕННІ

### 1965

### Дыхание истории (с. 294)

Друкуецца паводле часоп. «Вопросы литературы», 1965, № 1, дзе ўпершыню апублікавана пад рубрыкай «На темы современности».

Перад тэкстам: И. Науменко. Пад тэкстам: г. Минск.

Выступленне на пасяджэнні крытыкаў, якое правяла рэдакцыя часоп. «Вопросы литературы» з мэтай абмеркавання стану прозы ў 1964 г.

С. 294:

*«Хутор Малиновка»* — раман-хроніка ў дзвюх кнігах, напісаны ў 1961—1964 гг.

*...первой русской революции.*— гл. камент. да інтэрв'ю «Время думать о своей культуре и языке» (с. 756).

*«На пороге будущего»* — раман, напісаны ў 1961—1963 гг.

*...канун Октября и дни революции.*— маецца на ўвазе Кастрычніцкая рэвалюцыя 1917 г.— гл. камент. да верша «Бывай, наш паэце...» (с. 673).

С. 295:

*«Люди на болоте»* — гл. камент. да інтэрв'ю «Пад сцягам сацыялістычнага рэалізму» (с. 688).

*...полесской...* — Палессе — гл. камент. да інтэрв'ю «Ісці ўслед за бягучым днём…» (с. 677).

С. 296:

*...коммунизма.*— гл. камент. да інтэрв'ю «Новыя героі, новыя праблемы» (с. 673).

*...«Севастопольских рассказов»...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Літаратура — гэта самапазнанне» (с. 695).

С. 297:

*...романом «Встречи на росстанях» закончил военную дилогию.*— Раман напісаны ў 1961—1962 гг. Першы раман ваеннай дылогіі — «Расстаёмся ненадоўга» (1953—1954).

*Роман В. Карпова «Немиги кровавые берега» — первый из цикла о сражающемся и мирном Минске.*— Раман напісаны ў 1962 г. Разам з раманамі «За годам год» (1952—1956), «Вясеннія ліўні» (1957—1960), «Сотая маладосць» (1969) уваходзіць у цыкл «На перавале стагоддзя».

*«Сыновья уходят в бой», «Война под крышами»* — гл. камент. да інтэрв'ю «Пад сцягам сацыялістычнага рэалізму» (с. 689).

*Романом о партизанах «Былое остается в сердце» завершается трилогия Р. Соболенко.*— аповесць «Былое застаецца ў сэрцы» напісана ў 1963 г. Першая і другая часткі трылогіі «Іду ў жыццё» (1968) — аповесці «Юнацтва ў дарозе» (1956—1960) і «Выпрабаванне сталасці» («Іду ў жыццё», 1961).

*Большую повесть о партизанской борьбе написал А. Карпюк.*— верагодна, маецца на ўвазе аповесць «Пушчанская адысея» (1964).

*«Птицы и гнезда»* — раман, напісаны ў 1942—1944, 1962—1964 гг.

*«Сердце на ладони»* — гл. камент. да інтэрв'ю «Пад сцягам сацыялістычнага рэалізму» (с. 688).

*«Средиборье»* — раман, напісаны ў 1963 г.

*«Обжитый угол»* — аповесць, напісаная ў 1963 г.

## 1966

### Сем гадоў пошукаў і здзяйсненняў (с. 298)

Друкуецца паводле газ. «ЛіМ», 1966, 13 мая, дзе ўпершыню апублікавана пад рубрыкай «Пяты з'езд пісьменнікаў Беларусі» з рэдактарскім падзагалоўкам «Садаклад Івана Навуменкі».

Пад тэкстам: Даклад друкуецца са скарачэннямі.

Уваходзіла ў Зб. тв., 1983, т. 6, дзе апублікавана пад назвай «Спіралі мастацкага росту».

Выступленне на V з'ездзе пісьменнікаў Беларусі, які праходзіў 12—14 мая 1966 г. у Мінску.

У БДАМЛМ, у асабістым архіве І. Навуменкі, захоўваюцца фрагменты машынапісу з аўтарскімі праўкамі і чарнавога аўтографа выступлення (ф. 495, воп. 1, адз. зах. 183, арк. 1—33).

У БДАМЛМ, у фондзе газ. «Літаратура і мастацтва», захоўваецца аўтарызаваны машынапіс выступлення (ф. 12, воп. 1, т. 2, адз. зах. 1113, арк. 15—41). На першай старонцы ў левым верхнім куце надпіс сінім чарнілам: № 39. У правым куце надпіс сінім чарнілам: Іван Навуменка, пячатка «Атрымана», на якой пазначана дата: V.1966 і нумар: 1085. Угары старонкі перад тэкстам простым алоўкам зроблены надпіс: «Сем гадоў пошукаў і здзяйсненняў. Садаклад Івана Навуменкі».

С. 298:

*...IV з'езда пісьменнікаў Беларусі...* — IV з'езд пісьменнікаў Беларусі праходзіў 12—14 лют. 1959 г. у Мінску.

*...XX і XXII з'ездаў партыі...* — маецца на ўвазе Камуністычная партыя Савецкага Саюза — гл. камент. да інтэрв'ю «Ісці ўслед за бягучым днём…» (с. 678); XX з'езд — гл. камент. да інтэрв'ю «Літаратура — гэта самапазнанне» (с. 693); XXII з'езд КПСС адбыўся 17—31 кастр. 1961 г. у Маскве.

С. 299:

*...камунізму.*— гл. камент. да інтэрв'ю «Новыя героі, новыя праблемы» (с. 673).

*...сацыялізму...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Пад сцягам сацыялістычнага рэалізму» (с. 688).

*...імперыялізму...* — імперыялізм — дзяржаўная палітыка, скіраваная на заваяванне тэрыторый, калоній, устанаўленне палітычнага або эканамічнага кантролю над іншымі дзяржавамі.

С. 300:

*«Сэрца на далоні»* — гл. камент. да інтэрв'ю «Пад сцягам сацыялістычнага рэалізму» (с. 688).

С. 301:

*...«Людзі на балоце» і «Подых навальніцы»...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Пад сцягам сацыялістычнага рэалізму» (с. 688).

*«Птушкі і гнёзды»* — гл. камент. да выступлення «Дыхание истории» (с. 781).

*«Серадзібор»* — гл. камент. да выступлення «Дыхание истории» (с. 781).

*«Партызаны»* — гл. камент. да інтэрв'ю «Пад сцягам сацыялістычнага рэалізму» (с. 689).

*«На парозе будучыні»* — гл. камент. да выступлення «Дыхание истории» (с. 780).

*«Засценак Малінаўка»* — гл. камент. да выступлення «Дыхание истории» (с. 780).

*...«Жураўліны крык», «Трэцяя ракета» і «Альпійская балада»...* — «Жураўліны крык», «Альпійская балада» — гл. камент. да інтэрв'ю «Я — за рамантыку» (с. 676); «Трэцяя ракета» — гл. камент. да інтэрв'ю «Из реки по имени факт» (с. 714).

*«Пушчанская адысея»* — гл. камент. да выступлення «Дыхание истории» (с. 781).

*«Сустрэчы на ростанях»* — гл. камент. да выступлення «Дыхание истории» (с. 781).

*...фадзееўскі Левінсон, фурманаўскі Чапаеў, шолахаўскія Мелехаў, Наталля і Аксіння...* — Левінсон — галоўны герой рамана «Разгром» (1926) А. Фадзеева; Чапаеў — галоўны герой рамана «Чапаеў» (1923) Д. Фурманава; Мелехаў, Наталля і Аксіння — галоўныя героі рамана «Ціхі Дон» (1928—1940) М. Шолахава.

*...з «Новай зямлі»...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Літаратура — гэта самапазнанне» (с. 695).

*...з «Трэцяга пакалення»...* — раман «Трэцяе пакаленне» напісаны ў 1935 г.

С. 302:

*...падзеям імперыялістычнай вайны, лютаўскай і Кастрычніцкай рэвалюцый на Беларусі.*— імперыялістычная вайна — маецца на ўвазе Першая сусветная вайна (1914—1918); лютаўская рэвалюцыя (1917) — буржуазна-дэмакратычная рэвалюцыя ў Расіі, у выніку якой скінута царскае самадзяржаўе; Кастрычніцкая рэвалюцыя — гл. камент. да верша «Бывай, наш паэце...» (с. 673).

*«Вецер веку»* — раман, напісаны ў 1966 г.

*«Позняе ворыва»* — аповесць, напісаная ў 1963 г.

С. 303:

*«Мост»* — гл. камент. да інтэрв'ю «Я — за рамантыку» (с. 676).

*«Лонва»* — аповесць, напісаная ў 1965 г.

*«Абжыты кут»* — гл. камент. да выступлення «Дыхание истории» (с. 781).

*«Тры зоркі»* — аповесць, напісаная ў 1963 г.

*...цыкл Янкі Брыля «Пад гоман вогнішча»...* — цыкл склалі апавяданні «Званочкі», «Шчодрая Ясельда», «Быстры Нёман», напісаныя ў 1961 г.

*«Пані старшыніха прыехала»* — апавяданне, напісанае ў 1964 г.

*«Калінішын зяць» Аркадзя Чарнышэвіча* — апавяданне, напісанае ў 1955 г.

*...ў сваіх нарысах «Зямныя вузлы»...* — аповесць «Зямныя вузлы» напісана ў 1965 г.

*...XXIII з'езда роднай партыі...* — XXIII з'езд КПСС праходзіў з 29 сак. па 8 крас. 1966 г. у Маскве.

*«Навальніца над полем»* — варыянт назвы рамана «Подых навальніцы».

С. 304:

*...палескую...* — Палессе — гл. камент. да інтэрв'ю «Ісці ўслед за бягучым днём…» (с. 677).

*«За годам год»* — гл. камент. да выступлення «Дыхание истории» (с. 781).

*«Іду ў жыццё»* — гл. камент. да выступлення «Дыхание истории» (с. 781).

*«Незамужняя ўдава»* — аповесць, напісаная ў 1963—1964 гг.

*«Таццяна Ларына»* — аповесць, напісаная ў 1962 г.

*«Вікторыя»* — аповесць, напісаная ў 1965 г.

*«Жанчына»* — раман, напісаны ў 1963 г.

*«Пасля паводкі»* — аповесць, напісаная ў 1962 г.

*«З табою побач»* — аповесць, напісаная ў 1956—1959 гг.

*«Над намі мільён вышыні»* — аповесць, напісаная ў 1965 г.

*...«Экзамен» і «Ларыса»...* — аповесці, напісаныя адпаведна ў 1963-м і 1964-м гг.

*«Салігорскія эцюды»* — цыкл апавяданняў, напісаны ў 1963 г.

*«Расце мята пад акном»* — аповесць, напісаная ў 1965 г.

*«Лёнька Гром»* — аповесць, напісаная ў 1961 г.

С. 304—305:

*«Хлопцы з другога корпуса»* — аповесць, напісаная ў 1963 г.

С. 305:

*«Працяг размовы»* — зборнік выйшаў у 1962 г.

*«Жменя сонечных промняў»* — зборнік выйшаў у 1965 г.

С. 306:

*«За акіянам»* — зборнік выйшаў у 1962 г.

*«Чакай у далёкіх Грынях»* — раман, напісаны ў 1960 г.

*«Алені»* — апавяданне, напісанае ў 1962 г.

*...У апавяданні «Дзік-бадзяга», аповесці «Пакуль не развіднела»...* — апавяданне напісана ў 1963 г., аповесць — у 1965 г.

С. 307:

*«Міг бліскавіцы»* — зборнік выйшаў у 1965 г.

*«Блакітны вецер»* — апавяданне, напісанае ў 1960 г.

*«Свет Іванавіч, былы Дон-Жуан»* — апавяданне, напісанае ў 1965 г.

*«Птушкі ляцяць на волю»* — зборнік выйшаў у 1965 г.

*...«Бульба», «Па дарозе дамоў», «Праз гады», «Ці бываюць у выраі ластаўкі?»...* — апавяданні «Бульба» і «Па дарозе дамоў» напісаны ў 1963 г., «Праз гады» — у 1961 г., «Ці бываюць у выраі ластаўкі?» — у 1964 г.

С. 308:

*«Нельга забыць»* — раман, напісаны ў 1962 г.

*«Сівая легенда»* — аповесць, напісаная ў 1961 г.

*«Каласы пад сярпом тваім»* — раман, напісаны ў 1965 г.

*...паўстанне Кастуся Каліноўскага.*— паўстанне 1863—1864 гг. у Польшчы, Беларусі і Літве — нацыянальна-вызваленчае паўстанне за аднаўленне Рэчы Паспалітай у межах 1772 г. Адзін з кіраўнікоў — К. Каліноўскі.

*Надрукаваны толькі часопісны, скарочаны варыянт першай кнігі рамана...* — маецца на ўвазе публікацыя ў часоп. «Полымя» (1965. № 2—6).

*...завяршыў ваенную дылогію.*— гл. камент. да выступлення «Дыхание истории» (с. 781).

*«Твой шлях перад табою»* — аповесць, напісаная ў 1965 г.

*«Нямігі крывавыя берагі»...* — гл. камент. да выступлення «Дыхание истории» (с. 781).

С. 309:

*«Здрада»* — аповесць, напісаная ў 1961 г.

*«Мёртвым не баліць»* — аповесць, напісаная ў 1965 г.

*«Выпрабаванне»* — раман, напісаны ў 1957 г.

*...аповесцю «Былое застаецца ў сэрцы» завяршаецца трылогія...* — гл. камент. да выступлення «Дыхание истории» (с. 781).

*«Сарочы лес»* — аповесць, напісаная ў 1965 г.

*...«Руіны страляюць ва ўпор» і «Дарогі скрыжаваліся ў Мінску»...* — аповесці, напісаныя адпаведна ў 1960—1961-м і 1964-м гг.

*«Векапомныя дні»* — раман, напісаны ў 1958 г.

*«Глыбокая плынь»* — гл. камент. да інтэрв'ю «Пад сцягам сацыялістычнага рэалізму» (с. 688).

*«Згуртаванасць»* — раман, напісаны ў 1950 г.

*...«Братэрства» і «Рэха ў гарах»...* — аповесці, напісаныя адпаведна ў 1948-м і 1951-м гг.

С. 310:

*...«звычайнага» фашызму...* — алюзія на назву дакументальнага фільма М. Рома (1901—1971) «Звычайны фашызм» (1965); Фашызм — гл. камент. да інтэрв'ю «Пад сцягам сацыялістычнага рэалізму» (с. 687).

*«Вогненны азімут»* — раман, напісаны ў 1965 г.

С. 310—311:

*Выйшлі партызанскія ўспаміны Мачульскага, Вятрова, Лабанка, Калініна, Ваўпшасава, Раманава, Цябута.*— маюцца на ўвазе кнігі Р. Мачульскага «Вечны агонь» (1965), І. Вятрова «Браты па зброі» (1965), У. Лабанка «У баях за Радзіму» (1959, 1961, 1964), П. Калініна «Партызанская рэспубліка» (1964), С. Ваўпшасава «Партызанская хроніка» (1959, 1961), А. Раманава «На зямлі няскоранай» (1962), Д. Цябута «Праз агонь» (1968).

*...50-годдзя Кастрычніка...* — гл. камент. да верша «Бывай, наш паэце...» (с. 673).

## 1969

### Рассказ — тоже открытие (с. 312)

Друкуецца паводле часоп. «Вопросы литературы», 1969, № 7, дзе ўпершыню апублікавана пад рубрыкай «Мастерство писателя».

Перад тэкстам: Иван Науменко. Пад тэкстам: г. Минск.

Выступленне на сустрэчы за круглым сталом, якую арганізавала рэдакцыя часоп. «Вопросы литературы» з мэтай абмеркавання стану сучаснага апавядання.

С. 312:

*...газета «Літаратура і мастацтва» провела дискуссию по проблеме современного рассказа.*— дыскусія пачалася на старонках газеты 28 сак. 1969 г., 18 чэрв. яе вынікі былі падведзены на пасяджэнні прэзідыума СП Беларусі.

*...в «химию» факта...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Как земля поет…» (с. 705).

*...преподавателем литературы в университете...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Я — за рамантыку» (с. 676).

С. 313:

*...дореволюционными рассказами...* — апавяданнямі, напісанымі да Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 г.

*...белорусов-полешуков...* — палешукі — жыхары Палесся — гл. камент. да інтэрв'ю «Ісці ўслед за бягучым днём…» (с. 677).

*...Октябрем...* — гл. камент. да верша «Бывай, наш паэце...» (с. 673).

С. 315:

*Первые рассказы появились в 1954—1955 годах.*— гл. камент. да інтэрв'ю «Я — за рамантыку» (с. 675).

*В атмосфере тех лет...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Літаратура — гэта самапазнанне» (с. 693).

## 1976

### За імклівым днём сучаснасці (с. 316)

Друкуецца паводле Зб. тв., 1983, т. 6, дзе ўпершыню апублікавана.

Пад тэкстам: 1977 (год пазначаны памылкова, насамрэч 1976).

Выступленне на VII з'ездзе пісьменнікаў БССР, які праходзіў 11—12 мая 1976 г. у Мінску.

У БДАМЛМ, у асабістым архіве І. Навуменкі, захоўваюцца: машынапіс № 1 выступлення з аўтарскімі праўкамі без назвы і даты (ф. 495, воп. 1, адз. зах. 190, арк. 1—7); чарнавы аўтограф выступлення без назвы і даты (ф. 495, воп. 1, адз. зах. 190, арк. 8—21); машынапіс № 2 з аўтарскімі праўкамі пад назвай «Прамова на VII з'ездзе пісьменнікаў БССР» без даты (ф. 495, воп. 1, адз. зах. 190, арк. 22—26).

С. 316:

*II з'езд пісьменнікаў Беларусі* — II з'езд пісьменнікаў Беларусі адбыўся 20—23 чэрв. 1949 г. у Мінску.

С. 317:

*Васілевічы* — гл. камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 683).

*...буравыя вышкі, з зямных нетраў у тых мясцінах цячэ нафта...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 684).

*Мой бацька* — Я. П. Навуменка.

*...дзед...* — П. А. Навуменка.

*Трактар ДТ-54* — савецкі гусенічны сельскагаспадарчы трактар агульнага прызначэння. Выпускаўся з 1949 па 1963 г. Сталінградскім трактарным заводам, з 1949 па 1961 г. Харкаўскім трактарным заводам, з 1952 па 1979 г. Алтайскім трактарным заводам.

С. 318:

*І ў эпоху навукова-тэхнічнай рэвалюцыі...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Пад сцягам сацыялістычнага рэалізму» (с. 686—687).

С. 320:

*...XXV з'езда КПСС...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Пад сцягам сацыялістычнага рэалізму» (с. 686).

## [Уважаемые товарищи!..] (с. 320)

Друкуецца паводле зб. «Шестой съезд писателей СССР», 1978, дзе ўпершыню апублікавана.

Перад тэкстам: И. Науменко.

Выступленне на VI з'ездзе пісьменнікаў СССР, які праходзіў 21—25 чэрв. 1976 г. у Маскве.

С. 321:

*...«Люди на болоте» и «Дыхание грозы»...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Пад сцягам сацыялістычнага рэалізму» (с. 688).

*«Плач перепелки»* — гл. камент. да інтэрв'ю «Пад сцягам сацыялістычнага рэалізму» (с. 688).

*«Мстижи»* — гл. камент. да інтэрв'ю «Пад сцягам сацыялістычнага рэалізму» (с. 688).

С. 322:

*...веремейковцы...* — жыхары вёскі Верамейкі, у якой адбываюцца падзеі рамана І. Чыгрынава «Плач перапёлкі».

С. 323:

*«Атланты и кариатиды»* — гл. камент. да інтэрв'ю «Пад сцягам сацыялістычнага рэалізму» (с. 688).

*«Человек со стороны»* — п'еса, напісаная ў 1971 г.

*НТР* — гл. камент. да інтэрв'ю «Пад сцягам сацыялістычнага рэалізму» (с. 686—687).

С. 324:

*«Краснокрылый вещун»* — паэма, напісаная ў 1923 г.

*...Октябрьской революцией...* — гл. камент. да верша «Бывай, наш паэце...» (с. 673).

*...в «Новой книге»...* — зборнік «Новая кніга» выйшаў у 1964 г.

*...«Далеко до океана», «Варшавский шлях»...* — паэмы, напісаныя адпаведна ў 1969—1971-м і 1972-м гг.

С. 325:

*...повесть которого «В заводском районе» напечатана в «Новом мире».*— аповесць «Заводскі раён» (1973) надрукавана ў часоп. «Новый мир» (1973. № 7-8).

*«Врата бессмертия»* — п'еса, напісаная ў 1972 г.

*«Таблетку под язык»* — п'еса, напісаная ў 1972 г.

## [Таварышы дэпутаты!..] (с. 325)

Друкуецца паводле машынапісу (БДАМЛМ, ф. 495, воп. 1, адз. зах. 189, арк. 1—5).

Выступленне на сесіі Мінскага абласнога Савета дэпутатаў.

С. 325:

*...партыі...* — маецца на ўвазе КПСС — гл. камент. да інтэрв'ю «Ісці ўслед за бягучым днём…» (с. 678).

*...развітога сацыялізму...* — сацыялізм — гл. камент. да інтэрв'ю «Пад сцягам сацыялістычнага рэалізму» (с. 688); развіты сацыялізм — найвышэйшая стадыя развіцця сацыялізму, аб дасягненні якой у СССР заявілі ў 2-й пал. 1960-х гг.

*Саюз пісьменнікаў БССР* — гл. камент. да інтэрв'ю «Пад сцягам сацыялістычнага рэалізму» (с. 688—689).

С. 326:

*У вёсцы Ліцвяны праведзен вечар памяці Пятра Глебкі...* — літаратурны вечар, прысвечаны 70-годдзю з дня нараджэння пісьменніка, прайшоў 11 ліп. 1975 г.; Ліцвяны — вёска ва Уздзенскім раёне Мінскай вобл., недалёка ад яе знаходзіцца вёска Вялікая Уса, дзе нарадзіўся Пятро Глебка.

*...у Цімкавічах прайшоў юбілейны вечар, прысвечаны сямідзесяціпяцігоддзю Кузьмы Чорнага.*— літаратурны вечар адбыўся 4 ліп. 1975 г.; Цімкавічы — вёска ў Капыльскім раёне Мінскай вобл., дзе прайшлі дзіцячыя гады Кузьмы Чорнага.

*...ва Уздзе адзначалася васьмідзесяцігоддзе з дня нараджэння народнага пісьменніка Беларусі Кандрата Крапівы...* — урачысты сход адбыўся 16 крас. 1976 г.; Узда — горад, адміністрацыйны цэнтр Уздзенскага раёна Мінскай вобл. У вёсцы Нізок на Уздзеншчыне нарадзіўся Кандрат Крапіва.

С. 327:

*...у абласной бібліятэцы імя Пушкіна...* — Мінская абласная бібліятэка імя А. С. Пушкіна — адна з найстарэйшых бібліятэк Беларусі. Заснавана ў 1899 г. як гарадская публічная бібліятэка ў сувязі са 100-годдзем з дня нараджэння А. С. Пушкіна. Адкрыта 25 снеж. 1900 г. У 1938 г. атрымала статус абласной.

*...на XXVIII з'ездзе КПБ...* — XXVIII з'езд КПБ адбыўся 4—6 лют. 1976 г. у Мінску.

С. 328:

*...XXV з'езда нашай партыі* — гл. камент. да інтэрв'ю «Пад сцягам сацыялістычнага рэалізму» (с. 686).

*Супрацоўнікі Інстытута літаратуры АН БССР, у якім я працую...* — гл. камент. да інтэрв'ю «У беларускіх літаратуразнаўцаў» (с. 679—680).

*...Вялікага Кастрычніка...* — гл. камент. да верша «Бывай, наш паэце...» (с. 673).

*«Блакада»* (1973—1977) — савецкая мастацкая кінаэпапея пра Вялікую Айчынную вайну, якая складаецца з чатырох фільмаў. Знята па аднайменным рамане А. Чакоўскага (1913—1994) рэжысёрам М. Яршовым (1924—2004). Першыя два фільмы (1974) выйшлі на экраны ў 1975 г., трэці і чацвёрты фільмы (1977) — у 1978 г.

*«Прэмія»* (1974) — мастацкі фільм С. Мікаэляна (1923—2016).

*«Не пакідай мяне адну»* (1975) — егіпецкі мастацкі фільм Х. аль Імама (1919—1988).

*«Бобі»* (1973) — індыйскі мастацкі фільм Р. Капура (1924—1988).

## 1978

### Праблемы развіцця літаратуры ў эпоху сучаснага навукова-тэхнічнага прагрэсу (с. 329)

Друкуецца паводле брашуры «Праблемы развіцця літаратуры ў эпоху сучаснага навукова-тэхнічнага прагрэсу», 1978.

Выступленне на VIII Міжнародным з'ездзе славістаў, які праходзіў 3—9 верас. 1978 г. у Заграбе і Любляне.

С. 329:

*...Кастрычніцкай рэвалюцыі...* — гл. камент. да верша «Бывай, наш паэце...» (с. 673).

*...грамадзянскай вайны...* — грамадзянская вайна 1918—1922 гг.— узброеная барацьба паміж праціўнікамі савецкай улады і яе абаронцамі ў Расіі.

*...пераважна ў плане «маладнякоўскіх» дэкларацый...* — маецца на ўвазе творчасць прадстаўнікоў «Маладняка» — літаратурнага аб'яднання пісьменнікаў БССР, якое дзейнічала з лістап. 1923 да лістап. 1928 г.

*У гады першай пяцігодкі...* — маецца на ўвазе першы пяцігадовы план развіцця народнай гаспадаркі СССР (1928—1932).

С. 330:

*...з аднайменнага купалаўскага верша...* — верш «Алеся» напісаны ў 1935 г.

*«Хлопчык і лётчык»* — верш, напісаны ў 1935 г.

*«Андрэй Лятун»* — апавяданне, напісанае ў 1928 г.

С. 331:

*«Трэцяе пакаленне»* — гл. камент. да выступлення «Сем гадоў пошукаў і здзяйсненняў» (с. 783).

*«Вязьмо»* — раман, напісаны ў 1932 г.

*...калектывізацыяй...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Из реки по имени факт» (с. 715).

*...развітога сацыялізму...* — гл. камент. да выступлення [Таварышы дэпутаты!..] (с. 790).

*...навукова-тэхнічнай рэвалюцыі...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Пад сцягам сацыялістычнага рэалізму» (с. 686—687).

*Трактар ДТ-54* — гл. камент. да выступлення «За імклівым днём сучаснасці» (с. 788).

С. 332:

*«Фаўст і смерць»* — п'еса, напісаная ў 1960 г.

С. 332—333:

*...«Людзі на балоце» і «Подых навальніцы»...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Пад сцягам сацыялістычнага рэалізму» (с. 688).

С. 333:

*...палескай...* — Палессе — гл. камент. да інтэрв'ю «Ісці ўслед за бягучым днём…» (с. 677).

*«Плач перапёлкі»* — гл. камент. да інтэрв'ю «Пад сцягам сацыялістычнага рэалізму» (с. 688).

*«Мсціжы»* — гл. камент. да інтэрв'ю «Пад сцягам сацыялістычнага рэалізму» (с. 688).

*...«Палескай хронікі»...* — трылогія, якую склалі раманы «Людзі на балоце», «Подых навальніцы» і «Завеі, снежань» — гл. камент. да інтэрв'ю «Пад сцягам сацыялістычнага рэалізму» (с. 688).

С. 334:

*...верамейкаўцы...* — гл. камент. да выступлення [Уважаемые товарищи!..] (с. 789).

С. 335:

*...старажытных грэкаў...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Размова на парозе пяцідзесяцігоддзя» (с. 685).

*...маральны кодэкс будаўнікоў камунізму...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Из реки по имени факт» (с. 712).

*...антычныя часы...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Из реки по имени факт» (с. 712).

С. 336:

*«Камунізм — гэта ёсць савецкая ўлада плюс электрыфікацыя ўсёй краіны»* — цытата з прамовы У. І. Леніна «Наша знешняе і ўнутранае становішча і задачы партыі» на Маскоўскай губернскай канферэнцыі РКП(б) 21 лістап. 1920 г.

*...«Першую гутарку з трактарыстам Анісам»...* — верагодна, маецца на ўвазе верш «Першая стрэча з трактарыстам Анісам» (1931).

С. 338:

*...пасля XXIV—XXV з'ездаў КПСС...* — XXIV з'езд КПСС праходзіў з 30 сак. па 9 крас. у Маскве; XXV з'езд КПСС — гл. камент. да інтэрв'ю «Пад сцягам сацыялістычнага рэалізму» (с. 686).

*...пісаў Карл Маркс у «Святым сямействе»...* — «Святое сямейства, альбо Крытыка крытычнай крытыкі. Супраць Бруна Баўэра і кампаніі» (1844) — першая сумесная праца К. Маркса і Ф. Энгельса.

С. 339:

*«Здабудзеш у баі»* — раман, напісаны ў 1969 г.

*«Марыя»* — п'еса, напісаная ў 1969 г.

*«Чалавек з боку»* — гл. камент. да выступлення [Уважаемые товарищи!..] (с. 789).

*«Сталявары»* — п'еса, напісаная ў 1972 г.

*«Дзень-дзяньскі»* — п'еса, напісаная ў 1974 г.

*«Надвор'е на заўтра»* — п'еса, напісаная ў 1974 г.

*«Атланты і карыятыды»* — гл. камент. да інтэрв'ю «Пад сцягам сацыялістычнага рэалізму» (с. 688).

*«У заводскім раёне»* — гл. камент. да інтэрв'ю «Пад сцягам сацыялістычнага рэалізму» (с. 688).

С. 340:

*...Героя Сацыялістычнай Працы В. М. Кавуна, які доўгі час узначальваў славуты на Украіне калгас імя XXII з'езда КПСС.*— Герой Сацыялістычнай Працы — найвышэйшае званне ў СССР з 1938 па 1991 г., найвышэйшая ступень адзнакі за працу; В. М. Кавун узначальваў калгас імя XXII з'езда КПСС у сяле Шляхава Бершадскага раёна Вінніцкай вобл. (Украіна) у 1958—1970 гг.

С. 341:

*...Рэнесансу...* — Рэнесанс (Адраджэнне) — эпоха ў гісторыі еўрапейскай культуры, пераходная ад сярэдневякоўя да Новага часу (XIV — 1-я пал. XVII ст.).

*Кёльнскі сабор* (сабор Санкт-Петэр-унд-Марыя) — помнік архітэктуры нямецкай готыкі XIII—XIX стст., адзін з найбуйнейшых гатычных сабораў у Еўропе. Пабудаваны ў Кёльне (Германія) на ўзор Ам'енскага сабора (Ам'ен, Францыя).

*Пантэон* — «храм усіх багоў» у Рыме, помнік архітэктуры Старажытнага Рыма. Узведзены каля 118—125 гг. (арх. Апаладор з Дамаска) пры імператары Адрыяне на месцы аднайменнага храма часоў імператара Агрыпы (27 г. да н. э.).

*...Сярэдневякоўя...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Время думать о своей культуре и языке» (с. 756).

С. 342:

*«Узнятая цаліна»* — гл. камент. да інтэрв'ю «Час абуджае думку творцаў» (с. 732).

*«Соць»* — раман, напісаны ў 1930 г.

*«Цэмент»* — раман, напісаны ў 1922—1924 гг.

*«Танкер "Дэрбент"»* — аповесць, напісаная ў 1938 г.

С. 343:

*«Снежныя зімы»* — гл. камент. да інтэрв'ю «Пад сцягам сацыялістычнага рэалізму» (с. 688).

С. 345:

*«Іду на навальніцу»* — раман, напісаны ў 1962 г.

С. 346:

*«Індустрыяльная балада»* — раман, напісаны ў 1973 г.

*«Чырванакрылы вяшчун»* — гл. камент. да выступлення [Уважаемые товарищи!..] (с. 789).

С. 347:

*...ў «Новай кнізе» А. Куляшова, у яго паэмах «Далёка ад акіяна», «Варшаўскі шлях»...* — гл. камент. да выступлення [Уважаемые товарищи!..] (с. 789).

С. 349:

*«Брама неўміручасці»* — гл. камент. да выступлення [Уважаемые товарищи!..] (с. 789).

*«Зацюканы апостал»* — п'еса, напісаная ў 1969 г.

*«Таблетку пад язык»* — гл. камент. да выступлення [Уважаемые товарищи!..] (с. 789).

*...у творчай практыцы драматурга...* — гаворка ідзе пра Кандрата Крапіву.

*«Хто смяецца апошнім»* — п’еса, напісаная ў 1939 г.

## 1981

### [Паважаныя таварышы!..] (с. 350)

Друкуецца паводле машынапісу (БДАМЛМ, ф. 495, воп. 1, адз. зах. 198, арк. 1—5).

Выступленне на гадавым сходзе аддзялення грамадскіх навук АН БССР.

С. 350:

*Інстытут літаратуры імя Янкі Купалы* — гл. камент. да інтэрв’ю «У беларускіх літаратуразнаўцаў» (с. 679—680).

*...беларускай дакастрычніцкай літаратуры...* — гл. камент. да інтэрв’ю «У беларускіх літаратуразнаўцаў» (с. 680).

*...сацыялістычнага рэалізму...* — гл. камент. да інтэрв’ю «У беларускіх літаратуразнаўцаў» (с. 680).

*...І. Мележа ў 10 тамах, М. Лынькова — у 8...* — гл. камент. да інтэрв’ю «У задуме: новы раман» (с. 698), «Пад сцягам сацыялістычнага рэалізму» (с. 687).

*...М. Гарэцкага — у 4, П. Пестрака — у 5.*— Зб. тв. М. Гарэцкага ў 4 т. выходзіў у 1984—1986 гг., П. Пестрака ў 5 т.— у 1984—1986 гг.

*...аддзялення грамадскіх навук...* — гл. камент. да інтэрв’ю «Навукі крокі сажнёвыя» (с. 723).

*...адзначыць 100-гадовыя юбілеі класікаў беларускай літаратуры Янкі Купалы і Якуба Коласа.*— гл. камент. да інтэрв’ю «У задуме: новы раман» (с. 698).

*...дзве вялікія манаграфіі, у якіх з улікам новых фактаў, даследаванняў прасочан жыццёвы і творчы шлях вялікіх беларускіх пісьменнікаў.*— верагодна, маюцца на ўвазе манаграфіі Ю. Пшыркова «Летапісец свайго народа: жыццёвы і творчы шлях Я. Коласа» (1982) і М. Яроша «Пясняр роднай зямлі: жыццё і творчасць Я. Купалы» (1982).

*...два аб’ёмныя зборнікі дакументаў, якія датычаць жыцця, творчасці Купалы і Коласа...* — верагодна, маюцца на ўвазе

кнігі «Пуцявінамі Янкі Купалы: дакументы і матэрыялы» (1981), «З жыццяпісу Якуба Коласа: дакументы і матэрыялы» (1982).

С. 351:

*...500-гадоваму юбілею Мікалая Гусоўскага і 300-гадоваму — Сімяона Полацкага.*— у 1980 г. адзначалася 500-годдзе з дня нараджэння М. Гусоўскага і 300-годдзе з дня смерці С. Полацкага.

*...Інстытутам сусветнай літаратуры імя Горкага.*— гл. камент. да анкеты «Итоги, перспективы, задачи» (с. 774).

*...500-гадовага юбілею з дня нараджэння вялікага асветніка і гуманіста Францыска Скарыны...* — 500-годдзе з дня нараджэння Ф. Скарыны адзначалася ў 1990 г.

*...Акадэміі навук БССР...* — гл. камент. да інтэрв’ю «У беларускіх літаратуразнаўцаў» (с. 680).

С. 352:

*...«Гісторыю беларускай літаратуры» на рускай мове...* — гл. камент. да інтэрв’ю «У беларускіх літаратуразнаўцаў» (с. 681).

*...сталі лаўрэатамі Дзяржаўнай прэміі БССР.*— гл. камент. да інтэрв’ю «Прэмія абавязвае» (с. 678), «Шляхам перамог — шляхам набыткаў» (с. 703).

С. 353:

*Восем гадоў назад, калі я прыйшоў у Інстытут літаратуры...* — гл. камент. да інтэрв’ю «У беларускіх літаратуразнаўцаў» (с. 680), да анкеты «Наперадзе шмат работы» (с. 778).

С. 354:

*...XXVI з’езду КПСС...* — XXVI з’езд КПСС праходзіў з 23 лют. па 3 сак. 1981 г. у Маскве.

*...камунізму...* — гл. камент. да інтэрв’ю «Новыя героі, новыя праблемы» (с. 673).

## [Единство литератур народов СССР...] (с. 354)

Друкуецца паводле зб. «Седьмой съезд писателей СССР», 1983, дзе ўпершыню апублікавана.

Перад тэкстам: И. Науменко.

Выступленне на VII з’ездзе пісьменнікаў СССР, які праходзіў з 30 чэрв. па 4 ліп. 1981 г. у Маскве.

С. 354:

*СССР* — гл. камент. да інтэрв’ю «Ісці ўслед за бягучым днём...» (с. 678).

*Октябрьская социалистическая революция* — гл. камент. да верша «Бывай, наш паэце...» (с. 673).

*...доклад В. Озерова...* — маецца на ўвазе даклад «Шматнацыянальнае адзінства савецкай літаратуры і задачы літаратурнай крытыкі», з якім выступіў на з'ездзе В. Озераў.

*XXVI съезд ленинской партии...* — гл. камент. да *выступлення* [Паважаныя таварышы!..] (с. 796).

С. 355:

*ЦК КПСС* — гл. камент. да інтэрв'ю «Існі ўслед за бягучым днём…» (с. 678), «Пад сцягам сацыялістычнага рэалізму» (с. 686).

*...развитого социализма...* — гл. камент. да выступлення [Таварышы дэпутаты!..] (с. 790).

С. 356:

*Институт литературы имени Янки Купалы, в котором я работаю, осуществил недавно издание 14-томного собрания сочинений Якуба Коласа и 7-томного — Янки Купалы.*— гл. камент. да інтэрв'ю «У беларускіх літаратуразнаўцаў» (с. 680, 681).

*Эти третьи по счету за послевоенное время подписные издания...* — раней выйшлі два Зб. тв. Янкі Купалы ў 6 т.— у 1952—1954 і 1961—1963 гг., а таксама Зб. тв. Якуба Коласа ў 7 т. (1952) і Зб. тв. Якуба Коласа ў 12 т. (1961—1964).

С. 357:

*...роман В. Астафьева «Царь-рыба»* — аповесць, напісаная ў 1976 г.

*«Пуща»* — гл. камент. да інтэрв'ю «Літаратура — гэта самапазнанне» (с. 696).

*...«Целина» («Неруш»)...* — раман, напісаны ў 1981 г.

С. 358:

*...Ленинграда...* — гл. камент. да п'есы «Птушкі між маланак» (с. 667).

*Фашизм* — гл. камент. да інтэрв'ю «Пад сцягам сацыялістычнага рэалізму» (с. 687).

С. 359:

*...постановления ЦК КПСС «О литературно-художественной критике»...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Існі ўслед за бягучым днём…» (с. 678).

*...награжденный недавно орденом «Дружбы народов»...*— гл. камент. да інтэрв'ю «Шляхам перамог — шляхам набыткаў» (с. 702—703).

*«Взаимодействие и взаимообогащение»* — гл. камент. да інтэрв'ю «Літаратура — гэта самапазнанне» (с. 696).

*«Страницы братской дружбы»* — зборнік літаратурна-крытычных артыкулаў (1960) С. Александровіча.

*«Творческое содружество»* — верагодна, маецца на ўвазе кніга «Садружнасць літаратур» — гл. камент. да анкеты «Итоги, перспективы, задачи» (с. 775).

С. 360:

*...двухтомную «Историю белорусской литературы» на русском языке, удостоенную Государственной премии БССР.*— гл. камент. да інтэрв'ю «У беларускіх літаратуразнаўцаў» (с. 681), «Прэмія абавязвае» (с. 678), «Шляхам перамог — шляхам набыткаў» (с. 703).

## 1982

### [Дарагія таварышы!] (с. 360)

Друкуецца паводле машынапісу (БДАМЛМ, ф. 495, воп. 1, адз. зах. 201, арк. 1—6).

Выступленне на ўрачыстым вечары, прысвечаным 70-годдзю Максіма Танка.

С. 360:

*Сёння мы адзначаем сямідзесяцігоддзе...* — 17 верас. 1982 г.

*...лаўрэата Ленінскай і Дзяржаўных прэмій СССР і БССР...*— Ленінская прэмія — у СССР адна з найвышэйшых формаў заахвочвання грамадзян за найбольш буйныя дасягненні ў галіне навукі, тэхнікі, літаратуры, мастацтва і архітэктуры. Заснавана 23 чэрв. 1925 г. З 1935 па 1957 г. не прысуджалася. З 1957 г. прэміі прысуджаліся штогод да дня нараджэння У. І. Леніна — 22 крас., з 1967 г.— раз у два гады, па цотных гадах; Дзяржаўная прэмія СССР — штогадовая дзяржаўная прэмія, заснаваная ў 1966 г. Уручалася з 1967 па 1991 г. у гадавіну Кастрычніцкай рэвалюцыі за выдатныя творчыя дасягненні ў галіне навукі і тэхнікі, літаратуры і мастацтва. З'яўлялася пераемніцай Сталінскай прэміі, якая прысуджалася ў 1941—1954 гг.; Дзяржаўная прэмія БССР — гл. камент. да інтэрв'ю «Прэмія абавязвае» (с. 678); Максім Танк быў узнагароджаны Ленінскай прэміяй у 1978 г. за кнігу паэзіі «Нарачанскія

сосны» (1972), Дзяржаўнай прэміяй СССР — у 1948 г. за зборнік «Каб ведалі» (1948), Дзяржаўнай прэміяй БССР імя Янкі Купалы — у 1966 г. за зборнік «Мой хлеб надзённы» (1962).

*...Героя Сацыялістычнай Працы...* — гл. камент. да выступлення «Праблемы развіцця літаратуры ў эпоху сучаснага навукова-тэхнічнага прагрэсу» (с. 793).

*...дэпутата Вярхоўнага Савета СССР...* — Максім Танк (Я. І. Скурко) быў дэпутатам Вярхоўнага Савета СССР у 1969—1989 гг.

*...Парнаса...* — Парнас *(перан.)* — садружнасць паэтаў; паходзіць ад назвы гары ў Грэцыі, на якой, паводле старажытных грэкаў, жылі Апалон і музы.

С. 361:

*...ў Львове...* — Львоў — горад ва Украіне, цэнтр Львоўскай вобласці. З 1919 да верас. 1939 г. быў у складзе Польшчы.

*«Заштрайкавалі гіганты-коміны»* — верш, напісаны ў 1932 г.

*...Заходняй Беларусі...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Я — за рамантыку» (с. 676).

*...даверасн ёўскіх вершаў...* — маюцца на ўвазе вершы, напісаныя да верас. 1939 г., часу ўз'яднання БССР і Заходняй Беларусі.

*...быў камсамольскім работнікам...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Я — за рамантыку» (с. 676).

*...ЦК камсамола і Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі...* — Камуністычны саюз моладзі Заходняй Беларусі (КСМЗБ) — нелегальная камуністычная арганізацыя моладзі Заходняй Беларусі ў 1924—1938 гг. Існаваў як тэрытарыяльная аўтаномная частка Камуністычнага саюза моладзі Польшчы; Камуністычная партыя Заходняй Беларусі (КПЗБ) створана ў кастр. 1923 г. на канферэнцыі Беластоцкага, Брэсцкага і Віленскага акруговых камітэтаў Камуністычнай рабочай партыі Польшчы (з лют. 1925 г.— Камуністычная партыя Польшчы (КПП)). Функцыянавала да жн. 1938 г. на правах тэрытарыяльна-аўтаномнай арганізацыі КПП; ЦК (Цэнтральны камітэт) — вышэйшы кіруючы орган КСМЗБ і КПЗБ.

*...сядзеў у турмах.*— за ўдзел у падпольнай дзейнасці ў Заходняй Беларусі Максім Танк правёў у турмах з перапынкамі каля двух гадоў.

*...зборнікі вершаў паэта «Каб ведалі», «На камні, жалезе і золаце», «След бліскавіцы», «Мой хлеб надзённы», «Дарога, закалыханая жытам», «Прайсці праз вернасць».*— зборнікі выйшлі адпаведна ў 1948, 1951, 1957, 1962, 1976 і 1979 г.

*...завецца Нарачанскім краем, Мядзельшчынай, вёсачкай Пількаўшчынай...* — Нарач — найбольшае возера ў Беларусі, у Мядзельскім раёне Мінскай вобл., у басейне ракі Вілія, на Нарачанска-Вілейскай нізіне; Пількаўшчына — вёска ў Мядзельскім раёне, радзіма Максіма Танка.

С. 362:

*...сацыялізму і камунізму...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Пад сцягам сацыялістычнага рэалізму» (с. 688), «Новыя героі, новыя праблемы» (с. 673).

С. 363:

*«Матыль»* — верш, напісаны ў 1937 г.

*«Ave Maria»* — верш, напісаны ў 1957 г.

*«Журавінавы цвет»* — паэма, напісаная ў 1937 г.

*«Кастусь Каліноўскі»* — паэма «Каліноўскі» напісана ў 1938 г.

*«Нарач»* — паэма, напісаная ў 1937 г.

*...ужо колькі гадоў паспяхова вядзе наш пісьменніцкі рэй.*— з 1967 па 1990 г. Максім Танк быў старшынёй праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі.

*...ордэнам Леніна...* — ордэн Леніна — найвышэйшая дзяржаўная ўзнагарода СССР. Заснаваны пастановай Прэзідыума ЦВК СССР ад 6 крас. 1930 г.

С. 364:

*ЦК КПСС* — гл. камент. да інтэрв'ю «Пад сцягам сацыялістычнага рэалізму» (с. 686).

*...Вярхоўнага Савета БССР...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Час абуджае думку творцаў» (с. 731).

*ЦК КПБ* — гл. камент. да інтэрв'ю «Літаратура — гэта самапазнанне» (с. 696).

*...Саюза пісьменнікаў СССР...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Ісці ўслед за бягучым днём…» (с. 678).

*...Саюза пісьменнікаў Літвы...* — Саюз пісьменнікаў Літвы — арганізацыя прафесійных літаратараў Літвы. Створаны ў кастр. 1945 г. як Саюз савецкіх пісьменнікаў Літоўскай ССР, пазней стаў называцца Саюзам пісьменнікаў Літоўскай ССР. З 1989 г.— Саюз пісьменнікаў Літвы.

*...з Ленінграда...* — гл. камент. да п'есы «Птушкі між маланак» (с. 667).

С. 365:

*...Саюза пісьменнікаў Малдавіі...* — Саюз пісьменнікаў Малдавіі — грамадская творчая арганізацыя прафесійных літара-

тараў Малдаўскай ССР. Створаны ў крас. 1927 г. як Саюз малдаўскіх савецкіх пісьменнікаў «Рэсэрытул» («Усход»). З 1991 г.— Саюз пісьменнікаў Малдовы.

## 1983

### Творчество Янки Купалы и Якуба Коласа в контексте славянских литератур (с. 365)

Друкуецца паводле брашуры «Творчество Янки Купалы и Якуба Коласа в контексте славянских литератур», 1983.

Выступленне на IX Міжнародным з'ездзе славістаў, які праходзіў 6—14 верас. 1983 г. у Кіеве.

С. 366:

*«Селянка»* («Ідылія») — камедыя-опера (опера ў двух актах), напісаная ў 1842—1844 гг.

*...«Барышню-крестьянку»...* — «Паненка-сялянка» — аповесць, напісаная ў 1830 г., уваходзіць у цыкл «Аповесці нябожчыка Івана Пятровіча Белкіна» (1830).

*...«идиллий-селянок»...* — «сялянка» — ідылічны жанр у польскай літаратуры. Уведзены ў літаратурны ўжытак паэтам Ш. Шымановічам (1558—1629) цыклам ідылій «Сялянкі» (1614), у якіх антычная спадчына зліваецца з паэзіяй народа, апісваецца паўсядзённае жыццё простых людзей, перадаецца мясцовы каларыт.

*...оставил перевод на белорусский язык нескольких глав «Пана Тадеуша» А. Мицкевича...* — «Пан Тадэвуш» — паэма, напісаная ў 1834 г.; пераклад на беларускую мову «Пана Тадэвуша», зроблены В. Дуніным-Марцінкевічам у 1850-я гг., быў забаронены царскай цэнзурай. Захаваўся пераклад толькі дзвюх першых «быліц» паэмы, выдадзены ў 1859 г. у Вільні лацінкай.

С. 367:

*...первой русской революции...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Время думать о своей культуре и языке» (с. 756).

*...«людьми зваться»...* — выраз з верша Янкі Купалы «А хто там ідзе?» (1905—1907).

С. 368:

*...с музой «мести и печали»...* — выраз з верша М. Някрасава «Замолкни, Муза мести и печали!..» (1855).

*...украинского Кобзаря...* — Т. Шаўчэнкі.

*...знал наизусть «Полтаву», «Братьев-разбойников», «Цыган» и много лирических стихотворений Пушкина, «Демона» Лермонтова.*— «Палтава» — паэма, напісаная ў 1828 г.; «Браты-разбойнікі» — паэма, напісаная ў 1821—1822 гг.; «Цыганы» — паэма, напісаная ў 1824 г.; «Дэман» — паэма, напісаная ў 1829—1839 гг.

*«...Не будь Пушкина с его «Евгением Онегиным», «Медным всадником», «Вольностью» и посланием «В Сибирь», «Капитанской дочкой» и сказками,— не было бы, наверно, и моих поэм «Новая земля», «Хата рыбака», лирики и прозы»* — цытата з артыкула Якуба Коласа «Друг человечества» (1949); «Яўгеній Анегін» — раман у вершах, напісаны ў 1823—1831 гг.; «Медны коннік» — паэма, напісаная ў 1833 г.; «Вольнасць» — верш-ода, напісаны ў 1817 г.; «У Сібір» — верш, напісаны ў 1827 г.; «Капітанская дачка» — аповесць, напісаная ў 1836 г.; «Новая зямля» — гл. камент. да інтэрв'ю «Літаратура — гэта самапазнанне» (с. 695).; «Рыбакова хата» — паэма, напісаная ў 1940—1947 гг.

С. 369:

*...сравнительного языкознания...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Мае героі былі рамантыкамі» (с. 769).

*Полесье* — гл. камент. да інтэрв'ю «Ісці ўслед за бягучым днём…» (с. 677).

*Полешуки* — гл. камент. да выступлення «Рассказ — тоже открытие» (с. 787).

С. 370:

*Коляда* — боства весялосці і радасці, у гонар якога святкавалі час ад Раства Хрыстова да Новага года (паводле старога стылю).

*...Божича...* — Божыч — у славянскай міфалогіі іпастась вярхоўнага нябеснага бога. Атаясамліваўся з богам Сонца, сімвалізаваў пачатак веснавога сонечнага цыкла. З прыняццем хрысціянства яго супастаўлялі з вобразам Ісуса Хрыста.

*...о Перуне...* — Пярун — вярхоўнае язычніцкае боства ўсходніх славян, бог грымотаў і маланкі. У старажытных славян увасабляў навальнічную хмару, якая дае дождж і спрыяе ўрадлівасці.

*Коляды* — традыцыйнае свята язычніцкага паходжання ў славянскіх народаў, звязанае з перыядам зімовага сонцастаяння. З усталяваннем хрысціянства прымеркавана да свят Раства Хрыстова і Хрышчэння Гасподняга. Працягваецца з 6 па 19 студз. Неад'емныя атрыбуты свята: калядаванне, варажба, шматлікія забавы, гульні.

*Масленица* — старажытнае передвеснавое свята ў славянскіх народаў, звязанае з культам прыроды. У народным календары не мае канкрэтнай даты. Пачынаецца за восем тыдняў да Вялікадня, або за сем дзён да перадвялікоднага сямітыднёвага Вялікага посту, працягваецца тыдзень. Традыцыі гэтага свята захаваліся ў сучасным святкаванні праводзін зімы.

*Громница, или Тетя* — у язычніцкай міфалогіі ўсходніх славян багіня дабрабыту і ўрадлівасці. У каляндарным цыкле беларусаў яе ўладаранне прыпадала на перыяд жніва і да канца збору ўраджаю на палях, агародах і ў садах. Была сімвалам дабрыні і шчодрасці. З імем гэтай багіні звязваюць і свята Грамніцы (Стрэчанне).

*...в честь жены Перуна, Маланки-молнии.*— Маланка — у свядомасці продкаў асацыявалася з богам грымотаў і навальніцы Перуном. Сярод іншых назваў: страла вогненная, бліскавіца, перунова страла, перунова дачка.

*...в Пасхе...* — Вялікдзень — веснавое свята старажытных славян у гонар сонца, абуджэння прыроды і надыходу «вялікіх» палявых работ. Адсюль і назва. Хрысціяне пераасэнсавалі Вялікдзень у свята ўваскрэсення распятага Ісуса Хрыста, якое стала галоўным хрысціянскім святам. Яму надаецца асаблівы сэнс як азнаменаванню перамогі над грахом і смерцю.

*Дзяды* — свята беларускага народнага календара, звязанае з памінаннем продкаў (дзядоў). Адзначаюцца некалькі разоў на год: масленічныя, радаўніцкія, траецкія (духаўскія), пятроўскія, змітраўскія. Галоўныя — восеньскія Дзяды (змітраўскія). У цэнтры абраду — вячэра ў памяць памерлых сваякоў. Рытуал Дзяды ў найбольш архаічнай форме захаваўся толькі ў беларусаў.

*...Радуницу...* — Радуніца — свята язычніцкага паходжання ва ўсходніх славян, звязанае з культам продкаў, дзень памінання памерлых. Адзначаецца ў аўторак пасля вялікоднага тыдня. Паходжанне слова выводзяць ад агульнаславянскіх «род», «радзіцца», ад імя міфалагічнага бога Рады (Роды) і інш. У хрысціянскай царкве прынята лічыць, што назва ўзыходзіць да слова «радасць», бо ў гэты дзень вернікі, памянуўшы памерлых у храме, прыходзяць на магілы родных, каб падзяліцца з імі радаснай весткай пра ўваскрэслага Ісуса Хрыста.

*...праздновался Купала. Купала сначала была женского рода...* — маецца на ўвазе Купалле (Іван Купала, Ян) — старажытнае

язычніцкае земляробчае свята, якое было прымеркавана да дня летняга сонцастаяння, калі найбольшага росквіту дасягалі жыватворныя сілы прыроды. Паводле адной з версій, свята ў гонар язычніцкага бога (багіні) Купалы. Свята характарызавалася комплексам абрадаў, павер'яў, любоўнай і аграрнай варажбой. Пасля прыняцця хрысціянства царква сумясціла з Купаллем дзень Іаана Хрысціцеля, свята атрымала падвоенную назву Іван Купала, або Іванаў (Янаў) дзень. Адзначаецца ў самую кароткую ноч.

С. 371:

...*Парнаса*... — гл. камент. да выступлення [Дарагія таварышы!] (с. 799).

С. 372:

...*сравнивали Беларусь с «таинственной сокровищницей, таящей в себе древний, допотопный мир» (М. Федоровский).*— цытуецца паводле артыкула Ул. Паўлючка «Радыкалізм беларускай вёскі» (Ніва. 1965. 24 кастр.), дзе падаецца ў наступным выглядзе: «Беларусь лічыць можна таямнічай скарбніцай, скалой у сваіх адбітках прадстаўляючай дапатопны свет, або цудоўным церамам са спячай стагоддзямі каралеўнай».

*«Песня солнцу»* — верш, напісаны ў 1910 г.

С. 373:

*«Уж небо осенью дышало ~ Стоял ноябрь уж у двора»* — радкі з рамана ў вершах А. С. Пушкіна «Яўгеній Анегін» (1823—1831).

*«Осень золотом и алым ~ Туч завесу над собой»* — пераклад радкоў з паэмы «Сымон-музыка» (1911—1925).

С. 374:

...*«Слова о полку Игореве».*— «Слова аб палку Ігаравым» («Слова аб паходзе Ігаравым», «Слова пра паход Ігаравы») — помнік літаратуры Кіеўскай Русі XII ст. Створаны, верагодна, у канцы 1185—1186 г. у Кіеве. Аўтар невядомы. У творы апавядаецца пра няўдалы паход на полаўцаў у 1185 г. ноўгарад-северскага князя Ігара Святаславіча (1151—1202).

...*«Вечеров на хуторе близ Диканьки»*... — «Вечары на хутары ля Дзіканькі» — кніга аповесцей, складаецца з двух тамоў. Першы выйшаў у 1831 г., другі — у 1832 г.

...*прозаический, а потом и стихотворный перевод «Слова»*... — празаічны пераклад «Слова аб палку Ігаравым» зроблены Янкам Купалам у 1919 г., вершаваны — у 1921 г.

С. 375:

*...Ярославны...* — Яраслаўна — Ефрасіння, дачка галіцкага князя Яраслава Уладзіміравіча Асмамысла, жонка князя Ігара, гераіня «Слова пра паход Ігаравы».

*«в Путивле, на городской стене»* — радкі са «Слова пра паход Ігаравы»; Пуціўль — невялікі горад Ноўгарад-Северскага княства.

*«Она и я»* — паэма, напісаная ў 1913 г.

*А. Фадеев отмечал, что поэма Купалы «Она и я» как бы имеет поэтическими истоками языческое восхищение чарами, чудесами мира, буйством сил природы.*— верагодна, маюцца на ўвазе словы з запісной кніжкі А. Фадзеева: «“Она и я” — поэма исключительного своеобразия, земная, языческая и в то же время по-белорусски тихая, акварельная и опять и опять мужицкая» (Запісная кніжка А. А. Фадзеева. Запіс ад 21 мая 1943 года ў кн. Янкі Купалы «Избранные произведения» (1943)).

С. 376:

*«Тарас на Парнасе»* — гл. камент. да інтэрв’ю «Мае героі былі рамантыкамі» (с. 765).

С. 378:

*«Реченька»* — беларуская народная песня.

С. 379:

*«Сымон-музыкант»* — гл. камент. да інтэрв’ю «У мяне шчаслівы лёс» (с. 760).

*«в поколениях работников лежит и больше силы, и больше сознания правды и добра, чем в поколениях баронов, банкиров и профессоров...»* — цытата з артыкула Л. Талстога «Прагрэс і вызначэнне адукацыі» (1862—1863).

С. 380:

*«...Я должен склониться на сторону народа ~ не могли бы существовать без народа»* — цытата з артыкула Л. Талстога «Прагрэс і вызначэнне адукацыі» (1862—1863).

*«До этого графа подлинного мужика в литературе не было»* — цытата з нарыса Максіма Горкага «У. І. Ленін» (1930), дзе пісьменнік прыводзіць характарыстыку Л. Талстога, дадзеную У. І. Леніным.

*...«забитый окончательно» раб...* — выраз з артыкула М. Дабралюбава «Рысы для характарыстыкі рускага простанароддзя» (1860).

С. 381:

*...«Курган», «Бондаровна»...* — паэмы, напісаныя адпаведна ў 1910-м і 1913-м гг.

С. 382:

*...дореволюционное творчество...* — гл. камент. да выступлення «Рассказ — тоже открытие» (с. 787).

С. 383:

*...«Алеся», «Лен», «Мальчик и летчик».*— «Алеся», «Хлопчык і лётчык» — гл. камент. да выступлення «Праблемы развіцця літаратуры ў эпоху сучаснага навукова-тэхнічнага прагрэсу» (с. 792); «Лён» — верш, напісаны ў 1935 г.

*...«левковского цикла»...* — «ляўкоўскі цыкл» — 18 вершаў Я. Купалы, напісаных у Ляўках (на дачы паэта ў Аршанскім раёне Віцебскай вобл.) у чэрв.—жн. 1935 г.: «Алеся», «Беларусі ардэнаноснай», «Вечарынка», «Госці», «Дарогі», «Дзве дзяўчыны», «Здаецца ж, было гэта ўчора…», «Лён», «Маё мне сонца правадыр», «Партызаны», «Сонцу», «Сосны», «Старыя акопы», «Сыны», «Хлопчык і лётчык», «Шоў я пушчаю…», «Як у госці сын прыехаў…», «Як я молада была…».

*«Мир юности»* — цыкл вершаў, напісаны ў 1938—1940 гг.

*«Волшебница»* — верш, напісаны ў 1937—1938 гг.

*...«Молодость», «Дружба», «За двоих», «Песня письмоносца»...* — вершы, напісаныя ў 1938 г.

*«Облако»* — верш, напісаны ў 1937—1939 гг.

*...«Ельник», «Карусель», «На сотой версте»...* — вершы, напісаныя ў 1939 г.

С. 385:

*...«Катерина», «Беларусь»...* — паэмы, напісаныя адпаведна ў 1937—1938 і 1943 гг.

*...высокого неба купаловского идеала...* — «высокае неба ідэала» — радок з верша А. Вярцінскага «Высокае неба ідэала!..» (1967).

С. 386:

*...Западная Белоруссия в составе буржуазной Польши...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Я — за рамантыку» (с. 676).

С. 387:

*...«Знамя бригады»...* — паэма, напісаная ў 1942 г.

*...«Цимбалы»...* — паэма «Прыгоды цымбал» напісана ў 1944 г.

С. 388:

*...первых двух книг трилогии «На росстанях»...* — маюцца на ўвазе аповесці «У палескай глушы» (гл. камент. да інтэрв'ю «Давайце верыць у чалавека» (с. 743)) і «У глыбі Палесся» (1927); «На ростанях» — гл. камент. да інтэрв'ю «Літаратура — гэта самапазнанне» (с. 695).

*«На просторах жизни»* — аповесць, напісаная ў 1926 г.

*«Трясина»* — гл. камент. да інтэрв'ю «Задачы вынікаюць з самога жыцця...» (с. 728).

*...первые две книги полесских повестей.*— маюцца на ўвазе аповесці «У палескай глушы» (1923) і «У глыбі Палесся» (1927).

*Незавершенный роман Ядвигина Ш. «Золото» полностью опубликован только в последние годы...* — раман напісаны ў 1920 г. Апублікаваны ў кнізе «Ядвігін Ш. Выбраныя творы» (1976).

С. 389:

*...роман Тишки Гартного «Соки целины», первая часть которого была написана еще до революции...* — «Сокі цаліны» — гл. камент. да інтэрв'ю «Я — за рамантыку» (с. 676); першая частка рамана — «Бацькава воля» — напісана ў 1914—1916 гг.

*«Третье поколение»* — гл. камент. да выступлення «Сем гадоў пошукаў і здзяйсненняў» (с. 783).

С. 389—390:

*...«Полесскую хронику» — романы «Люди на болоте», «Дыхание грозы», «Метели, декабрь»...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Пад сцягам сацыялістычнага рэалізму» (с. 688).

С. 390:

*...в Василе Дятле...* — гл. камент. да анкеты «Адказ на пытанні анкеты, прапанаванай А. М. Адамовічам» (с. 772).

*«Партизаны»* — п'еса, напісаная ў 1937 г.

*«Над Березой-рекой»* — паэма, напісаная ў 1940 г.

*«Будущность»* — раман, напісаны ў 1938 г.

*«Стежки-дорожки»* — раман, напісаны ў 1927 г.

*«Вязьмо»* — гл. камент. да выступлення «Праблемы развіцця літаратуры ў эпоху сучаснага навукова-тэхнічнага прагрэсу» (с. 792).

*«Сын»* — раман, напісаны ў 1929 г.

*«Криницы»* — раман, напісаны ў 1957 г.

*...Октября.*— гл. камент. да верша «Бывай, наш паэце...» (с. 673).

## 1987

### «Найярчэйшая зорка ў цудоўным сузор'і...» (с. 392)

Друкуецца паводле газ. «ЛіМ», 1987, 13 лют., дзе ўпершыню апублікавана з рэдактарскім падзагалоўкам «З выступлення лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР, віцэ-прэзідэнта АН БССР І. Я. Навуменкі».

Выступленне на вечары, прысвечаным памяці А. С. Пушкіна, 10 лют. 1987 г. у Мінску.

У БДАМЛМ, у асабістым архіве І. Навуменкі, захоўваюцца фрагменты чарнавога аўтографа і машынапісу выступлення з аўтарскай праўкай (ф. 495, воп. 1, адз. зах. 205, арк. 1—21).

С. 392:

*...Савецкага Саюза...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Ісці ўслед за бягучым днём...» (с. 678).

*...ад дзекабрыстаў...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Время думать о своей культуре и языке» (с. 757).

*...Вялікага Кастрычніка...* — гл. камент. да верша «Бывай, наш паэце...» (с. 673).

С. 393:

*...ў дарэвалюцыйную пару.*— гл. камент. да выступлення «Рассказ — тоже открытие» (с. 787).

*...апошні трохтомны Збор яго твораў...* — маецца на ўвазе выданне «А. С. Пушкин. Собрание сочинений в трех томах» (1985—1986).

*...«непадкупным» голасам і «рэхам рускага народа»...* — выразы з верша А. С. Пушкіна «Да Н. Я. Плюсковай» (1918). У арыгінале: «И неподкупный голос мой / Был эхо русского народа».

*...паставілі геніяльнага паэта пад няўмольны пісталет Дантэса.*— маецца на ўвазе дуэль паміж А. С. Пушкіным і Ж. Дантэсам, якая адбылася 27 студз. (8 лют.) 1837 г. Пушкін быў смяротна паранены на дуэлі і праз два дні памёр.

*...першай буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі.*— гл. камент. да інтэрв'ю «Время думать о своей культуре и языке» (с. 756).

*...Айчыннай вайной 1812 года.*— гл. камент. да інтэрв'ю «Задачы вынікаюць з самога жыцця...» (с. 729—730).

*...ад Нестара-летапісца...* — Нестар — старажытнарускі пісьменнік і гісторык канца XI — пач. XII ст.; адзін з заснавальнікаў летапіснага жанру на Русі. Манах Кіева-Пячэрскага манастыра.

С. 394:

*«Буря мглою небо кроет, вихри снежные крутя; то, как зверь, она завоет, то заплачет, как дитя»* — радкі з верша А. С. Пушкіна «Зімовы вечар» (1825).

*«Уж небо осенью дышало, уж реже солнышко блистало, короче становился день, лесов таинственная сень с печальным шумом обнажалась»* — гл. камент. да выступлення «Творчество Янки Купалы и Якуба Коласа в контексте славянских литератур» (с. 804).

*«Зима!.. Крестьянин, торжествуя, на дровнях обновляет путь»* — радкі з рамана ў вершах А. С. Пушкіна «Яўгеній Анегін» (1823—1831).

*«Руслан і Людміла»* — паэма, напісаная ў 1819—1820 гг.

С. 395:

*...так званых «паўднёвых» паэм...* — маюцца на ўвазе паэмы, напісаныя А. С. Пушкіным у час ссылкі на поўдзень Расійскай імперыі (1820—1824).

*«Каўказскі палоннік»* — паэма, напісаная ў 1820—1821 гг.

*«Браты-разбойнікі»* — гл. камент. да выступлення «Творчество Янки Купалы и Якуба Коласа в контексте славянских литератур» (с. 802).

*«Бахчысарайскі фантан»* — паэма, напісаная ў 1821—1823 гг.

*«Цыганы»* — гл. камент. да выступлення «Творчество Янки Купалы и Якуба Коласа в контексте славянских литератур» (с. 802).

*«Яўгеній Анегін»* — гл. камент. да выступлення «Творчество Янки Купалы и Якуба Коласа в контексте славянских литератур» (с. 802).

*Бялінскі назваў вершаваны раман Пушкіна «энцыклапедыяй рускага жыцця».*— такая ацэнка твора ўтрымліваецца ў артыкуле дзявятым «“Яўгеній Анегін” (Заканчэнне)» (1845) з цыкла «Творы Аляксандра Пушкіна» (1843—1846) В. Бялінскага.

*...ў так званых «Маленькіх трагедыях»: «Скупы рыцар», «Каменны госць», «Моцарт і Сальеры».*— «Маленькія трагедыі» — цыкл кароткіх п’ес для чытання, напісаны А. С. Пушкіным у 1830 г. у Болдзіне. Апрача трох названых твораў у яго яшчэ ўваходзіць п’еса «Пір у час чумы».

С. 396:

*...народ «издревле нам родной, но отчужденный от России жребиями войны».*— цытата з рэцэнзіі (1836) А. С. Пушкіна на «Собрание сочинений Георгия Конисского, архиепископа Белорусского» (1835).

*...«Яўгеній Анегін», перакладзены А. Куляшовым...* — пераклад датуецца 1949 г.

*...«Медны коннік» у перакладзе Янкі Купалы...* — пераклад датуецца 1937 г.

*...«Палтава», перакладзеная Якубам Коласам...* — пераклад датуецца 1937 г.

*...ідылія «Сялянка», якая відавочна перагукваецца з пушкінскай «Паненкай-сялянкай».*— гл. камент. да выступлення «Творчество Янки Купалы и Якуба Коласа в контексте славянских литератур» (с. 801).

*«Калі б не было Пушкіна з яго «Яўгеніем Анегіным», одай «Вольнасць» і пасланнем «У Сібір», «Капітанскай дачкой»,— пісаў ён,— не было б, напэўна, і маіх паэм «Новая зямля» і «Рыбакова хата», лірыкі і прозы».*— гл. камент. да выступлення «Творчество Янки Купалы и Якуба Коласа в контексте славянских литератур» (с. 802).

*«У гістарычным развіцці ~ любіце яго...»* — цытата з артыкула Максіма Горкага «Разбурэнне асобы» (1908).

С. 396—397:

*Як і прадбачыў паэт, увесь ён не памёр, яго душа, увасобленая ў запаветнай ліры, тленню не паддаецца, яго назвала кожная існая на абсягах нашай агромністай сацыялістычнай Айчыны мова: і горды ўнук славян, і тунгус, і калмык, як і ўсе астатнія савецкія народы.*— алюзія на верш А. С. Пушкіна «Я памятник себе воздвиг нерукотворный» (1836).

## 1988

### Элементы міфалогіі ў паэзіі Янкі Купалы і Якуба Коласа (с. 397)

Друкуецца паводле брашуры «Элементы міфалогіі ў паэзіі Янкі Купалы і Якуба Коласа», 1988.

Выступленне на X Міжнародным з’ездзе славістаў, які праходзіў 15—21 верас. 1988 г. у Сафіі.

С. 397:

*...першай рускай рэвалюцыі.*— гл. камент. да інтэрв'ю «Время думать о своей культуре и языке» (с. 756).

*...царскай імперыі...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Шляхам перамог — шляхам набыткаў» (с. 702).

*...«людзьмі звацца»...* — гл. камент. да выступлення «Творчество Янки Купалы и Якуба Коласа в контексте славянских литератур» (с. 801).

*Беларуская дакастрычніцкая літаратура* — гл. камент. да інтэрв'ю «У беларускіх літаратуразнаўцаў» (с. 680).

С. 398:

*«Беларусь лічыць можна таямнічай скарбніцай, скалой, якая дае ў сваіх адбітках старажытны, дапатопны свет, або цудоўным церамам, у якім спіць стагоддзямі каралеўна»* — гл. камент. да выступлення «Творчество Янки Купалы и Якуба Коласа в контексте славянских литератур» (с. 804).

С. 399:

*...параўнальнага мовазнаўства...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Мае героі былі рамантыкамі» (с. 769).

*Палессе* — гл. камент. да інтэрв'ю «Ісці ўслед за бягучым днём...» (с. 677).

*Палешукі* — гл. камент. да выступлення «Рассказ — тоже открытие» (с. 787).

*Каляда* — гл. камент. да выступлення «Творчество Янки Купалы и Якуба Коласа в контексте славянских литератур» (с. 802).

*...Божыча...* — гл. камент. да выступлення «Творчество Янки Купалы и Якуба Коласа в контексте славянских литератур» (с. 802).

С. 400:

*...пра Перуна...* — гл. камент. да выступлення «Творчество Янки Купалы и Якуба Коласа в контексте славянских литератур» (с. 802).

*Каляды* — гл. камент. да выступлення «Творчество Янки Купалы и Якуба Коласа в контексте славянских литератур» (с. 802).

*...Масленіца, Грамаўніца, або Цёця,— гулянне ў гонар жонкі Перуна Маланкі.*— гл. камент. да выступлення «Творчество Янки Купалы и Якуба Коласа в контексте славянских литератур» (с. 802—803).

*...ў Вялікадні...* — гл. камент. да выступлення «Творчество Янки Купалы и Якуба Коласа в контексте славянских литератур» (с. 803).

*Дзяды* — гл. камент. да выступлення «Творчество Янки Купалы и Якуба Коласа в контексте славянских литератур» (с. 803).

*...на Радуніцу...* — гл. камент. да выступлення «Творчество Янки Купалы и Якуба Коласа в контексте славянских литератур» (с. 803).

*...святкавалася Купала. Купала спачатку была жаночага роду...* — гл. камент. да выступлення «Творчество Янки Купалы и Якуба Коласа в контексте славянских литератур» (с. 803—804).

С. 401:

*Святы Юрый* (Георгій Перамаганосец, Ягорый, Юрый) — хрысціянскі святы. Паводле легенды, родам з Лідыі, меў высокі ваенны чын у рымскім войску. У часы ганенняў на хрысціян прыняў (каля 303 г.) пакутніцкую смерць. Лічыўся апекуном земляробства і жывёлагадоўлі.

*Святы Ілля* — у Старым Запавеце прарок. Паводле падання, меў аблічча жабрака-аскета. Пасля заканчэння місіі Іллі на зямлі Бог узнёс яго жывым на неба на вогненнай калясніцы.

*...Міколу Мокраму, ці Марскому...* — Мікола Мокры (Марскі) — маецца на ўвазе Мікалай Цудатворац (Свяціцель Мікалай Мірлікійскі, Святы Мікола; каля 270 — каля 345) — хрысціянскі святы, архіепіскап Мір Лікійскіх (Візантыя). Шануецца як цудатворац, лічыцца апекуном пакрыўджаных, пакутнікаў, маракоў, падарожнікаў, тых, хто церпіць тапленне ў мораплаванні.

*...пазнаёміўся Янка Купала ў перыяд знаходжання ў Пецярбургу...* — маецца на ўвазе час вучобы Янкі Купалы на агульнаадукацыйных курсах Чарняева — гл. камент. да інтэрв'ю «Задачы вынікаюць з самога жыцця...» (с. 726).

С. 402:

*«Песня мая не ўзышла сярод кветак ~ Снежныя буры тулілі зімой»* — радкі з верша «Песня мая» (1911).

*«Шляхам жыцця»* (1913) — трэці зборнік вершаў Янкі Купалы.

*«Песня сонцу»* — гл. камент. да выступлення «Творчество Янки Купалы и Якуба Коласа в контексте славянских литератур» (с. 804).

С. 403:

*...«мора людскога жыцця».*— выраз з верша Янкі Купалы «Мая думка» (1910).

*«Ты, зялёная дубрава...»* — верш, напісаны ў 1912 г.

*...Вавілона...* — Вавілон — у старажытнасці горад у Месапатаміі на рацэ Еўфрат; руіны — каля сучаснага г. Хіла (Ірак). Упершыню згадваецца пад канец III тыс. да н. э.

*...пра «музыку сфер»...* — музыка сфер (гармонія сфер) — антычнае вучэнне аб гармоніі Космасу, якое ўпершыню згадваецца ў філасофіі Піфагора. Уяўляе сабой тэорыю, згодна з якой асноўныя планеты (да якіх, паводле тагачасных уяўленняў, далучаліся таксама Сонца і Месяц) у працэсе свайго руху выдаюць пастаянны гарманічны гук альбо музыку, якую людзі не чуюць, бо звыкліся да яе з пачатку жыцця. У далейшым гэтая канцэпцыя атрымала сваё развіццё ў творах Платона, Арыстоцеля, іншых антычных філосафаў, а таксама ў сярэднявечнай філасофіі.

С. 404:

*«Як я полем іду...»* — верш, напісаны ў 1909 г.

*«Вячэрняя малітва»* — верш, напісаны ў 1911 г.

*«У ночным царстве»* — верш, напісаны ў 1906—1912 гг.

*«Мая малітва»* — верш, напісаны ў 1906 г.

*«Явар і каліна»* — верш, напісаны ў 1910 г.

*...«Дзве таполі», «Ваўкалак»...* — вершы, напісаныя ў 1911 г.

*«Ў вечным боры»* — верш, напісаны ў 1912 г.

*«Хохлік»* — верш, напісаны ў 1911 г.

*...«Чорны бог», «Заклятая кветка»...* — вершы, напісаныя ў 1909 г.

*...«На Купалле», «Жніво»...* — вершы, напісаныя ў 1910 г.

*«Адцвітанне»* — верш, напісаны ў 1909 г.

*«Сымон-музыка»* — гл. камент. да інтэрв'ю «У мяне шчаслівы лёс» (с. 760).

С. 407:

*...верш «Жніво», які пераклаў на рускую мову Максім Багдановіч.*— пераклад верша «Жниво» («Созревших хлебов золотые посевы...») быў зроблены ў 1911—1912 гг.

*Старажытныя грэкі* — гл. камент. да інтэрв'ю «Размова на парозе пяцідзесяцігоддзя» (с. 685).

*«Поэтические воззрения славян на природу»* — фундаментальнае даследаванне А. М. Афанасьева па славянскай міфалогіі, упершыню выдадзенае ў 1865—1869 гг.

С. 408:

*«Сон на кургане»* — паэма, напісаная ў 1910 г.

*...з «Кургана»...* — гл. камент. да выступлення «Творчество Янки Купалы и Якуба Коласа в контексте славянских литератур» (с. 806).

*«Воўк»* — верш, напісаны ў 1910 г.

*«Зімою»* — паэма, напісаная ў 1906 г.

*«У Піліпаўку»* — паэма, напісаная ў 1908 г.

С. 410:

*«На Куццю»* — паэма, напісаная ў 1911 г.

*...«сэрца мільёнаў падслухаць біцця»...* — радок з верша Янкі Купалы «З кутка жаданняў» (1912).

С. 411:

*«Няма для духу вольнага граніцы, меры, / Дзе б ён сягнуць не смеў, дзе б ён не узлунаў; / У хаосе быцця, у цьме ўсясветных з'яў / Ён не ніштожыцца, ў сябе не губіць веры»* — радкі з верша Янкі Купалы «Чаму?» (1915).

*«Вечар»* — верш, напісаны ў 1915 г.

*«Нашто?»* — верш, напісаны ў 1915 г.

С. 412:

*...сведкамі якой «зоры і месяц», а яднанне сэрцаў закаханых — «на зайздрасць цэламу свету».*— цытаты з верша Янкі Купалы «Песня» («Зайшло ўжо сонейка, цень лёг на гонейка…»; [1906—1912]).

*«Абнімі...»* — верш, напісаны ў 1911—1912 гг.

*...«з зорак усходніх, заходніх, з маланкі выткаў бы шаты», «з сонца і кветак-пралесак карону».*— радкі з верша Янкі Купалы «З зорак усходніх, заходніх, з бліскучай…» [1906—1912]. У арыгінале першыя радкі гучаць крыху інакш: «З зорак усходніх, заходніх, з бліскучай / Маланкі выткаў бы шаты».

*«Мая жонка»* — верш, напісаны ў 1911—1912 гг.

*«А яна»* — верш, напісаны ў 1915 г.

*«Быў гэта сон»* — верш, напісаны ў 1915 г.

С. 413:

*«Адвечная песня»* — першая з драматычных паэм (1908) Янкі Купалы.

С. 414:

*...да «Новай зямлі»...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Літаратура — гэта самапазнанне» (с. 695).

*А. Фадзееў адзначаў, што паэма Купалы як бы мае паэтычнымі вытокамі «язычніцкае» захапленне чарамі, цудамі свету,*

*буйствам сіл прыроды.*— гл. камент. да выступлення «Творчество Янки Купалы и Якуба Коласа в контексте славянских литератур» (с. 805).

С. 415:

*...празаічны, а затым вершаваны пераклады «Слова аб палку Ігаравым», здзейсненыя паэтам...* — гл. камент. да выступлення «Творчество Янки Купалы и Якуба Коласа в контексте славянских литератур» (с. 804).

*...Яраслаўна ў «Пуціўлі на сцяне»...* — гл. камент. да выступлення «Творчество Янки Купалы и Якуба Коласа в контексте славянских литератур» (с. 805).

С. 416:

*«Першы гром»* — верш, напісаны ў 1910 г.

С. 417:

*«Казкі жыцця»* — гл. камент. да інтэрв'ю «Мае героі былі рамантыкамі» (с. 767—768).

*...як Калумб адкрыў Амерыку.*— адкрыццё Амерыкі датуецца 12 кастр. 1492 г., калі экспедыцыя мараплаўца Х. Калумба дасягнула Багамскіх астравоў.

С. 418:

*...як Індра ў старажытнаіндыйскіх «Ведах», Тор у германскай «Эддзе»...* — Індра — у старажытнаіндыйскай міфалогіі і ведычнай рэлігіі найбольш шанаванае боства, пераможца багоў і іх цар, грамавержац і ўсталявальнік сусвету; «Веды» — помнікі старажытнаіндыйскай літаратуры (канец II — 1-я пал. I тыс. да н. э.), адлюстроўваюць рэлігійныя ўяўленні і міфалогію старажытнаіндыйскага грамадства; Тор — у германа-скандынаўскай міфалогіі бог грымотаў, буры і ўрадлівасці, асілак, які абараняе багоў і людзей ад волатаў і страшэнных пачвар; «Эдда» — асноўны твор германа-скандынаўскай міфалогіі.

*...верш Пушкіна «Зимний вечер».*— гл. камент. да выступлення «Найярчэйшая зорка ў цудоўным сузор'і...» (с. 809).

С. 419:

*...Нёманам...* — Нёман — рака ў Мінскай і Гродзенскай абл. Беларусі, у Літве і на мяжы Літвы і Калінінградскай вобл. Расіі.

*...Дняпром...* — гл. камент. да п'есы «Птушкі між маланак» (с. 669).

*...Прыпяццю...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Задачы вынікаюць з самога жыцця...» (с. 729).

*...Заходняй Дзвіной...* — рака ў Расіі, Беларусі і Латвіі.

С. 420:

*«Наш родны край»* — верш, напісаны ў 1906 г.

С. 421:

*...на «выкляты Богам» край...* — выраз з верша М. Багдановіча «Краю мой родны! Як выкляты Богам…» (1909).

С. 422:

*«Ноч перад навальніцай»* — верш, напісаны ў 1910 г.

*«Будзе навальніца»* — верш, напісаны ў 1912 г.

*«Вераб'іная ноч»* — верш, напісаны ў 1913 г.

*«Перад бураю»* — верш, напісаны ў 1916 г.

*«Люблю я ночы той час дзіўны ~ І гоман пойдзе па бары»* — радкі з верша «Ноч перад навальніцай».

С. 423:

*Ленскі расстрэл* — расстрэл урадавымі войскамі 17 крас. 1912 г. удзельнікаў забастоўкі — рабочых Ленскіх залатых капальняў у Сібіры.

С. 423—424:

*«Ты прыйдзі, вясна жаданая, / Прыйдзі! / Гукам жыцця, песняй працы / Загудзі. // Ты ляці на крыллях выраю / Скарэй, / Абласкай цяплом пахілых, / Абагрэй»* — радкі з верша «Закліканне вясны» (1912).

С. 425:

*«Мароз, зіма, / Снягі вакол, / І спіць трава, / Пад снегам дол. // Мяцеліца, / Вятры гудуць, / Дубы ў лугах / Шумяць, равуць...»* — радкі з верша «Да вясны» (1911).

*«Вясна прыйдзе, снег пагіне ~ Гаманліва дружным тлумам»* — радкі з верша «Вясна» («Вясна прыйдзе, снег пагіне…»; 1907).

С. 426:

*«Вясна, вясна / Жаданая! / Ты прыйдзеш зноў, / Ты вернешся! // Вясёлы спеў, / Прыветлівы / Вады ў руччах / Пачуецца»* — радкі з верша «Вясна» («Вясна, вясна…»; 1910).

*...Колас, пачаўшы паэтычную дзейнасць, ужо быў настаўнікам...* — пасля заканчэння ў 1902 г. Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі Якуб Колас (К. М. Міцкевіч) працаваў настаўнікам на Палессі, а пасля на Міншчыне і Віцебшчыне. У друку дэбютаваў вершам «Наш родны край» у газ. «Наша доля» за 1 верас. 1906 г.

*«Другое чытанне для дзяцей-беларусаў»* — кніга выйшла ў 1909 г.

С. 427:

*...ад санскрыцкага...* — санскрыт — літаратурна апрацаваная мова арыйскай цывілізацыі ў Індыі (у процілегласць пракрыту — мове неадукаваных мас); адна з асноўных старажытнаіндыйскіх моў.

*...«Усход сонца» і «Заход сонца»...* — вершы, напісаныя, адпаведна ў 1908-м і 1911-м гг.

*«На усходзе неба грае ~ Людзям і прыродзе»* — радкі з верша «Усход сонца» (1908).

С. 428:

*«Люблю я зімы з маразамі, / Завеі белыя ў палях, / І снегу скрып пад палазамі, / І ціш зімовую ў лясах»* — радкі з верша «Песні зімы» (1916).

*«На рэчцы зімою»* — гл. камент. да інтэрв'ю «Літаратура — гэта самапазнанне» (с. 695).

*Лірыка Коласа пастаянна звяртаецца да адных і тых жа тэм, вобразаў, матываў. У нейкай меры яна пакідае ўражанне аднастайнасці. Пра гэта пісалі яшчэ крытыкі дарэвалюцыйнай пары.*— у артыкуле «Глыбы і слаі» (1911) М. Багдановіч, у прыватнасці, адзначаў: «…цікавым з'явішчам у беларускай пісьменнасці апошняга года была кніжка твораў Я. Коласа — «Песні жальбы». Цэльнай выглядае яна па светагляду, моцна зросшыміся адзін з адным здаюцца яе вершы, але ёсць у ёй і якаясь акамянеласць: на працягу аж 4-х гадоў Колас не зрабіў значнага кроку ўперад і ў самых апошніх вершах пяе аб тым жа і так жа, як і ў пачатку сваёй працы».

*«Адлёт жураўлёў»* — верш, напісаны ў 1909 г.

С. 429—430:

*«Вобразы мілыя роднага краю ~ Поўныя сумнай красы?»* — радкі з верша «Родныя вобразы» (1908).

С. 433:

*...Костуся...* — Костусь — герой паэмы «Новая зямля» (1911—1923).

С. 434:

*...словы Маркса аб «дзяцінстве чалавецтва»...* — выраз з працы К. Маркса «Нарыс крытыкі палітычнай эканоміі» (1857—1858).

С. 435:

*«Не ў аднэй толькі нашай душы ~ Свет бязмежны, мой дом»* — вершаваны ўступ да «Казак жыцця» (1908—1955) пад назвай «Замест прадмовы» [1907—1921].

С. 436:

*...у Слонімскім павеце.—* Слонімскі павет — адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка ў Вялікім Княстве Літоўскім, Расійскай імперыі і Польшчы.

*...Варшаўскага ўніверсітэта.—* Варшаўскі ўніверсітэт — найбуйнейшы навучальны і навуковы цэнтр Польшчы. Заснаваны ў 1816 г. у Варшаве паводле загаду расійскага імператара Аляксандра I.

**1993**

**Адраджэнне славян і творчасць В. Дуніна-Марцінкевіча (с. 437)**

Друкуецца паводле брашуры «Адраджэнне славян і творчасць В. Дуніна-Марцінкевіча», 1993.

Выступленне на XI Міжнародным з'ездзе славістаў, які праходзіў з 31 жн. па 7 верас. 1993 г. у Браціславе.

С. 438:

*...ў сярэднія вякі...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Время думать о своей культуре и языке» (с. 756).

*...існавалі два Балгарскія царствы...* — Першае Балгарскае царства — дзяржава, якая існавала ў 681—1018 гг. Утворана пратабалгарамі, славянскімі і фракійскімі плямёнамі. У перыяд найбольшага росквіту ахоплівала большую частку Балканскага паўвострава; Другое Балгарскае царства — сярэднявечная балгарская дзяржава, якая існавала з 1185 па 1396 г. Заваявана Асманскай імперыяй.

*Вялікамараўскае княства* (Вялікамараўская дзяржава, Багемскае княства) — раннефеадальная дзяржава заходніх славян на поўдні Маравіі ў IX — пач. X ст.; першае буйное палітычнае ўтварэнне ў цэнтральнаеўрапейскім рэгіёне.

*Вялікае Княства Літоўскае* — гл. камент. да інтэрв'ю «У мяне шчаслівы лёс» (с. 761).

*...Кіеўскай Русі.—* гл. камент. да інтэрв'ю «У мяне шчаслівы лёс» (с. 761).

С. 439:

*Калі беларускія аўтары сярэднявечча ажыццяўлялі пераклады-пераробкі такіх вядомых у той час твораў, як аповесць аб Троі,*

*аб Александрыі, рыцарскія раманы пра Трыстана і Ізольду, пра Баву-Каралевіча, Атылу і іншыя, то рабілі яны гэтыя пераклады перш за ўсё з сербскай, балгарскай, чэшскай, рускай і іншых моў.*— маюцца на ўвазе «Аповесць пра Трою» («Троя», «Гісторыя траянскай вайны») — помнік беларускай літаратуры XV ст., гістарычная перакладная аповесць пра падзеі легендарнай Траянскай вайны. Найбольшую папулярнасць на ўсходнеславянскіх землях атрымала дзякуючы перакладу праз балгарскае пасярэдніцтва грэчаскай апрацоўкі, змешчанай у візантыйскай хроніцы XII ст. Канстанціна Манасіі (1130 — каля 1187); «Александрыя» — помнік сусветнай літаратуры, які апісвае жыццё, подзвігі і прыгоды Аляксандра Македонскага. Напісана ў II—III стст. у Егіпце на грэчаскай мове. Першыя беларускія пераклады з'явіліся ў XV ст., бытавалі ў дзвюх рэдакцыях: лацінскай і сербскай; «Аповесць пра Трышчана» — помнік беларускай перакладной літаратуры, папулярны рыцарскі раман. Перакладзены ў 2-й пал. XVI ст. з сербскай крыніцы (апошняя — з італьянскага арыгінала); «Аповесць пра Баву» — помнік беларускай перакладной літаратуры, сярэднявечны рыцарскі раман. Узнік у Францыі. Пераклад зроблены ў 2-й пал. XVI ст. з сербскага тэксту; «Аповесць пра Атылу — караля Угорскага» («Гісторыя пра Атылу») — помнік беларускай перакладной літаратуры, свецкая аповесць блізкаўсходняга паходжання. Бытавала ў Беларусі ў XVII—XVIII стст.

*У XVII стагоддзі (у канцы яго), піша найвыдатнейшы беларускі паэт і даследчык літаратуры Максім Багдановіч, друкаванае беларускае слова амаль знікла...* — тут і далей І. Навуменка звяртаецца да палажэнняў артыкула М. Багдановіча «Белорусское возрождение» (1914).

*Tabula rasa* (*лац.*) — чыстая дошка.

С. 440:

*«Дудка беларуская»* — першы паэтычны зборнік (1891) Ф. Багушэвіча.

С. 441:

*...«Прамова Мялешкі», «Ліст да Абуховіча»...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Время думать о своей культуре и языке» (с. 756).

*...«Энеіда навыварат» і «Тарас на Парнасе»...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Мае героі былі рамантыкамі» (с. 756).

*...Прусіяй...* — Прусія — гістарычная дзяржава ва Усходняй і Цэнтральнай Еўропе, якая дасягнула найбольшых памераў у XIX—XX стст.

С. 443:

*...існавалі беларускія выдавецкія суполкі, накшталт такіх, як «Загляне сонца і ў наша аконца» ў Пецярбурзе, «Наша ніва» ў Вільні.*— «Загляне сонца і ў наша аконца» — беларускае выдавецкае таварыства (суполка), якое існавала з 5 мая 1906 г. да 1914 г.; Пецярбург — гл. камент. да п’есы «Птушкі між маланак» (с. 667); «Наша ніва» — газета, якая выконвала таксама ролю каардынацыйнага выдавецкага цэнтра. У 1907—1913 гг. яе намаганнямі апублікаваны зборнікі Я. Коласа, М. Багдановіча, Ядвігіна Ш. і інш.

*Рэвалюцыя 1905 года* — гл. камент. да інтэрв’ю «Время думать о своей культуре и языке» (с. 756).

*За сціплымі выданнямі «Сялянкі», «Гапона», «Вечарніц»...* — «Сялянка» — гл. камент. да выступлення «Творчество Янки Купалы и Якуба Коласа в контексте славянских литератур» (с. 801). Выданне ажыццёўлена ў 1846 г.; «Гапон», «Вечарніцы» — гл. камент. да інтэрв’ю «Усякаму пакаленню трэба баявая справа…» (с. 749—750).

*...«Смыка беларускага»...* — «Смык беларускі» (1894) — другі паэтычны зборнік Ф. Багушэвіча.

С. 444:

*...выступлення дзекабрыстаў...* — гл. камент. да інтэрв’ю «Время думать о своей культуре и языке» (с. 757).

*...паўстанняў 1830—1831 і 1863—1864 гадоў...* — паўстанне 1830—1831 гг. у Польшчы, Беларусі і Літве (Лістападаўскае паўстанне) — нацыянальна-вызваленчае ўзброенае паўстанне за аднаўленне Рэчы Паспалітай у межах 1772 г.; паўстанне 1863—1864 гг.— гл. камент. да выступлення «Сем гадоў пошукаў і здзяйсненняў» (с. 785).

*Класіцызм* — мастацкі стыль і эстэтычны кірунак у еўрапейскай літаратуры і мастацтве XVII — пач. XIX ст., адметнай рысай якіх быў зварот да вобразаў і форм антычнай літаратуры і мастацтва як да эстэтычнага эталона.

*Сентыменталізм* — плынь у еўрапейскай мастацкай культуры 2-й пал. XVIII — пач. XIX ст. Сфарміравалася як альтэрнатыва рацыяналістычнай зададзенасці і нарматыўнасці класіцызму, дамінантай «чалавечай прыроды» ў адрозненне ад класіцызму бачыла пачуццё, а не розум.

С. 445:

*...перадрамантызму...* — перадрамантызм — комплекс ідэйна-стылёвых тэндэнцый у еўрапейскай літаратуры 2-й пал. XVIII — пач. XIX ст. Папярэднічаў уласна рамантызму, захоўваючы генетычную пераемнасць з літаратурай сентыменталізму.

С. 446:

*...прыгонніцкай, напаўфеадальнай Расіі...* — прыгон — гл. камент. да інтэрв'ю «Усякаму пакаленню трэба баявая справа...» (с. 745); у Расійскай імперыі прыгоннае права было скасавана паводле сялянскай рэформы 1861 г.

*...на рацэ Беразіне армія Напалеона пацярпела канчатковую катастрофу.*— Бярэзіна (Беразіна) — рака ў Беларусі, у Віцебскай, Мінскай, Магілёўскай і Гомельскай абласцях, правы прыток Дняпра; Гаворка ідзе пра баі 14 (26) — 17 (29) лістап. 1812 г. паміж французскім і рускім войскамі на берагах Бярэзіны ў час пераправы Напалеона. У выніку наступальнай аперацыі рускіх войскаў, нягледзячы на тое што ядро французскай арміі прарвалася з акружэння, панесеныя ёй страты (каля 70 тыс. чалавек) азначалі немагчымасць далей працягваць вайну. Вынікі Бярэзінскай аперацыі канчаткова вызначылі перамогу Расіі ў Айчыннай вайне 1812 г.

*...панёс паражэнне польскі корпус Дамброўскага, які штурмаваў Бабруйскую крэпасць...* — маюцца на ўвазе падзеі Бабруйскай абароны 1812 г.— дзеянні рускіх войскаў па абароне і прыкрыцці Бабруйскай крэпасці ў час Айчыннай вайны 1812 г. Французская 17-я пяхотная дывізія Я. Г. Дамброўскага і інш. часці 4 верас. блакавалі Бабруйск, перакрыўшы дарогі ў крэпасць. Галоўныя сілы рускага корпуса Ф. Ф. Эртэля (1768—1825) выбілі 14 верас. з Глуска слабы польскі гарнізон і рушылі на Бабруйск. Дамброўскі, які быў вымушаны прыкрываць мінскі напрамак, 12 кастр. фактычна зняў блакаду і адышоў на Ігумен (сучасны Чэрвень).

*...у медыка-хірургічную акадэмію.*— маецца на ўвазе Імператарская медыка-хірургічная акадэмія — вышэйшая спецыяльная навучальная ўстанова для падрыхтоўкі дактароў, пераважна для ваеннага і марскога ведамстваў. Заснавана 18 (29) снеж. 1798 г. у Пецярбургу паводле ўказа Паўла І. У 1799—1808 гг. мела назву Медыка-хірургічная акадэмія. З 1881 г.— Імператарская ваеннамедыцынская акадэмія, з 1917 г.— Ваенна-медыцынская акадэмія.

С. 447:

*Паўлюк Багрым рэкрутаваны ў салдаты...* — паводле некаторых крыніц, П. Багрым быў здадзены ў рэкруты за распаўсюджванне антыпрыгонніцкіх вершаў (дакументальна не пацверджана).

*Ян Чачот адбываў высылку ў Сібіры.*— у 1823 г. за прыналежнасць да студэнцкіх згуртаванняў Я. Чачот быў арыштаваны і

зняволены ў Віленскую турму. У 1824 г. сасланы на Урал. У 1833 г. вярнуўся ў Беларусь.

*Сасланы ў Архангельск першы беларускі крытык Рамуальд Падбярэскі.*— у 1850 г. за антыўрадавую літаратурную дзейнасць Р. Падбярэскі быў арыштаваны і высланы ў Архангельскую губерню, дзе і памёр; Архангельск — цэнтр Архангельскай вобл. Расіі.

*Зведаў салдатчыну на Каўказе паэт-рэвалюцыянер Франц Савіч.*— Ф. Савіч вучыўся ў Віленскай медыка-хірургічнай акадэміі, дзе арганізаваў нелегальнае рэвалюцыйна-дэмакратычнае таварыства. Арыштаваны ў 1838 г. і высланы ў 1839 г. у салдаты на Каўказ.

*Арцём Вярыга-Дарэўскі зведаў пакутніцкі лёс выгнанніка ў Сібіры.*— у час паўстання 1863—1864 гг. А. Вярыга-Дарэўскі быў адным з арганізатараў узброенага выступлення на Віцебшчыне. У 1863 г. арыштаваны і зняволены ў віцебскую турму, у 1865 г. сасланы ва Усолле (Усходняя Сібір). З 1868 г. на пасяленні ў Іркуцку. Памёр у Сібіры.

*...вучыўся ў Нежынскім ліцэі...*— Нежынскі ліцэй князя А. А. Безбародкі — вышэйшая навучальная ўстанова ў г. Нежыне (Чарнігаўшчына, Украіна), адкрытая ў памяць канцлера Расійскай імперыі князя А. А. Безбародкі (1747—1799). Існаваў пад рознымі назвамі ў 1820—1875 гг. У 1875 г. пераўтвораны ў Нежынскі гісторыка-філалагічны інстытут князя А. А. Безбародкі, цяпер — Нежынскі дзяржаўны ўніверсітэт імя М. В. Гогаля. У час вучобы ва ўстанове Ф. Багушэвіча ў 1865—1868 гг.— Нежынскі юрыдычны ліцэй (1840—1875).

*...купіў сабе Люцынку — маленькі маёнтачак...* — фальварак В. Дунін-Марцінкевіч набыў 8 крас. 1840 г. ад Алойзія Сялявы, Юліі Скржэтульскай і Апалоніі Янкоўскай. Цяпер — в. Малая Люцынка Валожынскага раёна Мінскай вобл.

С. 448:

*...Палессем...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Ісці ўслед за бягучым днём...» (с. 677).

*...калі Польшча знаходзілася ў уніі са Швецыяй...* — маецца на ўвазе шведска-польская унія 1592—1599 гг.— асабістая унія паміж Шведскім каралеўствам і Рэччу Паспалітай. Узнікла па смерці караля Швецыі Юхана III (1568—1592), сын якога, польскі кароль і вялікі князь ВКЛ (з 1587 г.) Жыгімонт III (Сігізмунд III) атрымаў у спадчыну ад бацькі таксама шведскі прастол. Унія пе-

растала існаваць, калі дзядзька караля Карл (у 1604—1611 кароль Карл IX) у 1599 г. дамогся пазбаўлення яго шведскай кароны.

*Герб Лебедзь* — прыватнаўласніцкі герб у Беларусі, Украіне, Літве і Польшчы, якім карысталіся больш за 220 родаў. Вядомы з XIII ст., у Вялікім Княстве Літоўскім — пасля Гарадзельскай уніі 1413 г.

*...у Смаленскім ваяводстве.*— Смаленскае ваяводства — адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка ВКЛ у XV—XVII стст.

С. 449:

*...Рэчы Паспалітай.*— Рэч Паспалітая — афіцыйная назва феадальна-федэратыўнай дзяржавы, у якую аб'ядналіся ў выніку Люблінскай уніі (1569) Польшча (Карона) і ВКЛ (Княства, або Літва). Існавала ў 1569—1795 гг. і была ліквідавана ў выніку трох падзелаў яе тэрыторыі ў 1772, 1793 і 1795 г. паміж Расіяй, Прусіяй і Аўстрыяй.

*...Расійскай імперыі.*— гл. камент. да інтэрв'ю «Шляхам перамог — шляхам набыткаў» (с. 702).

*Асветніцтва* — адна з ключавых эпох у гісторыі еўрапейскай культуры, звязаная з развіццём навуковай, філасофскай і грамадскай думкі, у аснове якой ляжалі рацыяналізм і вальнадумства; ахоплівае канец XVII — XVIII стст.

*...быў членам Акадэміі навук, размешчанай у Пецярбургзе...*— С. Богуш-Сестранцэвіч у 1807 г. быў абраны ў члены Расійскай акадэміі, створанай у 1783 г. у Пецярбургу на ўзор Французскай акадэміі як цэнтр па вывучэнні рускай мовы і славеснасці. У 1841 г. Расійская акадэмія была пераўтворана ў II Аддзяленне Імператарскай Санкт-Пецярбургскай акадэміі навук — гл. камент. да анкеты «Итоги, перспективы, задачи» (с. 774).

*...Маскоўскага, Віленскага, Ягелонскага ўніверсітэтаў.*— Маскоўскі ўніверсітэт — гл. камент. да інтэрв'ю «Давайце верыць у чалавека» (с. 741—742); Віленскі ўніверсітэт — найстарэйшая навучальная ўстанова Беларусі і Літвы. Заснавана ў Вільні ў 1570 г. езуітамі як калегіум, які ў 1578 г. быў пераўтвораны ў акадэмію. З 1781 г.— Галоўная школа ВКЛ. У 1803 г. рэарганізавана ва ўніверсітэт. У 1832 г. закрыты расійскім імператарам Мікалаем I. У 1919 г. дзейнасць універсітэта адноўлена, яму было прысвоена імя Стэфана Баторыя. Пасля перадачы ў 1939 г. Вільні Літве пераўтвораны на ўзор Універсітэта Вітаўта Вялікага ў Коўне. У 1940 г. рэфармаваны на ўзор савецкіх вышэйшых школ. З 1944 г.—

Вільнюскі дзяржаўны ўніверсітэт (у 1955—1989 гг. імя В. Капсукаса). З 1990 г.— Вільнюскі ўніверсітэт; Ягелонскі ўніверсітэт (Кракаўскі ўніверсітэт) — найстарэйшы ўніверсітэт Польшчы, адзін з першых у Еўропе. Заснаваны ў 1364 г. у Кракаве Казімірам III Вялікім; у 1400 г. рэарганізаваны каралём Польшчы Ягайлам (адсюль назва) на ўзор Парыжскага ўніверсітэта.

*...на Сенацкай плошчы...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Время думать о своей культуре и языке» (с. 757).

*...хваляванні 1848 года...* — верагодна, маюцца на ўвазе антыпрыгонніцкія выступленні сялян ў Беларусі.

С. 450:

*На XIX век прыпадае два разгромленыя польскія паўстанні і ў дадатак яшчэ паўстанне Кастуся Каліноўскага...* — маецца на ўвазе паўстанне 1794 г. у Польшчы, Беларусі і Літве — нацыянальна-вызваленчае паўстаннне супраць акупацыі Расіяй і Прусіяй часткі тэрыторыі Рэчы Паспалітай, за аднаўленне Рэчы Паспалітай у межах 1772 г., далейшае правядзенне рэформ Чатырохгадовага сейма 1788—1792 гг., а таксама паўстанні 1830—1831 гг. і 1863—1864 гг.

*...дзве еўрапейскія рэвалюцыі — 1830 і 1848 гадоў...* — верагодна, маецца на ўвазе Французская рэвалюцыя 1830 г. (Ліпеньская рэвалюцыя) — рэвалюцыя ў Францыі ў ліп. 1830 г., у выніку якой скінута манархія Бурбонаў, скончыўся дваранска-клерыкальны рэжым Рэстаўрацыі (1814—1830) і ўстаноўлена Ліпеньская манархія — улада буйных капіталістычных уласнікаў (пераважна фінансістаў) у асобе караля Луі-Філіпа. Рэвалюцыя не дазволіла аднавіць у Францыі феадальна-абсалютысцкія парадкі, спрыяла развіццю рыначных адносін і дала штуршок Бельгійскай рэвалюцыі 1830 г.; Рэвалюцыі 1848—1849 гг. у Еўропе, «вясна народаў» — серыя рэвалюцый, якія ахапілі большасць краін Заходняй Еўропы ў канцы 1840-х г. (рэвалюцыя 1848 г. у Францыі, рэвалюцыя 1848 г. у Аўстрыі, рэвалюцыя 1848—1849 гг. у Германіі, рэвалюцыя 1848—1849 гг. у Венгрыі, рэвалюцыя 1848—1849 гг. у Італіі). У гістарыяграфіі XIX ст. часам вызначаліся як адзіная Усееўрапейская рэвалюцыя 1848—1849 гг.

С. 451:

*«Залёты»* — фарс-вадэвіль, напісаны ў 1870 г.

*«З-над Іслачы, або Лекі на сон»* — апавяданне, напісанае ў 1868 г.

*«Пінская шляхта»* — фарс-вадэвіль, напісаны ў 1866 г.

*«Славяне ў XIX стагоддзі»* — гістарычнае апавяданне, ўпершыню надрукаванае ў зборніку «Цікавішся? Прачытай!» (1856).

*«Люцынка, альбо Шведы на Літве»* — гістарычнае апавяданне, напісанае ў 1857 г.

*...надрукавана лібрэта ў друкарні Ю. Завадскага...* — маецца на ўвазе выдавецтва Завадскага, якое існавала ў Вільні ў 1805—1939 гг. Заснавана Ю. Завадскім на базе ўласнай друкарні (дзейнічала з 1803 г.) і друкарні Віленскага ўніверсітэта. Лібрэта «Сялянкі» было надрукавана выдавецтвам пасля смерці Ю. Завадскага, у той час, калі ім кіраваў яго сын А. Завадскі (1814—1875).

*...«сялянкі»...* — гл. камент. да выступлення «Творчество Янки Купалы и Якуба Коласа в контексте славянских литератур» (с. 801).

С. 452:

*«Барышня-крестьянка»* — гл. камент. да выступлення «Творчество Янки Купалы и Якуба Коласа в контексте славянских литератур» (с. 801).

*...буколікам.*— буколіка (букалічная паэзія) — жанр антычнай паэзіі эліністычнага і рымскага часу (III ст. да н. э.— V ст. н. э.) — невялікія вершы, у якіх апяваліся ўцехі вясковага жыцця, праца і каханне пастуха на ўлонні прыроды.

С. 453:

*...«цепь великая, порвалась и ударила одним концом по барину, другим — по мужику».*— перайначаныя радкі з паэмы М. Някрасава «Кому на Руси жить хорошо» (1863—1876). У арыгінале: «Порвалась цепь великая, / Порвалась — расскочилася / Одним концом по барину, / другим — по мужику!..»

*...у паслярэформенных творах — камедыі «Пінская шляхта» (1866) і «Залёты» (1870), якія пры жыцці пісьменніка свету не ўбачылі.*— творы напісаны пасля сялянскай рэформы 1861 г. у Расійскай імперыі. «Пінская шляхта» і «Залёты» былі надрукаваны ў газ. «Вольная Беларусь» у 1918 г. адпаведна ў № 30—31 і № 10—12.

С. 454:

*...у «Пане Тадэвушы»...* — гл. камент. да выступлення «Творчество Янки Купалы и Якуба Коласа в контексте славянских литератур» (с. 801).

*...«Вішнёвы сад», «Тры сястры»...* — п’есы, напісаныя адпаведна ў 1903-м і 1900-м гг.

С. 456:

*...беларускага дудара...* — беларускі дудар — так называюць В. Дуніна-Марцінкевіча, бо ён аўтар зборніка «Дудар беларускі, або Усяго патроху» (1857).

С. 457:

*«Іліяда»* — старажытнагрэчаская эпічная паэма, аўтарства якой (разам з «Адысеяй») прыпісваюць Гамеру. Узнікла, відаць, у IX—VIII стст. да н. э. у Іоніі на аснове паданняў пра Траянскую вайну (XIII ст. да н. э.).

*«Давід Сасунскі»* — сярэднявечны армянскі эпас, які склаўся ў VIII—X (не пазней за XIII) стст.

*«Слова аб палку Ігаравым»* — гл. камент. да выступлення «Творчество Янки Купалы и Якуба Коласа в контексте славянских литератур» (с. 804).

*«Калевала»* — карэла-фінскі народны эпас. Складаецца з карэльскіх, фінскіх і іжорскіх народных песень (рунаў), якія сабраў і запісаў у 1-й пал. XIX ст. фінскі фалькларыст Э. Лёнрат (1802—1884). Упершыню апублікавана ў 1835 г. (першая кампазіцыя — 32 руны), у 1849 г. (другая кампазіцыя — 50 рунаў).

*...шматлікіх «Гутарак»...* — гутарка — мастацка-публіцыстычны, найчасцей ананімны твор, у якім ставяцца актуальныя пытанні народнага жыцця ці грамадскай маралі; жанр беларускай літаратуры XIX ст.

*...на літаратурны алімп...* — Алімп — самы высокі горны масіў у Грэцыі. У старажытнагрэчаскай міфалогіі Алімп — месца, дзе жывуць багі. Тут: кола абраннікаў якога-небудзь аб'яднання, таварыства.

С. 458:

*«Староўскія дзяды»* — частка другая вершаванай аповесці «Вечарніцы» (1855).

*...у «Дзядах»...* — «Дзяды» — паэма, напісаная ў 1823—1832 гг.

С. 459:

*...ўпершыню ўбачыла свет толькі ў 1945 годзе.*— твор «Травіца брат-сястрыца» ўпершыню быў надрукаваны ў часоп. «Беларусь» (1945. № 11—12).

*...уладанняў князя Барыса (г. Барысаў)...* — Барысаў, паводле «Гісторыі Расійскай» В. М. Тацішчава (1686—1750), заснаваны ў 1102 г. князем Барысам Усяславічам.

*...«Гісторыі беларускай літаратуры».*— «Гісторыя беларускай літаратуры» М. Гарэцкага ўпершыню выйшла ў 1920 г., пры жыцці пісьменніка перавыдавалася ў 1921, 1924, 1926 гг.

С. 460:

*...на працягу 50-х гадоў убачылі свет чатыры зборнікі Марцінкевіча...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Усякаму пакаленню трэба баявая справа...» (с. 749—750).

*...з беларускім перакладам «Пана Тадэвуша»...* — гл. камент. да выступлення «Творчество Янки Купалы и Якуба Коласа в контексте славянских литератур» (с. 801).

*...ў віленскай друкарні Сыркіна...* — друкарня А. Г. Сыркіна — друкарня і выдавецтва, якія існавалі ў Вільні ў 1859—1915 гг. Заснавана А. Г. Сыркіным, пасля смерці якога перайшла яго нашчадкам.

*...ў цэнзурны камітэт...* — маецца на ўвазе Віленскі цэнзурны камітэт, які дзейнічаў у 1827—1856 гг. Заснаваны як Цэнзурны камітэт пры Віленскім універсітэце (1804—1826).

С. 461:

*...Дняпра...* — гл. камент. да п'есы «Птушкі між маланак» (с. 669).

*...Дзвіны...* — Заходняя Дзвіна — гл. камент. да выступлення «Элементы міфалогіі ў паэзіі Янкі Купалы і Якуба Коласа» (с. 815).

*...Свіслачы...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Усякаму пакаленню трэба баявая справа...» (с. 749).

*...Віліі...* — Вілія — рака на тэрыторыі Беларусі і Літвы, правы прыток ракі Нёман.

*...Нёмана...* — гл. камент. да выступлення «Элементы міфалогіі ў паэзіі Янкі Купалы і Якуба Коласа» (с. 815).

*...перакладам Б. Тарашкевіча і нядаўнім, ажыццёўленым Я. Семяжонам.*— пераклад «Пана Тадэвуша» быў зроблены Б. Тарашкевічам у 1931—1932 гг., Я. Семяжонам — у 1985 г.

С. 462:

*«Быліцы, расказы Навума» складаюцца з дзвюх гісторый.*— «Быліцы, расказы Навума» (1857) склалі вершаваныя апавяданні «Злая жонка» і «Халімон на каранацыі».

*...Васіля Цёркіна...* — Васіль Цёркін — герой паэмы А. Твардоўскага «Васіль Цёркін» (1942—1945).

*...славутай паэме А. Твардоўскага папярэднічала паэма з такой жа назвай і героем, якая была напісана ў Айчынную вайну*

*1812 года.*— у рускай літаратуры вядомы раман П. Бабарыкіна (1836—1921) «Васіль Цёркін» (1892); Айчынная вайна 1812 г.— гл. камент. да інтэрв'ю «Задачы вынікаюць з самога жыцця…» (с. 729—730).

С. 463:

*Паўстанне 1863 года, арышт, турма, паліцэйскі нагляд падсеклі творчыя крылы пісьменніка.*— у час паўстання 1863—1864 гг. В. Дунін-Марцінкевіч абвінавачваўся ў распаўсюджванні «шкодных для ўрада» ідэй. Хоць наўпроставы ўдзел пісьменніка ў паўстанні не быў даказаны, яго арыштавалі. З кастр. 1864 да снеж. 1865 г. зняволены ў мінскую турму, потым быў пад наглядам паліцыі (зняты ў 1872—1874 гг., зноў усталяваны ў 1876 г.).

С. 464:

*…на паляшуцкім дыялекце…* — палешукі — гл. камент. да выступлення «Рассказ — тоже открытие» (с. 787).

С. 466:

*«Конрад Валенрод»* — паэма, напісаная паміж 1824—1828 гг.

С. 467:

*…панславізму…* — панславізм — культурная і палітычная плынь сярод славянскіх народаў, у аснове якой ляжаць ідэі пра этнічную і моўную супольнасць славян, неабходнасць іх палітычнага аб'яднання. Сфармавалася ў канцы XVIII — 1-й пал. XIX ст.

## ВОДЗЫВЫ НА ДЫСЕРТАЦЫІ

### 1971

### Отзыв официального оппонента И. Я. Науменко на докторскую диссертацию П. К. Дюбайло «Современный белорусский роман» (с. 468)

Друкуецца паводле машынапісу (БДАМЛМ, ф. 495, воп. 1, адз. зах. 309, арк. 1—10).

С. 468:

*СССР* — гл. камент. да інтэрв'ю «Ісці ўслед за бягучым днём…» (с. 678).

С. 470:

*...в неоконченных «военных» романах К. Чорного...* — маюцца на ўвазе раманы «Млечны Шлях» і «Пошукі будучыні — гл. камент. да анкеты «Во имя жизни на земле (с. 777).

С. 471:

*...теории бесконфликтности...* — тэорыя бесканфліктнасці — умоўны тэрмін у савецкай эстэтыцы, літаратурнай крытыцы і літаратуразнаўстве, якім абазначаюцца погляды, што адмаўляюць правамернасць грамадска значнага канфлікту ў творах савецкай літаратуры і мастацтва, прысвечаных сучаснасці.

*«Люди на болоте»* — гл. камент. да інтэрв'ю «Пад сцягам сацыялістычнага рэалізму» (с. 688).

*«Птицы и гнезда»* — гл. камент. да выступлення «Дыхание истории» (с. 781).

С. 471—472:

*«Сердце на ладони»* — гл. камент. да інтэрв'ю «Пад сцягам сацыялістычнага рэалізму» (с. 688).

С. 472:

*«На пороге будущности»* — гл. камент. да выступлення «Дыхание истории» (с. 780).

*«Застенок Малиновка»* — гл. камент. да выступлення «Дыхание истории» (с. 780).

*«Встречи на росстанях»* — гл. камент. да выступлення «Дыхание истории» (с. 781).

*...модернистских течений...* — мадэрнізм — гл. камент. да інтэрв'ю «Усякаму пакаленню трэба баявая справа...» (с. 750).

С. 473:

*«Дыхание грозы»* — гл. камент. да інтэрв'ю «Пад сцягам сацыялістычнага рэалізму» (с. 688).

*«объять необъятное»* — ад афарызма Казьмы Пруткова «Никто не обнимет необъятного» са збору думак і афарызмаў «Плоды раздумья» (1854).

С. 475:

*...народностью, партийностью...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Літаратура — гэта самапазнанне» (с. 693).

## 1975

### Водзыў
### на дысертацыю Е. Л. Бондаравай
### «Проблемы белорусского киноискусства и печать»,
### прадстаўленай на атрыманне вучонай ступені доктара
### філалагічных навук (с. 476)

Друкуецца паводле аўтографа (БДАМЛМ, ф. 495, воп. 1, адз. зах. 310, арк. 1—12).

С. 476:

*«Беларусьфільм»* — кінастудыя Беларусі. Створана ў 1928 г. кінаарганізацыяй Белдзяржкіно пад назвай «Савецкая Беларусь» (напачатку ў Ленінградзе, з 1939 г. у Мінску). З 1946 г.— сучасная назва.

С. 477:

*...яно, як гаварыў У. І. Ленін, сапраўды важнейшае з усіх мастацтваў.*— фраза «Вы павінны цвёрда помніць, што з усіх мастацтваў для нас важнейшым з'яўляецца кіно» заснавана на ўспамінах А. В. Луначарскага (1875—1933) пра гутарку з У. І. Леніным у лют. 1922 г., якія ён выклаў у 1925 г. у лісце да Р. М. Балцянскага (1885—1953). Вытрымкі з ліста былі апублікаваны ў кнізе Р. М. Балцянскага «Ленін і кіно» (1925).

С. 479:

*...у «Канстанціне Заслонаве»...* — «Канстанцін Заслонаў» (1949) — мастацкі фільм А. Файнцымера (1906—1982) і У. Корш-Сабліна (1900—1974).

*«Чырвонае лісце»* — мастацкі фільм (1958) У. Корш-Сабліна.

*«Міколка-паравоз»* — мастацкі фільм (1956) Л. Голуба (1904—1994), зняты паводле аднайменнай аповесці (1935) М. Лынькова.

*«Дзяўчынка шукае бацьку»* — мастацкі фільм (1959) Л. Голуба, зняты паводле аднайменнай п'есы (1946) Я. Рыса (1908—1973).

*«Гадзіннік спыніўся апоўначы»* — мастацкі фільм (1959) М. Фігуроўскага (1923—2003).

*«Праз могілкі»* — мастацкі фільм (1963) В. Турава (1936—1996), зняты паводле аднайменнай аповесці (1962) П. Ніліна

(1908—1981).

*«Я родам з дзяцінства»* — мастацкі фільм (1966) В. Турава.

*«Вайна пад дахамі»* — мастацкі фільм (1967) В. Турава, зняты паводле аднайменнага рамана (1960) А. Адамовіча.

*«Сыны ідуць у бой»* — мастацкі фільм (1969) В. Турава, зняты паводле аднайменнага рамана (1963) А. Адамовіча.

*«Альпійская балада»* — мастацкі фільм (1965) Б. Сцяпанава (1927—1992), зняты паводле аднайменнай аповесці (1963) В. Быкава.

*«Я, Францыск Скарына»* — мастацкі фільм (1969) Б. Сцяпанава.

*«Рудобельская рэспубліка»* — мастацкі фільм (1971) М. Калініна (1937—1974).

*«Крушэнне імперыі»* — мастацкі фільм (1970) У. Корш-Сабліна і М. Калініна.

*«Зімародак»* — мастацкі фільм (1972) В. Нікіфарава (н. 1942).

*«Бацька»* — мастацкі фільм (1971) Б. Сцяпанава.

*«Заўтра будзе позна»* — мастацкі фільм (1972) А. Карпава (1922—1998) і М. Цяпака (1926—2015), створаны сумесна кінастудыяй «Беларусьфільм» і Славацкай кінавытворчасцю (ЧССР).

*«Полымя»* — мастацкі фільм (1974) В. Чацверыкова (1933—1983).

*«Руіны страляюць ва ўпор»* — шасцісерыйны тэлевізійны мастацкі фільм (1970) В. Чацверыкова.

С. 482:

*...«Суд у лесе» і «Адплата»...* — паэмы, напісаныя адпаведна ў 1942 і 1943—1944 гг.

*«Парашуты на дрэвах»* — мастацкі фільм (1973) І. Шульмана (1912—1990), зняты паводле аднайменнай кнігі (1969) Н. Рыдзеўскага (1920—1995).

## 1981

### [Дысертацыя Антаніны Алегаўны Шалемавай…] (с. 483)

Друкуецца паводле аўтографа (БДАМЛМ, ф. 495, воп. 1, адз. зах. 312, арк. 1—5).

Водзыў на кандыдацкую дысертацыю А. А. Шалемавай «Станаўленне класічных асноў беларускай паэзіі (Я. Купала, Я. Колас, М. Багдановіч і творчасць А. С. Пушкіна)».

С. 483:

*...літаратуры «областнической»...* — «областническая» літаратура — умоўнае паняцце, якое існавала ў XIX ст. для абазначэння літаратуры «другога» шэрага, твораў пісьменнікаў, якія друкаваліся пераважна ў губернскіх газетах і епархіяльных часопісах і канцэнтравалі сваю ўвагу на паказе пэўнай мясцовасці і яе насельнікаў.

*...вядомы сваімі працамі па гісторыі рускага рамантызму...* — у прыватнасці, вядомы наступныя працы І. Замоціна на гэту тэму: «Ранние романтические веяния в русской литературе» (1900), «Романтизм двадцатых годов XIX стол. в русской литературе» (1903), «Значение романтизма 20-х годов XIX стол. в истории русской литературы и общественности» (1904).

*...вывучаў творчасць Янкі Купалы, Якуба Коласа...* — творчасці Якуба Коласа прысвечана кніга І. Замоціна «Пуціны беларускай літаратуры (Я. Колас, «Новая зямля»)» (1924), артыкул «Паэма Я. Коласа «Сымон-музыка» як аўтахарактарыстыка» (Полымя. 1926. № 8), творчасці Янкі Купалы — артыкул «Беларуская драматургія. Драмы Я. Купалы» (Узвышша. 1927. № 1) і інш.

*...па шэрагу прычын былі забыты, выкраслены з навуковага ўжытку...* — працы былі выкраслены з навуковага ўжытку з прычыны таго, што іх аўтары былі рэпрэсаваныя.

С. 485:

*«Яўгеніем Анегіным»* — гл. камент. да выступлення «Творчество Янки Купалы и Якуба Коласа в контексте славянских литератур» (с. 802).

*...«Новай зямлёй»...* — гл. камент. да інтэрв’ю «Літаратура — гэта самапазнанне» (с. 695).

*...пушкінскай «Деревни»...* — «Вёска» — верш, напісаны ў 1819 г.

*«Руслан і Людміла»* — гл. камент. да выступлення «Найярчэйшая зорка ў цудоўным сузор'і...» (с. 809).

*«Курган»...* — гл. камент. да выступлення «Творчество Янки Купалы и Якуба Коласа в контексте славянских литератур» (с. 806).

С. 486:

*...з працы дысертанткі ў якасці выкладчыка на філалагічным факультэце БДУ імя У. І. Леніна.*— А. А. Шалемава працавала выкладчыкам кафедры рускай класічнай літаратуры філфака БДУ з 1975 г.; БДУ імя У. І. Леніна — гл. камент. да інтэрв'ю «Я — за рамантыку» (с. 676), «У беларускіх літаратуразнаўцаў» (с. 680).

## 2001

### Водзыў
### на доктарскую дысертацыю Т. І. Шамякінай
### «Беларуская класічная літаратурная традыцыя і міфалогія»
### (с. 487)

Друкуецца паводле аўтографа (БДАМЛМ, ф. 495, воп. 1, адз. зах. 313, арк. 1—9).

С. 487:

*...Месапатаміі, Старажытнай Індыі, Кітая...* — Месапатамія, Старажытная Індыя — гл. камент. да п'есы «Птушкі між маланак» (с. 668, 667); Старажытны Кітай — адна з найбольш старажытных цывілізацый у свеце. Узнікла на аснове неалітычных культур, якія склаліся ў V—III тыс. да н. э. у сярэднім цячэнні ракі Хуанхэ.

*...архетыпаў...* — архетып — агульначалавечы першавобраз, персанаж, што паслядоўна паўтараецца ў міфах, літаратуры і індывідуальным мысленні; спосаб сувязі вобразаў, што пераходзяць з пакалення ў пакаленне; цэнтральнае паняцце аналітычнай псіхалогіі. Як навуковы тэрмін уведзены швейцарскім псіхолагам К. Г. Юнгам і адаптаваны філасофіяй, літаратура- і мастацтвазнаўствам, тэорыяй міфалогіі, фальклярыстыкай і інш.

С. 489:

*ДНК* (дэзоксірыбануклеінавая кіслата) — макрамалекула, якая забяспечвае захаванне, перадачу з пакалення ў пакаленне і рэалізацыю генетычнай праграмы развіцця і функцыянавання жывых арганізамаў.

*«Сымон-музыка»* — гл. камент. да інтэрв'ю «У мяне шчаслівы лёс» (с. 760).

*...індаеўрапейскую традыцыю.*— індаеўрапейцы — гл. камент. да п'есы «Птушкі між маланак» (с. 667).

С. 490:

*...калектыўнага несвядомага...* — калектыўнае бессвядомае — адна з форм бессвядомага, адзіная для грамадства ў цэлым, якая з'яўляецца прадуктам спадчынных структур мозга. Тэрмін уведзены К. Г. Юнгам у артыкуле «Структура бессвядомага» (1916), з'яўляецца цэнтральным паняццем аналітычнай псіхалогіі.

*...суб'ектыўныя ідэалісты...* — прадстаўнікі суб'ектыўнага ідэалізму — філасофскага кірунку, у якім суб'ектыўнае лічыцца першасным у адносінах да аб'ектыўнага і адмаўляецца незалежнасць навакольнай рэчаіснасці ад волі і свядомасці суб'екта.

## НЕКРАЛОГІ

### 1969

### Бывай, наш таварыш… (с. 492)

Друкуецца паводле газ. «ЛіМ», 1969, 19 снеж., дзе ўпершыню апублікаваны.

Напісаны з нагоды смерці Я. Мазалькова, які пайшоў з жыцця 15 снеж. 1969 г.

С. 492:

*...лаўрэат Дзяржаўнай прэміі...* — Я. Мазалькоў уганараваны Дзяржаўнай прэміяй СССР у 1950 г. за кнігу «Янка Купала: жыццё і творчасць» (1949); Дзяржаўная прэмія СССР — гл. камент. да выступлення [Дарагія таварышы!..] (с. 798).

*...аднаго з самых нястомных яе паўпрэдаў у Маскве...* — у 1948—1969 гг. Я. Мазалькоў быў старшынёй камісіі, потым савета па беларускай літаратуры пры праўленні Саюза пісьменнікаў СССР у Маскве.

*...адсвяткавалі яго шасцідзесяцігадовы юбілей.*— 30 верас. 1969 г.

*Юнак з Крычаўшчыны прыязджае ў Маскву дваццатых гадоў, настойліва вучыцца...* — Я. Мазалькоў нарадзіўся ў г. Крычаве Магілёўскай вобл., у 1930 г. скончыў 1-шы Маскоўскі ўніверсітэт.

С. 493:

*...напісаў кнігі пра іх, нашых класікаў.*— маюцца на ўвазе кнігі «Янка Купала: жыццё і творчасць» (1949), «Якуб Колас: крытыка-біяграфічны нарыс» (1952).

*...па Харошаўскай шашы.*— Харашоўская шаша — шаша ў Маскве на тэрыторыі раёна Харашоўскі. Назву атрымала ў 1935 г. па сваім напрамку да сяла Харашова.

## 1975

### [Дарагія таварышы і сябры!..] (с. 493)

Друкуецца паводле аўтографа (прыватны архіў нашчадкаў пісьменніка).

Напісаны з нагоды смерці М. Лынькова, які пайшоў з жыцця 21 верас. 1975 г.

С. 493:

*...Кастрычніка...* — гл. камент. да верша «Бывай, наш паэце...» (с. 673).

С. 494:

*«Над Бугам»* — апавяданне, напісанае ў 1927 г.

*«Андрэй Лятун»* — гл. камент. да выступлення «Праблемы развіцця літаратуры ў эпоху сучаснага навукова-тэхнічнага прагрэсу» (с. 791).

*«Баян»* — апавяданне, напісанае ў 1933 г.

*...грамадзянскай вайны...* — гл. камент. да выступлення «Праблемы развіцця літаратуры ў эпоху сучаснага навукова-тэхнічнага прагрэсу» (с. 791).

*...рэдактар часопіса «Полымя»...* — М. Лынькоў быў галоўным рэдактарам часопіса «Полымя рэвалюцыі» ў 1933—1941 гг.

*...адзін з першых кіраўнікоў Саюза пісьменнікаў БССР...* — Саюз пісьменнікаў БССР — гл. камент. да інтэрв'ю «Пад сцягам сацыялістычнага рэалізму» (с. 688—689); М. Лынькоў узначальваў Саюз пісьменнікаў БССР у 1938—1948 гг.

*...арганізатар і сталы супрацоўнік Інстытута літаратуры АН БССР...* — Інстытут літаратуры АН БССР — гл. камент. да інтэрв'ю «У беларускіх літаратуразнаўцаў» (с. 679—680); у 1943—1946 і 1949—1952 гг. М. Лынькоў быў дырэктарам Інстытута літаратуры, мовы і мастацтва АН БССР, пасля загадчыкам сектара літаратуры і старшым навуковым супрацоўнікам гэтага інстытута.

*...дэпутат Вярхоўнага Савета БССР некалькіх скліканняў...* — Вярхоўны Савет БССР — гл. камент. да інтэрв'ю «Час абуджае думку творцаў» (с. 731); М. Лынькоў быў дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР у 1940—1975 гг.

*...дэлегат ад Беларусі ў ААН...* — ААН — гл. камент. да інтэрв'ю «З думкай пра дзень заўтрашні» (с. 719); як член дэлегацыі БССР М. Лынькоў неаднаразова ўдзельнічаў у працы сесій Генеральнай Асамблеі ААН.

*...Камуністычнай партыі...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Ісці ўслед за бягучым днём…» (с. 678).

*«Векапомныя дні»* — гл. камент. да выступлення «Сем гадоў пошукаў і здзяйсненняў» (с. 786).

## 1991

### [Паважаныя таварышы!..] (с. 495)

Друкуецца паводле машынапісу (прыватны архіў нашчадкаў пісьменніка).

Напісаны з нагоды смерці Кандрата Крапівы, які пайшоў з жыцця 7 студз. 1991 г.

С. 495:

*...па новаму стылю...* — новы стыль — сістэма летазлічэння, якую ўвёў у 1852 г. Папа Рымскі Грыгорый XIII (адсюль назва — грыгарыянскі каляндар). Савецкая Расія перайшла на грыгарыянскі каляндар 31 студз. 1918 г.

*...Ігуменскага павета...* — Ігуменскі павет — адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка ў Беларусі ў 1795—1923 гг. у Мінскай губерні.

*...царкоўнапрыходскую школу...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Усякаму пакаленню трэба баявая справа…» (с. 745).

*Койданава* — назва г. Дзяржынск Мінскай вобл. да 1932 г.

*...здаў экзамен на званне народнага настаўніка...* — Кандрат Крапіва (К. К. Атраховіч) здаў экзамен на званне народнага настаўніка ў 1913 г.

*...пачаў працаваць настаўнікам земскага народнага вучылішча ў вёсцы Мнішаны Пяршайскай воласці Мінскага павета.*— Мнішаны — ранейшая назва в. Мішаны Валожынскага раёна Мінскай вобл.; Пяршайская воласць — адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка ў Беларусі ў 1897—1920 гг. у Мінскім павеце; Мінскі павет — адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка ў ВКЛ, Расійскай імперыі і БССР у XV—XX стст.; Кандрат Крапіва (К. К. Атраховіч) працаваў настаўнікам у Мнішанах у 1914—1915 гг.

*Першая сусветная вайна* — гл. камент. да п'есы «Птушкі між маланак» (с. 668).

С. 495—496:

*...школу прапаршчыкаў, якую будучы пісьменнік скончыў у Гатчыне...* — Гатчына — цэнтр раёна Ленінградскай вобл. Расіі; Кандрат Крапіва (К. К. Атраховіч) скончыў Гатчынскую школу прапаршчыкаў у сак. 1916 г.

С. 496:

*...служыў у запасным палку ў Асташкаве...* — Асташкаў — адміністрацыйны цэнтр Асташкаўскай гарадской акругі Цвярской вобл. Расіі; Кандрат Крапіва (К. К. Атраховіч) служыў у 38-м запасным батальёне ў Асташкаве ўвесну і ўлетку 1916 г.

*Румынскі фронт* — агульнавайсковае аператыўна-стратэгічнае фарміраванне Рускай арміі на паўднёвым крыле руска-германскага фронту ў Першай сусветнай вайне. Утвораны 3 (16) снеж. 1916 г. у сувязі з разгромам румынскай арміі войскамі германскай кааліцыі ўвосень 1916 г. Спыніў існаванне ў лют. 1918 г.

*...у Чырвоную Армію...* — гл. камент. да п'есы «Птушкі між маланак» (с. 666).

*...супрацоўніка Інбелкульта, часопіса «Полымя рэвалюцыі»...* — Інбелкульт (Інстытут беларускай культуры) — першая ў гісторыі Беларусі вышэйшая шматгаліновая навукова-даследчая

ўстанова. Заснаваны 30 студз. 1922 г. у Мінску на базе Навукова-тэрміналагічнай камісіі Наркамасветы БССР, 13 лістап. 1928 г. рэарганізаваны ў АН Беларусі; Кандрат Крапіва (К. К. Атраховіч) у 1925—1926 гг. працаваў інструктарам Цэнтральнага бюро краязнаўства пры Інбелкульце, у 1932—1936 гг. быў загадчыкам аддзела часопіса «Полымя рэвалюцыі».

*...удзельніка вызвалення Заходняй Беларусі...* — Заходняя Беларусь — гл. камент. да інтэрв'ю «Я — за рамантыку» (с. 676); Кандрат Крапіва (К. К. Атраховіч) удзельнічаў у паходзе Чырвонай Арміі ў Заходнюю Беларусь і Заходнюю Украіну, якія былі ў складзе Польшчы, праведзеным 17—28 верас. 1939 г. Вынікам аперацыі стала аб'яднанне Заходняй Беларусі з БССР, Заходняй Украіны — з УССР.

*...ў час фінскай вайны 1939—40 гг.*— савецка-фінляндская вайна 1939—1940 гг.— вайна Савецкага Саюза супраць Фінляндыі 30 лістап. 1939 — 12 сак. 1940 г.

*...супрацоўніка франтавой газеты «За Савецкую Беларусь» і рэдактара сатырычнай газеты-агітплаката «Раздавім фашысцкую гадзіну»...* — у 1941—1942 гг. Кандрат Крапіва (К. К. Атраховіч) быў супрацоўнікам франтавых газет «Красноармейская правда» і «За Савецкую Беларусь», у 1943—1945 гг. рэдагаваў сатырычную газету-плакат «Раздавім фашысцкую гадзіну».

*...рэдактара часопіса «Вожык»...* — Кандрат Крапіва (К. К. Атраховіч) быў рэдактарам часоп. «Вожык» у 1945—1947 гг.

*...дырэктара Інстытута мовазнаўства АН БССР...* — Інстытут мовазнаўства АН БССР — навуковая ўстанова. Заснаваны ў 1929 г. у Мінску на базе мовазнаўчых падраздзяленняў Інстытута беларускай культуры. У 1935 г. рэарганізаваны разам з іншымі гуманітарнымі інстытутамі ў Інстытут літаратуры, мовы і мастацтва. У 1952 г. створаны нанова, у 1956 г. прысвоена імя Якуба Коласа. З 2008 г.— Інстытут мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы. З 2012 г.— у складзе Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры, з 2016 г.— як філіял «Інстытут мовазнаўства імя Якуба Коласа»; Кандрат Крапіва (К. К. Атраховіч) узначальваў Інстытут мовазнаўства ў 1952—1956 гг.

*...віцэ-прэзідэнта АН БССР...* — АН БССР — гл. камент да інтэрв'ю «У беларускіх літаратуразнаўцаў» (с. 680); Кандрат Крапіва (К. К. Атраховіч) быў віцэ-прэзідэнтам АН БССР у 1956—1982 гг.

*...тэатра імя Янкі Купалы...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Час абуджае думку творцаў» (с. 732).

*«Хто смяецца апошнім»* — гл. камент. да выступлення «Праблемы развіцця літаратуры ў эпоху сучаснага навукова-тэхнічнага прагрэсу» (с. 794).

*...Савецкага Саюза...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Ісці ўслед за бягучым днём...» (с. 678).

*«Канец дружбы»* — п'еса, напісаная ў 1934 г.

*«Партызаны»* — п'еса, напісаная ў 1937 г.

*«Проба агнём»* — п'еса, напісаная ў 1943 г.

*«Мілы чалавек»* — п'еса, напісаная ў 1945 г.

*«Пяюць жаваранкі»* — п'еса, напісаная ў 1950 г.

*«Людзі і д'яблы»* — п'еса, напісаная ў 1958 г.

*«Брама неўміручасці»* — гл. камент. да выступлення [Уважаемые товарищи!..] (с. 789).

*«Мядзведзічы»* — раман, нясконччаны, кніга першая напісана ў 1932 г.

## АЎТАБІЯГРАФІЯ (с. 498)

Друкуецца паводле Зб. тв., 1983, т. 6.

Пад тэкстам: 1962.

Упершыню — зб. «Пяцьдзясят чатыры дарогі», 1963.

У БДАМЛМ, у асабістым архіве І. Навуменкі, захоўваецца фрагмент машынапісу «Аўтабіяграфіі» (ф. 495, воп. 1, адз. зах. 221, арк. 1—2). Тэкст машынапісу адпавядае тэксту, змешчанаму ў зб. «Пяцьдзясят чатыры дарогі». На апошняй старонцы пазначана дата: 17.XI.62 г.

С. 498:

*...ў мястэчку Васілевічы на Палессі.*— гл. камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 683), «Ісці ўслед за бягучым днём...» (с. 677).

*Бацька* — Я. П. Навуменка.

*У сям'і было нас трое хлопцаў (я старэйшы) і сястра.*— гл. камент. да інтэрв'ю «Усякаму пакаленню трэба баявая справа...» (с. 745).

*...дзед па бацьку...* — П. Навуменка.

*...ў маці...* — М. П. Навуменка.

С. 499:

*Дняпра* — гл. камент. да п'есы «Птушкі між маланак» (с. 669).

*...у мястэчку стварылася невялікая падпольная група...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 683).

*...расстралялі нашага кіраўніка.*— А. Белага.

*...дэсанцкай разведвальнай групы капітана Манзіенкі, якая дзейнічала ў калінкавіцкіх і васілевіцкіх лясах...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 683).

*...у партызанскай брыгадзе імя Панамарэнкі.*— гл. камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 683).

*Прыдняпроўскае...* — Прыдняпроўе — гл. камент. да інтэрв'ю «Літаратура — гэта самапазнанне» (с. 694).

*...Савецкай Арміяй...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 683).

*...пад Ленінградам, на Карэльскім перашыйку, ва Усходняй Прусіі і ў Сілезіі.*— гл. камент. да п'есы «Птушкі між маланак» (с. 667), інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 683), «Аблічча галоўнага героя» (с. 700—701).

*...працаваў уласным карэспандэнтам мазырскай абласной газеты «Бальшавік Палесся» па Васілевіцкаму кусту...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 682), «Літаратура — гэта самапазнанне» (с. 692).

*...адначасова завочнічаючы на філалагічным факультэце БДУ імя У. І. Леніна.*— гл. камент. да інтэрв'ю «Я — за рамантыку» (с. 676), «У беларускіх літаратуразнаўцаў» (с. 680), «Літаратура — гэта самапазнанне» (с. 692).

*...працаваў у «Звяздзе», у часопісе «Маладосць».*— гл. камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 682).

## УСПАМІНЫ

### 1968

### Дні, якія надоўга запомніліся (с. 500)

Друкуецца паводле Зб. тв., 1983, т. 6.
Пад тэкстам: 1968.
Упершыню — зб. «Наша “Звязда”», 1968.

С. 500:

*...працаваў куставым карэспандэнтам абласной газеты «Бальшавік Палесся»...* — гл. камент. да інтэрв’ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 682), «Літаратура — гэта самапазнанне» (с. 692).

С. 501:

*...палескія...* — Палессе — гл. камент. да інтэрв’ю «Ісці ўслед за бягучым днём…» (с. 677).

### 1979

### Вялікае сэрца (с. 502)

Друкуецца паводле зб. «Святло яго душы», 1979, дзе ўпершыню апублікаваны.

С. 502:

*«Андрэй Лятун»* — гл. камент. да выступлення «Праблемы развіцця літаратуры ў эпоху сучаснага навукова-тэхнічнага прагрэсу» (с. 791).

*...«Над Бугам», «Баян»...* — гл. камент. да некралога [Дарагія таварышы і сябры!..] (с. 835).

*...Кастрычніцкай рэвалюцыяй...* — гл. камент. да верша «Бывай, наш паэце...» (с. 673).

С. 503:

*...працаваў у часопісе «Маладосць»...* — гл. камент. да інтэрв’ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 682).

*...Індыяй...* — Індыя — дзяржава ў Паўднёвай Азіі на паўвостраве Індастан і прылеглых тэрыторыях.

*...вярнуўся з Індыі.*— М. Лынькоў наведаў Індыю ў 1956 г. для ўдзелу ў канферэнцыі ЮНЕСКА ў Нью-Дэлі.

*...над Індыйскім акіянам...* — Індыйскі акіян — трэці паводле велічыні акіян на Зямлі (пасля Ціхага і Атлантычнага). Размешчаны пераважна ў Паўднёвым паўшар'і, паміж Афрыкай, Азіяй, Аўстраліяй і Антарктыдай.

*...яны былі без асаблівых пярэчанняў надрукаваны ў «Маладосці».*— гл. камент. да інтэрв'ю «Я — за рамантыку» (с. 675).

*Абараніўшы кандыдацкую дысертацыю, я некалькі гадоў выкладаў беларускую літаратуру ў Белдзяржуніверсітэце...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Літаратура — гэта самапазнанне» (с. 692), «Я — за рамантыку» (с. 676).

С. 504:

*...у Доме творчасці ў Каралішчавічах...* — Каралішчавічы — Дом творчасці беларускіх пісьменнікаў у вёсцы Каралішчавічы Мінскага раёна, па Магілёўскай шашы, дзе да 1949 г. знаходзіўся паляўнічы дамок старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР Н. Наталевіча. Рашэннем урада краіны будынак быў перададзены Саюзу пісьменнікаў БССР. Пасля заканчэння будаўніцтва Дома творчасці «Іслач» (1986) Каралішчавічы былі перададзены ААТ «Мінскрамбуд», дзе іх намаганнямі адкрыты дом адпачынку «На ростанях».

*...на Нарачы...* — Нарач — гл. камент. да выступлення [Дарагія таварышы!..] (с. 799).

*...быў зняты дакументальны фільм «Міхась Лынькоў».*— маецца на ўвазе дакументальны фільм «Народны пісьменнік Міхась Лынькоў» (1966) рэжысёра А. Ястрабава.

## 1982

### Яго ўплыў (с. 504)

Друкуецца паводле зб. «Успаміны пра Якуба Коласа», 1982, дзе ўпершыню апублікаваны.

У раздзеле «Заўвагі» зб. «Успаміны пра Якуба Коласа» адзначаецца, што тэкст «друкуецца з магнітафоннага запісу, які захоўваецца ў Літаратурным музеі Якуба Коласа».

С. 504:

*«Дрыгва»* — гл. камент. да інтэрв'ю «Задачы вынікаюць з самога жыцця…» (с 728).

*...палескія аповесці Якуба Коласа...* — гл. камент. да выступлення «Творчество Янки Купалы и Якуба Коласа в контексте славянских литератур» (с. 807).

*...ва ўніверсітэце, дзе я тады вучыўся.*— гл. камент. да інтэрв'ю «Я — за рамантыку» (с. 676), «Літаратура — гэта самапазнанне» (с. 692).

С. 505:

*...пісаў сваю кандыдацкую дысертацыю «Тэма працы ў творчасці Коласа»...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Літаратура — гэта самапазнанне» (с. 692).

*...напісаў першы нарыс аб працы Якуба Коласа і рэвалюцыйным змаганні ў Пінкавічах, дзе ён жыў у перыяд першай рускай рэвалюцыі.*— маецца на ўвазе нарыс «Сёння ў Пінкавічах» (1954); Пінкавічы — вёска ў Пінскім раёне Брэсцкай вобл.; У 1904—1906 гг. Якуб Колас (К. М. Міцкевіч) працаваў у Пінкавічах настаўнікам; першая руская рэвалюцыя — гл. камент. да інтэрв'ю «Время думать о своей культуре и языке» (с. 756).

*Называецца яна «Духоўны воблік героя».*— гл. камент. да інтэрв'ю «Ісці ўслед за бягучым днём…» (с. 677).

*...напісаць яшчэ трэцюю кнігу — аб стылі Якуба Коласа...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Ісці ўслед за бягучым днём…» (с. 678).

## 1995

### Калі прыйдуць нашы? (с. 505)

Друкуецца паводле газ. «ЛіМ», 1995, 21 крас., дзе ўпершыню апублікаваны.

С. 505:

*...ў Хатыні...* — Хатынь — мемарыяльны архітэктурна-скульптурны комплекс на ўшанаванне памяці жыхароў вёскі Хатынь Лагойскага раёна Мінскай вобл. і іншых беларускіх вёсак, знішчаных нямецка-фашысцкімі захопнікамі разам з насельніцтвам у Вялікую Айчынную вайну.

С. 506:

*...Васілевіч...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 677).

*...вёрст...* — вярста — старадаўняя мера (адзінка) даўжыні. Вядомая з XI ст. З канца XVIII ст. раўнялася 1066,781 м.

*...калі немцаў пагналі ад Масквы, калі Чырвоная Армія наступала на іншых напрамках...* — гаворка ідзе пра падзеі Маскоўскай бітвы 1941—1942 гг. У ходзе маштабнага наступлення гітлераўцы наблізіліся да Масквы на адлегласць 25—30 км. 27 і 29 лістап. 1941 гг. савецкія войскі нанеслі моцныя контрудары па праціўніку, а 5-6 снеж. перайшлі ў контрнаступленне. 7—10 студз. 1942 г. контрнаступленне пад Масквой перарасло ў агульнае наступленне савецкіх войск на асноўных стратэгічных напрамках ад Ленінграда да Чорнага мора, у ходзе якога нямецка-фашысцкія войскі былі адкінуты на 150—400 км, вызвалены Маскоўская і Тульская вобл., многія раёны Калінінскай, Смаленскай, Разанскай і Арлоўскай абл.; Чырвоная Армія — гл. камент. да п'есы «Птушкі між маланак» (с. 666).

*Захапілі Керч...* — Керч — горад ва ўсходнім Крыме, на беразе Керчанскага праліва; у выніку дэсантнай аперацыі Чырвонай Арміі Керч і Керчанскі паўвостраў, захопленыя ў лістап. 1941 г. часцямі вермахта, да 2 студз. 1942 г. былі поўнасцю заняты савецкімі войскамі. Аднак 8 мая 1942 г. нямецка-фашысцкія войскі перайшлі ў наступленне, і ўжо 20 мая савецкі плацдарм быў ліквідаваны.

*...дабівалі акрываўлены Севастопаль...* — Севастопаль — горад на паўднёвым захадзе Крымскага паўвострава, на беразе Чорнага мора; у чэрв.— ліп. 1942 г. гарнізон Севастопаля, абарона якога працягвалася з 30 кастр. 1941 г., чатыры тыдні супрацьстаяў нашмат большым сілам праціўніка.

*...пад Харкавам акружылі вялікую групу савецкіх войскаў...* — Харкаў — горад ва Украіне, цэнтр Харкаўскай вобл., у сутоках рэк Харкаў, Лопань і Уда; у маі 1942 г. у раёне Харкава нямецка-фашысцкія войскі акружылі і амаль цалкам знішчылі наступальныя сілы Чырвонай Арміі.

*...савецкія войскі ўжо вялі зацятыя баі ў Сталінградзе.*— гаворка ідзе пра падзеі Сталінградскай бітвы — адной з найбуйнейшых бітваў Другой сусветнай і Вялікай Айчыннай войнаў. Складалася з абарончай (17 ліп.— 18 лістап. 1942 г.) і наступальнай (19 лістап. 1942 — 2 лют. 1943 г.) аперацый савецкіх войск. 23 жн.

1942 г. гітлераўцы пачалі штурм Сталінграда, у верас. напружаныя баі ішлі на вуліцах горада, з кастр.— у цэхах заводаў; Сталінград — гл. камент. да інтэрв'ю «Как земля поет…» (с. 706).

*Атрад імя Варашылава* — партызанскі атрад, створаны ў чэрв. 1942 г. у Калінкавіцкім раёне Палескай вобл. У чэрв. 1943 г. разгорнуты ў 99-ю Калінкавіцкую брыгаду, якая дзейнічала да чэрв. 1944 г.

*...местачковая падпольная група...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 683).

С. 506—507:

*...мелі трывалую сувязь як з партызанамі, так і з дэсантнікамі, ваеннымі разведчыкамі...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 683).

С. 507:

*...Адэсы...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Аблічча галоўнага героя» (с. 701).

*...масквіч Толя...* — А. М. Пястоў.

*...радыстка...* — Г. С. Сцяпанава.

*Яшчэ адзін дэсантнік...* — І. К. Маскаленка.

С. 508:

*...ў гарнізонах саўгаса «Ведрыч»...* — «Ведрыч» — гаспадарка ў вёсцы Ведрыч Рэчыцкага раёна Гомельскай вобл. Арганізавана ў 1930 г. як калгас «Ведрыч», у 1932 г. ператорана ў лугас. У час Вялікай Айчыннай вайны ў Ведрычы акупантамі быў створаны вялікі гарнізон.

*...ў ваенным архіве г. Падольска...* — маецца на ўвазе Цэнтральны архіў Міністэрства абароны Расійскай Федэрацыі. Заснаваны ў 1936 г. у Маскве як аддзел архіваў Народнага камісарыята абароны СССР. З 1946 г. размяшчаецца ў Падольску. Да 1992 г.— Цэнтральны архіў Міністэрства абароны СССР.

С. 509:

*...Дняпра...* — гл. камент. да п'есы «Птушкі між маланак» (с. 669).

*...Прыпяці...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Задачы вынікаюць з самога жыцця…» (с. 729).

*Бранск* — гл. камент. да інтэрв'ю «Усякаму пакаленню трэба баявая справа» (с. 746).

С. 510:

*...разгарнулася на Курскай дузе гіганцкая танкавая бітва.*— гл. камент. да п'есы «Птушкі між маланак» (с. 666).

*...палескія...* — Палессе — гл. камент. да інтэрв'ю «Ісці ўслед за бягучым днём...» (с. 677).

*Буг* (Заходні Буг) — рака на тэрыторыі Украіны, Беларусі і Польшчы, левы прыток ракі Нараў.

*...у мясцовы атрад Панамарэнкі...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 683).

*Вызвалялі родныя Васілевічы...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 683).

**Дзённікавыя запісы (с. 511)**

Друкуецца паводле аўтографа (прыватны архіў нашчадкаў пісьменніка).

Запісы зроблены ў нататніку (з вокладкай карычневага колеру; на вокладцы: 1980).

С. 511:

*...Біблію...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Давайце верыць у чалавека» (с. 743—744).

*Хачу напісаць «Коласа» для школы.*— маецца на ўвазе кніга «Якуб Колас: Нарыс жыцця і творчасці» (1982).

*Была бітва за прэмію. За «Гіст.<орыю>».*— маецца на ўвазе пасяджэнне ў Саюзе пісьменнікаў БССР з нагоды вылучэння на атрыманне Дзяржаўнай прэміі БССР супрацоўнікаў Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы, аўтараў «Истории белорусской дооктябрьской литературы» (1977) і «Истории белорусской советской литературы» (1977) — гл. камент. да інтэрв'ю «Шляхам перамог — шляхам набыткаў» (с. 703).

*Сёння ў «ЛіМе» рэц.<энзія> Каваленкі. Шмат чаго ў смутку ўгадаў.*— маецца на ўвазе рэцэнзія В. Каваленкі «Смутак белых начэй» (ЛіМ. 1980. 5 снеж.) на зборнік І. Навуменкі «Смутак белых начэй» (1980), у які ўвайшоў аднайменны раман — гл. камент. да інтэрв'ю «Літаратура — гэта самапазнанне» (с. 693).

*Ядзя* — Я. П. Навуменка.

*...ад падзей у Польшчы.*— у Польшчы, якая з канца 1970-х гг. перажывала сацыяльна-эканамічны крызіс, адбыліся масавыя забастоўкі і дэманстрацыі рабочых. Урад вымушаны быў пайсці на саступкі ўдзельнікам забастовак і падпісаць пагадненні, якія гаран-

тавалі правы рабочых на стварэнне незалежных прафсаюзаў. У жн.— верас. 1980 г. узнікла і атрымала вялікі ўплыў незалежнае агульнанацыянальнае аб'яднанне прафсаюзаў «Салідарнасць».

С. 512:

*...на Карэльскім перашыйку.*— гл. камент. да інтэрв'ю «Аблічча галоўнага героя» (с. 700).

*...з Чэхаславакіі.*— гл. камент. да інтэрв'ю «Давайце верыць у чалавека» (с. 743).

*Пачаў пісаць раздзел пра дзіцячыя творы Коласа.*— маецца на ўвазе раздзел «Непаўторная пара дзяцінства», які ўвайшоў у кнігу «Якуб Колас: Нарыс жыцця і творчасці» (1982).

*...выбіраць тыраж для Збору твораў. 20 тыс. мне не трэба.*— маецца на ўвазе Зб. тв. І. Навуменкі ў 6 т.— гл. камент. да інтэрв'ю «Это память о чем-то...» (с. 699); Збор твораў выйшаў тыражом 30 000 экз.

*Выйшаў I т. Збору і кніжачка пра мяне.*— маецца на ўвазе першы том Зб. тв. І. Навуменкі ў 6 т. і манаграфія Г. Сіненкі «Іван Навуменка» (1981).

*...з Васілевіч...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 683).

*...на дачы.*— гл. камент. да інтэрв'ю «Радзіма не там, дзе жывецца больш сытна і бесклапотна, а там, дзе твае карані, душа, дзе ты сам — часцінка ўсяго» (с. 754—755).

*Панская Варшава «балюе». Яшчэ з большым імпэтам, чым летась. Што выйдзе з гэтага балявання?* — у Польшчы, нягледзячы на падпісаныя пагадненні паміж уладамі і рабочымі, нарастала незадаволенасць, працягваліся антыўрадавыя выступленні прыхільнікаў прафсаюза «Салідарнасць». Ва ўмовах канфрантацыі з апазіцыяй у снеж. 1981 г. улады Польшчы ўвялі ў краіне ваеннае становішча (дзейнічала да ліп. 1983 г.).

*...Мяленцьевіч.*— І. М. Шынкарэнка.

С. 513:

*Суздаль* — цэнтр раёна ва Уладзімірскай вобл. Расіі. Уваходзіць у «Залатое кальцо Расіі».

*Уладзімір* — цэнтр Уладзімірскай вобл. Расіі. Уваходзіць у «Залатое кальцо Расіі».

*Загорск* — назва горада Сергіеў Пасад у 1930—1992 гг.

*Сергіеў Пасад* — цэнтр раёна ў Маскоўскай вобл. Расіі. Уваходзіць у «Залатое кальцо Расіі».

*Скончыў «Помні свой лес». Жыжэнка яго пераклаў...* — апавяданне «Помні свой лес» датуецца 1982 г. У. Жыжэнка зрабіў пераклад твора на рускую мову.

*А. Мальдзіс мусіў ехаць у Амерыку.*— А. Мальдзіс уваходзіў у склад беларускай дэлегацыі, якая брала ўдзел у працы XXXVI сесіі Генеральнай Асамблеі ААН у Нью-Ёрку.

*Учора дапісаў кавалачак да «Замяці жаўталісця». Так вёрстка вымагала.*— «Замяць жаўталісця» — гл. камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 684); верагодна, гаворка ідзе пра вёрстку другога тома (1982) Зб. тв. І. Навуменкі ў 6 т., куды ўвайшла аповесць «Замяць жаўталісця».

С. 514:

*«За капусту»* — гл. камент. да інтэрв'ю «Шляхам перамог — шляхам набыткаў» (с. 704).

*...з Чырвонаармейскай.*— Чырвонаармейская — вуліца ў цэнтры Мінска.

*...абмеркаванне на нашым Савеце...* — маецца на ўвазе вучоны савет Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы.

*«Загародка на ваколіцу».*— гл. камент. да інтэрв'ю «Роздум аб сучаснасці» (с. 710).

*МТС* — гл. камент. да інтэрв'ю «Літаратура — гэта самапазнанне» (с. 693).

*Якая доўгая вайна* — гл. камент. да інтэрв'ю «Час абуджае думку творцаў» (с. 731).

*Дамок пад чарэшняй. Хвядосік.*— магчыма, маецца на ўвазе апавяданне «Насупраць уласнай кватэры» [2003—2006], галоўны герой якога Пятро Хвядосік.

*Арсень і Арсеніха.*— верагодна, маецца на ўвазе апавяданне «Выбар» (1981), героямі якога ў тым ліку з'яўляюцца Арсень Булыба і яго жонка Куліна — Арсеніха.

*...у Акадэмію.*— маецца на ўвазе Акадэмія навук Беларусі — гл. камент. да інтэрв'ю «У беларускіх літаратуразнаўцаў» (с. 680).

*...Ларысе...* — Л. А. Лецка.

*«Юнацтва»* — гл. камент. да інтэрв'ю «Апавяданні ваенныя яшчэ пішу. І буду пісаць» (с. 735).

*З трох апавяданняў — адно слабое (пра <нрзб> і Параску).*— верагодна, маецца на ўвазе апавяданне «Параска» (1994).

*КПСС* — гл. камент. да інтэрв'ю «Ісці ўслед за бягучым днём...» (с. 678).

С. 515:

*...прыехала Таня з Дзімам.*— Т. І. Навуменка і Д. Алееў.

*Рыхтуемся да з'езда славістаў.*— маецца на ўвазе XI Міжнародны з'езд славістаў, які праходзіў з 31 жн. па 7 верас. 1993 г. у Браціславе.

*«Кааператар»* — санаторый Белкаапсаюза, размешчаны ў пасёлку Астрашыцкі Гарадок Мінскага раёна Мінскай вобл. Працаваў у 1980—1990-я гг.

*Чарнаморска-Балтыйскі саюз* — з ідэяй стварэння Балтыйска-Чарнаморскага саюза — блока дзяржаў Балтыйскага і Чарнаморскага рэгіёнаў у пач. 1990-х гг. выступалі некаторыя беларускія грамадска-палітычныя дзеячы.

*...выйшаў «Вецер у соснах».*— маецца на ўвазе трэцяе асобнае выданне рамана «Вецер у соснах» — гл. камент. да інтэрв'ю «Новыя героі, новыя праблемы» (с. 674).

*...Паўліка.*— П. І. Навуменку.

*Дзень Арла і Белгарада.*— гл. камент. да п'есы «Птушкі між маланак» (с. 669).

С. 516:

*...на кангрэс у Браціславу.*— маецца на ўвазе з'езд славістаў.

*...ў міжнародным камітэце.*— маецца на ўвазе Міжнародны камітэт славістаў — навуковая арганізацыя, якая аб'ядноўвае нацыянальныя камітэты славістаў больш як трыццаці краін. Заснаваны ў 1955 г. у Бялградзе.

*Індаеўрапеістыка* — раздзел лінгвістыкі, які даследуе жывыя і мёртвыя індаеўрапейскія мовы.

*Марцін* — горад у паўночнай Славакіі, размешчаны каля падножжа горных масіваў Малая Фатра і Вялікая Фатра пры зліцці рэк Турэц і Ваг.

*«Дружба»* — гатэль у Мінску, размешчаны на вул. Талбухіна. У цяперашні час не дзейнічае.

С. 517:

*Пасадзец* — вёска ў Лагойскім раёне Мінскай вобл., радзіма Змітрака Бядулі.

*На моўнай камісіі...* — верагодна, маецца на ўвазе Дзяржаўная камісія па ўдакладненні правапісу беларускай літаратурнай мовы, створаная паводле пастановы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 17 жн. 1993 г.

*Сёння «ЛіМ» надрукаваў два апавяданні.*— «Вагавая будка» (1993) і «У Заграбе, на плошчы...» (1993) (пад шапкай «Два апавяданні»).

*Учора абараніўся Кісялёў.*— гаворка ідзе пра абарону доктарскай дысертацыі Г. В. Кісялёва «Беларуская літаратура XIX ст.: Праблемы крыніцазнаўства і атрыбуцыі».

*Напісаў заключную частку трылогіі (вельмі невялікай) «Юнацтва».*— у трылогію ўвайшлі таксама аповесці «Дзяцінства» і «Падлетак» — гл. камент. да інтэрв'ю «Апавяданні ваенныя яшчэ пішу. І буду пісаць» (с. 735).

С. 518:

*«Мастацтва»* — магазін у Мінску, размешчаны на праспекце Незалежнасці (у той час — Ф. Скарыны).

*...у навуковай бібліятэцы...* — маецца на ўвазе Цэнтральная навуковая бібліятэка АН Беларусі імя Якуба Коласа.

*«Скучно жить на свете, господа...»* — заключныя словы «Аповесці пра тое, як пасварыўся Іван Іванавіч з Іванам Нічыпаравічам» (1834) М. Гогаля. У арыгінале гучаць крыху інакш: «Скучно на этом свете, господа!»

*Урывак з аповесці Шамякіна ў «ЛіМе» неблагі.*— маецца на ўвазе ўрывак з аповесці «Падзенне» (ЛіМ. 1993. 5 лістап.).

## ЛІСТЫ

### Да Асіпенкі (с. 519)

Датуецца — 26-IX-55 г.

Друкуецца паводле машынапісу (БДАМЛМ, ф. 37, воп. 1, адз. зах. 11, арк. 2).

*У аснову апавядання пакладзены канфлікт, які можа быць у жыцці. Брыгадзір Васіль Мароз баіцца сеяць кукурузу...* — у 1950—1960-х гг. у СССР праходзіла гэтак званая кукурузная кампанія — спроба масавага ўкаранення кукурузы ў сельскай гаспадарцы.

*Заг.<адчык> аддзела навукі і студэнцкай моладзі* — гл. камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 682).

### Да П. П. Ахрыменкі (с. 520)

Датуецца — [1956].

Друкуецца паводле машынапісу (БДАМЛМ, ф. 37, воп. 1, адз. зах. 13, арк. 1).

*Вашага Шаўчэнку я здаў.*— верагодна, маецца на ўвазе артыкул П. П. Ахрыменкі «Тарас Шаўчэнка на Беларусі», надрукаваны ў часоп. «Маладосць» (1956. № 12).

### Да М. С. Белага (с. 520)

Датуецца — 8 апрель 1944 г.

Друкуецца паводле аўтографа (прыватны архіў нашчадкаў пісьменніка).

*Харчы дрэннаватыя, 3-я катэгорыя.*— згодна з пастановай Дзяржаўнага камітэта абароны СССР ад 12 верас. 1941 г. аб увядзенні новых харчовых норм сутачнага забеспячэння асабістага складу Чырвонай Арміі яны былі ўведзены дыферэнцавана для кожнай з чатырох катэгорый ваеннаслужачых. Да трэцяй катэгорыі адносіліся чырвонаармейцы страявых часцей, якія не ўваходзілі ў склад дзеючай арміі.

*...нашу падпольную працу.*— гл. камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 683).

Датуецца — 18.12.44 г.

Друкуецца паводле аўтографа (прыватны архіў нашчадкаў пісьменніка).

*...з Усход.<няй> Прусіі.*— гл. камент. да інтэрв'ю «Аблічча галоўнага героя» (с. 700).

*Карпаты* — горная сістэма на ўсходзе Цэнтральнай Еўропы. Размешчана на тэрыторыі Румыніі, Чэхіі, Славакіі, Украіны, Польшчы, Венгрыі і Аўстрыі.

Датуецца — 30.XII.44.

Друкуецца паводле аўтографа (прыватны архіў нашчадкаў пісьменніка).

*ОК ЛКСМБ* — абласны камітэт ЛКСМБ — гл. камент. да інтэрв'ю «Я — за рамантыку» (с. 675).

*...аб нашай працы...* — маецца на ўвазе падпольная праца.

Датуецца — 2.V.45.

Друкуецца паводле аўтографа (прыватны архіў нашчадкаў пісьменніка).

*Сівой...* — Л. П. Сівой.

Датуецца — 2.6.45.

Друкуецца паводле аўтографа (прыватны архіў нашчадкаў пісьменніка).

*Тры месяцы гэтай вайны я быў «Швэйкам»...* — Ёзэф Швейк — галоўны герой няскончанага рамана Я. Гашака (1883—1923) «Прыгоды ўдалага ваякі Швейка ў сусветную вайну» (1921—1923).

*Чатыры разы прадстаўлены к узнагародзе, можа быць, удасца атрымаць.*— І. Навуменка быў узнагароджаны ордэнам Чырвонай Зоркі — гл. камент. да інтэрв'ю «Мае героі былі рамантыкамі» (с. 763).

Датуецца — 8.10.57 г.

Друкуецца паводле аўтографа (прыватны архіў нашчадкаў пісьменніка).

*Аповесць будзе, мабыць, хутка надрукавана.*— маецца на ўвазе аповесць «Вайна каля Цітавай копанкі» (1957), якая ўпершыню была апублікавана ў часоп. «Маладосць» (1957. № 12).

*Кніжачку апавяданняў табе высылаю.*— маецца на ўвазе зб. «Сямнаццатай вясной» (1957).

*Палессе* — гл. камент. да інтэрв'ю «Ісці ўслед за бягучым днём...» (с. 677).

*...ў Васілевічах...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 683).

*...адзін дзень правёў з сынам.*— В. І. Навуменкам.

*Чакаю новага патомства. Дактары кажуць, што паявіцца на свет дачка.*— 11 лістап. 1957 г. у І. Навуменкі нарадзіўся сын Яўген, які памёр 19 мая 1958 г.

*Прывітанне тваёй Марыі і тваім чадам.*— гаворка ідзе пра М. Р. Белую, У. М. Белага, А. М. Белую і М. М. Белую.

*...вул. Кірава...* — вуліца названа ў гонар С. М. Кірава.

Датуецца — 2.III.65.

Друкуецца паводле аўтографа (прыватны архіў нашчадкаў пісьменніка).

*...з прычыны майго саракагоддзя.*— 40 гадоў І. Навуменку споўнілася 16 лют. 1965 г.

*Думаю, што праз год будзе ў мяне новая тоўстая кніга пра вайну.*— маецца на ўвазе раман «Вецер у соснах» — гл. камент. да інтэрв'ю «Новыя героі, новыя праблемы» (с. 674).

*Летам я быў у Адэсе...* — І. Навуменка адпачываў у Адэсе ўлетку 1964 г. У БДАМЛМ, у асабістым фондзе пісьменніка (ф. 495, воп. 1, адз. зах. 367), захоўваецца праграма оперы «Рыгалета» Дж. Вердзі Адэскага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра оперы і балета і білет на гэты спектакль, датаваны 19 ліп. 1964 г.

*...можа, калі-небудзь удалося б напісаць кніжачку.*— І. Навуменка ў суаўтарстве з адэскім журналістам В. Мамантавым напісаў дакументальную аповесць, прысвечаную Ф. Манзіенку,— «Капітан Стэп ідзе ў разведку» — гл. камент. да інтэрв'ю «Аблічча галоўнага героя» (с. 701).

*Нядаўна выйшла адна такая кніжачка Хрыстафора Прыбыля. Называецца «Особое задание». Такая, як і ў нас, група, дзейнічала пад Бабруйскам.*— кніга выйшла ў 1963 г. У час акупацыі Беларусі нямецка-фашысцкімі войскамі Х. Прыбыль быў камандзірам разведвальна-дыверсійнай групы, якая мела непасрэдную радыёсувязь з Масквой і цесныя кантакты з патрыятычным падполлем Бабруйска.

*Тваёй дзяўчынцы адкажу асобна. На журналістыку яна без стажу не паступіць...* — гаворка ідзе пра А. М. Белую. На факультэт журналістыкі яна не паступала, працавала выхавацелем у дзіцячым садзе.

## Да В. У. Быкава (с. 527)

Датуецца — [18.06.1984].

Друкуецца паводле машынапісу (ДМГБЛ, КП 010735/431).

*...твоим шестидесятилетием...* — 60 гадоў В. Быкаву споўнілася 19 чэрв. 1984 г.

*...Героя Социалистического Труда...* — гл. камент. да выступлення «Праблемы развіцця літаратуры ў эпоху сучаснага навукова-тэхнічнага прагрэсу» (с. 793).

## Да Я. П. Веліхава (с. 527)

Без даты.

Друкуецца паводле машынапісу (прыватны архіў нашчадкаў пісьменніка).

*АН БССР* — гл. камент. да інтэрв'ю «У беларускіх літаратуразнаўцаў» (с. 680).

*...отделения физико-математических наук АН БССР...* — аддзяленне фізіка-матэматычных навук — структурная адзінка АН БССР, якая аб'ядноўвае навукова-даследчыя ўстановы фізічнага і матэматычнага профілю. Створана ў 1963 г. Сучасная назва — аддзяленне фізікі, матэматыкі і інфарматыкі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі.

*...Института литературы АН БССР...* — гл. камент. да інтэрв'ю «У беларускіх літаратуразнаўцаў» (с. 679—680).

*...отделения общественных наук АН БССР...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Навукі крокі сажнёвыя» (с. 723).

*ООН* — гл. камент. да інтэрв'ю «З думкай пра дзень заўтрашні» (с. 719).

*СССР* — гл. камент. да інтэрв'ю «Ісці ўслед за бягучым днём...» (с. 678).

*...вице-президента АН БССР, академика АН БССР И. Я. Науменко...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Роздум аб сучаснасці» (с. 708), «Шляхам перамог — шляхам набыткаў» (с. 702).

## Да У. М. Верамейчыка (с. 528)

Датуецца — 16.06.87 г.

Друкуецца паводле аўтографа (краязнаўчы фонд РЦРБ).

*Васілевічы* — гл. камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 683).

*Асабліва пра Нехарань і «Горад вясковы».*— верагодна, маюцца на ўвазе вершы У. Верамейчыка «Урочышча Нехарань» (1980), прысвечаны І. Навуменку, і «Васілевічы» (1987), які пачынаецца радком: «Васілевічы — / горад вясковы…».

*...з дырэктарам выдавецтва...* — маецца на ўвазе выдавецтва «Мастацкая літаратура», дырэктарам якога ў той час быў В. М. Грышановіч (1947—2007).

## Да А. І. Вярцінскага (с. 529)

Датуецца — [1987].

Друкуецца паводле машынапісу (прыватны архіў нашчадкаў пісьменніка).

*«Затапленне»* — нарыс М. Замскага.

*...ў гэтай зоне...* — маецца на ўвазе тэрыторыя Віцебскай вобл., якая падлягала затапленню ў сувязі з будаўніцтвам Даўгаўпілскай ГЭС.

*...Даўгаўпілскай ГЭС...* — Даўгаўпілская ГЭС — гідраэлектрастанцыя, якая будавалася ў г. Даўгаўпілсе (Латвія) у 1979—1987 гг. Праект прадугледжваў значную зону затаплення на тэрыторыі Латвіі і Беларусі. Дзякуючы шырокаму грамадскаму руху супраць узвядзення станцыі будаўніцтва ГЭС было спынена.

*АН БССР* — гл. камент. да інтэрв'ю «У беларускіх літаратуразнаўцаў» (с. 680).

*Інстытут гісторыі АН БССР* — гл. камент. да інтэрв'ю «Время думать о своей культуре и языке» (с. 758).

*Віцэ-прэзідэнт АН БССР* — гл. камент. да інтэрв'ю «Роздум аб сучаснасці» (с. 708).

*Акадэмік АН БССР* — гл. камент. да інтэрв'ю «Шляхам перамог — шляхам набыткаў» (с. 702).

## Да Н. С. Гілевіча (с. 529)

Датуецца — [1986—1987].

Друкуецца паводле машынапісу (прыватны архіў нашчадкаў пісьменніка).

*...Саюза пісьменнікаў БССР...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Пад сцягам сацыялістычнага рэалізму» (с. 688—689).

*...у Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР...* — гл. камент. да інтэрв'ю «У беларускіх літаратуразнаўцаў» (с. 679—680).

*Віцэ-прэзідэнт АН БССР* — гл. камент. да інтэрв'ю «Роздум аб сучаснасці» (с. 708).

*Акадэмік АН БССР* — гл. камент. да інтэрв'ю «Шляхам перамог — шляхам набыткаў» (с. 702).

## Да У. А. Гілепа (с. 530)

Датуецца — [1989—1990].

Друкуецца паводле машынапісу (прыватны архіў нашчадкаў пісьменніка).

*...каля станцыі метро «Няміга»...* — «Няміга» — станцыя Мінскага метрапалітэна. Адкрыта 31 снеж. 1990 г. Размешчана ў гістарычным цэнтры горада. Назву атрымала ад ракі Нямігі, з якой звязана першае летапіснае ўпамінанне Мінска, і аднайменнай вуліцы.

*...Інстытута гісторыі АН БССР...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Время думать о своей культуре и языке» (с. 758).

*...Беларускага тэхналагічнага інстытута...* — Беларускі тэхналагічны інстытут імя С. М. Кірава заснаваны ў 1930 г. у Гомелі як Лясны інстытут на базе факультэта лясной гаспадаркі Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі. У 1934—1961 гг.— Беларускі лесатэхнічны інстытут (з 1935 г.— імя С. М. Кірава). З 1946 г.— у Мінску. З 1993 г.— Беларускі дзяржаўны тэхналагічны ўніверсітэт.

*Віцэ-прэзідэнт АН БССР* — гл. камент. да інтэрв'ю «Роздум аб сучаснасці» (с. 708).

*Акадэмік АН БССР* — гл. камент. да інтэрв'ю «Шляхам перамог — шляхам набыткаў» (с. 702).

**Да Пятра Глебкі (с. 531)**

Датуецца — [1967].

Друкуецца паводле аўтографа (ЦНБ, ф. 24, воп. 1, адз. зах. 1821).

*...з вялікім святам Кастрычніка.*— гл. камент. да інтэрв'ю «Шляхам перамог — шляхам набыткаў» (с. 702).

**Да В. М. Гурбо (с. 531)**

Датуецца — 10 лютага [1977 г.].

Друкуецца паводле машынапісу (прыватны архіў нашчадкаў пісьменніка).

*...Слуцкого льнозавода.*— Слуцкі льнозавод — прадпрыемства па першаснай перапрацоўцы лёну. Заснаваны ў 1961 г.

*Депутат Минского обл.<астного> Совета...* — І. Навуменка быў дэпутатам Мінскага абласнога Савета дэпутатаў у 1970—1980 гг.

*Директор Института литературы им. Я. Купалы АН БССР* — гл. камент. да інтэрв'ю «У беларускіх літаратуразнаўцаў» (с. 679—680).

*Член-корреспондент АН БССР* — гл. камент. да інтэрв'ю «У беларускіх літаратуразнаўцаў» (с. 680).

**Да І. Г. Дарашкевіча (с. 532)**

Датуецца — 10 лютага [1977 г.].

Друкуецца паводле машынапісу (прыватны архіў нашчадкаў пісьменніка).

*...ул. Кирова...* — гл. камент. да ліста да М. С. Белага ад 8.10.57 г. (с. 852).

*РК КПБ* — раённы камітэт Камуністычнай партыі Беларусі.

*Депутат Минского областного Совета* — гл. камент. да ліста да В. М. Гурбо (с. 857).

*Директор Института литературы им. Я. Купалы АН БССР* — гл. камент. да інтэрв'ю «У беларускіх літаратуразнаўцаў» (с. 679—680).

*Член-корреспондент АН БССР* — гл. камент. да інтэрв'ю «У беларускіх літаратуразнаўцаў» (с. 680).

**Да М. І. Дземчука (с. 533)**

Датуецца — 31.07.91.

Друкуецца паводле машынапісу (прыватны архіў нашчадкаў пісьменніка).

*...Акадэміі навук БССР...* — гл. камент. да інтэрв'ю «У беларускіх літаратуразнаўцаў» (с. 680).

*...Дзяржаўнай праграмы развіцця беларускай і іншых нацыянальных моў у Беларускай ССР...* — Дзяржаўная праграма развіцця беларускай і іншых нацыянальных моў у Беларускай ССР была зацверджана пастановай Савета Міністраў БССР 28 верас. 1990 г.

*...Інстытутам мовазнаўства імя Я. Коласа АН БССР...* — гл. камент. да некралога [Паважаныя таварышы!..] (с. 838).

*...унесена заяўка на правядзенне ў 1992 г. навуковай канферэнцыі па праблемах беларускага правапісу.*— Рэспубліканская навуковая канферэнцыя «Праблемы беларускага правапісу» адбылася 19—20 лістап. 1992 г.

*...аддзялення грамадскіх навук...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Навукі крокі сажнёвыя» (с. 723).

*Міністэрства народнай адукацыі БССР* — створана ў 1988 г. на базе Міністэрства асветы БССР, Міністэрства вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі БССР і Дзяржаўнага камітэта па прафесійна-тэхнічнай адукацыі БССР. З 19 верас. 1991 г.— Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь.

*...Саюза пісьменнікаў БССР...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Пад сцягам сацыялістычнага рэалізму» (с. 688—689).

*...Магілёўскага дзяржпедінстытута імя А. Куляшова...* — Магілёўскі дзяржаўны педагагічны інстытут імя А. А. Куляшова заснаваны ў 1918 г. у Магілёве як педінстытут на базе Магілёўскага настаўніцкага інстытута. У 1919 г. перайменаваны ў Інстытут народнай адукацыі. У 1924 г. аб'яднаны з педфакультэтам БДУ. У

1930 г. аднаўлены як педінстытут. Імя А. А. Куляшова прысвоена ў 1978 г. З 1997 г.— універсітэт.

*...бібліятэкі імя У. І. Леніна...* — Дзяржаўная бібліятэка імя У. І. Леніна — галоўная ўніверсальная навуковая бібліятэка Беларусі; цэнтральнае кнігасховішча; даследчы, метадычны і каардынацыйны цэнтр у галіне бібліятэказнаўства, бібліяграфіі і кнігазнаўства. Заснавана ў 1921 г. як бібліятэка БДУ. У 1922 г. пераўтворана ў аб'яднаную Беларускую дзяржаўную і ўніверсітэцкую бібліятэку з Беларускай кніжнай палатай. У 1926 г. вылучана ў самастойную Беларускую дзяржаўную бібліятэку. У 1932 г. рэарганізавана ў Дзяржаўную бібліятэку і Бібліяграфічны інстытут БССР, прысвоена імя У. І. Леніна. З 1993 г.— Нацыянальная бібліятэка Беларусі.

*...Гомельскага дзяржуніверсітэта імя Ф. Скарыны...* — Гомельскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Ф. Скарыны заснаваны ў 1969 г. на базе Гомельскага педінстытута імя В. П. Чкалава (у 1930—1933 гг.— Гомельскі аграпедагагічны інстытут). У 1988 г. прысвоена імя Ф. Скарыны.

*...Інстытута гісторыі АН БССР...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Время думать о своей культуре и языке» (с. 758).

*Гродзенскага дзяржуніверсітэта імя Я. Купалы* — Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы заснаваны ў 1944 г. як Гродзенскі педінстытут. З 1978 г.— універсітэт. Імя Янкі Купалы прысвоена ў 1988 г.

*...Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР...* — Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР — навуковая ўстанова. Заснавана ў 1957 г. на базе сектара этнаграфіі і фальклору Інстытута гісторыі і сектара мастацтва Інстытута літаратуры АН БССР. У 1993 г. прысвоена імя Кандрата Крапівы.

*Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны* — беларуская добраахвотная грамадская арганізацыя. Заснавана ў 1989 г. у Мінску.

*...Брэсцкага педінстытута імя А. С. Пушкіна...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Мае героі былі рамантыкамі» (с. 768).

*...Віцебскага дзяржпедінстытута імя С. М. Кірава...* — Віцебскі дзяржаўны педагагічны інстытут імя С. М. Кірава заснаваны ў 1918 г. на базе Віцебскага настаўніцкага інстытута. У 1919 г. перайменаваны ў Інстытут народнай адукацыі, у 1923 г. аб'яднаны з БДУ. У 1930 г. адноўлены. У 1934—1992 гг. насіў імя С. М. Кірава. З 1995 г.— універсітэт.

*...Мінскага дзяржпедінстытута замежных моў...* — Мінскі дзяржаўны педагагічны інстытут замежных моў заснаваны ў 1948 г. у Мінску на базе факультэта замежных моў (з 1932 г.) Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута. З 1993 г.— Мінскі дзяржаўны лінгвістычны ўніверсітэт.

*...Беларускага дзяржуніверсітэта імя У. І. Леніна...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Я — за рамантыку» (с. 676), «У беларускіх літаратуразнаўцаў» (с. 680).

*...Інстытута літаратуры імя Я. Купалы АН БССР...* — гл. камент. да інтэрв'ю «У беларускіх літаратуразнаўцаў» (с. 679—680).

*Віцэ-прэзідэнт АН БССР* — гл. камент. да інтэрв'ю «Роздум аб сучаснасці» (с. 708).

*Акадэмік АН БССР* — гл. камент. да інтэрв'ю «Шляхам перамог — шляхам набыткаў» (с. 702).

### Да М. І. Дзяльца (с. 537)

Датуецца — [1984].

Друкуецца паводле машынапісу (прыватны архіў нашчадкаў пісьменніка).

*«Наука и техника»* («Навука і тэхніка») — кніжна-часопіснае выдавецтва Беларусі ў 1924—1996 гг. Заснавана ў Мінску пры Інбелкульце. З 1929 г.— у складзе АН Беларусі. З 1932 г. насіла назву «Выдавецтва Акадэміі навук БССР», з 1963 г.— «Навука і тэхніка». У 1996 г. на яго базе створана выдавецтва «Беларуская навука».

*АН БССР* — гл. камент. да інтэрв'ю «У беларускіх літаратуразнаўцаў» (с. 680).

*...«Истории белорусского театра»...* — гл. камент. да інтэрв'ю «З думкай пра дзень заўтрашні» (с. 721).

*Віцэ-прэзідэнт АН БССР* — гл. камент. да інтэрв'ю «Роздум аб сучаснасці» (с. 708).

*Акадэмік АН БССР* — гл. камент. да інтэрв'ю «Шляхам перамог — шляхам набыткаў» (с. 702).

Датуецца — [1984].

Друкуецца паводле машынапісу (прыватны архіў нашчадкаў пісьменніка).

Датуецца — [1985—1986].

Друкуецца паводле машынапісу (прыватны архіў нашчадкаў пісьменніка).

*...в Институте истории АН БССР...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Время думать о своей культуре и языке» (с. 758).

*«История рабочего класса Белорусской ССР»* — чатырохтомнік выйшаў у 1984—1987 гг. (1984, т. 1; 1985, т. 2-3; 1987, т. 4).

Датуецца — 5.12.88.

Друкуецца паводле машынапісу (прыватны архіў нашчадкаў пісьменніка).

*...пастановай ЦК КПБ і Савета Міністраў БССР ад 24 лютага 1988 г. аб развіцці Акадэміі навук рэспублікі...*— маецца на ўвазе пастанова «Аб мерах па развіцці Акадэміі навук БССР і павелічэнні ўкладу вучоных, усіх навуковых кадраў у вырашэнне эканамічных і сацыяльных задач, вылучаных XXVII з'ездам КПСС»; ЦК КПБ — гл. камент. да інтэрв'ю «Літаратура — гэта самапазнанне» (с. 696).

Без даты.

Друкуецца паводле машынапісу (прыватны архіў нашчадкаў пісьменніка).

*...Гражданского кодекса БССР...* — Грамадзянскі кодэкс БССР — цывільны кодэкс, сістэматызаваны адзіны заканадаўчы акт, які рэгулюе маёмасныя і звязаныя з імі асабістыя немаёмасныя адносіны, што ўзнікаюць з удзелам юрыдычных асоб і грамадзян. Прыняты 11 чэрв. 1964 г. Вярхоўным Саветам БССР.

*В других союзных республиках...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Тлумачальнікі выдуманых сноў» (с. 691).

*ВААП* (Усесаюзнае агенцтва па аўтарскіх правах) — грамадская арганізацыя па ахове аўтарскіх правоў у СССР. Існавала ў 1973—1991 гг.

## Да Додзіна (с. 542)

Датуецца — [1956].

Друкуецца паводле машынапісу (БДАМЛМ, ф. 37, воп. 1, адз. зах. 13, арк. 8).

*...организовать для нашего журнала материал на тему: «Полет на Марс».*— у часоп. «Маладосць» (1956. № 8) быў апублікаваны артыкул Ф. Зігеля «Ракета ляціць на Марс».

*Зав.<едующий> отделом науки и студенческой молодежи* — гл. камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 682).

## Да П. С. Кабзарэўскага (с. 542)

Датуецца — 6.III.68 г.

Друкуецца паводле аўтографа (БДАМЛМ, ф. 31, воп. 2, адз. зах. 373, арк. 1).

*«Сіні снег»* — апавяданне, напісанае ў 1968 г.

Датуецца — 31.III.68 г.

Друкуецца паводле аўтографа (БДАМЛМ, ф. 31, воп. 2, адз. зах. 373, арк. 2).

*«Ять»* — апавяданне, напісанае ў 1965 г.

*«Рельсы»* — апавяданне, напісанае ў 1966 г.

*...перевод не блещет прежний.*— апавяданні пераклаў на рускую мову Я. Мазалькоў.

Датуецца — 8.IV.68 г.

Друкуецца паводле аўтографа (БДАМЛМ, ф. 31, воп. 2, адз. зах. 373, арк. 3).

*Высылаю Вам сборник, переведите, если сможете по времени, «Трымценне дубовага лісця».*— верагодна, маецца на ўвазе зборнік «Таполі юнацтва» (1966), у якім была апублікаваная аповесць «Трымценне дубовага лісця» (1964). П. Кабзарэўскі аповесць не пераклаў.

*Этот рассказ...* — твор «Трымценне дубовага лісця» першапачаткова публікаваўся як апавяданне, потым — як аповесць.

*«Сов.<етский> писатель»* — гл. камент. да інтэрв'ю «У задуме: новы раман» (с. 697).

*Перевод его сделан неважно...* — аповесць пераклала К. Дабравольская.

Датуецца — 16.VI.69 г.

Друкуецца паводле аўтографа (БДАМЛМ, ф. 31, воп. 2, адз. зах. 373, арк. 4).

*«Валошкі ў жыце»* — апавяданне, напісанае ў 1969 г.

*Докторскую диссерт.<ацию> защитил.*— назва дысертацыі: «Концепция человека в творчестве Янки Купалы и Якуба Коласа: (духовный облик героя)».

*Гагры* (Гагра) — горад у Абхазіі, порт на Чорным моры.

Датуецца — без даты.

Друкуецца паводле аўтографа (БДАМЛМ, ф. 31, воп. 2, адз. зах. 373, арк. 6).

Датуецца — без даты.

Друкуецца паводле аўтографа (БДАМЛМ, ф. 31, воп. 2, адз. зах. 373, арк. 7).

**Да В. А. Каваленкі (с. 544)**

Датуецца — [лістапад 1986 г.].

Друкуецца паводле машынапісу (прыватны архіў нашчадкаў пісьменніка).

*...Інстытута літаратуры АН БССР...* — гл. камент. да інтэрв'ю «У беларускіх літаратуразнаўцаў» (с. 679—680).

*«Спадчына»* — культурна-асветны клуб. Створаны ў сак. 1984 г. у Мінску з мэтай прапаганды і папулярызацыі беларускай культуры і гісторыі.

*...у «Скарынінскіх чытаннях»...*— Скарынаўскія чытанні адбыліся 30—31 кастр. 1986 г. у Мінску.

*...не з’яўляючыся членам Саюза мастакоў...* — Саюз мастакоў Беларусі — добраахвотная грамадская творчая арганізацыя, якая аб’ядноўвае мастакоў і мастацтвазнаўцаў рэспублікі. Заснаваны ў 1938 г. на I з’ездзе мастакоў Беларусі (аргкамітэт створаны ў 1933 г.). З 1992 г.— Беларускі саюз мастакоў; А. Белы стаў членам Беларускага саюза мастакоў у 1995 г.

*...у Палацы Белсаўпрофа...* — Палац Белсаўпрофа (Палац культуры прафсаюзаў) — дом культуры прафсаюза Беларусі, цэнтр культурна-масавай і асветніцкай працы. Пабудаваны ў 1954 г., адкрыты ў 1956 г. Размешчаны на праспекце Незалежнасці (у той час — Леніна).

*Віцэ-прэзідэнт АН БССР* — гл. камент. да інтэрв’ю «Роздум аб сучаснасці» (с. 708).

*Акадэмік АН БССР* — гл. камент. да інтэрв’ю «Шляхам перамог — шляхам набыткаў» (с. 708).

## Да М. В. Кавалёва (с. 545)

Датуецца — 21.07.86.

Друкуецца паводле машынапісу (прыватны архіў нашчадкаў пісьменніка).

*Академия наук Белорусской ССР* — гл. камент. да інтэрв’ю «У беларускіх літаратуразнаўцаў» (с. 680).

*В связи с 50-летием Академии...* — адзначалася ў 1979 г.

*ЖСК* (скар.: жилищно-строительный кооператив) — жыллёва-будаўнічы кааператыў.

*...XII пятилетки...* — маецца на ўвазе дванаццаты пяцігадовы план развіцця народнай гаспадаркі СССР (1986—1990).

*...для филиала Института физики твердого тела и полупроводников...* — гл. камент. да інтэрв’ю «Навукі крокі сажнёвыя» (с. 722); У 1975 г. створана аддзяленне інстытута ў Віцебску, якое ў 1993 г. пераўтворана ў Інстытут тэхнічнай акустыкі.

*...Института механики металлополимерных систем...* — гл. камент. да інтэрв’ю «Навукі крокі сажнёвыя» (с. 722—723).

*...Института математики...* — гл. камент. да інтэрв’ю «Навукі крокі сажнёвыя» (с. 722);

*...для филиала Физико-технического института...* — гл. камент. да інтэрв’ю «Навукі крокі сажнёвыя» (с. 722); З 1970 г.

працавала Магілёўскае аддзяленне інстытута (з 1992 г. самастойны Інстытут тэхналогіі металаў).

*...для филиала Института физики...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Навукі крокі сажнёвыя» (с. 722); З 1970 г. працавала Магілёўскае аддзяленне інстытута, пераўтворанае ў 1992 г. у Інстытут прыкладной оптыкі.

*...Института биохимии...* — Інстытут біяхіміі — навуковая ўстанова. Заснавана ў 1985 г. у г. Гродне на базе аддзела рэгуляцыі абмену рэчываў АН БССР (з 1970 г.).

*Вице-президент АН БССР* — гл. камент. да інтэрв'ю «Роздум аб сучаснасці» (с. 708).

*Академик АН БССР* — гл. камент. да інтэрв'ю «Шляхам перамог — шляхам набыткаў» (с. 702).

**Да В. Ф. Кебіча (с. 547)**

Датуецца — [1991].

Друкуецца паводле машынапісу (прыватны архіў нашчадкаў пісьменніка).

*...в Академии наук БССР* — гл. камент. да інтэрв'ю «У беларускіх літаратуразнаўцаў» (с. 680).

*ЖСК* (скар.: жилищно-строительный кооператив) — жыллёва-будаўнічы кааператыў.

*ЦК КПБ* — гл. камент. да інтэрв'ю «Літаратура — гэта самапазнанне» (с. 696).

*...в связи с чернобыльской аварией...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Давайце верыць у чалавека» (с. 744).

*...на базе Института торфа создан Институт проблем использования природных ресурсов и экологии...* — Інстытут торфу заснаваны ў 1932 г. у Мінску. Інстытут праблем выкарыстання прыродных рэсурсаў і экалогіі створаны на яго базе ў 1990 г., у 2008 г. перайменаваны ў Інстытут прыродакарыстання.

*Сектор геронтологии АН БССР преобразован в Институт радиобиологии...* — сектар геранталогіі створаны ў сістэме АН БССР у 1958 г. Інстытут радыебіялогіі заснаваны ў 1987 г. на базе сектара і навуковых лабараторый радыеэкалагічнага і радыебіялагічнага профілю інстытутаў АН БССР.

*Вице-президент АН БССР* — гл. камент. да інтэрв'ю «Роздум аб сучаснасці» (с. 708).

*Академик АН БССР* — гл. камент. да інтэрв'ю «Шляхам перамог — шляхам набыткаў» (с. 702).

**Да П. П. Кішкурны (с. 549)**

Датуецца — 26.01.1989 г.

Друкуецца паводле машынапісу (прыватны архіў нашчадкаў пісьменніка).

*Ленінскі праспект* — назва праспекта Незалежнасці, асноўнай магістралі Мінска, у 1961—1991 гг.

*АН БССР* — гл. камент. да інтэрв'ю «У беларускіх літаратуразнаўцаў» (с. 680).

*...перайменавання вул. Акадэмічнай на вул. Ф. Скарыны.*— вуліца Акадэмічная была перайменавана ў вуліцу імя Ф. Скарыны ў 1989 г. З 1997 г.— зноў Акадэмічная.

*Віцэ-прэзідэнт АН БССР* — гл. камент. да інтэрв'ю «Роздум аб сучаснасці» (с. 708).

*Акадэмік АН БССР* — гл. камент. да інтэрв'ю «Шляхам перамог — шляхам набыткаў» (с. 702).

**Да Кандрата Крапівы (с. 549)**

Датуецца — [02.11.1983].

Друкуецца паводле машынапісу і аўтографа (ДМГБЛ, КП 018569/001).

*...свята Вялікага Кастрычніка.*— гл. камент. да інтэрв'ю «Шляхам перамог — шляхам набыткаў» (с. 702).

Датуецца — [27(?).12.1983].

Друкуецца паводле машынапісу і аўтографа (ДМГБЛ, КП 018569/002).

**Да А. Т. Кузьміна (с. 550)**

Датуецца — [1984—1985].

Друкуецца паводле машынапісу (прыватны архіў нашчадкаў пісьменніка).

*ЦК КПБ* — гл. камент. да інтэрв'ю «Літаратура — гэта самапазнанне» (с. 696).

*Центральная научная библиотека им. Якуба Коласа АН БССР* — заснавана 16 лют. 1925 г. у Мінску пры Інбелкульце. З рэарганізацыяй 1 студз. 1929 г. Інбелкульта ў Беларускую акадэмію навук увайшла ў яе склад. Імя Якуба Коласа прысвоена ў 1956 г. Да 1981 г. мела назву Фундаментальная бібліятэка імя Якуба Коласа АН БССР.

*АН БССР* — гл. камент. да інтэрв'ю «У беларускіх літаратуразнаўцаў» (с. 680).

*...Госбиблиотеке им. В. И. Ленина...* — гл. камент. да ліста да М. І. Дземчука (с. 858—859).

*«Полимеры и клетка»* — верагодна, маецца на ўвазе часоп. «Биополимеры и клетка» — мультыдысцыплінарны рэцэнзаваны навуковы часопіс, які публікуе работы па даследаваннях у галіне геннай інжынерыі, клетачнай біялогіі, біятэхналогіі і інш. Заснаваны ў 1985 г. З 2009 г.— Biopolymers and Cell.

*«Кинематика и физика небесных тел»* — навукова-тэарэтычны часопіс Нацыянальнай акадэміі навук Украіны (аддзялення фізікі і астраноміі) па праблемах астраноміі, геадынамікі, фізікі Сонечнай сістэмы, зорак і галактык. Заснаваны ў студз. 1985 г.

*«Криобиология»* — навуковы часопіс Нацыянальнай акадэміі навук Украіны, які публікуе работы, звязаныя з праблемамі нізкамалекулярнай біялогіі і медыцыны. Заснаваны ў 1985 г. У 1991—2012 гг. меў назву «Проблемы криобиологии». З 2012 г.— «Проблемы криобиологии и криомедицины».

*«Проблемы специальной электрометаллургии»* — міжнародны навукова-тэхнічны і вытворчы часопіс. Заснаваны ў 1985 г. Акадэміяй навук Украіны.

*«Вестник Ленинградского университета»* — расійскі навуковы часопіс, які выдаецца Санкт-Пецярбургскім дзяржаўным універсітэтам. Заснаваны ў 1946 г. як «Вестник Ленинградского университета».

*Вице-президент АН БССР* — гл. камент. да інтэрв'ю «Роздум аб сучаснасці» (с. 708).

*Академик АН БССР* — гл. камент. да інтэрв'ю «Шляхам перамог — шляхам набыткаў» (с. 702).

## Да Куксы (с. 551)

Датуецца — 10/III.58 г.

Друкуецца паводле машынапісу (БДАМЛМ, ф. 37, воп. 1, адз. зах. 28, арк. 174—174а).

*Рэдактар аддзела прозы часопіса «Маладосць»* — гл. камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 682).

## Да Б. В. Леўшына (с. 553)

Датуецца — [1988].

Друкуецца паводле машынапісу (прыватны архіў нашчадкаў пісьменніка).

*...ул. Новочеремушкинская...* — вуліца на паўднёвым захадзе Масквы, назву (з 1963 г.) атрымала па былым пасёлку Новыя Чаромушкі, які ўвайшоў у склад горада ў 1960 г.

*Архив АН СССР* — галаўны архіў АН СССР, найбуйнейшае сховішча навуковай дакументацыі з функцыямі навукова-даследчага інстытута. Створаны ў 1728 г. у Санкт-Пецярбургу як архіў Канферэнцыі Акадэміі навук. У 1922—1963 гг.— Архіў Акадэміі навук СССР (Ленінград) з Маскоўскім аддзяленнем (1935—1963). У 1963—1991 гг.— Архіў Акадэміі навук СССР (Масква) з Ленінградскім аддзяленнем. З 1991 г.— Архіў Расійскай акадэміі навук з Санкт-Пецярбургскім філіялам; АН СССР — гл. камент. да анкеты «Итоги, перспективы, задачи» (с. 139).

*ЦЭПК* (Цэнтральная экспертна-праверачная камісія) — пастаянна дзейны дарадчы орган, які ажыццяўляе разгляд навукова-метадычных пытанняў, звязаных з экспертызай каштоўнасці дакументаў і ўключэннем іх у склад архіўнага фонду краіны, а таксама з вызначэннем у яго складзе асабліва каштоўных дакументаў.

*...совместно с Академиями наук БССР, Молдавской ССР и Украинской ССР...* — Акадэмія навук БССР — гл. камент. да інтэрв'ю «У беларускіх літаратуразнаўцаў» (с. 680); Акадэмія навук Малдаўскай ССР — вышэйшая навуковая ўстанова Малдавіі, вядучы цэнтр фундаментальных даследаванняў у галіне прыродазнаўчых і грамадскіх навук у краіне. Заснавана ў 1961 г. на базе Малдаўскага філіяла АН СССР (існаваў з 1949 г., да 1946 г.— Малдаўская навукова-даследчая база АН СССР). Сучасная назва — Акадэмія навук Малдовы; Акадэмія навук Украінскай ССР — вышэйшая дзяржаўная навуковая арганізацыя Украіны. Заснавана ў 1918 г. як Украінская акадэмія навук. У 1921—1936 гг.— Усеўкраінская акадэмія навук. У 1991—1993 гг.— Акадэмія навук Украіны. З 1994 г.— Нацыянальная акадэмія навук Украіны.

*Вице-президент АН БССР* — гл. камент. да інтэрв'ю «Роздум аб сучаснасці» (с. 708).

*Академик АН БССР* — гл. камент. да інтэрв'ю «Шляхам перамог — шляхам набыткаў» (с. 702).

### Да Максіма Лужаніна (с. 553)

Датуецца — [02.11.89].

Друкуецца паводле машынапісу (БДАМЛМ, ф. 140, воп. 2, адз. зах. 240, арк. 16).

### Да М. Ц. Лынькова (с. 553)

Датуецца — [1965].

Друкуецца паводле аўтографа (БДАМЛМ, ф. 191, воп. 1, адз. зах. 389, арк. 1).

*...з вялікім святам Кастрычніка.*— гл. камент. да інтэрв'ю «Шляхам перамог — шляхам набыткаў» (с. 702).

## Да М. Ц. Лынькова і С. З. Лыньковай-Куспіц (с. 554)

Датуецца — 30.12.70 г.
Друкуецца паводле аўтографа (БДАМЛМ, ф. 191, воп. 1, адз. зах. 389, арк. 2).

Датуецца — [1973].
Друкуецца паводле аўтографа (БДАМЛМ, ф. 191, воп. 1, адз. зах. 389, арк. 3).

Датуецца — [1974].
Друкуецца паводле аўтографа (БДАМЛМ, ф. 191, воп. 1, адз. зах. 389, арк. 4).

*...над Нараччу...* — гл. камент. да выступлення [Дарагія таварышы!..] (с. 799).

Датуецца — 30.IV.75.
Друкуецца паводле аўтографа (БДАМЛМ, ф. 191, воп. 1, адз. зах. 389, арк. 5).

*...Вашай Ірачцы...* — І. Э. Ратнікавай.

## Да Н. М. Мазай (с. 555)

Датуецца — 02.11.88.
Друкуецца паводле машынапісу (прыватны архіў нашчадкаў пісьменніка).

*...Полесья...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Ісці ўслед за бягучым днём…» (с. 677).

*УССР* (Украінская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка) — савецкая рэспубліка, абвешчаная на частцы тэрыторыі былой Расійскай імперыі, адна з дзяржаў — стваральніц СССР, саюзная рэспубліка ў яго складзе. Існавала ў 1919—1991 гг.

*...при Брестском пединституте...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Мае героі былі рамантыкамі» (с. 768).

*...общественно-культурного объединения «Полісьсе»...* — «Полісьсе» («Палессе») — грамадска-культурнае аб'яднанне, створанае ў 1988 г. Выступала за адраджэнне заходнепалескай мовы і культуры і за прызнанне заходніх палешукоў самастойнай нацыяй.

*...сепаратизмом...* — сепаратызм — тэорыя, палітыка і практыка адасаблення, аддзялення часткі тэрыторыі дзяржавы з мэтай стварэння новай самастойнай дзяржавы або атрымання статусу вельмі шырокай аўтаноміі.

*Вице-президент АН БССР* — гл. камент. да інтэрв'ю «Роздум аб сучаснасці» (с. 708).

*Академик АН БССР* — гл. камент. да інтэрв'ю «Шляхам перамог — шляхам набыткаў» (с. 702).

Датуецца — 20.4.89 г.

Друкуецца паводле машынапісу (прыватны архіў нашчадкаў пісьменніка).

*Академия наук БССР* — гл. камент. да інтэрв'ю «У беларускіх літаратуразнаўцаў» (с. 680).

*...Институтом искусствоведения, этнографии и фольклора...* — гл. камент. да ліста да М. І. Дземчука (с. 859).

*...проект положения о Полоцком историко-культурном заповеднике.*— Полацкі гісторыка-культурны запаведнік заснаваны ў 1967 г. як гісторыка-археалагічны запаведнік у Полацку, які ўключаў тэрыторыю Полацкага Ніжняга замка, Полацкага Верхняга замка, Полацкі Сафійскі сабор. У 1985 г. да запаведніка далучаны ўсе помнікі археалогіі, гісторыі і культуры, Полацкі краязнаўчы музей. У 1990 г. зацверджана палажэнне «Аб Полацкім гісторыка-культурным запаведніку рэспубліканскага значэння». З 1997 г.— музей-запаведнік. З 2004 г.— Нацыянальны Полацкі гісторыка-культурны музей-запаведнік.

Датуецца — [1990—1991].

Друкуецца паводле машынапісу (прыватны архіў нашчадкаў пісьменніка).

*...центра Ф. Скорины...* — Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Ф. Скарыны — установа, якая праводзіла даследаванні ў галіне гуманітарных навук, беларуса- і народазнаўства, гуманістыкі.

Заснавана ў 1991 г. у Мінску пры аддзяленні грамадскіх навук АН БССР. З 1992 г.— пры Міністэрстве адукацыі. З 2004 г.— пры Беларускім дзяржаўным педагагічным універсітэце імя Максіма Танка. У цяперашні час не дзейнічае.

*...здания по ул. Революционной, 15, в котором в 20-е годы размещался Инбелкульт...* — Рэвалюцыйная — вуліца ў цэнтры Мінска, названа ў гонар Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 г.; Інбелкульт — гл. камент. да некралога [Паважаныя таварышы!..] (с. 837—838).

*...ул. Свободы...* — верагодна, маецца на ўвазе плошча Свабоды — адна з цэнтральных плошчаў Мінска.

*...Государственному музею БССР...* — Дзяржаўны музей БССР заснаваны ў 1908 г. як Мінскі царкоўна-археалагічны музей. З 1922 г.— Беларускі дзяржаўны музей. У 1957—1963 гг.— Беларускі дзяржаўны гісторыка-краязнаўчы музей. У 1992—2009 гг.— Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі. Сучасная назва — Нацыянальны гістарычны музей Рэспублікі Беларусь.

*...Фрунзенского района...* — Фрунзенскі раён — адміністрацыйны раён у паўночна-заходняй частцы Мінска. Утвораны ў 1951 г. Названы ў гонар рэвалюцыянера, савецкага ваеннага і дзяржаўнага дзеяча М. В. Фрунзэ (1885—1925).

*...Международной ассоциации белорусистов...* — Міжнародная асацыяцыя беларусістаў (МАБ) — грамадскае аб'яднанне навуковага і культурна-асветніцкага кірунку дзейнасці. Створана 21 мая 1991 г. у Мінску.

*...о передаче здания Инбелкульта Национальному научно-просветительскому центру имени Ф. Скорины...* — будынак на вул. Рэвалюцыйнай, 15, быў перададзены цэнтру імя Ф. Скарыны.

Датуецца — 25.04.1991.

Друкуецца паводле машынапісу (прыватны архіў нашчадкаў пісьменніка).

*Аб 100-гадовым юбілеі Б. А. Тарашкевіча* — стагадовы юбілей з дня нараджэння Б. А. Тарашкевіча адзначаўся ў 1992 г.

*...Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа АН БССР...* — гл. камент. да некралога [Паважаныя таварышы!..] (с. 838).

*...Інстытута літаратуры імя Я. Купалы АН БССР...* — гл. камент. да інтэрв'ю «У беларускіх літаратуразнаўцаў» (с. 679—680).

*«Мастацкая літаратура»* — гл. камент. да інтэрв'ю «У задуме: новы раман» (с. 697).

*...Брэсцкага дзяржаўнага педінстытута імя А. С. Пушкіна...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Мае героі былі рамантыкамі» (с. 768).

*...Мінскага дзяржпедінстытута імя А. М. Горкага...* — Мінскі дзяржаўны педагагічны інстытут імя А. М. Горкага — адна з найстарэйшых ВНУ г. Мінска. Заснаваны ў 1914 г. як Мінскі настаўніцкі інстытут. У 1921—1922 гг.— Мінскі інстытут народнай адукацыі. У 1922 г. пераўтвораны ў педфак БДУ. У 1931—1936 гг.— Беларускі дзяржаўны вышэйшы педагагічны інстытут. У 1993—1995 гг.— Беларускі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт, з 1995 г.— імя Максіма Танка.

*ЧТК Нацыянальнага навукова-асветніцкага цэнтра імя Ф. Скарыны* — часовы творчы калектыў па стварэнні Нацыянальнага навукова-асветніцкага цэнтра імя Ф. Скарыны АН БССР. Існаваў у 1990—1991 гг.

*...Цэнтральнага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва БССР...* — Цэнтральны дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва БССР — навукова-даследчая ўстанова, якая займаецца збіраннем, аховай, вывучэннем і навуковым выкарыстаннем дакументальных помнікаў літаратуры і мастацтва. Створаны ў 1960 г. у Мінску як Цэнтральны дзяржаўны архіў літаратуры і мастацтва БССР. З 1976 г.— архіў-музей. З 1993 г.— Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва.

*...Белдзяржуніверсітэта імя У. І. Леніна...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Я — за рамантыку» (с. 676), «У беларускіх літаратуразнаўцаў» (с. 680).

*У 1990 годзе забяспечыць факсімільнае выданне кнігі: Б. Тарашкевіч. «Беларуская граматыка для школ»...* — выданне было ажыццёўлена ў 1991 г.

*Забяспечыць таксама своечасовы выхад з друку выбраных твораў Б. Тарашкевіча і перакладу з польскай мовы кнігі А. Бергман пра Б. Тарашкевіча.*— у 1991 г. выйшла кніга Б. Тарашкевіча «Выбранае: крытыка, публіцыстыка, пераклады», у 1996 г.— кніга А. Бергман «Слова пра Браніслава Тарашкевіча» (пераклад з польскага выдання Bergman A. «Rzecz o Bronisławie Taraszkiewiczu» (1977)).

*...аб прысваенні адной з вуліц г. Мінска імя Б. А. Тарашкевіча.*— імя Б. А. Тарашкевіча было прысвоена вуліцы Мінска ў жылым раёне Вялікая Сляпянка ў 2003 г.

*...в. Мачулішкі Вільнюскага раёна...* — Мачулішкі (Мацюлішкі); Вільнюскі раён — адміністрацыйная адзінка ў складзе Вільнюскага павета на паўднёвым усходзе Літвы.

Датуецца — без даты.

Друкуецца паводле машынапісу (прыватны архіў нашчадкаў пісьменніка).

*...Беларускага фонду культуры...* — Беларускі фонд культуры — добраахвотная грамадская арганізацыя. Створана ў крас. 1987 г. у Мінску з мэтай адраджэння і развіцця нацыянальных традыцый, мовы, краязнаўчага руху.

*...мясцін 1863—1864 гг....* — маюцца на ўвазе мясціны, звязаныя з паўстаннем 1863—1864 гг.— гл. камент. да выступлення «Сем гадоў пошукаў і здзяйсненняў» (с. 785).

*...Інстытута гісторыі АН БССР...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Время думать о своей культуре и языке» (с. 758).

## Да Я. С. Мазалькова (с. 561)

Датуецца — 8.6.58 г.

Друкуецца паводле аўтографа (БДАМЛМ, ф. 259, воп. 1, адз. зах. 375, арк. 1).

*...вместе с женой...* — Я. П. Навуменка.

*...в «Коктебеле».*— «Кактэбель» — Дом творчасці пісьменнікаў, размешчаны ў пасёлку Кактэбель ва ўсходняй частцы Крыма.

*...убегали от постигшего горя: умер наш маленький сын.*— гл. камент. да ліста да М. С. Белага ад 8.10.57 г. (с. 852).

*...сборник будете переводить Вы...* — гаворка ідзе пра падрыхтоўку да публікацыі першага зборніка апавяданняў І. Навуменкі ў перакладзе на рускую мову «Друзья-товарищи» (1959).

*...Яковлев перевел три рассказа для журнала...*— гл. камент. да інтэрв'ю «Мае героі былі рамантыкамі» (с. 769).

*...прислать им в редакцию.*— верагодна, маецца на ўвазе рэдакцыя выдавецтва «Молодая гвардия», у якім выйшаў зборнік І. Навуменкі «Друзья-товарищи» (1959).

*ул. Кирова* — гл. камент. да ліста да М. С. Белага ад 8.10.57 г. (с. 852).

Датуецца — 29.VII.58 г.

Друкуецца паводле аўтографа (БДАМЛМ, ф. 259, воп. 1, адз. зах. 375, арк. 2).

*«Хлопцы-равеснікі»* («Сябры-равеснікі») — апавяданне, напісанае ў 1956 г.

*«Рэдактарава хата»* — апавяданне, напісанае ў 1957 г.

*«Трое з зялёнай будкі»* — гл. камент. да анкеты «Адказ на пытанні анкеты, прапанаванай А. М. Адамовічам» (с. 772).

*...«Семнадцатая весна»...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Я — за рамантыку» (с. 675).

Датуецца — 31.VII.58 г.

Друкуецца паводле аўтографа (БДАМЛМ, ф. 259, воп. 1, адз. зах. 375, арк. 3—5).

*...«Справу аб каноплях»...* — «Справа аб каноплях» — апавяданне, напісанае ў 1958 г.

*...посылаю 2-й экз.<емпляр> «Майго сябра». Первый экз.<емпляр> взяли в «Маладосць», рассказ, вероятно, напечатают не позже октября.*— маецца на ўвазе аповесць «Мой сябар Пятрусь» Гэты твор першапачаткова публікаваўся як апавяданне, потым — як аповесць. Упершыню надрукаваны ў часоп. «Маладосць» (1958. № 10).

*Отец* — Я. П. Навуменка.

*Был участником подпольной комсомольской группы, разведчиком партизанской группы капитана Манзиенко, выполнявшей задания командования в тылу немцев, бойцом партбригады им. Пономоренко. С конца 1943 г. был в рядах Советской Армии. Участвовал в боях на Ленинградском и 1-м Украинском фронтах.*— гл. камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 683—684).

*...орд.<еном> Красной Звезды...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Мае героі былі рамантыкамі» (с. 763).

*Белорусский государственный университет* — гл. камент. да інтэрв'ю «Я — за рамантыку» (с. 676).

*Защитил диссертацию «Тема труда в творчестве Якуба Коласа».*— гл. камент. да інтэрв'ю «Літаратура — гэта самапазнанне» (с. 692).

*...преподаю белорусскую литературу в Белгосуниверситете, сотрудничаю в журнале «Маладосць».—* гл. камент. да інтэрв'ю «Я — за рамантыку» (с. 676), «Вяртанне ў маладосць» (с. 682).

*КПСС* — гл. камент. да інтэрв'ю «Існі ўслед за бягучым днём…» (с. 678).

*Первые рассказы напечатаны в 1955 г. в журнале «Маладосць» («Эх, махорачка», «Сідар і Гараська»).—* гл. камент. да інтэрв'ю «Я — за рамантыку» (с. 675).

*В 1957 г. в «Маладосці» напечатана небольшая повесть «Вайна ля Цітавай копанкі».—* гл. камент. да ліста да М. С. Белага ад 8.10.57 г. (с. 852).

*В будущем году на белорусском языке должны выйти «Цітава копанка»...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Існі ўслед за бягучым днём…» (с. 677).

Датуецца — 9.9.58 г.

Друкуецца паводле аўтографа (БДАМЛМ, ф. 259, воп. 1, адз. зах. 375, арк. 6).

*...с Вашей женой.—* К. І. Мазальковай.

*Звонил и в редакцию: редактор Фомичева мне сказала, что 20 сентября она сдает сборник в набор.—* гл. камент. да ліста да Я. С. Мазалькова ад 8.6.58 г. (с. 874).

*40 КСМ...* — маецца на ўвазе 40-годдзе Усесаюзнага Ленінскага Камуністычнага Саюза Моладзі — маладзёжнай грамадска-палітычнай арганізацыі ў Расіі і СССР. ВЛКСМ быў створаны 29 кастр. 1918 г. як Расійскі камуністычны саюз моладзі. У 1924 г. прысвоена імя У. І. Леніна (РЛКСМ). У сувязі з утварэннем СССР быў перайменаваны ў ВЛКСМ у сак. 1926 г.

*«Каролищевичи»* — гл. камент. да ўспамінаў «Вялікае сэрца» (с. 842).

Датуецца — 14.11.58 г.

Друкуецца паводле аўтографа (БДАМЛМ, ф. 259, воп. 1, адз. зах. 375, арк. 7).

*Написал два рассказа, которые определил в декабрьские номера «Маладосці» и «Беларусі».—* маюцца на ўвазе апавяданні «Прыпяцкая зона» (1958) і «Пеця» (1958).

*...«Молодую гвардию»...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Мае героі былі рамантыкамі» (с. 769).

*...а нам с Соболенкой...* — у выдавецтве «Молодая гвардия» адначасова з кнігай І. Навуменкі «Друзья-товарищи» рыхтаваўся да друку зборнік Р. Сабаленкі «Голубое сияние» (1959).

*...(союз) живет тихо и мирно.*— маецца на ўвазе Саюз пісьменнікаў БССР — гл. камент. да інтэрв'ю «Пад сцягам сацыялістычнага рэалізму» (с. 688—689).

*Съезд будет где-то в средине января.*— гаворка ідзе пра IV з'езд пісьменнікаў Беларусі, які адбыўся 12—14 лют. 1959 г. у Мінску.

*...Детгиза...* — «Детгиз» (Детское государственное издательство) — савецкае і расійскае выдавецтва. Заснавана ў 1933 г. на базе дзіцячага сектара выдавецтва «Молодая гвардия» і школьнага сектара Дзяржаўнага выдавецтва мастацкай літаратуры адразу ў двух гарадах — Маскве і Ленінградзе. З 1936 г. мела назву «Детиздат», з 1941 г.— зноў «Детгиз», з 1963 г.— «Детская литература». У 1991 г. выдавецтва падзялілася: маскоўскае аддзяленне — «Детская литература», пецярбургскае — «Лицей», з 2002 г.— «Детгиз».

*...Валерии Ивановне.*— верагодна, гаворка ідзе пра К. І. Мазалькову.

Датуецца — 20.IV.59 г.

Друкуецца паводле аўтографа (БДАМЛМ, ф. 259, воп. 1, адз. зах. 375, арк. 8).

*Ждал Вас к съезду...* — маецца на ўвазе IV з'езд пісьменнікаў Беларусі.

*Один рассказик послал в «Литературную газету».*— верагодна, маецца на ўвазе апавяданне «Дом над морам» (1958), апублікаванае ў «Литературной газете» (1959. 9 мая).

Датуецца — 19.IV.60 г.

Друкуецца паводле аўтографа (БДАМЛМ, ф. 259, воп. 1, адз. зах. 375, арк. 9).

*...надо как-то улучшить сборник.*— гаворка ідзе пра падрыхтоўку да публікацыі другога зборніка апавяданняў І. Навуменкі ў перакладзе на рускую мову «Голубиный взлет» (1961).

*...«Делегатов из Березников».*— «Дэлегаты з Бярэзнікаў» — апавяданне, напісанае ў 1956 г., у зборнік «Голубиный взлет» не ўвайшло.

*...«Советского писателя»...* — гл. камент. да інтэрв'ю «У задуме: новы раман» (с. 697).

*У меня уже есть корректура белорусской книги...* — верагодна, маецца на ўвазе зборнік «Верасы на выжарынах» (1960).

*«Вайна каля Цітавай копанкі»* — гл. камент. да інтэрв'ю «Ісці ўслед за бягучым днём...» (с. 677).

*«З глыбінь жыцця»* — кніга выйшла ў 1960 г.

*...кончаю повесть «Сасна пры дарозе»...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Новыя героі, новыя праблемы» (с. 673); Пра гісторыю напісання рамана гл. тэкст на с. 85, 165, 196, 226, 276.

Датуецца — [лістапад 1960 г.].

Друкуецца паводле аўтографа (БДАМЛМ, ф. 259, воп. 1, адз. зах. 375, арк. 17).

*«Хлопцы-равеснікі»* — гл. камент. да інтэрв'ю «Вяртанне ў маладосць» (с. 682).

*...«Піліпку»...* — «Піліпка» — апавяданне, напісанае ў 1957 г., у зборнік «Голубиный взлет» не ўвайшло.

*«Переломный возраст»* — гл. камент. да інтэрв'ю «Это память о чем-то...» (с. 699).

*...надо ли переводить «Голубиный взлет» («Вайну ля Цітавай копанкі»).*— аповесць была перакладзеная на рускую мову І. Клімашэўскай і В. Міхайлавай, апублікаваная ў часоп. «Советская Отчизна» (1959. № 3).

*Рассказ «Роман с эпилогом» перевел для «Дружбы народов» Б. Яковлев. Может быть, мы включим его в этом переводе...* — апавяданне, напісанае ў 1960 г., апублікавана ў перакладзе Б. Якаўлева ў часоп. «Дружба народов» (1961. № 3). У яго ж перакладзе друкавалася ў зборніку «Голубиный взлет».

*...с праздником Октября.*— гл. камент. да інтэрв'ю «Шляхам перамог — шляхам набыткаў» (с. 702).

*...пр. Сталина...* — назва праспекта Незалежнасці, асноўнай магістралі Мінска, у 1952—1961 гг.

Датуецца — 5.1.61 г.

Друкуецца паводле аўтографа (БДАМЛМ, ф. 259, воп. 1, адз. зах. 375, арк. 11).

Датуецца — 23.II.61 г.

Друкуецца паводле аўтографа (БДАМЛМ, ф. 259, воп. 1, адз. зах. 375, арк. 12).

*...«Жуль Верн» («Шагай, человече» М. Златогорова), кажется, переведен неплохо.*— апавяданне, напісанае ў 1959 г. У зборніку «Голубиный взлет» друкавалася ў перакладзе М. Златагорава.

*...Белгосиздате...* — Беларускае дзяржаўнае выдавецтва — кніжнае выдавецтва ў Мінску. Заснавана ў студз. 1921 г. як Дзяржаўнае выдавецтва БССР на базе створанага ў 1920 г. Беларускага аддзялення Дзяржаўнага выдавецтва РСФСР. У 1922—1924 гг.— у складзе Дзяржаўнага трэста выдавецкай справы і паліграфічнай прамысловасці Беларусі (Белтрэстдрук). У Вялікую Айчынную вайну з 1942 г. працавала ў Маскве (да 1943 г. як выдавецтва ЦК КП(б)Б «Савецкая Беларусь»), з 1944 г. у Мінску. З 1963 г. мае назву «Беларусь».

Датуецца — 5.IV.61 г.

Друкуецца паводле аўтографа (БДАМЛМ, ф. 259, воп. 1, адз. зах. 375, арк. 13—14).

*...у меня родилась дочь.*— 1 крас. 1961 г. у І. Навуменкі нарадзілася малодшая дачка Таццяна.

*Теперь у меня их две...* — В. І. і Т. І. Навуменка.

*«Негры в Минске»* — апавяданне, напісанае ў 1961 г.

*«Сны»* — апавяданне, напісанае ў 1961 г.

*...две первые части своей повести...* — маецца на ўвазе раман «Сасна пры дарозе».

Датуецца — 28.IV.61 г.

Друкуецца паводле аўтографа (БДАМЛМ, ф. 259, воп. 1, адз. зах. 375, арк. 15).

*Поздравляю Вас с праздником.*— верагодна, маецца на ўвазе 1 Мая.

*...особенно мило переведен «Голубиный взлет».*— у зборніку «Голубиный взлет» твор надрукаваны пад назвай «Война у Титова пруда».

*«Слышите, хлопцы...»* — апавяданне, напісанае ў 1960 г.

*...сборник можно назвать «Вереск цветет», сделав упор на этот рассказ...* — зборнік выйшаў пад назвай «Голубиный взлет»; «Верасы на выжарынах» — апавяданне, напісанае ў 1959 г.

*Кончаю повесть...* — маецца на ўвазе раман «Сасна пры дарозе».

*В Белоруссии намечается неделя русской литературы.*— Тыдзень рускай літаратуры ў Беларусі прайшоў 12—18 жн. 1961 г. У ім сярод іншых рускіх пісьменнікаў браў удзел і Я. С. Мазалькоў.

Датуецца — 10.9.61 г.

Друкуецца паводле аўтографа (БДАМЛМ, ф. 259, воп. 1, адз. зах. 375, арк. 16).

*...в Дубултах. В Доме творчества.*— гл. камент. да інтэрв'ю «Усякаму пакаленню трэба баявая справа...» (с. 748).

*Очень жалко, что не удалось свидеться с Вами.*— верагодна, гаворка ідзе аб магчымай сустрэчы І. Навуменкі з Я. Мазальковым у Мінску, куды апошні прыязджаў у жн. 1961 г. для ўдзелу ў Тыдні рускай літаратуры.

*...у своей мамы.*— А. Ф. Іконнікавай.

*В нашем издательстве собираются издать «Титову сажалку» по-русски...* — кніга «Война у Титова пруда» (1963) пабачыла свет у Дзяржаўным выдавецтве БССР; Аповесць выйшла ў перакладзе на рускую мову І. Клімашэўскай і В. Міхайлавай.

*...наш Главиздат...* — Галоўнае ўпраўленне выдавецтваў — структурная адзінка пры Міністэрстве культуры БССР, якой падпарадкоўвалася кнігавыдавецкая галіна.

Датуецца — 6.XI.61 г.

Друкуецца паводле аўтографа (БДАМЛМ, ф. 259, воп. 1, адз. зах. 375, арк. 19).

*...В. Г. Черкасов прислал мне письмо с уведомлением, что перевел «Титову копанку» и собирается заключить договор на ее издание с Детгизом.—* аповесць у перакладзе на рускую мову В. Г. Чаркасава выйшла пад назвай «Война у Титова пруда» ў выдавецтве «Детгиз» у 1963 г.

Датуецца — 19.XI.61 г.
Друкуецца паводле аўтографа (БДАМЛМ, ф. 259, воп. 1, адз. зах. 375, арк. 20).

*Благодарю за книгу о Купале...* — верагодна, маецца на ўвазе кніга Я. Мазалькова «Янка Купала: жыццё і творчасць», якая ў чарговы раз была перавыдадзена ў 1961 г.

*Один мой знакомый — Мехов — издает там сборник рассказов...* — верагодна, маецца на ўвазе кніга У. Мехава «Красный губернатор», якая выйшла ў перакладзе А. Цвярскога ў выдавецтве «Детгиз» у 1962 г.

*...окончить работу над книгой...* — верагодна, маецца на ўвазе раман «Сасна пры дарозе».

Датуецца — 30.IV.62 г.
Друкуецца паводле аўтографа (БДАМЛМ, ф. 259, воп. 1, адз. зах. 375, арк. 21).

*Роман окончил, рукопись сдал в журнал и в издательство.—* маецца на ўвазе раман «Сасна пры дарозе» — гл. камент. да інтэрв'ю «Новыя героі, новыя праблемы» (с. 673); Выдавецтва — Дзяржаўнае выдавецтва БССР.

*Заказали мне статью о молодой прозе для «Дружбы народов».—* маецца на ўвазе артыкул «В поисках глубины и правдивости», апублікаваны ў часоп. «Дружба народов» (1962. № 7).

Датуецца — 20.VI.62 г.
Друкуецца паводле аўтографа (БДАМЛМ, ф. 259, воп. 1, адз. зах. 375, арк. 22).

Датуецца — 21.VII.62 г.
Друкуецца паводле аўтографа (БДАМЛМ, ф. 259, воп. 1, адз. зах. 375, арк. 23).

*...в Ялте...* — Ялта — горад і прыморскі кліматычны курорт у Крыме, порт на Чорным моры.

*«Бульба»* — гл. камент. да інтэрв'ю «Новыя героі, новыя праблемы...» (с. 674).

*...«Сосна» — первая книга из двух задуманных (дилогии). Вторая — чувствую — будет более драматичной, боевой (43 год).*— гл. камент. да інтэрв'ю «Новыя героі, новыя праблемы» (с. 673, 674).

*В Минске, на Купаловских торжествах...* — у Мінску ў пач. ліп. 1962 г. праходзілі шматлікія ўрачыстасці ў сувязі з 80-годдзем з дня нараджэння Янкі Купалы: 2 ліп.— мітынг, прысвечаны пахаванню ўрны з прахам паэта на Вайсковых могілках, 4 ліп.— навуковая сесія АН БССР, 5 ліп.— урачысты вечар у Беларускім дзяржаўным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы і мітынг у парку імя Янкі Купалы, прысвечаны закладцы помніка паэту і інш.

*«Приключения Вернера Хольта»* — раман, напісаны ў 1960—1963 гг.

*Крым* — гл. камент. да п'есы «Птушкі між маланак» (с. 669).

*Дом творчества писателей Литфонда* — Дом творчасці пісьменнікаў імя А. П. Чэхава ў Ялце, створаны ў 1934 г.

Датуецца — 27.VII.62 г.

Друкуецца паводле аўтографа (БДАМЛМ, ф. 259, воп. 1, адз. зах. 375, арк. 24).

*...взяли на себя перевод...* — маецца на ўвазе пераклад рамана «Сасна пры дарозе».

*Роман свой Шамякин еще далеко не закончил...* — верагодна, маецца на ўвазе раман «Сэрца на далоні» (1963).

*Не окончен и роман Адамовича...* — верагодна, маецца на ўвазе раман «Сыны ідуць у бой» (1963).

Датуецца — 30.VIII.62 г.

Друкуецца паводле аўтографа (БДАМЛМ, ф. 259, воп. 1, адз. зах. 375, арк. 26).

*Словаря в продаже еще нет.*— маецца на ўвазе «Беларуска-

рускі слоўнік» (1962). З просьбай даслаць гэту кнігу Я. Мазалькоў звяртаўся да І. Навуменкі ў лісце ад 5 верас. 1962 г.: «Сейчас у меня к Вам вот какая просьба. Я прочитал в газете сообщение, что в Минске вышел наконец белорусско-русский словарь. Очень буду благодарен, если Вы пришлете мне эту книгу. Стоимость ее я Вам, конечно, возмещу немедленно» (ф. 495, воп. 1, адз. зах. 248, арк. 14).

*«Дружба народов» печатает Мележа.*— у часоп. «Дружба народов» (1962. № 11-12) быў надрукаваны раман І. Мележа «Людзі на балоце» (1961) у перакладзе на рускую мову М. Гарбачова.

*В начале сентября (пятого) у нас пленум.*— верагодна, маецца на ўвазе адкрыты партыйны сход, які прайшоў 5 верас. 1962 г. у Мінску ў Саюзе пісьменнікаў БССР. Сход быў прысвечаны вынікам трэцяга пленума ЦК КПБ.

*Близятся Коласовские торжества.*— у Мінску ў лістап. 1962 г. прайшлі ўрачыстыя мерапрыемствы ў сувязі з 80-годдзем з дня нараджэння Якуба Коласа: 12 лістап.— урачысты вечар у Беларускім дзяржаўным Вялікім тэатры оперы і балета, 13 лістап.— навуковая сесія АН БССР.

Датуецца — 18.9.62 г.

Друкуецца паводле аўтографа (БДАМЛМ, ф. 259, воп. 1, адз. зах. 375, арк. 27).

*В места, где родился Якуб Колас.*— Якуб Колас нарадзіўся на Стаўбцоўшчыне (засценак Акінчыцы Мінскага павета Мінскай губерні).

*...Учпедгиза...* — Учпедгиз БССР (Государственное учебно-педагогическое издательство БССР) — назва выдавецтва «Народная асвета» ў 1951—1963 гг.

*В «Полымі» письма Коласа к Вам напечатаны.*— лісты Якуба Коласа да Я. Мазалькова былі надрукаваныя ў часоп. «Полымя» (1962. № 8).

*...повесть Я. Василенка, которая там напечатана...* — маецца на ўвазе аповесць «Таццяна Ларына» (1962).

Датуецца — 18.10.62.

Друкуецца паводле аўтографа (БДАМЛМ, ф. 259, воп. 1, адз. зах. 375, арк. 28).

*...заинтересованы в издании книги.*— маецца на ўвазе выданне рамана «Сасна пры дарозе».

Датуецца — 1.XI.62 г.

Друкуецца паводле аўтографа (БДАМЛМ, ф. 259, воп. 1, адз. зах. 375, арк. 29).

*Кончает роман Пестрак...* — верагодна, маецца на ўвазе раман «Серадзібор» (1963).

*Скоро выйдут листы «Сосны» и сигнальный экземпляр.*— маецца на ўвазе першае выданне рамана «Сасна пры дарозе» на беларускай мове — гл. камент. да інтэрв'ю «Новыя героі, новыя праблемы» (с. 674).

Датуецца — 9.12.62 г.

Друкуецца паводле аўтографа (БДАМЛМ, ф. 259, воп. 1, адз. зах. 375, арк. 30).

Датуецца — 7.IV.63.

Друкуецца паводле аўтографа (БДАМЛМ, ф. 259, воп. 1, адз. зах. 375, арк. 31).

*...думаю о второй книге «Сосны», которая будет называться «Сорок третий»...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Новыя героі, новыя праблемы» (с. 674).

*Есть несколько рецензий...* — гл. камент. да інтэрв'ю «Новыя героі, новыя праблемы» (с. 674).

*«Люди на болоте»* — гл. камент. да інтэрв'ю «Пад сцягам сацыялістычнага рэалізму» (с. 688).

*«Дружба народов» заказала нашему критику Ф. Кулешову статью о «Сосне»...* — рэцэнзія Ф. Куляшова «Человек на пути к подвигу» была надрукавана ў часоп. «Дружба народов» (1962. № 6).

*Как обстоит дело с переводом?* — маецца на ўвазе пераклад рамана «Сасна пры дарозе».

*Переделкино* — пісьменніцкі дачны пасёлак пад Масквой, дзе размешчаны таксама аднайменны Дом творчасці пісьменнікаў. З 1988 г.— гісторыка-культурны запаведнік.

Датуецца — 16.IV.63.

Друкуецца паводле аўтографа (БДАМЛМ, ф. 259, воп. 1, адз. зах. 375, арк. 32).

*У нас «Сосну» собираются издавать по-русски. Поставили в план 1965 года. Я сказал, что она должна пойти в Вашем переводе. Но могут поставить и на 1964 год в том случае, если в Москве книга выйдет в 1963 г., т. е. в этом.*— раман «Сасна пры дарозе» выйшаў у перакладзе на рускую мову Я. Мазалькова ў Маскве ў выдавецтве «Советский писатель» у 1964 г., у Мінску — у выдавецтве «Беларусь» у 1965 г.

Датуецца — 8.V.63 г.

Друкуецца паводле аўтографа (БДАМЛМ, ф. 259, воп. 1, адз. зах. 375, арк. 33).

*В «Дружбе» уже идет на 7-й месяц роман Адамовича.*— у часоп. «Дружба народов» (1963. № 7-8) быў надрукаваны раман А. Адамовіча «Сыновья уходят в бой» (1963).

*Окончили свои романы Шамякин и Брыль.*— верагодна, маюцца на ўвазе раманы І. Шамякіна «Сэрца на далоні» (1963) і Янкі Брыля «Птушкі і гнёзды» (1942—1944, 1962—1964).

*Рецензий о «Сосне» было штук пять. В «Советской Белоруссии», «Гомельской правде», «Чырвонай змене», в журналах «Беларусь» и «Полымя».*— гл. камент. да інтэрв'ю «Новыя героі, новыя праблемы» (с. 674); У газ. «Гомельская праўда» (1963. 24 верас.) надрукавана рэцэнзія М. Воінава «Юнацтва не скарылася».

*«Звязда» дала письмо читателя и мой ответ.*— гл. камент. да інтэрв'ю «Новыя героі, новыя праблемы» (с. 673) і тэкст на с. 721.

*«ЛіМ» тоже собирался дать рецензию…* — у газ. «ЛіМ» (1963. 20 жн.) была апублікавана рэцэнзія В. Крышталя «Суровыя шляхі юнацтва».

*…исключая статью редактора «ЛіМа», который считает «Сосну» лучшей книгой о войне.*— маецца на ўвазе рэцэнзія Н. Пашкевіча, які быў галоўным рэдактарам газ. «ЛіМ» у 1961—1969 гг.

Датуецца — 29.X.63 г.

Друкуецца паводле аўтографа (БДАМЛМ, ф. 259, воп. 1, адз. зах. 375, арк. 34).

*В «Др.<ужбе> народов» идет Шамякин...* — у часоп. «Дружба народов» (1964. № 1—3) быў надрукаваны раман І. Шамякіна «Сэрца на далоні» (1963) у перакладзе на рускую мову А. і З. Астроўскіх.

Датуецца — 31.XII.63.

Друкуецца паводле аўтографа (БДАМЛМ, ф. 259, воп. 1, адз. зах. 375, арк. 35).

*Корректуру в «Сов.<етский> пис.<атель>» послал...* — маецца на ўвазе карэктура рамана «Сасна пры дарозе».

*Там выпало посвящение — «Памяти сына Жени».*— гл. камент. да ліста да М. С. Белага ад 8.10.57 г. (с. 852).

*Мне известно, что от Адамовича там отказались.*— верагодна, маецца на ўвазе раман А. Адамовіча «Сыны ідуць у бой» (1963).

*...перееду в квартиру Мележа...* — 1 лют. І. Навуменка пераехаў у кватэру № 22 у доме № 36 на вул. К. Маркса, у якой раней жыў І. Мележ.

*Жду ребенка, хочу сына.*— 10 лют. 1964 г. у І. Навуменкі нарадзіўся сын Павел.

*«Солдаты вернулись»* — гл. камент. да інтэрв'ю «Аблічча галоўнага героя» (с. 701).

*...студенческая повесть все еще не завершена.*— маецца на ўвазе аповесць «Бульба».

*Куда лучше пишется и думается о второй партизанской книге (названия еще нет).*— маецца на ўвазе раман «Вецер у соснах» — гл. камент. да інтэрв'ю «Новыя героі, новыя праблемы» (с. 674).

Датуецца — 23.XII.64.

Друкуецца паводле аўтографа (БДАМЛМ, ф. 259, воп. 1, адз. зах. 375, арк. 37—38).

*Булацкий* гл. *Булацкі*

*Булыка Аляксандр Мікалаевіч* (н. 1935) — беларускі мовазнавец. Член-карэспандэнт АН Беларусі (1994), доктар філалагічных навук (1981), прафесар (1992). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1998). У 1983—1992 гг.— загадчык аддзела беларуска-рускіх моўных сувязей Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа АН Беларусі.

*Бунін Іван Аляксеевіч* (1870—1953) — рускі пісьменнік. Ганаровы акадэмік Пецярбургскай АН (1909). Лаўрэат Нобелеўскай прэміі (1933).

*Буравкин* гл. *Бураўкін*

*Бураўкін Генадзь Мікалаевіч* (1936—2014) — беларускі паэт, дзяржаўны дзеяч. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Янкі Купалы (1980), прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1972).

*Быкаў Васіль Уладзіміравіч* (1924—2003) — беларускі пісьменнік, грамадскі дзеяч. Народны пісьменнік Беларусі (1980). Герой Сацыялістычнай Працы (1984). Лаўрэат Ленінскай прэміі (1986), Дзяржаўнай прэміі СССР (1974), Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Якуба Коласа (1978), Літаратурнай прэміі імя Якуба Коласа (1964).

*Быков* гл. *Быкаў*

*Бядуля Змітрок* (сапр. Плаўнік Самуіл Яфімавіч; 1886—1941) — беларускі пісьменнік.

*Бялінскі Вісарыён Рыгоравіч* (1811—1848) — рускі крытык, публіцыст.

*Бялоў Васіль Іванавіч* (1932—2012) — рускі пісьменнік. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1981).

*Бярозкін Рыгор Саламонавіч* (1918—1981) — беларускі крытык. У 1941-м і 1949-м гг. рэпрэсаваны. Рэабілітаваны ў 1956 г.

*Вазнясенскі Аляксандр Мікалаевіч* (1888—1966) — рускі і беларускі літаратуразнавец. Доктар філалагічных навук (1944), прафесар (1927). У 1934 г. рэпрэсаваны. Рэабілітаваны ў 1962 г.

*Вазнясенскі Андрэй Андрэевіч* (1933—2010) — рускі паэт. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1978), прэміі ўрада Расіі (2010, пасмяротна).

*Валошын Максіміліян Аляксандравіч* (сапр. Кірыенка-Валошын; 1877—1932) — рускі паэт, крытык, перакладчык, мастак.

*Ванаг Юлій Пятровіч* (1903—1986) — латышскі пісьменнік. Заслужаны дзеяч культуры Латвіі (1953). Заслужаны работнік культуры Беларусі (1979).

*Варанько Мікалай Уладзіміравіч* — у той час кіраўнік справамі АН Беларусі.

*Варашылаў Клімент Яфрэмавіч* (1881—1969) — савецкі партыйны, дзяржаўны і ваенны дзеяч. Маршал Савецкага Саюза (1935). Герой Савецкага Саюза (1956, 1968). Герой Сацыялістычнай Працы (1960).

*Вариоцкая* гл. *Варыоцкая*

*Варыоцкая М. А.*— пенсіянерка, былы аграном, жыхарка г. Дзяржынска Мінскай вобл.

*Васенда Аляксандр Іванавіч* — таварыш І. Я. Навуменкі па патрыятычным падполлі, якое дзейнічала ў 1941—1943 гг. на тэрыторыі Васілевіцкага раёна Гомельскай вобл.

*Васілевіч Алена Сямёнаўна* (н. 1922) — беларуская пісьменніца. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1976). Заслужаны работнік культуры Беларусі (1977).

*Василенок* гл. Васілёнак

*Васілёнак Яўген Пятровіч* (1917—1973) — беларускі пісьменнік.

*Васючэнка Пятро* (Пётр Васільевіч; н. 1959) — беларускі празаік, крытык. Кандыдат філалагічных навук (1985).

*Ваўпшасаў Станіслаў Аляксеевіч* (1899—1976) — адзін з арганізатараў і кіраўнікоў партызанскага руху ў Беларусі ў Вялікую Айчынную вайну. Герой Савецкага Саюза (1944).

*Вейцлер Андрэй Леанідавіч* (1938—1975) — рускі пісьменнік.

*Веліхаў Яўген Паўлавіч* (н. 1935) — расійскі фізік-тэарэтык. Акадэмік АН СССР (1974; член-карэспандэнт — 1968). Доктар фізіка-матэматычных навук (1964). Герой Сацыялістычнай Працы (1985). Лаўрэат Ленінскай прэміі СССР (1984), Дзяржаўнай прэміі СССР (1977), Дзяржаўнай прэміі Расіі (2002).

*Велихов* гл. *Веліхаў*

*Верамейчык Уладзімір Міхайлавіч* (1937—1999) — беларускі паэт.

*Вераніцын Канстанцін Васільевіч* (1834—1904) — беларускі пісьменнік, удзельнік літаратурнага жыцця ў Беларусі ў сярэдзіне XIX ст.

*Верн Жуль* (1828—1905) — французскі пісьменнік, класік прыгодніцкай літаратуры; адзін з заснавальнікаў навуковай фантастыкі.

*Весялоўскі Аляксандр Мікалевіч* (1838—1906) — рускі філолаг. Акадэмік Пецярбургскай АН (1880).

*Віслоў* — загадчык сельгасаддзела газеты «Бальшавік Палесся».

*Вознесенский* гл. *Вазнясенскі Андрэй*

*Волк Аляксей Арсеньевіч* (1930—1990) — беларускі гісторык. Кандыдат гістарычных навук (1964). У 1967—1990 гг.— дэкан філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта.

*Вольгерд* гл. *Альгерд*

*Воранаў Мікола* (Мікалай Гаўрылавіч; н. 1936) — беларускі пісьменнік.

*Вярцінскі Анатоль Ільіч* (н. 1931) — беларускі паэт, драматург, публіцыст, крытык, перакладчык. Заслужаны работнік культуры Беларусі (1991). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1988). У 1986—1990 гг.— галоўны рэдактар газеты «Літаратура і мастацтва».

*Вярыга-Дарэўскі Арцём Ігнатавіч* (1816—1884) — беларускі пісьменнік-дэмакрат.

*Вятроў Іван Дзмітрыевіч* (1905—1986) — партыйны і дзяржаўны дзеяч БССР, адзін з кіраўнікоў партыйнага падполля і партызанскага руху на тэрыторыі Палескай вобл. у Вялікую Айчынную вайну. Заслужаны юрыст Беларусі (1972). Заслужаны работнік культуры Беларусі (1980).

*Гаврилкин* гл. *Гаўрылкін*

*Гагарын Юрый Аляксеевіч* (1934—1968) — савецкі касманаўт, які ўпершыню ў гісторыі чалавецтва здзейсніў палёт у космас. Герой Савецкага Саюза (1961). Палкоўнік, лётчык-касманаўт СССР (1961).

*Гайсёнак Віктар Анатольевіч* (н. 1950) — беларускі фізік, дзяржаўны дзеяч, дыпламат. Доктар фізіка-матэматычных навук (1990), прафесар (1991). У 1992—1994 гг.— міністр адукацыі Беларусі.

*Галавач Платон Раманавіч* (1903—1937) — беларускі пісьменнік і грамадскі дзеяч. Рэпрэсаваны ў 1937 г. Расстраляны. Рэабілітаваны ў 1956 г.

*Галомбак Юзаф* (1889—1939) — польскі філолаг-славіст. Доктар філасофіі (1914) і філалогіі (1933).

*Гамсун Кнут* (сапр. Кнуд Педэрсен; 1859—1952) — нарвежскі пісьменнік. Лаўрэат Нобелеўскай прэміі (1920).

*Ганна Міхайлаўна* — доктар, акушэр-гінеколаг радзільні на вул. Валадарскага ў Мінску.

*Ганчар Алесь* (Аляксандр Цярэнцьевіч; 1918—1995) — украінскі пісьменнік, грамадскі дзеяч. Акадэмік АН Украіны (1978). Герой Сацыялістычнай Працы (1978). Лаўрэат Ленінскай прэміі (1964), Дзяржаўнай прэміі СССР (1948, 1949, 1982), Дзяржаўнай прэміі Украіны імя Т. Р. Шаўчэнкі (1962).

*Гарадзецкі Сяргей Мітрафанавіч* (1884—1967) — рускі паэт, перакладчык.

*Гарбачова Таццяна Якаўлеўна* — рэдактар выдавецтва «Советский писатель». Жонка М. В. Гарбачова.

*Гарбачоў Міхаіл Васільевіч* (1921—1981) — рускі пісьменнік, перакладчык. Заслужаны дзеяч культуры Беларусі (1971). Муж Т. Я. Гарбачовай.

*Гардзіцкі Аляксей Кузьміч* (1934—1999) — беларускі літаратуразнавец і крытык.

*Гартны Цішка* (сапр. Жылуновіч Зміцер Хведаравіч; 1887—1937) — беларускі пісьменнік, грамадскі і дзяржаўны дзеяч. Акадэмік АН Беларусі (1928). У 1936 г. рэпрэсаваны. Памёр у 1937 г. у Магілёўскай псіхіятрычнай бальніцы (паводле іншай версіі, скончыў жыццё самагубствам). Часткова рэабілітаваны ў 1955 г., цалкам — у 1988 г.

*Гартный* гл. *Гартны*

*Гарын-Міхайлоўскі* (Гарын М.; сапр. Міхайлоўскі Мікалай Георгіевіч; 1852—1906) — рускі пісьменнік.

*Гарэцкі Максім Іванавіч* (1893—1938) — беларускі пісьменнік, літаратуразнавец, публіцыст, фалькларыст, грамадскі дзеяч. Рэпрэсаваны ў 1930-м і 1938-м гг. Расстраляны. Рэабілітаваны ў 1957-м і 1959-м гг.

*Гаўрылкін Леанід Іванавіч* (1935—1989) — беларускі пісьменнік.

*Гегель Георг Вільгельм Фрыдрых* (1770—1831) — нямецкі філосаф, стваральнік сістэмнай тэорыі дыялектыкі.

*Гедройц Валерый Карлавіч* (н. 1950) — беларускі дзеяч культуры, дзяржаўны дзеяч. У 1987—1996 гг.— начальнік упраўлення культуры Мінскага аблвыканкама.

*Герынг Герман* (1893—1946) — палітычны, дзяржаўны і ваенны дзеяч Германіі; адзін з галоўных нацысцкіх злачынцаў Другой сусветнай вайны. У 1933—1945 гг.— прэм'ер-міністр Прусіі, рэйхсміністр авіяцыі. Рэйхсмаршал (1940). З 1934 г.— імперскі лясніччы Германіі. Паводле загада А. Гітлера 23 крас. 1945 г. пазбаўлены ўсіх званняў і пасад.

*Гётэ Іаган Вольфганг фон* (1749—1832) — нямецкі пісьменнік, мысліцель і прыродазнавец; адзін з заснавальнікаў нямецкай літаратуры Новага часу.

*Гігевіч Васіль Сямёнавіч* (н. 1947) — беларускі пісьменнік. Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1982).

*Гілевіч Ніл Сымонавіч* (1931—2016) — беларускі паэт, літаратуразнавец, фалькларыст, перакладчык, грамадскі дзеяч. Народны паэт Беларусі (1991). Кандыдат філалагічных навук (1963), прафесар (1978). Заслужаны дзеяч навукі Беларусі (1980). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы (1980). У 1980—1989 гг.— першы сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі. У 1990—1996 гг.— старшыня пастаяннай камісіі Вярхоўнага Савета Беларусі па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны.

*Гілевіч Ніна Іванаўна* (1931—2003) — беларускі мовазнавец. Кандыдат філалагічных навук. Жонка Н. С. Гілевіча.

*Гілеп Уладзімір Аляксандравіч* (н. 1938) — беларускі дзеяч культуры, дзяржаўны дзеяч. У 1982—1996 гг.— намеснік міністра культуры Беларусі.

*Гінтава* — жыхарка г. Дзяржынска Мінскай вобл.

*Гинтова* гл. *Гінтава*

*Гітлер Адольф* (1889—1945) — фашысцкі дыктатар Германіі ў 1933—1945 гг., правадыр (фюрар) Нацыянал-сацыялісцкай партыі з 1921 г., рэйхсканцлер з 1933 г. Палітычны курс Гітлера прывёў да развязвання Другой сусветнай вайны. Паводле Нюрнбергскага працэсу (1945—1946) прызнаны галоўным нацысцкім ваенным злачынцам.

*Гладкоў Фёдар Васільевіч* (1883—1958) — рускі пісьменнік. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1950, 1951).

*Глебка Пятро* (Пётр Фёдаравіч; 1905—1969) — беларускі паэт, перакладчык, крытык, навуковец. Акадэмік АН Беларусі (1957; член-карэспандэнт — 1950).

*Глікін Барыс* — адказны сакратар газеты «Бальшавік Палесся».

*Гниломедов* гл. *Гніламёдаў*

*Гніламёдаў Уладзімір Васільевіч* (н. 1937) — беларускі пісьменнік, крытык, літаратуразнавец. Акадэмік НАН Беларусі (2003; член-карэспандэнт — 1994), доктар філалагічных навук (1987).

*Гогаль Мікалай Васільевіч* (1809—1852) — рускі пісьменнік.

*Гогаль-Яноўская Ганна Васільеўна* (1821—1893) — сястра М. В. Гогаля.

*Гогаль-Яноўская Лізавета Васільеўна* (у замустве Быкава; 1823—1864) — сястра М. В. Гогаля.

*Гогаль-Яноўская Марыя Іванаўна* (1791—1868) — маці М. В. Гогаля.

*Гоголь* гл. *Гогаль*

*Гончар* гл. *Ганчар*

*Горецкий* гл. *Гарэцкі*

*Горкі Максім* (сапр. Пешкаў Аляксей Максімавіч; 1868—1936) — рускі пісьменнік і грамадскі дзеяч. Ганаровы акадэмік АН Беларусі (1932).

*Городецкий* гл. *Гарадзецкі*

*Горький* гл. *Горкі*

*Грамовіч Іван Іванавіч* (1918—1986) — беларускі пісьменнік. Заслужаны работнік культуры Беларусі (1978).

*Гранін Данііл Аляксандравіч* (сапр. Герман; 1919—2017) — рускі пісьменнік, грамадскі дзеяч. Герой Сацыялістычнай Працы (1989). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1978), Дзяржаўнай прэміі Расіі (2002, 2017).

*Грачанікаў Анатоль Сямёнавіч* (1938—1991) — беларускі паэт. Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1974), Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1984).

*Грибовская* гл. *Грыбоўская*

*Грыбоўская Галіна Уладзіміраўна* (н. 1952) — рускі журналіст. У 1977—1987 гг.— супрацоўнік «Литературной газеты».

*Грыцкін Васіль* (?—1944) — таварыш І. Я. Навуменкі па патрыятычным падполлі, якое дзейнічала ў 1941—1943 гг. на тэрыторыі Васілевіцкага раёна Гомельскай вобл. Загінуў на фронце.

*Гурбо Васіль Міхайлавіч* — старшыня Слуцкага гарадскога Савета дэпутатаў у 1976—1987 гг.

*Гуревич* гл. *Гурэвіч*

*Гурскі Ілья Данілавіч* (1899—1972) — беларускі пісьменнік. Заслужаны дзеяч культуры Беларусі (1969).

*Гурэвіч Эсфір Саламонаўна* (1921—2015) — беларускі літаратуразнавец і крытык. Доктар філалагічных навук (1973).

*Гусінцава* — зямлячка І. Я. Навуменкі.

*Гусоўскі Мікола* (1470-я — пасля 1533) — паэт-гуманіст. Прадстаўнік новалацінскай паэзіі эпохі Адраджэння ў Вялікім Княстве Літоўскім.

*Дабралюбаў Ігар Міхайлавіч* (1933—2010) — беларускі кінарэжысёр. Народны артыст Беларусі (1985). Заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі (1974).

*Дабралюбаў Мікалай Аляксандравіч* (1836—1861) — рускі крытык, публіцыст, паэт, філосаф-матэрыяліст рэвалюцыйна-дэмакратычнага кірунку.

*Дадзіёмаў Уладзімір Ільіч* (1924—1983) — беларускі пісьменнік.

*Далідовіч Генрых Вацлававіч* (н. 1946) — беларускі пісьменнік. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Якуба Коласа (1996).

*Дамброўскі Ян Генрык* (1755—1818) — польскі ваенны дзеяч. Генерал ад кавалерыі (1815). Удзельнік напалеонаўскіх войнаў.

*Даміан Лівіу Сцяпанавіч* (1935—1986) — малдаўскі паэт. Заслужаны дзеяч мастацтваў Малдаўскай ССР (1985). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Малдаўскай ССР (1984). У 1976—1986 гг.— сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў Малдаўскай ССР.

*Даніленка Міхась* (Міхаіл Пятровіч; н. 1922) — беларускі пісьменнік.

*Данільчык Зінаіда Пятроўна* (н. 1944) — беларускі мовазнавец. Кандыдат філалагічных навук (1974).

*Дантэс Жорж Шарль* (1812—1895) — французскі палітычны дзеяч, сенатар Францыі. У 1830-я гг. служыў у Расіі ў Кавалергардскім палку. Смяротна параніў на дуэлі А. С. Пушкіна.

*Дарагакупец Аксана Міхайлаўна* (у замустве Дарагакупец-Навіцкая; н. 1978) — беларускі мовазнавец. Кандыдат філалагічных навук (2005).

*Дарашкевіч Іосіф Георгіевіч* — старшыня Дзяржынскага раённага Савета дэпутатаў.

*Дастаеўскі Фёдар Міхайлавіч* (1821—1881) — рускі пісьменнік.

*Дварэцкі Ігнацій* (Ізраіль Маісеевіч; 1919—1987) — савецкі драматург, празаік, кінасцэнарыст.

*Дворецкий* гл. *Дварэцкі*

*Делец* гл. *Дзялец*

*Дзюбайла Павел Кузьміч* (1931—1995) — беларускі літаратуразнавец, крытык. Доктар філалагічных навук (1973), прафесар (1982). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Якуба Коласа (1980).

*Дзюма Аляксандр* (Дзюма-бацька; 1802—1870) — французскі пісьменнік, аўтар гістарычна-авантурных раманаў.

*Дюбайло* гл. *Дзюбайла*

*Дзялец Міхаіл Іванавіч* (1918—2000?) — беларускі дзяржаўны дзеяч. У 1973—1989 гг.— старшыня Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю.

*Дзямчук Міхаіл Іванавіч* (1946—2016) — беларускі дзяржаўны дзеяч, фізік. Член-карэспандэнт АН Беларусі (1986), доктар фізіка-матэматычных навук (1983), прафесар (1985). Заслужаны дзеяч навукі Беларусі (1996). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1986). У 1991—1994 і 2000—2001 гг.— намеснік старшыні Савета Міністраў Беларусі.

*Дмітэрка Любамір Дзмітрыевіч* (1911—1985) — украінскі паэт, драматург, перакладчык. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Украіны імя Т. Р. Шаўчэнкі (1979). У 1962—1985 гг.— галоўны рэдактар часопіса «Вітчизна».

*Добролюбов* гл. *Дабралюбаў Мікалай*

*Добролюбов Игорь* гл. *Дабралюбаў Ігар*

*Дорошкевич* гл. *Дарашкевіч*

*Достоевский* гл. *Дастаеўскі*

*Доўжык Іван Іосіфавіч* — сябар І. Я. Навуменкі, таварыш па патрыятычным падполлі, якое дзейнічала ў 1941—1943 гг. на тэрыторыі Васілевіцкага раёна Гомельскай вобл. Пасля вайны працаваў ляснічым.

*Драпеза Данііл Паўлавіч* (1908—1944) — адзін з кіраўнікоў патрыятычнага падполля, якое дзейнічала ў 1941—1943 гг. на тэрыторыі Васілевіцкага раёна Гомельскай вобл. Загінуў на фронце.

*Дубовская* гл. *Дубоўская*

*Дубоўская Людміла Васільеўна* — супрацоўніца Інстытута біяарганічнай хіміі АН Беларусі.

*Дуброўскі Ігнат Цімафеевіч* (сапр. Чарняўскі; 1906—2003) — беларускі пісьменнік і навуковец. Кандыдат сельскагаспадарчых навук (1937). Заслужаны работнік культуры Беларусі (1981).

*Дунін-Марцінкевіч Вінцэнт* (Вікенцій Іванавіч; 1808—1884) — паэт, драматург, класік беларускай літаратуры XIX ст.

*Дунін-Марцінкевіч Марцыяна* (дзяв. Нядзведская) — маці В. Дуніна-Марцінкевіча.

*Дунін-Марцінкевіч Юзэфа* (дзяв. Бараноўская; 1815—1854) — першая жонка В. Дуніна-Марцінкевіча.

*Дунін-Марцінкевіч Ян* (Іван Мікалаевіч) — бацька В. Дуніна-Марцінкевіча.

*Ельскі Аляксандр Карлавіч* (1834—1916) — беларускі гісторык, этнограф, краязнавец, пісьменнік, перакладчык, публіцыст. Член АН у Кракаве (1892).

*Ерохин* гл. *Ярохін*

*Есенин* гл. *Ясенін*

*Жук Алесь* (Аляксандр Аляксандравіч; н. 1948) — беларускі пісьменнік. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Якуба Коласа (1992), прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1978), Літаратурнай прэміі імя І. Мележа (1982).

*Жукаў Георгій Канстанцінавіч* (1896—1974) — савецкі ваенны і дзяржаўны дзеяч. Маршал Савецкага Саюза (1943). Герой Савецкага Саюза (1939, 1944, 1945, 1956). Герой Манголіі (1969). Удзельнік Першай сусветнай і грамадзянскай войнаў. Адзін з галоўных палкаводцаў Вялікай Айчыннай вайны.

*Журавлев* гл. *Жураўлёў*

*Жураўлёў Васіль Пракопавіч* (н. 1931) — беларускі крытык, літаратуразнавец. Доктар філалагічных навук (1986). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (2002).

*Жураўскі Аркадзь Іосіфавіч* (1924—2009) — беларускі мовазнавец. Член-карэспандэнт АН Беларусі (1980), доктар філалагічных навук (1968), прафесар (1970). Заслужаны дзеяч навукі Беларусі (1978). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1994).

*Жыжэнка Уладзімір Аляксандравіч* (1931—2003) — беларускі перакладчык.

*Жычка Хведар Дзмітрыевіч* (1927—2007) — беларускі пісьменнік. У той час — рэдактар выдавецтва «Мастацкая літаратура».

*Завадскі Юзаф* (1781—1838) — віленскі выдавец.

*Замоцін Іван Іванавіч* (1873—1942) — рускі і беларускі літаратуразнавец. Акадэмік АН Беларусі (1928), член-карэспандэнт АН СССР (1929), доктар філалагічных навук (1934). У 1938 г. рэпрэсаваны. Памёр у турэмнай бальніцы. Рэабілітаваны ў 1956 г.

*Зарецкий* гл. *Зарэцкі*

*Зарэцкі Міхась* (сапр. Касянкоў Міхаіл Яўхімавіч; 1901—1937) — беларускі пісьменнік. У 1936 г. рэпрэсаваны. Расстраляны. Рэабілітаваны ў 1957 г.

*Засадзімскі Павел Уладзіміравіч* (1843—1912) — рускі пісьменнік.

*Засім Мікола* (Мікалай Арцёмавіч; 1908—1957) — беларускі паэт.

*Заслонаў Канстанцін Сяргеевіч* (1910—1942) — адзін з арганізатараў і кіраўнікоў партыйнага падполля і партызанскага руху ў Віцебскай вобл. у Вялікую Айчынную вайну. Герой Савецкага Саюза (1943, пасмяротна).

*Захаравіч Пятро* (сапр. Шаўцоў Пётр Захаравіч) — беларускі краязнавец.

*Збралевіч Лідзія Іванаўна* (н. 1930) — беларускі кнігазнавец. У 1968—1991 гг.— загадчык аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа АН Беларусі.

*Зімянін Міхаіл Васільевіч* (1914—1995) — савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч. Герой Сацыялістычнай Працы (1974). У 1940—1946 гг.— першы сакратар ЦК ЛКСМБ. Адзін з арганізатараў партыйна-камсамольскага падполля і партызанскага руху ў Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны.

*Златагораў Міхаіл Львовіч* (сапр. Гольдберг Маісей Лейбавіч; 1909—1968) — рускі пісьменнік і перакладчык.

*Златаўрацкі Мікалай Мікалаевіч* (1845—1911) — рускі пісьменнік. Ганаровы акадэмік Пецярбургскай АН (1909).

*Златогоров* гл. *Златагораў*

*Зялёнка Марыя Мікалаеўна* (н. 1933) — жыхарка вёскі Пешкі Бярозаўскага раёна Брэсцкай вобл., сястра М. М. Шыманскага.

*Іванова Юлія Барысаўна* — у той час загадчык аддзела Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа АН Беларусі.

*Ивашин* гл. *Івашын*

*Івашын Васіль Уладзіміравіч* (1913—2009) — беларускі літаратуразнавец, педагог. Акадэмік НАН Беларусі (1995). Акадэмік АПН СССР (1967). Доктар філалагічных навук (1965), прафесар (1973).

*Іконнікава Анастасія Феліксаўна* (дзяв. Анцыпаровіч, у першым замустве Камоцкая; 1894—1980) — цешча І. Я. Навуменкі.

*Ильинков* гл. *Ільінкоў*

*Ільінкоў Віктар Рыгоравіч* — загадчык рэдакцыі «Роман-газеты» ў 1958?—1975 гг.

*Ільф Ілья* (сапр. Файнзільберг Ілья Арнольдавіч; 1897—1937) — рускі пісьменнік-сатырык. Працаваў сумесна з Я. Пятровым.

*Ілюкевіч Соф'я Васільеўна* — сартавальніца доўгага валакна Слуцкага льнозавода.

*Иринин* гл. *Ірынін*

*Ірынін Барыс Сяргеевіч* (сапр. Бурштын; 1893—1964) — рускі паэт-перакладчык.

*Исаковский* гл. *Ісакоўскі*

*Ісакоўскі Міхаіл Васільевіч* (1900—1973) — рускі паэт. Герой Сацыялістычнай Працы (1970). Заслужаны дзеяч культуры Беларусі (1968). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1943, 1949).

*Кабашнікаў Канстанцін Паўлавіч* (1927—2012) — беларускі фалькларыст. Доктар філалагічных навук (1971), прафесар (1980). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1986).

*Кабзарэўскі Павел Сямёнавіч* (сапр. Гардон Фавій Залманавіч; 1909—1970) — рускі пісьменнік і перакладчык.

*Кабяк Сяргей Уладзіміравіч* (н. 1945) — беларускі гісторык. Кандыдат гістарычных навук (1977). Заслужаны работнік адукацыі Беларусі. У 1980—1999 гг.— дэкан прыродазнаўчага факультэта Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя А. М. Горкага.

*Каваленка Віктар Антонавіч* (1929—2001) — беларускі літаратуразнавец, крытык, празаік. Акадэмік НАН Беларусі (1994; член-карэспандэнт — 1984), доктар філалагічных навук (1978; кандыдат — 1959). Заслужаны дзеяч навукі Беларусі (1981). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Якуба Коласа (1980). У 1982—1997 гг.— дырэктар Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН Беларусі.

*Кавалёў Дзмітрый Міхайлавіч* (1915—1977) — рускі паэт, перакладчык.

*Кавалёў Міхаіл Васільевіч* (1925—2007) — дзяржаўны дзеяч БССР. Заслужны будаўнік Беларусі (1964). У 1986—1990 гг.— старшыня Савета Міністраў БССР.

*Кавалёў Павел Нічыпаравіч* (1912—1995) — беларускі пісьменнік. Заслужаны работнік культуры Беларусі (1978).

*Кавун Васіль Міхайлавіч* (1928—2009) — гаспадарчы і партыйны дзеяч Украіны. Герой Сацыялістычнай Працы (1962).

*Кажадуб Алесь* (Аляксандр Канстанцінавіч; н. 1952) — беларускі пісьменнік.

*Казакова Ала* — беларускі журналіст.

*Казько Віктар Апанасавіч* (н. 1940) — беларускі пісьменнік. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Якуба Коласа (1982), прэміі Ленінскага камсамола (1977), прэміі Ежы Гедройца (2015).

*Калачинский* гл. *Калачынскі*

*Калачынскі Міхась* (Міхаіл Іванавіч; 1917—1990) — беларускі паэт. Заслужаны работнік культуры Беларусі (1974).

*Калеснік Уладзімір Андрэевіч* (1922—1994) — беларускі крытык, літаратуразнавец, празаік. Кандыдат філалагічных навук (1958), прафесар (1983). Заслужаны работнік вышэйшай школы Беларусі (1979). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Якуба Коласа (1980), Літаратурнай прэміі імя І. Мележа (1994). У 1988—1994 гг.— прафесар кафедры беларускай літаратуры Брэсцкага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя А. С. Пушкіна.

*Калеснікаў Міхаіл Сяргеевіч* (1918—?) — рускі пісьменнік.

*Калінін Пётр Захаравіч* (1902—1966) — беларускі партыйны і дзяржаўны дзеяч; адзін з арганізатараў і кіраўнікоў патрыятычнага падполля і партызанскага руху ў Беларусі ў Вялікую Айчынную вайну.

*Каліноўскі Кастусь* (Вікенцій Канстанцін Сямёнавіч; 1838—1864) — лідар беларускага нацыянальна-вызваленчага руху; адзін з кіраўнікоў паўстання 1863—1864 гг.

*Калодзежны Леанід Трафімавіч* (1935—2003) — беларускі пісьменнік.

*Калумб Хрыстафор* (1451—1506) — мараплавец, адкрывальнік Новага Свету.

*Кальцоў Аляксей Васільевіч* (1809—1842) — рускі паэт.

*Камісарава Марыя Іванаўна* (1904—1988) — руская паэтэса і перакладчыца.

*Камоцкі Сігізмунд Феліцыянавіч* (1920—2012) — брат Я. П. Навуменка.

*Кант Імануіл* (1724—1804) — нямецкі філосаф, родапачынальнік нямецкага класічнага ідэалізму.

*Капуцкі Фёдар Мікалаевіч* (н. 1930) — беларускі хімік. Акадэмік НАН Беларусі (1994; член-карэспандэнт — 1989), доктар хімічных навук (1984), прафесар (1978). Заслужаны работнік вышэйшай школы Беларусі (1976). У 1990—1996 гг.— рэктар Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта.

*Капыловіч Іван Іванавіч* (н. 1944) — беларускі пісьменнік.

*Капыловіч Мікола* (Мікалай Фаміч; 1937—2000) — беларускі пісьменнік.

*Караджыч Вук Стэфанавіч* (1787—1864) — сербскі філолаг, фалькларыст, заснавальнік новай сербскай літаратурнай мовы.

*Карамазаў Віктар Філімонавіч* (н. 1934) — беларускі пісьменнік. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя К. Каліноўскага (1990).

*Карамазов* гл. *Карамазаў*

*Караткевіч Уладзімір Сямёнавіч* (1930—1984) — беларускі пісьменнік, перакладчык. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Якуба Коласа (1984, пасмяротна).

*Карим Мустай* гл. *Карым Мустай*

*Карніловіч (Ламека) Любоў Аляксандраўна* — беларускі літаратуразнавец, крытык. Кандыдат філалагічных навук.

*Карпов* гл. *Карпаў*

*Карпаў Уладзімір Барысавіч* (1912—1977) — беларускі пісьменнік.

*Карпенка Генадзь Дзмітрыевіч* (1949—1999) — беларускі навуковец у галіне распрацоўкі новых матэрыялаў і пакрыццяў, дзяржаўны дзеяч. Член-карэспандэнт НАН Беларусі (1994), доктар тэхнічных навук (1990). Заслужаны дзеяч навукі Беларусі (1991). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1986), прэміі АН Беларусі (1994).

*Карпюк Аляксей Нічыпаравіч* (1920—1992) — беларускі пісьменнік. Заслужаны работнік культуры Беларусі (1980). Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя І. Мележа (1986).

*Карым Мустай* (сапр. Карымаў Мустафа Сафіч; 1919—2005) — башкірскі пісьменнік. Народны паэт Башкартастана (1963). Герой Сацыялістычнай Працы (1979). Заслужаны дзеяч мастацтваў РСФСР (1982). Ганаровы акадэмік АН Башкартастана (1992). Лаўрэат Ленінскай прэміі (1984), Дзяржаўнай прэміі СССР (1972), Дзяржаўнай прэміі РСФСР імя Станіслаўскага (1967), Рэспубліканскай прэміі Башкартастана імя Салавата Юлаева (1969).

*Катаеў Валянцін Пятровіч* (1897—1986) — рускі пісьменнік. Герой Сацыялістычнай Працы (1974). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1946).

*Катлярэўскі Іван Пятровіч* (1769—1838) — украінскі пісьменнік; пачынальнік новай украінскай літаратуры.

*Каштанаў Арнольд Львовіч* (сапр. Эпштэйн; 1938—2015) — беларускі пісьменнік, пісаў на рускай мове. У 1961—1976 гг.—

інжынер Мінскага трактарнага і Мінскага аўтамабільнага заводаў. З 1991 г. жыў у Ізраілі.

*Каштанов* гл. *Каштанаў*

*Квітка-Аснаўяненка Рыгор Фёдаравіч* (сапр. Квітка; 1778—1843) — украінскі пісьменнік; пачынальнік новай украінскай мастацкай прозы.

*Кебіч Вячаслаў Францавіч* (н. 1936) — беларускі дзяржаўны дзеяч. Кандыдат эканамічных навук (1990). Заслужаны машынабудаўнік Беларусі (1978). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1992). У 1990—1994 гг.— старшыня Савета Міністраў Беларусі.

*Кежун Бранівлаў Адольфавіч* (1914—1984) — рускі паэт, перакладчык.

*Керанскі Аляксандр Фёдаравіч* (1881—1970) — расійскі палітычны і дзяржаўны дзеяч. У 1917 г.— міністр, затым міністр-старшыня Часовага ўрада.

*Кетлер-Яцкевіч Аляксандра Антонаўна* (1914—1997) — знаёмая Якуба Коласа. Працавала галоўным бухгалтарам у Доме друку ў Мінску.

*Кіраў Сяргей Міронавіч* (сапр. Кострыкаў; 1886—1934) — савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч.

*Киров* гл. *Кіраў*

*Кирьянов* гл. *Кір'янаў*

*Кір'янаў Сяргей Леанідавіч* (1907—1982) — рускі крытык. У той час загадчык рэдакцыі прозы народаў СССР выдавецтва «Советский писатель».

*Кісялёў Генадзь Васільевіч* (1931—2008) — беларускі гісторык, літаратуразнавец, пісьменнік, археограф. Кандыдат гістарычных навук (1964), доктар філалагічных навук (1994). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Якуба Коласа (1990).

*Кісялёў Ціхан Якаўлевіч* (1917—1983) — беларускі і савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч. Герой Сацыялістычнай Працы (1977). У 1959—1978 гг.— старшыня Савета Міністраў БССР, у 1980—1983 гг.— першы сакратар ЦК КПБ. Кандыдат у члены Палітбюро ЦК КПСС з 1980 г.

*Кішкурна Пётр Пятровіч* (н. 1938) — беларускі педагог, дзяржаўны дзеяч. Заслужаны работнік адукацыі Беларусі (1994). У 1987—1990 гг.— намеснік старшыні Мінскага гарадскога выканаўчага камітэта.

*Клебановіч Міхась* (Міхаіл Іванавіч; н. 1934) — беларускі пісьменнік. Заслужаны работнік культуры Беларусі (1985).

*Клышка Анатоль Канстанцінавіч* (н. 1935) — беларускі пісьменнік, крытык, перакладчык, педагог. Заслужаны работнік культуры Беларусі (1994).

*Коваленко* гл. *Каваленка*

*Кожедуб* гл. *Кажадуб*

*Козько* гл. *Казько*

*Кокаш Таісія Аляксандраўна* — у той час загадчык аддзела Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа АН Беларусі.

*Кокош* гл. *Кокаш*

*Колар Ян* (1793—1852) — славацкі і чэшскі паэт, публіцыст, археолаг.

*Колас Якуб* (сапр. Міцкевіч Канстанцін Міхайлавіч; 1882—1956) — беларускі паэт, празаік, драматург, крытык, публіцыст, перакладчык, навуковец, педагог, грамадскі дзеяч, класік беларускай літаратуры; адзін з заснавальнікаў сучаснай беларускай літаратуры і беларускай літаратурнай мовы. Народны паэт Беларусі (1926). Акадэмік АН Беларусі (1928). Заслужаны дзеяч навукі Беларусі (1944). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1946, 1949).

*Колодежный* гл. *Калодзежны*

*Кольцов* гл. *Кальцоў*

*Комиссарова* гл. *Камісарава*

*Корбан Уладзімір Іванавіч* (1910—1971) — беларускі пісьменнік. Заслужаны дзеяч культуры Беларусі (1970).

*Короткевич* гл. *Караткевіч*

*Коршунаў Аляксандр Фаміч* (1924—1991) — беларускі літаратуразнавец, гісторык старажытнай беларускай літаратуры, тэкстолаг. Кандыдат філалагічных навук (1956). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Якуба Коласа (1980).

*Крамко Іван Ігнатавіч* (н. 1931) — беларускі мовазнавец. Кандыдат філалагічных навук (1961).

*Крапіва Кандрат* (сапр. Атраховіч Кандрат Кандратавіч; 1896—1991) — беларускі драматург, паэт, празаік, мовазнавец, грамадскі дзеяч. Народны пісьменнік Беларусі (1956). Акадэмік АН Беларусі (1950; член-карэспандэнт — 1940), доктар філалагічных навук (1953). Герой Сацыялістычнай Працы (1975). Заслужаны дзеяч навукі Беларусі (1978). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1941, 1951, 1971), Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Янкі Купалы (1974).

*Круглікаў* — зямляк І. Я. Навуменкі.

*Кружков* гл. *Кружкоў*

*Кружкоў* — супрацоўнік часопіса «Огонек».

*Крывіцкі Аляксандр Антонавіч* (1927—2017) — беларускі мовазнавец. Кандыдат філалагічных навук (1959). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1971).

*Крыжаніч Юрый* (каля 1618 — 1683) — харвацкі рэлігійны дзеяч, публіцыст. Доктар багаслоўя (1642). Каталіцкі святар-місіянер.

*Крылоў Іван Андрэевіч* (1769, паводле іншых звестак 1766 або 1768 — 1844) — рускі байкапісец, драматург, журналіст. Член Расійскай акадэміі (1811), акадэмік Пецярбургскай АН (1841).

*Крымаў Юрый Саламонавіч* (сапр. Беклямішаў; 1908—1941) — рускі пісьменнік.

*Кудравец Анатоль Паўлавіч* (1936—2014) — беларускі пісьменнік. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Якуба Коласа (1986).

*Кудраўцаў Іван Фёдаравіч* (1922—2004) — беларускі пісьменнік, крытык, літаратуразнавец.

*Кузнецов Ф.* гл. *Кузняцоў Фелікс*

*Кузняцоў Фелікс Феадосьевіч* (1931—2016) — рускі літаратуразнаўца і крытык. Член-карэспандэнт АН СССР (1987), доктар філалагічных навук (1979). Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола (1981), Дзяржаўнай прэміі РСФСР імя Максіма Горкага (1978).

*Кузьмін Аляксандр Трыфанавіч* (1918—2004) — беларускі партыйны і дзяржаўны дзеяч. У 1971—1986 гг.— сакратар ЦК КПБ.

*Кукальнік Павел Васільевіч* (1795—1884) — гісторык, пісьменнік. Доктар права (1815). З 1829 г.— цэнзар, у 1863—1865 гг.— старшыня Віленскага цэнзурнага камітэта.

*Кулагін Анатоль Мікалаевіч* (н. 1947) — беларускі мастацтвазнавец, гісторык архітэктуры. Кандыдат мастацтвазнаўства (1986). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1990).

*Кулаковский* гл. *Кулакоўскі*

*Кулакоўскі Аляксей Мікалаевіч* (1913—1986) — беларускі пісьменнік. Заслужаны работнік культуры Беларусі (1974). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1986, пасмяротна). У 1953—1958 гг.— галоўны рэдактар часопіса «Маладосць».

*Кулешов А.* гл. *Куляшоў Аркадзь*

*Кулешов Ф.* гл. *Куляшоў Фёдар*

*Куляшоў Аркадзь Аляксандравіч* (1914—1978) — беларускі паэт. Народны паэт Беларусі (1968). Заслужаны работнік культуры Украіны (1973). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1946, 1949), Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Янкі Купалы (1970).

*Куляшоў Фёдар Іванавіч* (1913—1993) — беларускі літаратуразнавец, крытык. Доктар філалагічных навук (1964), прафесар (1965).

*Купала Янка* (сапр. Луцэвіч Іван Дамінікавіч; 1882—1942) — беларускі паэт, драматург, публіцыст, перакладчык, грамадскі дзеяч; класік беларускай літаратуры; адзін з заснавальнікаў сучаснай беларускай літаратуры і беларускай літаратурнай мовы. Народны паэт Беларусі (1925). Акадэмік АН Беларусі (1928) і АН Украіны (1929). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1941).

*Купрын Аляксандр Іванавіч* (1870—1938) — рускі пісьменнік.

*Кута Францішак* (1923—2004) — чэшскі эканаміст.

*Кухараў Сцяпан Іванавіч* (1919—2011) — беларускі пісьменнік. Заслужаны работнік культуры Беларусі (1980).

*Лабанок Уладзімір Елісеевіч* (1907—1984) — беларускі дзяржаўны і партыйны дзеяч, адзін з арганізатараў і кіраўнікоў патрыятычнага падполля і партызанскага руху ў Беларусі ў Вялікую Айчынную вайну. Герой Савецкага Саюза (1943).

*Лагерлёф Сельма Атылія Лувіса* (1858—1940) — шведская пісьменніца. Член Шведскай акадэміі (1914). Лаўрэат Нобелеўскай прэміі (1909).

*Ламаносаў Міхаіл Васільевіч* (1711—1765) — рускі вучоны-прыродазнавец, паэт, мастак, гісторык, асветнік. Акадэмік Пецярбургскай АН (1745).

*Лапа Аляксандр Дамінікавіч* (1802—1869) — грамадскі дзеяч, памешчык Бабруйскага павета, калежскі асэсар. У 1844—1859 гг.— маршалак Бабруйскага павета, у 1859—1863 гг.— мінскі губернскі маршалак.

*Ларчанка* — зямляк І. Я. Навуменкі.

*Ларчанка Вольга Уладзіміраўна* — жонка М. Р. Ларчанкі.

*Ларчанка Міхась* (Міхаіл Рыгоравіч; 1907—1981) — беларускі літаратуразнавец, крытык. Доктар філалагічных навук (1956), прафесар (1957). Заслужаны дзеяч навукі Беларусі (1977).

*Лаўшук Сцяпан Сцяпанавіч* (н. 1944) — беларускі літаратуразнавец, крытык. Член-карэспандэнт НАН Беларусі (2004), доктар філалагічных навук (1998), прафесар (1998).

*Левецаў Ульрыка фон* (Тэадора Ульрыка Сафія; 1804—1899) — знаёмая І. В. Гётэ.

*Левшин* гл. *Ляўшын*

*Лемцюгова Валянціна Пятроўна* (н. 1935) — беларускі мовазнавец. Доктар філалагічных навук (1988), прафесар (1993).

*Ленін Уладзімір Ільіч* (сапр. Ульянаў; 1870—1924) — расійскі і савецкі палітычны, дзяржаўны дзеяч, дзеяч міжнароднага рабочага руху, арганізатар і кіраўнік Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 г., адзін з ініцыятараў стварэння СССР.

*Лепешаў Іван Якаўлевіч* (1924—2014) — беларускі мовазнавец. Доктар філалагічных навук (1985), прафесар (1987).

*Лермантаў Міхаіл Юр'евіч* (1814—1841) — рускі пісьменнік.

*Лермонтов* гл. *Лермантаў*

*Лесючевский* гл. *Лесючэўскі*

*Лесючэўскі Мікалай Васільевіч* (1908—1978) — рускі пісьменнік і крытык. У 1958—1964 гг.— старшыня праўлення выдавецтва «Советский писатель».

*Лецка Ларыса Аляксандраўна* (н. 1948) — памочнік-рэферэнт І. Я. Навуменкі падчас яго працы на пасадзе віцэ-прэзідэнта АН Беларусі ў 1982—1992 гг.

*Лецка Яўген Рыгоравіч* (н. 1944) — беларускі пісьменнік, крытык, літаратуразнавец. Кандыдат філалагічных навук (1980).

*Ліс Арсень Сяргеевіч* (н. 1934) — беларускі фалькларыст, літаратуразнавец, краязнавец. Доктар філалагічных навук (1997). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1986).

*Ліякумовіч Цімафей Барысавіч* (н. 1936) — беларускі пісьменнік, літаратуразнавец, перакладчык. Доктар філалагічных навук (1993), прафесар (1992). У 1980—1998 гг.— загадчык кафедры рускай і замежных літаратур Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А. С. Пушкіна. З 1999 г. жыве ў ЗША.

*Лобан Мікола* (Мікалай Паўлавіч; 1911—1984) — беларускі пісьменнік, мовазнавец. Кандыдат філалагічных навук (1953). Заслужаны работнік культуры Беларусі (1974). Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя І. Мележа (1985).

*Лозка Алесь (*Аляксандр Юр'евіч; н. 1952) — беларускі фалькларыст, педагог. Кандыдат філалагічных навук (1989).

*Лойка Алег Антонавіч* (1931—2008) — беларускі пісьменнік, літаратуразнавец, крытык. Член-карэспандэнт АН Беларусі (1989). Доктар філалагічных навук (1969), прафесар (1971). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Якуба Коласа (1990). У 1956—1985 гг.— выкладчык, з 1985 г.— загадчык кафедры, у 1991—1996 гг.— дэкан філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта.

*Лось Еўдакія Якаўлеўна* (1929—1977) — беларуская паэтэса.

*Лужанін Максім* (сапр. Каратай Аляксандр Амвросьевіч; 1909—2001) — беларускі паэт. Заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі (1969). Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Якуба Коласа (1965).

*Лукашевич* гл. *Лукашэвіч*

*Лукашэвіч Вадзім Пятровіч* (1905—?) — рускі пісьменнік, крытык, перакладчык. У той час член рэдакцыйнага савета часопіса «Дружба народов».

*Лукашэнка Аляксандр Рыгоравіч* (н. 1954) — прэзідэнт Рэспублікі Беларусь (з 1994 г.).

*Луконін Міхаіл Кузьміч* (1918—1976) — рускі паэт. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1949, 1973).

*Лупсякоў Мікола* (Мікалай Радзівонавіч; 1919—1972) — беларускі пісьменнік.

*Лучына Янка* (сапр. Неслухоўскі Іван Люцыянавіч; 1851—1897) — беларускі паэт.

*Лыньков* гл. *Лынькоў*

*Лынькова-Куспіц Соф'я Захараўна* (1917—1992) — жонка М. Лынькова.

*Лынькоў Міхась* (Міхаіл Ціханавіч; 1899—1975) — беларускі пісьменнік, літаратуразнавец, грамадскі дзеяч. Народны пісьменнік Беларусі (1962). Акадэмік АН Беларусі (1953, член-карэспандэнт — 1936). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Якуба Коласа (1968).

*Лыч Леанід Міхайлавіч* (н. 1929) — беларускі гісторык. Доктар гістарычных навук (1989), прафесар (1993).

*Любецкая Алена Уладзіміраўна* (1880—1979) — цётка Я. П. Навуменка.

*Лютэр Марцін* (1483—1546) — нямецкі тэолаг, рэлігійны рэфарматар, заснавальнік лютэранства. Доктар тэалогіі (1512).

*Лявада Аляксандр Сцяпанавіч* (сапр. Косак; 1909—1995) — украінскі пісьменнік. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Украіны імя Т. Р. Шаўчэнкі (1971).

*Лявонаў Барыс Андрэевіч* (н. 1935) — рускі пісьменнік, крытык, літаратуразнавец. Доктар філалагічных навук (1885), прафесар (1988).

*Лявонаў Леанід Максімавіч* (1899—1994) — рускі пісьменнік. Акадэмік АН СССР (1972). Герой Сацыялістычнай Працы (1967). Заслужаны дзеяч мастацтваў Расіі (1949). Лаўрэат Ленінскай прэміі (1957), Дзяржаўнай прэміі СССР (1943, 1977).

*Ляўшын Барыс Венядзіктавіч* (1926—2012) — рускі гісторык, архівіст. Доктар гістарычных навук (1985), прафесар. У 1963—2003 гг.— дырэктар Архіва АН СССР/РАН.

*Мазай Ніна Мікалаеўна* (н. 1950) — беларускі дзяржаўны дзеяч, дыпламат. Кандыдат філасофскіх навук. У 1985—1994 гг.— намеснік старшыні Савета Міністраў Беларусі.

*Мазалькова Калерыя Іванаўна* — жонка Я. С. Мазалькова.

*Мазалькоў Яўген Сямёнавіч* (1909—1969) — рускі літаратуразнавец, крытык, перакладчык. Заслужаны дзеяч культуры Беларусі (1968). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1950).

*Майхровіч Сцяпан Казіміравіч* (1908—1981) — беларускі літаратуразнавец, крытык, публіцыст.

*Макаёнак Андрэй Ягоравіч* (1920—1982) — беларускі драматург. Народны пісьменнік Беларусі (1977). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Якуба Коласа (1974), Літаратурнай прэміі імя Янкі Купалы (1962).

*Макаль Пятрусь* (Пётр Міхайлавіч; 1932—1996) — беларускі паэт. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Янкі Купалы (1984), Літаратурнай прэміі імя А. Куляшова (1980).

*Малажай Галіна Мікалаеўна* (1938—2005) — беларускі мовазнавец. Член-карэспандэнт Акадэміі адукацыі Беларусі (1998), кандыдат філалагічных навук (1971), прафесар (1988).

*Малдоніс Альфонсас Мацеевіч* (1929—2007) — літоўскі паэт. Народны паэт Літвы (1984). Заслужаны дзеяч мастацтваў Літвы (1974). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Літвы (1965, 1979). У 1975—1988 гг.— старшыня праўлення Саюза пісьменнікаў Літвы.

*Малец Іван Васільевіч* (1908—?) — дзеяч рэвалюцыйнага і нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі. Заслужаны настаўнік Беларусі (1966).

*Малышкін Аляксандр Георгіевіч* (1892—1938) — рускі пісьменнік.

*Мальдзіс Адам Восіпавіч* (н. 1932) — беларускі літаратуразнавец, крытык, празаік, публіцыст. Доктар філалагічных навук (1987), прафесар (1990). Заслужаны дзеяч польскай культуры (1982). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Якуба Коласа (1980). У 1990—1991 гг.— навуковы кіраўнік ЧТК Нацыянальнага навукова-асветніцкага цэнтра імя Ф. Скарыны, пасля — дырэктар цэнтра (да 1998 г.).

*Мальдис* гл. *Мальдзіс*

*Мамантаў Віктар Іванавіч* (н. 1937) — украінскі журналіст, пісьменнік. Заслужаны работнік культуры Украіны. Заслужаны работнік культуры Малдовы.

*Мамчиц* гл. *Мамчыц*

*Мамчыц Вольга* — беларускі журналіст.

*Манергейм Карл Густаў Эміль* (1867—1951) — фінскі дзяржаўны і ваенны дзеяч. Маршал Фінлядыі (1933). Галоўнакамандуючы фінскай арміяй у войнах з СССР (1939—1940 і 1941—1944). У 1944—1946 гг.— прэзідэнт Фінляндыі.

*Манзіенка Фёдар Сяргеевіч* (1912—1983) — камандзір разведвальна-дыверсійнай групы, якая дзейнічала ў 1942—1943 гг. на тэрыторыі Палесся. Пасля вайны — дырэктар саўгаса, эксперыментальнага вінзавода ў Адэсе.

*Манюшка Станіслаў* (1819—1872) — польскі і беларускі кампазітар, дырыжор, педагог.

*Мапасан Гі* (поўнае імя Анры Рэнэ Альбер Гі) дэ (1850—1893) — французскі пісьменнік.

*Маркс Карл* (1818—1883) — нямецкі філосаф, грамадскі дзеяч, рэвалюцыянер, заснавальнік марксізму. Доктар філасофіі (1841).

*Марук Уладзімір Антонавіч* (1954—2010) — беларускі паэт, публіцыст, перакладчык. У 1981—1986 гг.— карэспандэнт, загадчык аддзела літаратуры і мастацтва газеты «Звязда».

*Мархель Уладзімір Іосіфавіч* (1940—2013) — беларускі літаратуразнавец, перакладчык. Кандыдыт філалагічных навук (1982).

*Марціновіч Алесь* (Аляксандр Андрэевіч; н. 1946) — беларускі пісьменнік, крытык, літаратуразнавец. У 1981—2001 гг.— загадчык аддзела інфармацыі і літаратурнага жыцця газеты «Літаратура і мастацтва».

*Маскаленка Іван Канстанцінавіч* — намеснік камандзіра разведвальна-дыверсійнай групы Ф. С. Манзіенкі.

*Маслаў Аляксандр Паўлавіч* — у той час начальнік Мінскага паштамта.

*Маслов* гл. *Маслаў*

*Маслоўскі Віталь Іванавіч* — у той час вядучы спецыяліст Міністэрства народнай адукацыі БССР.

*Матусевіч Алена Анатольеўна* (у замустве Стэльмах; н. 1965) — беларускі журналіст.

*Маўр Янка* (сапр. Фёдараў Іван Міхайлавіч; 1883—1971) — беларускі пісьменнік, адзін з пачынальнікаў беларускай дзіцячай літаратуры. Заслужаны дзеяч культуры Беларусі (1968). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1972, пасмяротна).

*Мачульскі Раман Навумавіч* (1903—1990) — беларускі партыйны і дзяржаўны дзеяч, адзін з арганізатараў і кіраўнікоў патрыятычнага падполля і партызанскага руху ў Беларусі ў Вялікую Айчынную вайну. Герой Савецкага Саюза (1944). Заслужаны работнік культуры Беларусі (1980).

*Машэраў Пётр Міронавіч* (1918—1980) — беларускі партыйны і дзяржаўны дзеяч, адзін з арганізатараў і кіраўнікоў патрыятычнага падполля і партызанскага руху ў Беларусі ў Вялікую Айчынную вайну. Герой Савецкага Саюза (1944). Герой Сацыялістычнай Працы (1978). У 1965—1980 гг.— першы сакратар ЦК КПБ. З крас. 1966 г.— кандыдат у члены Палітбюро ЦК КПСС.

*Маяковский* гл. *Маякоўскі*

*Маякоўскі Уладзімір Уладзіміравіч* (1893—1930) — рускі паэт, драматург.

*Мелешко* гл. *Мялешка*

*Мележ Іван Паўлавіч* (1921—1976) — беларускі пісьменнік. Народны пісьменнік Беларусі (1972). Лаўрэат Ленінскай прэміі (1972), Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Якуба Коласа (1976, пасмяротна).

*Мельнікаў Міхаіл Фёдаравіч* (1921—1993) — беларускі краязнавец. Заслужаны работнік культуры Беларусі (1979).

*Мехаў Уладзімір Львовіч* (сапр. Няхамкін; 1928—2017) — беларускі пісьменнік.

*Мехов* гл. *Мехаў*

*Мехці Фаміль* (1934—2003) — азербайджанскі паэт.

*Мешчаракова Вольга Іванаўна* (Куртаніч; н. 1963) — беларуская і руская пісьменніца.

*Мещерякова* гл. *Мешчаракова*

*Мікалай Першы* (1796—1855) — расійскі імператар (1825—1855). Ганаровы член Пецярбургскай АН (1826).

*Мікула Сяргей Кірылавіч* — беларускі пісьменнік-аматар. Зямляк І. Я. Навуменкі.

*Мікуліч Мікалай Уладзіміравіч* (н. 1960) — беларускі літаратуразнавец, крытык. Кандыдат філалагічных навук (1990).

*Міско Якуб Герасімавіч* (1911—1981) — беларускі пісьменнік, журналіст, удзельнік рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі. Заслужаны дзеяч культуры Беларусі (1967).

*Місько Павел Андрэевіч* (1931—2001) — беларускі пісьменнік.

*Михасев* гл. *Міхасёў*

*Міхасёў Уладзімір Іванавіч* (н. 1938) — старшыня Мінскага гарадскога выканаўчага камітэта ў 1985—1990 гг.

*Міхневіч Юрый Міхайлавіч* (1925—1998) — беларускі дзяржаўны дзеяч. У 1971—1988 гг.— міністр культуры БССР.

*Міцкевіч Адам* (1798—1855) — польскі паэт беларускага паходжання, публіцыст, грамадскі дзеяч.

*Міцкевіч Вольга Уладзіміраўна* (н. 1978) — беларускі мовазнавец. Кандыдат філалагічных навук (2011).

*Міцкевіч Марыя Дзмітрыеўна* (1891—1945) — жонка Якуба Коласа.

*Мішарын Аляксандр Мікалаевіч* (1939—2008) — рускі пісьменнік. Заслужаны дзеяч мастацтваў Расіі (2000).

*Мозольков* гл. *Мазалькоў*

*Мурашка Рыгор Данілавіч* (1902—1944) — беларускі пісьменнік.

*Мусіенка Міхаіл Фёдаравіч* (1918—?) — рускі пісьменнік, перакладчык. У той час супрацоўнік выдавецтва «Детгиз».

*Мусиенко* гл. *Мусіенка*

*Мухін Аляксандр Міхайлавіч* (1810—1896) — цэнзар Віленскага цэнзурнага камітэта ў 1841—1868 гг.

*Мушинский* гл. *Мушынскі*

*Мушынскі Міхась* (Міхаіл Іосіфавіч; н. 1931) — беларускі літаратуразнавец, тэкстолаг, крытык. Член-карэспандэнт НАН Беларусі (1991), доктар філалагічных навук (1978). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Якуба Коласа (1980).

*Мэй Уолтэр* (1912—2006) — англійскі паэт і перакладчык.

*Мюлер Фрыдрых Макс* (1823—1900) — нямецкі і англійскі філолаг, спецыяліст па агульным мовазнаўстве, індалогіі, міфалогіі. Доктар філасофіі (1948).

*Мялешка Іван Ілья* (каля 1552 — 1622) — беларускі дзяржаўны дзеяч, пісьменнік.

*Мяснікові Міхаіл Уладзіміравіч* (н. 1950) — беларускі дзяржаўны дзеяч. Член-карэспандэнт НАН Беларусі (2009), доктар эканамічных навук (1998), прафесар (2003). З 1990 г.— намеснік старшыні Савета Міністраў, з 1991 г.— першы намеснік старшыні Савета Міністраў, у 1994—1995 гг.— намеснік прэм'ер-міністра, у 2010—2014 гг.— прэм'ер-міністр Беларусі.

*Навуменка Валерыя Іванаўна* (н. 1959) — беларускі афтальмолаг. Кандыдат медыцынскіх навук (1996). Дачка І. Я. Навуменкі.

*Навуменка Віктар Іванавіч* (1949—2002) — беларускі фізік. Кандыдат фізіка-матэматычных навук (1985). Сын І. Я. Навуменкі ад першага шлюбу.

*Навуменка Ганна Якаўлеўна* (1939—1986) — сястра І. Я. Навуменкі.

*Навуменка Марыя Пятроўна* (дзявочае Смяян; 1902—1984) — маці І. Я. Навуменкі.

*Навуменка Мікалай Якаўлевіч* (1928—2003) — беларускі чыгуначнік. Брат І. Я. Навуменкі.

*Навуменка Павел Іванавіч* (н. 1964) — беларускі літаратуразнавец. Кандыдат філалагічных навук (1991). Сын І. Я. Навуменкі.

*Навуменка Піліп Аляксандравіч* (1867—1933) — дзед І. Я. Навуменкі.

*Навуменка Таццяна Іванаўна* (н. 1961) — беларускі і рускі музыказнавец. Доктар мастацтвазнаўства (2005), прафесар. Дачка І. Я. Навуменкі.

*Навуменка Уладзімір Якаўлевіч* (1932—2005) — беларускі географ. Кандыдат геаграфічных навук (1974), прафесар (1990). Заслужаны работнік вышэйшай школы Беларусі (1982). Брат І. Я. Навуменкі.

*Навуменка Ядвіга Паўлаўна* (дзяв. Іконнікава; 1929—2000) — беларускі гісторык. Кандыдат гістарычных навук (1970). Жонка І. Я. Навуменкі.

*Навуменка Ядвіга Паўлаўна* (н. 1995) — дачка П. І. Навуменкі.

*Навуменка Якаў Піліпавіч* (1900—1966) — бацька І. Я. Навуменкі.

*Навуменка Яўген Іванавіч* (1957—1958) — сын І. Я. Навуменкі.

*Напалеон I Банапарт* (1769—1821) — французскі дзяржаўны дзеяч і палкаводзец, першы консул Французскай Рэспублікі (1799—1804), імператар (1804—1814, 1815).

*Насовіч Іван Іванавіч* (1788—1877) — беларускі мовазнавец-лексікограф, фалькларыст, этнограф.

*Нейфах Якаў Уладзіміравіч (Вульфавіч)* (?—1973) — доктар, загадчык паліклінікі беларускага аддзялення Літфонду Саюза пісьменнікаў СССР.

*Некляев* гл. *Някляеў*

*Некрасов* гл. *Някрасаў*

*Нестар* — старажытнарускі пісьменнік і гісторык канца XI — пач. XII ст., адзін з заснавальнікаў летапісанага жанру на Русі.

*Несцяровіч Віктар Іванавіч* — беларускі мовазнавец. Кандыдат філалагічных навук (1983).

*Нефед* гл. *Няфёд*

*Ніkановіч Барыс* — рабочы завода «Бабруйсксельмаш».

*Нікіцін Іван Савіч* (1824—1861) — рускі паэт.

*Новікаў Іван Рыгоравіч* (1918—2001) — беларускі пісьменнік, журналіст. Заслужаны дзеяч культуры Беларусі (1967). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1974), Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя П. М. Лепяшынскага (1968), Літаратурнай прэміі імя Якуба Коласа (1965).

*Нолль* гл. *Ноль*

*Ноль Дзітэр* (1927—2008) — нямецкі пісьменнік, журналіст. Лаўрэат Нацыянальнай прэміі ГДР (1963).

*Носович* гл. *Насовіч*

*Ньютан Ісаак* (1643—1727) — англійскі фізік, матэматык і астраном, стваральнік класічнай механікі і асноў сучаснага прыродазнаўства. Член Лонданскага каралеўскага таварыства (1672; з 1703 г. яго прэзідэнт). Замежны член Парыжскай АН (1699).

*Нэруда Пабла* (сапр. Рэес Басуальта Нефталі Рыкарда; 1904—1973) — чылійскі паэт, грамадскі дзеяч. Лаўрэат Нобелеўскай прэміі (1971).

*Нядзведскі Уладзіслаў Іосіфавіч* (1929—1973) — беларускі пісьменнік.

*Някляеў Уладзімір Пракопавіч* (н. 1946) — беларускі паэт, празаік. Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола (1979), Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1998).

*Някрасаў Мікалай Аляксеевіч* (1821—1878) — рускі паэт.

*Няфёд Уладзімір Іванавіч* (1916—1999) — беларускі тэатразнавец, пісьменнік, педагог. Член-карэспандэнт АН Беларусі (1972), доктар мастацтвазнаўства (1963), прафесар (1964). Заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі (1975). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1966).

*Няхай Рыгор Восіпавіч* (1914—1991) — беларускі пісьменнік.

*Овечкин* гл. *Авечкін*

*Овчаренко* гл. *Аўчарэнка*

*Озераў Віталь Міхайлавіч* (1917—2007) — рускі крытык, літаратуразнавец, грамадскі дзеяч. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1981).

*Озеров* гл. *Озераў*

*Осипенко А.* гл. *Асіпенка Алесь*

*Осипчик* гл. *Осіпчык*

*Осіпчык Лідзія Андрэеўна* — беларускі бібліёграф. У той час галоўны бібліёграф Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа АН Беларусі.

*Островский Н.* гл. *Астроўскі Мікалай*

*Офман Уладзімір Яўгенавіч* — баец разведвальна-дыверсійнай групы Ф. С. Манзіенкі.

*Павличков* гл. *Паўлічкаў*

*Падбярэскі Рамуальд Андрэевіч* (сапр. Друцкі-Падбярэзкі; 1812 ці 1813 — 1856) — беларускі і польскі выдавец, публіцыст, фальклярыст.

*Падлужны Аляксандр Іосіфавіч* (1935—2005) — беларускі мовазнавец. Акадэмік НАН Беларусі (1994; член-карэспандэнт — 1989). Доктар філалагічных навук (1982), прафесар (1989). Заслужаны дзеяч навукі Беларусі (1999). У 1989—2003 гг.— дырэктар Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа АН Беларусі.

*Падокшын Сямён Аляксандравіч* (1931—2004) — беларускі філосаф, гісторык-медыявіст. Доктар філасофскіх навук (1987), кандыдат гістарычных навук (1965). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1984).

*Палтаран Вера Сямёнаўна* (Ляпеская; 1919—1989) — беларуская пісьменніца. Заслужаны работнік культуры Беларусі (1979).

Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя П. М. Лепяшынскага (1970).

*Пальчэўскі Алесь* (Аляксандр Восіпавіч; 1905—1979) — беларускі пісьменнік.

*Паляк П. Ф.*— жыхар г. п. Гарадзішча Баранавіцкага раёна Брэсцкай вобл.

*Палякоў Іван Яўцеевіч* (1914—2004) — беларускі дзяржаўны і партыйны дзеяч. Герой Сацыялістычнай Працы (1973). У 1977—1985 гг.— старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР.

*Панамароў Валянцін Георгіевіч* (1923—2007) — беларускі пісьменнік.

*Панамарэнка Панцеляймон Кандратавіч* (1902—1984) — беларускі і савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч, адзін з арганізатараў і кіраўнікоў патрыятычнага падполля і партызанскага руху ў Вялікую Айчынную вайну. У 1938—1947 гг.— першы сакратар ЦК КП(б)Б. У 1944—1948 гг.— старшыня Савета Міністраў БССР.

*Панфёраў Фёдар Іванавіч* (1896—1960) — рускі пісьменнік. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1948, 1949).

*Панчанка Пімен Емяльянавіч* (1917—1995) — беларускі паэт. Народны паэт Беларусі (1973). Ганаровы акадэмік НАН Беларусі (1994). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1981), Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Янкі Купалы (1968), Літаратурнай прэміі імя Янкі Купалы (1959).

*Панченко* гл. *Панчанка*

*Папоў Уладзімір Фёдаравіч* (1907—2001) — рускі пісьменнік. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1949).

*Парэцкі Якаў Ільіч* (1913—1992) — беларускі літаратуразнавец, мовазнавец, перакладчык.

*Паслядовіч Макар Трафімавіч* (1906—1984) — беларускі пісьменнік.

*Патабня Аляксандр Апанасавіч* (1835—1891) — украінскі і рускі філолаг-славіст; кіраўнік харкаўскай лінгвістычнай школы. Член-карэспандэнт Пецярбургскай АН (1877).

*Паустовский* гл. *Паўстоўскі*

*Паўлічкаў Мікалай Пятровіч* — першы сакратар Дзяржынскага райкама КПБ з 1963 г.

*Паўстоўскі Канстанцін Георгіевіч* (1892—1968) — рускі пісьменнік.

*Пашкевіч Алесь* (Аляксандр Аляксандравіч; н. 1972) — беларускі пісьменнік, літаратуразнавец. Доктар філалагічных навук (2002).

*Пашкевіч Нічыпар Еўдакімавіч* (1924—2003) — беларускі крытык, літаратуразнавец. Кандыдат філалагічных навук (1970). Заслужаны работнік культуры Беларусі (1974). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Якуба Коласа (1966).

*Перкін Навум Саламонавіч* (1912—1976) — беларускі літаратуразнавец, крытык. Доктар філалагічных навук (1964), прафесар (1965). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Якуба Коласа (1980, пасмяротна).

*Пестрак Піліп Сямёнавіч* (1903—1978) — беларускі пісьменнік. Заслужаны дзеяч культуры Беларусі (1968). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Якуба Коласа (1964).

*Петр* гл. *Пётр Першы*

*Петрашкевіч Алесь* (Аляксандр Лявонавіч; 1930—2012) — беларускі празаік, драматург. Кандыдат гістарычных навук (1967). Заслужаны работнік культуры Беларусі (1975). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1976).

*Петрыкаў Пётр Ціханавіч* (1927—2007) — беларускі гісторык. Член-карэспандэнт АН Беларусі (1977), доктар гістарычных навук (1973), прафесар (1978). У 1975—1988 гг.— дырэктар Інстытута гісторыі АН Беларусі.

*Печенников* гл. *Пячэннікаў*

*Пётр Першы* (1672—1725) — расійскі цар (1682—1721), імператар (1721—1725).

*Пінчук Мікалай Трафімавіч* (1924—?) — таварыш І. Я. Навуменкі па патрыятычным падполлі, якое дзейнічала ў 1941—1943 гг. на тэрыторыі Васілевіцкага раёна Гомельскай вобл.

*Пискунов* гл. *Піскуноў*

*Піскуноў Канстанцін Фядотавіч* (1905—1981) — савецкі выдавецкі дзеяч. Заслужаны работнік культуры РСФСР (1966). У 1948—1974 гг.— дырэктар выдавецтва «Детская литература» (да 1963 г. «Детгиз»).

*Піятуховіч Міхаіл Мікалаевіч* (1891—1937) — беларускі крытык, літаратуразнавец. Правадзейны член Інбелкульта (1925), прафесар (1926). У 1934 г. (паводле іншых звестак, у 1936 г.) у сувязі з абвінавачаннямі ў нацдэмакратызме пакінуў Беларусь. Рэпрэсаваны ў 1937 г. Расстраляны. Рэабілітаваны ў 1957 г.

*Платон Афінскі* (май 428 — 347 да н. э.) — старажытнагрэчаскі філосаф, заснавальнік платанізму.

*Плашчынская Станіслава Эдуардаўна* (1906—1996) — жонка Язэпа Пушчы.

*Плуг Адам* (сапр. Пяткевіч Антоні Антонавіч; 1823—1903) — польскі і беларускі пісьменнік, публіцыст.

*Подлужный* гл. *Падлужны*

*Подокшин* гл. *Падокшын*

*Порецкий* гл. *Парэцкі*

*Пракоф'еў Аляксандр Андрэевіч* (1900—1971) — рускі паэт, перакладчык. Герой Сацыялістычнай Працы (1970). Заслужаны дзеяч культуры Беларусі (1968). Лаўрэат Ленінскай прэміі (1961), Дзяржаўнай прэміі СССР (1946).

*Прокофьев* гл. *Пракоф'еў*

*Прыбыль Хрыстафор Сямёнавіч* (1908—1965) — камандзір разведвальна-дыверсійнай групы, якая дзейнічала ў 1943 г. на тэрыторыі Бабруйскага, Асіповіцкага і Кіраўскага раёнаў Магілёўскай вобл.

*Пташнікаў Іван Мікалаевіч* (1932—2016) — беларускі пісьменнік. Заслужаны дзеяч культуры Беларусі (1983). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Якуба Коласа (1978).

*Пташников* гл. *Пташнікаў*

*Пуплікаў Юрый Аляксандравіч* (1935—2006) — беларускі дзяржаўны дзеяч. Заслужаны будаўнік Беларусі (1984). У 1983—1986 гг.— начальнік Упраўлення будаўніцтва «Мінскметрабуд».

*Пупликов* гл. *Пуплікаў*

*Путрык Барыс Андрэевіч* — у той час першы сакратар Мядзельскага райкама КПБ.

*Пушкін Аляксандр Сяргеевіч* (1799—1837) — рускі паэт, празаік і драматург; пачынальнік новай рускай літаратуры, заснавальнік сучаснай рускай літаратурнай мовы.

*Пушча Язэп* (сапр. Плашчынскі Іосіф Паўлавіч; 1902—1964) — беларускі паэт. У 1930 г. рэпрэсаваны. Рэабілітаваны ў 1956 г.

*Пширков* гл. *Пшыркоў*

*Пшыркоў Юльян Сяргеевіч* (1912—1980) — беларускі літаратуразнавец, крытык. Доктар філалагічных навук (1962), прафесар (1964). Заслужаны дзеяч навукі Беларусі (1978). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Якуба Коласа (1980).

*Пыпін Аляксандр Мікалаевіч* (1833—1904) — рускі літаратуразнавец, этнограф, фалькларыст; прадстаўнік культурна-гістарычнай школы. Акадэмік Пецярбургскай акадэміі мастацтваў.

*Пысін Аляксей Васільевіч* (1920—1981) — беларускі паэт. Заслужаны работнік культуры Беларусі (1980). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Янкі Купалы (1968).

*Пястоў Анатоль Мікалаевіч* (?—1942) — баец разведвальна-дыверсійнай групы Ф. С. Манзіенкі. Загінуў пры высадцы групы.

*Пятрова Лідзія Якаўлеўна* (1923—2004) — жонка І. П. Мележа.

*Пятроў Яўген* (сапр. Катаеў Яўген Пятровіч; 1903—1942) — рускі пісьменнік-сатырык. Працаваў сумесна з І. Ільфам.

*Пячэннікаў Валерый Андрэевіч* (1941—2015) — беларускі дзяржаўны і партыйны дзеяч. У 1983—1985 гг.— старшыня Мінскага гарадскога выканаўчага камітэта. У 1986—1991 гг.— сакратар ЦК КПБ па ідэалогіі.

*Равінскі Вікенцій Паўлавіч* (1786—1855) — паэт, драматург.

*Радзівілы* — найбуйнейшы магнацкі род у Беларусі, Украіне і Літве, прадстаўнікі якога ў XV—XVIII стст. займалі вышэйшыя дзяржаўныя, адміністрацыйныя і ваенныя пасады ў Вялікім Княстве Літоўскім. Мелі вялікія зямельныя ўладанні ў Беларусі. Адыгрывалі значную ролю ў палітычным жыцці Рэчы Паспалітай. У XVIII ст. вядомыя як мецэнаты, збіральнікі партрэтнай галерэі, заснавальнікі мануфактур.

*Радзішчаў Аляксандр Мікалаевіч* (1749—1802) — рускі пісьменнік.

*Радищев* гл. *Радзішчаў*

*Радкевіч Яўген Рыгоравіч* (1937—1999) — беларускі пісьменнік. Кандыдат гістарычных навук (1974), доктар філалагічных навук (1988), прафесар (1989).

*Раждзественскі Усевалад Аляксандравіч* (1895—1977) — рускі паэт, перакладчык.

*Ракітны Мікола* (сапр. Новікаў Мікалай Ісакавіч; 1920—2000) — беларускі пісьменнік.

*Раманаў Аляксандр Васільевіч* (1918—1994) — адзін з кіраўнікоў партызанскага руху на тэрыторыі Віцебскай і Вілейскай абласцей у гады Вялікай Айчыннай вайны.

*Раманаў Еўдакім Раманавіч* (1855—1922) — беларускі этнограф, фалькларыст, археолаг, краязнавец, педагог.

*Распуцін Валянцін Рыгоравіч* (1937—2015) — рускі пісьменнік, публіцыст. Герой Сацыялістычнай Працы (1987). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1974, 1987), Дзяржаўнай прэміі Расіі (2012).

*Ратнікава Ірына Энгелеўна* (н. 1964) — беларускі мовазнавец. Доктар філалагічных навук (2003), прафесар (2010). Унучка М. Лынькова.

*Раханаў Андрэй Ягоравіч* (1916—1997) — беларускі партыйны і дзяржаўны дзеяч. У 1964—1978 гг.— намеснік, першы намеснік старшыні Мінскага аблвыканкама.

*Рашэтнікава Ніна Барысаўна* (н. 1949) — беларускі літаратуразнавец. Кандыдат філалагічных навук (1991).

*Рождественский* гл. *Раждзественскі*

*Розенштэйн Давід Іосіфавіч* (1903—?) — дзеяч рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі, журналіст.

*Рубанаў Уладзіслаў Якаўлевіч* (1952—1994) — беларускі пісьменнік.

*Рубанов* гл. *Рубанаў*

*Русак Адам Герасімавіч* (1904—1987) — беларускі паэт. Заслужаны дзеяч культуры Беларусі (1964).

*Русецкі Аляксей Сцяпанавіч* (сапр. Бурдзялёў; 1912—2000) — беларускі паэт. Заслужаны работнік культуры Беларусі (1983).

*Русецкий* гл. *Русецкі*

*Рыд Томас Майн* (1818—1883) — англійскі пісьменнік, аўтар авантурна-прыгодніцкіх раманаў.

*Рылатка Уладзімір Пятровіч* (н. 1958) — беларускі дзеяч культуры, дзяржаўны дзеяч. У 1988—1996 гг.— намеснік міністра культуры Беларусі.

*Рылько Алесь* (Аляксей Іванавіч; 1923—1967) — беларускі пісьменнік.

*Рэмарк Эрых Марыя* (1898—1970) — нямецкі пісьменнік.

*Рэпіч Міхаіл Рыгоравіч* (н. 1924) — сувязны, з крас. 1943 г.— баец разведвальна-дыверсійнай групы Ф. С. Манзіенкі. Пасля вайны працаваў у чыгуначнай арганізацыі, служыў у органах дзяржбяспекі.

*Сабаленка Раман Карпавіч* (1907—1975) — беларускі пісьменнік.

*Савіцкі Алесь* (Аляксандр Ануфрыевіч; 1924—2015) — беларускі пісьменнік. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (2002), прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1972).

*Савіч Франц Андрэевіч* (1815—1845) — беларускі паэт, публіцыст, рэвалюцыянер-дэмакрат.

*Садоўскі Т.*— зямляк І. Я. Навуменкі.

*Сакалоўская Ала Станіславаўна* (н. 1937) — беларускі мовазнавец. Кандыдат філалагічных навук (1967). У 1990—1997 гг.— загадчык кафедры беларускай мовы і літаратуры Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта.

*Салаухін Уладзімір Аляксеевіч* (1924—1997) — рускі пісьменнік, публіцыст. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РСФСР імя Максіма Горкага (1979).

*Салынскі Афанасій Дзмітрыевіч* (1920—1993) — рускі драматург. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1984), Дзяржаўнай прэміі РСФСР імя К. С. Станіслаўскага (1972).

*Самуйлёнак Эдуард Людвікавіч* (1907—1939) — беларускі пісьменнік.

*Сапегі* — буйны магнацкі род у Вялікім Княстве Літоўскім, прадстаўнікі якога ў XV—XVIII стст. займалі вышэйшыя дзяржаўныя і вайсковыя пасады; буйныя землеўладальнікі. Лічыўся другім паводле значэння (пасля Радзівілаў) магнацкім родам ВКЛ.

*Саўчук Тамара Мікалаеўна* — галоўны інспектар Міністэрства народнай адукацыі БССР.

*Сачанка Барыс Іванавіч* (1936—1995) — беларускі пісьменнік. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Якуба Коласа (1982), Літаратурнай прэміі імя І. Мележа (1991).

*Саченко* гл. *Сачанка*

*Свярдлоў Якаў Міхайлавіч* (1885—1919) — савецкі палітычны і дзяржаўны дзеяч.

*Семынин* гл. *Сямынін*

*Семяжон Язэп* (сапр. Семяжонаў Іосіф Ігнатавіч; 1914—1990) — беларускі перакладчык, крытык, празаік, паэт. Заслужаны работнік культуры Беларусі (1989). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Янкі Купалы (1982).

*Синенко* гл. *Сіненка*

*Серафімовіч Аляксандр* (сапр. Папоў Аляксандр Серафімавіч; 1863—1949) — рускі пісьменнік. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1943).

*Сержпутоўскі Аляксандр Казіміравіч* (1864—1940) — беларускі этнограф і фалькларыст. Правадзейны член Інбелкульта (1925).

*Сеўчанка Антон Нічыпаравіч* (1903—1978) — беларускі фізік. Акадэмік АН Беларусі (1953), доктар фізіка-матэматычных навук, прафесар (1953). Герой Сацыялістычнай Працы (1971). Заслужаны дзеяч навукі Беларусі (1967). У 1957—1972 гг.— рэктар БДУ.

*Сёмава Вольга Епіфанаўна* — цётка, хросная маці Максіма Багдановіча. Начальніца народнага вучылішча, прыватнай жаночай прагімназіі ў Пінску.

*Сівая Лілія Пятроўна* — першая жонка І. Я. Навуменкі.

*Сіманаў Канстанцін (Кірыл) Міхайлавіч* (1915—1979) — рускі пісьменнік. Герой Сацыялістычнай Працы (1974). Лаўрэат Ленінскай прэміі (1974), Дзяржаўнай прэміі СССР (1942, 1943, 1946, 1947, 1949, 1950).

*Сімяон Полацкі* (сапр. Пятроўскі-Сітніяновіч Самуіл Емяльянавіч, паводле некаторых звестак — Гаўрылавіч; 1629—1680) — беларускі і рускі паэт, драматург, перакладчык, педагог, рэлігійны і грамадскі дзеяч.

*Сіненка Георгій Дзмітрыевіч* (1923—?) — беларускі літаратуразнавец, крытык. Кандыдат філалагічных навук (1970).

*Сінілаў Аляксей Цімафеевіч* (1918—2001) — беларускі пісьменнік.

*Сінькова Людміла Дзмітрыеўна* (н. 1958) — беларускі літаратуразнавец. Доктар філалагічных навук (1997), прафесар (2001).

*Сипаков* гл. *Сіпакоў*

*Сіпакоў Янка* (Іван Данілавіч; 1936—2011) — беларускі пісьменнік. Заслужаны дзеяч культуры Беларусі (1997). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Янкі Купалы (1976).

*Скараходаў Уладзімір Паўлавіч* (н. 1939) — педагог, грамадскі і дзяржаўны дзеяч. Кандыдат філасофскіх навук (1989), прафесар (1995). Заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі (1997). Акадэмік Міжнароднай АН Еўразіі (1998).

*Скарына Францыск* (каля 1490 — каля 1551) — беларускі і ўсходнеславянскі першадрукар, асветнік-гуманіст, пісьменнік, грамадскі дзеяч, вучоны-медык. Доктар медыцынскіх навук (1512).

*Скорина* гл. *Скарына*

*Скрыган Ганна Міхайлаўна* — жонка Яна Скрыгана.

*Скрыган Ян* (Іван Аляксеевіч; 1905—1992) — беларускі пісьменнік. Заслужаны работнік культуры Беларусі (1985). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1976). У 1936-м і 1949-м гг. рэпрэсаваны. Рэабілітаваны ў 1954 г.

*Скурко Любоў Андрэеўна* (1912—1995) — жонка Максіма Танка.

*Смирнов* гл. *Смірноў Васіль*

*Смирнов Сергей* гл. *Смірноў Сяргей*

*Смірноў Васіль Аляксандравіч* (1905—1979) — рускі пісьменнік. У 1960—1965 гг.— галоўны рэдактар часопіса «Дружба народов».

*Смірноў Сяргей Сяргеевіч* (1915—1976) — рускі пісьменнік. Лаўрэат Ленінскай прэміі (1965).

*Смяян Ганна Іванаўна* — стрыечная сястра І. Я. Навуменкі, дачка І. П. Смяяна.

*Смяян Іван Пятровіч* — дзядзька І. Я. Навуменкі, брат М. П. Навуменка.

*Снапковский* гл. *Снапкоўскі*

*Снапкоўскі Уладзімір Еўдакімавіч* (н. 1954) — беларускі гісторык. Доктар гістарычных навук (1993), прафесар (1995). У 1982—1988 гг.— вучоны сакратар аддзялення грамадскіх навук АН Беларусі.

*Соболенко* гл. *Сабаленка*

*Солоухин* гл. *Салаухін*

*Спрынчан Вадзім Браніслававіч* (н. 1950) — беларускі паэт, перакладчык. У 1972—1989 гг.— рэдактар, загадчык рэдакцыі паэзіі выдавецтва «Мастацкая літаратура».

*Сталін Іосіф Вісарыёнавіч* (сапр. Джугашвілі; 1878—1953) — савецкі палітычны, дзяржаўны, ваенны і партыйны дзеяч. Герой Савецкага Саюза (1945). Генералісімус Савецкага Саюза (1945). Герой Сацыялістычнай Працы (1939). З 1922 г.— генеральны сакратар ЦК ВКП(б). З канца 1920 — пачатку 1930-х гг. і да самай смерці аднаасобна кіраваў Савецкай дзяржавай.

*Стапановіч Іосіф Міхайлавіч* (Сцепановіч; н. 1955) — беларускі навуковец у галіне геабатанікі і экалогіі. Доктар біялагічных навук (2001).

*Старикова* гл. *Старыкава*

*Старыкава Кацярына Васільеўна* (н. 1924) — рускі літаратуразнавец, крытык. Кандыдат філалагічных навук.

*Старых Маргарыта* — беларускі журналіст.

*Стендаль* гл. *Стэндаль*

*Стральцоў Барыс Васільевіч* (1926—2009) — беларускі публіцыст, пісьменнік. Кандыдат гістарычных навук (1968), доктар філалагічных навук (1978), прафесар (1979).

*Стральцоў Міхась* (Міхаіл Лявонавіч; 1937—1987) — беларускі пісьменнік. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Янкі Купалы (1988, пасмяротна).

*Стрижонок* гл. *Стрыжонак*

*Стрыжонак Міхаіл Паўлавіч* (1920—1998) — беларускі журналіст, бібліятэказнавец. Заслужаны работнік культуры Беларусі (1980). У 1961—1995 гг.— дырэктар Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа АН Беларусі.

*Стулава Ала* — беларускі журналіст.

*Стэндаль* (сапр. Бейль Анры Мары; 1783—1842) — французскі пісьменнік; пачынальнік класічнага рэалізму.

*Сурганаў Фёдар Анісімавіч* (1911—1976) — беларускі дзяржаўны і партыйны дзеяч, адзін з арганізатараў і кіраўнікоў падполля і партызанскага руху ў Беларусі ў Вялікую Айчынную вайну.

*Сурганов* гл. *Сурганаў*

*Сурмач Ганна Іванаўна* (н. 1947) — беларускі гісторык, архівіст, грамадска-культурны дзеяч. У 1982—1993 гг.— дырэктар Цэнтральнага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва Беларусі.

*Сухнат Людміла Канстанцінаўна* (н. 1938) — беларускі дзяржаўны дзеяч. Заслужаны настаўнік Беларусі (1988). У 1988—1994 гг.— першы намеснік міністра народнай адукацыі Беларусі.

*Сцяпанава Ганна Сцяпанаўна* — радыстка, баец разведвальна-дыверсійнай групы Ф. С. Манзіенкі.

*Сцяцко Павел Уладзіміравіч* (н. 1930) — беларускі мовазнавец. Доктар філалагічных навук (1980), прафесар (1983).

*Сыракомля Уладзіслаў* (сапр. Кандратовіч Людвік; 1823—1862) — польскі і беларускі паэт.

*Сыркін Абель Геселевіч* (1825—1886) — віленскі друкар, выдавец.

*Сяменікаў Іван Фёдаравіч* (1905—1985) — дзеяч рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі.

*Сямынін Пётр Андрэевіч* (1909—1983) — рускі паэт, перакладчык.

*Талстой Аляксей Мікалаевіч* (1883—1945) — рускі пісьменнік. Акадэмік АН СССР (1939). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1941, 1943, 1946, пасмяротна).

*Талстой Леў Мікалаевіч* (1828—1910) — рускі пісьменнік. Ганаровы акадэмік Імператарскай АН (1900).

*Тамашоў Аркадзь Канстанцінавіч* — начальнік 4-га галоўнага ўпраўлення Міністэрства аховы здароўя БССР.

*Танк Максім* (сапр. Скурко Яўген Іванавіч; 1912—1995) — беларускі паэт, грамадскі дзеяч. Народны паэт Беларусі (1968). Акадэмік АН Беларусі (1972). Герой Сацыялістычнай Працы (1974). Лаўрэат Ленінскай прэміі (1978), Дзяржаўнай прэміі СССР (1948), Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Янкі Купалы (1966), Літаратурнай прэміі імя Янкі Купалы (1959).

*Тарашкевіч Браніслаў Адамавіч* (1892—1938) — беларускі грамадска-палітычны і асветны дзеяч, мовазнавец, публіцыст, перакладчык, літаратуразнавец. Акадэмік Беларускай АН (1928). У 1937 г. рэпрэсаваны. Расстраляны. Рэабілітаваны ў 1957 г.

*Твардоўскі Аляксандр Трыфанавіч* (1910—1971) — рускі паэт, перакладчык, грамадскі дзеяч. Лаўрэат Ленінскай прэміі (1961), Дзяржаўнай прэміі СССР (1941, 1946, 1947, 1971).

*Тётка* гл. *Цётка*

*Тикоцкий* гл. *Цікоцкі*

*Ткачоў Мікола* (Мікалай Гаўрылавіч; 1918—1979) — беларускі пісьменнік.

*Толстой А.* гл. *Талстой Аляксей*

*Толстой Л.* гл. *Талстой Леў*

*Томашев* гл. *Тамашоў*

*Туманава Зоя Пятроўна* (1922—2000) — савецкі партыйны і грамадскі дзеяч. У 1966—1986 гг.— намеснік, першы намеснік загадчыка аддзела культуры ЦК КПСС.

*Тургенев* гл. *Тургенеў*

*Тургенеў Іван Сяргеевіч* (1818—1883) — рускі пісьменнік. Член-карэспандэнт Пецярбургскай АН (1860).

*Тычина* гл. *Тычына*

*Тычына Міхась* (Міхаіл Аляксандравіч; н. 1943) — беларускі літаратуразнавец, крытык, пісьменнік. Доктар філалагічных навук (2001).

*Тяпинский* гл. *Цяпінскі*

*Уліцёнак Галіна Анатольеўна* (н. 1957) — беларускі журналіст. У той час карэспандэнт аддзела культуры газеты «Голас Радзімы».

*Фадеев* гл. *Фадзееў*

*Фадзееў Аляксандр Аляксандравіч* (1901—1956) — рускі пісьменнік. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1946).

*Файзулоеў Ібадуло* (1935—2003) — таджыкскі пісьменнік, журналіст, грамадскі дзеяч.

*Фамічова* — рэдактар выдавецтва «Молодая гвардия».

*Федароўскі Міхал* (1853—1923) — польскі і беларускі фалькларыст, этнограф, археолаг.

*Федарэнка Андрэй Міхайлавіч* (н. 1964) — беларускі пісьменнік. Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя І. Мележа (1995).

*Федасееў Пётр Мікалаевіч* (1908—1990) — расійскі філосаф і сацыёлаг. Акадэмік АН СССР (1960; член-карэспандэнт — 1946). Герой Сацыялістычнай Працы (1978). У 1962—1967 і 1971—1988 гг.— віцэ-прэзідэнт АН СССР.

*Федасюк Аляксандра Іванаўна* (1904—1995) — дзеяч рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі.

*Федоренко* гл. *Федарэнка*

*Федоров* гл. *Фёдараў*

*Федоровский* гл. *Федароўскі*

*Федосеев* гл. *Федасееў*

*Фейхтвангер Ліён* (1884—1958) — нямецкі пісьменнік. Доктар філасофіі (1907).

*Фет Апанас Апанасавіч* (сапр. Шаншын; 1820—1892) — рускі паэт, празаік, перакладчык. Член-карэспандэнт Пецярбургскай АН (1886).

*Фёдараў Святаслаў Мікалаевіч* (1927—2000) — расійскі афтальмолаг. Член-карэспандэнт АН СССР (1987), доктар медыцынскіх навук (1967), прафесар. Акадэмік Расійскай акадэміі медыцынскіх навук (1995). Герой Сацыялістычнай Працы (1987). Заслужаны вынаходнік СССР. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Расіі.

*Фёдараў Фёдар Іванавіч* (1911—1994) — беларускі фізік-тэарэтык. Акадэмік АН Беларусі (1966; член-карэспандэнт — 1956), доктар фізіка-матэматычных навук (1955), прафесар (1957). Герой Сацыялістычнай Працы (1978). Заслужаны дзеяч навукі Беларусі (1968). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1976), Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1972). У 1963—1987 гг.— акадэмік-сакратар аддзялення фізіка-матэматычных навук АН Беларусі.

*Філіпскіх Ванда Браніславаўна* (н. 1921) — беларускі бібліятэказнавец. У 1960—1980 гг.— намеснік дырэктара Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа АН Беларусі.

*Фіхтэ Іаган Готліб* (1762—1814) — нямецкі філосаф, прадстаўнік класічнай нямецкай філасофіі.

*Флабер Гюстаў* (1821—1880) — французскі пісьменнік.

*Флавій Іосіф* (сапр. Ёсеф бен Маціцьягу; каля 37 — каля 100) — яўрэйскі гісторык і военачальнік.

*Фолкнер Уільям Катберт* (1897—1962) — амерыканскі пісьменнік. Лаўрэат Нобелеўскай прэміі (1949).

*Фомичева* гл. *Фамічова*

*Фрэйд Зігмунд* (1856—1939) — аўстрыйскі псіхіятр і псіхолаг; заснавальнік псіхааналізу. Доктар медыцыны (1881).

*Фурманаў Дзмітрый Андрэевіч* (1891—1926) — рускі пісьменнік.

*Фурс Анатоль Паўлавіч* — беларускі кнігазнавец. У той час загадчык аддзела Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа АН Беларусі.

*Хадкевіч Тарас Канстанцінавіч* (1912—1975) — беларускі пісьменнік. Заслужаны работнік культуры Беларусі (1972).

*Хведаровіч Мікола* (сапр. Чарнушэвіч Мікалай Фёдаравіч; 1904—1981) — беларускі паэт, празаік, перакладчык.

*Хемінгуэй Эрнэст Мілер* (1899—1961) — амерыканскі пісьменнік. Лаўрэат Нобелеўскай прэміі (1954).

*Хілендарскі Паісій* (каля 1722 — 1773) — балгарскі асветнік.

*Ходкевич* гл. *Хадкевіч*

*Хонекер Эрых* (1912—1994) — партыйны і дзяржаўны дзеяч Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі. Двойчы Герой ГДР (1982, 1987). Герой Працы ГДР (1962). Герой Савецкага Саюза (1982). У 1971—1989 гг.— першы, затым генеральны сакратар ЦК Сацыялістычнай адзінай партыі Германіі, старшыня Нацыянальнага савета абароны ГДР, адначасова з 1976 г.— старшыня Дзяржаўнага савета ГДР.

*Хорсун Васіль Аляксандравіч* — у той час начальнік Беларускага рэспубліканскага аддзялення Усесаюзнага агенцтва па аўтарскіх правах.

*Цётка* (сапр. Пашкевіч Алаіза Сцяпанаўна; 1876—1916) — беларуская паэтэса, празаік, публіцыст, асветніца, удзельніца рэвалюцыйнага руху пач. XX ст.

*Цікоцкі Міхаіл Яўгенавіч* (1922—2012) — беларускі мовазнавец, журналіст. Доктар філалагічных навук (1972), прафесар (1973).

Заслужаны работнік адукацыі Беларусі (1996). У 1953—1967 гг.— выкладчык, загадчык кафедры філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта.

*Цішчанка Іван Кірылавіч* (1930—2001) — беларускі фалькларыст, літаратуразнавец, крытык. Кандыдат філалагічных навук (1968), прафесар (1992). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1986). У 1971—1992 гг.— старшы навуковы супрацоўнік Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР.

*Цыхун Генадзь Апанасавіч* (н. 1936) — беларускі мовазнавец. Доктар філалагічных навук (1982). У 1990—2005 гг.— загадчык аддзела славянскага і тэарэтычнага мовазнаўства Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа АН Беларусі.

*Цэткін Клара* (1857—1933) — дзеяч германскага і міжнароднага рабочага руху, адна з лідараў міжнароднага жаночага руху.

*Цябут Дзмітрый Васільевіч* (1914—1987) — беларускі партыйны і дзяржаўны дзеяч, адзін з арганізатараў і кіраўнікоў партызанскага руху ў Віцебскай вобл. у Вялікую Айчынную вайну.

*Цяпінскі Васіль Мікалаевіч* (сапр. Амельяновіч-Цяпінскі; 1530-я гг.— 1599 або 1600) — беларускі пісьменнік, гуманіст, кнігавыдавец.

*Чайкоўскі Міхал* (1804—1886) — польскі пісьменнік і грамадскі дзеяч.

*Чалмаев* гл. *Чалмаеў*

*Чалмаеў Віктар Андрэевіч* (н. 1932) — рускі пісьменнік, крытык, літаратуразнаўца. У 1959—1966 гг.— супрацоўнік часопіса «Дружба народов».

*Чамярыцкі Вячаслаў Антонавіч* (н. 1936) — беларускі літаратуразнавец, крытык, тэкстолаг, перакладчык. Кандыдат філалагічных навук (1967). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1994).

*Чапаеў Васіль Іванавіч* (1887—1919) — савецкі военачальнік.

*Чаркасаў Уладзімір Георгіевіч* — рускі пісьменнік, перакладчык.

*Чарнышэвіч Аркадзь Дзмітрыевіч* (1912—1967) — беларускі пісьменнік.

*Чарняеў Аляксандр Сяргеевіч* (1873—1915) — рускі навуковец-педагог; заснавальнік агульнаадукацыйных курсаў для дарослых у Пецярбургу.

*Чарот Міхась* (сапр. Кудзелька Міхаіл Сымонавіч; 1896—1937) — беларускі паэт, грамадскі і культурны дзеяч. Рэпрэсаваны ў 1937 г. Расстраляны. Рэабілітаваны ў 1956 г.

*Чачот Ян Антоні* (1796—1847) — беларускі і польскі паэт, фалькларыст, этнограф.

*Черкасов* гл. *Чаркасаў*

*Чемерицкий* гл. *Чамярыцкі*

*Чернышевич* гл. *Чарнышэвіч*

*Чехов* гл. *Чэхаў*

*Чигринов* гл. *Чыгрынаў*

*Чорны Кузьма* (сапр. Раманоўскі Мікалай Карлавіч; 1900—1944) — беларускі пісьменнік.

*Чорный* гл. *Чорны*

*Чыгрынаў Іван Гаўрылавіч* (1934—1996) — беларускі пісьменнік. Народны пісьменнік Беларусі (1994). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1974). У 1987—1996 гг.— старшыня праўлення Беларускага фонду культуры.

*Чэмер Мікола* (Мікалай Мікалаевіч Гілевіч; н. 1973) — беларускі журналіст, пісьменнік, перакладчык.

*Чэхаў Антон Паўлавіч* (1860—1904) — рускі пісьменнік. Ганаровы акадэмік Пецярбургскай АН (1900).

*Шавялёў Сяргей Уладзіміравіч* (н. 1938) — рускі перакладчык. У 1963—1997 гг.— рэдактар выдавецтва «Молодая гвардия».

*Шагінян Марыэта Сяргееўна* (1888—1982) — армянская і руская пісьменніца. Член-карэспандэнт АН Арменіі (1950), доктар філалагічных навук (1945). Герой Сацыялістычнай Працы (1976). Лаўрэат Ленінскай прэміі (1972), Дзяржаўнай прэміі СССР (1951).

*Шакун Леў Міхайлавіч* (1926—1996) — беларускі мовазнавец. Доктар філалагічных навук (1966), прафесар (1968). Заслужаны работнік вышэйшай школы Беларусі (1979). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1986).

*Шалемава Антаніна Алегаўна* (н. 1953) — беларускі літаратуразнавец. Доктар філалагічных навук (2003; кандыдат — 1981). У 1975—1996 гг.— выкладчык, дацэнт кафедры рускай літаратуры Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта.

*Шамякін Іван Пятровіч* (1921—2004) — беларускі пісьменнік, грамадскі дзеяч. Народны пісьменнік Беларусі (1972). Акадэмік НАН Беларусі (1994). Герой Сацыялістычнай Працы (1981). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1951), Дзяржаўнай прэміі Беларусі

імя Якуба Коласа (1968), Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1982), Літаратурнай прэміі імя Якуба Коласа (1959).

*Шамякіна Таццяна Іванаўна* (н. 1948) — беларускі літаратуразнавец, крытык, перакладчык. Доктар філалагічных навук (2001), прафесар (2003). Дачка І. П. Шамякіна.

*Шапенгаўэр Артур* (1788—1860) — нямецкі філосаф.

*Шарыпаў Адзій Шарыпавіч* (1912—1993) — казахскі пісьменнік, літаратуразнавец, дзяржаўны дзеяч. Доктар філалагічных навук (1973). Заслужаны настаўнік Казахстана. Удзельнік партызанскага руху ў Беларусі.

*Шатроў Міхаіл Піліпавіч* (сапр. Маршак; 1932—2010) — рускі драматург. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1983).

*Шаўчэнка Тарас Рыгоравіч* (1814—1861) — украінскі пісьменнік, мастак, рэвалюцыянер-дэмакрат; заснавальнік новай украінскай літаратуры і нацыянальнай літаратурнай мовы. Акадэмік Імператарскай акадэміі мастацтваў (1860).

*Шафарык Павел Іозеф* (Шафаржык; 1795—1861) — чэшскі і славацкі філолаг, гісторык, паэт; дзеяч чэшскага і славацкага нацыянальна-вызваленчага руху.

*Шахрай Пётр Юльянавіч* — шафёр.

*Шевелев* гл. *Шавялёў*

*Шевченко* гл. *Шаўчэнка*

*Шельдов* гл. *Шэльдаў*

*Шелягович* гл. *Шэляговіч*

*Шолахаў Міхаіл Аляксандравіч* (1905—1984) — рускі пісьменнік. Акадэмік АН СССР (1939). Герой Сацыялістычнай Працы (1967, 1980). Лаўрэат Ленінскай прэміі (1960), Дзяржаўнай прэміі СССР (1941), Нобелеўскай прэміі (1965).

*Шолохов* гл. *Шолахаў*

*Штыхаў Георгій Васільевіч* (н. 1927) — беларускі археолаг, гісторык-медыявіст. Доктар гістарычных навук (1983), прафесар (1989). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1990). У 1952—1955 гг.— настаўнік гісторыі Суткаўскай сярэдняй школы Лоеўскага раёна Гомельскай вобл., у 1956—1959 гг.— дырэктар Палескай сярэдняй школы Чачэрскага раёна Гомельскай вобл.

*Шуба Павел Паўлавіч* (1926—2000) — беларускі мовазнавец. Доктар філалагічных навук (1972), прафесар (1973). Заслужаны дзеяч навукі Беларусі (1982). Акадэмік Беларускай акадэміі адукацыі (1999). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1998).

*Шукшин* гл. *Шукшын*

*Шукшын Васіль Макаравіч* (1929—1974) — рускі пісьменнік, рэжысёр, акцёр. Заслужаны дзеяч мастацтваў Расіі (1969). Лаўрэат Ленінскай прэміі (1976, пасмяротна), Дзяржаўнай прэміі СССР (1971).

*Шчадрына Валянціна Міканораўна* (1927—2009) — руская перакладчыца. Заслужаны работнік культуры Беларусі (1977). У 1968—1987 гг.— кансультант па беларускай літаратуры ў Саюзе пісьменнікаў СССР.

*Шчакаціхін Мікалай Мікалаевіч* (1896—1940) — беларускі мастацтвазнавец, педагог; адзін з заснавальнікаў беларускага мастацтвазнаўства.

*Шчырская Вольга* (?—1942) — удзельніца патрыятычнага падполля, якое дзейнічала ў 1941—1943 гг. на тэрыторыі Васілевіцкага раёна Гомельскай вобл. Сястра А. Белага.

*Шылава Людміла Фёдараўна* — беларускі даследчык тэлевізійнай журналістыкі. Кандыдат філалагічных навук (1968).

*Шыманскі Міхаіл Мікалаевіч* (н. 1935) — беларускі журналіст. Заслужаны работнік культуры Беларусі (1985). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1998). З 1994 г.— супрацоўнік газеты «Рэспубліка».

*Шынкарэнка Іван Мяленцьевіч* (н. 1923) — сусед І. Я. Навуменкі па дачы.

*Шэйн Павел Васільевіч* (1826—1900) — беларускі этнограф і фалькларыст.

*Шэльдаў Анатоль Мікітавіч* (н. 1930) — беларускі дзяржаўны дзеяч, дыпламат. У 1986—1991 гг.— намеснік міністра замежных спраў Беларусі.

*Шэляговіч Мікалай Мікалаевіч* (н. 1956) — беларускі грамадскі дзеяч. У 1980-х гг.— ініцыятар ідэі самаідэнтыфікацыі жыхароў Заходняга Палесся і стварэння Палескай аўтаноміі.

*Энгельс Фрыдрых* (1820—1895) — нямецкі філосаф, дзеяч германскага і міжнароднага сацыялістычнага і рабочага руху; тэарэтык сацыялізму, адзін з заснавальнікаў марксізму.

*Эренбург* гл. *Эрэнбург*

*Эрэнбург Ілья Рыгоравіч* (1891—1967) — рускі пісьменнік. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1942, 1948).

*Юм Дэйвід* (1711—1776) — англійскі філосаф, гісторык, эканаміст і публіцыст.

*Юнг Карл Густаў* (1875—1961) — швейцарскі псіхолаг, псіхіятр і філосаф культуры; заснавальнік аналітычнай псіхалогіі.

*Юревич В. Б.* гл. *Юрэвіч В. Б.*

*Юревич В.* гл. *Юрэвіч Уладзімір*

*Юрын Аляксандр* — беларускі журналіст.

*Юрэвіч Віктар Баляслававіч* — у той час пракурор г. Мінска, старшы саветнік юстыцыі.

*Юрэвіч Уладзімір Міхайлавіч* (1916—2005) — беларускі пісьменнік, літаратуразнавец. Заслужаны работнік культуры Беларусі (1976).

*Ядвігін Ш.* (сапр. Лявіцкі Антон Іванавіч; 1869—1922) — беларускі пісьменнік; адзін з пачынальнікаў новай беларускай прозы.

*Якаўлева Вера Аляксандраўна* — рэдактар выдавецтва «Молодая гвардия».

*Якаўлеў Б.* — рускі перакладчык.

*Яковлев* гл. *Якаўлеў*

*Яковлева* гл. *Якаўлева*

*Якутик* гл. *Якуцік*

*Якуцік Соф'я Каэтанаўна* — у той час загадчык аддзела Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа АН Беларусі.

*Яновіч Алена Іванаўна* (н. 1933) — беларускі мовазнавец. Доктар філалагічных навук (1984), прафесар (1987).

*Янушкевіч Язэп Язэпавіч* (н. 1959) — беларускі літаратуразнавец, даследчык-архівіст, археограф, перакладчык. Кандыдат філалагічных навук (1987).

*Ярохін Раман Аляксеевіч* (1925—2011) — беларускі журналіст, пісьменнік. У той час загадчык аддзела культуры газеты «Советская Белоруссия».

*Ярош Міхась* (Міхаіл Рыгоравіч; 1929—1987) — беларускі літаратуразнавец, крытык. Кандыдат філалагічных навук (1958). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Якуба Коласа (1980).

*Ясенін Сяргей Аляксандравіч* (1895—1925) — рускі паэт.

*Яскевіч Алесь* (Аляксандр Сямёнавіч; н. 1934) — беларускі літаратуразнавец, біблеіст. Доктар філалагічных навук (1992).

*Яшэн Каміль Нугманавіч* (сапр. Нугманаў; 1909—1997) — узбекскі пісьменнік, грамадскі дзеяч. Народны пісьменнік Узбекістана (1969). Акадэмік АН Узбекістана (1968). Герой Сацыялістычнай Працы (1974). Заслужаны дзеяч мастацтваў Узбекістана (1939). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1951), Дзяржаўнай прэміі Узбекістана (1967).

*Gołąbek* гл. *Галомбак*

# АНАТАВАНЫ ПАКАЗАЛЬНІК ПЕРЫЯДЫЧНЫХ ВЫДАННЯЎ

*«Бальшавік Палесся»* — газета, орган Палескага абкама і Мазырскага гаркама Камуністычнай партыі Беларусі, абласнога і гарадскога Саветаў дэпутатаў працоўных, выдавалася ў 1935—1952 гг. у Мазыры.

*«Беларускае жыццё»* — газета-аднадзёнка, орган КПЗБ. Выдадзена 7 крас. 1932 г. у Львове на беларускай мове.

*«Беларуская літаратура і мова ў школе»* гл. *«Роднае слова»*

*«Беларускі ўніверсітэт»* — газета Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Выдаецца з лістап. 1929 г. у Мінску на беларускай мове. Да кастр. 1931 г. называлася «Ленінскім шляхам». З кастр. 1931 па крас. 1935 г.— «За пралетарскія кадры», з мая 1935 па кастр. 1947 г.— «За ленінскія кадры», з кастр. 1947 па чэрв. 1955 г.— «За сталінскія кадры». З 2006 г.— «Універсітэт».

*«Беларусь»* — штомесячны ілюстраваны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс. Заснаваны ў 1930 г. пад назвай «Чырвоная Беларусь» (выходзіў да 1933 г.), адноўлены ў студз. 1944 г. пад назвай «Беларусь». У 1944 г. выходзіў раз на два месяцы напачатку ў Маскве, потым у Мінску на беларускай і рускай мовах. З 1945 г.— на беларускай мове. З 2005 г. мае назву «Беларусь. Belarus», выходзіць на беларускай, англійскай, іспанскай, кітайскай і польскай мовах.

*«Большевик Полесья»* гл. *«Бальшавік Палесся»*

*«Бярозка»* — штомесячны ілюстраваны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс для дзяцей і падлеткаў. Выдаецца са снеж. 1924 г. у Мінску на беларускай мове. Да верас. 1929 г. называўся «Беларускі піянер». У кастр. 1929 — крас. 1941 г.— «Іскры Ільіча», з чэрв. 1945 г.— сучасная назва. У 1927—1929 гг. выходзіў два разы на месяц. У 2002—2012 гг. уваходзіў у склад рэдакцыйна-выдавецкай установы «Літаратура і мастацтва». З 2012 г.— дадатак да часопіса «Маладосць». У студз. 2015 г. самастойнае выданне часопіса адноўлена. Цяпер у складзе «Выдавецкага дома «Звязда».

*«Вестник Европы»* — рускі літаратурны і навукова-палітычны часопіс. Выходзіў у 1802—1830 гг. у Маскве два разы на месяц.

*«Виленские губернские ведомости»* — афіцыйная газета. Выдавалася Віленскім губернскім праўленнем у 1838—1916 гг. на рускай

мове. Выходзіла ў Вільні, у 1915 г. у Дзісне, потым у Туле з рознай перыядычнасцю. Мела афіцыйны і неафіцыйны аддзелы.

*«Вожык»* — штомесячны сатырычна-гумарыстычны ілюстраваны часопіс. Выдаецца на беларускай мове. Пачаў выходзіць у ліп. 1941 г. як сатырычны плакат «Раздавім фашысцкую гадзіну» ў Гомелі, потым у Маскве. Са жн. 1945 г. выдаецца ў Мінску як часопіс «Вожык». З кастр. 2009 па кастр. 2011 г.— як альманах, са студз. 2012 г.— зноў як часопіс. У 2002—2012 гг. уваходзіў у склад рэдакцыйна-выдавецкай установы «Літаратура і мастацтва». Цяпер у складзе «Выдавецкага дома «Звязда».

*«Вольная Беларусь»* — грамадска-палітычная, эканамічная і літаратурная газета нацыянал-дэмакратычнага кірунку. Выдавалася з 28 мая (10 чэрв.) 1917 да лістап. 1918 г. у Мінску на беларускай мове.

*«Вопросы литературы»* — штомесячны навуковы часопіс. Распрацоўвае пытанні гісторыі і тэорыі літаратуры. Выдаецца ў Маскве на рускай мове з крас. 1957 г. Першапачаткова заснавальнікамі былі Саюз пісьменнікаў СССР і Інстытут сусветнай літаратуры імя А. М. Горкага АН СССР.

*«Голас Радзімы»* — інфармацыйная культурна-асветная газета для беларусаў за мяжой. Выдаецца з 6 крас. 1955 г. у Мінску на беларускай мове штотыднёва. Да студз. 1960 г. называлася «За вяртанне на Радзіму». Заснавана беларускай секцыяй Савецкага камітэта «За вяртанне на Радзіму» для прапаганды савецкага ладу жыцця сярод беларускіх эмігрантаў. Затым выдавалася Беларускім таварыствам па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (Беларускае таварыства «Радзіма»). З 2007 г. заснавальнік выдання — установа «Рэдакцыя газеты «Советская Белоруссия».

*«Гомельская правда»* гл. *«Гомельская праўда»*

*«Гомельская праўда»* — абласная газета. Выдаецца з 30 кастр. (12 лістап.) 1917 г. у Гомелі. У 1917—1929 гг. выходзіла на рускай мове пад рознымі назвамі. Напачатку называлася «Известия Гомельского Совета рабочих, солдатских и крестьянских депутатов». У час акупацыі Гомеля германскімі войскамі (люты 1918 — студз. 1919 г.) не выходзіла. З 1930 г. называлася «Палеская праўда», з 1938 г.— сучасная назва. У Вялікую Айчынную вайну орган Гомельскіх падпольных абкама і гаркама КП(б)Б (выходзіла з 1 мая да 20 лістап. 1943 г.). Пасля вайны — орган Гомельскіх абласнога і гарадскога

камітэтаў КПБ, абласнога і гарадскога Саветаў народных дэпутатаў. З верас. 1991 г.— абласная газета.

*«Дружба народов»* — літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс. Выдаецца ў Маскве з 1955 г. на рускай мове штомесячна. Заснаваны як альманах у сак. 1939 г. для папулярызацыі твораў пісьменнікаў саюзных рэспублік у перакладзе на рускую мову. Да 1990 г.— орган Саюза пісьменнікаў СССР, з 1991 г.— прыватнае выданне.

*«За Савецкую Беларусь»* — франтавая газета. Выдавалася на беларускай мове з 11 ліп. 1941 да кастр. 1942 г. палітупраўленнем Заходняга фронту пры ўдзеле ЦК КП(б)Б. Была разлічана на беларускіх партызан і жыхароў акупаванай тэрыторыі БССР.

*«Звязда»* — штодзённая грамадска-палітычная беларускамоўная газета. Першы нумар выйшаў 27 ліп. (9 жн.) 1917 г. у Мінску на рускай мове, з 1925 г. матэрыялы друкаваліся на беларускай і рускай мовах, са жн. 1927 г.— на беларускай. Напачатку выдавалася як орган Мінскага, з кастр. 1917 г.— Паўночна-Заходняга абласнога камітэта РСДРП(б). У 1920 г. стала друкаваным органам ЦК КП(б) Б. Да жн. 1991 г. друкаваны орган ЦК КПБ, Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў БССР. Цяпер — парламенцкая і ўрадавая газета.

*«Иностранная литература»* — штомесячны літаратурна-мастацкі часопіс. Выдаецца ў Маскве на рускай мове. Заснаваны ў ліп. 1955 г. як орган праўлення Саюза пісьменнікаў СССР. Спецыялізуецца на публікацыі перакладной літаратуры.

*«Красная звезда»* — газета, створаная паводле рашэння Палітбюро ЦК РКП(б) ад 29 лістап. 1923 г. як друкаваны орган наркамата абароны СССР па ваенных справах (у наступным — Міністэрства абароны СССР). Першы нумар выйшаў 1 студз. 1924 г. З 1991 г.— газета Узброеных Сіл Расійскай Федэрацыі. У гады Вялікай Айчыннай вайны была адным з вядучых савецкіх выданняў.

*«Красноармейская правда»* — штодзённая газета палітупраўлення Рэўваенсавета Заходняга фронту, пазней — Заходняй ваеннай акругі, затым — Беларускай ваеннай акругі. Выдавалася ў Смаленску на рускай мове з 22 чэрв. 1921 г. З верас. 1939 г.— у Мінску. У 1941—1944 гг.— газета Заходняга фронту, у 1944—1945 гг.— 3-га Беларускага фронту. З 1992 г.— орган Міністэрства абароны Беларусі. У канцы 1947 г. стала выходзіць пад назвай «Во славу Родины», з 8 мая 2004 г.— «Белорусская военная газета. “Во славу Родины”».

*«ЛіМ»* гл. *«Літаратура і мастацтва»*

*«Літаратура і мастацтва»* — грамадска-палітычная і літаратурна-мастацкая газета. Выдаецца з 26 лют. 1932 г. у Мінску на беларускай мове. Выходзіла раз, са студз. 1957 г.— два разы на тыдзень, з крас. 1970 г.— штотыднёвік. З 2002 г. у складзе рэдакцыйна-выдавецкай установы «Літаратура і мастацтва», з лістап. 2012 г.— у складзе «Выдавецкага дома «Звязда».

*«Литературная газета»* — літаратурны і грамадска-палітычны штотыднёвік. Выходзіць з 22 крас. 1929 г. у Маскве на рускай мове напачатку як орган Федэрацыі аб'яднанняў савецкіх пісьменнікаў, з 1934 г.— як орган праўлення Саюза пісьменнікаў СССР. З 1990 г.— незалежнае выданне.

*«Литературное обозрение»* — літаратурна-крытычны і бібліяграфічны часопіс. Выходзіў у Маскве на рускай мове ў 1973—2000 гг. Заснаваны як орган Саюза пісьменнікаў СССР у сувязі з пастановай ЦК КПСС «Аб літаратурна-мастацкай крытыцы» (1972). У 2001 г. быў ненадоўга адноўлены пад назвай «Старое литературное обозрение» (выйшлі два нумары).

*«Маладосць»* — штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны ілюстраваны часопіс. Выдаецца з крас. 1953 г. у Мінску на беларускай мове. Напачатку орган Цэнтральнага Камітэта ЛКСМ Беларусі. З ліп. 1957 г.— ЦК ЛКСМ Беларусі і Саюза пісьменнікаў БССР. У 2002—2012 гг. уваходзіў у склад рэдакцыйна-выдавецкай установы «Літаратура і мастацтва». Цяпер у складзе «Выдавецкага дома «Звязда».

*«Минские губернские ведомости»* — афіцыйная газета. Выдавалася ў 1838—1917 гг. у Мінску губернскім праўленнем на рускай мове адзін-два разы на тыдзень. Мела афіцыйную і неафіцыйную часткі з дадаткамі.

*«Молодая гвардия»* — штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс. Выдаецца з 1922 г. у Маскве на рускай мове. Да 1990 г.— орган ЦК ВЛКСМ.

*«Молодость»* гл. *«Маладосць»*

*«Мы и время»* — штотыднёвая грамадска-палітычная інфармацыйная газета. Выдаецца з чэрв. 1990 г. у Мінску на беларускай і рускай мовах. З верас. 1991 г.— незалежная левая газета, з лістап. 1996 г.— орган КПБ. Сучасная назва — «Коммунист Беларуси. Мы и время».

*«Наш современник»* — штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс. Выдаецца з 1933 г. у Маскве на рускай мове напачатку як альманах «Год…» (1933—1937 і 1949—1955), затым — альманах «Наш современник» (1956—1963). Першапачаткова орган Саюза пісьменнікаў СССР, з 1958 г.— Саюза пісьменнікаў РСФСР, з 1992 г.— Саюза пісьменнікаў Расіі.

*«Наша доля»* — грамадска-палітычная і літаратурная газета; першае легальнае перыядычнае выданне на беларускай мове. Выдавалася ў Вільні з 1 (14) верас. да 1 (14) снеж. 1906 г. кірыліцай і лацінкай. Усяго выйшла шэсць нумароў, пяць з якіх былі канфіскаваны.

*«Наша ніва»* — штотыднёвая грамадска-палітычная, навукова-асветніцкая і літаратурна-мастацкая газета. Выдавалася на беларускай мове кірыліцай і лацінкай у Вільні з 10 (23) лістап. 1906 па 7 (20) жніўня 1915 г.

*«Неман»* гл. *«Нёман»*

*«Нёман»* — штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс. Выдаецца ў Мінску на рускай мове. Створаны ў 1945 г. як альманах рускай секцыі Саюза пісьменнікаў Беларусі. Напачатку меў назву «Отчизна», з 1947 г.— «Советская Отчизна», з 1960 г.— сучасная назва. У 2002—2012 гг. уваходзіў у склад рэдакцыйна-выдавецкай установы «Літаратура і мастацтва». Цяпер у складзе «Выдавецкага дома «Звязда».

*«Нива»* — папулярны рускі штотыднёвы часопіс з дадаткамі. Выдаваўся з канца 1869 па верас. 1918 г. у Пецярбургу. Пачынаючы з 1891 г. бясплатным дадаткам да часопіса выдаваліся Зборы твораў вядомых рускіх і замежных аўтараў, пераважна класікаў.

*«Новый мир»* — штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс. Выходзіць з 1925 г. у Маскве на рускай мове. Быў заснаваны на базе выдавецтва «Известия». У 1947—1991 гг.— орган Саюза пісьменнікаў СССР. З 1991 г.— прыватнае выданне.

*«Огонек»* — штотыднёвы расійскі і савецкі грамадска-палітычны і літаратурна-мастацкі ілюстраваны часопіс. Першы нумар выйшаў 9 (21) снеж. 1899 г. у Пецярбургу як штодзённы ілюстраваны літаратурна-мастацкі дадатак да газеты «Биржевые ведомости». У 1918 г. выпуск часопіса спыніўся і быў адноўлены ў 1923 г. у Маскве. З 1931 да сярэдзіны 1941 г. выходзіў тры разы на месяц. У 1938—1990 гг. выпускаўся выдавецтвам ЦК КПСС «Правда».

*«Отчизна»* гл. *«Нёман»*

*«Першацвет»* — штомесячны літаратурна-мастацкі і інфармацыйна-публіцыстычны часопіс для моладзі. Выдаваўся ў 1992—2002 гг. у Мінску. У 1992—1998 гг. выходзіў на беларускай мове. У 1999—2002 гг.— на беларускай і рускай мовах як дадатак да газеты «Переходный возраст».

*«Полымя»* — літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс. Выдаецца ў Мінску са снеж. 1922 г. на беларускай мове штомесячна. У 1932—1941 гг. выходзіў пад назвай «Полымя рэвалюцыі». З 1934 г.— орган Саюза пісьменнікаў БССР. У 2002—2012 гг. уваходзіў у склад рэдакцыйна-выдавецкай установы «Літаратура і мастацтва». Цяпер у складзе «Выдавецкага дома «Звязда».

*«Полымя рэвалюцыі»* гл. *«Полымя»*

*«Работніца і сялянка»* — штомесячны грамадска-публіцыстычны і літаратурна-мастацкі часопіс для жанчын і сям'і. Выходзіць з лістап. 1924 г. у Мінску на беларускай мове. Напачатку называўся «Беларуская работніца і сялянка», у 1931—1941 гг.— «Работніца і калгасніца Беларусі», з 1946 г.— «Работніца і сялянка», з 1995 г.— «Алеся». Уваходзіць у склад «Выдавецкага дома «Звязда».

*«Раздавім фашысцкую гадзіну»* — сатырычнае выданне для насельніцтва і партызан Беларусі ў Вялікую Айчынную вайну. Выходзіла з ліп. 1941 да мая 1945 г., напачатку на рускай, з сак. 1942 г. на беларускай мове; да сак. 1942 г. агітплакат, пазней — газета-плакат, сатырычны часопіс ЦК КП(б)Б. Выдавалася ў Гомелі, потым у прыфрантавой паласе і ў Маскве, пасля ў Навабеліцы (цяпер у межах Гомеля) і Мінску. Са жн. 1945 г. выходзіць як сатырычна-гумарыстычны часопіс «Вожык».

*«Роднае слова»* — навукова-метадычны ілюстраваны часопіс. Выдаецца з 1988 г. у Мінску на беларускай мове штомесячна. Да 1991 г. называўся «Беларуская мова і літаратура ў школе».

*«Роман-газета»* — масавае перыядычнае выданне сучаснай мастацкай літаратуры, пераважна раманаў і аповесцей. Выходзіць у Маскве на рускай мове з 1927 г. штомесячна, з 1957 г.— два разы на месяц.

*«Сацыялістычная праца»* — газета, орган Васілевіцкага райкама КП(б)Б і раённага Савета дэпутатаў працоўных. Выходзіла ў Васілевічах на беларускай мове ў 1938—1959 гг.

*«Советская Белоруссия»* — грамадска-палітычная газета. Выдаецца ў Мінску на рускай мове з 2 жн. 1927 г. напачатку пад назвай «Рабочий» (1927—1937) як орган ЦК КП(б)Б. У 1941—1944 гг.

выходзіла на беларускай мове пад назвай «Савецкая Беларусь» (у прыфрантавой паласе, потым у Маскве, са снежня 1943 г. у Гомелі, з 1944 г. зноў у Мінску). У 1952—1991 гг.— орган ЦК КПБ, Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў БССР. Цяпер выходзіць пяць разоў на тыдзень пад назвай «СБ. Беларусь сегодня».

*«Советская культура»* — штотыднёвая грамадска-палітычная газета. Выдаецца ў Маскве на рускай мове з 6 лістап. 1929 г. напачатку пад назвай «Рабочий и искусство». У 1931—1941 і 1944—1952 гг. мела назву «Советское искусство». У 1953—1972 гг. выдавалася Міністэрствам культуры СССР і ЦК прафсаюза работнікаў культуры. З 1973 г.— афіцыйны друкаваны орган ЦК КПСС. З 1991 г. выходзіць пад назвай «Культура».

*«Советская Украина»* — штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс. Выдаецца з 1927 г. на рускай мове напачатку ў Харкаве, потым у Кіеве. У 1927—1932 гг. выходзіў пад назвай «Красное слово», у 1933 г.— «Литстрой», у 1934—1937 гг.— «Советская литература», у 1948—1950 гг.— як альманах «Советская Украина». З 1963 г. змяніў назву на «Радуга». У мінулым — орган Саюза пісьменнікаў Украіны.

*«Советский воин»* — штомесячны ваенны грамадска-палітычны і літаратурна-мастацкі часопіс. Выдаецца з мая 1919 г. у Маскве на рускай мове. У 1919—1947 гг. меў назву «Красноармеец». Заснаваны Палітычным упраўленнем Рэўваенсавета Рэспублікі. Пасля — орган Галоўнага палітычнага ўпраўлення Савецкай Арміі і Ваенна-Марскога Флоту. Цяпер — часопіс Міністэрства абароны Расіі. У 1992—1994 гг. выходзіў пад назвай «Честь имею», у 1994—1997 гг.— «Воин», з 1997 г.— «Воин России».

*«Тэатральная Беларусь»* — часопіс драматургіі і сцэнічнага мастацтва. Выдаваўся ў 1992—1998 гг. у Мінску на беларускай мове адзін раз на два месяцы. З 1995 г. (№ 5) выходзіў пад назвай «Тэатральная творчасць».

*«Чырвоная змена»* — маладзёжная газета. Выдаецца ў Мінску на беларускай мове. Першы нумар выйшаў 21 крас. 1921 г. Да 1925 г. выходзіла на рускай мове пад назвай «Красная смена». У 1925—1926 гг.— на беларускай і рускай мовах. З крас. 2002 г.— дадатак да газеты «Звязда».

## ПАКАЗАЛЬНІК ТВОРАЎ:
## 1—10 тт.[1]



[1] Першая калонка лічбаў — нумар тома, другая — старонка тэксту, трэцяя — старонка каментарыяў.

ЗМЕСТ[1]

**П’еса**



**Вершы**



**Інтэрв’ю**



[1] Першая калонка лічбаў — старонкі тэкстаў, другая — каментарыяў.

**Анкеты**



**Выступленні**

**Водзывы на дысертацыі**



**Некралогі**





**Успаміны**

**Навуменка, І. Я.**

Н15 Збор твораў. У 10 т. Т. 10. П'еса, вершы, інтэрв'ю, анкеты, выступленні, водзывы на дысертацыі, некралогі, аўтабіяграфія, успаміны, дзённікавыя запісы, лісты / Іван Навуменка; падрыхт. тэкстаў, камент. і паслясл. Н. Пыско ; Нац. акад. навук Беларусі, Цэнтр даследаванняў беларус. культуры, мовы і літ. імя Я. Коласа і Я. Купалы.— Мінск : Мастацкая літаратура, 2017. — 989 с. : іл.

ISBN 978-985-02-1805-6.

У дзясяты том Збору твораў народнага пісьменніка Беларусі Івана Навуменкі (1925–2006) увайшлі п'еса «Птушкі між маланак», вершы, інтэрв'ю, анкеты, выступленні, водзывы на дысертацыі, некралогі, аўтабіяграфія, успаміны, дзённікавыя запісы, лісты.

**УДК 821.161.3-821**
**ББК 84(4Беи)**

Літаратурна-мастацкае выданне

**НАВУМЕНКА** Іван Якаўлевіч

ЗБОР ТВОРАЎ
У дзесяці тамах
**Том 10**

*П'еса, вершы, інтэрв'ю, анкеты, выступленні, водзывы на дысертацыі, некралогі, аўтабіяграфія, успаміны, дзённікавыя запісы, лісты*

Рэдактар *А. В. Спрынчан*
Мастацкае афармленне *В. Г. Паўлавец*
Мастацкі рэдактар *В. А. Макаранка*
Тэхнічны рэдактар *В. Ю. Серчанка*
Стылістычныя рэдактары *Н. В. Філіповіч, Ю. В. Тыркіч, А. М. Анцытовіч,*

12+

Падпісана да друку 12.12.2017. Фармат 84×108 1/32.
Папера афсетная. Афсетны друк. Умоўн. друк. арк. 52,08 + 0,42.
Улік.-выд. арк. 48,19. Тыраж 700 экз. Заказ

Выдавецкае рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Мастацкая літаратура» Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы і распаўсюджвальніка друкаваных выданняў № 1/5 ад 09.07.2013. Пр. Пераможцаў, 11, 220004, Мінск.
www.mastlit.by; e-mail: mail@mastlit.by

ААТ «Паліграфкамбінат імя Я. Коласа».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюджвальніка друкаваных выданняў № 2/3 ад 04.10.2013.
Вул. Каржанеўскага, 20, 220024, Мінск.

